# Аповесьці

## Апошні баец

### Раздзел першы

Маёнтак гарэў. Над кучаравістымі верхавінамі вязаў і ліп шугала ў паднябессе мітуслівая вогненная грыва. Густыя шэрыя воблакі дыму вяртлявымі клубамі валілі ўгару; вецер раздзьмухваў, ірваў і іскрыў у наваколлі жудасць пажару; слаўся ўдушлівы горкі смурод. Ад смуроду, дыму і пылу, узнятага выбухамі, не ставала паветра, каб дыхаць. І ў раўку за садком, змучаная нясціхным боем, знясіленая, адрэзаная ад сваіх, задыхалася жменька байцоў.

Іх вельмі мала засталося тут – штаб ды рэшткі аднаго батальёна на чале з камандзірам палка. Яны спыніліся ўчора ў гэтым маёнтку, бо адступаць далей не было куды. І ад самага ранку раскацістым рэхам калацілі наваколле гарматныя выбухі, рассыпалася кулямётная траскатня, ірваліся гранаты, злосна чхалі з лагчын мінамёты, і асколкі бязлітасна секлі акрываўленую шматпакутную зямлю.

У травяністым раўчуку, ля прыземленай дашчатай паветкі, стуліўся з кулямётам баец. Лежачы ў мелкім акопчыку, ён туга ўпіраў у плячо прыклад «ручніка» і неадрыўна глядзеў у поле, адкуль атакаваў вораг.

Калі агнявыя віхуры ўгары крыху суцішыліся, кулямётчык прыслухаўся да гукаў бою, і нейкая неспакойная думка з’явілася на яго твары.

– Пэўна, цяпер пойдуць, – сказаў ён. – Вы чуеце: сціхае?

Але ніхто не адказаў яму. Хлопец пазіраў усё ў збажыну, нешта думаў, шчыльней прыпадаў да кулямёта, чакаючы новай атакі. І раптам спалохана

ўздрыгнулі яго бялявыя вочы, ён азірнуўся, прыўзняў галаву.

– Таварыш лейтэнант!

Адказу не было. Тады Пятрусь Кляновіч спалохана ірвануўся і, прыгнуўшыся, па дне раўчука кінуўся да суседняга акопчыка.

Лейтэнант ляжаў, уткнуўшыся тварам у засыпаную зямлёй траву, і не варушыўся. Згінаючыся да долу, хлопец ухапіў чалавека за плечы, узваліў на спіну яго цяжкае цела. Ад скроні па бруднай шчацэ камандзіра марудна споўз струменьчык згуслай крыві.

– Таварыш лейтэнант! – з роспаччу і надзеяй паклікаў яго Пятрусь, але лейтэнант не адгукаўся.

Болей у іхняй роце не было нікога. За два дні няспынных баёў адзін за адным гінулі людзі. Палову рота страціла на шляху адступлення, другую палову – у гэтым маёнтку. Смерць лейтэнанта зусім збянтэжыла хлопца, ён у знямозе схіліўся ля забітага камандзіра, ужо не хаваючы сваёй проставалосай галавы. Ён быў плячысты, моцны, але зусім яшчэ малады, той уцалелы хлапец з двума трохкутнічкамі на чырвоных пятліцах. Па лабатым схуднелым твары няроўнымі бруднымі пісягамі паўзлі струмені поту, і поўныя роспачы пазіралі на свет вялікія, нейкія не мужчынскія яго вочы.

Тым часам з мітуслівай збажыны ў полі паявіўся густы ланцуг цёмназялёных мундзіраў. Блізкая кулямётная чарга крамзанула па вішэнніку, з будыніны пасыпаліся трэскі. Паўз голаў пранеслася нешта важкае, і ззаду ў садку грымнуў выбух.

Пятрусь спалохана кінуўся да кулямёта, прыклаўся шчакой да вышмальцаванага прыклада і пусціў у жыта доўгую чаргу. Няспынны грукат, шум скалыхнулі наваколле. Па ўсім маёнтку ірваліся снарады, узляталі ў дымнае неба галіны дрэў, кавалкі дахаў, клочча травы. Над зямлёю з варожага боку несліся нябачныя

сталёвыя струмені. Быццам нажніцамі, кулі стрыглі траву і кусты – так і сыпаліся на дол лісткі і галінкі. Нарэшце, загарэлася і апошняя ўцалелая будыніна – дашчатая паветка.

Пятрусь перазарадзіў кулямёт і зноў прыпаў да прыцэла. У невысокай, па пояс, збажыне ён добра бачыў прыгнутыя постаці ворагаў з аўтаматамі і падкасанымі да локця рукавамі. Яны прыгіналіся, зялёныя іх каскі матава блішчэлі. Немцы на хаду страчылі з аўтаматаў, але аглушаны сваім кулямётам Пятрусь не чуў іх стрэлаў. Трымаючы мушку пад іхнімі постацямі, ён да болю ў пальцы ціснуў на спуск, кулямёт ірваўся ў руках, нібы жывая імклівая істота, горкі парахавы смурод і пыл абдавалі хлопца.

Зводдаль, ля дарогі, густа і напорыста трашчаў «максім». Яго чэргі часам зусім прападалі ў грукаце бою, і хлопец устрывожана пазіраў туды. Там – камандзір палка, ён зараз камандаваў імі, яго прысутнасць супакойвала і давала надзею.

Урэшце ворагі пачалі знікаць у жыце, – відаць, яны не вытрымалі адпору і ў гэты раз. Патроху кулямётны агонь па сядзібе таксама пацішэў, але здалёку аднекуль з’явіўся новы трывожны гук. Ён хутка напоўніў сабой спахмурнелы летні прастор, прыглушыў усе іншыя гукі і ўсё ўзмацняўся. Сержант боязна зірнуў у захмаранае, дымнае неба – там плылі самалёты.

«Чые?» – мільганула пакутлівая думка. І ў той жа момант пярэдні самалёт вельмі хутка неяк дзеўбануў носам і шалёна панёсся на іх прыціхлы раўчук. У паветры засвістала, загрукатала...

Страшэнныя выбухі скаланулі наваколле, зямля стагнала, кідалася ў нямой роспачы, дрыжэла, у паветры круціліся шалёныя віхуры. Здавалася, што зямля перамяшалася з паветрам і ўсё на свеце рынула ў нябыт.

Невядома, колькі працягвалася гэтая жудасць. Але нарэшце грукат прыціх, і Пятрусь расплюшчыў вочы.

«Жывы?» – са здзіўленнем падумаў ён, яшчэ не верачы, што жах гэты скончыўся. Сержант паглядзеў у той бок, дзе страляў «максім» і дзе быў камандзір, быццам шукаючы паратунку. Самалёты тым часам набліжаліся зноў, і тады, у гэтую кароткую паўзу спакою, пачуўся надрыўны голас камандзіра палка:

– Таварышы, уперад! У атаку, ура-а-а-а-а!!

Пятрусь зноў зірнуў туды, на масток, і нібы раптоўная хваля падхапіла яго. Узняты камандзіравай рукой, там трапяткім полымем ірвануўся на ветры іх палкавы сцяг. Камандзір узмахнуў ім, азірнуўся і выскачыў з раўчука. Ля яго ўмомант з’явіліся яшчэ людзі, і ўсе яны шуганулі ў збажыну – наперад, на ворага. Апусцелы дагэтуль раўчук зашавяліўся постацямі байцоў, недалёка ад хлопца мільганула ў жыце шырокая спіна старшыны Наскова. Ён быў з суседняй роты іхняга батальёна, і Пятрусь узрадаваўся, убачыўшы знаёмага чалавека. Наскоў хутка знік у збажыне, і нейкая нязведаная, зацятая сіла падхапіла і сержанта. Схапіўшы лейтэнантаву вінтоўку, ён пераскочыў нізенькі бруствер і рынуўся за ўсімі насустрач ворагу.

А ззаду зноў грукацела, грымела, вішчэла, калацілася зямля і хісталася неба. На галовы байцоў няспынным дажджом сыпалася зямля, паднябессе выла і стагнала. Злева і справа беглі байцы, праўда, вельмі рэдкі і вельмі кароценькі быў іх ланцужок, але ўдар быў імклівы. Пятрусь бег, стараючыся трымацца поруч камандзіра са сцягам. У яго цяпер неяк паспакайнела на душы, нібы ўжо мінулі ўсе небяспекі. Блізасць камандзіра і сцяга, здавалася хлопцу, хавалі яго ад бяды, і ён хацеў толькі спаткаць ворага, каб даць, нарэшце, выйсце сваёй сіле. Але сустрэцца з фашыстамі ім не ўдалося, аўтаматчыкі не вытрымалі нечаканага напору, і сержант разоў некалькі бачыў здалёку, як мільганулі ў жыце іх прыгнутыя спіны.

Ланцуг усё каціўся па полі ўздоўж дарогі ў напрамку адзінокай развесістай грушы, што ўдалечыні высілася на ўзгорку. Спачатку немцы разгубіліся, відаць, і амаль не стралялі, але з часам, пэўна, угледзелі, што сілы

атакуючых невялікія, і на ўзгорку ля грушы загаманілі іх скарастрэльныя кулямёты. Хтосьці побач з сержантам раптам спатыкнуўся і знік у жыце, але іншыя беглі і беглі, і наперадзе ўсіх, схіліўшыся ў імклівым тэмпе, усё зіхацеў іх сцяг.

Але нядоўга цягнулася іх адважная атака. Ужо вельмі мала заставалася смельчакоў, каб доўга гнаць ворагаў. На паўшляху да грушы кулямётны агонь фашыстаў стаў шчыльны і дружны. Яны заляглі у тым месцы, дзе жытняе поле перамежвалася нешырокай палоскай сенажаці. Пятрусь, зусім знясілены, упаў ля крушні каменя, сабранага з нівы, і высунуў з жыта вінтоўку.

Узгорак ля грушы ўжо люта трашчаў кулямётамі, а іх ланцужок маўчаў. Аддыхаўшыся крыху, Пятрусь паглядзеў наўкола. Непадалёку высоўваліся з жыта штыхі вінтовак тых, што ўцалелі ў час гэтай атакі, у хмарным небе над ім гойдаліся лёгкія і зялёныя яшчэ каласы.

Самалёты зніклі, і раптам стала зусім ціха: кулямётны агонь спыніўся, і толькі збажына цягнула ў цішы сваю шумлівую маркотную песню. Пятрусь адразу западозрыў нешта нядобрае ў гэтай цішыні і ўвесь насцярожыўся. Аднекуль ад дарогі данёсся аддалены гул матораў. Хлопец ужо добра ведаў, што гэта за гук: шмат трывог знёс ён за тыя ваенныя дні ад гэтых крыжастых грамадзін. Побач нехта прыўзняўся над жытам, нехта спалохана крыкнуў «танкі». Пятрусь ляжаў на мулкіх усохлых купінках і напружана слухаў.

Гэта была страшная сустрэча тут, на роўным полі, з адной толькі вінтоўкай у руках. Зноў, як у тым раўчуку, хлопцаву спіну крануў самотны халадок страху.

Ланцуг маўчаў яшчэ нейкі час, а потым ад байца да байца панеслася каманда: хутка, па адным перабягаць управа, у хмызняк. Пятрусь пераказаў гэтыя словы далей і на локцях і каленях шыбануў у збажыну. Непадалёку, рассоўваючы жыта, прамільгнула дужая постаць Наскова. Нехта вельмі вытыркнуўся з жыта, і на яго тут жа злосна крыкнулі. Але было позна ўжо.

Танкі адразу заўважылі спробу выйсці з-пад удару і ўсёй сілай сваёй зброі люта накінуліся на байцоў. Зноў завыла, забушавала, зашамацела наваколле, струмені куль панесліся над полем, абсыпаючы зямлёю жыта, загрымелі выбухі.

Таіцца і прыгінацца далей было бескарысна. Пятрусь выпрастаўся і з усяе моцы кінуўся да кустоўя, куды ўжо беглі людзі. Калі зусім блізка ў паветры шуршэў чарговы струмень куль, ён падаў, потым ускокваў і зноў бег. Разы два сержант азірнуўся – танкі паскорылі хаду і ляскаталі зусім блізка, на хаду страляючы з кулямётаў і гармат. У хлопца ад зморанасці аж падкошваліся ногі і ў голаў стукала неадчэпная страшная думка – канец... І яму, і камандзіру, і сцягу... Скрозь па полі беглі людзі, але сцяга нідзе не было бачна.

Яны вельмі разбегліся ў збажыне, іх зусім лёгка было перабіць па адным, але ніхто, пэўна, зараз не думаў аб гэтым. Так уцалелыя ўжо дасягнулі рэдкага кустоўя, далей па адхону разлеглася голая аблога і за ёй у лагчыне пачыналася вялізная лугавіна з доўгімі радамі скошанай травы. Там не было ніякага сховішча, а кусты на ўзгорку былі ўжо вельмі рэдкія і малыя, каб надзейна схаваць байцоў.

У той час Пятрусь зноў убачыў камандзіра са скручаным на дрэўку палотнішчам сцяга ў адной руцэ і чорным пісталетам «ТТ» у другой. Не звяртаючы ўвагі на кулі і асколкі, шырока расставіўшы ногі, маёр стаяў на ўзгорку і, сілячыся перамагчы грукат бою, крычаў людзям, што беглі далей на лугавіну:

– Стой! Стой! Назад! Ка мне!

Невялічкі той узгорачак, на якім стаяў ён, як-колечы мог захінуць ад куль і даць магчымасць байцам разгарнуцца ў ланцуг.

– Назад! – крычаў камандзір і раптам шырокім жэстам узмахнуў дрэўкам і разгарнуў сцяг.

Зноў, як і ў першы раз, Пятрусь адчуў, як узгарэлася ў

ім нешта ўнутры і нібы іскрай прабегла па целе, і хлопец паслухмяна кінуўся туды, на заклік сцяга. З жыта да яго далучыліся яшчэ людзі.

Ахоплены немай рашучасцю не пакідаць больш камандзіра і сцяг, Пятрусь залёг у рэдкі драцяністы верасок ля маёра і нарыхтаваў вінтоўку. Танкі, згубіўшы байцоў з поля зроку, пайшлі павольней, відаць, баяліся сустрэць што-небудзь нечаканае за ўзгоркам. Ззаду, тулячыся за машыны, ішлі чорныя аўтаматчыкі, і камандзір, стоячы на каленях, пільна сачыў за іх набліжэннем. Побач залегла два дзесяткі байцоў.

– Па аўтаматчыках за-а-а-а-а-лпам... плі! – крыкнуў камандзір, і нядружны залп грымнуў з узгорка.

– За-а-а-а-а-лпам... плі! – крычаў ён другі раз, і ўзгорак адгукаўся другім залпам.

Так яны далі яшчэ некалькі залпаў, і танкі спыніліся, а аўтаматчыкі схаваліся за імі. І тады зноў на ўцалелую рэштку байцоў рынуў агонь з усёй шматлікай зброі, што цяпер сабралася супраць іх.

Але ўзгорачак як-колечы затуляў іх, можна было адпаўзці крыху назад, прыніснуцца да травяністага дзірвану, і кулі ішлі верхам. Снарады з лютым піскам праносіліся над самай Петрусёвай галавой і ірваліся недзе ззаду, на лугавіне.

І тады здарылася нечаканае. Справа з кустоўя грымнуў на людзей густы аўтаматны стрэл. Малады баец, што ляжаў побач з Петрусём, неяк трапянуўся і сціх, нібы прытаіўся ў траве, а з хмызняку, прыгінаючыся, выскоквалі на аблогу фашысты.

Усе, хто яшчэ мог узняцца, кінуліся ад таго небяспечнага фланга бліжэй да камандзіра. Людзі разгубіліся ад такога знянацкага ўдару, але падавацца далей не было куды. Раптоўная млявасць ад усведамлення пагібелі разлілася ў Петрусёвым целе. Ён стрэліў разы два ў бліжэйшага немца, што, пераскокваючы праз забітых, бег да яго, і сам ускочыў,

каб падацца назад, куды беглі іншыя.

У той страшны момант ён зноў убачыў камандзіра. Маёр таксама адступаў назад, далей ад кустоў, бег і адстрэльваўся са свайго пісталета. Але раптам ён спатыкнуўся, з цяжарам выпрастаўся і потым ужо канчаткова ўсім целам рухнуў у траву. Тады ж з яго рук выпала дрэўка са згорнутым сцягам. Пятрусь, мярцвеючы ад жаху, ускрыкнуў і кінуўся да камандзіра. Аднак раней за яго там аднекуль з’явіўся Наскоў, ён спрытна падхапіў сцяг і рынуўся па адхону ўніз. А маёр прыўзняўся на руках, узняў на сержанта скрыўлены ад болю, успатнелы твар і, сустрэўшы яго позірк, чамусьці глуха закрычаў хлопцу:

– Сцяг... Сцяг ратуй!

Пятрусь, аднак, памкнуўся ўзняць маёра, але той, нібы здзівіўшыся, што сержант не кінуўся выконваць загад, крыкнуў злосна і строга:

– Прэч ад мяне! Сцяг!..

Ён не скончыў гэтага свайго загаду і ўпаў тварам у пожню.

Пятрусь зноў скалануўся ад ахапіўшага яго жаху і кінуўся далей за Насковым, які разгоніста шыбаваў уніз да вузенькай паскі алешніку на лугавіне. Побач нікога не было, немцы ўжо захапілі іх кароткі прытулак і скіравалі ўвесь агонь сваёй зброі па апошніх байцах. Пятрусь зірнуў наперад – Наскоў быў ужо ля крайніх алешын, і ў хлопца мільганула кволая яшчэ надзея на яго ўдачу. Але ў той жа момант здарылася нешта незразумелае і жудаснае. Нейкая невядомая сіла з лютым імпэтам ударыла сержанта, у вушшу балюча кальнула, і ён праваліўся ў пустую чорную бездань.

## Раздзел другі

Першым з’явілася непрывычнае адчуванне цішыні. Яшчэ праз момант хлопец адчуў, як моцна баліць плячо і нешта муляе пад шчакой. Пятрусь паварушыў галавой

і з намаганнем узняў цяжкія павекі. Ён убачыў траву, якая шалясцела ля самага твару. Ад незвычайнай блізкасці яе танклявыя сцяблінкі здаваліся гіганцкімі, быццам якія трапічныя расліны джунгляў. Між імі ў доле нешта шавялілася, гойдалася, скакала – там спрадвечным парадкам цякло сваё, незалежнае ад чалавека, жыццё. Сабраўшы сілы, Пятрусь павярнуўся ўсім целам і ўбачыў неба – высокае, прасторнае і лагоднае неба летняга адвячорку. Там было так светла, так спакойна і хораша, што Пятрусь упершыню паверыў, што смерць мінула яго. І раптам аднекуль з-за краявіду з’явіліся крылатыя цені – гэта нагружаныя бомбамі цяжка плылі кудысьці варожыя самалёты. Яны адразу вярнулі хлопца да рэчаіснасці, да вялікай бяды, што напаткала іх полк.

Ён усхапіўся, але моцны боль у галаве і ў левым плячы зноў паваліў яго ў траву. Тады хлопец пайшоў на хітрасць. Каб ашукаць загадкавую немач, ён паціху абапёрся аб дол, больш налягаючы на правую руку і ногі, узняўся і сеў. У галаве моцна шумела, яна была цяжкая, яго крыху нудзіла. Хлопец пасядзеў так з хвіліну, каб прызвычаіцца да новага стану, і ўпершыню паглядзеў наўкола.

Ззаду яго быў узгорак. Пятрусь ляжаў на адхоністай аблозе з рэдкімі маленькімі елачкамі, пэўна, толькі ў гэтае лета праросшымі з зямлі. На ўзгорку, дзе на іх так нечакана навaліліся немцы, ужо не было нікога, зусім пусты быў і луг, што ляжаў унізе. Але, прыгледзеўшыся, хлопец заўважыў сям-там нерухомыя постаці забітых байцоў. Ён тады агледзеў сябе, адзінага жывога тут, і падзівіўся, яшчэ не ведаючы, радавацца ці бедаваць з гэтага выпадку. Потым, як колечы, падняўшыся, ён пастаяў крыху і асцярожна, нібы нёс на галаве які шкляны посуд, зрабіў крок уніз да лугу, дзе ў кустах віўся ручай.

І тут ён успомніў усё – і двухдзённы бой, і разгром іхняга палка, і смерць камандзіра там, на ўзгорку, і безліч забітых байцоў наўкола. Нечаканы спалох ахапіў Петруся, калі ён прыпамятаў апошні загад камандзіра

ратаваць сцяг.

Страшэнныя ўспаміны з маланкавай хуткасцю пранесліся ў галаве. Трэба было бегчы, шукаць сваіх і клікаць дапамогу. Але куды бегчы і каго клікаць? Дзе былі нашы войскі і дзе цяпер іх сцяг, падхоплены Насковым? Хлопец памятаў, што дзесьці за сядзібай вёў бой адрэзаны ад іх трэці батальён, аднак дзе ён цяпер, уцалелы, ці мо таксама разбіты – было невядома. Але чаму так ціха, чаму ніводзін гук, ніводзін шолах не парушаць гэтай знямелай усеабдымнай цішыні?

Петруся раптам апанаваў жах. Угары сінела зрэдку аздобленае воблачкамі неба, наўкола раскінуўся вялікі прастор, бачна было, як за ўзгоркам валіў угору далёкі дым – і чамусьці ніводнага гуку.

Хлопец пацёр вушы і не пачуў звычайнага шолаху. Тады ён крыкнуў і бадай зусім не пачуў уласнага голасу. «Аглух?» Так, ён аглух, і навакольны свет адгарадзіўся цяпер ад яго нябачнай сцяною.

Так-сяк дабраўшыся да кустоў, дзе паволі цякла ручаіна, Пятрусь упаў грудзьмі на дзірвяністы бераг і, чапляючыся за траву дрыжачымі пальцамі, праз аір прасунуў свой твар. Ён піў прагна і доўга, вялікімі глыткамі цеплаватую, з пахам травяных карэнняў ваду.

І раптам ён увесь скалануўся. Зусім побач пад лазовым кустом страшна ўскінулася з травы нейчая рука з растапыранымі скручанымі пальцамі. Пятрусь прытаіўся, пачакаў яшчэ з хвіліну, а потым, ахоплены жудасным прадчуваннем, ускочыў з зямлі з тым спрытам, на які толькі хапіла сілы.

Жахлівае прадчуванне не ашукала яго. Пад кустом лазняку ў пакутлівай позе канаючага чалавека ляжаў Наскоў. Адна рука яго, скручаная ў локці, прыўзнялася ўгору, а другая туліла да грудзей абы-як згорнуты на дрэўку іх агністы палкавы сцяг.

Пятрусь нахіліўся над старшыной. І на яго твары уздрыгнулі і скрывавіліся вусны. Хлопец адчуў цяпер,

што ўжо няма ніякай надзеі на чыё-небудзь выратаванне, што ён – адзіны ўцалелы баец іхняга палка, і на яго, кантужанага і глухога, кладзецца цяпер новы клопат. Пятрусь з роспаччу ўгледзеўся ў аброслы шчаціннем немалады ўжо, змардаваны твар старшыны. Ніводнай прыкметы жыцця не было ў ім, але ж ён толькі што варухнуўся, гэты ўпарты і энергічны пры жыцці чалавек. І сержант, гонячы ад сябе благую думку, ціхенька паклікаў:

– Наскоў... Таварыш старшына... Што ж гэта ты? Га?

У яго не было ні пілоткі, ні якой пасудзіны, ён сцягнуў з нагі бот і апусціў яго ў ручай. Калі бот напоўніўся, хлопец пачаў абліваць твар Наскова, грудзі, прыўзняў галаву параненага і, як мог асцярожна, уліў вады ў ягоны рот. Баец, здаецца, уздыхнуў, павекі яго ледзь прыкметна варухнуліся – Пятрусь не зводзіў вачэй з яго твару. «Родненькі, даражэнькі Наскоў, ачніся ж... ну», – нязмоўчна шапталі яго вусны, толькі хлопец не чуў свайго шэпту – той блытаўся цяпер з яго ўзрушанымі думкамі. Але старшына не ачынаўся. Тады хлопец зняў з яго рэмень з рыдлёўкай, зняў процівагаз, загарнуў вільготную ад крыві і поту кашулю – у левым баку чырванела скразная кулявая рана. Кроў не ішла ўжо, перавязваць не было патрэбы, і, не ведаючы, што рабіць далей, хлопец у адчаі апусціў рукі. Ён сядзеў побач з паўмёртвым чалавекам, і дзікая, невыказная роспач усё болей апаноўвала яго. Перажытыя няшчасці і гэтая апошняя бяда так уразілі і прыдушылі хлопца, што ён думаў ужо, ці не лепей было б загінуць з усімі.

Але цяпер гінуць было ўжо нельга. Перад ім ляжаў непрытомны, але яшчэ жывы яго таварыш і супольнік па барацьбе, ён спадзяваўся толькі на яго, а з другога боку хлопца ляжаў асірацелы, прабіты і прастрэлены сцяг. Бездапаможныя і дарагія салдату, абодва яны чакалі ад яго паратунку.

Пабедаваўшы крыху і пастагнаўшы ад нясцерпнага душэўнага болю, Пятрусь надзеў мокры бот і вырашыў падавацца далей ад гэтага страшнага месца. Хлопец падставіў таварышу сваю аслабелую спіну і, узяўшы яго

за моцныя шырокія кісці, усцягнуў на сябе. Потым ён падняў сцяг і, адной рукой абапіраючыся на яго дрэўка, зрабіў некалькі крокаў.

Цяжкі і пакутлівы быў гэты шлях цераз луг. Ніколі хлопец не думаў, што гэткі цяжкі бывае чалавек. Часам Петрусю здавалася, што ён памірае сам, і хлопец услухоўваўся ў свае адчуванні, чакаў гэтага надыходу смерці, не ў стане ўжо супраціўляцца ёй. Але праз колькі часу сіл трошкі прыбывала, і ён зноў прымушаў сябе зрабіць некалькі крокаў.

У прыцемках ён дасягнуў узлеску на другім баку лугавіны.

Ён ужо не мог упаўзці ў лес і бокам, губляючы прытомнасць, упаў на калючы кошаны дол; за спіной так і засталося абмяклае і такое цяжкае цела Наскова.

Калі ён ачуняў, ужо было цёмна. Над лугам высыпалі рэдкія зоры, яны ціха мільгалі ў светлым небе, а нізка над зямлёю вісеў на небасхіле нізенькі акрайчык месяца. Ён не сяціў, а толькі пазіраў у ноч сваім бліскучым прыплюшчаным вокам.

Пятрусь адразу схапіўся за таварыша, але той не варухнуўся. Нейкі час хлопец тармашыў старшыну, гладзіў і цалаваў яго твар і, адчуваючы, што вар’яцее ад гора, упрошваў таго не пакідаць яго, адчыніць свае вочы, пазнаць таварыша, апошняга байца з загінуўшага палка. Пятрусь заплакаў – цяжка, балюча, сутаргі сціскалі яго горла, і цяклі з вачэй пякучыя салёныя слёзы. Але Наскоў ужо назаўсёды знямеў і аглух да ягоных просьб і ягоных слёз.

І тады хлопцам апанавала нейкае бяссільнае забыццё. Ён доўга сядзеў уначы над нябожчыкам і не думаў нічога, толькі глядзеў у цемру і моцна сціскаў сківіцы...

Калі крыху адлегла ад душы бяссільная скруха, Пятрусь адпоўз на ўзлесак і пачаў рыхтаваць магілу. Спачатку ён капаў яе пальцамі, потым нейкай сукавінай, што трапіла ў ягоныя рукі. На пальцах ад такой працы

ламаліся пазногці, было вельмі балюча і ішла кроў. Але хлопец ужо не зважаў на пакуты, ён толькі спяшаўся, каб да світання пахаваць чалавека.

Пад ранак магіла была гатова. Яна атрымалася зусім неглыбокай і кароткай для доўгага цела Наскова, трэба было капаць яшчэ, але ўсход запаліў ужо за краявідам сваё святло, і неба пачало гасіць зоры. Маладзік пад ранак схаваўся за лесам, так і не ўзлезшы на неба.

У апошні раз хлопец прысеў над нябожчыкам, зашпіліў яго гімнасцёрку, прыгладзіў зблытаныя валасы і ўзяў пад пахі, каб аднесці ў магілу. Пад рукі яго трапілі кішэні з паперамі. Пятрусь падумаў крыху і паклаў іх у свае, парожнія. Потым ён дастаў з кішэні яго шаравар апошнюю гранату – «лімонку», што неяк захавалася там, і асцярожна ўзняў цела.

У магілцы сержант захінуў твар чалавека свежымі роснымі галінкамі, наламанымі з блізкіх алешын, у апошні раз уздыхнуў на развітанне і хуценька загарнуў ямку зямлёй. Потым ён выйшаў на лугавіну, узяў сцяг, пацалаваў яго вільготны ад расы шоўк і, гатовы да жыцця, барацьбы і смерці, па-над узлескам пайшоў у той бок, дзе нараджаўся ранак.

## Раздзел трэці

Настаў новы, поўны гора і смутку спякотны летні дзень...

Глухі і змучаны, Пятрусь, ні на хвіліну не прыпыняючыся, шыбаваў на ўсход. Ён знарок пазбягаў дарог, палявых шляхоў і нават сцежак і ішоў наўпрасткі – цераз палі збажыны, сенажаці, невялікія ляскі. Хлопец мінаў узгоркі, трымаўся нізін і кустоўя. Яго боты вымаклі ў ранішняй расе, трава сцерла іх да белай сырамяці, у кустах і збажыне па самы пояс набрыняла адзенне. Калі добра ўзнялося сонца, трава крыху падсохла, і ісці стала лягчэй. Хлопец нічога не чуў, і таму, каб не трапіць у якую бяду, штораз азіраўся, а часам выходзіў на ўзгоркі і асцярожна аглядаў абшары.

Ён спадзяваўся ўбачыць дзе-небудзь адзнакі бою, разрывы снарадаў, ці бамбёжку, але ўсюды ляжаў зялёны летні край, кучаравіліся лясы і пералескі, каласілася збажына. Праўда, з-за краявіду ў многіх месцах ішлі дымы, яны няпэўнымі плямамі расцякаліся ў небе; у сухім нерухомым паветры моцна пахла горкім дымам пажарышчаў – недзе гарэлі тарфянікі.

Калі развіднела, сержант з нейкае выспы добра агледзеў наваколле і, не ўбачыўшы ніякіх адзнак войска, раскруціў сцяг. Спачатку ён зняў бліскучы наканечнік, потым распароў ім шво і згарнуў палотнішча. Яно не вельмі ладна прышлося на яго схуднелым целе, але гімнасцёрка прыхавала шоўкавую чырвань, а папруга падціснула і замацавала скрутак. Так, глухі, з адзінай гранатай у кішэні сержант выправіўся ў далеч.

У адным месцы каля лесу Пятрусь напаткаў цэлае поле суніц. Пад рэдкім лісцем, панікшы долу, віселі сакавітыя яркачырвоныя ягады. Убачыўшы іх, хлопец адчуў незвычайны голад і аж пахіснуўся, раптам страціўшы сілу. Толькі цяпер зразумеў ён, што павінен падсілкавацца, інакш не дайсці яму да сваіх і не ўратаваць сцяга. Прыступ голаду быў такі моцны, што, не грэбуючы лісцем, кузуркамі і чарвякамі, што ліплі да пераспелых ягад, ён заграбаў іх з галін заскарузлымі далонямі і глытаў, не пераж оўваючы. Мабыць, доўга поўзаў ён тут, між гарэлых пнёў на гэтай дзяляне, але голад не змяншаўся. Тады хлопец спалохаўся, што патраціў гэтулькі часу, і, агледзеўшыся па баках, пайшоў далей.

...Яшчэ два дні і дзве ночы ішоў ён, спадзеючыся напаткаць сваіх.

Пятрусь па-ранейшаму мінаў вёскі і ўхіляўся ад сустрэч з людзьмі. Рабіў ён гэта не ад страху трапіць у рукі ворага, а таму, што не мог глядзець на чужое гора. Кусок хлеба з салам, здабыты аднойчы ў далёкай лясной вёсцы, ён з’еў і цяпер зноў галадаў. Добра яшчэ, што на лясных прыпалінах трапляла шмат суніц, на імшарынах выспявалі чарніцы, але наедак з ягад усё ж

быў дрэнны. Ён вельмі схуднеў, і некалькі разоў, калі піў у ручаях, аж палохаўся, не адразу пазнаючы сябе. Слых яго аднак палепшыўся, ён ужо чуў, як крумкаюць вароны ў ельніку, невыразным, прыцішаным гулам даносіўся да яго шум самалётаў у небе.

Надвячоркам чацвёртага дня Пятрусь перайшоў зялёнае аўсянае поле і падаўся па-над узлескам, што крывой лініяй агінаў палі.

Дзень быў сонечны і ветраны, па небе сям-там плылі невялікія воблачкі, лес маркотна і нязмоўчна шумеў, і гэткім жа маркотным тлумам поўнілася хлапечая галава. Часам Петрусю здавалася, што ён сніць усё гэта, што ён зусім не баец і няма ніякай вайны, проста ён звар’яцеў і туляецца па абшарах. Часам ён адчуваў сябе вельмі нешчаслівым, слабым, і хацелася яму плакаць ад жалю да сябе. Але хлопец моцна сціскаў папругай сваю незвычайную ношу, напружваў волю і прымушаў сябе быць мужнейшым.

Аглядваючы поле ярыны, Пятрусь прыкмеціў, што аўсяныя палеткі ў многіх месцах былі патаптаны, зблытаны людскімі слядамі. Часта сустракаліся палосы танкавых гусеніц. Пятрусь пільна ўглядаўся ў гэтыя сляды бою і ледзь не ўскрыкнуў ад нечаканасці, калі ўбачыў у невялічкай лагчыне абпалены і нерухомы ўжо варожы танк. Працягнуўшы за сабою ў аўсе дзве крывыя сцежкі, ён спыніўся там, не дапоўзшы якіх дзесяці крокаў да маленькага акопчыка-ячэйкі. Акопчык гэты, відаць, паспешліва выкапаны нейкім спрытным байцом, быў пусты; на брустверы паблісквалі свежыя вінтовачныя гільзы, бялела клочча газетнай паперы. Адсюль, пэўна, паслаў баец пагібель той варожай грамадзіне і выратаваўся сам. А танк, апаліўшы навокал ярыну, стаяў ужо бездапаможны і мёртвы, гарматны ствол скрывіўся на бок, люкі былі расчынены, і з таго, што дзіркай чарнеў у борце, звісала нерухомая постаць мёртвага танкіста. Пятрусь, перасільваючы агіду, нерашуча падышоў да яго, са злоснай радасцю пазіраючы на абпаленыя агнём крыжы на баку, зазірнуў у люк. Там было цёмна,

смярдзела паленай гумай і гарэлай анучай. Ногі танкіста так і засталіся ў люку, а рукі віселі над аўсяным долам. Вецер раскудзеліў бялявыя валасы, на шэрую стрыжаную патыліцу ўжо лёг слой пылу.

Пятрусь не стаў затрымлівацца, з агідай плюнуў у збажыну і падумаў сабе, што ёсць усё ж пагібель і на гэтую сталёвую навалу. Мо’ гэты самы вось танк некалькі дзён назад разам з іншымі ганяў яго па тым полі, дзе загінулі рэшткі палка. Але нейкі адзін чалавек знішчыў гэтае страшыдла, ўратаваўшы жыццё мо’ нават многіх людзей.

У другім месцы на полі Пятрусь убачыў зводдаль яшчэ некалькі гэтых грозных і страшных машын. Усе яны стаялі цяпер нерухомыя і мёртвыя. Хлопец вельмі ўзрадаваўся ад гэтай удачы невядомых байцоў, і ў яго, здаецца, прыбыло сілы, каб крочыць далей.

Так ён ішоў па-над узлескам і, натрапіўшы на палявую дарогу, збочыў на яе. Дарога хутка павярнула ў лес. Хлопец спыніўся, на момант раздумваючы, ці варта яму трымацца яе, ці не лепш было б ісці напрасткі, але душэўны ўздым ад нядаўняга відовішча заглушыў апасенні, хлопец пайшоў па дарозе.

Дарога вілася хваёвым сонечным борам. У лесе вельмі пахла хвояй і ўгрэтай на сонцы смалой. Паветра было сухое, густое і цягучае. Сосны глуха і працяжна шумелі ўгары, а на засланым ігліцай доле зіхацелі мітуслівыя сонечныя плямы. Пятрусь нячутна ступаў па гэтаму мяккаму, бы ватай падбітаму, долу, і ўспаміны дзяцінства, звязаныя з борам, мроіліся недзе ў яго душы. Але думкі былі аб іншым. Ён увесь час імкнуўся ўявіць сабе, ці далёка ў краіну праніклі ворагі, дзе і як стрымаюць іх, і як цяпер думаюць там пра іх загінуўшы полк. Ад думкі, што вельмі ён затрымаўся ў сваёй дарозе, што марудна нясуць яго ногі, у душы хлопца ўзнікала трывога, і ён паскараў крок.

А бор усё цягнуўся і цягнуўся абапал вузенькай крывой дарожкі, вакол незразумела гаманілі сосны.

Надвячоркам бор прыціх. Аблітыя нізкім сонцам, гарачай меддзю ззялі сасновыя вершаліны, разлапістае высокае сучча іх нерухома вісела ў паветры. Угары яшчэ было відна, а між камлёў у доле згушчаўся змрок. Стулілася рэдкае кустоўе і маладыя сосны, адчуваўся начны халадок. Лес неяк насцярожыўся, прыціх, толькі ўгары, абшукваючы хваёвыя ствалы, насіліся глінянкі – невялічкія жвавыя птушкі, нястомныя працаўнікі бору.

Ад працяглай адзіноты ці мо’ ад гэтай цішыні пад вечар Петруся апанавала нейкая трывожная туга. Дарога ішла ўніз, абапал яе суцэльным шчыльным натоўпам мясціўся хваёвы маладняк, у ім панаваў ужо змрок. Пятрусь спыніўся, чамусьці не адважваючыся ісці далей, нібы менавіта тут чакала яго якая бяда. Ён паслухаў і прыгледзеўся – нідзе не было нічога падазронага. Тады хлопец нясмела пайшоў, тулячыся да аднаго боку дарогі. Гэта, відаць, быў лесагадавальнік, яго маладняк расцягнуўся на шмат кіламетраў, і ў ім хлопца напаткала ноч.

Яна паволі распаўзалася па долу, змрокам ахутвала дрэвы, сівым туманам зацягнула нізіны; неба сцямнела на ўсходзе, і над дарогай загарэлася першая зорка – адзінокая і самотная, як і душа ляснога падарожніка.

Урэшце без усякіх падстаў хлопец адчуў, што ён не павінен ісці далей. Адчуванне небяспекі не праходзіла, і ён звярнуў з пясчанай дарогі ў густы змрок лесу. Ён не ведаў, дзе была тая бяда, ад якой уцякаў ён, але нейкая сіла штурхала і цягнула яго далей і далей у гушчар, у змрок сасняку. Галлё балюча драпала яго рукі, твар, сухія абламаныя сукі, нібы штыкі, упіраліся ў ягоныя грудзі, а ён лез і лез, заплюшчыўшы вочы, з дапамогай рук прасоўваючы наперад сваё цела.

Ягоная барацьба з сасняком у суцэльнай цемры ночы была, відаць, доўгай і адабрала шмат сілы. Урэшце ён вылез на нейкі лужок, у небе было ўжо зусім цёмна і трывожна, маўкліва мітусілася там безліч зор. Адчуваючы праз боты вільготны халадок расы, Пятрусь перайшоў лужок і спыніўся ля кустоўя, не ведаючы, куды падацца далей. Праз галлё паблісквала нешта

светлае, ён прыгледзеўся – гэта цякла ручаіна. Тут жа ля алешніку чорнай грудкай цямнеў невялічкі стажок. Пятрусь некаторы час утрапёна глядзеў у хмызняк, услухоўваўся ў наваколле і ўсё выразней адчуваў, што аслабеў дашчэнту і ўжо не можа нікуды падацца адгэтуль. Тады ён хістаючыся дабрыў да стажка і заваліўся пад ім на пахучае хрусткае сена.

Сон, як смерць, згасіў Петрусёвы адчуванні. Хлопец быццам праваліўся ў нейкую цемру нябыту; зніклі, адляцелі ад яго неадчэпныя справы і турботы – і вайна, і бяда, і імкненні. Зморaны і змучаны, ён моцна спаў на жорсткім мурагу, абшчапіўшы свае грудзі, дзе муляла дарагая ноша. Над ім угары палахліва і трывожна мігацелі зоры, чорнымі дзівоснымі лапамі адбіваліся ў небе галіны кустоўя, журботна аб нечым безнадзейна сумным журчэла ў ручаіне вада.

Але і ўначы не было спакою стомленай душы. Ледзь толькі ўсталяваўся сон, хлопцу пачалі сніцца трывожныя, страшныя сны.

Не ў стане пазбыцца страху, што ў сне апанаваў яго, Пятрусь неяк устрапянуўся і прачнуўся. Ён падняўся, наўкола была маўклівая цемра, ледзь-ледзь шумела кустоўе. Сэрца моцна стукала ў грудзях, спіна і бок вельмі азяблі ад расы, і хлопца скаланулі дрыжыкі. Спалох, аднак, пакрысе развеяўся, але трывога ўжо моцна завалодала Петрусёвай істотай. І ўсё ж мацней за ўсё іншае зараз быў сон, хутка ён зноў заплюшчыў хлопцавы вочы, і баец, скурчыўшыся ад холаду, зноў паваліўся ў сена.

Невядома, колькі мінула часу, як раптам нехта балюча штурхнуў яго ў бок. Сонны яшчэ Пятрусь хуценька ўсхапіўся і адразу ўбачыў над сабой нейкага чалавека ў чырвонаармейскай форме, з вінтоўкай, у пілотцы – ён штурхаў сержанта ў бок і нешта казаў. Хлопец са сну не разумеў ягоных слоў, але на няголеным твары байца, у яго маркотных вачах убачыў трывогу і хуценька ўскочыў з сена.

– Бяжы хутчэй! Ну!

Адчуваючы нядобрае, хлопец азірнуўся. Праз кустоўе відаць была дарога з стракатымі слупкамі на насыпе, там грукацелі машыны, бразгаталі парожнія бочкі і сноўдалі немцы. Гэта было зусім блізка – якіх трыццаць крокаў адсюль.

Зразумеўшы бяду, Пятрусь хуценька падаўся за сваім выратоўцам уздоўж ручаіны, далей ад гэтага месца. За імі няспрытна, па-старэчаму падскокваючы, бег нейкі босы сівы дзядок з клункам у руках. Парадкам ужо адбегшы ад тае дарогі, трое зведзеных выпадкам людзей замарудзілі крок, пайшлі сцяжынкай над раўком, і баец з дакорам заўважыў Петрусю:

– Што гэта ты, сержант, разлёгся ля дарогі? Ці да немцаў захацеў?

Сержант, канчаткова ўжо адагнаўшы сон, зірнуў у твар чалавеку.

– Якое да немцаў. Уначы з лесу прыбіўся да раўка і заснуў ў стажку.

– Добра, што гэта мы натрапілі, а то было б табе.

– І праўда, было б, – вінавата ўсміхнуўся Пятрусь. Ён з цікавасцю аглядаў сваіх нечаканых спадарожнікаў, адчуваючы сябе трошкі ніякавата за сваю неасцярожнасць. Сержанту спадабалася, што ў байца была вінтоўка і ўся вайсковая амуніцыя – процівагаз, падсумкі і нават малая лапатка на баку. Відаць, і ў яго былі невясёлыя справы, але ён, здаецца, не ўпаў духам, не разгубіўся, калі нясе зброю. Ён нетаропка ступаў сваімі стаптанымі гамашамі ў зялёных абмотках і спакойна, без страху аглядаў лясное наваколле. У чалавека былі вельмі адметныя натапыраныя бровы, глыбока пад сабой хавалі яны памяркоўныя ўдумлівыя вочы на крыху папсутым воспаю твары. Пятрусь моўчкі пазіраў на яго, і здавалася хлопцу, што ён недзе ўжо бачыў гэты твар і гэтую жылістую шыю, на якой злёгся зашмальцаваны ад поту салдацкі каўнер з пятліцамі. Мо’ было тут штосьці захаванае ў памяці з дзяцінства, мо’ гэты твар нечым нагадваў яго бацьку.

Наперадзе па сцяжынцы, хуценыса перастаўляючы босыя ногі, дыбаў другі яго сённяшні знаёмы, маленькі, сівенькі дзед, відаць па ўсім, вельмі рухавы чалавек, у шэрай світцы і старой вайсковай шапцы з зялёным патрэсканым казыркам. Ён усмешліва азірнуўся на хлопца і сказаў жвавым тонам гаваркога чалавека:

– Мы самі, бач, тыцнуліся з лесу, а яны на мастку. Ледзьве чорту ў лапы не скочылі. Пашкадаваў бог – не заўважылі.

– Было б і вам тады, – зазначыў сержант і запытаў пра тое, што цяпер больш за ўсё іншае цікавіла яго: – А куды ж вы кіруеце?

– А туды, – махнуў рукой дзед за раўчук, дзе ўжо на паўнеба шугала святло ўзышоўшага, але яшчэ не бачнага за лесам сонца.

– А ты куды ідзеш? – запытаў баец.

– Ды і я туды, – сказаў Пятрусь. – Часць нашу разбілі, вось і іду. А не чулі, дзе нашы?

– Э, братка, далёка, – уздыхнуў дзед. – Казалі ўчора людзі, аж пад Полацкам.

Тая навіна, як пярун з неба, аглушыла хлопца. Нейкі час ён маўчаў, не ведаючы, што думаць і казаць. Тысячы жудасных пытанняў паўсталі зараз у яго галаве, але адказу на іх, здаецца, не было ні ў кога.

Людзі заўважылі, як спахмурнеў хлопец, ды і яны былі не весялейшыя ў той час. Дзед цяжка, працягла ўздыхнуў і на хаду пачухаў нястрыжаную патыліцу.

– Эх, бяда, бяда! – казаў ён. – Што робіцца толькі на белым свеце!

Нейкі час яны ўсе задуменна памаўчалі, потым баец сказаў:

– Значыць, па дарозе будзе, сержант. Разам пойдзем.

Неўзабаве сцяжынка вывела іх да травяністай, з рэдкім кустоўем забалаці, далей у асацэ і багне ляжалі жэрдкі.

– Ну, вось тут вам, абутым, крызіс, – пажартаваў дзед. – Скідай шчыблеты, а я закуру.

Яны разуваліся, каб перайсці забалаць. Над прасторамі нараджаўся новы, прамяністы ранак, і разам з ім святлела і на Петрусёвай душы. Ужо знікла ўчарашняя трывога, нечым супакойваючым і надзейным павеяла на хлопца ад гэтых пажылых людзей, так нечакана напатканых на яго шляху. Невядома, што яшчэ чакала іх наперадзе, але было радасна, што скончылася сёння самае страшнае ў жыцці – адзінота, побач зноў былі свае людзі, і пакрысе мацнела спадзяванне, што ўсё абыдзецца добра.

## Раздзел чацвёрты

– Як жа гэта вы выкараскаліся так ладна: з вінтоўкай і ўсім майном? – пытаўся Пятрусь, гледзячы, як пажылы баец, выклаўшы на процівагаз затвор, чысціў шчэпкай вінтоўку.

Яны ўтрох сядзелі ў алешнікавым гушчары. Было каля паўдня, моцна пякло сонца, і над лясными прасторамі вісела нерухомая бязветраная ціш. Сонечныя промні, прабіваючыся праз альховае вецце, хавалі ў травяністым доле блішчастыя далоні. Угары гудзеў чмель, недзе далёка кукавала зязюля.

– Як выбраўся, пытаеш? Гэта, брат, гісторыя – як выбраўся, – казаў баец, калупаючы ў патронніку. Ён сядзеў, прыхінуўшыся да пакручастай закаржэлай алешыны, зняўшы з сябе ўсе рамяні, успатнелы і спакойна засяроджаны ў сваім занятку. Дзед, скрыжаваўшы пад сабой натруджаныя босыя ногі, курыў самакрутку і кашляў усё, аж захліпаўся ад нейкага старэчага ўдушша. Яму, пэўна, былі ўжо знаёмы прыгоды байца, і ён пазіраў на сержанта, нібы спадзеючыся ўбачыць новае ўражанне ад іх.

– Ішлі мы, значыць, маршам, – я ў пяхоце быў – трое сутак ішлі. Фарсіраваны марш, значыцца. Ну, неяк на світанні сталі. Доўга стаялі на дарозе, немца быццам не чутно, чакаем загаду. Прыбягае камбат, сабраў камандзіраў – кажуць займаць баявы парадак. Ну, значыць, разгарнуліся мы ў полі, наша рота якраз ля ўзмежка, на канюшынішчы. Давай акопвацца. Ужо добра развіднела, я гэта лапатай працую, як раптам над ланцугом як трэсне – руды такі, ведаеце, клубок дыму ў паветры, – шрапнель, значыць. Ну, і давай біць. Так, мабыць, з гадзіну білі. Я дык такія штукі ведаю, на фінскай яшчэ нагледзеўся. Калі шрапнель, дык трэба хутчэй падстрэшак гэткі, нішу, значыць, у акопе ладзіць: ад шрапнелі ніша – першы паратунак. Ну я і налягаю на лапатку. А некаторыя маладыя апанурыліся, затаіліся, ну і пабіла іх. Суседа майго Турсунбаева забіла – проста ў патыліцу асколкам, кулямётчыка з другога ўзвода параніла. Ну, думаю, ліха: ён нас б’е, а мы яго і не бачым нават. Але тое яшчэ не ліха, браце. Ліха было наперадзе.

– Ды ўжо ж так. Бяда за бядою ходзіць ды яшчэ сяброўак водзіць, – зазначыў дзед. – Таксама вось і ў германскую было...

Дзеду, відаць, хацелася нешта расказаць сваё, але ён у час абарваў сябе і засоп самакруткай. Баец тым часам заклаў у вінтоўку затвор, спусціў курок і паклаў зброю на калені. Пятрусь асцярожна распеpазаўся і масціўся побач, прытрымліваючы пад гімнасцёркай сваю ношу. Ён уважліва слухаў чалавека, які з прыкметнай тугой патрывожанай душэўнай раны апавядаў пра невясёлае.

– Але страшнае было потым, – уздыхаючы, казаў ён. – Чуем, нешта загыркатала ўдалечы, і вось з імшарынкі наперадзе высоўваюцца танкі. Я гэта палічыў з цікаўнасці – васемнаццаць штук! Ідуць, значыць, а між іх і ззаду за імі немцы. Ну і сыпнулі яны па нас. Усё, брат, закурэла ад пылу і дыму, што тут рабіць будзеш? Праўда, і мы спачатку далі агню, але хіба ты іх вінтоўкамі стрымаеш? Танкі ўжо з узмежка скульнуліся, адзін проста на мяне шыбуе; гудзе, лязгаціць, куды ты

тут дзенешся? Ледзьве я ногі паспеў падцягнуць, каб гусеніцай не аддушыла – праскочыў. Не паспеў я яшчэ што і падумаць, як тут аўтаматчыкі. І да мяне падлятае адзін з потным гэткім звярыным тварам. Прыплюшчыў я вочы, ды і сунуў галаў у канюшыну: ляжу, як мёртвы. Заб’е, дык заб’е, а можа і не стрэліць, думаю.

Баец змоўк на хвіліну, узяў з долу абдзёрты свой кацялок, папіў троху, выцерся рукавом і коратка, тужліва зірнуў на сержанта. Відаць было па ўсім, што ён зноў балюча перажываў тую сваю бяду, апавядаў сумна, гэтак, як расказваюць пра апошнія часіны блізкага чалавека. Апушчаная з калена звісала заскарузлая ад даўніх мазалёў рука чалавека, пакручастыя грубыя пальцы далікатна неяк трымалі тонкую драцінку мокрага кацялка. Пятрусь глядзеў на тыя пальцы, на ногі чалавека ў стаптаных чаравіках і аблезлых абмотках. І зноў хлапечае сэрца кранулі людскія пакуты, і ўжо не здавалася такім балючым уласнае гора: відаць, у тыя часы шмат каму выпала горкая доля. Ён слухаў, і між слоў чалавека неяк цьмяна выплывалі знаёмыя аблічча тых, каму выпаў горшы лёс і каго ўжо не было ў жыцці. Перад вачыма паўсталі і камандзір палка, што, паміраючы, прагнаў яго ад сябе, і небарака Наскоў, што сканаў на яго спіне, і нежывы лейтэнант, пакінуты непахаваным на той жахлівай сядзібе. А колькі яшчэ невядомых яму смерцяў! І ў грудзях хлопца разам з крыўдай і болем усё мацней гарэла нянавісць да звар’яцелых, крыважэрных чужынцаў. А баец, журботна паціраючы ложа вінтоўкі, усё казаў сваё набалелае.

– Мінулі яны наша канюшынішча, а я пацiху ўзняўся: дай, думаю, дзе кулямёта пашукаю. Хацеў ручнік дзе падхапіць ды лупануць па іх з тылу. Нашых багата ляжыць на полі, я – да аднаго, да другога – забітыя і з вінтоўкамі ўсе. І раптам адзін енчыць, убачыў, пазнаў: «Нупрэеў, братка, ратуй, не кідай». Гляджу, знаёмы баец, зямляк нават, наш, валагодскі. Я да яго, а тут другі качаецца – ногі перабіты. Куды тут страляць будзеш, людзей ратаваць трэба.

Перавязаў, як умеў, пад кусты пасцягваў аднаго і

другога. Танкі ўжо ў лагчыну схаваліся, наўкола пуста стала, толькі нябожчыкі ляжаць. Я, гэтак прыгнуўшыся, яшчэ па полі пашарыў, яшчэ дваіх знайшоў – сапёраў, што прыдадзены нам былі. І камандзіра батальёна знайшоў: ляжыць старшы лейтэнант з акрываўленай галавой, гімнасцёрка ўся крывёю заліта і нават дакументы ў крыві. Шкада гэтак стала, ды толькі сумаваць па мёртвых няма калі: жывыя чакаюць. Вярнуўся я да тых кустоў, напаіў Швяцова – асабліва ён, бядак, пакутаваў, усё дабіць прасіў, – што тут далей рабіць? Не сядзець жа мне з імі ў тым полі, чакаць, значыць, няма чаго – ужо, брат, пад немца трапілі. Пабег я раўком шукаць якіх жывых людзей, якое вёскі, і, праўда, натрапіў. Вёсачка маленькая, прыгледзеўся – быццам няма фашыстаў. Знайшоў чалавека, расказаў: так і так – трэба людзей ратаваць. Добры такі чалавек трапіў, маўклівы. «Ну, што ж, – кажа, – калі трэба, дык трэба». Запрог каня, паехалі, схавалі мы тых чацвярых у добры гушчар – ельнік такі, – напаілі. Швяцоў сканаў хутка, трое засталося. Глядзі, кажу чалавеку, – пільнуй байцоў. Вярнуся – запытаю, як і што. Ну, а самому што тут было рабіць? Усё ж баец я. Ну, і падаўся на ўсход. Так і нясу на сабе ўвесь рыштунак і вінтоўку – не кідаць жа дабро. І вось ужо тыдзень іду. Не думаў, што такое здарыцца, што аж пад Полацк скіравацца прыйдзецца.

– І я вось не думаў, што гэтак будзе, – сказаў Пятрусь. – І як гэта здарылася?..

– Сталася вось. Хіба і я гадаў, што гэтак абернецца, – жвава пачаў дзед. – Я ж таксама ў войска падаўся. У мяне, каб ты ведаў, сын у войску, камандзір, і чын, ведаеш, добры мае. А я з малодшым на Слонімшчыне жыў, а раз вайна, – я, братка, пагаліўся, тытуню падкрышыў запас і ў Слонім, у ваенкамат, значыць. Думаў, прыйду да ваенкома – знаёмы чалавек быў – скажу, давай, Іван Кузьміч, да сына накіраванне. Няўжо старому ваяку, георгіеўскаму кавалеру, якога месца пры войску не будзе? Павінна быць. І што ж: прытупаў у Слонім, а там ля ракі пад вербамі машын панастаўлена, бензінам смярдзіць – немцы! Не, думаю, не быць такому, каб бацька чырвонага камандзіра ў палон

здаваўся. Завярнуў на дарожку і ў поле. Пайшоў сабе на ўсход. Вось на яго натрапіў, так і ідзем.

– Ну, і я таксама, – сказаў Пятрусь. – Як ачуняў на тым полі, агледзеўся, што адзін, і давай даганяць сваіх. Думаў, дзе недалёка нашы, а яно ўсюды фашысты, куды ні сунься. Штосьці тут, відаць, здарылася, што не ўтрымалі. Ну, але не можа таго быць, каб не спынілі тую навалу.

– Спыняць! – запэўніў дзед. – Ужо пад Полацкам спыняць. Там, браце, войска шмат, я яшчэ раней чуў, і, зноў жа лясы. У лясах самалёт, што сляпы каршун: нічога не зробіць. Скулу яму ў бок, таму Гітлеру! Нічога ў яго не выйдзе.

– Яно, пэўна, так. Але цяжка будзе. Танкамі гэтымі бярэ, нягоднік, – нявесела казаў Нупрэеў.

Пятрусь канчаткова зразумеў, што мае справу са сваімі людзьмі, ён ужо цалкам даверыўся ім, толькі ніяк яшчэ не мог рашыцца на тое, каб даверыць і свой найвялікшы клопат, сваю таямніцу. Некалькі разоў наважваўся ён сказаць, што нясе з сабой на ўсход, якая святыня хаваецца пад яго гімнасцёркай, але ад незвычайнасці тае справы, ад выключнасці і важнасці тае рэчы ўсё неяк не ставала смеласці адкрыцца людзям. Аднак хіба схаваеш што ў такі час ад блізкіх людзей, якія бачаць ые толькі пад тваёй світкай, але і ў тваёй душы. Калі ў алешнікавым гушчары змоўклі размовы і настала кароткая хвіліна ціхай задумы, дзед першы запытаў сержанта:

– Скажы, камандзір, што гэта ты пад гімнасцёркай хаваеш? Ці якую адзежыну, ці што?

– І я гляджу, нешта ўжо занадта круглявы сержант, – хітравата ўсміхнуўся Нупрэеў. – Не таіся, мы людзі свае.

– Ды не, што таіцца? Я і сам хацеў сказаць. Ужо такая справа: трэба як разам цяпер клапаціцца... Палкавы наш сцяг у мяне...

Ён устаў на ногі, пад гімнасцёркай разматаў з цела палотнішча, разгарнуў на ўсю шыр і кароткім імклівым рухам разаслаў на траве. Нупрэеў нібы скамянеў на месцы, высока ўзняўшы свае белыя касматыя бровы, дзед хуценька ўскочыў услед за сержантам і праз хвіліну, пэўна яшчэ не зразумеўшы ўсёй важнасці падзеі, загаварыў:

– Ай-яй, якая штуковіна! Палкавы, кажаш? Глядзі ты, і нумар і назва. Як жа гэта ён трапіў табе?

Устаў з долу і Нупрэеў, далікатна ўзяў за ражок пакамечанае палатно, моўчкі ўздыхнуў. Потым таксама моўчкі паглядзеў на сержанта – нешта шматзначнае, пытальнае было ў тым яго працяглым позірку.

– Трапіў вось. Уратаваў пакуль, але ці ўдасца зусім ўратаваць, хто ведае? – сціпла адказаў хлопец, не адводзячы позірку ад агністага шоўку.

– Ах ты, горачка, – чухаў патыліцу дзед. – Сапраўды задача. Гэта ж не жартачкі: вайсковы сцяг.

Нупрэеў змрочна маўчаў, захаваўшы ўглыб свае вочы, нізка схіліўшы галаў, стаяў Пятрусь. Некалькі праменьчыкаў паўдзённага сонца праз гушчар гарачымі пятакамі ўпалі на шоўк, запалілі яго і ціхенька гарэлі чырванню між золата літар. Так, не зводзячы з тае рэчы самотных вачэй, перамагаючы наплыў чагосьці светлага і жаласлівага, доўга глядзеў Пятрусь на сцяг і бачыў другі, ужо далёка адсунуты віхурай падзей той незабыўны дзень, калі ён прымаў прысягу, і на пляц перад строем палка ўпершыню выносілі гэты вось сцяг. Ён тады быў цэлы і акуратны, без чатырох дзірак, што цяпер свіціліся ў шоўку, яго неслі пад музыку, а камандзір палка, які мёртвы застаўся на тым пагорку, тады ладны і моцны, падаваў строю каманду. Пятрусь Кляновіч у той час лічыўся зусім зялёным байцом, ён і не марыў не тое, каб патрымаць сцяг, а нават і наблізіцца да яго. Сцяганосцам быў старшы сержант Саўкін, які за Фінскую меў два ордэны. А цяпер як змянілася ўсё! Няма ні Саўкіна, ні камандзіра палка, толькі застаўся ён, былы зялёны баец Кляновіч, і гэты

вось прабіты ў чатырох месцах сцяг.

Пасля доўгай маўклівасці Нупрэеў сказаў:

– Ну, нічога. Як-небудзь зберажэм. Тут ужо нельга не зберагчы.

– Ну, канешне ж, – азваўся дзед. – Сцяг, ён найвышэй за ўсё. Я ж ведаю.

Нейкі час гэтыя трое людзей пастаялі яшчэ ў гушчары, глядзелі на сцяг, уздыхалі і маўчалі ў нялёгкай задуме. Вырашыўшы, што несці пад гімнасцёркай гэткую рэч нягожа, Нупрэеў аслабаніў свой рэчавы мяшок, у які добра запакавалі сцяг, і Пятрусь уздзеў яго на спіну. Нупрэеў інакш, неяк уважлівей, стаў пазіраць на сержанта і аднойчы сказаў:

– А ты таго, маладзец, хлопец.

Уладкаваўшы ўсё, пасур’ёзнеўшыя і прымоўклыя ад новага клопату людзі зноў падаліся ў сваю невядомую дарогу.

## Раздзел пяты

Не спыняючыся на начлег, яны ўсё ішлі на ўсход.

Мінулі другія суткі, як яны сустрэліся, і за час няспыннага падарожжа ўжо добра прывыклі адзін да другога. Пятрусь шчыра радаваўся, што трапілі на ягоным шляху гэтыя двое людзей, з імі хлопцу было куды весялей і надзейней, а галоўнае – яны шчыра, аддана паставіліся да ягонага цяперашняга імкнення. Ніводзін з іх і не марыў зараз пра што іншае, як толькі найхутчэй далучыцца да сваіх і тым канчаткова выратаваць сябе і сцяг.

Пятрусь ужо добра чуў на абодва вухі, але часам яшчэ ныла плячо і калі-нікалі пад грудзі падкатвала млосная нудота. Хлопец, аднак, трываў, перамагаў нядужанне і без скарг імкнуўся наперад.

Аднаго разу яны спыніліся ля ручаіны ў кустоўі, напіліся і моўчкі палеглі ў падсохлай ужо няроснай траве. Сонца ўзнялося і добра прыгравала, ад стомы і спакою да людзей чапляўся сон. Старыя адразу прыціхлі, а Пятрусь упарта гнаў ад сябе цягучую дрымоту. З мінулай ночы ўсталявалася так, што ён вызначаў час адпачынку і першы падаваў голас, калі трэба было рухацца далей. Ён гэта рабіў проста, па-сяброўску, без ценю каманды, але неяк стала, што хлопца слухаліся гэтыя двое людзей. Так, мабыць, прызнавалася яго вайсковае старшынства, а можа людзі зважалі на яго большую, чым іх, маральную адказнасць у справе, якую яны на сябе ўзялі цяпер.

Моцным намаганнем струхнуўшы дрымоту, сержант узняўся з травы і хацеў гукнуць людзей, каб рушыць далей, ды раптоўна ахапіўшая млосць паваліла яго на зямлю. Нупрэеў адразу заўважыў гэта і заклапочана сеў у траве.

– Э, братка, трэба падсілкавацца табе. Так нягожа. Мы то стрываем, а табе догляд патрэбны.

Узняўся і дзед, і яны вырашылі ў першай жа вёсцы, якая трапіцца на іх шляху, накарміць сержанта.

Як-колечы Пятрусь аднак ачуняў, і з паўгадзіны яны паціху ішлі лагчынай уздоўж ручая. Час ад часу старыя пазіралі ўправа, пакуль не ўбачылі на ўзгорку ў збажыне нейкія будынкі – то быў хутар. Коратка параіўшыся, Пятрусь з Нупрэевым засталіся на жытнёвым узмежку, а дзед выправіўся здабываць харчы.

Сядзелі яны досыць доўга, чакалі, а дзеда ўсё не было. Сержант пачынаў ужо непакоіцца за старога, калі ад хутара пачулася гаворка. Хлопец выглянуў над збажыною і хуценька схаваўся зноў. Ад будынкаў па сцежцы ішоў дзед і з ім яшчэ трое нейкіх людзей, – за плячыма ў іх, здаецца, вісела зброя. Нупрэеў таксама зірнуў і таксама ўстрывожана схаваўся. Сержант і баец пераглянуліся, а затым Нупрэеў саўгануў затворам вінтоўкі.

Калі ж людзі наблізіліся і стала чуваць іх размова, байцы зноў зірнулі адзін на аднаго, і сержант узняўся з узмежку. Да іх даносіўся спакойны, гаварлівы голас старога, – нічога трывожнага ці падазронага не чулася ў ім.

Людзі ўсё набліжаліся па сцяжынцы, ужо бачна было, што за дзедам ішоў ладны плячысты дзяцюк, ён трымаў на рамяні аўтамат і ўглядаўся ў іх бок. За імі ішлі яшчэ двое – высокі і нізкі, – яны таксама былі ўзброеныя, але чамусьці ніхто з іх не нагадваў нашых байцоў. Калі яны добра наблізіліся, Пятрусь зразумеў, чаму яны здаліся чужынцамі. На дужыя плечы першага быў напялены нямецкі мундзір, падпярэзвала яго дзяга з жоўтай камсастаўскай спражкай, а на чубатай галаве ладна сядзела суконная пілотка з чырвонай зоркай. У такім убранні хлопец меў незвычайны, нейкі дзівакаваты выгляд. Двое яго спадарожнікаў былі апрануты ў несамавітыя сялянскія світкі, хоць штаны ў абодвух былі нашы, вайсковыя, таксама як і кірзавыя боты на нагах.

– Вось падмогу прывёў, – задаволена сказаў дзед, падыходзячы да ўзмежка. – Гэта свае, чырвоныя армейцы.

– Прывітанне байцам і камандзірам, – зухавата сказаў пярэдні ў мундзіры. – Дзед кажа, падвяло вас без хлеба-солі. Дрэнна жывеце, значыць.

Нупрэеў спадылба ваўкавата разглядваў траіх; Пятрусь маўчаў, не ведаючы, як паставіцца да гэтых пераапранутых бадзяг і да іх недарэчнага тону. Тое, што яны свае людзі, бадай, было зразумела, але нейкая няёмкасць утрымлівала сержанта ад праматы і шчырасці. Пярэдні, пэўна, заўважыў тое і сказаў:

– Ну, што надзьмуліся? Будзем знаёмы: старшына Агальцоў, камандзір разведчыкаў, а гэта мае дружбакі: Жук і Калдобінскі. – Ён паказаў на сваіх спадарожнікаў – тыя былі сціплейшыя за свайго начальніка. Каржакаваты і шыраканосы Жук прастадушна ўсміхнуўся, а высокі і тонкі Калдобінскі хаваў змрочную паныласць на вузкім, насатым твары. Пятрусь і Нупрэеў

змаўчалі, ды ім, бадай, і не трэба было называць свае чыны – яны ў абодвух значыліся яшчэ на вайсковых пятліцах.

– Дык што, сержант, на ўсход кіруем? – жвава пытаў Агальцоў, сядаючы побач з Петрусём. Яго падначаленыя таксама селі; дзед перад узмежкам развязваў у траве прынесены клуначак, ля яго, трымаючы ў руках вінтоўку, прысеў Нупрэеў.

– На ўсход, – пацвердзіў сержант.

– Ну і мы туды ж. Значыць, па дарозе.

– Вось і я кажу: зручней разам, – уставіў дзед. – Зноў жа ўшасцярых мо’ лепш справімся.

– А здалёку вы нясеце гэтую штуку? – старшына хітравата прыжмурыўся.

Сержант міжвольна здрыгануўся ад нечаканага пытання і ўзняў на старшыну вочы. А той сядзеў побач спакойны, недзе ў глыбіні яго чорных хуткіх вачэй ззяла ўсведамленне ўласнай зухаватасці, адчуванне сілы і ўпэўненасці ў жыццёвыя ўдачы. Сержант у думках аблаяў старога за нястрыманасць і сказаў няпэўна:

– Здалёку.

Але хто яго ведае, мо’ і не трэба было злавацца, чужацца іх.

Мо’ так і сапраўды лепей – ушасцярых, мо’ гэтыя хлопцы – нядрэнныя людзі. Цяжка адразу ўсё зразумець у чалавеку, і ўсё ж сержант адчуваў, што асцярожнасць не пойдзе ў шкоду, што ў такі час трэба на ўсё глядзець пільна.

Дзед тым часам нарыхтаваў сняданак, адзін з новых знаёмых – усмешлівы Жук – моўчкі дастаў з свае сумкі банку нейкіх нямецкіх кансерваў, гасцінна падаў старому, і трое галодных людзей налеглі на ежу. Новыя знаёмыя адмовіліся ад сержантавага запрашэння

паснедаць з імі, яны курылі папяросы і маўчалі. Агальцоў усё па-ранейшаму насмешліва пазіраў на сержанта, на яго галодных, амаль не ўзброеных людзей, і на прыгожым твары хлопца выразна адбівалася пачуццё ўласнай перавагі. А Пятрусь, зрэдку пазіраючы на яго, напружана думаў, стараючыся зразумець нутро гэтых людзей. Здаецца, не было асаблівых прычын для недавер'я, але іхняе адзенне і асабліва мундзір старшыны выклікалі нейкую няпэўную насцярожанасць.

К ночы за суткі няспыннага маршу сержантава тройка вельмі змарылася. І сам Пятрусь, і дзед з Нупрэевым ужо ледзь цягнуліся па хмызняках, агнём гарэлі іх змучаныя ногі, усё цяжэйшым здаваўся кожны кіламетр. Старшына з разведчыкамі трымаўся бадзёра, – здавалася, яны не ведалі стомы. Агальцоў увесь час апавядаў Нупрэеву, а болей дзеду пра свае нядаўнія прыгоды. Сержант ішоў ззаду. Ён ледзь трымаўся на нагах – у такім стане было не да размоў, – але ён слухаў усё, што казаў старшына! Калі гэта не была хлусня, дык старшына – сапраўды смелы чалавек. Дзіўна толькі, чаму ўсё атрымлівалася ў яго ў нейкім жартоўным, бяздумна-дзівацкім тоне – ці сапраўды ўсё так і было зухавата-лёгка, ці тыя здарэнні не пакінулі сур'ёзнага следу ў душы чалавека. Старшына расказаў, што ідзе ад самай граніцы, што ў адным месцы яны захапілі танкетку, і, пераапрануўшыся ў немца, Агальцоў на ёй даў бой у нейкім мястэчку. Расказаў, нібы яны ўзялі ў палон нямецкага оберста, цягнулі яго з сабой некалькі дзён, аж пакуль самі не трапілі ў бяду. У доказ сваіх геройстваў старшына паказваў нямецкі аўтамат, новенькі пісталет «вальтэр» і пілотку, прастрэленую ў двух месцах. І нарэшне хлопец паведаміў, што яны добра адпачылі на гэтым хутары – былі і маладзіцы, было і закусіць, і выпіць, і тры дні прайшлі, як на вяселлі.

Старшына са сваімі людзьмі прынёс нешта новае, бесклапотнае і лёгкае ў настрой гэтай групы. І сержант, і Нупрэеў з дзедам даўно ўжо не назіралі гэткага людскага аптымізму ў той страшны час. Аднак самі яны былі вельмі ўражаны перанесеным горам, і таму гэтая

лёгкасць здавалася ім цяпер проста недарэчнай. Яны моўчкі слухалі зухаватыя апавяданні, але, бадай, не падзялялі захаплення расказчыка. Пятрусь, неўпрыцям, пазіраў на сваіх людзей і на разведчыкаў – і бачыў вялікую розніцу, якая таілася не толькі ў выглядзе, але і ў маральным стане гэтых людзей.

Чакаць разладу давялося нядоўга. Увечары змораныя дзед і Нупрэеў, заўважыўшы яшчэ горшы стан сержанта, які ледзь плёўся за групай, прапанавалі пераначаваць у лесе. Старшына не пярэчыў супраць прыпынку, і яны выбралі невялічкі кавалак бярэзніку ў ярыне. Побач быў лес, а ўнізе, у канцы ячменнай нівы, пачыналася балота.

Людзі пападалі на ўзлессі на лісцвяны грыбны дол і моўчкі ляжалі, чакаючы, пакуль збольшага ўтаймуецца стома. Тым часам паволі цямнела, вельмі хацелася спаць, і сержант занепакоіўся:

– Трэба паставіць варту, – сказаў ён.

– Ну, вядома, – зашавяліўся ў траве Нупрэеў. – Каб ужо па-вайсковаму.

Тады з бярознага веццячя пагардліва азваўся старшына:

– Во задумалі што! Каго тут баяцца!

– А як жа? – стрымана запярэчыў сержант. – Мы ж вайсковыя людзі. Рознае можа здарыцца.

Старшына абыякава махнуў рукой. Ён соладка раскінуўся на мяккім травяністым доле – праставалосы, у расшпіленым мундзіры. Ён прытаміўся, адпачываў, і было падобна на тое, што ўсе іншыя турботы цяпер былі вельмі далёка ад яго.

– Баязліўцы! Нічога не здарыцца.

Сержант маўчаў, адзначыўшы ў думках, што характар бесклапотнага разведчыка даволі ўпарты. Ён падумаў крыху і сказаў Нупрэеву:

– Вы павартуйце ў першую змену, а потым разбудзіце мяне.

– А ты ўжо мяне, – уставіў дзед. – Як бы ў каравуле.

Змораныя людзі адразу суцішыліся, паснулі дзе сядзелі, а Нупрэеў узняўся на варту.

Так яны ўтрох, укараціўшы сабе дарагі адпачынак, дзяжурылі да світання, а на золку з цяжкімі галовамі адправіліся ў шлях. Ніхто з іх не папракнуў спадарожнікаў, але ім было няёмка глядзець у іхнія вочы, размаўляць з імі, бадзёрымі і свежымі і да таго ж маладымі. Сержанта вельмі ўразіла гэтая першая нязгода ў калектыве, і, затаіўшы крыўду на старшыну, ён чакаў зручнага выпадку, каб сур’ёзна пагутарыць з ім.

## Раздзел шосты

Але для размовы ён так і не знайшоў часу.

У той жа ранак, перайшоўшы нейкую забалаць, хлопцы апынуліся перад невядомай шырокай ракою. Трохі пастаяўшы ў поплаве перад шчыльным зараснікам чароту, яны паціху пайшлі ўздоўж берага шукаць якой пераправы. Вядома, распрануўшыся, можна было б пераплысці раку (Агальцоў нават браўся зрабіць гэта тры разы запар), але ў людзей была зброя, вопратка, да таго ж, Нупрэеў адразу прызнаўся, што плаваць не ўмее. Трэба было знайсці човен, ці плыт, ці хоць бы якое бервяно.

І байцы ішлі па беразе, намачыўшы ногі і азіраючыся наўкола, каб убачыць што-небудзь здатнае для пераправы. Наперадзе на грудку віднеўся невялічкі хваёвы гаёк.

– Вось там знойдзем дрэва і пераправім пяхоту, – казаў старшына, маючы на ўвазе Нупрэева. Ён па-ранейшаму быў жвавы, вясёлы, спрытны – здавалася, чалавек не ведаў ніякай душэўнай скрухі, да ўсяго ставіўся лёгка і проста.

Але варта было ім узняцца на грудок, пад яловыя шаты ўзлеску, як вочы старшыны загарэліся новым жаданнем:

– Браткі, гляньце: мост! Далібог мост, і цэлы, спраўны, спецыяльна для нас!

Сапраўды, на завароце цераз раку ад берага да берага пралёг доўгі драўляны мост на цыбатых бёрнах-сваях. Там бегла дарога, яна была зараз пустая, на лужку ля моста пасвіўся стрыножаны гняды конік, на дроце ўгары, сабраўшыся ў рад, церабіліся ластаўкі.

– Гайда! Нікога няма – пераскочым і ўсё, – настойваў старшына.

Яны таропка выйшлі на лужок; конік, убачыўшы незнаёмых, цікаўна ўзняў голаў.

– А давай рысака захопім, – прапанаваў Агальцоў. – Дзеду якраз па росту. Або камандзіру: на кані, пад сцягам павядзе нас, як Чапай.

– Кінь дурэць, – коратка буркнуў сержант. – Давай хутчэй.

Пятрусь трымаўся наперадзе і ўжо ўзбег на адхон, як ззаду данёсся да яго той самы жахлівы гук, якога асцерагаўся сержант. Ён прысеў на травяністым адхоне, зірнуў назад і адразу скаціўся ўніз. Іншыя таксама, відаць, уцямілі небяспеку і, не згаворваючыся, кінуліся ў адзінае тут сховішча – пад мост. Услед за сержантам яны ўзлезлі па адхону ў самы верх падмастоўя і, затаіўшы дыханне, напружылі слых.

Па дарозе ішлі машыны.

Яны набліжаліся, ужо чуваць стала, як лязгае нешта ў іх кузавах, як дрыжыць зямля; з набрынялых сырасцю бярвенняў недарэчна шархотка сыпалася зямля. «Заўважылі, заўважылі», – тачыла голаў кожнага думка і пакутліва-гарачым было жаданне, каб не спыніліся, праехалі далей. Аберуч узяўшыся за вінтоўку, насцярожана і сурова пазіраў з-пад моста Нупрэеў,

старожка чакалі гатовыя да бою Жук і Калдобінскі; дзед ад напружанай увагі і чакання быццам скамянеў, адкрыўшы старэчы рот. Усе прытаіліся, маўчалі, нават Агальцоў і той шчыльна сціснуў вусны, сцяў над пераноссем бровы і драпежна схіліўся, нарыхтаваўшы аўтамат.

Прыціснуўшыся спіной да нізкай гнілой столі, Пятрусь праклінаў старшыну і сябе за неасцярожнасць і пакутліва перабіраў у думках магчымыя варыянты выратавання. Машыны набліжаліся, і раптам гул матораў, так добра чутны тут, пад мостам, спыніўся. «Заўважылі!» – мільганула страшнае меркаванне, і, адчуўшы, як разліваецца па целе млявасць, сержант выняў з кішэні сваю адзіную гранату.

– Хлопцы, жывымі не здавацца. Помніце: сцяг! – чужым натужлівым голасам сказаў ён і зірнуў на байцоў, каб упэўніцца, што яны падтрымаюць яго. Твар старшыны па-ранейшаму быў засяроджаны і рашучы, усмешлівы шыраканосы Жук выглядаў спакойна, быццам не разумеў яшчэ той бяды, што навісла над імі. Адзін толькі Калдобінскі неяк, нібы незадаволена зірнуў на сержанта і зноў насупіўся сваім круканосым тварам. Пад Нупрэевымі бровамі яшчэ глыбей запалі яго нетаропкія разважлівыя вочы.

– Нічога, нічога, – зашаптаў стары баец. – Станавіцеся двое ў той бок і двое ў гэты. Дзед і сержант хай у кут лезуць. Нічога, нядужа зручна возьмуць. Хай сунуцца.

Яны разбегліся, як раіў Нупрэеў – Жук і старшына сталі з аднаго боку, Нупрэеў і Калдобінскі з другога. Пятрусь, шырока расставіўшы ногі, застаўся на сярэдзіне, гатовы рынуцца ў любы бок. Дзеду не цярпелася на адным месцы, і ён мітусіўся па адхону, падбягаючы то да Нупрэева, то да старшыны, і ўсё шаптаў устрывожана:

– От халера, от улезлі... Трэба ж было, га!

Але ворагі штосьці марудзілі, і ніводзін з іх не паказваўся пад мост. Хлопцы пакутліва чакалі, пакуль новы гук не ўспалашыў усю іхнюю групу. Гэта быў

моцны пляск у рацэ, услед за якім раздаўся гучны голас чужынца:

– Цум тойфель, дэр русішэ Рэін іст ганц кляйн…[1]

Сержант кінуўся да ўскрайку, высунуўся з сырой засекі падмастоўя і ўбачыў нешта нечаканае.

Пакінуўшы, відаць, на дарозе машыны, ворагі высыпалі на лужок, дзе нядаўна ішлі хлопцы і пасвіўся гняды конік, дружна паскідалі з сябе мундзіры і з вясёлым рогатам лезлі ў ваду. Чалавек двое ўжо плылі ўшыркі ракі, некаторыя стаялі яшчэ на беразе, пацiраючы свае голыя грудзі. Відаць было па ўсім, хлопцаў ніхто не заўважыў.

Зноў не згаворваючыся, байцы кінуліся да другога боку моста, спадзеючыся па-за насыпам адбегчы далей ад гэтага месца. Аднак старшына, які першы высунуўся, зноў падаўся назад. На дарозе, ля самай узбочыны, стаялі машыны – там таксама былі ворагі, яны б адразу заўважылі байцоў.

Як было выбрацца адсюль?

– Ах вы, вепрукі паганыя! – абураўся дзед, – не маглі сабе іншага месца знайсці!

– Ціха, – сказаў сержант. – З ценю не вылазіць.

Нупрэеў усё супакойваў людзей:

– Нічога, можа не ўбачаць. Пакупаюцца і паедуць: не на гулянку ж прыехалі.

Але немцы, відаць, не вельмі спяшаліся. Ужо многія павылазілі з вады і разлягліся на лужку, падставіўшы сонцу блішчастыя мокрыя спіны. Некаторыя пачалі мыць сваю адзежыну.

Невядома, колькі прайшло часу. Доўгая паласа ценю ад моста ўжо парадкам пасунулася ўбок, людзі пачалі губляць цярпенне.

– Да вечара яны сюды дарваліся ці што? – першы не стрываў Агальцоў. – Давайце скочым на дарогу ды лупянём па ўсёй гэтай свалаце.

– Ну, а потым? – злосна спытаў Нупрэеў. – А потым што?

– Не, так не можна, – азваўся дзед. – Трэба чакаць.

Пачакалі яшчэ. Сядзелі, забіўшыся ў душны смярдзючы засень, маўчалі і пакутвалі. Дзед хацеў закурыць, але сержант і Нупрэеў цыкнулі на яго, і стары схаваў свой скураны капшук. Аднойчы пачуліся недзе ля насыпу блізкія крокі – людзі зноў абмёрлі, насцеражыліся.

– Слухайце, браткі, – ледзь чутна прашаптаў дзед, – А раптам які плюгавец па патрэбе сюды сунецца? Што тады?

– Трэба выбірацца адсюль, – упэўнена сказаў старшына.

Калдобінскі прапанаваў:

– Трэба выбегчы і ўрассыпную ў поле. У жыце не зловяць.

– Эх ты, не зловяць! – раззлаваўся Нупрэеў. – А калі падстрэляць каго? А калі сцяг?

Зноў усе замаўчалі, пакутліва шукаючы выйсця.

– Ах, растакую тваю, фашысцкую морду! – злосна вылаяўся старшына. – Ёсць спосаб. Я ім прыкончу гэты курорт.

Усе з раптоўнай няпэўнай надзеяй паглядзелі на хлопца, а Агальцоў, не кажучы больш нічога, скінуў рамень, сцягнуў боты, аддаў усё Жуку. Потым ён абмацаў шматлікія кішэні свайго мундзіра – выцягнуў дакументы, паперкі і таксама перадаў іх Жуку, нарэшце дастаў з кішэні новенькі варанёны «Вальтэр», зірнуў на сержанта.

– На вось, трымай: у цябе ж зброі няма.

Сержант узяў пісталет, не разумеючы яшчэ, што надумаў чалавек, а той, выглянуўшы ў адзін і ў другі бок ад дарогі, прыгнуўся і паласой ценю падаўся да ракі.

– Пад вечар дзе агонь распаліце – я ўбачу, даганю, – прашаптаў ён і хутка папоўз уніз. Пяцёра людзей, поўныя ўвагі і спадзявання, сачылі за ім. Неўзабаве старшына з ціхім плескам знік у чаротах.

Зноў пацягнулася бясконцае напружанае чаканне. Байцы пазіралі цяпер то ў бакі, то на раку – там між чаротаў мільганула галава і ўзнятая над вадой рука з аўтаматам. Потым усё знікла, і болей ужо нідзе не паказвалася нічога.

На лужку ад берага да дарогі ўсё сноўдалі паўраспранутыя ворагі, купаліся ў рацэ, аднак не адплываючы далёка. Па мосце разы два прагрукацелі адзінокія машыны, насціл хістаўся, і на галовы байцоў сыпалася нейкая труха.

Часу, бадай, прайшло багата, а старшыны нідзе не чуваць было. Тады з’явілася новая трывога – часам сержанту здавалася, што старшыну ўжо злавілі, што ён утапіўся ў рацэ, а можа наогул вырашыў пакінуць байцоў.

Сярод гэтых пакутлівых перажыванняў нечакана гулка прарэзала спакой аўтаматная чарга. У рэчцы адразу сціхлі булькат і плясканне, абарвалася на палавіне няскончаная фраза «гэр обер ефрэйтор дас...», голыя купалыпчыкі кінуліся на берагі, а з таго гайку на грудку тарахцелі кароткія чэргі.

Гэты першы момант задуманага старшыной плана ледзь не сапсаваў усю справу. Нечакана зусім блізка ля хлопцаў зашамацеў чарот, прыгнуўшыся, з яго выскачыў голы немец. Калі б толькі ён зірнуў у іх бок, дык адразу заўважыў бы ў якіх дзесяці кроках не вельмі замаскіраваных байцоў. Але ён быў напалоханы і, апынуўшыся на пожні, бягом кінуўся да дарогі. Азірнуўшыся на сваіх, Пятрусь убачыў, як спакусліва

цалялі ў спіну немца Жук і Калдобінскі, і нават Нупрэеў высунуў з-пад моста доўгую рулю сваёй вінтоўкі. Сержант прыцішана пагразіў ім, папярэджваючы такое свавольства. А па той бок дарогі з кароткімі прамежкамі цішыні ўсё гучэлі чэргі. Сержант, увесь сціснуўшыся ад незвычайнага напружання, сачыў за ворагамі, якія, нібы мурашкі ў патрывожаным муравейніку, замітусіліся на лужку. Ён чакаў, што немцы напалохаюцца і, завёўшы машыны, паімчацца адсюль, але машыны маўкліва стаялі на дарозе. Хутка немцы, пэўна, зразумелі, дзе небяспека, і, ухапіўшы зброю, пачалі з лужка шалёную страляніну. Нехта ўсё ж упаў там і ляжаў, не кратаючыся, пакуль яго не падхапілі іншыя. Аднак уцякаць адсюль яны, відаць, не мелі намеру і па камандзе афіцэра ланцужком заляглі пад дарожным насыпам і дружна стралялі. Лясное наваколле множыла страляніну, і ўсё вакол грымела аглушальным суцэльным гулам. У думках хвалячы Агальцова і ўпершыню адчуваючы непакой за яго жыццё, сержант падумаў, што трэба бегчы. Яго позірк сустрэўся з насцярожаным Нупрэевым позіркам, хлопец убачыў у ім згоду і першы выбег з-пад моста. Машыны на дарозе стаялі на ранейшых месцах, але немцаў між імі ўжо не бачна было, і хлопцы, прыгнуўшыся, шыбанулі паўз насып у бок, дзе віднелася жыта.

Апошнім, азіраючыся на дарогу, бег змаркатнелы Жук.

## Раздзел сёмы

Надвячоркам высокае неба заплыло шызай туманнай смугою. Праз яе бліскучай невыразнай плямай глядзела з небасхілу сонца. Яно не пякло але ў паветры было парна, душна. Дрэвы і збажына прыціхлі, насцярожыліся, чагось чакалі.

Мокрыя ад поту, пяцёра людзей адзін за адным лезлі на ўзгорак. Пад іх нагамі блыталася высокая, па грудзі, збажына. Недзе над лагчынай, патрывожаная людзьмі, жаласліва кігікала кнігаўка. Лес адступіў удалячынь, пакінуўшы на прыволлі вялізны абшар зямлі; далёка ззаду сінеў і таяў у сонечным ззянні пройдзены людзьмі

бор.

Але вось нечакана патух сонечны бляск, растварылася, патанула ў мутнай сіні далёкая палоска бору. Сержант шавяльнуў пад гімнасцёркай мокрымі ад поту лапаткамі і азірнуўся: ззаду за імі гналася ў небе вялізная навальнічная хмара.

Сержант зірнуў на сваіх спадарожнікаў. Жук і Калдобінскі, што ў дарозе трымаліся бліжэй да яго, ужо стаялі побач і таксама глядзелі на захад. Праз колькі крокаў за імі ішлі Нупрэеў і дзед. Яны ўсе прысталі, але сержант не даваў перадышкі – яму хацелася да ночы як мага далей адарвацца ад ворагаў і заначаваць у спакоі. Зноў жа трэба было распаліць агонь, каб даць сігнал Агальцову, які немаведама дзе блукае адзін. Выспа, на якую яны лезлі цяпер, бачна была здалёку, і Пятрусь спяшаўся дабрацца да яе вяршыні.

Але хутчэй за яго ў гэты бок сунулася хмара. Касыя заслоны дажджу ў некалькі месцах павіслі ўжо над зямлёю. Разы са два мільганула маланка, і цяжка прагрымеў гром.

Хлопцы кінуліся пад бліжэйшую купу, што цьмяна шарэла ў збажыне. Гэта была груша-дзічка. Пад яе веццем, прыціскаючыся да апаленага вогнішчамі камля, прымасціліся Жук і Калдобінскі. Пятрусь таксама прыткнуўся побач на крутлым камені, хлопцы крыху пасунуліся, даючы сухое месца сержанту. Хутка да іх далучыўся Нупрэеў. Абціраючы мокры твар рукавом, ён уладкаваўся ля ног хлопцаў, і калі падышоў дзед, дык пад ігрушай ужо не было незамочанай мясціны. Стары, мокры да ніткі, з босымі, запэцканымі граззю нагамі, мясціўся з краю, а зверху, з галля, на яго ліліся струмені. Тады са свайго месца ўскочыў Жук.

– Дзед, ідзі сюды, тут лепей.

– А нічога, сядзі, сынок.

– Ідзі, ідзі, чаго там... Людзі пасунуліся, так-сяк умясцілі і старога, які войкаў, што замок тытунь і няма як

закурыць. Аднак закурыць у хуткім часе прылаўчыліся – у Калдобінскага знайшлася запальніца, а Нупрэеў адшукаў сушэйшую махорку.

Цесна прыгарнуўшыся да дрэва, у гэты навальнічны час пяцёра чужых, малазнаёмых людзей, мабыць, упершыню адчулі, што яны ўжо не чужыя і не абыякавыя адзін аднаму. З учарашняга дня агульным клопатам лёг на ўсіх лёс чырвонага сцяга, які з гэткім цяжарам уратавалі яны.

– Дзе ж цяпер наш старшына? – казаў Жук, неяк сарамліва ўсміхаючыся сваім шыракаскулым курносым тварам. Гэты хлопец усё болей падабаўся Петрусю за дзівосную мяккасць душы, зважлівасць і паслухмянасць. Ад самай той рэчкі ён не адставаў ад сержанта, увесь час трымаўся побач і заўсёды гатовы быў прыйсці на дапамогу. Пятрусь і сам непакоіўся за старшыну і ўсё думаў, ці не забілі яго ў той страляніне і як у гэткую непагадзь падаць яму ўмоўлены сігнал.

– Старшына не прападзе, – змрочна буркнуў Калдобінскі. Гэты пахмуры хлопец не любіў, відаць, кідацца ў залішні непакой ці перажываць за каго без дай прычыны. Апякаючы пальцы, ён смактаў свой недакурак і вузкімі вачыма нявесела пазіраў удалячынь.

Угары тым часам грукацеў гром, недзе блізка ляпнуў пярун. Стала зусім змрочна, вечарэла раней часу. Аднак хмара сунулася далей, і з ёю пакрысе сплывалі на ўсход грымоты. Праз колькі часу струмені зменшыліся, патанелі, і хоць у паветры яшчэ снавала павуціна дажджу, людзі вылезлі з-пад ігрушы. Дарэчы, сядзець там не было чаго: усё роўна ўсе былі мокрыя.

А на захадзе між хмарамі і зямлёю прарэзалася вузенькая шчылінка, і праз яе зірнула прамністае нізкае сонца. Гэта быў яго апошні позірк на мокрую, затуманеную зямлю, і тая з нястрымнай радасцю засмяялася насустрач яму безліччу бляску, колераў і тонаў. Куды толькі і падзелася яе нядаўняя пахмурасць, шэрасць, няўтульнасць. Успыхнулі кропелькі на жытнёвым калоссі, устрапянуліся і радасна зашапацелі

вымытыя лісцікі дрэў, яркай і чыстай сінявою апавілася далячынь.

У хмызняку і кустоўі людзі назбіралі ламачча і падаліся на самы верх выспы. Тут узвышаўся нейкі старажытны курган, густа парослы рамонкамі, сіўцом і верасам, а на яго верхавіне хілілася на адзін стаяк трыганаметрычная піраміда. Пад ёй дзед як-колечы распаліў вогнішча. Агеньчык спачатку неахвотна мільгаў у мокрым суччы, але ўрэшце ўвайшоў у сілу, і ў неба паваліў густы хвост рудога дыму.

Людзі ўглядаліся ва ўсе бакі, чакалі – вось-вось з’явіцца адзінокая постаць, але нідзе не было нікога. Далёка-далёка пад сінім лесам, пэўна, з пашы прайшла ў вёску маленькая чарада жывёлы. Сонца зайшло за лес, зноў стала пахмурна, згаслі фарбы, і шэры маркотны змрок цягнуўся па зямлі.

Так яны нікога і не дачакаліся да самага змяркання. Калі пачало цямнець, Калдобінскі першы прапанаваў:

– Годзе чакаць. Пойдзем пераначуем у якой вёсцы. Пасушыцца трэба ды і пад’есці.

– А як жа старшына? – запытаўся Жук. Ён упершыню не ўсміхнуўся, і ў яго наіўных шырокіх вачах свяціўся клопат.

– Знойдзецца як-небудзь. А не знойдзецца, дык што ж... Можа ён спецыяльна згубіўся.

Пятрусь і Нупрэеў пытальна зірнулі на байца, насцярожыліся. А Калдобінскі, ваўкавата ўставіўшыся ў агонь, маўчаў.

– Ну, гэта ты дарэмна, – сказаў Жук.

– Можа дарэмна, а можа і не. Думаеш, вельмі цікава гэта – перціся немаведама куды?

Петрусю зрабілася няёмка ад яго слоў, але Калдобінскі маўчаў, і сержант падумаў, што чалавек гэты, відаць, буркатлівай натуры. Петрусю шкада было разлучацца

са старшыной, які дапамог ужо ў цяжкую хвіліну і сваёй зухаватасцю пакрысе пачаў падабацца хлопцу. Ён трохі разумеў яго неўгамаваную натуру, не зусім адабраў яе, але нешта ў ёй прыцягвала хлопца. Мо' гэта было тое, чаго не хапала самому сержанту, чалавеку спакойнага, роўнага характару. Але зноў жа чакаць тут, на кургане, было безнадзейна. Пятрусь у апошні раз агледзеў далягляд і коратка сказаў:

– Пайшлі.

Зноў яны рушылі па збажыне, толькі ўжо ўніз. Крыху абсохлыя калені хутка ўзмакрэлі, і дрыжыкі ад вячэрняй прахалоды прабеглі па мокрых спінах.

Калі ўжо добра сцямнела, яны натрапілі на нейкую сцяжынку і пайшлі па ёй. Усе рухаліся моўчкі, змарыліся. Непрыемна шорхала на хаду мокрая вопратка, мулялі сырыя боты, ды спыняцца ці адпачываць не было як. Стомлены сержант ужо гатовы быў згадзіцца на прыпынак, калі б дзе трапіў які хутар, ці хоць якая будыніна. Але навокал усё плылі ў змроку мокрыя маўклівыя палі, пералескі, хмызнякі, часам траплялiся грукатлівыя масткі цераз ручаі. Ноч выдалася хмарная, у небе дзе-нідзе мільгалі рэдкія зоркі, аднак было па-летняму светла і наперадзе цьмяна шарэла дарога.

Раптам да зморанага паўсоннага слыху людзей данесліся нейкія гукі. Пятрусь спыніўся, прыслухаліся і астатнія. У змрочным небе недзе выразна разносіўся гул самалётаў. Хлопцы адразу вызначылі, чые гэта былі самалёты. Неўзабаве даляцелі і цяжкія выбухі, злосна заляскалі ўдалечыні нямецкія зяніткі. Калі ж на ўсходзе ўзляцелі ўгору яркія трасіруючыя пункціры кулямётных чэрг, хлопцы адразу зразумелі, дзе ўсё гэта адбываецца, і прыбавілі кроку. Усе павесялелі, ажывіліся, знікла зморанасць і прыбавіліся сілы. Нават дзед і той апынуўся наперадзе і ўсё дзіваваўся:

– Ото даюць, га! Вось хай і яны пазнаюць фунт ліха.

– Пэўна эскадрылля, не меней, – вызначыў Жук.

Людзі ішлі яшчэ доўга, дарожка завяла іх у нейкі лясок, абапал яе з хмызняку высіліся чорныя ёлкі. Лес прыглушыў гукі бамбардзіроўкі, і хлопцы шкадавалі, што не маглі чуць, што адбываецца там. Урэшце, зусім нечаспадзявана і вельмі блізка ўперадзе бліснула святло. Хлопцы насцярожыліся, услухаліся, але навокал было ціха. Тады Пятрусь спыніў сваю групу і шапнуў Жуку, каб той разведаў дарогу. Хлопец саўгануў з пляча аўтамат і краем дарожкі паслухмяна падаўся наперад.

Не паспеў ён, аднак, аддаліцца, як зноў наперадзе пачулася гамонка ці то ўскрык, ці каманда, і зноў усё змоўкла. Невядома што, але наперадзе на ляснной дарозе было нешта жывое. Хлопцы спыніліся ў кустах і чакалі.

Жук хутка вярнуўся. Узрушаным шэптам ён паклікаў сержанта.

– Там нямецкая калона. Дарога ідзе другая, упоперак нашай, і там машыны стаяць замаскіраваныя і чакаюць, пэўна, калі налёт скончыцца.

І ў галаве сержанта раптоўна, неабдуманая і нечаканая, з’явілася шалёная думка.

– Нупрэй, – ціха паклікаў ён старога салдата. – На, браце, мой скарб.

Нупрэеў узяў мяшочак са сцягам.

– Чакайце тут, – коратка загадаў сержант. – Пайшлі, Жук.

Тулячыся да кустоўя, яны падкраліся да вялікай дарогі. Там сапраўды стаялі чорныя грамадзіны машын, між імі прахаджваліся немцы, ціха гаманілі, відаць, слухалі і пазіралі ў неба. Асцерагаючыся, каб не хруснуць якой галінкай, сержант стаіўся ўскрай алешніку, упіўся вачыма ў змрок, – імкнуўся ўбачыць як мага болей. У якіх пятнаццаці кроках перад імі высілася вялікая з брызентавым кузавам машына, у яе кабіне сядзелі немцы, яны ціха размаўлялі і чакалі, пэўна, калі можна

будзе ехаць. Наперадзе зусім блізка ад гэтай стаяла яшчэ машына, там таксама чуліся прыціхлыя варожыя галасы. У тым кірунку, куды ішла дарога, усё гулі самалёты і цяжка бухалі ўзрывы.

Сержант трымаў у адной руцэ пісталет, а ў другой – гранату. Ён хваляваўся, але як мага стрымліваў сябе і асцерагаўся, каб не нарабіць шуму. Побач, датыкаючыся да яго боку, на каленях стаяў Жук, яго рукі трымалі напагатове ўзведзены аўтамат, а твар хлопца, здаецца, і цяпер усміхаўся – такі быў спакойны. Сержант аж пазайздросціў гэткай вытрымцы чалавека.

– Слухай, – шапнуў ён байцу. – У цябе гранаты болей няма?

– Няма, – ціха і з шкадаваннем у тоне адказаў Жук.

– Тады, як я кіну, лупяні па кабіне – і пярэдняй і задняй.

Ішлі хвіліны. Пятрусь усё напружана слухаў бамбёжку і пазіраў угору, нібы там можна было што ўбачыць. У яго ўжо склаўся план, – надзвычайны добры план, але выкананне яго залежала не толькі ад сержанта.

Ноч, аднак, пацямнела, – пэўна, набліжалася світанне. На ўсходзе ўсё грукацела страляніна, узляталі ўгору трасіруючыя чэргі і, бліскаючы ў хмарах, глуха шпокалі разрывы зянітак. Але сюды, на дарогу, не зварочваў ніводзін самалёт, і сержант паступова пачаў губляць цярпенне. А ў машыне тым часам шчоўкнулі дзверцы, на дарогу саскочыў нейкі немец, пастаяў ля канавы і паціху пайшоў у голаў калоны.

І тады Пятрусь наважыўся. Чакаць далей ужо было небяспечна, – хутка насоўваўся світанак. Сержант моўчкі паціснуў локаць Жука, выняў з запала чаку і, старанна размахнуўшыся, шпурнуў гранату пад кабіну вялікай машыны.

Хлопцы ўпалі на зямлю – уперадзе ірванула, шаснула ў кустах асколкамі і ўзнятым пяском. Пятрусь ускочыў і кінуўся на сваю дарогу, а побач, у другі раз жахліва

ўскалыхнуўшы цішыню, гулка затрашчалі кароткія і частыя чэргі аўтамата Жука.

Пятрусь імчаўся па дарозе, ужо не тулячыся да кустоўя, ззаду шпарка тупацеў таварыш. На дарозе, здаецца, усё было ціха, нават ніхто не стрэліў наўздагон. І раптам на вершалінах елак мільганула нейкае яркае святло. Пятрусь не зразумеў нават, адкуль яно і ўзялося. Ён азірнуўся, і сэрца яго ўстрапянулася ад вялікай радасці.

На дарозе за хмызняком узнялося ўгору вялізнае дымнае полымя. Яго шырокія хісткія языкі паласкаліся ў начным змроку, матляліся ў паветры іх чорныя дымныя грывы, высока над лесам узляцела чарада мігатлівых іскраў. Хлопцы, баючыся, каб іх не ўбачылі, кінуліся ў гушчар і ад нечаканасці таго, што здарылася потым, пападалі на зямлю.

Нейкая грымотная віхура вынікла з начнога неба і кінулася на лес. У якую хвіліну ўзарвалася, знікла ноч, усё наваколле задрыжэла, загрукатала, хіснуліся дрэвы, у самае неба пыхнула асляпляльна яркае полымя і зноў ірванула, і зноў асляпіла на момант. І тады нейкая вар’яцкая радасць ахапіла хлопцаў.

– Нашы! Нашы! – крычаў Жук у твар Петрусю. Яны ўскочылі з долу і кінуліся да сваіх байцоў.

– Браткі! – Праз грукат закрычаў Пятрусь. – Сюды! Бі гадаў.

Нясмела, яшчэ прыгінаючыся, на дарозе з’явіліся цьмяныя постаці Нупрэева, дзеда і Калдобінскага. Яны, відаць, мала што разумелі з таго, што здарылася, але падпарадкаваліся загаду і пабеглі за сержантам. А той, узвёўшы пісталет, наперадзе ўсіх рынуўся на вялікую дарогу.

А на дарозе рабілася нешта жудаснае. У некалькіх месцах палыхала вялізнае полымя, і моцна смярдзела бензінам і паленай гумай, узнятыя выбухамі зямля і пыл няспынна сыпаліся зверху. Магутныя выбухі на момант асляпілі сержанта, тугое паветра ўзрыву

ўдарыла ў твар. Ён выбег на дарогу і ўгледзеўся, шукаючы ворагаў.

Тады ён не думаў, што можа загінуць ад сваёй жа бомбы, ён, бадай, здзівіўся б, калі б хто сказаў яму пра тое. Пятрусь бяздумна сунуўся ў самае пекла выбухаў, але хутка наткнуўся на штосьці і паляцеў у нейкую прорву. То была глыбокая варонка ў дарозе, і на дне яе хлопец натрапіў на чалавечае цела. Ён вылаяўся ад нечаканасці, цела раптам спуджана крутнулася з-пад яго рук, нешта ўскрыкнула незразумелае, і Пятрусь, згадаўшы ворага, два разы стрэліў у яго. Потым ён выскачыў з варонкі, перад ім апынулася абернутая выбухам вялізная машына, і хлопец кінуўся на той бок яе, шукаючы ворагаў. Але там не было нікога, толькі ў чарговым бляску недалёкага выбуху ўбачыў Пятрусь, як з дарогі хіснуліся ўбок нейкія цені. Побач у прамежках выбухаў трашчалі аўтаматы, нехта роспачна галасіў між пакарабачаных машын, і сержант раптам моцна спалохаўся за Нупрэева, у якога застаўся яго клунак. Хлопец падумаў, што ў такой валтузні ён можа зноў страціць свой сцяг, і кінуўся на другі бок дарогі.

– Нупрэеў, Жук, сюды! – крыкнуў ён, вылазячы з канавы, і ў той момант з яе махлянулася цёмная постаць і бліснуў цьмяны агеньчык стрэлу. Пятрусь, поўны спрыту і рухавасці, хутка прыгнуўся.

– Ах ты, гад! На, на, – ён выстраліў некалькі разоў і пабег у кустоўе. Там ён зноў гукнуў Нупрэева і неспадзявана пачуў ззаду блізкі яго голас:

– Бягу! Бягу!

Яны адбеглі ў мокры хмызняк, і Пятрусь, баючыся, каб не згубіць сваіх, спыніўся і зноў паклікаў. Ламаючы галлё, ля яго з’явіўся Калдобінскі, прыбег Жук і апошнім азваўся дзед.

Прадзіраючыся праз кустоўе, яны шпарка сігалі па адхону ўніз, пакуль не выйшлі на лугавіну. Ззаду ўжо было ціха, самалёты паляцелі, неба на ўсходзе праяснілася. Пасля ляснога змроку на лузе было куды

відней. Пачынаўся світанак.

Зморany і ўзрушаны сержант паставіў на ахоўнік пісталет і сеў на купіну. Ён вельмі стаміўся і ледзь знаходзіў сілы, каб не зваліцца, але душа хлопца была поўная невыказнай, нейкай дзіўнай, ніколі яшчэ не адчуванай буйнай радасці.

З лесу вылез Жук, ён нешта трымаў у руках і падышоў да сержанта.

– Вось аўтамат, – працягваў ён Петрусю свой трафей.

– Пэўна, дзеду трэба аддаць: у мяне ж пісталет.

– А ў дзеда ёсць, – усміхнуўся Жук.

І сапраўды, дзед з'явіўся з кароткім нямецкім карабінам і нават з дзягай на жываце, якую адцягвалі два цяжкія падсумкі. Нупрэеў у адной руцэ нёс сваю вінтоўку, а ў другой трымаў гранату з доўгай драўлянай ручкай. Усе прыселі побач з сержантам і пасядзелі так, чакаючы, пакуль утаймуюцца ўсхваляваныя і змораныя сэрцы.

– Ну, праклятае гадаўё, – сказаў сержант. – За адну бяду вы атрымалі. Чакайце – атрымаеце за ўсё.

– Ой, і добра ж яны іх лупянулі, – захапляўся дзед. – К чортавай матары ўсю чараду. Як, не раўнуючы, карова языком злізала.

Ужо добра развіднела. Перад хлопцамі паволі выступіў з цемры невялікі лужок з някошанай травой, за ёй ляжалі палеткі. Людзі яшчэ пасядзелі трошкі, ажыўлена размаўляючы, і пачалі збірацца ў дарогу. І тады нечакана зусім блізка з кустоўя выскачыў на лужок Агалыдоў – успатнелы, вясёлы, зухаваты, са збітай набок пілоткай.

– Прывет, арлы! Не трэба слёз. Агальцоў – не гузік: прапаў, дык знойдзецца.

Падышоўшы да ўсіх, ён в лязгатам скінуў з плячэй два аўтаматы, зняў рудую афіцэрскую сумку, напханую

нейкімі паперамі, і з-за пазухі выняў некалькі пачак аўтаматных патронаў.

– Вось трафеі нашых войск. Малайцы летуны – далі жару. Шкада, не сустрэць іх, а то б па сто грамаў паставіў, – і старшына выразна паляпаў сябе па сцягну, дзе целяпалася на дзязе абшытая лямцам фляжка.

– І як гэта ты натрапіў на нас? – здзівіўся Нупрэеў, падазрона азіраючы старшыновы трафеі.

– Гэ, стары, разумець трэба. Дзе шум-бойка, там і я. Такі ўжо характар. Ды і конік дапамог: увесь час алюрам. Ну але і вы, здаецца, малайцы. А як твая сумка, сержант? – ужо сур’ёзна запытаў ён.

– Тут, вось, – паказаў клунак сержант і ўсміхнуўся.

– Ото добра. Ну, калі так, то і пачаставацца можна. Трымай кілішкі! – жартаваў старшына, адкручваючы фляжку.

Людзі весела ўхмыляліся.

## Раздзел восьмы

Выйшаўшы з хваёвага лесу, хлопцы нечакана ўбачылі шырокую дарогу. Гладкая, да бляску ўезджаная стужка яе гонка каціла на ўсход, побач на тэлеграфных слупах густа блішчэлі ізалятары. Як бы добра было ісці па ёй і як прасіліся на яе роўнядзь ногі, змучаныя бясконцай хадой па лясах, балотах, часта без аніякай сцяжынкі, па густой збажыне, цераз раўчукі і ўзгоркі. Але як выткнешся на яе, калі там бясконца імчаць нямецкія аўтамабілі, грукочуць цяжкія фурманкі, злосна фыркаюць матацыклы.

Выбраўшы зручны момант, калі паблізу не было аўтамабіляў, хлопцы скаціліся з высокага абрыва, перабеглі дарогу і схаваліся ў зарасніку раўчука, што вёў у далеч лясных прастораў. Раўчук усё паглыбляўся, хмызняковыя схілы яго ўсё пашыраліся, скрозь буялі алешнік, асіннік, ляшчыннік. Месцамі, на высокіх

выспах, як вартавыя, стаялі адзінокія сосны. У раўку быў халадок, у густой засені пахла прэлым лісцем і воўчымі грыбамі.

Як і ўсе апошнія дні, Пятрусь ішоў наперадзе. Стомленыя людзі маўчалі, кожны думаў сваё, а з Петрусёвай галавы ўсё не выходзілі старыя думы-клопаты.

На кожным узгорку, на кожным узлеску Пятрусь углядаўся ў краявід, услухоўваўся, намагаючыся пачуць трывожныя гукі бою, якіясыді адзнакі фронта. Колькі разоў на лясных сцежках раптоўна спыняўся ён і слухаў – далёкі невыразны гук здаваўся яму гарматным стрэлам, і думалася – там ідзе бой.

Учора дзед хадзіў у вёску па харчы і прынёс лісток паперы з аддрукаваным на адным баку тэкстам. На непісьменнай беларускай мове пісалі нейкія вылюдкі, што Чырвоная Армія разбіта, што нямецкія войскі набліжаюцца да Масквы, што Беларусь вызвалена ад бальшавікоў.

Вельмі шмат відавочнай хлусні было ў тых словах, і ўсё ж глыбокім болем азваліся яны ў душы Петруся. Яны сядзелі тады ў жыце, было ранне, так пяшчотна і міла заліваліся ўгары жаўрукі і так агідна эдалося жьшь на гэтым свеце. Мусіць, нешта благое адбілася ў ягоных вачах, калі ён прачытаў тую паперку, бо раптам яго позірк сустрэў спалох у такіх добрых, лагодных заўсёды вачах Жука. І Пятрусь перамог сябе, напружыў сілы і сказаў, ірвучы паперку:

– Брахня! Хто ж тады ім лазню задаў на дарозе, га?

І адразу бліснулі надзеяй Жукавы вочы, павесялелі салдацкія твары. Жыве і змагаецца армія, жыць будзе краіна Саветаў, – у іншае ён не хацеў і не мог верыць, так, як не паверыў бы, што раптам магло знікнуць паветра ці наступіць канец свету. Але як жа знайсці яе, гэтую армію, як сказаць, што шасцёра сыноў яе выкараскаліся з пагібелі, збераглі савецкі воінскі сцяг і што яны гатовы зрабіць усё, каб толькі далучыцца да

цябе, стаць у агульны баявы ланцуг?

Калі добра ўзнялося сонца, існі стала душна і цяжка. Хлопцы моўчкі брылі па аўражыне, але Пятрусь па сабе адчуваў, што трэба зрабіць адпачынак. Якраз трапілася невялічкая прагалінка над ручаём, роўненькая, як дыванок, пароcлая прывабнай дробнай траўкай з вострымі сцяблінкамі, якая так і клікала да сябе. Вакол яе стаяў у цішы алешнікавы гушчар з прахладным ценем у доле.

Пятрусь моўчкі скінуў аўтамат, распеpазаўся, сцягнуў боты і зняў гімнасцёрку. Крэкчучы ад задавальнення, распрануліся і астатнія, усе добра вымыліся ў ручаіне.

– Дзед-барадзед, палуднаваць! – узбадзёраны сцюдзёнай вадой, вяртаўся да свайго звычайнага тону старшына АгальЦоў. – Аб’яўляецца меню: суп-харчо з фрыкадэлькамі, бішбармак па-нямецку, жабіны лапкі ў марынадзе. Кніга скаргаў – у касіра.

Усе смяяліся, а дзед тым часам разразаў акраец хлеба, трошкі сала і раскладваў на Жукавай рудай світцы шэсць кавалкаў.

– Ну, дзед, ты майстар на харчовыя справы. Відаць, бабіна школа. Галоўнае хутка і ўсім пароўну. Атрымаю пад каманду полк – цябе вазьму начальнікам ПФС. Так і ведай, – жартаваў старшына.

– Фээс, фээс, – агрызаўся дзед, не разумеючы, пэўна, што гэта такое. – Каб ты ведаў – я ў японскую бамбардзірам быў, усляпую па японцах цераз сопкі паліў. А ты – фээс!

– Няўжо трапляў? – з’едліва здзіўляўся старшына.

Маладыя хутка справіліся з ежай, са смакам напіліся з ручаіны і выцягнуліся ў вузенькім цяньку збоч прагаліны. Пятрусь усё сядзеў ля світкі, абхапіўшы калені, думаў нешта і ўрэшце сказаў:

– Спаць да ночы! Толькі варту паставіць.

– Чаму да ночы? – узняў з травы галаву старшына.

– Уначы пойдзем на дарогу, таварышы, – растлумачыў сержант. – Годзе нам туляцца па лясах. Пойдзем і будзем біць фрыцаў, дзе зручна выдасца. Трэба дапамагаць Чырвонай Арміі – мы ж байцы, а не паляўнічыя якія.

Гэта была новая справа, і людзі, зацікавіўшыся, паўзнімаліся з долу і селі на траву.

– Слухай, Пецька, – пасля нядоўгай паўзы сказаў старшына. – Ты што надумаў. Ужо тыдзень без днёўкі! Давай адпачнём дзе пару дзён, а там і на дарогу.

Петрусю не спадабалася такая прапанова. Аж два дні! Колькі можна прайсці за іх, можна нават і дасягнуць фронта.

– Не, – сказаў ён. – Не час дняваць зараз.

– Не час, не час! А калі ж час? Як ногі выцягнеш? Годзе дурыць табе! – зазлаваў старшына.

Але Пятрусь стаяў на сваім і не згаджаўся ні на якія днёўкі, Яго падтрымаў Нупрэеў.

– Што да мяне, дык ты добра надумаў, – сказаў стары баец. – Па роўненькай дарозе мы далёка махнём за ноч. Нашто тая днёўка? У кустах пераднюем.

Калдобінскі, які змрочна пазіраў то на сержанта, то на старшыну, раптам чмыхнуў і злосна накінуўся на Нупрэева:

– Што ў кустах! У кустах ды ў кустах – хай яны згараць, гэтыя кусты! А жэрці ты таксама кусты будзеш?

Нешта нядобрае пачулася ў яго тоне, нейкі надрыў, відаць, адбыўся неўзаметку ў душы гэтага маўклівага чалавека. Яго злосць і запал вельмі не спадабаліся сержанту, і ён строга, як калісьці ў сваім аддзяленні, сказаў Калдобінскаму:

– Спакойна, таварыш баец! Вы ж яшчэ ў арміі, а вайсковыя загады вызначаюць начальнікі, не забывайце гэтага.

– Ну ты не вельмі са сваім начальствам! – раптам ускочыў з долу старшына. – Калі ўжо на тое пайшло, дык для нас ты не начальства!

У Петруся нешта ўздрыгнула ў сярэдзіне, гарачыня незаслужанай знявагі шыбанула ў твар, і ён таксама ўскочыў на ногі.

– Дурань ты! Вось! Пры чым тут начальства! Ты зразумей, асліная твая галава, – краіна ў небяспецы, людзі гінуць і б’юцца. Уяві, што робіцца на фронце, а ты – адпачынак, днёўкі, вылежвацца. Не брыдка табе?

– Эх, ты! Разумнік! А мы што, не ваявалі, думаеш, Агальцоў сваё жыццё шкадуе? Можа скажаш, што я трус? Га?

Сержант, аднак, ужо паспакойнеў, сеў у траву і моўчкі спадылба зірнуў на таварышаў. Калдобінскі злосна пазіраў кудысьці ўбок, дзед поркаўся ў торбе, збіраючы харчы, Нупрэеў круціў пыгарку і насцярожана слухаў спрэчку. На ўражлівым твары Жука ляжаў зацяты, нейкі незразумелы боль, і хлопец задумліва скубаў з долу сакавітую траўку.

Пятрусь нічога не сказаў Агальцову, і той, злосна плюнуўшы, пайшоў на сваё месца ў засені.

– Да д’ябла мне такую кампанію безгаловую, – злосна буркнуў ён, – я сам сабе начальства ! – рэзка вертануўшыся ў траве, ён сунуў твар у локці з такім выглядам, нібы ўжо болын нічога не цікавіла яго.

Пятрусь яшчэ крыху пасядзеў, потым таксама зморана апусціўся на дол. Ён не заўважыў, як задрамаў, і праз нейкі час прахапіўся ад думкі, што не пастаўлена варта. Аднак варта стала сама – на сцежцы ціха тупаў са сваёй доўгай вінтоўкай Нупрэеў.

Добрае і светлае пачуццё з’явілася ў сержанта, калі ён

убачыў гэтага чалавека. Вось, бадай, найлепшая з вайсковых якасцей – моцная, на ўсё жыццё вернасць вайсковаму абавязку, у якія б абставіны чалавека лёс ні кідаў, стомленыя, знясіленыя спяць людзі, махнуўшы рукой на асцярожнасць, вырашыўшы – што будзе, тое і будзе, ёсць камандзір, каб клапаціцца. А ён перамог сябе, адагнаў сон і падняўся, ледзь трымаючыся на нагах, але ведаючы, што так патрабуе вайсковы парадак, што лёс сцяга і людзей абавязвае да таго. Пятрусь пашкадаваў у душы, што за апошнія дні, захапіўшыся зухаватасцю старшыновых учынкаў, неяк згасіў у сабе былую цеплыню і ўдзячнасць да свайго выратоўніка.

– Спаў бы яшчэ, – сказаў Нупрэеў, заўважыўшы, што сержант устае. Ён падышоў да Петруся і спыніўся, старожка ўслухоўваючыся ў лясную ціш.

– Кладзіцеся вы самі, адпачніце. Цяпер я павартую, – сказаў Пятрусь, і яму захацелася яшчэ нешта сказаць старому, добрае і прыемнае.

– Ведаеце, харошы вы чалавек, дзядзька Нупрэй. Я ўсё гляджу на вас, і мне прыпамінаецца мой бацька. Добры быў чалавек. Маці, бывала, нас, хлапчукоў, лае, то ўдарыць каго, то замахнецца, крычыць. А бацька, калі што не так, скажа гэтак сур’ёзна, ціха, але строга, і мы слухаліся. І толькі цяпер зразумеў я, як шкадаваў ён нас.

– Так, – мдуменна казаў Нупрэеў. – Дзеці яны так: душу аднімаюць, а вырастуць – забудуцца... Ці жывы ж бацька?

– Няма. На лесанарыхтоўцы лямінай забіла.

Пятрусь нерухома пасядзеў яшчэ з хвіліну, яму ўсё хацелася гутарыць, пакуль быў час, спалі змораныя людзі і пакуль на якую гадзіну сціхла трывога ў ягонай душы.

– Ведаеце, камандзіра палка прысніў, – сказаў хлопец. – Быццам я з’явіўся да яго (нібы ў нашым вайсковым

гарадку было гэта), з’явіўся, а сцяга няма. І так гэта страшна мне стала. Памятаю, што ён загадваў у тым баі ратаваць сцяг, а я неяк быццам забыўся на тое. Ну, і лаяў жа ён мяне. Так мне горка і крыўдна было, што я аж не ўтрываў у сне і прачнуўся.

– Клапоцішся, вось яно і сніцца, – сказаў Нупрэеў. – Пэўна, пападала ад камандзіра.

– Не. Мне ніколі ні ад каго не пападала, – казаў хлопец, летуценна пазіраючы ў гушчар. – Я добра служыў у войску. За два гады ніводнага спагнання, адны толькі падзякі.

– Мусіць, пабойваўся начальнікаў? – усміхнуўся баец.

– Як вам сказаць, – сур’ёзна, крыху падумаўшы, сказаў Пятрусь. – Вядома, камандзіраў пабойваўся, гэта праўда. Але не ў тым справа. Тут другое. Я вырас у вёсцы, дужа не пеставаўся. Дзяцей было шмат, а працаўнік – адзін бацька. Я ў школе вучыўся. А ўлетку, як толькі вучоба скончыцца, адразу ў працу. То скаціну пасвіць, то на конях вазіць што. дно лета я коней даглядаў з дзядзькам Петраком, другое – цялят. Прывык з маленства да працы. Праўда, калі пасвіў жывёлу, дык вельмі ўжо цяжка было ўставаць уранку. Так трудна, што хоць ты плач. Будзіць, будзіць маці – і ласкай, і хлясне чым, а ты вачэй не расплюшчыш. Але нічога. І вось я якраз у сёмым класе быў – зімой бацьку ў лесе забіла. Усё думаў: скончу школу – у горад падамся, а тут як падасіся? Сям’я пяць душ, я самы старэйшы. Ну і пайшоў у МТС прычэпшчыкам. Два гады працаваў там. Быў ціхі, нясмелы, розныя гарадскія хлопцы дапякалі часам. Потым пайшоў у армію. Трапіў у пяхоту. Цяжка было спачатку, але нішто. Я хутка прывык і да пад’ёму, і да зарадкі. Стараўся, праўда. У адным аддзяленні са мной быў Цыбышаў, харкаўскі сам. Спалі мы побач на ложках. Дык той, бывала, бурчэў усё ды нудзіўся: то яму пад’ём ужо занадта хуткі, то зарадка – марная справа, то харч нясмачны. А мне дык, ведаеш, і пад’ём нішто – я дома куды раней уставаў, і зарадка так сабе, лёгкая забаўка, а харчы добрыя. А галоўнае – мяне захапляў горад. І вось у каго не было

якіх парушэнняў, таго ў нядзелю пушчалі пагуляць. Я хадзіў, бадай, кожны раз. Ведаеш, былі вісусы, пойдзе – гарэлкі нап’ецца, у камендатуру трапіць. А я ўсё хадзіў і глядзеў. На вуліцах, на плошчах, у парку. Будынкі глядзеў – такія гмахі, бывала, дзіўлюся, колькі там прыгожасці, хараства, а працы? Гэта цуда! На людзей глядзеў: бывала, ідзе які чалавек, малады, ці стары, а мяне ўсё цікавіць: чаго ён заклапочаны, дзе ён працуе, якая ў яго кватэра, што ён думае? І мяне заўсёды здзіўляла, чаму гэта гарадскія людзі такія няўважлівыя адзін да аднаго – усё бягуць, ні да каго ім справы няма. Потым мяне паслалі ў палкавую школу, стаў камандзірам, сержантам. Узводным у нас быў лейтэнант Пятроў, малады такі хлопец, добры. Ён, здаецца, упадабаў мяне і часцяком даручаў то заняткі правесці, то якую нескладаную справу зрабіць. І я ўжо стараўся. Спачатку ён правяраў, кантраляваў, як і трэба, вядома. А потым даверыўся і ўжо толькі на маё сумленне меў надзею. Хлопцы ўсё, бывала, збіваюць мяне. Ідзём калі пад абед на штурмавую паласу – кажуць: давай перакурым, усё роўна лейтэнант не бачыць. А я не магу. Ведаю, ён спадзяецца, што зробім, як трэба, і не магу ашукаць яго. Калі б ён хітрыў, ці дапытваўся, можа б і паслабела мая душа, а так не магу і годзе. Хлопцы, бывала, бурчаць, а я маўчу ды трываю. – Пятрусь змоўк, шчыльна сціснуў вусны і, нешта прыпамінаючы, нахмурыў русыя бровы. Нупрэеў усё стаяў побач, глядзеў на яго, аберуч трымаючыся за штых. Цёмны, васпаваты твар байца быў сур’ёзны.

– А дзе ж ён цяпер, той лейтэнант?

– Няма лейтэнанта, няма камандзіра, няма нікога.

Сержант устаў, коратка ўздыхнуў, а Нупрэеў сеў у засені. Але ён не лёг спаць, а ўсё курыў, кашляў, потым сказаў хлопцу, які ўжо стаў на сцяжынку:

– Старшына са сваімі, мусіць, пойдзе ад нас?

– Хай ідзе, – пакорліва сказаў сержант, думаючы пра іншае.

Над раўком і лесам таропка плылі ў небе невялічкія хмурынкі. Часам яны беражкком краналі сонца, і па раўку, як крыло вялізнай птушкі, слізгаў імклівы цень. На ўзгорках шумеў лісцем алешнік, а ўнізе было ціха, толькі булькаў гаманлівы ручаёк.

Пятрусь пахадзіў крыху па сцежцы, перакапанай кратамі, паслухаў, шпурнуў каменем у надакучлівую сароку, што сакатала за ручаём, і вярнуўся на паляну. Ён узяў свой клунак са сцягам, развязаў яго і разгарнуў на траве чырвонае палотнішча. Сцяг моцна пакамечыўся ў торбе, паламаліся залатыя літары назвы палка, зблыталіся кутасы. Але ўсё ж гэта быў той самы сцяг, пад якім ён даваў вайсковую прысягу.

Пяшчотна расправіў хлопец кожную зморшчыну, паправіў кутасы, пацёр адно заплямленае месца, цяжка ўздыхнуўшы, пагладзіў дзіркі, прабітыя кулямі. «Гаротны ты, наш сцяг, – шаптаў хлопец, аддаючыся журбоце, – цяжкі твой салдацкі лёс. Што ты перанёс і што перацярпелі з табой людзі. Але не можа ж быць, каб не ўбачылі мы з табой нашай радасці... Калі толькі будзе тое?»

Хлопец доўга сядзеў так, у задуме, над разгорнутым шоўкам, а потым паціху, каб не разбудзіць старшыну, выцягнуў з яго ножнаў фінку і пайшоў у гушчар. Там ён нагледзеў галінастае дрэўца маладога клёніка, зрэзаў яго і здзёр кару. Як-колечы ён прымацаваў да дрэўка палотнішча, надзеў на яго вяршыню бліскучы наканечнік і паставіў сцяг побач з сабой.

– Вось, братка, будзь цяпер з намі. Дапамагай нам, а мы дапаможам табе.

Сержант умацаваў канец дрэўка ў дзірване на сярэдзіне прагаліны – цяжкое палатно стромкімі складкамі ўпала да долу. Сержант, як вартавы палкавога каравула, хадзіў па сцяжынцы, услухоўваўся ў лясную глуш і пазіраў штораз на гэтую палымяную чырвоную птушку, якая быццам ціха драмала, да часу згарнуўшы свае агністыя крылы.

Дзень цягнуўся маркотна і доўга. Змарыўшыся за ноч моцна храплі хлопцы, нават дзед і той, закінуўшы ўгору аб скубаную бараду, выводзіў тоненькія рулады. Сержант часам падыходзіў да таго, хто больш за іншых вылучаўся гучнасцю, і далікатна кранаў яго нагой. Храп абрываўся адразу, але хутка пачынаўся зноў.

І вось суцэльны глыбокі цень заслаў роў. Спачатку бліскуча ззялі бярозкі на тым баку, але ўсё меней і меней было таго бляску. Дол стаў змрочны, настойлівей дыхнула грыбной вільгаццю і сырасцю. Толькі неба яшчэ блішчэла, поўнілася святлом, цеплынёй. Доўгі дзень паціху дагараў, на зямлю аднекуль выпаўзала ноч.

Сержант пабудзіў людзей. Першы ўзняўся Жук, затым дзед і Нупрэеў. Яны адразу ўбачылі сцяг, хуценька падышлі да яго. Жук пачціва разгарнуў палотнішча за яго ражок, нехта ўздыхнуў перарывіста, цяжка. Нупрэеў сказаў:

– Вось бы так ісці пад сцягам. Але дзе там: нельга.

Узняліся і старшына з Калдобінскім. Моўчкі сапучы спрасоння, абыякавы да ўсяго, Калдобінскі накручваў лубяныя анучы, а Агальцоў падскочыў да сцяга і бесцырымонна варухнуў яго.

– Ого, баявая птушка, відаць, – сказаў старшына. – Дзіркі на сцягу – гэта лепей за ордэны. Адразу відаць, як і што. А чаго гэта ты яго наладзіў, як на страявы агляд? – звярнуўся ён да сержанта.

– А так, – ухіліўся ад размовы Пятрусь.

– Ну і правільна. Сцяг павінен быць угары.

Калі ўсе ўзняліся з долу і ўзялі рэчы і зброю, сержант строга запытаў, пазіраючы ў чорныя і, здаецца, ужо лагодныя старшыновы вочы:

– Ну дык вы што? З намі ці ад нас?

– За каго ты мяне лічыш?– абурыўся Агальцоў– Я ж не

такі яшчэ злыдзень, каб савецкага сцяга цурацца. Гэ! – крыкнуў ён да Калдобінскага, які ўсё корпаўся над сваім набыткам. – Выходзь строіцца!

І людзі выйшлі на сцежку. Сержант стаў наперадзе і ўрачыста разгарнуў сцяг. Задаволена пакашліваў Нупрэеў, тытунёвым дымам адганяючы камароў, ухмыляўся дзед, а на ўсмешыстым твары Жука ззяла шчырая радасць. Толькі Калдобінскі моўчкі стаяў ззаду ўсіх, і старшына пільна паглядзеў на яго.

У рове цямнела, невыразна расплываліся твары людзей, але яны, здаецца, адразу падабрэлі, ажывіліся і павесялелі, успомнілі нядаўнія дні, калі яны былі не акружэнцы, не лясныя бадзягі, а байцы рот і палкоў. Побач былі разумныя камандзіры, была зброя, і яны мелі сілу. Іх напаткаў нялёгкі лёс, яны шмат папакутавалі, але ўсё ж не скарыліся. Разгорнуты сцяг абудзіў у іх было прытупелае пачуццё вайсковай годнасці, надаў спрыту, і яны хуценька і старанна пастроіліся па два.

– Раўняйся! – камандаваў сержант. – Смірна!

Ён не бачыў, але адчуваў у цемры, як трохі паспешліва выцягся старшына, як расправіў згорбленыя плечы Нупрэеў, як няўмела яшчэ патупаў нагамі дзед, прыстройваючыся на левым фланзе. Потым усе дружна з маўклівай урачыстасцю ў сэрцах пакрочылі па сцежцы.

І яны ішлі так, не дужа згодна і не ў нагу, але адной кучкай – шорхалі па сцежцы іх стаптаныя падэшвы, ціхенька шапацела ўгары цяжкае палотнішча сцяга. Ніколі яшчэ з таго страшнага дня не было так спакойна і радасна ў Петрусёвым сэрцы. Не бяда, што сталася столькі пакут, усё перажытае быццам засталося ззаду, а цяпер над ім – родны сцяг, побач добрыя людзі. А калі мо' здарыцца не стане яго, не стане Нупрэева, дзеда, Агальцова, – знойдуцца другія смелыя рукі і гэтак жа высока ўзнімуць над галовамі важкі, імклівы, трапяткі і прызыўны чырвоны сцяг. Ад тае думкі спакойна неяк і надзейна стала ў хлопцавым сэрцы, і ён нават

падзівіўся, як мог толькі баяцца за сваё жыццё, такое маленькае і нязначнае ў мільённай грамадзе іншых чалавечых жыццяў.

## Раздзел дзевяты

Калі аўражная сцяжынка прывяла байцоў да дарогі, над прасторамі ўжо добра ўсталявалася летняя ноч.

Перш, чым вылезці на дарожны насып, Пятрусь прыслухаўся – было ціха, толькі пад мастком маркотна булькаў ручай ды недзе, захліпаючыся, квакалі жабы. Аднак гарэзная весялосць ужо прайшла, трэба было вельмі асцерагацца, і Пятрусь, зняўшы палотнішча з дрэўка, зноў упакаваў яго ў рэчавы мяшок. Тады хлопцы нясмела яшчэ ўзлезлі па адхону – Пятрусь з Агальцовым наперадзе, астатнія ззаду. На дарозе яны зноў агледзеліся і ўслухаліся і, поўныя ўвагі, паціху пайшлі на ўсход.

Увесь час Пятрусь пільна глядзеў наперад і штораз азіраўся назад, каб у час заўважыць якую небяспеку. Але навокал было ціха. Невядома, ці былі дзе вёскі, мо’ скрозь ляжалі пустыя палі, бо нідзе не бачна было ніводнага агеньчыка, не чутна ніводнага чалавечага гуку.

Аднойчы ззаду нагнала іх нейкая машына. Яна фарамі бліснула над алешнікам, хлопцы шаснулі за канаву, паляжалі крыху, прапускаючы яе, і зноў выйшлі на дарогу.

Колькі часу яны ішлі так, ніхто і не прыкмеціў нават. Ісці было лёгка, спорна крочылі ногі па гладкай дарозе, наўкола ляжала маўклівая ноч.

У нейкай нізіне яны натрапілі на змрочны сілуэт пакінутай машыны. Агальцоў першы асцярожна абышоў яе, зазірнуў у расчыненую кабіну, памацаў там нешта. Навокал не было больш нікога, высока задраўшы кузаў, машына пярэднімі коламі стаяла ў канаве. Хлопцы таксама спыніліся, цікавячыся, што гэта старшына

даследуе там. Сержант ужо хацеў паклікаць яго, каб ісці далей, калі Агальцоў крыкнуў з кабіны.

– Гэй, каго пракаціць? Займай месцы!

Пятрусь падумаў, што хлопец жартуе, але той і сапраўды нешта надумаўся і, лязгаючы жалезам, штосьці шукаў. Нарэшце, відаць, знайшоўшы, забег наперад, за радыятар, і гукнуў Жука.

– Давай крутані.

Жук узяўся круціць ручку, а старшына ўсё лязгаў нечым у кабіне, і, нарэшце, на здзіўленне ўсіх, машына завялася.

– А ну, давай штурханём трошкі! – зухаватым шафёрскім тонам закамандаваў старшына. – Раз-два, узялі! А ну, давай, мацней штурхай!

Не цямячы яшчэ, навошта гэта трэба, людзі сышлі ў канаву і ўперліся рукамі ў радыятар. Старшына моцна газануў, і машына паволі выпаўзла на дарогу.

– Сядай, пяхота, газанём пару кіламетраў! – камандаваў Агальцоў.

– Пастой! Куды сядай? – запярэчыў Пятрусь. – А хто павязе?

– Хто? Вось дзівакі! Шафёр трэцяга класа старшына Агальцоў, вось хто.

– Каб ты ў канаве нас не падушыў, шафёр гэтакі, – сказаў Нупрэеў.

– Ты што, не верыш? – здзівіўся старшына. – Запытайце ў Жука.

Жук сціпла пацвердзіў:

– Ага. Старшына да службы год машыну вадзіў.

– Чуў? Цэлы год. Такі ж самы, брат, цудоўны драндулет ЗІС-5.

Пятрусь маўчаў і не ведаў, як паставіцца да гэтай новай задумы старшыны. Было вельмі спакусліва праехаць колькі кіламетраў на машыне, але зноў жа было вельмі боязна за сцяг. Трапіўшы ў рукі ворага, ужо наўрад ці ўдалося б у другі раз уратаваць яго, а трапіць да іх у рукі з аўтамабілем было не дужа хітра. Сержант усё разважаў і вагаўся, але вось з-за пагорка наперадзе зноў віхлянуліся ў небе далёкія сінявата-празрыстыя промні аўтамабільных фар. Яны ўздрогнулі, ляглі ніжэй, потым павярнулі ўздоўж дарогі, і пад імі выразным гарбом абмалёўваўся чорны пагорак.

– Залазь хутчэй, лажыся ў кузаве, – крыкнуў старшына.

Хлопцы кінуліся ў машыну, а Пятрусь ускочыў у кабіну і сеў побач з шафёрам. Старшына замітусіўся, рукамі хапаўся за рычагі, доўга не мог уключыць задні ход, машына торгалася, але не рухалася з месца. Старшына лаяўся, трэба было як найхутчэй развярнуць яе, каб вызваліць дарогу. Ён моцна газануў, машына ўздрыгнула, ірванулася назад, і яе заднія колы апынуліся ў канаве.

– Каб ты здох, чортаў дрындулет! – вылаяўся Агальцоў і выскачыў з кабіны. – Уцякай з дарогі! – гікнуў ён людзям.

А сустрэчная машына хутка набліжалася. Гонкія промні яе яркіх фар ужо стрыганулі над галовамі людзей, і з-за пагорка вынік асляпляльна белы пук святла. Нупрэеў, дзед і Калдобінскі кінуліся за канаву, Агальцоў застаўся на дарозе. Не ведаючы, што надумаў старшына, але мімаволі падпарадкоўваючыся яго ініцыятыве, сержант аддаў Нупрэеву рэчавы мяшок, а сам прыпаў да ЗІСавых загрузлых колаў.

А старшына адкрыта стаяў на дарозе і чакаў. Яго спрытная постаць у цесна напятым нямецкім мундзіры, нямецкі аўтамат на грудзях ужо асвяціліся фарамі – старшына спакойна зрабіў крок наперад і ўзняў руку. Машына яшчэ наблізілася, уперлася святлом у перакулены аўтамабіль і паклала на ягоным кузаве доўгі старшынову цень. Сержант прыціснуўся да колаў і

наставіў аўтамат у бліскучыя фары. З кабіны адтуль ніхто не вылазіў і, выкрыкваючы штосьці нямецкае, Агальцоў, не марудзячы, падаўся туды.

Але з машыны, пэўна, прыкмецілі нешта, бо хтосьці адтуль спалохана крыкнуў па-нямецку, а Агальцоў, не знімаючы з грудзей аўтамат, разануў чаргой у дзверцы. Пятрусь у думках вылаяў старшыну за такую неасцярожнасць, але, зачараваны яго адвагай, сам кінуўся туды. У цемру з машыны мільганулі некалькі постацей, і неўзабаве з абочыны грымнулі пісталетныя стрэлы. У пярэднім ветравым шкле бліснулі дзіркі. Сяржант даў у цемру доўгую чаргу, і ад таго, здаецца, стала ціха.

Тым часам падбеглі астатнія. Агальцоў ужо цягнуў да канавы нежывога шафёра. Пятрусь забег з другога боку гэтай машыны і рвануў ручку дзверцаў. На падножку з машыны нязграбна вывалілася другое нежывое цела – сяржант гідліва пхнуў яго нагой на ўзбочыну. На сядзенні ўжо з’явіўся Агальцоў і пачаў абмацваць незнаёмыя рычагі.

Усе хваляваліся і, без патрэбы спяшаючыся, кінуліся да высокага борта. Жук стаў на падножку. Старшына няўпэўнена пачаў разварочваць машыну. І раптам з кузава пачуўся спалоханы, разлютаваны дзедаў крык:

– Э-е-е! Немец! Рукі ўгору! Ах ты, тварына такая-сякая! Здавайся!

Ускочыўшы ў кузаў, сяржант сапраўды там убачыў нейкую цёмную постаць, што сядзела на запасным коле. На назе яе нешта бялела, пэўна, павязка, постаць не кідалася на людзей і, здаецца, была без зброі.

– Дойч?[2] – злосна крыкнуў сяржант, адхінаючы старога, які ўсё пяўся да яго са сваёй стрэльбай.

– Я, я, – казаў той. – Іх бін фон Эстэррэіх. Эйн Фервундэтэ...[3]

Голас яго дрыжэў, ён баяўся. Агальцоў тым часам

развярнуў машыну, трэба было хутчэй ехаць, і ён крыкнуў з кабіны:

– Усе?

– Усе, – сказаў Нупрэеў. – Э, не. Пастой. Калдобінскага няма. Гэй, дзе ты? – нягучна крыкнуў у цемру баец. Але цемра маўчала.

– Толькі ж быў, са мной яшчэ ў траве сядзеў, – заўважыў дзед.

– Калдоба!!! – зычна паклікаў старшына, і таксама цішыня была ў адказ. – Ах ты, гад смярдзючы! – злосна закрычаў тады Агальцоў. – Уцёк. Зматаў да цешчы на бульбачку, паразіт.

Сержант аж уздрыгнуў ад тае навіны, і мурашкі пабеглі па яго ўспацеламу целу. Хлопец усхапіўся і кінуўся да Нупрэева.

– Сцяг! Дзе сцяг?

– Тут, вось. Сцяг то я не выпушчу, а таго падлюгу вось выпусціў, – спакойна сказаў Нупрэеў. – Я ўжо раней заўважыў: нядобрае ўзяў ён у душу. І вось не дагледзеў.

– Ах ты вужака падкалодная! Ах слізняк паўзучы! Ну скажы ты, – абураўся Агальцоў, стоячы на падножцы. І раптам старшына на ўсё горла закрычаў у ноч:

– Гэ-гэй! Гад Калдоба, на тым свеце знайду! Не схаваешся, чуеш?

У сержанта ад усёй гэтай нечаканасці аж балюча закалола ў галаве, і ён абапёрся на кабіну. А тут яшчэ немец гэты сядзіць у кузаве, не ўцякае і, як загнаны падстрэлены воўк, чакае вырашэння свайго лёсу.

– Ну што там да яго прынюхваецеся. Кулю ў лабаціну ды гайда, – злосна ўсхапіўся старшына.

– Дай я яго! – ірвануўся да немца дзед, тыцкаючы ў ягоны твар рулю вінтоўкі.

Але Пятрусь не хацеў зараз забіваць гэтага немца. Стрымліваючы ў сабе злосць да ворага, хлопец прыпамятаў разгром палка, шматлікія людскія смерці і сваё пакутнае бадзянне. Ад тых успамінаў у хлопца адразу прарвалася прага помсты, і ён рашыў у зручным для таго месцы спатоліць сваю душу. Ужо ён пакажа гэтаму фашысту сваю сілу.

– Не чапай, – сказаў ён дзеду. – Пачакай трохі. Мы з ім як след расправімся.

– Што чакаць? – злаваўся дзед. – Яны нас б’юць не чакаючы, а нам іх нельга?

– Нельга. Глядзіце, каб не скочыў. Паехалі.

Агальцоў уключыў фары – шырокае святло легла на дарогу, машына рванулася, і яны паехалі на ўсход. Спачатку новы вадзіцель асцерагаўся хуткай язды, але спакваля, налаўчыўшыся, прыбаўляў газу, і машына хутка імчала па добрай дарозе. Наўкола ляжала ноч, было ціха.

– Калі дзе сустрэчная ці абгон, – кладзіся ўсе ў кузаве. А немца прыкончыць. Нашто пакінулі? – крычаў з кабіны Агальцоў.

Стоячы за кабінай і абапіраючыся на яе дах, сержант усё думаў, што рабіць з немцам. Дрэнна, што ён не можа з ім паразмаўляць па-нямецку, а то ён запытаў бы, што яму спатрэбілася на чужой зямлі. Але і так нічога – ён яшчэ знойдзе спосаб дапячы гэтаму фашысту.

Перад самым золакам, калі неба на ўсходзе добра праяснілася і прытушыла бляск зор, яны пад’ехалі да нейкай вёскі. Дарога ішла пад адхон, абапал яе стаялі пакручастыя, закаржэлыя ад старасці вербіны, на аколіцы нечакана бліснуў парэнчамі мост. Агальцоў зменшыў хуткасць, збочыў і прыпыніўся:

– Ну, як? – гукнуў ён з кабіны. – Злезем ці далей газаваць?

У кузаве маўчалі. Дагэтуль усё ішло добра, вёска здавалася пустой і соннай, і Пятрусь запытальна зірнуў на Нупрэева. Той сядзеў ля борта з нарыхтаванай зброяй і неяк па-маладому ўсміхнуўся:

– Давай, газуй, – сказаў Пятрусь, зноў адчуваючы ў сабе гарэзную зухаватасць удачы. Дагэтуль ім шанцавала, і думалася, што і далей усё будзе добра.

У кузаве прыгіналіся, на ўсякі выпадак ямчэй сціснуўшы зброю, Агальцоў у кабіне нешта крыкнуў Жуку, машына ірванулася, як спалоханы стаеннік, і ўскочыла на мост. Тут наперакор усім правілам руху старшына даў такога газу, што аж захісталіся палі, шалёны вецер ірвануў валасы сержанта, калі ён выглянуў наперад. Яны шалёна ляцелі па пустой соннай вёсцы, і Пятрусь баяўся ўсё, каб самае недарэчнае хіба не напаткала іх. Праламаць сабе галаў аб які-небудзь плот і згубіць сцяг было вельмі магчыма.

Аднак яны ўдала мінулі вёску і зноў выехалі ў поле. Тым часам пачало світаць. Бачны сталі змрочныя, яшчэ сонныя палі, дарога-струнка бегла цераз хмызняковыя прасторы. Трэба б ужо спыніцца ды знікнуць дзе, але Агальцоў, відаць, цягнуў да апошняй магчымасці, а сержант, пакуль не бачачы небяспекі, таксама маўчаў у кузаве, і яны ўсё ехалі і ехалі. Перасякаючы ўзгорак у адным месцы, машына ўвайшла ў выемку. Абапал дарогі высіліся жаўтаватыя абрывы, а на іх высока ўзнеслі свае шапкі густыя галіністыя сосны. Унізе пад тымі соснамі другім лясным ярусам дружна буяў хваёвы маладняк, і з таго маладняку раптам нешта мільганула на дарогу. Машына якраз пераадолела самы пагорак і цяпер шпарка імчалася ўніз. Толькі, калі ўжо гэтая ўпаўшая штуковіна апынулася перад самым радыятарам, Пятрусь сцяміў, у чым справа, і жахліва крыкнуў у кузаве:

– Граната!!!

Але перш, чым яны паспелі што-небудзь зрабіць, наперадзе ірванула, сцебанула па твары пяском. Машына ўрэзалася ў нешта, і Пятрусь, не

ўтрымаўшыся, адарваўся ад яе і паляцеў на глiністыя камякі адхону. Працяты спалохам і нечаканасцю, ён, аднак, хуценька ўскочыў і, гатовы абараняцца, скаціўся ў канаву. Там ужо ляжаў Нупрэеў, перавернутая набок машына закапалася буферам у зямлю. Ушчэнт разбіты, пакарэжаны радыятар струменіў на гліну гарачую ваду.

Аднак, дзе ж былі ворагі? Пятрусь угледзеўся ўгору, у сасоннік, і гучная лаянка яго, у якое вылілася ўсё – і здзіўленне, і абурэнне, і палёгка – дзіўна прагучэла ў ранішняй цішы. Над разбітай машынай на абрыве стаялі чатыры чалавекі і мелі такі выгляд, нібы раптоўна ўбачылі нейкае дзіва, ад чаго ў іх змярцвелі языкі і скавала рухі. Прыгнуўшыся і выцягнуўшы наперад шыі, яны трымалі нацэленую на машыну зброю і, здавалася, скамянелі так, разявіўшы раты. Толькі ўчуўшы Петрусёву лаянку, яны, усе чацвёра, закрычалі нешта і збеглі на дарогу.

Так перад сержантам з’явілася чацвёра зусім яшчэ маладых пагранічнікаў у зялёных шапках, з зялёнымі пятліцамі і з трохлінейкамі ў руках.

Адчуўшы новы паварот справы, з перакуленай машыны вылез, пэўна, упершыню напалоханы старшына, следам за ім, кульгаючы, выбраўся Жук, узняўся Нупрэеў з канавы і аднекуль з-за кузава з’явіўся дзед – ён цягнуў за сабой збянтэжанага кульгавага немца. Усе, здаецца, былі жывыя, толькі машына пакалечылася ўжо без усякай надзеі на папраўку.

– Вы, блазнюкі безгаловыя, салагі несалёныя, што нарабілі?! – накінуўся на пагранічнікаў старшына. – Чорт бы вам рукі паабламваў за вашу гранату, трэба ж было пагубіць такую цудоўную каламажку!

Пагранічнікі ніякавата ўсміхаліся – яны, відаць, і напалохаліся, убачыўшы, каго падарвалі, і яшчэ больш узрадаваліся гэткай нечаканай сустрэчай са сваімі.

Ужо днела, і, каб не начакацца на дарозе чаго благога, байцы ўзлезлі на адхон, адышлі ў лясок і тады толькі адчулі, што ў каго баліць. У Петруся вельмі садніла

спіна, але ён маўчаў. Ціха стагнаў нешта Нупрэеў, а Жук дык быў ажно паранены асколкам у нагу. У гушчары яны спыніліся, Агальцоў зняў з Жукавай нагі бот і пісталетнай праціркай выкалупаў з раны пад каленам невялічкі кавалак металу. Пагранічнікі далі індывідуальны перавязачны пакет, яны вельмі бедавалі на сваю няўдачу, а старшына знарок злосна ўсё пакрыкваў на іх. Жук крыва ўсміхнуўся, пакуль яго перавязваў сябра, і ўсё казаў, супакойваючы сябе і людзей:

– Нічога, нічога. Загоіцца.

Пятрусь агледзеў байцоў.

– Здаецца, нашы сілы растуць, – не тоячы задавальнення, сказаў ён, пазіраючы на пагранічнікаў. Усе яны былі зусім маладыя, відаць, першага года службы, сціпла тупілі вочы, пачціва пазіралі на сцяг і крыху баязліва – на старшыну.

– Ага, з вамі пойдзем, калі не прагоніце.

– А куды вы ідзеце? – знарок запытаў сержант.

– Куды? Вядома куды: на ўсход, – адказаў байчэйшы з іх, прыгожы з твару хлапец.

– І даўно ўжо ідзяце?

– Тыдні з два, мабыць. Як пад Лідай разбілі наш атрад, так і ідзём.

– І што гэта вы ўздумалі нас падбіваць?

– А мы ўжо гэтак чатыры машыны падбілі, і аднаго матацыкліста.

– І мост падпалілі, – дадаў другі хлопец з дробным рабаватым тварам.

– Ну, добра, – сказаў сержант, – значыць, з намі!

– Але.

– Дзед, – паклікаў Пятрусь, выглядаючы ў сасонніку старога. Ён падумаў, што трэба расквітацца з немцам, пакуль ёсць час і наўкола стаіць цішыня.

– Эге ж. Тут я, – азваўся той ззаду. Ён стаяў сівы, касмалявы, невялічкі, у даматканай шэрай світцы, а ля яго сядзеў зграбны, з забінтаванай нагой немец, праставалосы, немалады ўжо, з вялікімі загарэлымі залысінамі ў бялявых рэдкіх валасах.

– Дакументы, – строга сказаў сержант, працягнуўшы руку да палоннага. Той нера зумеў, ускочыў на адну нагу і няўцямна залыпаў вачыма.

– Дакументы, дакументы давай, – сержант дакрануўся да яго нагрудных кішэняў. Немец зразумеў, нарэшце, дрыжачымі пальцамі адшпіліў гузік і выняў усё, што было там. Пятрусь, трошкі памятаючы з той нямецкай мовы, якую вучылі ў школе, пачаў перабіраць кніжачкі, паперкі, дакументы палоннага. У кожйай паперцы пяўся крыламі фашысцкі арол, стаялі невядомыя пячаткі з гэтай жа птушкай і свастыкай. З вайсковага білета даведаўся сержант, што ўласнік яго – грэнадзёр сапёрных войск, што яму 38 год і па нацыянальнасці ён аўстрыец. Там жа была невялічкая, досыць пакамечаная павестка, якая прадпісвала Ёгану Шольцу 12 красавіка з’явіцца на прызыўны пункт для службы ў вермахце. Асобна запакаваныя ў цэлафан хаваліся здымкі, іх было нямнога, і дзеля цікаўнасці Пятрусь разгарнуў іх. Да здымкаў чужынцаў займелі ахвоту і Нупрэеў з Жукам, яны цераз сержантава плячо таксама разглядалі спачатку Ёгана, маладога з вусікамі, потым Ёгана з жонкай, нейкую кампанію ля возера, групу маладых людзей у садку. Усё гэта было звычайнае, жыццёвае, хоць і не наша, незнаёмае, але зразумелае. Пятрусь бачыў чалавека ў яго жыцці – мірным ціхім жыцці ў нейкім далёкім горадзе Леабэне, сярод ладных вясёлых людзей, і нічога страшнага, фашысцкага не відаць было на іх простых усмешыстых тварах. А адзін здымак проста перавярнуў усе намеры хлапца, збіў яго з панталыку, і сержант не ведаў, як яму далей паставіцца да палоннага. На гэтым несамавітым з

роўным абрэзам здымку Шолыд быў найбольш падобны на сябе цяперашняга – у цывільным адзенні ён сядзеў на гнутым венскім крэсле, а на яго каленях мясціўся, пэўна, сынок, маленькі, год чатырох, хуткавокі бялявы хлопчык. Абодва яны з радасным агеньчыкам у вачах пазіралі са здымка, і адна рэч, эдаецца, адкрыла Петрусю іншы, ужо зусім блізкі і знаёмы бок жыцця. Вяртлявы, відаць, гэты хлопчык, не вельмі дбаючы пра сваю позу, няспрытна прыткнуўся на бацькавых каленях і выцягауў да аб’ектыва сваю маленькую ножку. На старэнькім, пэўна, не першы год ношаным сандаліку гэтае ножкі выразна прыкмячалася акуратная лапінка на задніку і невялікая дзірачка ў падэшве. І тады хлопец заўважыў яшчэ і пацёртыя малышовы штанцы са скручанымі чорнымі лямкамі праз плечы і нямудрагелісты паношаны пінжак самога Шольца, і яго агрубелыя вялікія рукі, што прытрымлівалі маленькае цела сына. Гэта была беднасць, яна адразу адкрылася хлапцу, які сам некалі меў блізкае знаёмства з яе такімі прыкметнымі праявамі. Пятрусь разгубіўся. Ён збіраўся адпомсціць палоннаму за свае крыўды і пакуты, а цяпер зразумеў раптам, што помсціць не было каму. У галаў хлапца шыбанула адразу дзесятак супярэчлівых незразумелых пытанняў, вырашыць якія зараз было не пад сілу.

Тады сержант прыхаваў у сабе сваю збянтэжанасць, паглядзеў на панылага ворага і заклапочана ўздыхнуў. Увесь выгляд палоннага быў вельмі ўжо мірны і звычайны, чалавечны; у насцярожаным позірку стомленых вачэй таіліся страх за жыццё і напружанае чаканне рвзвязкі. Нейкім знаёмым, перажытым сумам павеяла ал яго на заклапочанага хлопца, і ён моцна занепакоіўся. Што рабіць з гэтым аўстрыйцам, Пятрусь не ведаў яшчэ, але забіваць яго сержант ужо не меў сілы.

– Вось што: немца не чапай, дзед, – сказаў ён і адвярнуўся.

## Раздзел дзесяты

У гушчары лесу байцы ладкаваліся на адпачынак.

Снедалі зноў адным хлебам – дарэчы, апошнім кавалкам у дзедавай сумцы. Праўда, у пагранічнікаў быў пачак трафейнага цукру-рафінаду, які яны гасцінна выклалі на агульны стол. Пры ўсеагульнай увазе дзед як-колечы раздзяліў гэты набытак на дзевяць частак і паглядзеў на старшыну, злоснага і галоднага, які сядзеў побач і ўсё бурчэў нешта пра харчовыя парадкі.

– А чаму не дзесяць? – запытаў сержант, паказваючы вачыма на хлебныя кавалкі.

– А навошта дзесяць? – здзівіўся дзед. – Нас жа дзевяць.

Сержант бачыў не дужа схаванае прытворства ў вузенькіх дзедавых вачах, пазлаваўся на яго ўпартасць, але знешне спакойна напомніў:

– А немцу?

Дзед зноў пачаў лаяцца, праклінаць «германскую халеру», але ўсё ж аддзяліў патроху ад кожнага кавалка, і такім чынам на зрэбнай тарбінцы з’явілася дзесятая порцыя. Немец сядзеў тут жа, упёршыся ў дол рукой, і паныла назіраў за падзелам харчу.

Усе ўзялі сабе па кавалку, Жук падаў палоннаму яго долю. Той здзівіўся спачатку, нешта закруціў галавой, але ўрэшце ўзяў і спраўна ўплёў хлеб з цукрам, не пакінуўшы і крошак.

Сонца ўзнімалася над сасняком, у небе стаялі нерухомыя хмурынкі, у засені на траўцы яшчэ трымалася начная раса. Дзень меўся быць спякотны. Пятрусь вырашыў адпачыць да адвячорка, і хлопцы ахвотна палезлі ў небагатыя хваёвыя цені.

Пятрусь таксама прытуліўся пад ядлоўцавы куст, але добры сон так і не прыйшоў да яго. Зранку непакоілі мухі, потым спёка, а болып – нейкая насцярожанасць ад прысутнасці ў групе новых людзей і асабліва палоннага. Зноў жа начное знікненне Калдобінскага моцна ўразіла сержанта, прымусіла яго зірнуць і на свайго чалавека,

байца, з другога боку. Як толькі прыпамінаў ён, што Калдобінскі часам стаяў на варце, калі спалі ўсе, і што ён шмат разоў мог украсці сцяг і знікнуць з ім, дык нейкая душэўная сутарга ўскалыхвала хлопца, і ён адразу абуджаўся з дрымоты.

«Хто яго ведае? – думаў Пятрусь, заплюшчыўшы вочы, – мо’ ён і не злыдзень, не здраднік, мо’ проста слабы баязлівы чалавек, ну і не вытрымаў, збаяўся. Мо’ гэта нават і лепей, што ён паціху знік без шкоды іншым, чым калі б дзе ў крытычны момант сапсаваў якую справу. А немец? Што рабіць з ім? Агальцоў і дзед упарта дамагаюцца забіць яго, але знішчаць яго будзе ўжо зусім не па-людску. Відаць па ўсім, ён чалавек працоўны і не які там фашыст, паранены да таго ж. Але весці яго з сабой таксама рызыкоўна, як і пусціць да сваіх».

Надвячоркам, калі людзі зноў сабраліся ў сваю бясконцую дарогу, сержант крануў немца за плячо і паказаў галавой, каб той ішоў за ім. Палонны хуценька ўзняўся і з салдацкай гатоўнасцю падпарадкавацца, абапіраючыся на палку і праступаючы на забінтаваную пятку, падаўся за сержантам. На яго твары ляжаў глыбокі сум чалавека, прыгаворанага да смерці.

Сержант адвёў яго так, каб не бачна было іх стаянкі, і ляпнуў па плячы.

– Не палохайся, страляць не буду, – сказаў ён, усміхаючыся. – Але не здумай ваяваць больш. А цяпер ідзі туды, – ён махнуў у напрамку дарогі.

Нешта бліснула ў вачах палоннага, ён устрапянуўся ўвесь і ўхапіўся за сержантаву руку. Петрусю здалося, што ён хоча пацалаваць гэтую руку, і хлопец вызваліў яе. А немец, моцна кульгаючы, хуценька падаўся да дарогі, штохвілінна азіраючыся, жаласліва неяк усміхаючыся. Урэшце ён, здаецца, пабег у гушчар.

Пятрусь задумліва пастаяў яшчэ на тым месцы. Ён не ведаў, ці так зрабіў, як патрабаваў вайсковы абавязак, мо’ ён і памыліўся тут, падараваўшы жыццё ворагу. Але

неяк ён не мог забіць таго чалавека – такая ўжо, пэўна, была яго слабасць.

Калі ён вярнуўся адзін, старшына сустрэў яго позіркам, поўным здзіўлення:

– Пусціў?

– Пусціў.

– Дурань! – коратка вызначыў хлопец. – Пабачыш, як ён заўтра табе галаву прастрэліць.

Рэштку таго дня яны паціху ішлі воддаль дарогі, але ўвесь час стараючыся трымаць яе ў полі зроку. Часам яна знікала за пагоркамі і ляскамі, але потым зноў з’яўлялася, бліскаючы дзе на паварoце, ззяючы бялюткімі ізалятарамі на слупах. І ўсё пылілі, пылілі па ёй шматлікія аўтакалоны, матацыклы і фурманкі. Сержант са старшыной усюды, дзе бачна было, назіралі за ёй. Пятрусь маўчаў, сцяўшы вусны, а Агальцоў казаў, злосна бліскаючы чорнымі вачыма:

– Чакай, сцямнее – мы табе наладзім музыку.

Яму вельмі спадабалася ўчарашняя язда, і ён усё чакаў ночы, каб зноў захапіць «добры дрындулет». Але здарылася так, што ўжо ні старшыне і нікому з іх групы не давялося больш пракаціцца па спакуслівай ладнай дарозе.

Ужо незадоўга да заходу сонца яны ўсёй групай узняліся па духмянай збажыне на пагорак з некалькімі разлапістымі старымі соснамі. Як выявілася зблізку, тут былі могілкі, недалёка ўнізе тулілася ў садках вёска. У Петруся яшчэ з дзяцінства захавалася да могілак нейкае няпэўна прыкрае адчуванне, і ён, пэўна, абмінуў бы іх, але трэба было ўгледзець, дзе апынулася тая дарога. Вузкай сцяжынкай між абкладзеных каменнямі магіл яны з Агальцовым падышлі да таўшчэзнай сасны, што некалькі асобна ад сваіх суродзічаў высілася над крыжамі на самай высpе. Нупрэеў з дзедам і астатнія байцы засталіся на вобмежку.

Дарога была недалёка. Яе стужка віднелася то там, то тут, перабягала нізінкі і хавалася за пагоркамі. Пятрусь ужо нагледзеў, куды кіраваць адсюль, каб не адбіцца ад яе да ночы, і тады нечакана ўвагу абодвух прыцягнула не зусім звычайнае відовішча.

Не дужа далёка, мабыць, кіламетры з два цераз нізіну, з-за пагорка з’явіўся на дарозе нейкі натоўп людзей. Адсюль нельга было разгледзець, было гэта войска, ці простыя людзі, як яны ішлі і што неслі з сабой. Але было відавочна, што там вельмі многа людзей – галава гэтай працэсіі спускалася ўжо да нізу пагорка, а канца яшчэ не бачна было. Яна рухалася марудна, ці мо’ гэта здавалася так здалёку, вецер адносіў з дарогі ўзняты нагамі пыл.

Хлопцы ўпіліся вачыма ў тое шэсце, прыўзняліся за сасной. Агальцоў высока на лоб ссунуў свае прыгожыя бровы і няпэўна вымавіў:

– Немцы?! Ці не адступаюць?

Але гэта былі не немцы. Калі ўся калона выцягнулася на адхон пагорка, Пятрусь разгледзеў там знаёмыя постаці ў жаўтлявых, выгарэўшых кашулях, прыкмеціў, як бяссільна сунуцца яны па пыльнай дарозе, не ўзнімаючы ад зямлі сваіх ног. А абапал калоны праз колькі крокаў адзін ад аднаго з нарыхтаванымі аўтаматамі ў руках ішлі немцы.

Старшына таксама хутка зразумеў у чым справа, і яны паглядзелі адзін на аднаго тымі выразнымі кароткімі позіркамі, у якіх было і хваляванне, і рашучасць, і ўзаемнае разуменне.

– Слухай, давай назад, туды, дзе лясок! – шапнуў старшына, які, як заўсёды ў такіх выпадках, адразу ўзгарэўся імклівым намерам.

– Чакай, трэба палічыць, колькі іх.

Яны ўдвух, наколькі гэта было магчыма здалёк, палічылі канваіраў. У Петруся іх набралася трыццаць, у

Агальцова – дваццаць шэсць.

– Шмат, халера, – сказаў ён.

– Шмат, а як зробім? – пытаў сержант, напружана думаючы, як адолець гэткую групу добра ўзброеных, гатовых да бойкі ворагаў. Але Агальцоў таксама не меў ніякага плана, а час ішоў, калона набліжалася, і трэба было нешта рабіць.

Хлопцы адскочылі ад сасны, кінуліся да сваіх.

– У ружжо – бегучы, крыкнуў Пятрусь. – За мной!

З усяе сілы ён пусціўся па збажыне ў лагчыну, за якой на другім пагорку пачыналася кустоўе і дзе павінна была недзе праходзіць тая дарога. Урассыпную за ім кінулася восем байцоў, лічачы і дзеда, які ва ўсіх вайсковых справах, як умеў, хадзіў пад маладых.

Абліваючыся потам і перакідваючы з пляча на плячо пацежалелы аўтамат, Пятрусь імчаў па кустоўі. Ён усё непакоіўся, каб не спазніцца выйсці на дарогу і каб не згубіць часам каго ў гэтых зарасніках.

Дарога ўрэшце з’явілася перад байцамі – яна тут пралягала па адхоне, зарослым алешнікам і ляшчыннікам. Месца было не дужа здатнае для засады, кустоўе нясмела тоўпілася крокаў у дваццаці ад дарогі і бліжэй не падступала да яе. Гэтая яе старана ад канавы ўзнімалася на пагорак, а тая адхоніста спускалася ўніз, дзе не дужа густое кустоўе хутка знікала і пачыналася сенажаць.

Тым часам вечарэла. Сонца вялікім чырвоным колам спускалася з небасхілу. Было цёпла, над кустоўямі і людзьмі мітуслівымі чародамі таўкліся камары.

Пятрусь зморана ўпаў пад бухматым кустом ляшчынніка, побач укленчыў старшына, да іх пакрысе сабраліся астатнія. Калона і немцы павінны былі неўзабаве з’віцца, а як вызваліць палонных, ніхто не ведаў.

– Страляць, брат, нельга, – непакоіўся старшына. – Сваіх паб’ём.

Яны ўсё пазіралі ўправа, дзе з-за павароткі пачыналася дарога, чакалі і да болю ў галаве згадвалі, што зрабіць, як пабіць фашыстаў і не патрапіць у нашых. Але як ні думалі, а нічога надзейнага не прыходзіла на думку.

– Паслухайце мяне, старога, – азваўся ззаду дзед і падышоў да хлопцаў. – Калі вось што зрабіць. Калі выйсці адкрыта каму, скажам, і мне, і крыкнуць так нашым: ратуйце, біце нёмцаў. Га? Можа і выйдзе?

– А нішто ўдумаў, – пагадзіўся старшына. – Толькі так: хай самі б’юць, усё ж іх вунь колькі! А мы для страху сыпанём паверху.

Не дужа гэта была надзейная задума, але іншай не ставала, і сержант мусіў згадзіцца.

– Дзед, а як жа ты са зброяй? – спытаў ён старога.

– А навошта зброя? Я так. Мірны жыхар быдта. Крыкнуў – і ходу. Каб толькі яны зразумелі.

Байцы разышліся па ўскрайку кустоў, ля Петруся непадалёку застаўся Агальцоў, з другога боку – Нупрэеў. Усе сцішыліся і ўставіліся вачыма на дарогу.

Першымі з тае калоны паказаліся з-за павароткі чатыры канваіры ў чорнай эсэсаўскай форме, са свастыкамі на рукавах. Яны нетаропка ішлі па дарозе, трымаючы на грудзях аўтаматы, адзін, сярэдні, адзеўшы рамянём на шыю, нёс кулямёт. За імі выніклі першыя шэрагі палонных. Наперадзе, абняўшыся, ішлі двое; адзін трымаўся за другога, відаць, мацнейшага сябра, моцна кульгаў, уся яго галава і нават вочы былі абвязаны акрываўленымі бруднымі бінтамі. Гэткія ж бінты часта мільгалі ў той калоне, усе ішлі вельмі марудна, а па баках, як сабакі на ланцугах, снавалі салдаты з аўтаматамі. Яны, пэўна, занепакоіліся зараз, уваходзячы ў лес, і, злосна пакрыкваючы на палонных, цясней збівалі калону.

Так уся гэтая грамада людзей сунулася ўсё бліжэй і бліжэй. Петрусёва сэрца паныла здрыганулася ў грудзях, калі ён убачыў, якія гэта знясіленыя і да таго ж многія параненыя людзі. Ці маглі яны здолець гэткую да зубоў узброеную і насцярожаную варту? Але змяніць намер было ўжо нельга, і неўзабаве ў пакутлівыя хвіліны чакання ля дарогі вынікла аднекуль маленькая, шэрая і такая несамавітая дзедава фігурка. У той жа час неспадзявана зычны яго голас гойкнуў над прасторамі:

– Браточкі! Бі фашыстаў! Нашы ў лесе!

Невядома, ці зразумеў хто яго крык, як тое здалося немцам, аднак з абочыны коратка тыркнула чарга – дзед пахіліўся, бы п’яны, хіснуўся ўбок і ўпаў на зямлю. А калона рухалася сабе далей, толькі, здаецца, штось сталася там, і рады яе скалануў невыразны і нерашучы, яшчэ мітуслівы рух.

Нейкая чорная віхура роспачы ад усведамлення няўдачы падхапіла сержанта. Нічога яшчэ не адчуваючы і дрэнна нават разумеючы, што робіць, ён усхапіўся з месца, каб кінуцца з аўтаматам на ворагаў, але Нупрэеў з долу стрымаў яго за нагу.

– Стой! Куды? Сцяг давай! Сцяг!

Пятрусь зразумеў чалавека, ірвануў з плеч клунак і выхапіў сцяг. Нупрэеў сунуў яму нейкі кій, і яны двума вузламі па рагах прымацавалі сцяг да гэтага несамавітага дрэўка. Апантаны ад крыўды дзедавай няўдачы Пятрусь выскачыў з падлеску і з разгорнутым сцягам кінуўся ў натоўп на дарозе. За ім узняліся астатнія і, ударыўшы з усяе зброі над галовамі людзей у калоне, атакавалі гітлераўцаў.

І тады нейкая незразумелая і неадчутая Петрусём сіла ўскалыхнула дарогу, і калона на ёй перастала існаваць. Людзі, бы мурашкі ў муравейніку, кінуліся ва ўсе бакі, адусюль загрымелі стрэлы, ва усіх кірунках панесліся кулі, ашалела дзёўбаючыся ў сухую зямлю, навылёт прабіваючы чалавечыя целы.

Падбягаючы да канавы, Пятрусь адчуў, як нейчая чарга сцебанула па палотнішчы, хлопец ірвануў сцяг да сябе і, абараняючыся, ускінуў руку з пісталетам. З дарогі ў яго цаляў аўтаматам рыжы немец, але толькі на момант мільганула ў зроку яго постаць, як зараз жа ён знік, некім збіты ў канаву. Немец крутнуўся, бы вужака, сілячыся ўхапіць упушчаны аўтамат, але сержант стрэліў у ворага і ўзбег на дарогу. Перад яго вачыма ў ашалелай разлютаванай барацьбе мільгалі нейчыя спіны, рудыя твары, нехта босы скочыў цераз канаву, нехта ўпаў побач. Сержант усхапіўся, крыкнуў: «Смерць гадам!» і зноў матлянуў над сабою распушчаным шоўкам сцяга.

Стрэлы аднак хутка заціхлі, але ўсюды раўлі, крычалі, лаяліся людзі. Да Петруся падскочыў загарэлы потны хлопец у расхлістанай гімнасцёрцы, ужо з аўтаматам – па яго радасным і ўзрушаным твары цяклі слёзы шчасця. Адусюль да сцяга кінуліся ўзброеныя і бяззбройныя людзі, і тады сержант зразумеў, што гэта перамога. Але радавацца было некалі, хлопец імгненна вызначыў становішча і закрычаў, перамагаючы стукат уласнага сэрца:

– У лес, таварышы! У лес, угору!

Аднак, ап’яненыя перамогай, яны спазніліся зрабіць гэта. Ззаду, з-за паваро́ткі раптам загрукалі нейкія незвычайна гучныя стрэлы – гулкія і паважныя. Нібы хто нетаропка стукаў па дзежцы, і наўскасяк цераз дарогу прайшлася чарга разрыўных буйнакаліберных куль. Баец, што ў гэты час бег тут, войкнуўшы, упаў вобземлю; ля канавы, закінуўшы ўгору рукі, упаў другі; нехта жаласна залемантаваў ззаду. Людзі хіснуліся ад дарогі і кінуліся ў лес. Сержант яшчэ крыкнуў, каб усе беглі ўгору і, падхапіўшы сцяг, падаўся да кустоўя. Побач цяжка бег Нупрэеў. А транспарцёр з дарогі люта паліў разрыўнымі, курылася пылам зямля, нібы яе секлі бізуном, і, гулка лопаючыся, востра пырскалі ў кустоўі тысячы асколкаў. Кідаліся з боку ў бок, беглі і падалі людзі.

Нечаканы гэты паварот так добра скіраванай справы

аднак ужо не збянтэжыў Петруся. Да яго вярнулася цвярозае разуменне ходу падзей і ён уцяміў, што галоўнае зараз – не разгубляцца па лесе, вытрымаць адзіны напрамак і найхутчэй адарвацца ад ворага. Цяпер толькі зразумеў хлопец, што доўга весці бой на дарозе яны не мелі ніякай магчымасці, бо з двух бакоў да ворага кожную хвіліну з’яўлялася падмацаванне. У тым была самая вялікая хіба сённяшняй бойкі. Кулі ўсё хлёстка трэскаліся кругом, шархацелі, асечаныя імі, галінкі; наперадзе, ззаду і па баках беглі людзі. Пятрусь таксама бег і ўсё азіраўся, каб не адстаў дзе Нупрэеў, бо калі б што здарылася з хлопцам, дык спатрэбілася б замена да сцяга.

Але паступова страляніна пачала сціхаць, недзе на дарозе яшчэ трашчалі чэргі, але куль ужо не чутна было. Хмызняк таксама радзеў, пэўна, збіраючыся скончыцца. Напаткаўшы вузенькую лесавую дарожку Пятрусь з Нупрэевым пайшлі па ёй, ззаду ішло некалькі байцоў, і хутка яны выбіліся на лугавіну. На ўсім працягу той лугавіны з узлеску выходзілі людзі, яны брылі, не ведаючы куды, толькі б далей ад ворага. Па зямлі ўжо слаўся вячэрні змрок, над сырымі мясцінамі шарэла пара, чырвонымі водблiскамі свяціліся хмаркі над лесам, а на ўсходзе запаліліся першыя зоркі. Каб сабраць людзей, Пятрусь спыніўся на лузе і крыкнуў:

– Ге-гей! Давай сюды!

Байцы павярнулі ў яго бок, а сержант з Нупрэевым стаялі на купіне і выглядалі сваіх. Балюча сціскалася сэрца ў абодвух ад думкі, што не ўсе выйдуць з таго лесу. Вядома, шкада было ўсіх тых, хто застаўся на дарозе, хто не дабег да свайго выратавання, але асабліва ныла ў грудзях за сваіх сяброў. Пятрусь так і мітусіўся позіркам па лузе, выглядаючы двух таварышаў, і здавалася хлопцу ў той час, што нікога у яго не было даражэйшага ў жыцці за старшыну і Жука. Людзі ўсё сыходзіліся да яго, ужо набралася чалавек з паўсотні, прыйшло двое пагранічнікаў, а разведчыкаў усё не было.

Яны, аднак, з’явіліся апошнімі ўжо ў гэтай паўсотні

ўцалелых, узрушаных і ўзрадаваных людзей, якія з ажыўленай гамонкай тоўпіліся ля сцяга, утаймоўваючы сваё хваляванне і стому. Пятрусь здалёку яшчэ заўважыў хлопцаў – тыя нешта на сабе цягнулі. Людзі таксама звярнулі позіркі ў іх бок – бачна было, што яны неслі чалавека.

Калі хлопцы наблізіліся, байцы расступіліся, даючы ім дарогу да сцяга, які трымаў сержант. І двое былых разведчыкаў моўчкі паклалі ў траву перад ім маленькае нерухомае дзедава цела.

Змрочны і строгі ўзняўся з купіны Пятрусь, зняў пілотку Нупрэеў, у маўклівай суровасці паўсталі вакол незнаёмыя байцы. Боль і зацятая суровасць былі на тварах людзей. А дзед ціхенька ляжаў на траве, звярнуўшы да неба свой маленькі касмылявы тварык, і нешта добрае, спакойнае і светлае было ў выразе яго незаплюшчаных вачэй.

Пасля доўтага маўчання сержант сказаў людзям:

– Вось ён дапамог вам. Дзякуйце яму!

Петрусю было вельмі балюча і маркотна ад гэтай смерці блізкага чалавека, аднаго з тых, хто сваімі клопатамі вярнуў да жыцця яго самога. На момант у яго вярнулася сумненне ў правільнасці ўсяго, што ён з хлопцамі нарабіў сёння. Загінуў вось дзед, а колькі яшчэ жыццяў засталося там, на дарозе і ў лесе. Але ён успомніў тады пра свае нядаўнія пакуты, пра людскія беды і небяспеку, што навісла над краінай, і хлопец перастаў сумнявацца. Ён паглядзеў на тых, што выратаваліся ад ганьбы і здзеку палону, – гэта іхняе жыццё і волю абараніў дзед і многія тыя, што ўжо не ўзнімуцца з долу. Дарагая цана! Калі б толькі людзі доўга памяталі тое і былі ўдзячныя, думаў Пятрусь.

Старога пахавалі на ўзвышыстай імшарыне непадалёку. Стрэлаў не рабілі: шкадавалі патронаў. А калі закідалі неглыбокую магілку, Жук выразаў у кустоўі бярозавы калок, абстругаў яго і чарнільным алоўкам напісаў на вільготнай ад соку драўніне: «Тут пахаваны дзед-

чырвонаармеец, які загінуў за Савецкую Радзіму». Ён утыркнуў палку ў дзярністы дол і, паскрэбшы заросшую патыліцу, падумаў, што трэба б напісаць яшчэ і прозвішча нябожчыка. Але як звалі дзеда, хлопец не ведаў. Тады ён уздыхнуў і пабег на лугавіну, дзе сержант строіў людзей, каб рушыць далей у цемру ночы, якая ўсё шчыльней ахінала прасторы.

## Раздзел адзінаццаты

Шэсцьдзесят два чалавекі вёў сержант невядомымі дарогамі, праз палі і лугі, праз маўклівыя чорныя пералескі. Людзі, змораныя хадой і знясіленыя без харчавання, паслухмяна ішлі за ім, за згорнутым чырвоным сцягам на самаробным дрэўку, што хіліўся на сержантавым плячы, – ішлі і не пыталіся, куды ён вядзе іх. Зрэшты, пытацца і не было патрэбы: уперадзе на небасхіле ўсю ноч палалі палахлівыя водбліскі далёкага бою, – коратка пыхалі, гаслі, узгараліся з новым запалам, дрыжэлі хваравітым нервовым святлом, якое, здавалася, вось-вось загарыцца ва ўсю сілу і асвеціць ноч.

Зноў здарылася так, што, не аб’яўляючыся нікому, нічога ні ад каго не патрабуючы і не вытлумачваючы, сержант стаў камандзірам гэтых людзей. Хлопец разумеў, што прычынай таму – не ягоныя нейкія якасці – розум ці вайсковае ўмельства, не тое, што ён разам з іншымі ратаваў іх. Уся прычына ягонага старшынства была ў тым сцягу, з якім ён тады ўскалыхнуў натоўп, з якім збіраў да аднае грамады гэтых байцоў. І Пятрусь не схаваў яго ў Нупрэеў мяшэчак, а, прыладзіўшы дрэўка, узняў над сабой, думаючы, што цяпер небяспекі меней, бо іхняя сіла куды пабольшала. Вядома, што чалавеку са сцягам нельга было не верыць, і людзі верылі яму, ішлі за ім, і ён з усяе сілы імкнуўся не ашукаць іх давер’я.

Побач з Петрусём ішоў Нупрэеў. Старшыну сержант выправіў наперад, у якасці дазора, каб не трапіць у якую пастку. А ззаду за імі шавялілася ў змроку калона людзей, якія пазбеглі пагібелі і нечакана сталі байцамі.

Палавіна гэтых байцоў не мела зброі. Тыя трыццаць аўтаматаў, што ў кароткай сутычцы адабралі ў гітлераўцаў, апынуліся ў самых смелых і самых дужых, – сержант меў вялікую надзею на іх. Астатнія былі слабыя, многія параненыя. Трэба было недзе спыніцца, накарміць галодных людзей, перавязаць раны, размеркаваць невялікую колькасць боепрыпасаў, што захаваліся ў іх. Трэба было падрыхтавацца: яны, здаецца, набліжаліся да фронта, а перайсці яго з гэткай грамадой без бойкі было, бадай, немагчыма.

Блытаныя палявыя сцяжынкі і лесавыя дарожкі за ноч завялі байцоў у нейкую бясконцую забалочаную глухамань. Ужо колькі часу ішлі яны, і ўсё цягнуліся па баках хмызнякі, ельнік, імшарыны. Гадзіны з дзве даўжэзнай вужакай вілася перад імі вузенькая сцяжынка. Людскія ногі ўвесь час грузлі ў мяккім доле, набіралі вады дзіравыя падэшвы. Часам зусім было небяспечна сунуцца ў заплыўшую ржавай муццю дрыгву, якая ледзь трымала чалавека. Але вяртацца не было куды, а ратунак быў толькі наперадзе.

На маўклівай лясной дарозе напаткала іх цёплая задумлівая раніца. Недзе за шэрымі хмарамі ціхенька ўзнялося на небасхіл нябачнае сонца. Трава і хмызняк з ночы стаялі сухія, без расы, нізка над дарогай мільгалі імклівыя ластаўкі. Усе прыкметы былі на дождж, але ён збіраўся неяк вельмі неахвотна. І раптам у чуйнай ранішняй цішы недзе далёка-далёка глуха грукнула нешта і глыбока аддалося ў зямлі. Яшчэ не закацілася ў лясах кароткае рэха гэтай грымоты, як за ёй раздалася другая і трэцяя. Неўзабаве далёкія гукі зліліся ў няроўны прыглушаны грукат.

– Недзе блізка, – сказаў Нупрэеў. – Кіламетраў з пяцьдзесят, не болын.

Нехта ў калоне азваўся ўзрушаным радасным голасам:

– Гэта ж нашы гаўбіцы б’юць. Далібог гаўбіцы. Ужо іхнія стрэлы я дзе хочаш пазнаю. Яны, яны шыбуюць. Родныя...

Чалавек плакаў ад радасці.

– Можа наступаюць?

– Ладна даюць фашызму... А-я-яй, глядзі ты!

Сержант меркаваў неўзабаве нагледзець дзе зручнае месца, каб адпачыць і падсілкавацца, але цяпер стала не да таго. Па сабе і па настрою людзей ён адчуў, што ні ў каго не стане сіл стрымацца і, пагарджаючы небяспекай, прыдзецца ісці Далей. Дарога кіравала на паўднёвы ўсход, а гэтыя гукі несліся аднекуль збоку. Хлопец рашыў, што цяпер няма чаго трымацца дарогі, калі гэтак блізка жаданая мара іхняга паходу. Сержант, поўны імклівай прыўзнятасці, падаўся з дарогі ў блытаны шолах ільняной нівы. Наперадзе ў лён збочыў Агальцоў, які ішоў на чале дазору.

Але людское шчасце ніколі не спраўдзіцца так хутка, як гэта здаецца чалавеку. Неўзабаве развіднела, узнялося сонца, і зніклі, суцішыліся, нібы растварыліся ў святле новага дня, жаданыя гукі. Зноў летняя цішыня. Дзень выдаўся ветраны, на небе імкліва плылі рэдкія хмурынкі, пякло сонца і несліся над прасторамі духмяныя пахі даспелай збажыны, а людскому падарожжу не было канца. Людзі ішлі без дарог, наўпрасткі, цераз палі, лужкі, хмызнякі. Вось-вось, здавалася, з’явяцца з-за пагорка яўныя адзнакі блізкасці войска, ці грымнуць адкуль знаёмыя залпы франтавых батарэй, а там такая жаданая сустрэча... Зноў напружанае, неўтаймаванае чаканне, так добра зведанае ў дні адзіноты, усё больш захапляла сержанта. Услед за позіркам як мага хутчэй крочылі ногі, узнёслая ўпартасць волі падавіла стому – усё імкнулася наперад. Ззаду за хлопцам гэтак жа настырна, парушыўшы строй, з зацятай упартасцю на тварах лезлі праз пасевы маўклівыя групы байцоў.

Апоўдні адпачылі ў кустоўі. Змораныя за шмат гадзін хадзьбы, нерухома, як мерцвякі, ляжалі ў траве людзі. Паставіўшы ў сцюдзёную ваду натруджаныя босыя ногі, у маркоце сядзеў над ручаём Пятрусь. Нупрэеў мясціўся побач, курыў і думаў. Угары гулі нямецкія

пікіроўшчыкі, па краі неба між воблакаў плылі яны на ўсход, цяжкія ад шматтоннага грузу бомб. Назад вярталіся, нізка апусціўшыся над зямлёй. Хлопцы спачатку ўсхопліваліся, задзіралі галовы, думаючы, што гэта нашы, а затым, расчараваўшыся ў надзеі, не вылязалі з кустоўя. Праз гадзіну-другую рушылі далей.

Надвячоркам калона моцна расцягнулася, вілася па лагчыне цераз вялізнае поле палёгшай пшаніцы. Збоку ад іхняга шляху ў зеляніне дрэў хаваліся стрэхі хутара – туды захінутая пшаніцай вяла ўтаптаная сцяжынка, наперадзе быў бачны малады сасоннік, за ім на ўзгорку сінеў хваёвы лес, у які здалёку яшчэ кіраваў сержант. Наўкола рассцілалася адкрытая мясцовасць, і Пятрусь здзівіўся, не ўбачыўшы дазору. Хлопец крыху пастаяў, спыніўшы людзей, але, разважыўшы, што старшына, пэўна, падаўся к лесу, памалу пайшоў уніз. Ісці наўпрасткі праз пшаніцу было цяжка, неадчэпна блыталіся ў нагах яе драцяныя сцяблы, і сержант выглядаў якую сцяжынку, каб скіравацць туды. Згорнуты сцяг хлопец трымаў падпахай, на спатнелай гарачай спіне муляў аўтамат. Нупрэеў ішоў следам.

Да лесу ўжо было зусім блізка, калі там, на ўзлеску, мільганулі нейкія постаці. Петрусю здалося, што гэта іхні дазор, і ён з асцярогай прадаўжаў хадзьбу. Аднак Нупрэеў заўважыў таксама нешта на тым узлеску і крануў сержанта за локаць. Яны спыніліся, за імі прыціхла калона, усе сталі і трывожна пазіралі ў сасоннік.

І тады лютая галасістая чарга ўдарыла з лесу. Недзе ў небе над галовамі людзей панесліся чароды куль; адна, пэўна з рыкашэта, жаласна віскнула і знікла ўдалечыні. Не ведаючы яшчэ, што адбылося, але згадаўшы смяртэльную небяспеку, сержант злосна скамандаваў людзям:

– Лажыся!!!

Усе дружна пападалі ў пшаніцу, Пятрусь прысеў і ўгледзеўся ў сасоннік, чакаючы ўбачыць там якую разгадку тае страляніны. Да яго падгіроўз Нупрэеў і

таксама пазіраў у бок лесу.

– А дзе ж дазор? – пытаўся ён, хвалюючыся за жыццё людзей.

Пятрусь нічога не адказаў яму. Ён адчуў толькі, што пад такім агнём яны не ўлежаць доўга, што так праз колькі хвілін іх усіх да аднаго пераб’юць у гэтай пшаніцы. Адзіным выйсцем было падацца назад, за ўзгорак, там яшчэ было выратаванне ад гэтага пякельнага шквальнага агню. Ахоплены трывогай за людзей, Пятрусь ускочыў з пшаніцы і, перамагаючы грукат стрэлаў, крыкнуў байцам:

– Кароткімі перабежкамі – за бугор!!!

Ён сам сігануў некалькі шпаркіх шырокіх крокаў і ўпаў у пшанічны гушчар, даючы гэтым прыклад, як бегчы іншым. А немцы ўжо добра прыкмецілі групу і досыць трапна лупілі ў пшаніцу. Нехта непадалёку, відаць паранены, клікаў нейкага Ваню, нехта лаяўся ўдалечыні. Пятрусь праз момант зноў ускочыў і таксама вылаяўся ад злосці і роспачы. Байцы, трапіўшы пад прыцэльны агонь, не хацелі трымацца вайсковых правіл, а, узняўшыся над збажыной, шыбавалі за пагорак усёй паўсоценнай грамадой. «Пераб’юць, пераб’юць усіх!» – жахнуўся сяржант ад страшнай думкі. Напяўшыся сілай і злосцю, ён пабег і, не дбаючы ўжо пра ўласную бяспеку, люта закрычаў на байцоў:

– Лажыся!!! Лажыся – застрэлю!!! – крычаў ён, даганяючы задніх. Тыя баязліва азірнуліся на лес, на сяржанта, і, пэўна, нешта рашучае было на камандзіравым твары, бо яны са страхам, але паслухмяна пападалі ў пшаніцу. Потым ён дагнаў іншых і таксама паклаў іх.

– Кароткімі перабежкамі наперад!!!

Наўкола ў шалёным лёце зыўкалі кулі, кулямёты на ўзлеску аж захліпаліся ад лютасці. Сяржант азірнуўся назад– ніхто іх, аднак, не праследаваў, нізіна была пустая, толькі ў лёгкіх хвалях гойдаліся пшанічныя

прасцягі.

Перабежкамі і паўзком людзі дасягалі пагорка і тады, па аднаму ўскокваючы, беглі да кусцістага алешніку, што непадалёку зелянеў у пшаніцы. Тут ужо кулі былі не страшныя. Затуленыя пагоркам байцы вышлі з-пад небяспекі.

Але тут здарылася такое, што здзівіла і збянтэжыла сержанта.

Па пшанічнаму полю з-пад хутара беглі трое яго дазорных і наперадзе ўсіх няроўным, нейкім знясіленым крокам сігаў Агальцоў. Сержант спыніўся, ніяк не цямячы, што адбылося. На момант ён адчуў радасць, што людзі жывыя, але затым нейкая балючая падазронасць ахапіла яго. Ён ужо не пайшоў, куды беглі людзі, а накіраваўся насустрач дазору.

У старшыны ад бегу скрывілася дзяга з кабурой, спаўзла на бок спражка, мундзір быў расшпілены, чуб растросся на проставалосай галаве і чорныя вочы гарэлі нялюдскім, вар’яцкім спалохам. Пятрусь угледзеўся ў гэтыя вочы, прыкмеціў няроўны крок чалавека і яго скаланула нечалавечая лютасць.

– Як... як ты адважыўся... зладзюга???

– Ах чорт... халера... на хвілінку толькі... ай-яй... – перацятым голасам выкрыкваў старшына і нябачачымі вачыма лыпаў па абшарах. Ён быў п’яны.

– Марш! – дзіка закрычаў сержант і з шалёнай сілай штурхануў яго ў каршэнь. – Марш ад нас, агіда, здраднік!!!

Агальцоў пахіснуўся, нядобра бліснуў вачыма, і, хістка крочачы, падаўся да кустоўя, дзе ўжо збіраліся людзі. За ім нясмела пайшлі двое дазорных.

Байцы, відаць, ужо зразумелі ўсё і, сабраўшыся ў гурт, сядзелі і стаялі – змораныя, злосныя і панылыя. Тут жа ў засені кустоўя ляжалі параненыя, двое бінтавалі трэцяму голую акрываўленую спіну. Пятрусь з болем у

сэрцы акінуў позіркам людзей – сабраліся далёка не ўсе, відаць, многія ўжо ніколі не прыйдуць сюды.

– Што нарабілі, сволачы! – гэткім крыкам сустрэў іх малады хлапец з голым перавязаным ужо чым-колечы плячом. – Гады! Дзе былі?

Старшына спыніўся і няўцямнымі вачыма пазіраў на скрыўленыя ад злосці і нянавісці твары. Куды толькі зніклі яго зухаватасць, спрыт і гонар. Да яго падскочылі двое, ірванулі за аўтамат, за мундзір, ударылі, павалілі на зямлю. Сержант, папярэджваючы расправу, закрычаў на іх, людзі адступіліся, але іх трэсла злосць.

Паступова Пятрусь крыху суняў сябе і, памятаючы, што трэба рухацца далей, падаў каманду строіцца. Пакуль людзі як-колечы ладкавалі параненых, што не маглі ісці самі, пакуль збіраліся з поля, сержант падлічыў байцоў – не хапала 18 чалавек. Гэта было жахліва. Яшчэ не дасягнуўшы фронта, за некалькі хвілін страціць амаль адну трэць складу, а што будзе далей? І раптам яго думка перамяжылася іншай – чаму не відаць Нупрэева? Ён жа толькі быў нядаўна, бег у лагчыне за сержантам. Устрывожаны нядобрым прадчуваннем, Пятрусь ірвануўся з месца, зірнуў сюды-туды: Нупрэева і Жука нідзе не было.

– Хлопцы, дзе Нупрэеў?

Але ніхто не бачыў яго, усе азіраліся, шукалі позіркамі, ды дарма. Праўда, з пшанічнага поля яшчэ ішлі апошнія параненыя, прыйшоў нейкі баец з раздробленай сківіцай, хуцы твар яго крывіўся ад нясцерпнага болю, бліскалі гневам вочы, але ён нічога не мог сказаць, толькі мычэў па-звярынаму роспачна і страшна. І тады апошнім у пшаніцы з’явіўся Жук. Пятрусь убачыў яго, калі хлопец быў ужо зусім блізка – убачыў і ўсхапіўся ад жахлівай здагадкі. Так яно і было. Разведчык, схіліўшыся ледзь не да самай зямлі, цягнуў на сабе Нупрэева.

Пятрусь тады кінуўся да яго, не адважваючыся яшчэ спытаць, што здарылася, стары баец бяссільна туліўся

збялелай шчакой да ўспатнелай хлапечай спіны і ціха стагнаў. Жук паднёс яго пад кустоўе, асцярожна паклаў на траву ў засень і цяжка выпрастаў натружаныя плечы.

– Вось параніла ў грудзі... навылет.

Сержант укленчыў над байцом, узяў яго абвялую руку – Нупрэеў адплюшчыў вочы.

– От і мне... трапіла, – прашапталі ягоныя вусны.

Нямеючы ад новага гора, Пятрусь скінуў з байца ягоныя рамяні, узняў скрываўленую гімнасцёрку. Рана была невялічкая, але крыві ўжо вылілася багата. У некага знайшоўся індывідуальны пакет – Пятрусь якколечы перавязаў чалавека.

– Ну, нічога, нічога, – няўпэўненым голасам заспакойваў ён байца. – Патрывай як-небудзь, хутка ўжо.

Нупрэеў стагнаў, зрэдку расплюшчваў вочы і неяк паасабліваму, быццам просячы што, пазіраў на сержанта.

Узняўшы вочы, Пятрусь убачыў ваўкавата-насуплены свой дазор, які давёў людзей да гэткай бяды. Зноў гарачая хваля гневу хлынула ў Петрусёў твар, хлопец усхапіўся і крыкнуў Агальцову:

– Глядзі, глядзі, што нарабіў ты, гад!

Агальцоў, відаць, працверазеў ужо, зразумеў усё, што сталася, і зацята патупіў вочы.

– Застрэліць яго за гэта! – крычаў баец, паранены ў плячо. – Земляка майго Антохіна забіла праз яго. Пёрычаў вунь канае.

– Не застрэліць, а асудзіць і расстраляць, – разважна казаў той спрытны баец, што на дарозе першы захапіў нямецкі аўтамат. Ён меў ласкавае і славутае прозвішча Мацейка і цяпер стаяў побач і злосна глядзеў на Агальцова.

– Ты чуеш: расстраляць цябе! – крычаў Пятрусь, адчуваючы, як ад абурэння і крыўды дрыжыць яго скіўіца. – Дзе тваё сумленне, старшына? Што нарабіў ты, пытаю?

Агальцоў маўчаў.

– Што размаўляць з ім? – зноў закрычаў паранены. – Гад ён, здраднік! Расстраляць яго, хлопцы!

Сержант, збянтэжаны і разгублены ад такіх жахлівых падзей, маўчаў, не ведаючы, што зрабіць з чалавекам. А людзі, поўныя злосці і нянавісці да віноўніка сваёй бяды, пазіралі на камандзіра і чакалі яго прысуду. І калі ўжо зменшыўся ўнутры першы імпэт гарачкі, Пятрусь выразна зразумеў, што і сапраўды старшыну Агальцова трэба расстрэльваць. Ужо такое вялікае было яго злачынства, такі неўтаймаваны гнеў байцоў, гэтулькі пралілося крыві, што інакш яго пакараць было нельга. І разам з выразнасцю гэтае кары з’явілася ціхая жаласць да блізкага знаёмага чалавека. Перад вачыма паўстаў другі Агальцоў, той, што ратаваў байцоў з-пад моста, кідаўся на варожую машыну на дарозе, што заўсёды нёс зухаватасць і смеласць. Два супрацьлеглыя пачуцці да хлопца скрыжаваліся ў сержантавым сэрцы, і ён разгубіўся.

Так, пакутуючы, Пятрусь шукаў справядлівага рашэння гэтай цяжкай задачы і паступова ўсё болей пераконваўся, што іншага прыдумаць нельга. Вунь, заплюшчыўшы ад болю вочы, ляжыць Нупрэеў, ляжаць яшчэ людзі, якіх загубіў ён – не той смелы парывісты Агальцоў, а гэты вось агідны п’яны разгільдзяй, што за распустай забыўся на абавязак, на сцяг і сумленне.

Сержант зірнуў на ваўкаватага хлопца – той, здаецца, разумеў ужо ўсё і маўчаў. Ён не прасіўся, не ўмольваў даравацьь, а маўчаў, быццам адчуваў, што заслужыў адзіную кару і гатовы быў прыняць яе. Не, бадай, няма чаго тут шкадаваць Агальцова, відаць, нешта нядобрае сядзела ў яго душы, калі адважыўся ён на такое. Пэўна, не дужа дарагі яму гэты сцяг і гэтыя выратаваныя для будучых бітваў людзі. Відаць, нейкая чарвяточына

заўжды гняздзілася ў ім, і не сёння дык заўтра нечым агідным усё роўна выявіла б сябе. Так думаў Пятрусь.

Агальцова расстралялі тут жа, у кустоўі.

Пятрусь быў перакананы ўжо, што зрабілі правільна, але гэтая перакананасць усё роўна не пазбавіла хлопца ад душэўнай скрухі. Жук таксама перажываў, маўчаў увесь час, і яго шырокаскулы твар, некалі такі прастадушны і ўсмешысты, чарнеў зараз ад невыказнага гора. Ён не апраўдваў, але, як і сержант, немаведама чаму шкадаваў Агальцова, шкадаваў яго неразумнага лёсу, так, нібы не сам старшына вытвараў усё агіднае, а якая іншая сіла прымушала яго на тое.

Старшыну пакаралі, а ў Петруся ўсё не ўсталёўваўся спакой. Душылі хлопца і боль і крыўда – крыўда на Агальцова, што прычыніў бяду і давёў сябе да пагібелі, крыўда на людзей, што ў час небяспекі дрэнна слухаліся камандзіра, крыўда на сябе, што не наладзіў дагэтуль добрай дысцыпліны. Хіба з такім бязладдзем могуць яны прабіцца праз фронт? З кожным днём усё цяжэйшым становіцца іх шлях, і ўсё больш арганізаванасці і парадку трэба атраду. Ён так і сказаў аб тым перад строем калоны. На яго змрочна пазіралі няголеныя маркотныя твары, і ён не ведаў, зразумеюць людзі ці не, але рашуча абвясціў, што парушальнікаў вайсковага парадку чакае тое, што сёння вось старшыну Агальцова.

Як-колечы ўладкаваўшы на самаробныя насілкі цяжка параненых, група зноў падалася ў поле. Ішлі цяпер болей кустоўем, з пералеску ў пералесак, рабілі вялікія крукі, часта спыняліся, пакуль дазор аглядаў шлях. У дазор сержант выправіў Жука і яшчэ двух спрытных байцоў. Яны дзейнічалі асцярожна. Пятрусь пільна сачыў за імі воддаль, прыслухоўваўся да сігналаў у зарасніках і ўсё пакрыкваў на людзей, каб тыя маскіраваліся і не лезлі на адкрытыя месцы.

Ужо на захадзе сонца зусім недалёка недзе гучна забухалі ў паветры моцныя гарматныя стрэлы. Хлопцы ў кустоўі аж здрыгануліся ад нечаканасці. Сержант

спыніў калону і разам з Мацейкам вытknуўся з алешніку. Перад імі ляжаў папараві касагор, зарослы калючым асотам, а наперадзе высіўся ўзгорак з яблыняй-дзічкай на фоне неба, і там, недзе за ўзгоркам, бухала батарэя. Хлопцы весела пераглянуліся, і, вярнуўшыся да байцоў, сержант радасна паведаміў людзям:

– Нашы блізка! Бач, палкавая батарэя б'е. Значыць, кіламетраў пятнаццаць – дваццаць...

«Толькі б праскочыць. Толькі б не наткнуцца і не загубіць людзей», – увесь час стукала ў галаў неадчэпная думка.

**Раздзел дванаццаты**

Ужо на змярканні да атрада далучылася яшчэ дванаццаць байцоў.

Іх недзе напаткаў дазор, і Жук выправіў іх з дазорным насустрач калоне. Яны нечакана з'явіліся з-за ячменнага пагорка ў полі, і сержант аж спалохаўся, убачыўшы столькі людзей. Але дазорны падаў голас, і Пятрусь, не разумеючы яшчэ, у чым справа, спыніў байцоў. Зблізку ён ўбачыў, што гэта былі свае, і ў хлопца адлегла ад душы. Да яго разам з дазорным падышоў нізенькі бялявы малодшы лейтэнант, ён з павагай зірнуў на сержанта, на яго сцяг і па-сяброўску падаў руку.

– Давай, сержант, разам шукаць удачы. Толькі туды вы дарэмна кіруеце: там нямецкія пантанёры ўсе дарогі забілі – і ў вёсцы, і ў лесе.

– А вы там былі? – запытаў Пятрусь.

– Ага. Мы адтуль. Тыцнуліся, пастралялі і назад. Трэба браць лявей, можа там як.

Яны выйшлі на пагорак і нейкі час пазіралі ў ахінутую ўжо вечарам лясную далячынь. Недзе наперадзе раскацістым рэхам грукацела бойка – чуваць было, як

роўна, з пэўнымі прамежкамі рваліся міны. Аднекуль з-за лесу ўзляцела ўгору зеленаватая чарга трасіруючых куль, недзе далёка раўлі, пэўна, буксуючы, танкі. Толькі ззаду было спакойна, а так усюды чулася прысутнасць войска, трывожнае дыханне вялікай затоенай сілы вайны.

Хлопец добра ўяўляў сабе, што варта толькі няўдала сунуцца ў гэтую гушчыню войска, як ад іхняй невялікай групы нічога не застанецца.

Людзі спадзяюцца на яго, думаюць, што ён усё ўжо абдумаў і ведае нейкі спосаб перайсці фронт. Надвячоркам ён падслухаў, як нехта ў калоне нягучна сказаў: «Глядзі, а сержант гэты талковы, ён, бадай, выведзе...». Ён тады аж счырванеў, пэўна, ад тых слоў, так яму здалося, што людзі памыляюцца ў ім. Бадай, не вельмі ён талковы – нялёгкі клопат займае зараз яго галаву, і ён не ведае, як зрабіць, каб выйшла лепш. Складаная справа выпала на яго долю. Калі б тут быў іх камандзір палка ці Петрусёў камандзір узвода, ужо яны надумалі б, як ашукаць ворага, як прабрацца да сваіх, – яны былі вучоныя і ведалі ўсе таямніцы вайсковай тактыкі. А сержант Кляновіч, як сляпое кацянё, на ўласных хібах пазнае тую навуку жахлівай барацьбы. З узгорка яны падаліся ўлева, як раіў малодшы лейтэнант. Маленькі, аброслы рудым шчаціннем, ён здаваўся маладжавым. Але на гэтым твары ляжаў такі ж трывожны клопат, які непакоіў і сержантаву душу, але камандзір, відаць, хаваў ад людзей тую трывогу і падбадзёрваў сябе і байцоў.

– Дзе-небудзь праскочым, – казаў ён, таропка крочачы за сержантам. – Не можа таго быць, каб не праскочылі.

Доўгі ліпеньскі дзень канчаўся позна, ноч была кароткая, і ў Петруся з’явіўся новы непакой ад думкі, што яны спозняцца і не ўправяцца да ранку. Ён ужо колькі разоў ціха камандаваў калоне «шырэй крок» і сам спяшаўся, але змораныя ногі хутка запавольвалі хаду. Урэшце яны зноў ўзбіліся на палявую дарожку і пайшлі па ёй. Грукат бою ўночы пацішаў крыху, толькі яшчэ ў розных месцах за лесам бухалі гарматы, і

небакрай раз-пораз успыхваў ад дрыготкага святла ракет.

У кусцістай балацявіне, на нізкім разбураным мастку яны дагналі галаўны дазор. Жук і хлопцы зморна сядзелі на ўцалелай перакладзіне, а ля іх стаяў нейкі чалавек з аброццю. Відаць было па ўсім, што яны чакалі калону.

– Ну, што спыніліся? – запытаў сержант, падыходзячы да іх.

Жук устаў з бервяна і кіўнуў галавой на чалавека:

– Вось дзядзька кажа, немцы там: з’язджаюць з дарогі і разгортваюцца ў полі.

– Так, так, – пацвердзіў чалавек, бразгаючы цуглямі. – Усё едуць і едуць. Нейкія машыны вялікія, танкі гэтыя, забілі ўсё поле, патапталі, панішчылі ўсё, каб іх вантробы панішчыла.

– А нашы даўно былі тут? – запытаў малодшы лейтэнант.

– Учора, толькі ўчора, людцы добрыя. Прайшлі каля вёскі, і вось мы ўжо пад немцам.

Пятрусь маўчаў. Побач на дарозе маўкліва стаялі людзі, яны пільна ўслухоўваліся ў іхнюю размову і пазіралі на камандзіраў, пэўна, чакаючы ад іх разумных каманд, удалых рашэнняў. Малодшы лейтэнант таксама маўчаў, толькі чухаў няголеныя сківіцы і аглядаў наваколле. – Дзядзька, скажы нам, дзе можна перайсці да нашых, каб на немцаў не натрапіць? – запытаў сержант.

– А хто ж яго ведае, – няўцямна паціснуў плячыма чалавек. – І там едуць, і там страляюць. Хіба толькі ў Гнілаўшчыне няма.

– А што гэта за Гнілаўшчына?

– Ды балота такое. Гэта вам трэба вярнуцца назад і прайсці вярсты з тры, а потым, значыць, па правую руку будзе Лозіна, а вы яшчэ пройдзеце... – Ну яе тую Лозіну,

– перабіў малодшы лейтэнант. – Назад вяртацца не будзем.

Пятрусь незадаволена паморшчыўся: ён таксама не хацеў вяртацца назад. Мо’ там і сапраўды лягчэй было прабрацца да сваіх, але ісці зараз назад проста адмаўляліся ногі.

І яны вырашылі ісці наперад. Пераскочыўшы канаву, сержант рашуча накіраваўся ўдоўж ручая па мокрай пожні. Чалавек пакорліва сказаў на развітанне: «Ну, памагай вам Бог», і, чамусьці зняўшы шапку, усё стаяў на мастку і глядзеў услед байцам.

Такім чынам выбар быў зроблен. Можа, і гібельны ён, а можа і ўдалы, але ўжо не было сіл больш чакаць. Няхай будзе што будзе – яны пойдуць уначы на страляніну, і не пашанцуе перайсці ціха – будуць прабівацца з боем. Хлопец адчуваў, што і людзі той жа думкі, усе падцягнуліся ў калоне, прыціхлі, іх сэрцы чулі важнае, цяжкае і рашучае і рыхтаваліся да яго.

Па начы яны перайшлі забалаць, потым нейкі гаёк. Рухаліся цяпер шнурком, адзін за адным і вельмі ціха. Сержант папярэдзіў, што цішыня – палавіна поспеху ў іх рызыкоўнай справе, і байцы памяталі гэта. Праўда, часам трашчэла пад нагой якая галінка, зрэдку натыкаўся на ламачыну які баец – на яго ціхенька шыкалі суседзі, і зноў усё сціхала. Дазор з Жукам наперадзе таксама ішоў шнурком, кожны як-колечы бачыў пярэдняга і кіраваў следам.

Усё ішло ладна, толькі ў адным месцы ледзь не сталася бяда. На нейкай пожні бліз дрэў, што чорнай кучай высіліся ў небе людзей спудзіў нечаканы ўскрык:

– Вэр да? Пароле![4]

Пятрусь адразу стуліўся на росным доле, за ім спрытна ўлегла калона, дазорцы, прыгнуўшыся, падаліся назад. Добра, што трава на пожні была густая, галлё не траплялася і нішто не выдала людзей.

– Воцу шрайст ду Пауль? Гейт да еманд?

– Гейт одэр ніхт, кан іх вісэн.

– Кватч.[5]

Паляжаўшы крыху, сержант узняўся і павярнуў у бок, за ім пацягнуліся ў змроку людзі. Жук хутка абмінуў яго, шапнуўшы, што пойдзе ўперад, следам падаліся дазорныя.

З гадзіну байцы ішлі па нейкаму полю, сержант часта прысядаў, азіраўся наўкола. Стала зусім ціха. Спыніліся, змоўклі ўсе гукі вайны, і хлопец ужо пачынаў сумнявацца, ці не страціў ён кірунак. Ён прыгадваў у памяці свой начны маршрут, і чамусьці выходзіла, што яны робяць кола і ідуць назад, туды, адкуль выйшлі. Ён ціха пытаў у суседзяў, ці не здаецца ім, што яны ідуць не туды. «Здаецца, трэба лявей браць, – шаптаў малодшы лейтэнант. «Ды ну, лявей, – казаў Мацейка. – Правей трэба». «Ну вось, – думаў сержант. – Вось і вывеў! Чорт бы ўзяў гэтую ціш, хоць бы стрэл дзе».

Яны ўсё ішлі па нейкай збажыне, наўскасяк перайшлі палявую дарожку, і тады раптам злева, зусім недзе блізка, парушыла цішыню кулямётная чарга. Яна заціхла, і рэха далёка аднесла ў ноч яе грукатлівы адгалосак. Людзі зноў спыніліся, прыслухаліся, але стрэлаў больш не было.

Пятрусь тады зразумеў, што гэтае блуканне не давядзе да дабра. Ён яшчэ прайшоў трохі па збажыне і спыніў калону ў жыце, на шырокім узмежку, дзе высілася ў начным небе доўгая шарэнга маўклівых таполяў.

– Ну, што далей? – запытаў малодшы лейтанант.

– Трэба выявіць, дзе мы. Так нельга блукаць. Можа, мы зноў да немцаў ідзём.

– Вось што, – дадаў сержант, падумаўшы. – Баец Жук, баец Мацейка пойдзеце ў разведку. Трэба знайсці якую вёску і распытаць у жыхароў абстаноўку. Мы будзем

чакаць тут.

Хлопцы ямчэй паддалі на плечы зброю і сышліся разам ля сержанта, а людзі адразу памкнуліся долу.

– І я пайду з імі, – сказаў малодшы лейтэнант.

Яны ўтрох адышлі ў збажыну, прыслухаліся, згадваючы, у які бок падацца. Потым зашамацела жыта, і хлопцы прапалі ў цемры.

«Ну вось і вывеў, – з’едліва дакараў сябе ў думках Пятрусь, – вось і спраўдзіў людскія надзеі. Развіднее – немцы ўбачаць дурных начлежнікаў і дадуць тады. Тут ужо наўрад ці дапамогуць хуткія ногі».

Ішоў час, а разведка не вярталася. Пятрусь сядзеў усё, абхапіўшы калені рукамі, і думаў, што рабіць, калі Жук і хлопцы нічога пэўнага не прынясуць з сабой. Потым ён устаў, каб адагнаць ад сябе сон, і прайшоўся пад таполямі. Як заўсёды, скарыстаўшы прыпынак, людзі спалі ці мо’ так ляжалі, прыціхшы. Пад дрэвам нехта летуценна праказаў, ні да каго не звяртаючыся: «Эх, бычка б дзе знайсці, так курыць хочацца...» У другім месцы двое, пэўна, сябры ціха размаўлялі між сабою. Хлопец падумаў: мяркуюць што пра іхнія трывожныя справы, услухаўся – не. Адзін расказваў другому пра даваеннае жыццё, сям’ю, людзей, – пра справы, вельмі далёкія ад гэтых таполяў і гэтай трывожнай няпэўнасці. Пятрусь прыгадаў тады і сваё асабістае: родныя месцы, што недалёка недзе раскінуліся тут, старую матулю. Як яна, напэўна, бядуе там – і за сям’ю, і за свайго «старшанькага». Пэўна, думае, дзе ён, ці жывы, а ён вось зусім блізка ад яе і жывы, толькі вельмі нешчаслівы ад розных вайсковых няўдач.

Хлопец прыйшоў у хвост калоны, тут на самаробных з жэрдак насілках ляжалі чацвёра цяжка параненых. Адзін ўсё стагнаў вельмі, нехта шавяліўся над ім. Пятрусь ціха спытаў, дзе Нупрэеў.

– Тут я, сержант... – ціха азваўся баец.

Сержант падышоў да дрэва, нахіліўся над чалавекам.

– Ну, як вам, дзядзька Нупрэеў. Баліць вельмі?

– Так, ці ведаеш, душыць усё. Не так баліць, як душыць. І кашлянуць нельга, – шэптам казаў чалавек.

– Ну, нічога. Патрывайце як-небудзь. Цяпер ужо блізка, – ціха супакойваў камандзір.

– Блізка, то блізка... але і далёка. Вёрст нямнога, ды цяжкія... тыя вёрсты. Асцерагацца трэба....

Пятрусь маўчаў, прыдушаны цяжарам клопату. Нупрэеў, відаць, зразумеў яго перажыванні і ў сваю чаргу пачаў супакойваць хлопца.

– Не бядуй... нічога. Як-небудзь абыйдзецца...

– Ведаеце, дзядзька Нупрэеў, можа лепей было б дзе захавацца ў лесе, дачакацца відна ды разгледзець, разведаць усё. А так чорт яго ведае, дзе што.

– Не, чакаць не трэба, – ледзь чутна пярэчыў Нупрэеў. – Ля перадавой небяспечна чакаць. Усюды ў полі салдаты... То сувязісты, то пасыльныя. Артылерыі поўна... Адразу заўважаць.

– Ну, а так што ж рабіць? А калі тут убачаць?

– Навошта? Да золаку трэба выйсці, – спакойна даводзіў баец, і ад гэтага яго спакою і ўпэўненасці лягчэй стала і на хлапечай душы. Ён падсунуўся да старога і ціха сказаў яму тое, што зараз вельмі непакоіла самога:

– Скажыце, няўжо можна, каб пасля ўсяго, што мы стрывалі, магло здарыцца якое горшае ліха?

– Ну, як сказаць... – ціха разважаў паранены, – здарыцца ўсё можа. Хіба доўга... зноў напароцца дзе... Глядзець трэба... Думаць... Мала сілы – на хітрасць браць... як казаў той...

«Эх, няўжо не ўдасца, няўжо напорамся дзе і загубім

усіх, – пакутаваў сержант. – І невядома тады, ці ўдасца зноў выратаваць сцяг!»

Калі вярнуліся разведчыкі, мабыць, было ўжо недалёка да раніцы. Сержант сам замест вартавога сустрэў іх над таполямі – яны моўчкі ішлі па ўзмежку. Перад хлопцам чамусьці спынілася чатыры постаці і, адчуваючы, як зноў трывожна забілася ў грудзях яго сэрца, Пятрусь знарок спакойна запытаў людзей:

– Ну як?

– А вось так, – зморана адказаў малодшы лейтэнант. – Справа швах. Трэба спяшацца.

– Трэба зараз жа ўзнімаць людзей і ісці. Вось чалавек дапаможа, – дадаў Мацейка.

– Ну вы расказвайце па-людску, – нецярпліва перабіў сержант і сеў на дол. Разведчыкі таксама селі. Мацейка і малодшы лейтэнант – бліжэй да камандзіра.

– Справа такая, – пачаў лейтэнант. – Недалёка Дняпро. Нашых да гэтай вёскі, як яе? – звярнуўся ён да невядомага.

– Да Клясціч, – адгукнуўся той.

– Да Клясціч, значыць, нашых на гэтым беразе няма. А каля Клясціч пераправа. З поўдня часці і грузы яшчэ перапраўляюцца на той бок, ну немцы і б’юць захапіць пераправу. Там ідзе люты бой ужо два дні. Сёння штосьці заціхла, але вось чалавек кажа, яны напёрлі новай сілы і заўтра, пэўна, ударыць.

– Так, так, – ажывіўся сержант. – Значыць, заўтра ўдараць на пераправу? А дзе, далёка гэтыя Клясцічы?

– Ды якое далёка – блізка, вярсты з чатыры, – заварушыўся ў цемры незнаёмы.

– Слухай, вось мы яго ўзялі ў праваднікі, – растлумачыў малодшы лейтэнант.

– Так, так, разумею, – задуменна казаў сержант. – Ну што ж! Давай!

Мацейка ўзрадавана ўсхапіўся на ногі.

– Ну вось, я ж казаў. Ударым, лупянём, каб пух-пяро з іх пасыпалася. Яны ў нас пабачаць пераправу. Толькі б час такі выбраць: каб цюцелька ў цюцельку, не раней і не пазней...

Сержант падбег у цемры да Нупрэева і коратка паведаміў яму аб новай задуме. Баец з уласцівай яму стрыманасцю выслухаў Петруся, падумаў крыху і пагадзіўся.

– Толькі глядзі, хлопец, – дадаў ён з долу, – ты камандзір, табе і адказваць за ўсё.

Пятрусь ужо добра адчуваў тую адказнасць, але намер яго ад гэтага не змяніўся. Яны ўсе кінуліся ўзнімаць людзей, і ў сержантавай галаве ўжо несліся новыя думкі – новы запал барацьбы захапіў яго, і ад былых пакут і сумненняў не засталося і следу.

## Раздзел трынаццаты

– Шырэй крок, шырэй крок, хлопчыкі, – лагодна і ўзрушана шаптаў у цемру сержант. Яны вельмі спяшаліся, дзядзька, відаць, добра ведаў шлях і жвава вёў атрад лагчынамі, раўкамі, хмызняком, а на ўсходзе ўжо святлела неба. «Хоць бы паспець, хоць бы паспець», – у такт стукам Петрусёвага сэрца мільгала ў галаве ўпартая думка. Трэба было да світання выйсці да гэтых Клясціч і там знянацку ўдарыць у спіну ворага, збянтэжыць яго і прарвацца на пераправу.

Пятрусь шпарка ішоў па сцяжынцы ўслед за начным праваднікам, калі нехта ціха гукнуў ззаду. Хлопец азірнуўся – незнаёмы баец даганяў яго.

– Таварыш сержант, там паранены просіць...

Сержант здагадаўся, што гэта Нупрэеў, і, сышоўшы са

сцежкі, па траве падаўся назад.

У рэдкім кустоўі яны напаткалі другога Нупрэевага насільшчыка – насілкі з чалавекам ляжалі ў доле.

– Што такое? Што? – тоячы трывогу, пытаўся сержант.

– Вось, памёр, – сказаў баец, высокі, худы і тонкі, як жардзіна, чалавек. – Усё ніштo было, а потым рука звалілася. Я паправіў, кажа: сержанта пакліч, сказаць хачу. І ўжо ўсё.

Сумныя жалобныя адчуванні тугім камяком падкацілі да горла – такая гэта была балючая страта і ў такі цяжкі час. Не намнога ён перажыў свайго спадарожніка, таго трохі дзівакаватага дзеда. Так і не збылася іхняя надзея выйсці з-пад немца. І так мала засталося ўжо ісці, і так патрэбны быў ён, светлай і мудрай душы чалавек...

Пятрусь выняў з Нупрэевай кішэні ягоныя дакументы, потым утрох яны аднеслі нябожчыка ад сцяжынкі і загарнулі цела шархоткай лубяной палаткай, што ўзялі з насілак.

Байцы кінуліся даганяць калону, а Пятрусь яшчэ пастаяў крыху, журботны і суровы.

Камяк усё душыў горла, але слёз не было, а быў толькі тупы зацяты боль... Потым хлопец пабег.

А ўсход усё болей і болей разбаўляў святлом сіняву ранішняга неба, туліўся, асядаў пад кустоўем змрок – паволі віднела. Вузкай сцяжынкай у хмызняку яны шпарка крочылі, абтрасаючы роснае веццe.

– Хутчэй, браточкі, хутчэй! – раз-пораз гучна прасіў сержант. Недзе ў душы ціхенька і настойліва тлеў страх не патрапіць на Клясцічы ці знянацку дзе нарвацца на ворагаў, чулася шмат небяспекі наперадзе, але перайначваць справу не было калі.

З хмызняку яны высыпалі ў рэдкі сасновы гаёк. Недзе за гэтым гайком грымелі выбухі, грукацелі кулямёты, і ва ўсіх баках калаціла лясныя прасторы галасістае рэха.

Гаёк, аднак, цягнуўся доўга. Людзі рассыпаліся між рэдкіх соснаў і бязладнай гурбой беглі ў напрамку страляніны. Пасля, на ўзлеску, на іх шляху сустрэўся яшчэ алешнік, пераадолеўшы які, Пятрусь першы вырваўся ў поле.

Так, яны спазніліся. На ўзлеску ў траве цягнуўся ланцуг пакінутых акопаў – добра абсталяваных стралковых ячэек. Відаць, тут яшчэ нядаўна былі ворагі, на брустверах валяліся парожнія гільзы, пустыя пачкі ад сігарэт, шматкі паперы. Дно акопчыкаў ўсцілала ўтаптаная трава, на якой гадзіну назад ляжалі фашысты. Наперадзе разлеглася някошаная сенажаць, а далей, за нізінай, высіўся двухгорбы голы пагорак, адкуль нязмоўчным грымоццем калыхала абшары лютая бойка.

Пятрусь, як укапаны, спыніўся на ўзлеску і ўпіўся вачыма ў гэты пагорак. Немцаў там ужо не бачна было, першая лінія траншэй на схіле маўчала, ля яе гарэлі два скасабочаныя танкі, бой зараз ішоў на самай вяршыне і, пэўна, на тым схіле. Бачна было, як бегалі, мільгалі там маленькія ў далечыні постаці людзей, адрозніць сваіх ад чужых было цяжка.

З кустоўя на ўзлесак выбягалі людзі, расхінаючы галлё, выскачыў малодшы лейтэнант.

– Спазніліся!? – крыкнуў ён.

Пачакаўшы хвіліну, пакуль з лесу выбяжыць рэшта байцоў, сержант скамандаваў людзям:

– Управа і ўлева – у ланцуг!

Байцы няўмела неяк разгарнуліся ў выгнуты ў сярэдзіне няроўны ланцуг і пашыбавалі па сенажаці. Пятрусь зноў бег побач з Жукам і без думак у галаве, адной толькі душой адчуваў, што калі яны спозняцца і на гэтую вышыню і, значыць, да пераправы, то сёння іхнія пакуты і намаганні, бадай, скончацца назаўсёды. Не так ужо шмат і людзей і боепрыпасаў, каб у адкрытым полі вытрымаць сутычку з рэгулярным

нямецкім войскам.

Тым часам пад грукат бою над полем усходзіла сонца. Прамністае і яркае, яно смела вынікла з-за сіняватай зарэчнай далечы і адразу хлынула на летнія прасторы патокамі зіхатлівага святла. Дол запярэсціў доўгімі палосамі ценяў пагоркаў, куп’я і людзей. Як на далоні, выразны і блізкі стаў той узлесак, з якога цяпер выбеглі людзі, і патануў у зіхатлівым усходнім мараве двухгорбы пагорак. І насустрач яму беглі знясіленыя людзі.

Урэшце сенажаць скончылася, яны дасягнулі падножжа пагорка. Сям-там валяліся ў быльнёгу целы забітых ворагаў, месцамі іх было надта густа, байцы на хаду падбіралі іхнюю зброю і патроны. Ужо блізка на схіле была першая пустая траншэя, да яе і імкнуўся гэты змораны ланцужок, калі ворагі з захопленай вышыні заўважылі іх. Кулямётныя чэргі з лютым фыркатам панесліся паўз галоў байцоў. Пятрусь азірнуўся і, задыхаючыся, крыкнуў свайму ланцугу:

– Кароткімі перабежкамі… наперад!

Людзі пападалі, дзе беглі, і ён упаў локцямі ў калючы асот і некалькі секунд сутаргава дыхаў, не ў стане прасунуцца ні на крок. Але рухацца на вышыню было неабходна: кожная хвіліна несла або смерць або выратаванне. Абдзіраючы локці і калені, хлопец пакутліва падаўся ўгару. Ён кіраваў да абсмыленага танка, які скасабочыўся на адхоне і яшчэ курэў смярдзючым дымам.

Але хлопец туды не дапоўз. Моцны кулямётны агонь прымусіў яго прыціснуцца да зямлі і, заміраючы ад небяспекі, нейкі час ён ляжаў, не адважваючыся узняць галаў. Пятрусь азірнуўся, за ім у дзесяці кроках, гэтак жа прытуліўшыся да зямлі, ляжаў нехта, болей у траве нікога не бачна было. Хлопцу стала страшна: ён зусім не ведаў, што зрабіць, каб як наблізіцца да траншэі. А калі сержант зірнуў назад, на ўзлесак, дык у душу яго шыбануў спалох. Там з’явіліся ўжо нейкія постаці, яны нешта таропка сноўдалі, пэўна, ставілі цяжкую зброю ці яшчэ што рыхтавалі з тылу трапіўшаму ў бяду атраду

байцоў.

У гэтую жахлівую безнадзейную хвіліну падпоўз да сержанта руплівы Жук, аднекуль побач з’явіўся Мацейка. Яны пераглянуліся зводдаль, грымоты бою нічога не далі сказаць сержанту, але хлопцы, здаецца, разумелі ўсё. Аднак зрабіць што-небудзь нельга было, па-ранейшаму шчыльны знішчальны агонь слаўся па зямлі.

Сержант усё шукаў у думках якога выйсця з страшнага гэтага становішча, але выйсця не было. Толькі не зважаючы на агонь, імклівым кароткім рыўком здолелі б яны ўдарыць па ворагу і дасягнуць траншэі. Трэба было неяк скалыхнуць, узняць людзей і рушыць іх на апошні ўдар. І сержант тады зноў нагадаў пра свой сцяг, які ўжо не раз дапамагаў яму ў цяжкія часы, на яго была цяпер апошняя надзея.

Але ўзняцца не было ніякай магчымасці. Суцэльныя струмені куль снавалі над зямлёй, крамсалі быльнёг кулямётныя чэргі, разляталася ў бакі ўсохлая жарства пагорка.

І ў той час Жук, які бліжэй да сержанта ляжаў у быльнёгу, ухапіў аўтамат і, згінаючы асот, папоўз угару. Ён не зрабіў сержанту ніякага знаку, не азірнуўся нават, але Пятрусь зразумеў яго, вельмі абнадзеіўся і яшчэ болей занепакоіўся за жыццё разумнага гэтага хлопца.

Жахлівыя бясконцыя хвіліны марудна паўзлі над вышынёй. Здавалася, ніколі не будзе канца гэтаму агню і гэтаму маруднаму шляху разведчыка. Жук дзейнічаў асцярожна: то поўз, то ляжаў, прыпаўшы тварам да калючага асоту, чакаў і зноў на крок пасоўваўся наперад. Але вось ён засланіўся ад кулямёта грамадзінай танка і прыкметна паскорыў свій шлях.

Неўзабаве яго камлюкаватая постаць была ўжо ля танка, хлопец узняўся на каленях і рукою нешта замахаў людзям. Пятрусь здзівіўся ягонаму спрыту але ніяк не здагадваўся, чаго хоча баец. А той, звярнуўшы

так на сябе ўвагу сержанта, ціхенька вытыркнуўся з-пад гусеніцы ля вядучага кола машыны. Ён, відаць, стрэліў з аўтамата – у грукаце бою сержант не ўчуў яго стрэлаў – і бліжні кулямёт, які дагэтуль так хлёстка слаў па зямлі смяртэльныя чэргі, нечакана замоўк. Жук азірнуўся, замахаў назад абедзвюма рукамі і з аўтаматам рынуўся за танк.

Нястрымны гарачы парыў шыбануў у галаў сержанту, і ён голасна, як мог, крыкнуў людзям:

– У атаку!!! Ура-а-а-а-а!!!

Ён ускочыў, адчайна выпрастаўся ў рост, размашыста матлянуў угары чырвоным шоўкам сцяга, як гэта рабіў некалі іх камандзір палка, і тады кінуўся за разведчыкам. Ён не азіраўся назад, але страшная думка – ці ўстануць за ім яго людзі – коратка і балюча працяла істоту. І яны ўсталі – у розных месцах, з пожні, быльнёгу паўскоквалі зморыныя байцы і, колькі было ў іх сілы, нязладна і слаба ў гэтым пякельным грукаце крычалі «ура» і беглі да траншэі.

Абмінаючы танк, сержант прыкмеціў, як замільгалі ў траншэі галовы ворагаў, як матлянулася і прапала недзе прыгнутая спіна Жука, як разанулі па пыльнаму брустверу нейчыя чэргі. У дзвюх руках трымаючы цяжкі на ветры сцяг, Пятрусь не мог стрэліць туды, але побач з ім з’явіліся яго людзі, і напорыста загрукацелі навокал іх чэргі. Немцы з траншэі стралялі [ў іх, не]калькі куль [ударыла па раз]горнутаму сцягу, сцебанула [сержанту вышэй] локця.

З усяе сілы сержант бег туды, дзе знік разведчык, і неўзабаве скочыў у гліністую, неглыбокую, з абрушанымі берагамі траншэю. Ён азірнуўся назад – скрозь па схілу беглі ўгору байцы. Разагнаныя Жукам, непадалёку кінуліся да хадоў зносін постаці ў касках, аднекуль моцна разанула над галавой аўтаматная чарга, і Пятрусь ледзь паспеў ад яе схавацца ў зямлю. У тое месца, куды падаліся немцы, рынуўся з бруствера малодшы лейтэнант, за ім скочыў Мацейка. Пятрусь прыціснуў падпахай паўзгорнуты, нязручны ў акопе

сцяг і з пісталетам у руцэ падаўся за гэтымі спрытнымі хлопцамі. З-за павароткі ён наскочыў на ворага, распластанага на дне, разгоніста пераскочыў скорчанае цела чырвонаармейца і стрэліў у мільгануўшую наперадзе зялёную спіну. Мацейка, прыгнуўшыся, спрытна шмыгаў ад павароткі да павароткі, папярэдне коратка прастрэльваючы з аўтамата кожны заварот; лейтэнанта ўжо чамусьці не бачна было. У розных месцах траншэі неўзабаве з’явіліся нашы байцы, і тады, ахопленыя адчаем, ворагі кінуліся ў рукапашную. У ранішнім паветры над вышынёй люта трашчалі чэргі, на смерць схапіліся ў бязлітаснай бойцы ашалелыя сержантавы людзі– качаліся, душылі, кулакамі і зброяй білі заклятых ворагаў, што сталі на іхнім шляху да вызвалення. Крыкі і страшная нечуваная лаянка несліся над узгоркам.

Урэшце па зігзагах хадоў зносін, падаючы і забіваючы, байцы дабраліся да вышыні, і тады Пятрусь убачыў і другую, меншую выспу, аддзеленую ад гэтай неглыбокай седлавінай. Відаць, там яшчэ адбівалася рэшта абаронцаў пераправы, якая таксама адкрылася адсюль разам з няроўнай стужкай ракі. У гэтым канцы пераправы віднелася нейкая вёска, пэўна, Клясцічы, да якіх спяшаліся байцы. У седлавіне свежым полымем гарэў яшчэ адзін танк, а фашысты пад прыкрыццём другога наступалі на выспу. Але, пэўна, яны заўважылі, што ў іхнім тыле здарылася нядобрае, і, коратка перабягаючы, падаліся ўбок, каб выйсці з-пад удару з тылу. Танк, даючы задні ход, раз-пораз бухаў па выспе, і адпаўзаў, прыкрываючы пяхоту. Пятрусь, угледзеўшы гэта, адчуў, што перамога здабыта, і прагавітае жаданне помсты з незвычайнай сілай узгарэлася ў ім. Ён ужо памкнуўся выскачыць з траншэі і праследаваць адступаўшых, але, спалохаўшыся, што так можна сапсаваць справу, зычна скамандаваў байцам:

– Па пяхоце агонь! Агонь!

Трапіўшы пад двайны ўдар, немцы ўжо зусім спуджана кінуліся назад, многія падалі, і на шляху адступаўшых усё больш заставалася нерухомых зялёных цел. Танк

таксама, не спыняючыся, шпарка папоўз па схілу, і тады над той выспай упершыню выніклі з акопаў родныя постаці нашых байцоў. Іх было зусім мала, але яны высыпалі ў седлавіну і беглі сюды, на свае страчаныя і зноў адваяваныя пазіцыі. Яны хутка набліжаліся, і Пятрусь бачыў, як імчаўся да яго маладжавы сержант з акрываўленай марляй на перавязанай шыі. Ён скочыў з бруствера, ледзь не паваліўшы хлопца, і поўны неўгамаванага ўзрушання схапіў Петрусёву руку і закрычаў у ягоны твар:

– Дзякуй, дзякуй вам найвялікшае! Уратавалі вы нас. А там ужо камандзір палка дзівуецца: адкуль такая падмога.

Пятрусь няўцямна пазіраў на радаснага сержанта, але, бадай, зусім не чуў ягоных узрушаных слоў. Толькі цяпер раптоўна зразумеў хлопец, што здзейснілася тое, да чаго рваўся ён у гэтыя пакутлівыя тыдні, і нясцерпная радасць апанавала сержанта. Прысланіўшыся да сцяны траншэі, ён страціў сілы, неяк абвяў, а з вачэй хлопца паплылі нястрыманыя слёзы. І ён не саромеўся гэтых слёз, не спяшаўся выцiраць іх, каб не ўбачылі людзі, што ўсё больш напаўнялі траншэю, і яго сэрца, здавалася, разам з ім плакала пякучай крывёю.

Незвычайна перамяшаліся зараз у яго адчуваннях і радасць сустрэчы, і боль пераЖытых пакут, і невядома, ад таго ці іншага ўсё макрэлі вочы і спазмы хапалі горла. Утуліўшы твар у шаўковыя складкі сцяга і абхапіўшы рукамі дрэўка, ён суняўся так на кароткі нястрымны момант і маўчаў. Але хвіліна расслаблення і болю ўжо прайшла.

Так, здаецца, скончыўся жахлівы шлях яго выпрабаванняў, і цьмяна яшчэ адчувалася хлопцу, што нязбыўная нейкая адмеціна навек адзначылася ў ягонай душы. Нешта вельмі важнае, шматзначнае і ўжо непаўторнае ў жыцці мінулася ззаду. Яшчэ не асэнсаваўшы, Пятрусь ужо добра адчуваў тое, і, вядома, у той час у траншэі не здагадваўся хлопец, што гэта між вялікіх трывог яго маладосці пакутліва нарадзілася

чалавечая сталасць і беззваротна адляцела ў нябыт кароткае яго юнацтва.

Прасветлены, супакоены і нібы пастарэлы, Пятрусь паглядзеў на людзей, што моўчкі стаялі ў траншэі абапал яго. Іх было ўжо многа, свае тут перамяшаліся з чужымі, усе спаважна пазіралі на сцяг і сержанта. І хлопец нечакана ўбачыў, што і Жук, які стаяў зводдаль, – сціплы, ціхі, адважны гэты разведчык – таксама нешта вельмі ўжо старанна туліць долу свае прастадушныя вочы, бы што пільна разглядае ў траншэі; заўважыў, што хлопец схуднеў з свайго шырокага непрыгожага твару. Прыкмеціў сержант, як у суседняга з ім віхрастага Мацейкі таксама заблішчэла на бруднай шчацэ расцёртая кулаком сляза, убачыў ён і радаснае ззянне многіх іншых вачэй ягоных байцоў і спагаду ды разуменне на тварах тутэйшых абаронцаў. Але, відаць, не час было вельмі радавацца ці святкаваць перамогу. Не мінула і чвэрці гадзіны, як скончыўся гэты пякельны бой, калі нехта ў траншэі ўстрывожана крыкнуў людзям:

– Глядзіце, глядзіце: немцы ідуць.

Пятрусь адразу ачнуўся, новая трывога адразу ўскалыхнула хлопца, напомніла пра яго камандзірскія абавязкі. Ён паклікаў да сябе Мацейку, таропка згарнуў палотнішча сцяга і сказаў гэтаму ўвішнаму байцу:

– На, нясі, браток. Я ўжо аднасіўся. Знойдзеш камандзіра – перадай...

На развітанне ён пацалаваў запылены, прабіты многімі кулямі шоўк і аддаў сцяг байцу. Яны размінуліся ў вузкай траншэі, на паваротцы Пятрусь у апошні раз з незразумелым сумам азірнуўся на сваю дарагую ношу...

Ён кінуўся даганяць байцоў, якія падаліся да першай траншэі. Зноў агорнуты нялёгкім прывычным клопатам, хлопец глядзеў на лугавіну, дзе яны нядаўна беглі сюды. Цяпер на ўсім гэтым травяністым прасцягу з узлеска ішлі на іх густыя шэрагі чорных эсэсаўцаў. Яны не хаваліся, а спакойна, як на парадзе, плячо ў плячо

ішлі па стракатай ад кветак траве – з падкасанымі рукавамі і нарыхтаванай зброяй.

І тады з-за вышыні глуха шчоўкнула ў паветры і цераз галовы байцоў з шархоткім фыркатам праляцела нешта тугое і важкае. Крыху далей эсэсаўскага шэрагу на лузе ў адно імгненне вырас шэры кучаравісты клуб пылу. Ён яшчэ не асеў у паветры, як цераз выспу нетаропка і важна пранёсся новы, гэткі ж шархоткі цяжкі снарад.

Сержант зірнуў на прыціхлых, насцярожаных людзей, на ўзрадаванага Жука і, бадай, упершыню з пачатку вайны замест страху адчуў у сабе спакойную, упэўненую сілу.

– Рота, слухай маю каманду! – голасна скамандаваў ён і, гучна лязгнуўшы, пхнуў у аўтамат новы магазін.

## Жураўліны крык

### 1

Гэта быў звычайны чыгуначны пераезд, якіх нямала параскідана на сталёвых шляхах зямлі.

Ён абраў тут зручную мясціну пуці, дзе скончыўся насып, што пралёг па асакаватай голай балацявіне, і рэйкі ўезджанай аднапуткі беглі па жвіры амаль на ўзроўні зямлі. Гасцінец, споўзшы з пагорка, пераскакваў чыгунку і заварочваў у бок лесу, утварыўшы скрыжаванне, якое людзі некалі абгарадзілі рабымі слупкамі і паставілі два гэткія ж рабыя шлагбаумы. Побач адзінока мясцілася тынкаваная будка-старожка, дзе ў сцюжу драмаў ля напаленай печкі які-небудзь бурклівы дзед-вартаўнік. Цяпер у будцы не было нікога. Золкі восеньскі вецер раз-пораз рыпаў яе насцеж расчыненымі дзвярыма; бы скалечаная рука чалавека, тырчаў у сцюдзёнае неба абламаны шлагбаум, другога зусім не было. Ніхто ўжо не дбаў пра гэтую чыгуначную пабудоўку: новыя, куды

больш важныя клопаты адолелі людзей – і таго, хто некалі гаспадарыў тут, і гэтых, што спыніліся цяпер на закінутым знямелым пераездзе.

Захінуўшыся ад ветру каўнярамі зашмальцаваных, аблепленых глінай шынялёў, шасцёра іх стаяла купкай ля зламанага дышля шлагбаума. Тулячыся адзін да аднаго, яны маркотна пазіралі ў восеньскую далеч і слухалі камбата, які ставіў ім баявую задачу.

– Дарогу трэба перакрыць на суткі, – сіпатым прастуджаным голасам казаў капітан, высокі кастлявы чалавек з зашчаціненым, змораным тварам. Вецер злосна ляскатаў рогам плашч-палаткі па яго запэцканых ботах, матляў на грудзях доўгія матузы завязак. – Заўтра, як сцямнее, адыдзеце за лес. А дзень трымацца...

Там, у полі, куды яны невясёла ўглядаліся, высіўся касагор з дарогай, ля якой траслі пажоўклым лісцем дзве вялізныя каржакаватыя бярозы, і за ім, дзесьці на даляглядзе, заходзіла нябачнае сонца. Вузенькая шчылінка святла, прарэзаўшыся ў хмарах, як лязо вялізнае брытвы, матава блішчала на небе. Сумны восеньскі адвячорак поўніўся шэрасцю фарбаў, надакучлівай сцюдзёнай золлю і ўсёабдымнай трывогай навіслай над краем бяды.

– А як жа з шанцавым інструментам? – грубаватым басам запытаў старшына Карпенка, камандзір гэтай невялічкай групы. – Рыдлёўкі ж патрэбны.

– Рыдлёўкі? – задуменна перапытаў камбат, узіраючыся ў бліскучую палоску захаду. – Пашукайце што самі. Няма рыдлёвак. І людзей няма, не прасі, Карпенка, сам ведаеш...

– Ага, і людзей не шкодзіла б, – падхапіў старшына. – А то што пяцёра? І то вунь адзін – новенькі ды гэты «вучоны» – ваякі мне! – злосна бурчаў ён, стоячы бокам да камандзіра.

– Супрацьтанкавыя гранаты, патроны к пэтээру, колькі

можна было, вам далі, а людзей няма, – стаяў на сваім камбат. Ён яшчэ паўглядаўся ўдалячынь, зачараваны бляскам захаду, а пасля, устрапянуўшыся ад задумы, павярнуўся к Карпенку – мужнаму, прысадзістаму, шыракатвараму, з рашучымі вачыма і цяжкімі сківіцамі. – Ну, жадаю ўдачы.

Ён падаў руку, агорнуты новым клопатам, старшына раўнадушна пацiснуў яе. Гэтак жа стрымана паціснуў халоднуюкамбатаву далонь і «вучоны» – у акулярах, высокі баец Фішар; без крыўды, шчыра зірнуў на камандзіра другі няўдака, на якога скардзіўся старшына, – малады, са свежымі сумнымі вачыма радавы Глечык.

– Нічога, чорт не здрадзіць – свіння не з’есць, – бесклапотна пажартаваў пэтээравец Свіст, белабрысы, расшпілены на ўсе кручкі і гузікі, жулікаваты з выгляду хлопец.

Спаважна падаў сваю пухлую далонь непаваротлівы мардаты Пшанічны, і пачціва, прыстукнуўшы бруднымі абцасамі, развітаўся чарнявы, прыгожы Аўсееў. Паддаўшы плячом аўтамат, камандзір батальёна нялёгка ўздыхнуў і коўзкім, няспрытным па гразі крокам пайшоў даганяць калону.

Яны засталіся ўшасцёх, агорнутыя самотай ростані, і нейкі час моўчкі пазіралі ўслед капітану, батальёну, кароценькая, зусім не батальённая калона якога, мерна пагойдваючыся ў вячэрняй імгле, хутка аддалялася к лесу.

Старшына быў незадаволены, сярдзіты, унутры яго тужліва варушылася невыразная, шчымлівая трывога за іх лёс і за тую нялёгкую справу, дзеля якой яны засталіся тут. Але ён хутка прыдушыў у сабе нудлівы душэўны гук і прывычна закрычаў на людзей:

– Ну што стаіце? Гэць да працы! Глечык, пашукай, мо дзе ламачына якая. У каго ёсць малыя, давай капаць. Пакуль відно...

Спрытным рыўком ён ускінуў на плячо цяжкі кулямёт і, з хрустам ломячы ссохлы быльнёг, пайшоў над канавай. Байцы адзін за другім неахвотна падаліся за сваім камандзірам.

– Ну вось, адсюль і пачнём, – сказаў Карпенка, укленчыўшы ля канавы і зазіраючы па-над чыгункай на касагор. – Давай, Пшанічны, фланговым будзеш. Лапатка ў цябе ёсць – пачынай.

Камлюкаваты Пшанічны разваліstай хадою ступіў наперад, зняў з-за спіны вінтоўку, адклаў яе ў быльнёг і пачаў вымаць засунутую за пояс лапатку. Адмераўшы ад яго якіх дзесяць крокаў уздоўж канавы, Карпенка зноў прысеў, паглядзеў сюды-туды і азірнуўся, шукаючы вачыма, каго прызначыць на новае месца. З яго грубаватага твару не сыходзіла заклапочанасць і злосная незадаволенасць тымі несамавітымі сіламі, якія яму далі.

– Ну, каму тут? Вам, Фішар? Хаця ж у вас лапаткі няма. Во мне яшчэ ваякі! – злосна бурчаў старшына, устаючы з калена. – Колькі дзён на фронце, а лапаткі яшчэ не прыдбаў. Што, мо чакаеце, калі старшына дасць? Ці мо немец у падарунак прышле?

Фішар не апраўдваўся і не пярэчыў, але, бянтэжачыся ад непрывычнай вымовы, толькі няўклюдна горбіўся і без патрэбы папраўляў акуляры ў чорнай металёвай аправе.

– Урэшце, чым хочаце, а капайце, – злосна кінуў Карпенка, пазіраючы некуды ўніз і ўбок. – Мая справа маленькая, але каб пазіцыю абсталяваў як мае быць.

Ён рушыў далей – моцны, эканомны і ўпэўнены ў рухах, з такім выглядам, быццам быў не камандзірам узвода, а па меншай меры камандзірам палка. За ім пакорліва і абыякава падаліся Свіст і Аўсееў. Азірнуўшыся на заклапочанага Фішара, Свіст саўгануў на брыво пілотку і, выскаляючы белыя зубы, бяскрыўдна пакпіў:

– От задачка прафесару, ярына зялёная! Дасца ў знакі...

– Не балбачы. Лепш ідзі пад той белы слупок ля пуці, там і капай, – загадаў старшына.

Свіст збочыў у бульбянішча, яшчэ раз з усмешкай азірнуўшыся на Фішара, які нерухома стаяў на сваёй быльняговай пазіцыі і заклапочана чухаў няголеныя пашчэнкі.

Карпенка з Аўсеевым падышлі да старожкі, старшына па-гаспадарску пакратаў расчыненыя рыпучыя дзверы і пераступіў парог пакінутай будыніны. З двух выбітых вокнаў струменілі пранізлівыя патокі скразняку, матляўся на сцяне надарваны зрудзелы плакат, які заклікаў некалі разводзіць пчол; моцна смярдзела сажай, пылам і яшчэ нечым нежылым і непрыемным. На затаптанай падлозе валяліся кавалкі тынкоўкі, камякі гразі з падэшваў і саламяная пацяруха. Старшына моўчкі аглядаў скупыя сляды былога чалавечага ўтулку; Аўсееў стаяў ля парога.

– Вось каб сцены таўсцейшыя, было б укрыцце, – падабрэўшым тонам разважліва сказаў Карпенка.

Аўсееў выцягнуў руку – памацаў абабіты бок грубкі.

– Што, думаеш, цёплая? – строга ўсміхнуўся Карпенка.

– А давайце напалім. Раз не хапае інструменту, можна па чарзе капаць і грэцца, – ажывіўся стрыманы дагэтуль баец. – Га, старшына?

– Ты што – да цешчы ў госці прыйшоў? Грэцца! Чакай, вось падыдзе раніца – ён табе дасць прыкурыць. Спякотна стане.

– Ну, дык што ж – спякотна?.. А які сэнс мерзнуць? Давай распалім у печцы, вокны замаскіруем... Га, камандзір? – дамагаўся Аўсееў, лена паводзячы чорнымі цыганскімі вачыма.

– Не балбачы. Ідзі вунь каля Свіста займай пазіцыю і давай асталёўвацца.

Карпенка выйшаў з будкі і сустрэў Глечыка, які цягнуў

аднекуль скрыўлены прэнт. Убачыўшы камандзіра, ён спыніўся і зважліва паказаў іржавую жалезіну.

– Вось нібы ломік – раздрабняць. А выкідваць і жменямі можна.

Глечык вінавата ўсміхнуўся, старшына няпэўна паглядзеў на яго, хацеў сказаць нешта строгае, але, змякчэўшы ад наіўнага выгляду маладога байца, сказаў проста:

– Ну, давай. Вось тут будзеш капаць – на гэты бок каравулкі, а я ўжо на той бок – у цэнтры. Давай, не марудзь. Пакуль відно...

**2**

На змярканні з-за лесу напаўзлі шызыя змрочныя хмары. Сваім шчыльным цяжарам яны зусім загрувасцілі неба, затулілі блішчастую шчыліну над касагорам; стала пагрозліва, трывожна і сцюдзёна. Вецер з шалёнай восеньскай лютасцю абтрасаў бярозы над шляхам, церабіў, вымятаў лісцвяны маладняк прысадаў, гнаў цераз чыгунку ў шэрую далеч шапатлівыя статкі лісця. Каламутная вада ў лужыне ад напору ветру аж выплёсквалася з дарогі і пырскала на ўзмежак сцюдзёнымі бруднымі кроплямі.

Байцы на пераездзе рупна ўляглі ў работу – капалі, дзяўблі, угрызаліся ў сцвярдзелую залеж зямлі. Пшанічны ледзь не па самыя плечы закапаўся ў рудую кучу гліны; далёка навокал адкідваючы рассыпастыя камякі, зухавата і весела асталёўваўся разгарачаны Свіст. Ён зняў з сябе ўсе папругі і вопратку і, застаўшыся ў гімнасцёрцы, спрытна сыпаў з яміны малой пехацінскай лапаткай. У дваццаці кроках ад яго, таксама над лініяй, час ад часу спыняючыся, адпачываючы і аглядваючыся на сяброў, крыху з меншым стараннем акопваўся Аўсееў. Ля самай будкі спрактыкавана ладзіў кулямётную пазіцыю старшына Карпенка; на другі бок ад яго старанна дзёўб зямлю расчырванелы, потны Глечык. Нарыхліўшы жалезінай

грунт, хлопец рукамі выкідваў яго, пасля прыгаршчамі выгортваў пясок і зноў дзёўб. Адзін толькі Фішар без справы самотна сядзеў у бporcупыльнягу, дзе яго пакінуў старшына, і, тулячы ў рукавы азяблыя рукі, гартаў нейкую кніжку.

За гэтым заняткам і ўбачыў яго Карпенка, калі, прыпыніўшы працу, выйшаў з-за старожкі. Старшына быў змораны, заклапочаны і адразу аж перасмыкнуў тварам, убачыўшы бяздзейнасць свайго падначаленага. Вылаяўшыся, ён накінуў на спацелую спіну скарэлы ад гразі шынель і накіраваўся па-над канавай да няўдакі-байца.

– Ну, што? Доўга вы будзеце сядзець? Можа, думаеце, што калі няма лапаткі, дык я вас у батальён адпраўлю, у бяспечнае месца?

З выгляду абыякавы да ўсяго, Фішар разгублена заміргаў пад акулярамі блізарукімі вачыма, няспрытна ўзняўся з долу і, заікаючыся ад хвалявання, хутка-хутка загаварыў:

– М-м-можаце не т-т-турбавацца, таварыш камандзір, гэта выключаецца. Я н-н-не менш за вас раз-з-з-зумею свае абавязкі і зраблю тое, шт-т-то трэба, без лішніх эксцэсаў. Вось...

Крыху здзіўлены і астуджаны нечаканым выпадам гэтага ціхага чалавека, старшына не знайшоў што сказаць далей, толькі перадражніў:

– Іш ты: эсцэксаў!

Яны стаялі так адзін супраць аднаго: усхваляваны, з дрыжачымі рукамі, вузкаплечы баец і ўжо супакоены, упэўнены ў сабе каржакаваты ўладарны камандзір. Карпенка, нахмурыўшы калючыя бровы, з хвіліну гадаў, што зрабіць з гэтым няўмекам, а пасля, успомніўшы, што трэба на ноч выставіць які-ніякі дазор, ужо спакайней сказаў:

– Вось што: бярыце вінтоўку і марш за мной.

Фішар не запытаў, куды і навошта, а з падкрэсленай абыякавасцю запіхнуў за пазуху кніжку, уздзеў на плячо вінтоўку з прымкнёным штыхом і, спатыкаючыся, пакорліва пабрыў за старшыной. Карпенка на хаду апранаў у рукавы шынель, аглядаў, як акопваліся астатнія. Мінаючы сваю ячэйку, ён коратка кінуў байцу:

– Вазьмі ж лапатку.

Яны выйшлі на пераезд і па заследжанай сотняю ног гразкай дарозе накіраваліся на пагорак з дзвюма бярозамі.

Тым часам паволі цямнела. Неба над лесам зусім счарнела ад хмар, якія шчыльна абклалі прастор і згусціліся на небасхіле змрочнай суцэльнай масай. Вецер усё не ўціхаў і злосна шкуматаў полы шынялёў, сівернай сцюжай пранікаў за каўнер, у рукавы, выпякаў з вачэй сцюдзёныя слёзы.

Карпенка крочыў хутка, не вельмі разбіраючы дарогі і не дужа шануючы свае кірзавыя новыя боты – адзіную адзнаку яго камандзірскай годнасці. Затуляючыся ад ветру каўняром шыняля, у нацягненай на вушы пілотцы, за ім шкандыбаў Фішар. Баец зноў набыў свой звычайны, абыякавы да ўсяго выгляд і, скіраваўшы позірк у загусцелую гразь дарогі, асцерагаўся паварушыць забінтаванай, балючай ад скулаў шыяй. У канавах шапацела на ветры лісце, наўкола тапырылася ржышча асірочанага восенню поля.

З сярэдзіны касагора Карпенка азірнуўся, каб агледзець зводдаль пазіцыю свайго ўзвода, і ўбачыў, што яго падначалены адстаў далёка і ледзьве плёўся, зноў чытаючы на хаду сваю кніжку. Міжвольна падзівіўшыся з гэткай кніжнай цікаўнасці, Карпенка спыніўся і чакаў, пакуль той даганяў яго. Але Фішар не вельмі спяшаўся, ён так паглыбіўся ў свой занятак, што не бачыў і старшыну, забыўся, відаць, куды і навошта ішоў, толькі нешта варушыў сабе вуснамі. Старшына нахмурыўся, але тут яго самога ўзяла цікавасць, і ён не закрычаў, а нецярпліва пераступіў па гразі і строга спытаў:

– Што гэта за кніжка ў вас?

Фішар, відаць, яшчэ не забыўшыся на нядаўнюю сварку, стрымана бліснуў акулярамі і адхінуў чорную вокладку.

– Біяграфія Чэліні.

– А то хто? – Карпенка кіўнуў на фотаздымак, дзе на чорным фоне стаяў нейкі голы з валасатай галавой чалавек і, пазіраючы ўбок, хмурыў бровы.

– Давід! – тым часам абвясціў Фішар. – Славутая статуя Мікеланджэла. Зразумела?

Але Карпенка не зразумеў нічога. Ён яшчэ зірнуў на здымак, акінуў недаверлівым позіркам Фішара і, абыякавы да кніжкі, ступіў наперад. Трэба было спяшацца, каб завідна выбраць, дзе паставіць сакрэт, і старшына шпаркім крокам рушыў далей. А Фішар заклапочана ўздыхнуў, расшпіліў процівагазную сумку і ў дадатак да кавалка хлеба, старога «Огонька» і патронаў, якімі была напіхана яна, ашчадна засунуў туды і кніжку. Пасля, крыху павесялелы, ужо не адстаючы, ішоў за старшынóй.

– Вы што – сапраўды які вучоны? – невядома чаму насцярожыўшыся, ваўкавата запытаў Карпенка.

– Ну, вучоны – можа, празмернае вызначэнне для мяне. Я толькі кандыдат мастацтвазнаўства.

Карпенка трохі памаўчаў, намагаючыся зразумець штосьці, а пасля неяк прыцішана, быццам баючыся выявіць сваю цікаўнасць, запытаў:

– Гэта што? Па карцінках спец, ці як?

– І па карцінах, але я галоўным чынам па скульптуры эпохі Адраджэння. У прыватнасці, спецыялізаваўся па італьянскай скульптуры.

Яны выйшлі на пагорак, з-за якога адкрыліся новыя, ужо азмрочаныя вечарам далі – поле, лагчына з хмызняком, далёкі ельнік, наперадзе ля дарогі –

саламяныя стрэхі вёскі. Побач, ля канавы, растросшы на ветры тонкае голле, жалобна шумелі зрудзелым лісцем бярозы. Яны былі тоўстыя і, відаць, дужа старыя, гэтыя спрадвечныя вартавыя шляхоў, – з парэпанай ад старасці, счарнелай карою, густа абсыпаныя цвёрдымі капытамі нарастаў, з пазабіванымі ў бакі чыгуначнымі кастылямі. Пад бярозамі старшына збочыў з дарогі, пераскочыў канаву і, зашастаўшы ботамі па ржышчы, накіраваўся ў поле.

– А што ён, гэты голы, з гіпсу злеплены, ці як? – запытаў ён, уступіўшы сваёй нечаканай цікаўнасці.

Фішар стрымана, аднымі вуснамі паблажліва ўсміхнуўся, як да малога, і вытлумачыў:

– О не. Гэтая пяціметровая фігура Давіда высечана з крыцкага мармуру. Наогул гіпс як матэрыял для манументальнай скульптуры ў старажытнасць і ў часы Рэнесансу амаль не ўжываўся. Гэта ўжо атрыбут новага часу.

Старшына падумаў.

– Кажаш, з мармуру? А чым жа ён такую аграмадзіну высек? Можа, якой машынай?

– Ну што вы?! – здзівіўся Фішар, сігаючы побач з Карпенкам. – Хіба можна машынай? Толькі рукамі, вядома.

– Ого! Гэта ж колькі часу трэба было дзяўбці? – у сваю чаргу здзівіўся старшына.

– Два гады, з памочнікамі, вядома. Трэба сказаць, што ў мастацтве гэта яшчэ не вялікі тэрмін, – памаўчаўшы, дадаў баец. – Рускі мастак Аляксандр Іванаў, напрыклад, працаваў над сваім «Месіяй» амаль 22 гады, француз Энгр пісаў «Крыніцу» 40 год.

– Глядзі ты! Відаць, трудна. А ён хто такі, што зрабіў гэтага Давыда?

– Давіда, – рупна папravіў Фішар. – Ён італьянец,

ураджэнец Фларэнцыі.

– Што – мусалінец?

– Ды не. Ён жыў даўно. Гэта славуты мастак Адраджэння. Найвялікшы з вялікіх.

Яны яшчэ прайшлі далей, Фішар ужо трымаўся побач, і Карпенка скоса разы два зірнуў на яго. Худы, з запалымі грудзьмі, у кароткім, падпяразаным пад хлясцік шынялі, з забінтаванай шыяй і зашчаціненым тварам, баец меў вельмі ніякаваты выгляд. Адны толькі чорныя вочы пад тоўстымі шкельцамі акуляраў цяпер неяк ажылі і свяціліся адбіткам далёкай стрыманай думкі. Старшына падзівіўся тайком з таго, што вось за гэткім несамавітым выглядам хаваецца адукаваны і, здаецца, неблагі чалавек. Праўда, Карпенка быў упэўнены, што ў ваеннай справе Фішар не многа варты, але ў глыбіні старшыновай душы нешта ўжо расслабла і падабрэла да гэтага байца.

Праз сотню крокаў ад дарогі Карпенка спыніўся на ржышчы, паглядзеў у бок вёскі, азірнуўся назад. Пераезд у нізіне ўжо ледзьве шарэў у вячэрнім паўзмроку, але адгэтуль яшчэ быў відзён, і старшына падумаў, што месца для сакрэту тут будзе здатнае. Ён прытупнуў абцасам аб мяккую зямлю і, пераходзячы на звычайны свой камандзірскі тон, загадаў:

– Вось тут. Капай. Ноччу спаць ні-ні. Глядзі і слухай. Пойдуць – страляй.

Фішар зняў з-за пляча вінтоўку і, аберуч узяўшыся за кароткі тронак старшыновай лапаткі, няўмела калупнуў іржышча.

– Эх ты! Ну хто так капае! – не стрываў старшына. – Дай сюды.

Ён выхапіў у байца лапатку і, лёгка ўразаючыся ёю ў рыхлую зямлю нівы, спрытна растрасіраваў адзіночную ячэйку.

– Вось на. Так і капай. Ты што – кадравай не служыў?

– Не, – прызнаўся Фішар і першы раз шчыра ўсміхнуўся. – Не давялося.

– Яно і відаць. А цяпер вось гора з вамі, гэтымі...

Ён хацеў сказаць «вучонымі», але змоўчаў, не жадаючы ўкладваць у гэтае слова свой былы з’едлівы сэнс. Пакуль Фішар не дужа ўмела калупаўся ў зямлі, Карпенка прысеў у ржышчы і, тулячыся ад ветру, пачаў скручваць цыгарку. Вецер выдзьмуваў з паперкі тытунёвую пацяруху, старшына ашчадна прытрымліваў пальцамі і паспешна загортваў яе.

Прыцемкі тым часам усё шчыльней атульвалі зямлю, увачавідкі зацягваўся змрокам пераезд з будкай і паламаным шлагбаумам, раставаліся ў ночы далёкія стрэхі вёскі, толькі па-ранейшаму несціхана і трывожна шумелі ля шляху бярозы.

Захінаючы ад ветру трафейную запальніцу, старшына згорбіўся, каб прыкурыць, але раптам яго твар уздрыгнуў і трывожна насцярожыўся. Высунуўшы з каўняра жылістую шыю, Карпенка азірнуўся на пераезд, Фішар таксама ўчуў нешта і як быў, укленчыўшы на ржышчы, так і здранцвеў у напружанай позе. На ўсходзе за лесам, што быў за іх пераездам, прыглушаная ветрам, зладна раскацілася ўдалечыні хуткастрэльная кулямётная чарга. Неўзабаве на яе адгукнулася другая, радзейшая, відаць, з нашага «максіма», а затым слабым далёкім водсветам, парушыўшы вячэрні змрок, загарэлася і пагасла мігатлівая чарада ракет.

– Абышлі! – з сярдзітай прыкрасцю сказаў старшына і вылаяўся.

Ён ускочыў, паўзіраўся ў далёкі сцямнелы краявід і зноў са злосцю, роспаччу і трывогай пацвердзіў:

– Абышлі, гады! Чума на іх галаву!

І занепакоены, каб там, на пераездзе, чаго не здарылася без яго, Карпенка шпарка пайшоў па нізе ў

напрамку да недалёкай дарогі.

**3**

На пераездзе першы ўчуў нядобрае баец Пшанічны. Да змяркання ён ужо выкапаў глыбокі, у свой рост, акопчык, прыладзіў на дне прыступак, каб можна было страляць і выглядаць, а таксама яміну ўбаку, каб пры патрэбе спрытней выбрацца наверх. Пасля старанна прытрусіў хрусткім быльнягом бруствер, аддаў лапатку Глечыку, які ўсё яшчэ калупаў побач жалезінай, і, ускочыўшы, стуліўся на дне новага сховішча.

Тут было зацішна і даволі ўтульна. Кінуты на спод ахапак быльнягу засцерагаў ад зябкай сырасці. Пшанічны захінуў ім свае ногі ў стаптаных брудных чаравіках, выцер аб палу шыняля запэцканыя рукі і развязаў рэчавы мяшок. Там баец трымаў на галодны час акраец здабытага ў нейкай вёсцы сялянскага хлеба і добры кавалак сала. Ён даўно ўжо прагаладаўся і хацеў есці, але на людзях усё не наважваўся рабіць гэта, бо тады трэба было б падзяліцца, а дзяліцца Пшанічны не хацеў. Ён ведаў, што ў іншых, апроч якога кавалка чэрствага хлеба, з яды болей не было нічога, але не яго гэта клопат, хай кожны дбае пра самога сябе, а на тое, каб дбаць пра ўсіх, – ёсць начальства, хоць бы Карпенка, гэты строгі і шчыры служака. І цяпер, напрацаваўшыся і нямала згаладаўшыся, Пшанічны разгарнуў у прыцемках паперку, дастаў з кішэні складаны ножык на медным ланцужку і, адрэзаўшы палову кавалка, пакроіў яго на дробныя тлустыя скрылёчкі. Астатняе ён загарнуў у газеціну і схаваў на спод напакаванай рознай драбязой тарбіны.

Са смакам жуючы не вельмі спраўнымі, пашчэрбленымі ўжо хваробай і часам зубамі, Пшанічны думаў, што трэба было б яшчэ назбіраць быльнягу, каб закапацца ў яго і «прыкімарыць», як кажа Свіст, якую гадзіну ўначы. Праўда, узводны трапіў дужа прыдзірлівы і вельмі службісты, гэты прыдумае яшчэ якую работу да ранку, але Пшанічны не такі прастак, як той Глечык ці падслепаваты Фішар, каб са шчырасцю рабіць усё, што

ад яго дамагаюцца. Ва ўсякіх абставінах ён зробіць не болей як для адводу вачэй і як-небудзь сябе не пакрыўдзіць. Гэтыя павольныя і разважныя ў цішы думкі чалавека раптам прыпыніліся ад далёкіх раскацістых стрэлаў. Пшанічны ад нечаканасці прыціх з напханым ядою ротам, услухаўся, потым, хуценька згарнуўшы ў кішэню хлеб і сала, узняўся ў акопе. Над лесам выслізнула ў неба рассыпістая гронка ракет, асвяціла на момант чорныя зубцы лясных верхавін і знікла.

– Гэй! – крыкнуў баец да сваіх таварышаў. – Чуеце? Акружаюць!

Вакол ужо стала зусім цёмна. Беленымі сценамі трошкі шарэла старожка, вырысоўваўся яшчэ ў небе зламаны дышаль шлагбаума, чутна было, як капаўся побач у яміне рупны Глечык і ля чыгункі дзяўблі зямлю Свіст з Аўсеевым.

– Глухлі, ці што, – не чуеце? Немцы ў тыле!

Глечык учуў, выпрастаўся ў сваёй неглыбокай яшчэ яміне, выскачыў з акопа Аўсееў і, прыслухаўшыся, цераз бульбянішча накіраваўся да Пшанічнага. Недзе ў цемры мудрагеліста вылаяўся Свіст.

– Ну што? – казаў з акопа Пшанічны. – Дакапаліся! Каб не я, дык і праваронілі б. Чакалі падмогі з тылу, а там ужо немец.

Аўсееў неяк панылa маўчаў, стоячы побач і ўслухоўваючыся ў гукі далёкага бою. Неўзабаве ля яго з цемры з’явіўся Свіст, падышоў і спыніўся ззаду насцярожаны Глечык.

А там, удалечыні за лесам, зачыналася грымотная начная бойка. Да першых кулямётаў далучыліся іншыя, чэргі іх, напаўзаючы адна на другую, зліліся ў далёкае, прыглушанае ветрам грымоцце, бязладна і нетаропка загрукалі вінтовачныя стрэлы. У чорнае паднябессе яшчэ ўзляцела ракета, потым – другая і дзве разам. Дагараючы, яны знікалі за змрочнымі вяршалінамі

дрэў, а на нізкім захмараным небе яшчэ нейкі час мігалі няяркія палахлівыя водсветы.

– Ну? – не сціхаў усё Пшанічны, звяртаючыся да насцярожаных прымоўклых людзей. – Што?

– Што ты нукаеш? Ну, што нукаеш, мурло? – злосна азваўся Свіст. – Дзе старшына?

– Фішара ў сакрэт павёў, – сказаў Аўсееў.

– А тое нукаю, што трэба нешта рабіць. Акружылі ж, вось і ну, – не збавіўшы тону, гарачыўся Пшанічны.

Яму ніхто не адказаў, усе стаялі і слухалі, апанаваныя наплывам благіх прадчуванняў. А там, у далёкай цемры ночы, усё разлягаліся чэргі, бухалі гранаты, ветрам разносілася ўдалячынь нягучнае здалёк рэха. Людзі змаркатнелі, самі сабой апусціліся долу іх натруджаныя рукі, ліхаманкавая трывога ўрывалася ў думкі.

У гэтай панылай маўклівасці і застаў іх старшына, які, цяжка дыхаючы ад доўгага бегу, з’явіўся ля старожкі. Ён, вядома, разумеў, што сагнала людзей да гэтай крайняй ячэйкі, ведаў, што ў такіх выпадках самае лепшае без лішняй разважнасці пусціць у ход сваю ўладарнасць і цвёрдасць. І яшчэ здалёк, не тлумачачы нічога і не супакойваючы, старшына са знарочыстай злосцю закрычаў:

– Ну, што пасталі, як тыя слупы на ўзбочыне? Чаго спалохаліся? Га? Падумаеш: страляюць! Вы што – не чулі стрэлаў? Ну што, Глечык?

Глечык сумеўся ад таго грубаватага звароту, варухнуў у цемры плячыма.

– Ды вось акружаюць, таварыш старшына.

– Хто сказаў: акружаюць?– зазлаваў Карпенка. – Хто?

– Што акружаюць – факт, не булка з макам, – буркліва зазначыў Пшанічны.

– А ты маўчы, таварыш баец! Падумаеш – акружаюць! Колькі ўжо акружалі? У Тодараўцы – раз, у Баровічах – два, пад Смаленскам тыдзень выбіраліся – тры. І што?

– Дык то ж усім палком, а тут што? Шасцёра, – азваўся з цемры Аўсееў.

– Шасцёра! – перадражніў Карпенка. – А гэтыя шасцёра што, дзеўкі? Ці байцы Чырвонай Арміі? Нас вунь у фінскую на востраве трое засталося, два дні адбіваліся, ад кулямётаў снег да моху растаў, і нічога – жывы. А то – шасцёра!

– Дык то ў фінскую...

– А то ў нямецкую. Усё роўна, – ужо крыху спакайней сказаў Карпенка і змоўк, аддзіраючы ад газеціны на цыгарку.

Пакуль ён ладзіў папяросу, усе маўчалі, пабойваючыся выказаць невясёлыя здагадкі і пільна ўслухоўваючыся ў гукі бою. А там, здаецца, пакрысе рабілася цішэй, ракеты болей не ўзляталі, страляніна прыкметна радзела.

– Вось што, – сказаў старшына, слінячы цыгарку, – няма чаго мітынгаваць. Давай капаць кругавую. Ячэйкі злучым траншэяй.

– Слухай, камандзір, а можа, лепей адыдзем, пакуль не позна? Га? – памяркоўна спытаў Аўсееў, зашпільваючы шынель і бразгаючы спражкай сваёй папругі.

Старшына грэбліва гмыкнуў, даючы знаць, што яго здзіўляе такая незразумелая прапанова, і з прыкрасцю запытаў:

– Загад ты чуў? Закрыць дарогу на суткі. Ну і выконвай, няма чаго балбатнёй займацца.

Усе нявесела маўчалі.

– Ну, даволі. Давай капаць, – больш бадзёра і ласкава сказаў камандзір. – Акапаемся і заўтра як у мамкі за

пазухай будзем.

– Як у Мурла ў торбе, – жартоўна зазначыў Віцька Свіст– І суха, і цёпла, і гаспадар шануе. Ха-ха! Пайшлі, паніч, давай брацца за справу, ярына зялёная, – тузануў ён за рукаў Аўсеева, і той нехаця падаўся за суседам у змрок ночы.

Глечык таксама пайшоў на сваё месца, а старшына моўчкі пастаяў, зацягнуўся разы два махорачным дымам і прыцішана-строга сказаў Пшанічнаму:

– А ты ў мяне наклічаш бяды. Я з цябе скуру спушчу за твае штучкі. Папомніш...

– Якія штучкі?

– Такія, – пачулася з цемры. – Сам ведаеш.

**4**

Злосны на старшыну за тую пагрозу і ўзрушаны небяспекай, Пшанічны нерухома пастаяў з хвіліну, разбіраючыся ў пачуццях, а потым, амаль раптам прыняўшы нейкае рашэнне, нягучна кінуў у цемру:

– Хопіць!

Так, хопіць. Хопіць мясіць гразь па гэтых разбітых дарогах, хопіць гібець на сцюжы, галадаць, хопіць пакутаваць ад страху, капаць-перакопваць зямлю, глухнуць у баях, дзе толькі кроў, раны і смерць. Даўно ўжо Пшанічны прыглядаўся, чакаў зручнага выпадку, вагаўся і баяўся, але цяпер, трапіўшы ў тую мышалоўку, канчаткова рашыўся. Свая рубашка бліжэй да цела, а жыццё для яго даражэй за ўсё, і захаваць яго можна, толькі кінуўшы зброю і здаўшыся немцам. Авось не заб’юць, дарма, што столькі баюць пра іх – Пшанічны не дзіця і ведае, што і немцы – людзі.

Вецер усё гудзеў у вушах, астуджаў твар, і, каб затуліцца ад яго і аддацца думкам, Пшанічны зноў схаваўся ў акопе. Траншэю ён вырашыў не капаць, хай

гэта робіць Глечык, а ён ужо адкапаў сваё. Пакідаць тут яму не шкада нікога – старшына зубасты і зґрызотны, як фельдфебель, Віцька Свіст – блатняк і брахун – усё Мурло ды Мурло. Праўда, ён і астатніх, апроч хіба Карпенкі, таксама называе аднымі мянушкамі – Аўсееў у яго паніч, Фішар – вучоны, Глечык – салага, – але ж яны ўсе маладзейшыя, а ён, Пшанічны, раза ў паўтара старэйшы за кожнага (хіба толькі Карпенка такога ж узросту). Аўсееў-то сапраўды паніч, распешчаны ў дзяцінстве беларучка, майстра на навуку і гультай у працы; Глечык – зусім дзіця зялёнае, паслухмяны, але як трэба не абстраляны, баязлівы, з такім не дужа весела ў баі; Фішар – падслепаваты кніжнік, з вінтоўкі стрэльнуць не ўмее, заплюшчвае вочы, калі націскае на спуск, – вось і ваюй з такімі. Хіба з імі адужаеш тых, абучаных, узброеных адменнай заграніччнай, як цацка, зброяй, аўтаматамі ды кулямётамі, што страляюць, бы швейныя машынкі шыюць…

У зацішку акопа чутна, як непадалёку дзяўбе зямлю Глечык, зрэдку парыпваюць на ветры дзверы старожкі і шуміць, высвіствае сваю восеньскую песню ссохлы быльнёг у канаве. Пшанічны даеў вынятыя з кішэні рэшткі сала і, сашчапіўшы рукі, сцішыўся – аддаўся журбоце думак.

Няладна і гаротна склалася жыццё гэтага чалавека.

Першыя ўражанні крыўды ўчэпіста і доўга трымаюцца ў чалавечых пачуццях. Іван як цяпер памятае тое цяжкае галоднае лета, калі бабы з суседняй вёскі Альхоўкі з Вялікадня выходзілі на ўзмежкі – збіралі шчаўе, крапіву, пухлі з голаду дзеці і старыя, чорныя і маўклівыя ад гора, усю вясну хадзілі ў поле паўз хутар альхоўскія мужыкі. Людзі елі траву, таўклі кару з дрэў, церлі мякіну, рады былі якой жменьцы пазаддзя, каб падмяшаць у травяністую агідную страву, склеіць траўнікі. У іх на хутары таксама было не густа, але травы не елі – даіліся дзве каровы, і ў свірне ў засеках сёе-тое яшчэ мелася. У тое лета лёс звёў трынаццацігадовага Івана з вясковым дзецюком Яшкам. І ад таго, што ў свой час Пшанічны памыліўся ў выбары

паміж ім і бацькам, усё жыццё пасля ён горка наракаў на сябе.

Аднойчы на нейкае свята – Пятра ці Сёмуху – у дрымотны летні адвячорак, калі паніжэлае сонца губляе свой спякотны напор, трынаццацігадовы Іванка вяртаўся на хутар. Незадоўга перад тым бацькі прыехалі з кірмашу, і ён адвёў на падлесак каня, спутаў і пусціў пасвіцца. Падыходзячы ўжо да высокае брамы панадворка, хлопец учуў гамонку ў двары, жаласны жаночы голас і рэдкае незадаволенае пакырхванне бацькі. Бацька ў новай святочнай сарочцы і камізэльцы сядзеў на прыступках ганка і пасопваў люлькай, а побач, згорбіўшыся і затуліўшы твар нізка завязанай хусцінкай, стаяла ўдава Міроніха – іх нейкая далёкая сваячка, – яна плакала і нечага прасіла.

У той час як Іван зайшоў на панадворак, якраз наступіла паўза, кабета з просьбай і страхам глядзела на бацьку, прыкрыўшы ражком хусткі рот, а бацька злосна – як адразу заўважыў хлопец – чмыхаў клубамі дыму і маўчаў.

– Ладна, – урэшце азваўся ён. – Хай прыйдзе. Дам з пуд. А заўтра на зорцы каб быў тут. Касы не трэба, касу маю возьме.

Кабета перастала плакаць, высмаркалася і пачала дзякаваць, а бацька ўзняўся і пайшоў з ганка.

Назаўтра ранічкай маці, як звычайна, ласкава разбудзіла Іванку на гары, падала завязаны ў ручнік сняданак – кавалак вяндліны і акраец хлеба. Ён заўсёды ў такую пару насіў бацьку ў поле снедаць, але гэты раз ежы было ўдвая болей, чым калі раней. Іванка здагадаўся, што гэта памагатару. Работнікаў яны наймалі і раней – у касьбу, жніво, малацьбу, але трымалі нядоўга: бацька быў патрабавальны, сам цягавіты ў працы, дужы, і мала хто мог дагадзіць яму.

Выйшаўшы з алешніку, Іван убачыў напалову скошаны лужок і ў канцы яго – бацьку і Яшку Цераха. Але, відаць, нешта там здарылася, бо яны не касілі, а стаялі адзін

насупроць другога; бацька адной рукой трымаў зламаную ў шыйцы касу, другой – касільна і злосна пазіраў на Яшку. А дзяцюк, у зрэбнай кашулі, з падкасанымі да калень нагавіцамі, чухаў худыя грудзі і апраўдваўся:

– Дзядзечка Супрон, далібог, незнарок. Замахнуўся, а яна неяк каўзнулася аб камень і адляцела.

– Лайдак пракляты, гультаіна пархатая, – крычаў бацька, трасучы густой зляжалай барадой. – Такую касу спляжыў! Нябось чужое? Га? Каб сваю, то інакш бы глядзеў, басота! Ых ты!

Ён кінуў касу, аберуч схапіў касільна, замахнуўся і, крычучы і ўсё болей звярэючы, пачаў ім біць хлопца па галаве, руках, якія ўзняў той, каб засланіцца.

Іван адчуў, як самлелі ад страху, а болей ад узрушлівай непрыемнасці яго ногі, хлопец баяўся і хацеў закрычаць на бацьку, каб спыніць яго шаленства, яму шкада было ціхага, нядужага дзецюка, аматара рыбнай лоўлі, зайздроснага знаўцу ўсіх навакольных лясных спраў. Але Іван не закрычаў, а памалу ішоў да іх, хоць яму хацелася ўцячы адсюль, каб не бачыць і не чуць нічога.

За зламаную касу Яшка працаваў у іх лішні тыдзень – стагаваў, сушыў, звозіў сена, затым яшчэ памагаў у жніво. Іван да яго ставіўся добразычліва, пасля таго выпадку на сенажаці ён маўкліва адчуваў і сваю вінаватасць, і таемную невыразную крыўду. Яны пасябравалі, хадзілі разам купацца, ставілі на кратоў пасткі і ніколі не гаварылі пра бацьку. Іван ведаў, што Яшка ненавідзіць гаспадара, гэтая яго непрыязнасць неўзаметку перадалася і маладому Пшанічнаму, ён адчуваў, што бацька – сквапны, злы, несправядлівы чалавек, што гэта нядобра.

Мінула некалькі год. Іван улёг у сялянскую працу і, наперакор сабе, ва ўсім цягнуўся за бацькам, які бязлітасна школіў сына ў няхітрай земляробчай навуцы, што спасціг на практыцы сам. Яшка неўзабаве пайшоў на службу ў Чырвоную Армію, адслужыў там два гады і

вярнуўся ў вёску інакшым – пасталелым і паразумнелым чалавекам. Праз нейкі час ён стаў завадатарам усіх маладзёжных спраў у вёсцы, пачаўшы гэтую сваю дзейнасць з гуртка ваяўнічых бязбожнікаў.

Іван наогул стараніўся вясковых хлопцаў, у вёску хадзіў калі ў святы на вечарынкі, а так жыў дзікавата – сваім хутарам, гаспадаркай, пад штодзённым бацькоўскім наглядам. Але ўзаемная прывязанасць маладога Пшанічнага і былога парабка Яшкі, відаць, захавалася ў сэрцах абодвух, і вось аднойчы ў познюю восень, сустрэўшыся на вясковым выгане, Якаў запрасіў прыходзіць увечары, паглядзець на рэпетыцыі бязбожнай п’есы. Іван не падумаў тады, як да таго паставіцца бацька, згадзіўся, увечары намазаў дзёгцем юхтовыя боты, апрануў паддзёўку і пайшоў. Там яму спадабалася, хоць ён сам не ўдзельнічаў у п’есе, але затое паглядзець на іншых было цікава. Пасля ён зачасціў у тую пахілую ўдовіну хаціну, бліжэй сышоўся з хлопцамі і дзяўчатамі, яго не крыўдзілі, хоць часам нязлосна кпілі і жартам абзывалі маладым падкулачнікам.

І вось аб гэтым неяк даведаўся бацька і аднойчы ўранку, заходзячыся ад злосці, накрычаў на Івана, выцяў аброццю маці, калі тая заступілася за яго, і пагразіў выгнаць з хаты бязбожніка-сына, які ганьбіў на старасці бацькаву годнасць. Івану было вельмі крыўдна, але даўняя закаранелая прывычка ва ўсім падпарадкоўвацца бацькавай волі ўзяла сваё, і ён перастаў наведваць Яшку. Якаў гэта заўважыў, і аднойчы, разам вяртаючыся з млына, яны шчыра разгаварыліся.

Гаварыў, праўда, Яшка, Іван слухаў, бо па натуры быў маўклівы, але не згадзіцца з хлопцам не мог. А Якаў расказваў пра класавую барацьбу, пра крушэнне прыватнаўласніцкіх звычаяў, пра тое, што стары Пшанічны – вясковы міраед, што ён змардаваў яго, Іванаву, маці, бы батрака заездзіў самога Івана, што ён гатовы задушыцца ад сквапнасці.

«Слухай, як ты жывеш з ім? Я ўцёк бы ад такога

злыдня. Хіба ён бацька табе?»

Івану было вельмі кепска. Яны ішлі тады па ціхай пясчанай дарозе за гружанымі вазамі, і ў яго вачах, наганяючы неадольную млосць, мільгалі і мільгалі колы. Ён верыў Яшку і разумеў, што лепей было б яму парваць з бацькам, пайсці на свой хлеб, як-небудзь пражыў бы, але на гэта не хапала адвагі. Так, як след не самкнуўшыся, назаўжды разышоўся яго шлях з грамадой, з тымі, якія б далі яму веру ў жыццё, уласную годнасць і, можа, засцераглі б душу ад нясцерпных пакут адзіноцтва.

Далей, праз які год ці два, бацьку раскулачылі – забралі ў сельсавет увесь іхні набытак, апісалі будынкі, а самога з маткай саслалі. Іван тую зіму жыў у мястэчку ў дзядзькі і вучыўся ў сямігодцы. Дзядзька быў неблагі чалавек, майстравіты на ўсе рукі, з пляменнікам ён абыходзіўся нараўне са сваімі трыма дочкамі і нічым не дакараў яго. Але па няўлоўных прыкметах і дробязях юнак згадваў, што ён усё ж тут лішні, што ён чужы, і ад таго Івану не было радасці. Вучыўся ён не блага, разумеў і любіў матэматыку і пасля сямігодкі падаў дакументы ў настаўніцкі тэхнікум. Ён чакаў экзаменаў, чакаў і марыў, бачыў у сваім студэнцтве адзіны шчаслівы выхад з таго ліха, у якое яго загнала жыццё. Але на экзамены яго не выклікалі, дакументы неўзабаве вярнулі, і ў казённай паперы холадна тлумачылася, што прыняць яго ў тэхнікум нельга, бо ён – сын кулака.

Гэта было вялізным горам для маладога Пшанічнага, большым за тое раскулачванне, якога яму не давялося бачыць, першай сапраўды незагойнай крыўдай душы. Іван падумаў, што ён не такі, як усе, што бацькаў цень, як праклён, цяпер будзе засціць жыццёвы шлях сына. Але перайначыць што, здавалася яму, ужо было позна.

Пасля няўдалай спробы вучыцца далей Пшанічны – ужо рослы, прывычны да працы дзяцюк – з год прызвычайваўся каля дзядзькі да мулярскае справы, а затым пайшоў у горад шукаць свайго хлеба і свайго шчасця.

У Бранску ён паступіў у мулярскую арцель, трапіў у брыгаду такіх, як сам, маладых хлопцаў, мураваў фабрычныя гмахі, па вузкіх дашчаных сцежках ганяў тачкі з рошчынай, па страмянках цягаў на паверхі цэглу. Сябе ён не шкадаваў, працаваў з запалам, з бацькавай цягавітасцю, і гэта неўзабаве заўважылі сябры і начальства. Яго хвалілі на сходах, ставілі ў прыклад іншым, і хлопец пакрысе пачаў забывацца на сваю ўшчэрбнасць і няшчаснасць. Пра бацькоў ён не гаварыў нічога, пісьмаў ад іх не атрымліваў і не ведаў, дзе яны і што. Часам, калі ўночы снілася што-небудзь з дзяцінства, тады агартала жаласлівасць да ціхай, забітай маткі, бацьку ён не спагадаў, ведаў, ён і там гэткі ж сквапны, злы і зацяты.

У той час на будоўлі стварылі камсамольскую ячэйку, многія хлопцы паўступалі ў камсамол і, вядома, пацягнулі туды і лепшага муляра Пшанічнага. Ён падумаў, крыху разважыў, а пасля, заахвочаны давер’ем і павесялелы ўжо ад былое нягоды, паверыў, што і ён можа стаць чалавекам, і напісаў заяву. На сходзе запатрабавалі расказаць усё пра сябе, бацькоў і радню, і калі пачулі, што ён сын кулака-хутаранца, у прыёме Пшанічнаму адмовілі.

Ён цяжка перажываў, дзён колькі не хадзіў на працу, пластом ляжаў у інтэрнаце. Здарылася так, што не знайшлося нікога, хто быў бы да яго бліжэй за ўсіх, суцешыў у тую хвіліну, абнадзеіў. Да яго раптам перамяніліся ўсе дружбакі, пачалі чужацца хлопца, трымацца асобна сваёй камсамольскай кампаніяй. Гэта была незабыўная да смерці крыўда, Іван Пшанічны ўжо канчаткова ўверыўся ў сваю адвержанасць, і яго ўпартае сэрца прагнула помсты.

Ён паехаў з Бранска, жыў колькі часу ў Данбасе, працаваў на шахтах і ўсюды памятаў, што ён не раўня іншым, што ён – класавы вораг, што між ім і людзьмі пралегла глыбокая праваліна ў жыцці. Часам ён імкнуўся забыцца на гэта ў працы, часам – у гарэлцы, але яна не забывалася, не мінапася ніяк і нідзе. Аб тым яму напомнілі ў ваенкамаце, калі прызывалі ў войска.

«Ты – сын кулака і будзеш служыць у рабочым батальёне», – сказаў заклапочаны мітуслівы капітан. І Пшанічны стаў чырвонаармейцам працоўнага батальёна – трохі вучыўся вайсковай справе, а больш працаваў: будаваў чыгункі, масты, тунелі. Гэта было ў Сібіры, узімку ён налаўчыўся ездзіць на лыжах, у спаборніцтвах аднойчы заняў першынство. І калі неяк сталі арганізоўваць лыжны агітацыйны прабег на 200 кіламетраў, то ў ліку лепшых лыжнікаў запісалі і Пшанічнага. Ён быў рады вылучыцца хоць гэтай сваёй якасцю, але і тут чорным катом з'явілася на яго дарозе мінулае. Ужо са старту яго вярнуў камісар, сказаў, што яму ехаць нельга, бо ў яго, чырвонаармейца Пшанічнага, не ўсё ў парадку з біяграфіяй.

Пасля яшчэ было многа дробных і вялікіх крыўд, якія параджаліся яго бацькоўскім мінулым, і Пшанічны скарыўся, сакаступіў убок, не лез болей туды, дзе былі не такія, як ён, людзі. Толькі – сам сабе, сам для сябе, наперакор усім – такі воўчы дэвіз засвоіў пакрысе Іван Пшанічны. Ён не грэбаваў нічым, калі тое трэба было – хлусіў, краў, ашукваў, да слабейшых у яго заўжды накіпала нянавісць, дужэйшых ён пабойваўся і ненавідзеў. Ён разумеў, што рабіўся нягодны, нялюдскі, злы і нядобры, як бацька, але перайначыць сябе ўжо не мог і каціўся ўсё болей туды, куды гнала чалавека ягоная крыўда і злосць.

Калі пачалася вайна і нямецкія войскі хлынулі на нашыя землі, сярод вялізнага мора бяды і слёз быў адзін чалавек, які таемна радаваўся. Гэтым чалавекам быў баец запаснога батальёна Іван Пшанічны, які затым стаў франтавіком і сёння вось займеў канчатковы намер здацца ў палон.

**5**

К ночы вецер памалу сціхаў, але затое аднекуль з шумлівай цемрадзі пачаў накрапваць дождж. Адразу намоклі аблавухія пілоткі на галовах байцоў, пакрысе набрынькалі вільгаццю і цяжэлі каляныя шынялі. Свежа раскапаная зямля хутка бралася граззю і наліпала да

чаравікаў.

Поўныя маўклівай невясёласці, байцы зноў уляглі ў працу. Болей вобмацкам, чым што-небудзь бачачы, яны скраблі ў цемры лапаткамі – капалі траншэю, каб злучыць ёю ўсе стралковыя ячэйкі. Тая трывога, што нечакана ўзгарэлася ў іх ад нядаўняй перастрэлкі ў тыле, спакваля сціхала, наткнуўшыся на суровую непахіснасць старшыновай упэўненасці ў сваю сілу і ўдачу. Карпенка, здаецца, быў спакойны, ранейшы, хіба толькі меней пакрыкваў на людзей і трохі прымоўкуначы. Але іншыя таксама працавалі моўчкі, болей слухалі – ці мала чаго магла прынесці гэтая франтавая непагодная ноч?

Напрацаваўшыся і аддаўшы лапатку Аўсееву, старшына прысеў на бруствер і сцішыўся. Чым болей мінала часу з моманту іхняй ростані са сваім батальёнам, тым усё шчыльней агарталі яго клопаты-думкі. За дзень яны адарваліся ад ворага, знясілены бамбёжкамі полк спяшаўся адступіць за лес, акапацца, наладзіць абарону і як-небудзь утрымацца на лясным рубяжы. Дарогу – подступ да гэтай абароны – камбат загадаў абараняць суткі. Ноч стаіць вось ціхая, а хто ведае, які будзе заўтрашні дзень? Ці немцы пойдуць дзе іншым шляхам, ці наваляцца на гэтую дарогу, і тады, вядома, ім, шасцярым, прыйдзецца сербануць гора. Гэтая думка ўвесь час грызла старшынова нутро, пакуль ён памагаў Аўсееву капаць ці сядзеў, услухоўваючыся ў гукі ночы. З выгляду спакойны і заўжды ўпэўнены ў сваіх учынках, Карпенка на самай справе быў не такі. Але за працяглы час камандзірства ён засвоіў сабе правіла: усё няпэўнае хаваць у сабе, а напаказ выстаўляць толькі скамянелую ўпэўненасць і непахісную цвёрдасць волі. «Твая праўда ці не, а сказаў – трымай сваё», – так некалі вучыў яго старшына звыштэрміновай службы Бровараў, і Карпенка на ўсё жыццё запомніў мудрыя словы старога служакі.

Дождж усё капаў і капаў рэдкімі дробнымі кроплямі, ад якіх макрэў твар, і па скронях, сцякаючы да шыі, непрыемна каціліся халодныя струмені. Старшына

ўстаў з бруствера і агледзеўся, дбаючы пра асцярогу, забывацца аб якой ім тут не выпадала. Усе капалі. Побач Свіст і Аўсееў, з таго боку старожкі – чутна было – варушыўся Глечык, а так з усіх бакоў абкладвалі зямлю глухая ноч, непагадзь, халадэча і цьмяная, як даўні забыты клопат, неўразумелая трывога.

Нічога не ўчуўшы, Карпенка ўзяў з бруствера свой мокры «ручнік» і, каб засцерагчы яго ад дажджу, паставіў пад сцяну старожкі. Пасля ён туды ж перанёс дзве скрынкі патронаў і спыніўся ля гразкай зямлі над траншэяй, дзе, сапучы і пакрэктваючы, варушыўся Аўсееў. Баец пачуў старшыну і, не разгінаючыся і ўсё дзеўбучы лапаткай, паскардзіўся:

– Сізіфава праца – дзяўбеш, дзяўбеш і ніякага следу.

– Дрэнна дзяўбеш, значыць, – думаючы аб іншым, сказаў Карпенка.

Аўсееў кінуў у цёмную яму лапатку і выпрастаўся.

– А наогул на якога д’ябла ўсё гэта? Полк адышоў, а намі прыкрыўся? Як гэта называецца?

Ён быў зморany, цяжка дыхаў і гаварыў з даўно набалелай злосцю.

– Гэта называецца: выставіць заслон, – спакойна адказаў старшына.

– Ага, заслон? А чым канчаецца такі заслон, табе, камандзір, вядома?

– На што ты намякаеш? Га? – зазлаваў Карпенка.

Аўсееў заварушыўся ў траншэі, шпурнуў у цемру груду і сказаў тонам, які гаварыў: дарэмна спрачацца аб тым, што і так зразумела:

– Што намякаць! Ты і сам ведаеш: смертнікі мы, вось хто!

– Ведаеш што, Аўсееў? – памаўчаўшы, зацята сказаў

старшына. – Ты думай, што хочаш, але балбатаць не смей! Чуеш?

Ён не хацеў болей размаўляць з гэтым байцом, які дужа хутка здагадваўся аб усім, чаго лепей было б не ведаць яму, і пайшоў прэч. Боты коўзаліся па размоклых камяках зямлі, зморанае цела вярэдзілі зябкія дрыжыкі. У чорным наваколлі спорна шумеў дождж, бубніў на даху старожкі аб нейкі кавалак бляхі.

Старшыне было непрыемна, што яго затоеныя ад самога сябе здагадкі і падазрэнні так лёгка разгадаў гэты хітраваты, башкавіты баец. За колькі дзён службы з ім Карпенка так і не ведаў, які на самай справе гэты Аўсееў і як яму, камандзіру, ставіцца да яго. Было б гэта ў мірны час, дык, бадай, з Аўсеева выйшаў бы неблагі баец – такі на палітзанятках атрымліваў бы адны пяцёркі, лепей за многіх упраўляўся б з фізо, ды і наконт іншых навук таксама шмат каму давялося б пазайздросціць яму. Але цяпер, у ліхі час вайны, Аўсееў сваёй хітрасцю, празмернай здагадлівасцю і кемнасцю наконт розных ходаў-выхадаў не падабаўся старшыне. Праўда, прамых прычын для абурэння яшчэ не было, і таму не было цвёрдай упэўненасці ў справядлівасці свайго пачуцця.

– От добра, – задаволена сказаў Карпенка, падыходзячы да Глечыкавай пазіцыі.

У цемры ночы невыразна чарнеў высокай хрыбцінай ладны бруствер, які накапаў гэты баец, а недзе ў цёмнай глыбіні траншэі ўсё шоргалі і шоргалі з лапаткі новыя камякі сырой зямлі.

Карпенка памаўчаў, задаволены стараннем маладога байца, хацеў пахваліць яго, але стрымаўся. Такія паслухмяныя, як Глечык, у мірны час пры пэўных здольнасцях таксама бываюць добрымі чырвонаармейцамі, дысцыпліны яны не псуюць, за іх учынкі да начальства не выклічуць. Але які ён будзе заўтра, гэты ціхманы, пакорлівы Глечык? Пэўна, уткне голаў у кут сваёй траншэі і будзе дрыжаць, пакуль наўкола адгрыміць бойка, а мо і горш? Самае цяжкае ў

такім выпадку, як старшына ведаў па сабе, гэта – пачатак. Перажыць яго, вытрымаць, а там пачне ўжо гартавацца сапраўдны баец.

– Ты скуль, Глечык? – запытаў Карпенка, стоячы над траншэяй.

– Я? З Беларусі. Бешанковіцкага раёна, калі чулі, – сціпла адказаў баец.

– А як жа ты тут апынуўся, у Расіі?

– Уцёк. Быў у Віцебску, у ФЗН вучыўся, а як немцы падышлі, уцёк. У Смаленску пайшоў у ваенкамат – прынялі ў армію.

– Добраахвотнік, значыць? – знарок здзівіўся старшына.

– Ды не. Мой год пачалі ўжо прызываць. Якраз у той дзень у ваенкамат загад прыйшоў – браць дваццаць трэці год.

– Дык колькі ж табе?

– Ну лічыце – з дваццаць трэцяга года, ужо васемнаццаць.

– Так, небагата, – задуменна зазначыў Карпенка. – А чаго гэта ты адзін капаеш? Дзе Пшанічны?

– Ды ладна, я і адзін спраўлюся, – сціпла адказаў з цемры Глечык.

– Пшанічны! – паклікаў старшына. – Давай памагай. Што на аднаго хлопца наваліў гэтулькі капаніны?

Недзе побач, не дужа паспешна вылазячы з ячэйкі, заварушыўся ў быльнягу Пшанічны, адарваны ад сваіх затоеных думак. Гэты раз ён не пярэчыў, паслухмяна ўскочыў у Глечыкаву траншэю і ўзяў з яго рук лапатку.

А дождж усё спарнеў. Цяжэйшы рабіўся на плячах шынель, боты чвякалі ў набрынялым вільгаццю доле. Ад чыгункі старшыну клікнуў Свіст – Карпенка падышоў да

яго.

– Прымай работу. Усё, – абвясціў баец.

Старшына ўлез у траншэю, прайшоў крокаў колькі, у адным месцы яна была да пояса – не болей.

– Давай глыбей, так не пойдзе.

Віцька Свіст мудрагеліста вылаяўся, пастаяў, аддыхаўся і, заўзята папляваўшы на далоні, зноў пачаў працу.

**6**

Ужо, відаць, пад поўнач выгнутая дугой траншэя сяк-так злучыла пяць стралковых ячэек. Не ўсюды яна была патрэбнай глыбіні – на дзялянцы Пшанічнага, якому разам з Глечыкам выпаў яшчэ і Фішараў участак, яна даходзіла не болей чым да калена. А пра зграбнасць ужо не было чаго і казаць – выйшла яна крывая і нягладкая – вядома, начная работа, ды на гэта цяпер не дужа зважалі ні байцы, ні іх камандзір.

Яны ўсе вельмі намоклі, і апоўначы Свіст, першы скончыўшы сваю працу, зайшоў у старожку, затуліў нейкім рыззём абодва акенцы і ўзяўся распальваць у грубцы. Старшыне, які прыйшоў туды следам, гэтае самаўпраўства не вельмі падабалася, але ён усё ж не пярэчыў ні Свісту, ні Аўсееву, калі той неўзабаве далучыўся да гэтага занятку. Карпенка разумеў, што як-ніяк, а людзям трэба адпачыць да ранку, бо заўтра чакае іх нямала іншага клопату і іншай, куды больш цяжкай справы.

Так спакваля ў гэтую пакінутую людзьмі будыніну сышліся яны ўсе пяцёра. У расчыненай грубцы весела гарэлі хвойныя сухія шчэпкі, і дбайны Свіст усё нешта трушчыў на падлозе сваёй незаменнай пехацінскай лапаткай.

Утульнасці тут было небагата: дзьмула з вокнаў, дым не хацеў ісці ў комін і, расплываючыся пад нізкай столлю, выядаў людзям вочы, але ўсё гэта здалося ім раем

пасля той непагадзі, ад якой яны схаваліся сюды. Галоўнае – тут было суха, макрата і холад засталіся з таго боку дзвярэй і напаміналі аб сабе толькі невыразным шорхатам ветру і лёскатам дажджавых кропель па даху.

Карпенка прылёг на тапчане, выцягнуў аблепленыя гразёй ногі. Цела адразу адолела салодкая знямога, так і карцела заплюшчыць вочы і сцішыцца, задрамаць колькі хвілін.

Каля грубкі, бы зачараваныя, уставіліся на мігатлівы агонь Аўсееў і Свіст, у прыцемках ля парога, крэкчучы і сапучы, пераабуваўся Пшанічны. Ззаду за ўсімі прыткнулася цьмяная постаць Глечыка.

– Эх, ярына зялёная, думаю, калі і дзіўлюся, як гэта бязладна чалавек зроблен, – разважна казаў Віцька Свіст, калупаючы трэскай у прыску. – Калі ёсць многа, дык хочацца яшчэ больш. А калі няма нічога, дык якая драбніца – мара. Надоечы пад Шчарбакамі, калі нас пласталі танкі, я толькі і марыў, каб сцямнела хутчэй. Здавалася, усё аддаў бы за адну хвіліну цемры. А цяпер вось і немца няма, і танкаў не чуваць, дык хочацца яшчэ і цяпла і сухога месца. Дзіўна...

– Адкрыў Амерыку, – буркнуў Аўсееў. – Яшчэ Шэкспір пісаў: «Каня, каня! Паўцарства за каня!» Разумееш? За аднаго каня.

Ён ашчаперыў калені белымі пальцамі і сядзеў так, пазіраючы ў грубку, – змораны, раздражнены і невясёлы.

– А што гэта немец сёння: згубіўся ці заблудзіў? Не чуваць нешта, – накручваючы абмотку, асцярожна зазначыў Пшанічны.

Свіст злосна зірнуў на яго.

– Гэ, чакай, заблудзіць ён табе. Прыйдзе ранак – пачуеш. – Ён яшчэ папароў трэскай у печы і раптам ускрыкнуў: – Хлопцы! Ідэя! Давайце вячэру згатуем. А

то, брат, кішка з кішкой сварыцца. Пшанічны, даставай свой кацялок!

– А што зварым?

– Ну, браце, – што ў каго ёсць. У мяне – паўпачка пшонкі.

– У мяне гарохавага канцэнтрату трохі было, – азваўся Глечык.

– Цудоўна. Давай кашаварыць на згубу фашызму, – разахвоціўся Свіст. Яго белабрысы танкагубы твар поўніўся захапленнем ад новае справы. – Мурло, нясі вады, ды чыстай набяры, як з-пад крана.

– Дзе яе набярэш цяпер чыстай? Усюды гразь.

– Эх, дзівак, ярына зялёная. Пад дах падстаў. Забыўся, як баба начоўкі налівала, а ты салдацкага кацялка не набярэш?

Пшанічнаму не хацелася зварушвацца з месца, але не было ахвоты і заводзіцца з гэтым Свістам, і ён нязграбна ўзняўся з падлогі, завязаў сваю тарбіну і выйшаў. Як толькі за ім зачыніліся дзверы, Віцька ўраз падхапіў гэты напакаваны мяшок і спрытна запусціў туды руку.

– Так, папружку камандзірскую на канец вайны Мурло прыпасае, нейкая банка, новая кашуля, сухія анучкі – на, салага, на падмену трымай. – Ён тыцнуў Глечыку пару ануч і зноў расхінуў торбу. – Ага, вось ён, акрайчык, так, так... цукру драбок... о, братва, сала! Ура Пшанічнаму, от малайчына, не ўсё з’еў. Каша будзе з салам.

Ён хуценька завязаў лямкі гэтай тарбіны і шпурнуў яе ў кут.

– Слухай, Свіст, нядобра робіш, – сказаў з тапчана Карпенка. – Трэба спытацца.

– Ого, спытацца! Скулу ты з яго возьмеш: скнара.

Неўзабаве прыйшоў з вадой Пшанічны, падаў кацялок Свісту і ціха сеў на сваё месца ў куце. Свіст, міргнуўшы белымі вейкамі, хітравата паглядзеў на яго.

– Братачка Пшанічны, ці няма ў цябе якога куса да агульнай кучы?

Пшанічны моўчкі пакруціў галавой. Свіст зноў падміргнуў сябрам.

– Ну, што ж... Абыдземся грэчка-аўсянай сумессю.

Хутка кацялок з вадой, уціснены ў грубку, зашыпеў на вуголлях, а Свіст на разасланай пале шыняля пачаў церці ўсохлыя кавалкі канцэнтрату. Аўсееў паныла глядзеў у агонь, спаважна туліўся за спіной Свіста Глечык, і ў куце невыразна варушылася шырокае аблічча Пшанічнага. Старшына, падпёршы голаў рукою, ляжаў на баку, пазіраў на свой малалікі ўзвод і думаў. Хто ведае, як ім пашанцуе заўтра справіцца з той задачай, дзеля якой іх пакінулі тут? Ці хопіць у іх сілы і ўмельства, ці ўсе адолеюць страх, каму суджана будзе датрываць да канца? Камандзір усё не мог пагадзіцца, што людзей яму далі без выбару, першых, што трапіліся камбату, а гэта, на яго думку, было няправільна. Старшыне не падабалася сённяшняя надзьмутасць Аўсеева, няшмат чаго здатнага чакаў ён ад Глечыка, ведаў, што заўтра трэба будзе яго, камандзірскі, нагляд за ўсім і за ўсімі. Яму даспадобы быў Свіст, ён нядрэнна паводзіў сябе за гэтыя тыдні адступлення, але хто яго ведае?.. Чалавек сядзеў у турме, і хоць з выгляду вясёлы і свойскі, але невядома, што ён носіць у сабе.

Яшчэ думалася пра Фішара. На момант старшыне чамусьці стала шкада таго вучонага, разумнага чалавека, не прызвычаенага да нягод ваеннага жыцця, слабага і кволага. Як яны ад батальёна, так і Фішар ад узвода падстаўлены цяпер пад першы ўдар, ад якога, хто ведае, ці будзе які паратунак. Думалася, каб ён хоць не заснуў там пад ранак, бо тады можа здарыцца ліха, ад якога і ім не ўратавацца. Пра сябе Карпенка дбаў не надта, ён сам для сябе быў зразумелы і просты і без ніякіх сумненняў ці ваганняў ведаў, што калі

панадзеяліся на яго камбат і камандзір палка, дык ён спраўдзіць тыя надзеі. Можа, заб’юць яго, можа, параняць, але калі застанецца цэлы, дык ён зробіць усё, што ад яго патрабуецца.

Гудзела, пырскала іскрамі грубка, за сцяной недзе цурчала з даху вада, шумеў у завуголлі вецер, і вельмі хацелася спаць. Але старшына напружаннем волі адганяў дрымоту і ляжаў. Байцы сядзелі на падлозе і пільна глядзелі за кацялком у грубцы.

– Так, так… Уліплі мы на гэтым чортавым пераездзе, – тужліва сказаў Аўсееў, кладучы падбародак на скурчаныя калені. – Гэта ўжо аксіёма.

Яму ніхто не азваўся – ні запярэчыў, ні падтрымаў тых невясёлых думак, толькі Глечык уздыхнуў у цішыні ды Пшанічны гучна высмаркаўся.

– Аўсееў, – глухаватым, але рашучым голасам пасля паўзы сказаў Карпенка, – бяры вінтоўку – і на варту.

Аўсееў крута павярнуўся на падлозе.

– А чаго я? Што я, горшы за ўсіх?

– Без размоў.

– Давай, давай, паніч, – загаварыў Свіст. – Не бойся, кашы не празяваеш. Пакінем, клянуся салёным агурком з хвастом асяледца.

Аўсееў пасядзеў яшчэ, пасля нетаропка зашпіліўся і неахвотна выйшаў, мацней чым трэба прыстукнуўшы дзвярыма.

Каша выдалася надзіва смачная. Свіст неўзаметку паклаў на спод кацялка выцягнутае ў Пшанічнага сала, ад чаго ўсё гэта несалёнае месіва атрымалася вельмі тлустае і наварыстае. Елі ўсе разам, з адной пасудзіны, згодна шкрэбаючы драўлянымі і алюмініевымі лыжкамі, а Свіст – нават трафейным відэльцам на тронку лыжкі. Калі ўжо на сподзе засталося няmнога, Карпенка аблізаў лыжку і сказаў:

– Годзе. Рэшта Аўсееву і Фішару...

– Ну, братка Мурло, як кашка? – хітравата спытаў Свіст.

– А нішто. З галадухі сама ў роце растае, – задаволена сказаў Пшанічны. На яго мардаты, з тлустымі вуснамі твар лягла ленаватая сытасць.

– За гэта дзякуй самому сабе. Добрае ў цябе было сальца.

Пшанічны здзіўлена залыпаў вачыма, здагадаўся і адразу ўхапіўся за торбу.

– Зладзюга ты, Свіст, вось хто, – злосна кінуў ён з цемры, мацаючы свой напакаваны мяшок. – За такія ўчынкі табе трэба морду біць, блатняга.

– Для твайго ж бруха, дзівак, – жартаваў Свіст. – А то кокнулі б цябе заўтра, галоднага, і які-небудзь Ганс пакроіў бы тваё сала тоненькімі скрылікамі на свой бутэрброд. А так вось і жысць павесялела, бы сто грамаў прапусціў.

Пшанічны яшчэ бурчаў нешта ў сваім куце, а размораны сытасцю Свіст соладка разлёгся на падлозе, раскінуўшы крываватыя ногі.

– Ну вось і цудоўна, – казаў ён, пагладжваючы свій жывот. – Даўно такой асалоды не меў. Хіба тады, як з лагера выйшаў, от.

– Слухай, Свіст, а завошта ты ў лагер трапіў? – спытаў Карпенка, скручваючы цыгарку.

Ён зноў размясціўся на тапчане, таксама падабрэў ад цяпла і ежы і стаў па-хатняму просты, свойскі, прыязны – такі, як і ўсе.

– Ат, доўгая гісторыя. Гісторыя з геаграфіяй. Была справа, ага.

– Можа, нізавошта?

– Не скажу, – адразу пасур’ёзнеўшы і нешта ўспамінаючы, сказаў Свіст. – Было за што. Маглі б і болей прыпаяць, адбрыкаўся двума гадамі. Магу расказаць, калі цікавіць.

Ён памаўчаў, пазіраючы ў задымленую столь, услухаўся ў гукі непагоды знадворку, пасля ўздыхнуў і пашураваў у грубцы. Там нешта стрэльнула ў прыску, ярчэй загарэліся дровы, асвяціўшы насупленага ў куце Пшанічнага, цікаўны кірпаты твар Глечыка і задуменныя твары астатніх байцоў.

**7**

– Дурны я чалавек… вось. Шалёны, безгаловы… – казаў Свіст. – Наогул абармот. Толькі цяпер зразумеў гэта. Як кажуць, не вошы мяне заелі, а маладосць загубіла. Жыў у Саратаве, на Манастырцы. Любата гарадок, скажу вам, першы сорт – Саратаў… так… – Ён памаўчаў, летуценна прыпамінаючы штось і ўсё пазіраючы ў грубку– Чатыры гады ўжо як не быў, душа занылася. Так… Дык вось, вучыўся троху. Вучыцца не любіў. Ды і з дысцыплінай не ладзілася. Матка, бывала, ходзіць, ходзіць у школу па выкліках, лупіць мяне, а толку мала… А наогул мала біла. Трэба было б болей, тады, можа, і чалавек выйшаў бы, а так – аскалёпак.

Падрос крыху, зашыўся ў кампанію – дружкі-мілушкі, ярына зялёная. А ўсё ж ладны быў час. Раздолле, асабліва ўлетку. Маці на працы (на падшыпнікавым заводзе рабіла), а я – бы ў раі. Па могілках у вайну гуляем – дарэчы, там у нас Чарнышэўскі, пісьменнік, пахаваны, – дзелавіта паведаміў Свіст, паварочваючыся да Карпенкі. – Такі помнік вялізны, як будан, стаіць. Дык вось – на могілках, на Лысай гары, у сасняку, а калі вырвемся і на Волгу. От, браце, шчасце, ярына зялёная, сто чарцей і бочка рому. Ніхто там не бачыў Волгі? Не? О, гэта ёсць на што паглядзець. Шыр, прастор, вада, сонца, неба і, каб вы ведалі, райскі куток – Зялёны востраў насярэдзіне. Схопім чыю лодку, перабяромся туды і – забаў на два дні. Маці шукае – і ў міліцыі, і ў калоніі, і ў турме, а мы на востраве кінжалы выстружам

і разбойнікаў строім.

Пасля пайшоў працаваць. – Віцька ўздыхнуў, запхнуў у грубку канец нейкай дошкі, заклапочана пашураваў там шчэпкай. – Спачатку Рыгор Сымонавіч, сусед наш, мяне да такарнай справы прыладзіў. Працаваў на тым жа падшыпнікавым, утулкі рабіў. Спярша ніштo, а пасля абрыдлі – гарчэй за рэдзьку. Уранку – утулкі, увечары – утулкі, учора – утулкі і заўтра – утулкі, зімой і летам – адны ўтулкі. Ужо гэтыя кольцы ды дзіркі сніцца ўначы пачалі – атрута! З нуды да гарэлкі прыладзіўся. Выпіваў. Неяк у піўной пазнаёміўся з адным чалавекам – Фраловым звалі, каб яму дышла ў пуза! Так лоўка да мяне пад’ехаў, і так і сяк, гляджу – мілы чалавек. І грошай не шкадуе. Пілі. Спрытна ён мне жытуху атруціў, і не прыкмеціў, як ачмурыў дурня. Ты, кажа, свой хлопец, нашто табе мазоль натруджваць? Хочаш уладжу, работка – лахва. І што ж? Уладзіў прадаўцом у хлебны магазін. Працую месяц, другі. Не скажу, каб вельмі падабалася. Праўда, наеты (а тады галаднавата было на Волзе), а так амаль як і на падшыпнікавым – нудная праца, знай, рэж кілаграмы. Пяць тон сёння, пяць тон заўтра. Не глядзі, што хлеб, а нарэжашся за дзень, дык горш, чым на заводзе, зняможаш.

Хацеў ужо драла даць з гэтага шчасця, ды аднойчы з’явіўся гэты Фралоў. Кажа, прыходзь у «Паплавок», справа будзе. Прыходжу. Сядзяць у куце пад пальмай – мой Фралоў і яшчэ адзін, дзядзькам Агеем звалі. Што, думаю, за справа? Выпілі, закусілі, нічога не кажуць, яшчэ выпілі, закусілі – маўчаць. Яшчэ і яшчэ. А пасля Агей і кажа: так і так, маўляў, падкінем пару пудзікаў звыш накладной – прадасі? Прадам, кажу, не залежыцца: тавар ходкі. Ну вось, парадачак, хлопец свойскі, цешыцца Агей. А мне з п’янкі і не ўпрыцям, што гэта – першы мой крок быў чорту ў зубы. Добра на душы, смеласць так і прэ, дагадзіць хочацца людзям – вось і згадзіўся. А не ведаў таго, ярына зялёная, што сёння – пару пудоў, а заўтра – дзесятак, а пасля – тонамі падкідваць мне хлябец будуць. Прыйдзе машына, пачнуць згружаць – гэты самы Агей і яшчэ адзін, гляджу на вазе – дзве тоны. А накладную даюць на

паўтары. Астатняе – наша. Грошы лішкі – усё ім аддаваў. А яны дзяліліся. Спачатку скрабло ў мяне на сэрцы, думаю – да дабра не дойдзе. Але пасля грошы тыя збілі з панталыку – павалілі кучай. Не прывык столькі мець, што рабіць з імі? Не прап’еш: паўлітэрка шэсць рублёў, і толькі.

– Ну, гэта ты брэшаш, – уставіў Пшанічны. – З грашмі яшчэ ніхто не меў клопату.

– Не меў? – з’едліва перапытаў Свіст. – Што ты разумееш, Мурло, душа капеечная...

– Ладна, годзе вам. Давай далей, – абарваў сварку Карпенка.

– Ага. Ну, тут разгарэлася мая фантазія, захапіўся я фота. Купіў апарат, усякія да яго прычындалы, пачаў псаваць паперу і пласцінкі. Знімаў. І на Волзе, і на Зялёным востраве, і ў парку. Налаўчыўся з часам – нішто выходзіла. Падумаў быў – ці не паступіць мне ў фотаарцель? Сказаў аднойчы Фралову – той толькі зубамі заскрыпеў. Спрабуй, кажа.

Так, жыву далей. Абрыдла фота, купіў байдарку і ўвечары, у выхадныя – на Волзе. О, гэта я любіў. Відаць, душа такая: заўсёды на прастор лезе. Фралоў з Агеем таксама калі прыходзілі, катаў. Пасля прадаў байдарку, купіў маторку. Зноў Зялёны востраў, ды ўжо – не разбойнікі, а жулікі і не гульня, а на самай справе. П’ём, рыбу ловім. Туды ж адзін раз прывезлі яны Лёльку. Дзеўка, брат, такая, ярына зялёная, во! Пальчыкі абліжаш. Агнявая, баявая, вясёлая, і захмялела мая галава ў адзін вечар – і гарэлкі не трэба. Купаліся, пілі, і там, у кустах, налаўчыўся я, згроб яе і пацалаваў. Думаў, у морду ляпне, а яна куды там – абхапіла мяне аберуч за шыю, упілася ў вусны, і дух мне заняло, быццам у якую прорву рынуў.

Закруціла мяне любоў з гэтай Лёлькай, месца сабе не знайду. Кажу, давай пажэнімся, жыць будзем па чэсці, а яна толькі смяецца. Ходзіць да мяне на спатканні, цалуецца, але ўсё тайком, каб Фралоў не ведаў. Што ты,

кажу, малая ці ён – бацька твой, чаго баішся? Нельга, кажа, каб ведаў, і ўсё. Не ведаю, чым бы гэта скончылася, каб аднойчы такая гісторыя не сталася.

У нейкае свята дамовіліся сустрэцца, прыходжу, а яна стаіць ля танцпляцоўкі ў парку з гэтым самым Фраловым. Пачуў я нядобрае, але падышоў, а Фралоў бярэ мяне за локаць і выводзіць на бакавую алейку. Думаю, нешта будзе, а ён гэтак мне кажа: кінь Лёльку, не чапай – не твая. Лютасць ва мне забушавала. А чыя, кажу, мо твая? Мая, кажа, і вочы, як у воўка, гарачь, а рука ў кішэні нешта намацвае. Ну, я не зважыў на гэта, злаўчыўся ды ладна яму садануў у скулу. Распачалі мы бойку, парнуў ён мяне фінкаром у лапатку, але і я кулака адважыў. Пазбягаліся людзі, закрычала Лёлька, ну, нас і ўзялі. Прывялі ў аддзяленне – пратакол і так далей. Гляджу – гэты сабака чужое нейкае прозвішча падстаўляе за сябе і дакумент у яго адпаведны ў кішэні. Узбунтавалася ва мне кроў – ах ты, гад, думаю, зноў некім засланіцца хоча. Вядзі, кажу канвою, да галоўнага. Паклікалі начальніка, узяў я і расказаў усё – і пра хлеб, і пра Агея, і пра нашы шахер-махеры. Нічога не ўтаіў – утаіў толькі Лёльку. Чула маё сэрца, што і яна не так сабе, таксама ў гэтым кодле, а назваць не мог. Не назваў...

Свіст чагосьці прымоўк, задумаўся, загледзеўшыся ў грубку. Наўкола, чакаючы, сядзелі таварышы. Карпенка, падпёршы голаў рукою, ляжаў на тапчане і таксама чакаў. Свіст яшчэ памаўчаў, пагладжваючы гарачыя калені і, відаць, нанова перажываючы колішнюю сваю бяду.

– Пасадзілі нас у КПЗ, пачалі следства. Да мяне няблага адносіліся ўсе – і міліцэйскія, і турэмшчыкі, і следчыя, а тут аднойчы заўважаю: нешта перамянілася, падазрона гэтак паглядваюць і ўсё ловяць на чымсьці. У чым справа, пытаю, я ўсё вам па шчырасці. А ці ўсё, кажа адзін чорны такі, каўказскі на выгляд чалавек. А чаму пра Злотнікаву маўчыш? Якую Злотнікаву? Пра Лёльку, адказвае і гэтак углядаецца, бы праз вочы ў нутро хоча зазірнуць. Аказваецца, гэты гад Фралоў ужо выдаў яе.

Ну і вот, судзілі. Цэлую шайку. Як глянуў я на судзе, дык аж спалохаўся. Ярына зялёная, аказваецца, я толькі кончык ніткі падаў, а ўвесь клубок разматалі без мяне. Чалавек дваццаць розных зладзюг. І Лёлька. Цяжка мне было, паверыце, бачыць яе там. За сябе не так крыўдна, як за яе. А яна ў вочы мне не глядзіць, не размаўляе. Няўжо, думаю, мяне даносчыкам лічыць? Маўклівасць гэтая мне душу выварочвае, карціць загаварыць, а нельга.

Ну, далі каму колькі. Фралову – 10, Лёльцы – 3, мне – 5. Пасля папаўзла жысць турэмная, лагерная. У Сібіры лес пілаваў. Піхта, елка. Снег да зада, сопкі, мароз. Дым ад кастроў аж цяпер уначы калі чую – сніцца ўсё. Усё, здаецца, ім прасмярдзела. Тралявалі ў распадак. Пайкі хлеба, баланда, нормы. Люд розны. Каторыя нішто, душэўныя, каторыя – сволачы. Ахова таксама. Трудна было. Пасля прывык. З залікамі адбыў два гады. Выпусцілі. Куды падацца? Кажуць бывалыя: на захад не ткніся: цяпер ты з блямбай на векі вечныя. Там ты – як воўк у аблаву. Усе атукаць будуць – судзімы. Гайда на ўсход. Паверыў, падаўся на ўсход. На Сахалін прыбіўся, парабіў у шахтах – не спадабалася. Успомніў Волгу – пайшоў матросам на сейнер. Крабаў у Татарскім праліве лавілі, селядцы, у пуціну – ласосяў. Трудная жытуха, марская, а прывык – нішто. Мора, яно прываблівае – і муштруе, і не адпускае, як капрызная каханка. Часам дапячэ за шторм, свет белы праклянеш, а сціхне, улагодзіцца – лепшага і не трэба: прастор, вецер – мілая душа, ярына зялёная.

І тут – вайна. Ага, забыўся вам расказаць. Быў яшчэ ў маім жыцці чалавек, любіў я яго, паважаў. Няшмат каго паважаў, а яго паважаў, гэта па шчырасці. Уладзімір Кузняцоў. Лётчыкам быў. Капітан. Яшчэ, помню, я малым падшывальцам на Манастырцы ў сады лазіў, а ён прыязджаў у водпуск – у шызай гімнасцёрцы, жоўтых рамянях і фуражцы з залатым крабам. Але асабліва нам падабаліся яго значкі на грудзях – памятаю – варашылаўскі стралок, ПВХО, ГСО і парашутысцкі. Любілі мы, пацаны, за ім бегаць, і ён не стараніўся, дружыў з намі. Аднойчы я запіску ад яго Інцы

Галашчокавай насіў – была такая ў нас прыгажушка. Ну вось, а пасля гэты самы Уладзімір знік – ні слыху ні дыху. Бацька яго Рыгор Сымонавіч – той самы, што мяне да такарства прызвычаіў, – ходзіць маўклівы, сярдзіты, маці ўсё бядуе, а дзе ён – ніхто не ведае. Але праз год ці два з'яўляецца Уладзімір Рыгоравіч. Ужо, брат, тры шпалы на пятліцах, замест значкоў – два ордэны Чырвонага Сцяга, але, ведаеш, нешта са здароўем нелады. Паранены, аказваецца, быў, і думаеш дзе? У Іспаніі. З франчукамі ваяваў, за рэспубліку. Пасля ён сам мне гэта па сакрэту расказваў. Звольнілі яго са службы з-за той раны, і пачаў ён чарнець ад нейкага гора, як той кацялок ад сажы. Стаў сумны, маўклівы і ўсё адзін. А ўбачыць калі самалёт над горадам, дык, паверыце, зажмурыць вочы, пазірае, пазірае – той ужо схаваецца дзе ці пасадку зробіць, а ён усё стаіць і ўзіраецца. А на вачах слёзы. От, брат, гора было чалавеку! Калі я спутаўся з гэтай чортавай фралоўскай кампаніяй, ён штосьці заўважыў, – вядома, па суседству нядоўга што ўтоіш – і ўсё казаў мне: кінь ты, Віцька, не тое робіш. Ну, а я не паслухаў. Хацеў і не мог. Ну, а любіў яго вельмі. І цяпер так шкадую, што не паслухаў яго, хоць, канечне, ён не ведаў усяго, а толькі здагадваўся. Але што тыя здагадкі!

І вось атрымліваю на Сахаліне пісямцо з Саратава ад пляменніцы, піша – таго ўзялі, таго прызвалі, а Кузняцова сын на другі дзень вайны сам пайшоў. Не хацелі браць у лётчыкі, бо здароўе непрыгоднае, дык ён у пяхоту выпрасіўся. Ну, думаю, карціна, ярына зялёная. Што, думаю, за гады тыя фашысты, калі ўжо такі чалавек гатовы ў пяхоце з імі біцца? Ну і вось усе мае знаёмыя, былыя дружбакі – на фронце, адзін Свіст у тыле. То быў у турме, а цяпер – у цёплым месцы на рыбфлоце. Не, думаю, я таксама чалавек, не скаціна. Падаў заяву – давайце разлік – не пушчаюць. Кажа начальнік кадраў: «Кінь, Свістуноў – усё мяне Свістуновым зваў, – кажа, кінь харахорыцца. Тут ты за мілую душу да канца вайны адседзішся, што табе перціся фашысту на ражон?» – «Ах ты, сабака, кажу, там людзі жыцця не шкадуюць, а тут – сядзі. Не ў турме ж я, адсядзеў сваё – давай грошы!»

Усё ж выбіў у іх касую і прыкаціў у Маскву. Па старой звычцы пайшоў да начальніка НКВД – так і так: былы зняволены, хачу на фронт. Памажыце.

І памаглі. Даў палкоўнік паперку, з ёй мяне – на папаўненне ў стралковую дывізію і на фронт. Пад Полацкам акружылі. Ледзьве з дружбаком адным – Алёшкам Гарэлікам – ногі вынеслі. Вось на вас наткнуліся. Узяў ваш камбат. Распытаў усё – як і што, куды і адкуль – і ўзяў.

У старожцы пацямнела, пад столлю клубіўся дым, часам залятаў у вокны вецер. Карпенка курыў, лежачы на спіне, усе маўчалі.

– Так, зазнаў ты, відаць, ліха, – сказаў старшына. – Гэта не салодка – турма. Але было за што: вінаваты, як ні круці.

Свіст неяк заварушыўся ад тых слоў, відаць было, яны блізка краналі нешта набалелае ў яго затоенай душы.

– Было за што – гэта праўда. Было. Далі пяць – згадзіўся. Далі б дзесяць – ні слова б не сказаў. Усё б адбыў. Чорт з ім: заслужыў – атрымаў па справядлівасці. Толькі, ведаеш, не хачу, каб увесь век папракалі. Што было, то мінула, трэба – яшчэ адсяджу, стрываю, толькі без біркі, без штэмпеля – чалавек я, ярына зялёная... І хоць злыдзень, безгаловы, дурны, але чую не горш за многіх – ціхенькіх, роўненькіх... Вот...

Карпенка на гэта не сказаў нічога, усе маўчалі, і чуваць было, як выў у завуголлі несціханы восеньскі вецер.

**8**

Выйшаўшы са старожкі, Аўсееў спыніўся і прыслухаўся. Пасля святла з грубкі, хоць і мізэрнага, у гэтай цемрадзі нічога не было відаць – адно шапаценне дажджу ды сутаргавыя парывы ветру. Байца адразу ахапіла восеньская начная няўтульнасць, цела скаланулася ад волкіх дрыжыкаў, ён наставіў каўнер і нерашуча ступіў у змрок ночы.

Пад чаравікамі чвякала гразь, лапацеў і лапацеў дождж па намоклай спіне, пілотцы, і невясёлае прадчуванне ўсё глыбей і глыбей караскалася ў душу байца.

Адно з двух, думаў Аўсееў, ці ўсе яны на чале з старшыной – круглыя асталопы, ці ён сам – ныцік і трус. Але трусам ён не палічыў бы сябе ніколі, бо памятаў у жыцці выпадкі, калі Алік Аўсееў наважваўся на такія ўчынкі, на якія іншыя зусім не былі здольны. Проста ён разумеў тое, чаго не хацелі або не маглі разумець ні старшына, ні Свіст, ні Глечык, ні Фішар, і гэта не на жарт трывожыла яго. Ну, вядома ж, іх пакінулі ў заслон не для таго, каб яны, пасядзеўшы спакойна суткі, маглі затым дагнаць батальён. Калі паставілі ўжо на гэтай дарозе, то, значыць, тут ёсць небяспека – пойдуць нямецкія сілы, ад якіх хоча засцерагчыся полк. Але што яны, шасцёра, могуць зрабіць той фашысцкай навале, калі з ёй чацвёрты месяц не зладзіць уся наша армія? З першага ж удару іх тут прыб’юць, як таго камара на лбе. І хто гэта надумаў такое ахвяраванне? Яўны пралік, дурная задумка, нікчэмная мера, і толькі. І гэты цвердалобы недалёкі Карпенка ўпёрся, як баран у новыя вароты, і толькі ведае: загадана – дык выконвай.

Аўсееў прайшоў разы два па ўзмежку, далёка не адыходзячыся ад старожкі, прыслухаўся і зайшоў пад страху. Калі так прыціснуцца да самай сцяны, дык трошкі можна засцерагчыся ад макраты і халоднага ветру. Адубелыя рукі самі шукаюць цяпла за пазухай і ў кішэнях, са старожкі чуецца размова, нешта там апавядае балбатун Свіст. Нейкі незразумелы ён чалавек, гэты Свіст. Сам быццам і нішто – разумны, спрытны і свету пабачыў, а ніякага крытычнага падыходу да абставін. Дзіўна нават, як ён, блатняк па натуры, можа так згодна падпарадкавацца ўсякаму начальству? Спачатку, калі ён толькі з’явіўся ў іх роце, Аўсееў хацеў пасябраваць з ім, бо болей нікога здатнага тут не было – усё нейкія нехлямяжныя дзецюкі, калгаснікі, з якімі – ні паразважыць, ні ўспомніць. Але спакваля Аўсееў пераканаўся, што гэты Свіст болей горнецца да іншых, любіць трымацца кампаніі, і Аўсееў махнуў рукой – чорт з ім.

Аўсееў у палку жыў сам па сабе, гэта было не дужа весела, але хлопец проста не бачыў паблізу нікога вартага, усё здавалася яму, што ён куды разумнейшы, вышэйшы густам, пачуццем, чым усе тыя, хто ў гэтым армейскім жыцці быў побач з ім. Многімі ён пагарджаў, на іншых, такіх, як Глечык, проста не звяртаў увагі.

Пакрысе прызвычаіўшыся да цемры, Аўсееў стаў бачыць цьмяную лінію чыгункі, невыразныя слупкі на пераездзе, чуў, як маркотна шумелі маладыя прысады. На гары, на дарозе ўсё было ціха, сапраўды, немцы чагось замарудзілі ці мо заначавалі дзе па такой непагодзе – а то было б ліха. А можа, было б лепш? Уначы – дык яшчэ здолелі б адарвацца ад ворага, схавацца ў цемры, адысці, а вось заўтра – наўрад. Заўтра будзе пагібель – гэта пэўна.

А гінуць, пражыўшы толькі дваццаць год неблагога жыцця, Аўсееў зусім не хацеў. Усё яго нутро, кожная часцінка цела нема пратэставалі супраць пагібелі і прагнулі – жыць, жыць. Да д’ябла гэта вайна, да д’ябла мукі і кроў, калі чалавеку трэба адно толькі – жыць. Гэтулькі асалод у гэтым жыцці – пазнаных і яшчэ не пазнаных, – гэтулькі радасці і шчасця, што гінуць у самым яго пачатку – злачынства ў адносінах да сябе. Гэты цвердалобы Карпенка гатовы разбіцца ў шчэпкі, каб толькі выканаць які бязглузды загад. Аўсееў жа заўсёды прывык разважаць, рэвізаваць, думаць і знаходзіць лепшае для сябе з усёй сумы магчымага.

Такія звычкі ён набыў даўно, яшчэ ў школе, калі ўразумеў, што большага часам можна дасягнуць малымі сродкамі. Ён шмат чытаў, вучыўся лёгка і сярод настаўнікаў і таварышаў лічыўся здольным, развітым вучнем. Без асаблівых турбот даваліся яму гуманітарныя навукі, матэматычныя ён таксама ведаў, але чым далей вучыўся, тым болей іх недалюбліваў. Яны патрабавалі крапатлівасці, настойлівасці, уедлівасці да дробязей, а гэта было не па нутры легкадумнай натуры Аліка. Бясконцыя хатнія заданні па алгебры, трыганаметрыі, фізіцы атручвалі яго вольны час, які патрэбны быў для спорту, асалод і

забаў. І ён змовіўся з аднакласнікам Шугайлам – недалёкім перарослым вучнем, які нядрэнна спраўляўся з матэматыкай і другагоднічаў у восьмым класе з-за абсалютнай няздольнасці да моваў. Гэты Шугайла рабіў за Аліка ўсе хатнія заданні па матэматыцы, пісаў за яго кантрольныя, аблягчаў усе яго матэматычныя абавязкі. Алік дапамагаў яму на дыктантах і сачыненнях, але рабіў гэта хітра, і калі па матэматыцы адзнакі ў іх былі аднолькавыя, то па моўных работах ацэнка ў Шугайлы мала калі ўзнімалася да «4». Алік жа чацвёркі меў рэдка, ён быў выдатнік.

Бацька яго, ваенны ўрач трэцяга рангу Аўсееў, у справы юнака-сына ўмешваўся мала, ён быў поўны ўласных клопатаў, затое маці, ужо немаладая і вельмі сардэчная жанчына, даглядала адзінага свайго сынка за пяцярых бацькоў і пяцярых матак. З маленства яна бачыла ў Аліку тысячу талентаў і незвычайных здольнасцей. Варта было маломy, дурэючы, крануць клавішы піяніна, як маці ўжо захаплялася і хвалілася перад бацькам, суседзямі, знаёмымі: «Ён жа цуда-дзіця – узяў акорд! О, ён будзе кампазітар!» Калі Алік пэцкаў на паперы пасліненым алоўкам якія крывулякі, маці падхоплівала тую паперку і бегла паказваць іншым – во якія здольнасці ў яе сына! Калі сынок крыўдзіў каго з малых на двары і на яго скардзіліся суседкі, тая, зачыніўшы дзверы, казала: «Малайчына, сынок. Не дазваляй, каб над табою бралі верх».

Падросшы, Алік пайшоў у музычную школу, няблага правучыўся там два гады, але затым кінуў. Маці вельмі пакутавала ад таго, здзіўляліся педагогі, чаму гэта ён, здольны да музыкі хлопец, раптам згубіў да яе ахвоту. Аўсееў нікому не тлумачыў нічога, але сам ведаў пэўна, што зрабіў правільна. «Лепш быць першым у Галіі, чым другім у Рыме», – вычытаў некалі Алік і зразумеў, што ў музычнай школе яму ніколі не быць першым. Першай там была Ніна Машкова, а на іншае месца для сябе Алік не мог пагадзіцца.

Праз месяц ці два Аўсееў запісаўся ў студыю выяўленчага мастацтва, купіў вялізны альбом, мядовыя

акварэльныя фарбы і ўсю зіму пісаў нацюрморты. Аліку здавалася, што яго малюнкі не горшыя за працы іншых студыйцаў, але выкладчык Леанід Яўгеньевіч, старэнькі чалавек у зашмальwаванай талстоўцы, часам, спыніўшыся ля яго мальберта, wерабіў вузенькую бародку і невядома чаму пытаўся:

– Вы, Аўсееў, спорт паважаеце?

– Паважаю, – жвава паварочваючыся да яго, казаў Алік, і настаўнік згоднаківаў бародкай.

– Правільна, футбол, напрыклад, – цудоўны занятак для юнака.

Спярша Аўсееў не разумеў, а пасля здагадаўся пра тыя цьмяныя намёкі і перастаў наведваць студыю. Якраз пачыналася вясна, прыгравала сонца, на дзіцячым стадыёне да позняга вечара бухалі мячы, і Алік Аўсееў аддаўся спорту.

Пасля некалькіх трэніровак яго залічылі ў юнацкую футбольную каманду раёна, якая затым у спаборніцтвах на першынство горада заняла першае месца. Здымак каманды-пераможцы надрукавалі ў мясцовай газеце. Алік у рашаючым матчы забіў два галы і адчуў у сабе такое, быццам ён намнога пасталеў за свае 16 гадоў. Яго ператалі цікавіць аднакласнікі і нават настаўнікі, якія выказвалі да юнака-спартсмена прыкметную ўвагу. Ён убачыў, як дзяўчаты пазіралі на яго закаханымі вачыма і таварышы згаралі ад зайздрасці да яго поспехаў. Усё гэта прыемна казытала яго пачуцці, і Алік пачынаў ужо думаць, што знайшоў сваю каляіну ў жыцці, калі ў пачатку лета на іхнюю каманду пасыпаўся шэраг няўдач. Тры разы запар на адказных спаборніцтвах яны ганебна прайгралі, аднойчы Аліка вывелі з ігры за грубасць і ўрэшце замянілі другім хлопцам.

Доўга пасля таго Аўсееў самотна перажываў свае жыццёвыя няўдачы, але маці суцяшала сына, даводзячы, што ён вельмі здольны, усебакова таленавіты, трохі ленаваты, а калі пастараецца, то будзе

проста геніяльны чалавек. Гэты засвоены з дзяцінства довад пакрысе супакойваў Аліка, напаўняў яго пагардай да іншых і даваў падставу глядзець на сябе як на выключнасць. Але людзі чамусьці ўпарта не хацелі заўважаць выключнасці Аўсеева і зусім не так, як таго патрабавала яго натура, ставіліся да маладога чалавека. Асабліва гэта праявілася, калі Алік Аўсееў прыехаў у Ленінград і паступіў у артылерыйскае вучылішча.

Вучачыся ў дзесятым класе, Алік зразумеў, што мастацтва – музыка, жывапіс, а таксама спорт – гэта не яго стыхія, бо там трэба фанатычныя бязлітаснасць да сябе, упартасць і праца. А ўсё тое, што даецца вялізным намаганнем, праз цяжкасці, тое – ведаў Аўсееў – перастае несці асалоду, радасць таго засмучаецца цяжарам дасягнення. Вайсковае ж вабіла яго рамантыкай быту і прыгажосцю формы. Ён любіў глядзець на чырвонаармейскі строй у час парадаў, яму падабаўся зухаваты выгляд маладых камандзіраў, апяразаных рамянямі, з сумкамі і пісталетамі на баку, любіў магутнасць баявых машын і захапляўся пазнанымі з кніг геройскімі ўчынкамі ў часе вайны. Бацька не пярэчыў супраць гэтай схільнасці юнака Аўсеева, маці ж, ва ўсім дагаджаючы сыну, саступіла са сваіх ранейшых жаданняў наконт яго бліскучай мастацкай будучыні, і за год да вайны Аўсееў стаў курсантам ваеннага вучылішча.

Але сталася так, што з першых жа дзён свайго вайсковага жыцця курсант Аўсееў адчуў расчараванне. Камандзірам аддзялення, у якое залічылі Аўсеева, назначылі мешкаватага тугадума Тодарава. Гэты няўклюдны чалавек з тупой упартасцю і асаблівым стараннем імкнуўся выканаць усё, што ад яго патрабавалася, не зважаючы ні на чые і ні на якія перавагі. Ён зусім не хацеў бачыць, што Аўсееў разумнейшы за яго і за шмат каго з курсантаў, што ён болей развіты і спрытнейшы, куды лепш выхаваны. Дарэчы, гэтага не хацелі заўважаць і старшына, і камандзір узвода – яго школілі так, як і ўсіх. І калі ён спрабаваў вылучыцца, паказаць свае веды і здольнасці, даказаць, што ён варты лепшага, тады яго не злюбілі

таварышы.

Праўда, тыя нягоды хутка скончыліся. Улетку, калі пачалася вайна, яго ў ліку вялікай групы курсантаў адклікалі з вучылішча і з маршавай ротай накіравалі на фронт. Аўсееў спачатку ажно ўзрадаваўся і, па пыльных дарогах дабіраючыся да перадавой, быў поўны рашучасці на які-небудзь геройскі ўчынак, усё карцела яму паказаць людзям, на што здатны Аўсееў. Але ў першым жа баі яго аглушыла грымоццем страляніны, асляпіла страхам блізкае смерці, апаліла болем няўдачы і разгрому. «Не, – сказаў сабе Аўсееў, – гэта не для мяне» – і далей ужо толькі і дбаў, каб як уцалець.

Дагэтуль яму сяк-так шанцавала, але, здаецца, прыйшоў канец яго ўдачам. Аўсееў вельмі непакоіўся, чула яго сэрца – будзе непапраўнае ліха, і ўсё думалася, што зрабіць, каб як абмінуць пагібель.

Так, стоячы пад застрэшкам і марна думаючы, як выйсці цэлым з гэтай бяды, Аўсееў і не заўважыў, калі сціх дождж. Уначы пацішэла, перасталі ляскатаць кроплі па даху, здаецца, патроху сунімаўся і вецер. Невядома, колькі было часу, Аўсееў адчуваў млявую знямогу ва ўсім целе і, злосна падумаўшы пра тых, у старожцы, якія гэтулькі часу не змяняюць яго, адчыніў дзверы.

**9**

Са старожкі шуганула цяплом, дымам, кіслай парнасцю мокрых салдацкіх шынялёў. Не пераступаючы парога і трымаючы насцеж расчыненыя дзверы, Аўсееў запытаў:

– Ну што? Вы мяне зменіце сёння?

– Нешта ты хутка, – сказаў з тапчана Карпенка. – Яшчэ, мабыць, і дзвюх гадзін не мінула.

Ён нетаропка выцягнуў з кішэнькі стары «кіраўскі» гадзіннік на ланцужку, угледзеўся, павярнуўшыся да скупога святла з грубкі.

– Эге, пяць гадзін! Хутка і світанне. Ну хто? Глечык, давай ты!

Глечык з гатоўнасцю ўзняўся, але побач усхапіўся Пшанічны.

– Пастой. Я пайду. Хай адпачне Глечык. Ён капаў многа, так што...

Не чакаючы камандзіравай згоды, баец захінуў шынель і палез у дзверы. Аўсееў паставіў у кут вінтоўку і пачаў ладкавацца ля грубкі.

– Дождж сціхае, здаецца? – спытаў Карпенка.

– Сціх, – сказаў Аўсееў, выцягнуўшы да агню счырванелыя рукі.

Побач, размораны гарачынёй і падкурчыўшы пад сябе ногі, мясціўся Свіст. Ён усё, відаць, не мог адолець свайго разважлівага настрою і з раздумным спакоем у светлых вачах, утаропленых на вуголле ў печцы, казаў:

– Паглядзеў я на людзей і там, і тут, смерці нагледзеўся і думаю: эх, чалавек, чалавек, не ведаеш ты, што табе трэба. Вымуштроўваеш ты, як малое распешчанае дзіця, пакуль табе гарачы певень у зад не дзюбне. А дзюбне, тады ўраз розум дойме. Тады ты ўцяміш, як жыць трэба. Гэта я з самога сябе даўмеўся, вот, ярына зялёная.

– Яно так, – азваўся Карпенка, выцягваючы на тапчане ногі. – Але хай яна згарыць, вайна гэтая. Колькі ліха, колькі гора! Мне дык яна ўсё жыццё парушыла. Толькі на ногі ўзняўся, на сваю каляю ўзбіўся, а тут трах-трах – павяло...

– Гэта праўда, – згадзіўся Свіст. – І калі ўжо мы яго здужаем, гада? Прэ і прэ, паразіт!

– Нічога, здужаем. Да Масквы ўжо не пусцім. Гэта пэўна.

Аўсееў, грэючы мокрыя пальцы, непрыязна бліснуў на старшыну чорнымі сцюдзёнымі вачыма, у якіх былі

здзек і пагарда.

– Ага. Можна падумаць, што Масква за Уралам.

– За Уралам не за Уралам, а Маскву не аддамо.

– Гэта мы ўжо чулі, – чмыхнуў Аўсееў. – А тры месяцы адступаем...

– Глупства, – жыва азваўся Свіст. – Кутузаў таксама адступаў. Тут, брат, план, можа, такі, як з французам. А што? Заманіць глыбей у лясы, балоты, акружыць і кокнуць к чортавай матары, каб ніводнага не засталося.

Карпенка курыў, пускаў у столь шырокія струмені дыму і нешта думаў. Аўсееў, нагрэўшыся, узяўся даядаць кашу, Віцька зграбаў ля печкі апошняе паліва, а Глечык, поўны ўвагі на круглявым хлапечым твары, абапёрся на руку і слухаў. Дровы ў грубцы дагаралі, зіхацела жарам куча вуголля, змрок затульваў постаці людзей, невыразна свяціліся толькі твары, рукі.

– Ах, гады, гады! Што зрабілі з Расіяй, – казаў Свіст, падбіраючы ў цемры рэшткі паліва. – Ну чакай, дабяромся – нікому літасці не будзе.

– Нашто так, – падумаўшы, заўважыў Карпенка. – Усіх не трэба пароўну мераць. Ёсць і ў немцаў людзі. Падпольшчыкі. Відаць жа, яны сваю справу робяць.

– Што, можа, пралетарскую рэвалюцыю рыхтуюць? – нявесела ўсміхнуўся Аўсееў. – Я чуў, адзін палітрук пра рэвалюцыю ў Германіі агітацыю разводзіў. Кажа, хутка нямецкі пралетарыят падымецца супраць Гітлера.

– А што? Можа, і падымецца. Што ты думаеш? Мы не ведаем, а там, мажліва, справа ідзе. Не можа ж быць, каб усе рабочыя там – за Гітлера.

– Ага, чакай, – буркнуў Аўсееў.

– Эх ты, разумнік, – зазлаваў Карпенка. – Нешта ты дужа знайка вялікі, гляджу. Усё ты знаеш, усё разумееш.

– І разумею, а што ж!

– Разумееш! Вось я пагляджу заўтра, які ты будзеш разумны.

Аўсееў змоўчаў. Стала ціха. Глечык насупіўся, Свіст разважна казаў:

– Гэта нічога, нічога. Хай! Пэўна што ліха, але няма ліха без дабра, а дабра без ліха. Перамучымся, але бяда жыць навучыць.

Заскрыпеўшы тапчаном, Карпенка павярнуўся на другі бок і заціх. Седзячы, прытуліўся да цёплай печкі прамоклы Аўсееў, на падлозе з галавой ухутаўся шынялём Свіст. Глечык падсунуўся бліжэй да грубкі і, ашчаперыўшы калені, маркотна глядзеў на рэшткі агню.

Калі зусім дагарэлі дровы, яшчэ доўга яркай чырванню зіхацела вуголле, па ім дзе-нідзе прабягалі сінявата-празрыстыя агеньчыкі, але іх усё менела, і з імі ўсё гусцеў змрок у гэтай хаціне. Пасля на вуголлі пачала ўвачавідкі расці тоненькая смуга попелу, яна варушылася, гайдалася, усё шырэй распаўзалася ў грубцы. І ад гэтага затухання ці ад чаго іншага ўсё жаласней сціскалася ў грудзях Глечыкава сэрца, поўнае даўніх, балючых турбот.

## 10

За гэтую страшную пару нязмерных людскіх пакут Глечык ужо парадкам агрубеў нутром і перастаў заўважаць дробныя нягоды жыцця. Не вельмі дапякалі хлопцу маршы і акопы, сцюжа, голад, прызвычаіўся ён да патрабавальнасці камандзіраў, і толькі адно вялікае перажыванне, ніколі не сціхаючы, дзень і ноч тачыла яго душу.

Ён быў нясмелы і маўклівы хлопец, зважлівы да старэйшых і байчэйшых за яго, ніколі нікому не адкрываў сваіх пакут, усё слухаў другіх, думаючы, што ягонае гора – не гора. Праўда, ад таго не было лягчэй, і

ўсё чарнела ўнутры ад непазбыўнага болю мінулага...

Эх, каб можна было спыніць час, перайначыць жыццё спачатку, «сабраць з дарог каменні тыя, што губяць сілы маладыя»! Не зрабіў бы, можа, і Глечык тае крыўды роднаму, найбліжэйшаму чалавеку – маці, крыўды, ад якой цяпер так балюча і трывожна ў яго душы.

Ціхае і прыгожае было маленства Васількі Глечыка. Цагельны завод на краі пасёлка, агромністыя старыя кар’еры з шырокімі лужынамі жоўтай вады, доўгія сушыльныя павеці і мноства цэглы – сырой, падсохлай і абпаленай. На сырой можна было напісаць сваё прозвішча, намаляваць зорку, абпал чырванеў, як медзь, быў жорсткі і звонкі. У кар’ерах пасялковыя падшывальцы лавілі ўлетку палонікаў, дурэлі, купаліся, прападалі ля вады з ранку да вечара, пакуль на абрыве не з’яўляўся Васеў бацька і не гнаў іх дадому.

Глечыкаў бацька, вядома, меў дачыненне да таго завода, ён працаваў абпальшчыкам – гаспадаром доўгай, як пячора, абпальнай гофманскай печы, якая заўжды патыхала пылам і жарам. Бацька быў добры, ніколі не лаяў Васю, у палучку прыходзіў трошкі пад хмелем, прыносіў яму цацкі і цукеркі. Маці тады хмурылася, і малы Васілька ніяк не мог зразумець, чаму яна сярдуе на бацьку, ён жа ў такія часіны быў яшчэ ласкавейшы, дабрэйшы і весялейшы, чым заўсёды.

Ну, але калі маці крыўдзілася, то і Васілька не мог адчуваць сябе шчаслівым, і ён таксама перажываў тое і трохі наракаў на бацьку. Васілька вельмі любіў маці – дужа ласкавую, прыгожую і добрую жанчыну, з якой усе людзі ў пасёлку абыходзіліся вельмі прыветна. Яна ніколі не ведала сярдзітага, грубага слова, была заўжды вясёлая, бывала, кожны, хто сустракаўся з ёю, адразу радасна і светла ўсміхаўся. І вельмі шчасліва жылося тады на гэтым заводзе. Васілька вучыўся ў школе, быў па матцы старанны, сумленны і зважлівы і да пятнаццаці год не ведаў, што такое сапраўднае гора.

Але гора здарылася – нечаканае, недарэчнае і

страшнае. Аднойчы ў дажджлівы, як сёння, восеньскі вечар яны ўсе – бацька, маці, Васілька і трохгадовая Настачка – сядзелі ў пакоі за сталом і слухалі тыдзень таму назад куплены патэфон. Бацька асцярожнымі, не прывучанымі да драбніц пальцамі ўстаўляў у мембрану іголку і асцярожна апускаў яе на пласцінку. Маці слухала, аблакаціўшыся на падаконнік, – яна была вельмі прыгожая тады, нейкая летуценная і ціхая. І вось у такі час знадворку пачуўся дзікі, нечалавечы крык.

Яны ўсе здрыгануліся, бацька кінуўся да акна, затым – да дзвярэй, сунуў ногі ў боты і як быў – у адной кашулі, без шапкі – скочыў на вуліцу. Васілька таксама выбег следам і адразу за рогам ля плота ў святле недалёкага ліхтара ўбачыў страшнае. З мокрага ад дажджу, невысокага слупа электрасеткі спаўзаў уніз чалавек, іх сусед Трошкін, а на зямлі, распрастаўшыся ў гразі, ляжаў нерухомы бацька. Васілька кінуўся туды, закрычаў, выбегла маці, пазбягаліся людзі. Але ўжо нічога нельга было зрабіць ці дапамагчы – бацьку забіла токам.

У той вечар скончылася Васількава шчаслівае дзяцінства, і ён зазнаў пачатак вялікага гора. Бацьку пахавалі, маці счарнела ад пакутаў і слёз. Васілька таксама плакаў, але рабіў гэта, хаваючыся ад усіх, нечакана ён адчуў сябе мацнейшым па характары ў гэтай асірацелай сям’і і стрымліваўся як мог. Ім стала цяжка, сумна і пакутна. Ён тады скончыў сямігодку, але маці хацела, каб сын вучыўся далей, а сама пайшла на завод фармаваць чарапіцу. Зарабляла яна няшмат, грошай на ўсё не хапала, і яны ашчаджалі кожную капейку і як-кольвечы жылі. Васілька таксама зарабляў дзе мог – збіраў металалом, памагаў рамантаваць ваганеткі, грузіў на машыны цэглу. Маці патроху ачуняла ад гора, супакоілася і, калі-небудзь паклаўшы спаць Настачку, садзілася да сына і казала: «Нічога, не бядуй, сынок, як-небудзь пражывём. Усё ж нас двое, работнікаў». Поўная замілаванай пяшчоты, яна гладзіла яго па каротка астрыжаных віхрах, а Васільку было вельмі ніякавата ад той яе ласкі, і ён сарамяжліва ўхіляўся. Але ў тыя хвіліны хлопец гатовы быў на

ўсялякія турботы, каб хоць трошкі аблегчыць спакучанае жыццё маці. Пасля смерці бацькі ён стаў любіць яе ўдвая болей.

Толькі маці неўзабаве павесялела сама. Неяк у пагодлівы выхадны дзень яна добра прыбралася, надзела свае белыя, некалі купленыя бацькам туфлі, узяла маленькую сумачку і пайшла, наказаўшы Васільку дагледзець Настачку і нікуды не ісці з дому. Вярнулася яна пад вечар, вясёлая, жвавая, па-ранейшаму прыгожая і ласкавая. Яна доўга і радасна забаўлялася з Настачкай, пагладзіла па галаве Васільку, але ў сынавай душы раптам узнялася да яе незразумелая, крыўдлівая варожасць. Ён тады не сказаў ёй нічога, пайшоў к кар’еру і да змяркання праседзеў на абрыве.

Праз колькі дзён тая крыўда забылася, маці была добрая, шмат працавала, увечары прыходзіла зморaная і суцішаная. Але аднойчы на нейкае свята яна ўстала дужа раненька, збегала ў краму, старанна прыбрала ў пакоі, нарыхтавала посуд і сказала Васільку, што ён, калі хоча, можа пагуляць, бо да іх прыйдзе госць. Васілька адчуў нядобрае, насупіўся, гуляць не пайшоў, а, залезшы на дах хлеўчука, пачаў выглядаць таго ненавіснага госця. Госцем аказаўся Кузьмічэнкаў – бухгалтар іхняга завода, не дужа ўжо малады чалавек, які заўсёды ездзіў на веласіпедзе з прышпіленым да рамы партфелем. Васілька зноў уцёк на кар’ер і да поўначы не паказваўся дадому.

А маці ў той вечар доўга не клалася спаць: усё чакала яго. Яна, пэўна, ужо нешта згадала ў яго настроі, уздыхнула, калі ён, прыйшоўшы, моўчкі заваліўся на ложак, пасля паплакала крыху і сказала, што ён яшчэ малы і не разумее ўсяго, што трэба было б зразумець. Тады нейкая жаласць да маці коратка варухнулася ў яго душы, але зразумець яе зусім ён сапраўды не мог, а галоўнае – не хацеў.

Нешта ў ім заартачылася, ён страціў сваю былую шчырасць, пазбягаў заставацца з ёй адзін на адзін. І калі год назад маці прывяла да іх таго Кузьмічэнкава і

сказала, што ён цяпер будзе іх бацькам, Васілька зразумеў, што тут яму жыць нельга.

Праз дзень ці два ён узяў сваю новую рубашку, зімовую бацькаву шапку, тры чырвонцы надоечы атрыманых ім грошай і пайшоў на станцыю. Там ён сеў у прыгарадны цягнік і прыехаў у Віцебск. У кішэні яго была пацёртая газета з аб’явай аб прыёме навучэнцаў у школы ФЗН. Так праз пару дзён Васіль Глечык узбіўся на свой хлеб і адцураўся матчынай ласкі.

Дома ён не сказаў нікому, куды паехаў, чаму і на каго пакрыўдзіўся. Маці, відаць, нямала перажыла, пакуль знайшла яго ў Віцебску, прыехала, прасіла вярнуцца, а галоўнае – не крыўдаваць, але ён маўчаў, ні слова не сказаў ёй пры сустрэчы, не адказваў на пісьмы. Калі ж пачалася вайна, ён даведаўся, што Кузьмічэнкаў пайшоў у войска, а маці з Настачкай засталіся адны. І хлопец тады завагаўся. Ён ведаў, што ён патрэбны там, што неяк трэба ратаваць маці ад той навалы, якая няспынна кацілася на ўсход, але былая крыўда не давала яшчэ забыцца на яе.

Пакуль ён разважаў і вагаўся, немцы падышлі да Віцебска, і трэба было ратавацца самому. Васілька прычапіўся на станцыі да апошняга вагона апошняга цягніка і дзе пехатой па шпалах, а дзе ў эшалонах дабрыў да Смаленска. Відаць, у людскіх нягодах вялікае буры растварылася хлопцава крыўда і засталося толькі балючае ўсведамленне ўласнай несправядлівасці да маці, якая так любіла яго.

...Глухая цемра запанавала ў старожцы, патухлі апошнія іскрынкі ў грубцы, стала халадней. Дружна саплі хлопцы, прыхрапваў старшына, а Глечык шырока раскрытымі вачыма нерухома пазіраў у змрок і нудзіўся. Заўтра можа здарыцца з ім што цяжкае, ён можа загінуць, гэта будзе першы яго бой з ворагам, але не страх смерці, не жаль да сябе дапякалі хлопца ў гэтыя апошнія хвіліны спакою.

– Маці, адзіная мая, дарагая матуля, – шаптаў у бяздонную цемру Глечык, – ці даруеш ты мне калі маё

непаслушэнства, мае дураслівыя выбрыкі? Чаму я такі быў дурны, не разумеў твайго сэрца, якое хацела свайго чалавечага шчасця, навошта пакінуў цябе – родную, адзіную маю? Як ты цяпер там, у варожым палоне, адна? Што з табой зробяць крывавыя вылюдкі і хто заступіцца за цябе?..

**11**

Тым часам старшыне Карпенку сніўся маркотны доўгі сон.

Прыплялося яму, быццам у гэтай вось старожцы ля грубкі, на тым месцы, дзе разлёгся Віцька Свіст, сядзіць яго, Рыгора Карпенкі, бацька. Ён – строгі, заклапочаны, згорблены ад нялёгкай жытухі стары – закручвае раскудлачаны сівы вус і сіпатым старэчым голасам гаворыць камусьці:

– Вось што, сыны. Як сабе хочаце, а надзел болей дзяліць не будзем. Пакуль я жывы – не дам. Дадзяліліся – з сахой павярнуцца недзе. Ляксей хай жыве, астатнія гэць у свет – свайго хлеба шукаць.

І тут, бачыць Карпенка, з цемры выступаюць ягоныя браты – старэйшы Ляксей, кульгавы Цыпрон, сварлівы Мікіта і з гэтага боку – ён, малодшы Рыгорка. Як і некалі, гадоў пятнаццаць назад, злосны, гарласты Мікіта ў адказ на тыя бацькавы словы сарваў з галавы зашмальцаваную ад поту шапку і гэпнуў яе вобземлю.

– Ага! Любімчыку, старшанькаму – чорта яго матары! А мы што? Куды мне чацвярых блазнюкоў дзяваць? Куды? Кажы, бацька! – б’ючы сябе кулаком у расхрыстаныя грудзі, крычаў Мікіта.

Браты загулі, заварушыліся, нездаволеныя бацькам, выцягнулі жылаватыя рукі і пачалі насоўвацца на яго, гатовыя разарваць старую згорбленую постаць ля грубкі. Але бацька сядзеў спакойны, строгі, зусім не баязлівы, быццам ён ведаў нейкую сілу, якая магла абараніць. Грышка спалохаўся, што здарыцца страшнае,

і, кінуўшыся да старога, засланіў яго.

Тады браты замахалі ўгары доўгімі, як абламаны шлагбаум, рукамі, растапырылі над ім кіпцюрастыя кашчавыя пальцы, прагна пацягнуліся да яго шыі.

– Ага, – шыпеў з цемры Мікітаў голас– Добра табе: ты ў армію пойдзеш, ты да камандзіра даслужышся, ты жалаванне палучыш, а мы што? Што мы-ы-ы?

Тыя кіпцюрастыя братавы пальцы ўхапілі Грышку за горла, за грудзі, за ногі і рукі, сціснулі, ён стаў задыхацца, але адбіваўся як мог. А бацька ўсё сядзеў ля грубкі і, пазіраючы на бойку, агідна хіхікаў:

– Ага, ага! Во, так яго, так, так, так...

Рыгор ірвануўся неяк, выслізнуў з гэтых кастлявых абдымкаў і кінуўся прэч.

Пасля нешта перайначылася ў сне, ён апынуўся ўжо за станковым кулямётам пад агромністым заснежаным валуном, на беразе таго безыменнага возера ў Фінляндыі, дзе сяржант Карпенка зрабіў свой першы вайсковы подзвіг. За другім такім жа каменем туліўся з «ручнікам» узводны – лейтэнант Хіль. Болей у іх роце не засталося нікога, і яны трэція суткі з двух кулямётаў адбіваліся ад фінаў. Толькі цяпер, у сне, на іх чамусьці наступалі не лыжнікі асобага батальёна «Суомі», а нямецкія эсэсаўцы – яны роўным густым ланцугом хутка беглі па заснежаным лёдзе возера. Карпенка страляў і страляў, але яго кулі недзе знікалі, не робячы ворагу шкоды. Ён спахапіўся, што не паставіў на планцы прыцэл, і тады аказалася, што няма і самой планкі, што яе адбіла асколкам, а кулі з перагрэтага ствала падаюць на снезе перад самай яго пазіцыяй. Дацяты жахам трапіць у рукі немцаў, Карпенка схапіў у абедзве рукі апошнія дзве «лімонкі» і з крыкам: «За Радзіму, за Сталіна!» замахнуўся на ворагаў. І тады ён пачуў ззаду знаёмы прастуджаны голас іхняга камандзіра батальёна, які ўчора пакінуў іх тут, на гэтым пераездзе:

– А здорава ты, Карпенка, разышоўся!

Здзіўлены старшына павярнуўся з паднятымі гранатамі і чамусьці ўбачыў Аўсеева, які спакойна даядаў з кацялка згатаваную Свістам кашу і казаў:

– Ты дзівак, камандзір. Чаго так артачышся? Давай лепей есці кашку з катлетамі. Хіба не бачыш – то ж нашы.

Яшчэ болей здзівіўшыся, ён угледзеўся ў ланцуг на лёдзе і зразумеў, што гэта сапраўды ішлі нашы, чырвонаармейцы ў будзёнаўках, а Аўсееў, аблізваючы лыжку, казаў далей:

– Ну вось, камандзір, цяпер у цябе медальку і адбяруць. Нашто ў сваіх страляў?

Змучаны жахамі, ён баязліва зірнуў на свае грудзі, дзе побач са значком «Выдатнік РСЧА» заўжды вісеў яго медаль «За баявыя заслугі», і адчуў там нечую руку, што ласкава гладзіла яго. Ён узняў галаў – побач стаяла Каця – Кацярына Сымонаўна, яго маленькая маладая жонка, якая немаведама як апынулася тут. Яна гладзіла яго грудзі, роспачна чаплялася за яго шыю і плакала, плакала, як у той дзень, калі праводзіла яго ў ваенкамат – на другую, куды болей страшную вайну з немцамі.

– Дык глядзі ж, – казаў Карпенка, вялікімі рукамі абдымаючы худыя вострыя плечы Каці. – Народзіцца – беражы, шануй яго...

– Ой, родненькі, ніколі ён для цябе ўжо не родзіцца, – закінуўшы галаў, праз слёзы і енкі прыгаворвала жонка. – Загінеш ты, прападзеш, любы, харошы мой...

Гэта было нясцерпна. Апанаваны жахамі, Карпенка неяк натужыўся, каб скінуць іх, і прачнуўся.

У старожцы панаваў суцэльны сляпы змрок. Мерна соп на падлозе Свіст, недзе стрымана і роўна дыхаў Аўсееў. Карпенка спусціў з тапчана ногі. Цела застыла ад холаду, які ўжо запанаваў у гэтай дзіравай будыніне, і старшына зябка захінуўся ў шынель. Ён намацаў кішэні,

выцягнуў капшук, вобмацкам у цемры згарнуў цыгарку. Запальніца чамусьці не загаралася, толькі выпстрыквала маленькія сіняватыя іскрынкі і гасла. Карпенка схаваў яе назад у кішэню і, намацваючы ў цемры людскія целы, ступіў да грубкі. У попеле яшчэ дзе-нідзе тлелі вугольчыкі, старшына дастаў адзін і, узяўшы яго пальцамі, прыкурыў. Папяровы кончык цыгаркі ўспыхнуў зыркім палахлівым агеньчыкам, асвяціў на момант сонны насуплены твар старшыны, бліснуў у насцярожаных сумных вачах скурчанага ля печкі Глечыка. Старшына кінуў вугаль у грубку, зацягнуўся і зноў адступіў на тапчан.

– Ты чаго не спіш, Глечык? – запытаўся Карпенка з цемры.

– Так, не спіцца.

– Дарма. А заўтра, бадай, не ўдасца, – заўважыў Карпенка і, памаўчаўшы, зазначыў сабе, думаючы пра сон: «Ат, лухта! Навярзецца ўсякага...»

Ён зноў разлёгся на тапчане, курыў і думаў аб тым, што навеяў яму гэты благі недарэчны сон.

Так, нялёгкае было жыццё сялянскага хлопца Карпенкі. Адслужыўшы тэрміновую памочнікам камандзіра ўзвода, ён застаўся яшчэ і год з дзесяць служыў старшыной роты. Неспакойная гэта служба, хто ведае – не пазайздросціць старшынскаму хлебу. Цяжкавата было Карпенку, але неяк прывык, уцягнуўся ў бясконцыя казарменныя клопаты. Ды і мусіў цягнуць, бо вяртацца дадому на Арлоўшчыну не выпадала, у бацькавай хаце жыў са сваёй вялікай сям’ёй Аляксей, усе астатнія браты разбрыліся па свеце. Праўда, пасля стаў калгас, не трэба была свая гаспадарка, зямля, але калгас той доўгі час ледзьве ліпеў, з цяжкасцю становячыся на ногі. І ўсё ж да мірнага працоўнага жыцця вельмі цягнула старшыну Карпенку. Пакрысе жыццё наладжвалася, станавілася лягчэй і ў вёсцы і ў горадзе, але тады распачалася вайна з фінамі. На ёй Карпенку давялося сербануць ліха, яго параніла, пасля ён атрымаў баявы медаль і ўрэшце здзейсніў свае

даўнія мары – звольніўся ў запас. Як удзельніка вайны і ўзнагароджанага, яго прызначылі намеснікам дырэктара льнозавода, далі добрую кватэру ў другой палавіне папоўскага дома, дзе была заводская кантора, і Карпенка неўзабаве ажаніўся з Кацяй або Кацярынай Сымонаўнай, маладзенькай настаўніцай тутэйшай пачатковай школы.

Заводскія справы яго захапілі. Па старой вайсковай звычцы ён не шкадаваў свае працы, часу, стараўся разам з дырэктарам, аднарукім чырвоным партызанам Шорацам, і іх завод быў адзін з лепшых у раёне. Ён стрымана, па-свойму, без асаблівай ласкі, але моцна кахаў сваю Кацю – Кацярыну Сымонаўну – і з незвычайнай, ніколі не адчуванай пяшчотай чакаў неўзабаве малога.

І тут зноў – вайна.

Цяжка і няўдала пачалася яна, кожнага дня гінулі сотні людзей, але Карпенку на фронце ўсё ж шанцавала. Іх дывізію ўлетку разбілі пад Оршай, аднак рэшткі палка, у якім служыў старшына, неяк выкарабкаліся з акружэння, вынеслі зброю і сцяг. Праўда, загінулі ў баях тры камандзіры яго роты, змянілася некалькі камбатаў, ужо зусім мала засталося тых, з кім старшына вытрымаў першы бой, а Карпенка ўсё быў цэлы. Урэшце ён ужо прывык да сваёй неўязвімасці, дбаў пра іншых і ніколі асабліва не клапаціўся аб сабе. Здаралася, ён заставаўся на нядоўга камандзірам батальёна, даўжэй – камандзірам роты, немцы асабліва яго нідзе не білі, звычайна выходзіла так, што і Карпенка, налаўчыўшыся, даваў добрай здачы. Ён не вельмі палохаўся сам, пільна сачыў за боем, не даваў спуску баязліўцам, байцы трошкі крыўдавалі на яго за лішнюю строгасць, але ў баях цанілі крыклівага старшыну.

Карпенка дакурыў цыгарку, паляжаў яшчэ. Сон болей не ішоў, у старожцы па-ранейшаму было цёмна, але чуйны да часу старшына здагадваўся, што хутка наступіць ранак. Ён зноў узняўся, захінуўся ў шынель і, пераступіўшы цераз Свіста, расчыніў дзверы.

На дварэ марудна світала. Змрок паволі радзеў, адпаўзаў з пераезда, ужо прыкметны быў насып чыгункі, дарога з блішчастай лужынай. Чорнай расплывістай паласой цягнуліся ў шэрасць прысады. Вецер уціх, пацяплела, з лагчыны цераз пуці сунуліся шэрыя космы туману.

Старшына агледзеўся, шукаючы вартавога Пшанічнага, але таго нідзе не было. Ён абышоў старожку, зазірнуў у траншэю, гукнуў. «Дзіўна, – падумаў Карпенка, – няўжо задрамаў дзе?» Ён яшчэ паазіраўся, вылаяўся ад прыкрасці, і тады на шляху за бярозамі чуйную ранішнюю ціш праламіла гулкая кароткая чарга.

## 12

Застаўшыся адзін у вячэрнім ветраным полі, Фішар нейкі час слухаў далёкую страляніну за лесам, глядзеў на палахлівае мігценне ракет і думаў, што іх справы тут, відаць, кепскія. Калі ўжо немцы зайшлі з тылу, дык утрымаць тую дарогу наўрад ці будзе магчыма. Праўда, зайсці ў тыл магла і невялікая група фашыстаў, асноўныя ж іх сілы не мінуць гэтай адзінай, прыгоднай для аўтамабіляў дарогі. Калі толькі рынуцца яны і якія гэта будуць сілы, ці ўдасца ім, шасцярым байцам, утрымаць пераезд на суткі? – вось гэтыя думкі-сумненні ўсё настойлівей турбавалі байца.

Калі страляніна за лесам сціхла, Фішар схамянуўся ад свае трывожнай задуменнасці і схапіў лапатку. Ужо зусім сцямнела: неба, поле, дарогу з бярозамі завалакло туманным змрокам, трохі відаць было ржышча ля ботаў і ў ім – няроўная баразёнка старшыновай адмеціны акопа. Фішар узяўся капаць – імпэтна, бязладна разгортваць у бакі мяккую ад вільгаці глебу з іржышчам. Неўзабаве ў яго атрымалася нейкая ямка, накшталт невялічкай варонкі, далей зямля стала цвярдзейшая і зусім не хацела паддавацца. Баец парадкам змарыўся, расшпіліў папружку, зняў процівагазную сумку, паслухаў трохі, адпачыў і ўжо далей пачаў працаваць спакойней.

Ад тае аднастайнай працы і ветранай начной цішыні да Фішара прыйшла прывычная патрэба разважаць – дабірацца да сэнсу з’яў і акалічнасцей яго вайсковага лёсу. Супярэчлівае і незразумелае пачуццё мроілася ў ім у адносінах да старшыны Карпенкі. Фішар не паважаў гэтага чалавека, яго прыгнятала пастаянная нязменная патрабавальнасць старшыны, крыклівая злоснасць яго салдацкай натуры. Часта, калі старшына грубым, бесцырымонным тонам за якія-небудзь дробязі крычаў на байцоў, Фішару карцела абурыцца, патрабаваць добразычлівых, роўных адносін да людзей. Карцела, але ні Фішар, ні хто іншы з тых, што сам сабе абураўся старшыновымі наскокамі, не наважыўся зрабіць гэта. Самаўпэўненасць старшыны абяззбройвала, блакіравала волю, і Фішар адчуваў часам, што ён проста пабойваецца ўзводнага. Карпенка, відаць па ўсім, не любіў інтэлігентаў-разумнікаў і, як натура элементарна простая, ніколі не таіў гэтых сваіх адносін. Фішар часам пагарджаў старшыной, часам ненавідзеў, але варта было таму хоць на хвіліну проста, па-людску падысці да яго, стаць Карпенкам-таварышам – і Фішар ужо забываўся на сваю непрыязнасць і гатовы быў дараваць яму ўсе ранейшыя крыўды.

Вось і цяпер, пасля кароткай іх стычкі на пераездзе, стычкі, у якой, накапіўшыся, выбухнула даўняе Фішарава абурэнне, варта было Карпенку загаварыць з байцом проста і зважліва – і той адразу абмяк. І хоць яму было вельмі няёмка тут, у гэтым сцюдзёным ветраным полі – і самотна, і боязна, і гарэлі на далонях свежыя мазалі ад лапаткі, і недзе марнела маленькая крыўда, – чаго на такую справу прызначылі яго, а не іншага, – але баец маўкліва цярпеў. Ён ведаў, што гэта патрэбна палку, батальёну, ім шасцярым на пераездзе, ён разумеў гэта, але яшчэ было і затоенае жаданне – дагадзіць камандзіру.

А дагадзіць было цяжка. Чым глыбей у зямлю, тым усё болей нязручна было капаць у цеснаце вузкай ячэйкі – ні сагнуцца як след, ні выкінуць поўную лапатку, якая тыкалася ў сцены і рассыпала зямлю. Фішар усё часцей выпростваўся і, цяжка дыхаючы, услухоўваўся ў ноч.

Але тады ён адразу пачынаў мерзнуць на ветры, які ўсё не сціхаў, поўніў ноч шамаценнем бяроз на шляху, шорхатам іржышча і яшчэ нейкімі невыразнымі ветранымі гукамі; пачаў накрапваць дождж. Ужо можна было сяк-так схавацца ў гэтым акопчыку-ямцы, але старшына загадаў акапацца як мае быць, і баец, адпачыўшы, згінаўся ў чорную цеснату сховішча.

Дзіўна, думаў Фішар, як гэта атрымліваецца, што ён, малады, здольны, як раней прызнавалі многія, вучоны, знаўца шматлікіх мастацкіх існін, хоць таемна, але ўсё ж такі хоча спадабацца нейкаму малапісьменнаму салдафону, якім здаваўся яму старшына. Няўжо справа ў грубай сіле ці ў тых дысцыплінарных правах, якія дае камандзіру Статут, або ў нахабнаватай самаўпэўненасці гэтага чалавека? Здавалася, што гэта не так. Цьмяна неяк адчувалася, што Карпенка мае нейкія сапраўдныя перавагі над ім, нейкую патэнцыяльную сілу, на якую абапіраецца і ён, баец Фішар, але ў чым была тая сіла, Фішар зразумець не мог. Не мог жа дапусціць ён, што гэты старшына разумнейшы за яго ці болей і лепш разбіраецца ў вайсковых абставінах, ад якіх штачас залежаў іх лёс. Фішар хоць і не быў вайскоўцам, але за час франтавога жыцця навучыўся ўжо разбірацца ў ваенных абставінах, як ён думаў, не горш за гэтага саманадзейнага служаку Карпенку.

Дождж усё настойлівей лапатаў па спіне, пілотцы, па твары сцякалі сцюдзёныя кроплі, змокла перавязка на шыі. Фішар выпрастаўся, выцер гарачай далонню мокрыя калючыя сківіцы і жаласліва паглядзеў у неба, нібы там можна было што ўбачыць. Затым ён прымераўся да глыбіні – бруствер яшчэ не дасягаў і грудзей, але ўжо браўся граззю. У той гразі выпацкаліся мокрыя полы шыняля, рукі, пудовыя камякі наліплі да чаравікаў. Нідзе не было ў гэтую ноч паратунку ад сцюдзёнай агіднай макраты, якая напоўніла сабой усё наваколле.

Фішар пастаяў хвіліну, аддыхаўся і рашыў, што ўжо годзе. Не вылазячы на адкрыты вецер з ямы, ён разгарнуў сяк-так бруствер, дастаў з іржышча

абсыпаную зямлёй вінтоўку, наставіў каўнер і скурчыўся на дне сховішча.

Неадольная, усёабдымная стома апанавала чалавека, адразу пахілілася яго галава – вельмі захацелася спаць. Але спаць было нельга, ды і зморанае разагрэтае цела неўзабаве скаланулі першыя дрыжыкі. Холад з кожнай хвілінай усё далей запускаў сваю ледзяную руку, прымушаў байца сціскацца, туліцца і дробна дрыжаць. Дождж гусцеў, ужо зусім змокла пілотка, зябла на ветры нядаўна астрыжаная галава. Сашчапіўшы ў рукавах рукі, Фішар дрыжаў, варушыў плячыма, тупацеў нагамі і паныла думаў, як бы паменшыць свае пакуты. Але сагрэцца не было як.

І з часам, пэўна, прызвычаіўшыся да таго з-за безвыходнасці ці мо ўжо атупеўшы ад холаду, ён неяк змірыўся з пакутамі і хоць мёрз усё болей, але ўвага яго аддалася новым адчуванням-развагам.

Вось ужо некалькі дзён у прывычныя пакутлівыя пачуцці яго – пачуцці гора і болю за вялікія няўдачы вайны, адступлення – неяк паступова ўваходзіла невыразная нотка незадаволенасці сабою, цьмянае адчуванне нейкай сваёй памылкі. Як след разабрацца ў гэтым усё было некалі – то бамбёжкі, то марш, кароткія баі на выпадковых рубяжах і зноў адступленне. Ён баяўся прызнацца сабе самому, але, здаецца, недзе надламаліся несакрушальныя дагэтуль асновы яго быцця, асновы, якія змалку засвоіў сабе Барыс Фішар і на якіх ладзіў сваё жыццё.

Ён ужо быў не надта малады – нядаўна мінуў чалавеку трэці дзесятак, і за ўсе пражытыя гады ні на адзін момант не з’явілася ў яго сумненне ў спрадвечнай сіле мастацтва. Усё самае цудоўнае, самае вечнае бачыў ён у вышэйшым праяўленні чалавечага духу – у мастацтве.

Ён гадаваўся ў Ленінградзе. У яго бацькі, старога доктара Фішара, была каштоўная бібліятэчка манаграфій пра вялікіх мастакоў свету, і першыя малюнкі, якія захапілі хлопчыка, былі рэпрадукцыі з альбомаў жывапісу і скульптуры. Барыс рос ціхім, не па

гадах сур’ёзным хлопчыкам, неахвотна і рэдка спускаўся ў цесны захламлены двор, у якім заўжды было сцюдзёна і сыра, і часта падоўгу разглядаў малюнкі ў бацькавых кніжках.

Пасля ён сам з трапяткой нецярплівасцю ў сэрцы ўзяўся за пэндзаль і фарбы, маляваў тое, што бачыў з акна кватэры – дамы, вуліцы, коней, сабак. Людзі хвалілі, а хлопчыку хацелася плакаць ад прыкрасці, што ўсё так прыгожа было ва ўяўленні і дрэнна выходзіла на паперы. Наперакор людскім перакананням аб яго здольнасцях Барыс ведаў, што мастака з яго не выйдзе ніколі. Але канчаткова ўпэўніўся ў гэтым ён, відаць, позна, тады, калі ўжо ўся шчырая душа яго была без рэшты захоплена вялікай сілай мастацтва і хлопец ужо не мог існаваць без яго. Незразумелым болем замілавання душылі яго слёзы перад босымі нагамі «Блуднага сына», немы крык гневу і жаху заўжды рваўся з горла перад катастрофай Пампеі, хлопцу хацелася маліцца на «Джаконду», бясконца разглядваць незвычайныя твары, позы, адзенне славутай іванаўскай «Месіі», буйная сарамяжная радасць жыцця ахоплівала яго ля палотнаў Рубенса.

І ён, не стаўшы мастаком, усё ж звязаў сваё жыццё з мастацтвам. Падросшы, вучыўся, чытаў, думаў, даследаваў сам і ў дваццаць пяць год абараніў дысертацыю на званне кандыдата мастацтвазнаўства. Бліжэй за ўсіх у гэтую пару яму стаў Іванаў з яго бескарыснай самаадданай душой, згарэўшай у шматгадовых пошуках вышэйшага сэнсу жыцця, з яго фанатычнай прыхільнасцю да мудрасці і праўды. Фішар схіляўся перад яго «Месіяй», любаваўся паветранай тонкасцю яго італьянскіх пейзажаў, але асабліва захапілі яго біблейскія эскізы мастака. Ён знайшоў у іх куды болей, чым спадзяваўся, – Іванава, цудоўнага майстра-графіка, і Іванава-філосафа, нястомнага шукальніка вечнага. Яго «Вірсавія» здавалася Фішару нечуваным гімнам жыццю, зенітам акварэльнага майстэрства – шэдэўрам генія, які стварае, не падазраючы пра веліч свайго тварэння.

Мастацтва здаўна і назаўжды зачаравала яго істоту, напоўніла дух неспатольнай прагай цудоўнага. Пасля дысертацыі ён шэраг год даследаваў італьянскае Адраджэнне, напісаў манаграфію пра Мікеланджэла. Бязмерная веліч захапляючага і высокага адкрывалася яму ў кожным з вялікіх дзеячаў мінулага, і ён шкадаваў вельмі, што так хутка ішоў час і так коратка жыццё чалавека. Ён не дужа цікавіўся палітыкай, тым неспакойным, шматтурботным жыццём, што бурліла, плыло, абганяла яго. Вучонага мала краналі планы і падзеі надзённасці – змалку ён адасобіўся ад усяго, што не складала чароўнай прывабы мастацтва. З гэтай, відаць, прычыны ён не разумеў і не дужа цікавіўся братам – інжынерам-канструктарам самалётаў. З юнацтва яшчэ яны ўзаемна аддаліліся, сустракаліся рэдка і па духу былі адзін аднаму чужыя. Апошні раз яны з’ехаліся гады два назад на пахаванне бацькі і тады ж пару дзён правялі разам.

Брат быў зусім не такога, як ён, характару. Энергічны, жвавы, учэпістага, вёрткага розуму, ён ва ўсякай справе адчуваў сябе звыкла і ўсё разумеў з ходу. Тады яны збіраліся ўжо расстацца і ў апошні той вечар паціху ішлі па праспекце. Было парна і душна, з Фантанкі прыемна патыхала прахалодай, адна за адной на яе сярэдзіне выслізнулі з-пад Анічкава моста тры байдаркі. Браты спыніліся ля трэцяй статуі клодтаўскага ўтаймавання і лена пазіралі на згодныя рыўкі грабцоў.

– Вось так і ў нас з немцамі, – працягваў ранейшую размову брат. – Быццам і згода, і дружба, і мір, а на самай справе...

Ён не скончыў, змаўчаў, глядзеў у рачную каламуць, а Барыс, думаючы аб тым, не мог зразумець, што азначала гэтае «на самай справе». Яму здавалася, што брат утрыруе, бо даўняя варожасць з Германіяй уладжана, дагавор заключаны, газеты друкуюць германскую інфармацыю аб вайне на Захадзе, ваўсю развіваецца гандаль. Чаму ж тады гэтае «на самай справе»?

Ён сказаў аб тым брату, а той толькі ўсміхнуўся,

зацягнуўшыся папяросай. Пасля, памаўчаўшы, ён растлумачыў:

– Адстаў ты, Барыс, ад часу. Занафталініўся ў старажытнасці. Вядома, твая справа, але ў наш час гэта нават дзіўна. Свет коціцца к вялікай вайне, зразумей, брат.

Ён тады не паверыў, а яна неўзабаве накацілася, гэтая страшная вялікая вайна. Усчалася нечакана, неспадзявана, знянацку – Фішар прыпыніў на 48-й старонцы новую сваю манаграфію і ўжо болей не ўзяўся за яе.

Апынуўшыся ў войску, ён адчуў сябе белай варонай, няўмекам, самым няўдалым з усіх у гэтай гаманлівай, асаблівай, ні на што вядомае яму не падобнай грамадзе разнастайных людзей. Ён ніяк не мог навучыцца хадзіць у нагу, хутка ўскакваць на пад’ёме, няўклюдна пад рогат таварышаў аддаваў чэсць, заняткі па штыкавому бою ўшчэнт знясільвалі яго. Спярша ён горка перажываў, балюча зносіў уціск крыклівых сяржантаў, каяўся за няўвагу да вайсковай справы ў інстытуце і думаў, што ён самы няздольны чалавек на зямлі. Пасля трохі асвойтаўся, трапіў на фронт, іншыя, большыя страхі і клопаты зацямнілі яго кволае інтэлігенцкае самалюбства. Ён быў чалавек удумлівы і разумеў, што гэта пакутна і марудна нараджаўся ў ім той, на каго ён менш за ўсё рыхтаваў сябе, – нараджаўся баец. І яшчэ Фішар з вялікай тугой заўважаў, як усё меней і меней заставалася ў ім ад яго былога – ад мастацтвазнаўцы Фішара. Грубае, страшнае жыццё штодзённа і няспынна сцірала з яго душы вялікае значэнне мастацтва, якое ўсё болей і болей саступала сваё месца інстынктам барацьбы – выходзіла, што тое высокае і нязменнае, чым дыхаў ён трыццаць гадоў, цяпер проста было непатрэбным у гэтым страшным хаосе вайны. І тады прыйшло гэтае таемнае сумненне, у якім ён сёння ўрэшце прызнаўся сабе: ці сапраўды яно – тое адзіна вялікае і вечнае, чаму ён аддаў свае лепшыя маладыя гады? Ці не памыліўся ён, узяўшы яго за адзіны свой крыж, ці не лепш зрабіў брат, які аддаў веку і людзям

свае намаганні іншага парадку – намаганні, што ўвасобіліся цяпер у рэальную сілу, здольную ўратаваць свет?

Невядома, колькі мінула часу, чорнае ветранае неба ўсё сыпала ў ноч спорны лапаткі дождж. Фішар зусім скалеў, аж балела нутро ад няспынных сутаргаў, крывіла сківіцы, але нейкае змярцвелае здранцвенне не давала варухнуцца, каб сагрэць сябе. На спіне і плячах баец адчуваў халодную ліпкасць мокрага адзення, па сценах з бруствера плылі струмені гразі, у якой, усё глыбей тонучы, на дне агідна хлюпалі ногі. Фішар падкурчыў іх да самага твару, затульваў калені мокрымі поламі шыняля. Калі ад нясцерпнага холаду асабліва моцна скалыналася цела, ён тады абуджаўся ад свае змярцвеласці і трывожна ўслухоўваўся ў ноч. Наваколле па-ранейшаму поўнілася густым шамаценнем ветру і частым лопатам кропель.

Так пакрысе мінала гэта пакутная, золкая ноч. Пад ранак Фішар прыкархнуў, атупелы ад мардавання на холадзе, нібы праваліўся некуды ў мутнае бяздонне думак – пра сябе, старшыну Карпенку, пра гістарызм Вазары, наватарства Мікеланджэла і пра тое, як страшэнна цяжка зрабіцца здатным байцом.

## 13

Прычыніўшы за сабой дзверы старожкі, Пшанічны з рашучай выразнасцю адчуў, што ён назаўжды ўжо адарваўся ад гэтых пяцярых людзей, з якімі звёў яго недарэчны вайсковы лёс. З самой гэтай хвіліны, як ён ступіў у мокрую цемру ночы, ён апынуўся адзін, не звязаны ўжо ні з кім ва ўсім белым свеце. Усё яго няладнае мінулае засталося адрэзаным на парозе той цёмнай задымленай старожкі – засталося па сваёй волі пакінутае ім, будучае было недзе на гразкай дарозе.

Нейкі нядоўгі час Пшанічны перасільваў нечаканае хваляванне ў сабе ад таго, што гэтак шчыльна наблізіўся ён да ажыццяўлення даўняй сваёй задумы. Нечакана для яго самога непрыемна заварушылася

ўнутры нейкае шкадаванне, нібы нясмелы боязны дакор сабе, і ён, адчуўшы, што гэта міма-волі можа спляжыць выпеставаны ім намер, у думках аблаяў сябе: «Не кісні! Няма па кім».

Ён выправіўся да чыгункі, пераскочыў цераз траншэю, узышоў на невысокі чыгуначны насып і ўгледзеўся ў цемру. Дождж перастаў, патроху слабеў і вецер. Ноч зусім пачарнела, утапіўшы ў восеньскай глухамані ўсё наваколле. Пшанічны ведаў, што хутка пачне світаць, а на світанні, магчыма, з’явяцца на дарозе немцы, і тады будзе позна. Тады ён можа апынуцца між двух агнёў, і таму трэба было спяшацца.

Баец пастаяў, услухаўся, азірнуўся на старожку, з якой даносіўся сцішаны Свістаў гоман, і сказаў сабе: «Давай!» Потым ён паспешлівым крокам злодзея збег са жвіровага насыпу, пераскочыў канаву і, не выбіраючы – па гразі і лужынах, пайшоў дарогаю.

Узышоўшы на гулкі насціл мастка ў нізінцы, Пшанічны яшчэ азірнуўся і зноў адчуў у сабе самотную тугу і з асаблівай сілай – пачатак невядомай свае адзіноты. Гэтае адчуванне міжвольна ахапіла яго так моцна, што ён аж спыніўся, але затым зноў зазлаваў на сябе і, прыпомніўшы злосную заклапочанасць Аўсеева, падбадзёрыўся. Так, ён не памыляецца, ён задумаў правільна ўжо хоць бы таму, што яны там асуджаны на смерць. А ён урэшце памкнецца асядлаць свой лёс, заслужыць, даказаць сваё права на людскае жыццё, жыццё, якога ён варты, нягледзячы ні на якія няўдачы.

З гэтымі запальчывымі думкамі, якія пакрысе запанавалі ў яго галаве, ён шпарка крочыў, распырскваючы чаравікамі лужыны, коўзаючыся ў гразі і асцерагаючыся збочыць у канаву. Тым часам пачало днець, мутным святлом наліўся краявід, патроху заблішчала гразкая макрата дарогі. Пшанічны ўзнімаўся на пагорак з бярозамі, ён ведаў, што тут недзе ў сакрэце павінен быць Фішар, і трохі прыцішыў крок. Фішара ён не баяўся, з гэтым «вучоным»-няўдакам управіцца яму, калі б што здарылася, было б няцяжка, але ўсё ж лепей, каб усё абышлося ціха.

Пшанічны зняў з пляча вінтоўку, павярнуў галаў, прыслухоўваючыся, – нідзе нікога не было.

Так ён паціху мінуў бярозы, што вынікалі на яго шляху, адышоўся далей, зрэдку насцярожана азіраючыся. Усё болей святлела, цьмяная шэрань золаку, вынікаючы невядома адкуль, адслойвала зямлю ад неба, расхінала туманны прастор, паступова адваёўвала ў цемры дарогу, канавы, рэдкія кусты хмызняку.

Парадкам ужо аддаліўшыся ад пераезда і бяроз, Пшанічны адзначыў, што самае страшнае пройдзена. У яго адлягло на сэрцы, з’явілася лёгкасць, некаторая зухаватасць у думках. Ён перакінуў з рукі ў руку вінтоўку і падумаў, што зброя ўжо не спатрэбіцца, а пры сустрэчы з немцамі можа толькі пашкодзіць яму. Не прыпыняючы хады, баец ухапіў яе аберуч за штых, размахнуўся ў паветры і шпурнуў за канаву ў поле. Пачуўшы, як яна пляснулася аб размяклую зямлю, Пшанічны крыва ўсміхнуўся сваім мардатым няголеным тварам. Цяпер яго ўжо нічога не звязвала з арміяй, з абавязкамі грамадзяніна Савецкай краіны, цяпер ён застаўся адзін між небам і зямлёю. Гэта было незвычайна – адчуваць сябе адзінокім, без найменшай залежнасці ад людзей. Але ён ведаў, што так не пражывеш доўга, каб уратавацца ад смерці і прыдбаць якую-ніякую долю, у яго абставінах найлепшым было здацца немцам – на іх літасць і ўладу.

Ад паспешнай хады Пшанічны разагрэўся, расшпіліў каўнер шыняля і трохі суцішыў крок. Тым часам ранак ужо разагнаў цемру, можна было выбіраць дарогу, і ён, абыходзячы лужыны, ішоў па абочыне. Аднастайнасць хады ўжо зусім суняла яго кароткую ўзрушанасць, Пшанічны захацеў есці і, падумаўшы, што трэба скарыстаць спакой і адзіноту, на хаду развязаў свой мяшок. Тут ён нядобрым словам яшчэ раз памянуў Свіста, які выцягнуў яго сала, але хлебны акраец з цукрам здаўся яму смачным, і Пшанічны, жуючы, паглыбіўся ў свае думкі.

Перш за ўсё цікавіла, як да яго паставяцца немцы. Добра, калі б адразу сустрэўся які інтэлігентны,

разумны афіцэр, уцякач паказаў бы яму нямецкі пропуск-лістоўку, некалі знойдзеную ў полі і рупліва прыхаваную на ўсякі выпадак. Пасля ён папрасіў бы адвесці яго ў штаб і там расказаў бы якому начальніку, хто ён і чаму добраахвотна здаўся ў палон. Калі б патрабавалі даць звесткі пра свой полк, ён не таіўся б. Навошта? Усё роўна раней ці пазней полк разаб’юць канчаткова, гэта зусім не залежыць ад таго, пасведчыць аб ім Пшанічны ці не. Калі запатрабуюць яшчэ чаго, ён зробіць усё, бо ўсё гэта будзе для яго і супраць тых, ад каго ён досыць напакутаваўся на сваім вяку. Не можа быць, каб немцы не ацанілі як трэба яго шчырасці і не аддзячылі яму. У лагер яго як добраахвотнага перабежчыка не павінны адправіць, відаць, адпусцяць на волю, а можа, нават паставяць на якую кіраўнічую пасаду ў горадзе ці сельскай мясцовасці. Гэта было заманліва. О, тады Пшанічны паказаў бы свае здольнасці, даказаў бы яго апекунам, што яны не памыліліся ў ім. Ён бы не пашкадаваў ні сябе, ні людзей, гэтых пакорлівых працаўнікоў, якіх немцы за некалькі месяцаў прымусяць скарыцца. Немцам, вядома, патрэбны адданыя людзі, каб кіраваць вялізным абшарам заваяванай Расіі, і Пшанічны, калі добра возьмецца, магчыма, дарасце да якіх чыноў. Скончыцца вайна, і тады няблага было б прыдбаць невялікую ды ладную сядзібу і ў спакоі па-людску зажыць хоць на старасці год.

У сярэдзіне гэтых мараў-развяг блізка наперадзе пачуўся нечы адрывісты голас. Пшанічны насцярожыўся, да болю ў вачах імкнучыся пранікнуць у затуманены прасцяг дарогі, што-кольвечы ўбачыць у ім, і паціху ішоў над канавай. Неўзабаве з туману цьмянымі постацямі вынікла стрэхі хацінак, голае вецце дрэў, пасля плот з забытай анучай на жардзіне. За рогам крайняй хаты, куды паварочвала дарога, чулася прыглушаная туманам прысутнасць людзей, і Пшанічны яшчэ болей устрывожыўся ад думкі – хто там? Яму страшна было зноў напаткаць сваіх, рускіх, якія невядома як аднесліся б да яго, бяззбройнага. Зноў жа – стала боязна і немцаў, Пшанічны на момант упершыню адчуў невыразную прыкрасць ад свае паспешнасці, але

ўжо было позна.

З-за рога хаты раптам высунуўся танклявы, падпяразаны, у казыркастай шапцы салдат; упіраючыся нагамі ў зямлю, ён ускаціў на сухое матацыкл і, не выпускаючы з рук руля, паставіў нагу на завадны педаль. Пшанічны не адразу зразумеў, хто перад ім, і спыніўся ад нечаканага страху. Матацыкл тым часам загыркатаў, і тады немец убачыў разгубленага Пшанічнага. Салдат устрапянуўся, крыкнуў, схапіўся за аўтамат, што боўтаўся на яго грудзях. З-за хаты выбег яшчэ адзін немец у плямістым, як жаба, камбінезоне, і Пшанічны, адчуўшы, як у грудзях яго нешта абарвалася, няспрытна і з нейкай раптоўнай нязладнасцю ў душы ўзняў рукі.

Немцы сталі ля матацыкла, трымаючыся за аўтаматы, а ён, ледзьве перастаўляючы замлелыя ногі, боязна ішоў да іх. Яны не стралялі, толькі гыркнулі злосна і варожа нешта незразумелае, і адзін, той, што заводзіў матацыкл, – белатвары, з абвіслай губой мужчына, – ступіў да яго насустрач. Ён нешта закрычаў па-свойму, Пшанічны не зразумеў і, не апускаючы рук, паспрабаваў вытлумачыць:

– Я – плен, плен. Рус капут...

Ён апусціў адну руку, спрабуючы дастаць з-за пазухі недаравальна забыты ў такую хвіліну пропуск-лістоўку, але немец пагрозліва крыкнуў і тыцнуў яму аўтаматам у грудзі.

Другі, маладзейшы, стаяў зводдаль і, наставіўшы на яго зброю, цікаўна аглядаў перабежчыка сваімі лянівымі вачыма.

Так Пшанічны стаяў з узнятымі рукамі пад скіраванымі на яго аўтаматамі. На гоман з двароў яшчэ выбягалі немцы, падкаціла некалькі матацыклаў з калясками, з якіх тырчалі ручныя кулямёты. Той, маладзейшы, салдат і яшчэ адзін падступілі да яго, сцягнулі з плячэй рэчавы мяшок, абмацалі кішэні, бесцырымонна сарвалі з ланцужка ножык. Пшанічнаму не шкада было свайго

барахла, яго прыгнятала толькі гэтая беспрычынная злосць у іх рухах і тварах, насцярожаная падазронасць да яго. Ён усё спрабаваў пераканаць то аднаго, то другога, што ён не мае дрэннага намеру і па сваёй волі здаецца ў палон, пры гэтым крыва ўсміхаўся з незатухлым страхам у вузкіх вачах і бубніў:

– Я плен, камарад немец… сам плен, сам…

Ён аглядаў гэты дзесятак салдат з матацыкламі, спрабуючы згадаць дабрэйшага або ўгледзець афіцэра, і яго позірк сустрэўся са змрочным паглядам немца ў фуражцы і шынялі з чорным аксамітным каўняром. Адчуўшы, што ўсё пайшло не так, як ён марыў, і ад таго не могучы ўжо адолець уладарнай тужлівасці, ён кінуўся да гэтага немца-камандзіра.

– Пан афіцэр! Я ж сам, я ж плен, плен… – узмаліўся Пшанічны.

Афіцэр, аднак, не глядзеў на яго, ён нешта казаў салдатам, нацягваючы на жылістую руку рудую скураную пальчатку. Пшанічны тады зусім спалохаўся – ён адчуў упершыню, што сталася нешта непапраўна благое.

Немцы загергеталі між сабой, абыякава пазіраючы на яго, камандзір яшчэ нешта сказаў, і той, з абвіслай губой, што першы ўбачыў яго, тузануў Пшанічнага за рукаў і махнуў уздоўж дарогі. Ён зразумеў, што трэба ісці, і, азіраючыся, пайшоў, думаючы, што немец пойдзе за ім канваірам. Але салдаты засталіся на месцы і, бачачы яго нерашучасць і, відаць, жадаючы падбадзёрыць, замахалі рукамі ўздоўж пустой ранішняй вуліцы. Ён здзівіўся, што яны не хацелі суправаджаць яго, нешта жахлівае і незразумелае ўпілося ў яго душу, у балючай грымасе скрывіўся твар, і ён, раз-пораз азіраючыся, баязліва пайшоў, куды паказвалі яму.

Так ён аддаліўся крокаў на сотню, немцы ўсё стаялі ззаду, адзін матацыкл, гыркнуўшы маторам, зрабіў паўкола і скіраваўся на яго. Ад благога прадчування Пшанічны ўжо траціў уладу над сабой і, не ведаючы,

куды і нашто, віхлява крочыў па грazі, скрэмзанай слядамі гумавых колаў. У паваленых варотах абгароджанага парканам двара нечакана паказалася спалоханая кабета ў тоўстай хустцы з пустымі вёдрамі на каромысле. Пшанічны аж пахаладзеў нутром ад нечаканасці гэтай нядобрай у такі момант сустрэчы і ў той жа час здрыгануўся ад кароткага грому кулямётнай чаргі ззаду. Грудзі яго маланкай пранізаў пякельны боль, і ён, падламаўшыся ў каленях, асеў на гразкі дол вуліцы.

Напаследак, сутаргава хапаючы ротам паветра, Пшанічны ўчуў роспачны лямант кабеты і нема замычаў – ад болю, ад усведамлення канца і апошняй лютай нянавісці да немцаў, якія забілі яго, да тых, на пераездзе, што яшчэ заставаліся жыць, да сябе, ашуканага сабою, і да ўсяго белага свету…

**14**

Тая кулямётная чарга, што скончыла зацятае жыццё Пшанічнага, абудзіла з паўсоннага забыцця і Фішара. Яшчэ не ўсвядоміўшы таго, што сталася, ён прахапіўся, ускочыў у акопе і зноў упаў на дно, не ўтрымаўшыся ад болю ў заседжаных нагах.

Ужо добра развіднела, але поле і лес засцілала рэдкая кісяя туману, было ціха і золка. Ля шляху нерухома і расплывіста маячылі ў мутным небе бярозы, дарога ляжала пустая, за лагчынаю белым бокам ледзь вырысоўвалася старожка. Вёскі, завалочанай туманам, адсюль зусім не было відаць.

І тады з туманнай далечы, дзе знікала дарога, бязладны трэск матораў прарваў цішыню. У Фішара маркотна заныла ў грудзях, аслабелі рукі, насцярожаным поглядам уставіўся ён удалячынь і з тугою адчуў, што надышоў той час, калі вызначыцца ўвесь сэнс яго жыцця. Сяк-так сабраўшы рэшткі душэўнай сілы, ён тузануў затворам і ўжо не зводзіў блізарукага позірку з затуманенага пачатку дарогі, дзе павінны былі паказацца немцы. Але ці то ворагі ехалі вельмі марудна,

ці зусім ужо аслаб зрок байца: ён нічога не бачыў там, а матацыклы ўсё працягвалі трашчаць. Некалькі гэтых хвілін перадышкі далі Фішару прыдушыць хваляванне, і чалавек зразумеў, што яму тут прыйдзецца кепска. Але ў такіх абставінах, калі ўся яго дзейнасць у гэтым полі была на віду ў старшыны, ён, сам таго не ўсведамляючы да канца, хацеў, каб старшына ўрэшце перамяніў сваю думку аб ім. Гэта не было фанабэрыяй навабранца і не жаданнем паддобрыцца да камандзіра – проста так трэба было Фішару. Відаць, за гэтую пакутную ноч роздуму немудроная старшынова мерка салдацкіх вартасцей у нейкай меры стала і для Фішара эталонам жыццёвай годнасці.

Так ён чакаў, ад напружання і ўвагі дробна ляскаючы сківіцамі і да болю ўціскаючы ў плячо прыклад вінтоўкі. Схіліўшыся, ля мушкі далікатна трымцела на лёгкім ветры нейкая ўсохлая сцяблінка. Ад частых гарачых выдыхаў пацелі шкельцы акуляраў, але Фішар баяўся зняць, каб працерці іх. Ён вельмі дакладна адчуваў свой абавязак і ўжо набраўся рашучасці да канца выканаць яго.

А ўвогуле яму было нялёгка, і ён намагаўся падбадзёрыць сябе, суцешыць тым, што і тыя геніі, якія стваралі мастацтва вечнага – і Мікеланджэла, і Чэліні, і Верашчагін, і Грэкаў – у свой час браліся за шпагу, мушкетон ці вінтоўку і выступалі на ворагаў. Відаць, барацьба за права жыць была важней за мастацтва, і ёй, пэўна, суджана перажыць яго. Гэты нечаканы вывад трохі супакоіў Фішара, і баец адчуў ужо болей сілы ў сабе.

Калі ўрэшце ў канцы дарогі з дымчатай завесы туману выніклі невыразныя прыземістыя сілуэты матацыклаў, Фішар упёр локці ў гразь бруствера і прыцэліўся. Але ад доўгага напружання зрок яго ўсё болей мутнеў, туман і праклятая блізарукасць не давалі як трэба разгледзець цэль. фішар перавёў дыханне, прыклаўся яшчэ раз і тады сцяміў, што трапіць у ворагаў зусім няма шанцаў.

Тое адкрыццё было жахлівае, баец спалохаўся і зноў разгубіўся. А матацыклы тым часам, усё болей

набіраючы хуткасць і штораз выразней акрэсліваючыся ў тумане, шпарка сунуліся па гразі дарогі.

Не ведаючы, што зрабіць болей, каб як спыніць ворагаў, баец усё ж сяк-так прыцэліўся і стрэліў. Прыклад балюча штурхнуў у плячо, у твар патыхнула гаркатой пораху, а матацыклы на дарозе каціліся далей. Перажыўшы нядоўгае змярцвенне, Фішар хуценька перазарадзіў і зноў стрэліў, пасля яшчэ і яшчэ.

Выпусціўшы абойму, ён шырока расплюшчыў вочы і ўгледзеўся. Нідзе ва ўсёй калоне не было ніякага знаку яго стрэлаў – ніхто не спыніўся, не паглядзеў у той бок, дзе сядзеў Фішар. Пярэдні матацыкл ужо шпарка набліжаўся к бярозам, і байцу трэба было ўцякаць ці стаіцца. Але тут яму з незвычайнай выразнасцю ўявіўся строгі скуласты Карпенкаў твар, і Фішар амаль наяве чуў яго звычайны зняважлівы вокліч: «Разява». Гэта балюча сцебанула па яго пачуццях; не ведаючы яшчэ, што ён зробіць, Фішар увапхнуў у магазін новую абойму і скіраваў вінтоўку ў бок недалёкіх бяроз.

Гэта было самае пэўнае і самае небяспечнае з усяго магчымага ў тых надзвычайных абставінах. За нядоўгі час, пакуль баец, душачы ў грудзях трапяткое сэрца, прыціскаўся да бруствера і вёў, вёў ствалом за матацыклам, ніводнае выразнай думкі не з’явілася ў яго галаве. Ён канчаткова страціў тады са свайго адчування і жыццё, і мастацтва, і развагі аб годнасці свае асобы – увесь свет у той час абмежаваўся для яго толькі дакорлівым позіркам злосных старшыновых вачэй і гэтым імклівым ланцужком матацыклаў.

Пярэдні матацыкл, стрымана пагойдваючыся ў калдобінах і віхляючы з боку ў бок, старанна аб’язджаў лужыны і не дужа імкліва, але ўсё шпарчэй набліжаўся. Ужо стаў відаць плячысты вадзіцель у шынялі і казыркастай шапцы, які, ні разу не варухнуўшыся, здавалася, зліўся ў адно з машынай; ніжэй, у калясцы, бачны быў другі немец – на ім высока тырчала фуражка і цямнеў чорны каўнер шыняля. Баец не думаў тады, што яго могуць расстраляць раней, чым паспее стрэліць ён сам, ён не дужа хаваўся ў акопе і ўсё вёў, вёў

ствалом за тым блізкім пярэднім ворагам, пакуль ён не параўняўся з бярозамі, і тады стрэліў. Той, што сядзеў у калясцы, адразу хіснуўся на сядзенні, аберуч ухапіўся за грудзі і размашыста дзябнуў ілбом аб жалеза каляскі. Нейкім абвостраным, ненатуральным слыхам Фішар учуў у грукаце матораў той гук, і зараз жа страшэнны гром вострым болем расшчапіў яго галаву. Баец выпусціў з рук вінтоўку і, абцярушваючы рукамі мокрую зямлю, споўз на дно акопа.

Нейкі час ён яшчэ быў жывы, але ўжо не адчуваў нічога. Не бачыў баец Фішар, як кінуліся немцы да першага і адзінага забітага ім ворага, як беражна ўклалі яго, акрываўленага, у люльцы, як двое ці трое саскочылі з матацыклаў, шастаючы ў іржышчы ботамі, падбеглі да акопчыка і разрадзілі ў яго свае аўтаматы. Малады аўтаматчык у плямістым разведчыцкім камбінезоне з раўнадушнымі вачыма нагнуўся над ім, ірвануў за мокры каўнер яго шыняля і гідліва кінуў, мякка стукнуўшы скроняй аб мокрую сцяну акопа. Ён пастаяў над забітым, не ведаючы, што зрабіць яшчэ, і пасля з абыякавасцю пхнуў ботам процівагазную сумку, звечара забытую на брустверы. З сумкі вылецеў кавалак счарсцвелага хлеба, некалькі абоймаў патронаў і пашкуматаная старая кніжка ў чорнай вокладцы – «Жыццё Бенвенуто Чэліні, фларэнційца, напісанае ім самім». Адляцеўшы ў іржышча, яна расхінулася, і ранішні вецер, які пачаў ужо разганяць туман, паціху заварушыў яе зачытаныя, пашкуматаныя старонкі...

## 15

Учуўшы далёкую, знаёмую па тэмпу чаргу нямецкага кулямёта, Карпенка рвануў дзверы і зычным голасам, здольным узняць полк, закрычаў у старожку:

– У ружжо!!!

Глечык і Свіст, жмурачы заспаныя вочы на замурзаных, нямытых тварах, кінуліся ў дзверы. Свіст спрасонку не мог трапіць у рукаў шыняля, няспрытна распінаў яго і так выскачыў са старожкі, няўцямна азіраючы абшар.

Аўсееў бліснуў спалохам на раптоўна збялелым твары, хуценыса скочыў у траншэю і прытуліўся ў ячэйцы. Карпенка тым часам таксама заняў сваё ўкрыццё і залязгаў затворам, зараджаючы кулямёт.

Нейкі час яны ўсе чакалі, баючыся патрывожыць цішыню, але наперадзе не было нікога. Тады трывога пакрысе ўляглася, байцы агледзеліся, пачалі меркаваць, і Карпенка, успомніўшы пра знікненне Пшанічнага, гучна і злосна вылаяўся:

– Дзе Пшанічны, д’ябальская морда? Што гэта такое?

Свіст і Аўсееў, якія ўпершыню ўчулі, што прапаў баец, здзіўлена паглядзелі на старшыну. Гэтая падзея з Пшанічным непрыемна ўразіла іх, але трэба было сачыць за дарогай, бо, чулі яны, там здарылася нешта важнейшае.

Абапіраючыся рукамі аб не дужа высокі ўскраек акопа, старшына пільна ўзіраўся ў туман і злосна думаў пра гэтага Пшанічнага, няўмеку Фішара, які маўкліва сядзеў у полі, не падаючы ніякага знака, і пра тую невядомую падзею наперадзе, што прарвалася стрэламі. Карпенка не сумняваўся, што ў вёсцы ўжо немцы, ён толькі не ведаў, калі яны пакажуцца з туману, і баяўся, каб Фішар, заснуўшы, не трапіў у іхнія рукі. На якое там стойкае супраціўленне гэтага няўмелага байца-«вучонага» камандзір і не спадзяваўся, ён палічыў бы за лепшае, каб той проста цяпер уцёк да сваіх.

Але Фішар не бег, і яшчэ праз трохі часу на пераездзе пачулі далёкае фыркатанне матацыклаў. Карпенка зірнуў на Свіста, які, бяспечна высунуўшыся з акопа, азіраў дарогу, на Аўсеева, што нізка прыхінуўся да бруствера, і таксама ўпіўся ўдалячынь. Глечыка за рогам старожкі яму не было відаць, і старшына ўладарна скамандаваў:

– Увага! Да мяне не страляць! Замры!!!

Ён і сам прыпаў да прыклада свайго «дзегцяра», па-

драпежнаму самкнуў над пераноссем шырокія густыя бровы і напружана сцяўся. І ў той час усе пачулі, як на пагорку затахалі рэдкія адзіночныя стрэлы і з туману выпаўзлі матацыклы.

– Нашто? Нашто? – не разумеючы, чаму не ратуецца Фішар, закрычаў старшына. – Цікай давай! Эх ты, раз-зя...

Ён не дакончыў свайго папроку, бо стрэлы ў той час сціхлі, а матацыклы шыбавалі сабе далей. Карпенка чакаў, што Фішар, можа, яшчэ выбежыць у нізінку, а пасля ён стаў думаць, што баец стоіцца, прапусціўшы немцаў, але неўзабаве грымнуў адзінокі стрэл, які, відаць, адразу і затрымаў усю матацыклетную калону. Старшына здзівіўся, зусім не ведаючы, як разумець тое, і скамянеў, збянтэжаны незвычайнай сутычкай, што разыгралася ў полі ля дзвюх закаржэлых бяроз.

Яго вывеў з гэтай недаўменнай змярцвеласці пагрозлівы вокліч Свіста:

– Ах вы, сабакі! Я ж вам зараз уляплю!

Ён ухапіўся за свой ПТР, але было яшчэ рана, і старшына крыкнуў:

– Стой! Я табе ўляплю!

Бранябойшчык нездаволена азірнуўся, але паслухаўся і, відаць, зрабіў добра. Не прайшло і хвіліны, як ля бяроз выплылі з туману два бронетранспарцёры, яны спыніліся ля пярэдняга матацыкла, нешта пастаялі і пасля цішэй, чым дагэтуль, відавочна асцерагаючыся, пачалі спускацца па дарозе ўніз. За імі рушыла чарада матацыклаў.

Ужо зусім развіднела, скрозь разарваны ветрам туман паказалася ўгары клочча невысокіх аблокаў, дзе-нідзе між іх густой завалачы сіратліва бліскалі прагалы блакіту.

Карпенка зразумеў, што яно пачынаецца. Транспарцёры нямала занепакоілі яго, але старшына

сабраў усю немалую сілу свае натуры і толькі сцяў сківіцы. Каб ударыць пэўна і з карысцю, трэба было падпусціць іх як найбліжэй, і Карпенка вызначыў для гэтага рубеж на дарозе – масток крокаў за дзвесце ад пераезда.

– Свіст! – гукнуў ён бранябойшчыку– Глядзі, брат, пачнеш з задняга. Чуеш?

– Будзь спок! – коратка азваўся Свіст, наводзячы на машыны доўгі ствол свайго «пэтээра».

Пераезд сціх. За лініяй чыгункі ў траншэі стаілася яго чацвёра абаронцаў. Заклапочаны Карпенка ўжо не азіраў сваіх байцоў і не бачыў, як самотна зморшчыўся за рогам старожкі малады твар Глечыка, як засцярожліва стаіўся за бруствером Аўсееў, як напружыўся за нацэленым «пэтээрам» Свіст. Бегучы сюды, у траншэю, баец недзе згубіў пілотку і цяпер уцяў у плечы галаву на якой ва ўсе бакі тырчалі яго абстрыжаныя льняныя віхры.

Пярэдні транспарцёр яшчэ не дасягнуў мастка, калі з яго нечакана і глуха раздалося «бу-бу-бу-бу…», і адразу ж на чыгунцы, брустверы, на даху старожкі і яшчэ недзе ззаду, з імпэтнай лютасцю раскідваючы зямлю і трэскі, прагрукатала чарга разрыўных буйнакаліберных куль. Карпенка схамянуўся, калі на яго шчаку пляснула гразёю, але выцірацца ўжо не было калі. Падумаўшы, што ворагі заўважылі іх, старшына старанна прыцэліўся і даў першую доўгую чаргу.

Скрозь грукат стрэлаў ён чуў, як побач звонка стукнуў Свістаў ПТР і на брані пярэдняй машыны бліснула злая іскрынка. Транспарцёр крутнуўся ўбок, тыцнуўся пярэднімі коламі ў канаву і стаў. Старшына адпусціў пад пальцамі курок, у той час другі транспарцёр выскачыў наперад. Зноў побач, балюча аддаўшыся ў вуху, грымнуў другі стрэл Свіста, і машына, збавіўшы хуткасць, паволі спынілася. Матацыклы закруціліся на дарозе, бы растрывожаныя вадзяныя жукі, бязладна заляскаталі іх кулямёты, і кароткі імпэтны посвіст куль зноў скрамсаў паветра над пераездам.

Карпенка хацеў крыкнуць Свісту, каб той хутчэй дабіў бранявыя машыны, але ён баяўся адарвацца ад кулямёта, каб не ўпусціць момант замяшання і не даць матацыклістам схавацца за транспарцёры. Жалезнай хваткай сцяўшы кулямёт, ён біў па іх кароткімі і доўгімі чэргамі і, здаецца, зрабіў сваю справу. Праз якую хвіліну два ці тры матацыклы ўжо кульнуліся ў канаву, адзін стаяў пасярэдзіне, пакінуты седакамі, толькі задні, спрытна завярнуўшы, памчаў па дарозе ўгору.

Карпенка павярнуў ствол і, спяшаючыся, каб не празяваць яго, разы тры націснуў спуск. Але матацыкл усё ж узляцеў на пагорак і, мінуўшы бярозы, выскачыў з-пад агню.

Тады старшына адарваў ад пляча кулямёт і зірнуў у нізіну. Транспарцёр на дарозе ўжо гарэў, ахоплены мігатлівымі языкамі полымя, і слаў над полем хвост чорнага касмылявага дыму. Другі стаяў у канаве, задраўшы на абочыну доўгую плямістую скрынку кузава, нечым падобную на труну, а ўздоўж канавы адзін за адным уцякалі к бярозам немцы.

Старшына зноў схапіўся за кулямёт, але дыск ужо апусцеў, і, мяняючы яго на зараджаны, камандзір азірнуўся на сваіх байцоў. Віцька Свіст таропка біў запальнымі кулямі, стараючыся падпаліць другі транспарцёр; з ажыўленым натхнёным тварам высунуўся з акопа Аўсееў, а за рогам падзёўбанай кулямі старожкі часта і нават неяк весела грукала і грукала вінтоўка Глечыка. Карпенка, не тоячы сваёй радасці, закрычаў:

– Агню, агаю давай! Бі, Аўсееў, ядроны корань! Палі гадаў!

І яны яшчэ білі ў нізінку, па ўцекачах на пагорку, пакуль некалькі ўцалелых ворагаў не схавалася за бярозамі. На дарозе, у канавах, ля транспарцёраў засталіся нерухомыя целы, адна падбітая машына гарэла дымным, хісткім на ветры полымем.

Тады байцы зразумелі, што адбілі першую атаку,

перамаглі, і вялікая радасць ахапіла байцоў. Свіст мудрагеліста вылаяўся, агледзеўся і з зухаватым выразам на вясёлым свавольным твары падышоў да Карпенкі. Радасна і стрымана ўсміхаўся ў сваёй ячэйцы Аўсееў, недзе за старожкай з відавочнай неахвотай спыніў страляніну Глечык.

– Віцька, – маладзец, дай пяць, – сказаў Карпенка і моцным поціскам страсянуў руку бранябойшчыка.

А той, ззяючы радасцю на кірпатым твары, тлумачыў:

– Разумееш, думаў, па заднім, а калі пярэдні даў чаргу, рашыў: не! Гад, такой траскатні нарабіў, ужо думаў, галаву прадзіравіць. Ну, я яму проста ў лабаціну і звезануў.

– Халера, а мне пад самы ствол разрыўную ўсмаліў, ледзь вочы не заляпіў, – казаў Карпенка, выціраючы рукавом запэцканы твар. – Ну, цяпер уціхамірыліся.

– А я матацыкл падбіў, – уставіў Аўсееў, – Вунь, што ў канаву зваліўся. Мая работа.

Яны трошкі выхваляліся, шчасліва радуючыся першай перамозе, кожны быў поўны ўласных уражанняў, і ніхто не азірнуўся назад, дзе ля рога старожкі стаяў са сваёй драгункай сарамяжлівы Глечык. Невядома, як вытрымаў ён гэтае сваё першае выпрабаванне вайны, але цяпер у яго хлапечых вачах, звернутых да таварышаў, было сапраўднае шчырае захапленне.

Старшына Карпенка, аднак, нядоўга радаваўся, хутка ён успомніў Фішара, які нечакана стойка загінуў ля старых бяроз.

– Глядзі ты, а вучоны наш стрываў. Не збаяўся, – сказаў старшына і нахмурыўся.

Свіст і Аўсееў паглядзелі туды, дзе ледзьве прыкметнай плямкай выдзяляўся ў іржышчы акопчык Фішара. Яны не сказалі нічога, толькі кароценькая самота варухнулася ў іхніх вачах.

– А я на яго наракаў, – разважна казаў Карпенка. – А ён маладзец, глядзі ты.

Аднак кароткае захапленне-радасць хутка мінулася, людзі аддаліся новым развагам-клопатам пра сваё хуткае будучае. Старшына ведаў, што неўзабаве трэба яшчэ чакаць немцаў, ды ўжо куды болылае сілы, чым гэтыя, што былі, пэўна, разведкай. Ён загадаў Свісту, Аўсееву і Глечыку падрыхтавацца і сам пачаў набіваць патронамі два апусцелыя магазіны. Свіст адышоўся ў сваю ячэйку, стаў воддаль Аўсееў, а Карпенка, прысланіўшыся спіной да сцяны траншэі, шчоўкаў у дыску патронамі і думаў.

Неяк трошкі прыкра было камандзіру ад таго, што надоечы накрычаў ён на Фішара, што наогул не раз пагарджаў гэтым байцом, можа, нават зневажаў яго. Старшына ніяк не мог зразумець, як гэты інтэлігент-кніжнік наважыўся на такую самаахвярную смеласць. І Карпенка, які ўсё жыццё паважаў людзей простых, зразумелых і рашучых, як ён сам, цяпер першы раз усумніўся ў сваёй праўдзе, адчуўшы, што ёсць яшчэ нейкая невядомая яму сіла, апроч сілы мышцаў і знешняй відавочнай рашучасці.

– Але дзе ж гэты Пшанічны? Няўжо ўцёк?.. – сам у сябе запытаўся Карпенка і пакруціў галавой, падумаўшы, што і тут ён праваронiў – нечага недагледзеў у чалавеку.

## 16

Аліку Аўсееву рыхтавацъ-такі не было чаго: патронаў хапала, вінтоўка была ў спраўнасці, акоп даволі глыбокі, і баец, расшпіліўшы кручкі шыняля, узваліўся грудзьмі на бруствер і пазіраў на дарогу.

Якіх паўгадзіны назад у грымоце кароткага бою ніхто не заўважыў, што пасля першай чаргі з транспарцёра Аўсееў затуліўся галавой за бруствер і так не крануўся з месца. Баец зусім не бачыў дарогі, па якой ехалі немцы, і не страляў, толькі збочыў голаў, каб як-небудзь

бачыць Карпенку. Пакуль грукацелі стрэлы, Аўсееў пакутаваў і ўсё папракаў сябе, прадчуваючы хуткую пагібель, папракаў, што не знік ноччу, калі стаяў на варце, не ўцёк за лес, дзе можна было б далучыцца да якога падраздзялення і ўнікнуць недарэчнай пагібелі. Нейкім асаблівым абвостраным пачуццём ён згадваў, што Пшанічны ўцёк назаўжды, і яму было дужа крыўдна за сваю нядаўнюю нерашучасць, за якую прыйдзецца цяпер плаціць галавой. Супраць гэтай блізкай пагібелі ў ім роспачна пратэставала ўсё цела, увесь настырны Алікаў дух, кожная клетачка крычала, патрабуючы жыць.

Але мінула нямнога хвілін, а пагібелі ўсё не было, ды і асаблівага страху – таксама. Стрэлы з дарогі сціхлі, толькі грукала збоч ПТР ды тарахцеў старшыноў кулямёт, і Аўсееў асцярожна выглянуў.

Тое, што ўбачыў ён на дарозе, адразу сагнала з яго панічны настрой, зніклі пакуты, баец схапіў вінтоўку і пачаў страляць. Ён біў у немцаў, якія ўцякалі па канаве, аднойчы яму здалося, што адзін з іх упаў, забіты яго куляй. Гэта аказалася нават прыемна – змагацца і перамагаць, і хоць Аўсееў ведаў другое і даўно вызначыў свае адносіны да гэтай барацьбы, нешта ў ёй мімаволі захапіла яго. Але бой хутка скончыўся, і ён аж пашкадаваў, што гэтак мала дасталося яму зухаватай радасці.

Пасля чым болей мінала часу, тым усё настойлівей пачалі з’яўляцца іншыя думкі – што добра зрабіў, застаўшыся тут, не паддаўшыся слабасці і страху, што цяпер і ён можа не толькі пахваліцца, але і адчуць у душы ніколі яшчэ не адчуванае і даволі прыемнае шчасце перамогі. Думкі ляцелі далей, і Алік згадаў ужо, што калі ім пашанцуе як выкараскацца адсюль, то ўсіх іх, відаць, узнагародзяць, і тады і ў Аўсеева будзе медаль або ордэн – гэта было незвычайна зманліва і абяцала нямала прыемнасцей.

Так ішоў час, а навокал усё было ціха. Недзе за парадзелымі, прадранымі да нябеснай сіні аблокамі прагракаталі і сціхлі самалёты, аднекуль данесліся па

ветры глухія выбухі бомб. Дзень зноў пачынаўся ветраны, па-асенняму няўтульны і сцюдзёны, але цяпер нягоды надвор’я адступалі на другі план.

Свіст па-ранейшаму не мог зладзіць са сваім ажыўленнем. Нікольні не асцерагаючыся, ён вылез з гразкай траншэі і ў незашпіленым шынялі з настаўленым каўняром рассеўся на тыльным брустверы. Праўда, асцерагацца, можа, і не трэба было, бо дарога і поле наперадзе скрозь пуставалі. Транспарцёр яшчэ дыміў, але ўжо дагарэў, выставіўшы ветру закураны жалезны бок. Там жа стаялі пакінутыя пабітыя матацыклы, і Свіст, усё пазіраючы туды, не вытрымаў.

– Камандзір, – гукнуў ён Карпенку, які лапаткай выкідваў гразь з ячэйкі, – давай туды збегаю на хвіліну.

Карпенка выпрастаўся, паглядзеў у поле, паморшчыўся: відаць было, што ён не ўхваляе гэтай задумы, хоць і не хоча адмовіць Свісту.

– Га, камандзір? – пытаўся бранябойшчык. – Можа, з яды што прыдбаем. А то ўжо пуставата, турэцкі бог, ярына зялёная.

Карпенка яшчэ агледзеўся і нехаця дазволіў:

– Ну ідзі, толькі глядзі, каб дзе ранены не падстрэліў.

– О, мы яго хутка прыкокнем, – узрадаваўся бранябойшчык і пераскочыў траншэю. – Аўсееў, гайда са мной.

– Не, лепш ідзі сам.

– Эх ты, баягуз! – пагардліва кінуў Свіст і гукнуў Глечыку: – Пайшлі, салажонак, трафеі збіраць.

Глечык збянтэжыўся, не ведаючы, што рабіць, – хацелася паглядзець і было боязна вылазіць з траншэі на паверхню, дзе нядаўна лютавала смерць. Але адмовіцца ён усё ж не здолеў, тым больш што Свіст ужо пагардліва кінуў:

– Чаго трусіш? Пайшлі.

Тады ён узяў вінтоўку і вылез у вольны, вельмі прасторны і боязны свет. Яны перайшлі чыгунку і выправіліся па дарозе ў лагчыну.

Глечык даволі ніякавата адчуваў сябе тут, у гэтай прасторы, усё карцела адстаць ад Свіста, прыхавацца за яго спіну, думалася, што вось-вось ад тых варожых машын загрукаціць чарга і смерць-боль праніжа яго цела. Аднак там пакуль што не бачна было нікога, і хлопец стрымліваў, перамагаў свій страх і ішоў поплеч з таварышам. Так яны перайшлі масток і набліжаліся к пабоішчу, ніхто не страляў у іх, і Глечык паспакайнеў. Свіст жа досыць рашуча, з гранатай за дзягай, на якой блішчала вялікая флоцкая спражка, падышоў да транспарцёра, што стаяў на дарозе, абышоў яго, зазірнуў у адчыненыя ззаду дзверы. Жывога тут не відаць было нікога, воддаль на гразі ляжаў ніцма забіты немец, ля яго ў канаве другі, смярдзела паленай гумай, смылелым рыззём і фарбай. Не бачачы небяспекі, Глечык таксама падышоў да машыны.

Зірнуўшы туды-сюды, Свіст ухапіўся за дзверцы і скочыў у нутро транспарцёра. Глечык з нарыхтаванай вінтоўкай зазірнуў следам і аж адскочыў са страху. На чорным цыратавым сядзенні, адкінуўшы голаў і звесіўшы на дно нерухомую руку, ляжаў забіты гітлеравец. Пасля, трохі асмялеўшы, хлопец цікаўна і палахліва ўгледзеўся ў яго бяскроўны белабрысы твар, ён хацеў убачыць у ім які выраз, якую рысу – разгадку той ваяўнічай сквапнасці, што несла ў Расію шматмільённая армія гэтых чужынцаў. Але твар немца быў звычайны, хударлявы, парадкам няголены, і ні следу болю, ні чаго іншага з былога пачуцця ўжо не было ў ім. Свіст жа, безуважны да забітага, бесцырымонна пераступіў яго і, лязгаючы нейкім жалеззем, пачаў корпацца ў чэраве машыны.

– Эй, Глечык, трымай!

Ён падаў у дзверы новенькі і нічуць не абгарэлы зграбны варанёны кулямёт. Глечык узяў яго, а Свіст

яшчэ пакапаўся нешта і саскочыў з бярэмкам набітых патронамі стужак. Іх ён таксама аддаў хлопцу, а сам падхапіў на дарозе пакінуты аўтамат, нагой перавярнуў на спіну яго забітага гаспадара і гідліва плюнуў. Глечык увесь час адчуваў сябе ніякавата і боязна. Забітыя былі зусім як жывыя: у шынялях, рамянях, з круглымі бляшанкамі процівагазаў, толькі не рухаліся, але, здавалася, у кожнае імгненне яны могуць ускочыць з долу і кінуцца на іх. А Свіст гэтым часам, не звяртаючы на мерцвякоў асаблівай увагі, агледзеў матацыкл, абышоў другі транспарцёр, той, што засеў у канаве, і цераз борт таксама пералез у яго кузаў.

– Халера, няма нічога, – з прыкрасцю сказаў ён адтуль. – Пагарэў увесь харч, ярына зялёная.

Глечык дык аж узрадаваўся, што яды не знайшлося (якая там яда сярод гэтай гідоты). Доўга тут расходжвацца яны не сталі і неўзабаве падаліся назад.

Хлопец валок кулямёт, цяжкі маток металічных стужак і цяпер ужо не адчуваў таго страху, з якім ішоў сюды. Гэтая экскурсія нават спадабалася Глечыку, і ён усё перажываў захапленне сваімі сябрамі, якія ўчынілі такі вялікі разгром. Цяжка было нават уявіць сабе, што тыя звычайныя, простыя людзі гэтак удала панішчылі магутную германскую тэхніку, пабілі на дарозе тых самых немцаў, якія заваявалі Еўропу і якіх ад самай граніцы не маглі спыніць нашы дывізіі. Хлопец не мог зразумець усяго, але адчуваў, што і Карпенка, і Свіст, можа, і Аўсееў за знешняй сваёй прастатой і нехлямяжасцю маюць нешта ўмелае, дужае і надзейнае. І толькі ён, Глечык, відаць, не меў у сабе ніякай вайсковай сілы і таму баяўся і пакутаваў: гэтулькі страху ў нядаўнім баі вынесла яго хлапечае сэрца. Але ён пяўся, душыў у сабе той страх, стараўся хоць чым-небудзь памагчы ў той агульнай справе, што рабілі яны. Цяпер жа, пазнаўшы першую перамогу і супакоіўшыся, ён немаведама што гатовы быў зрабіць для камандзіра Карпенкі, для смелага слаўнага Свіста, да слёз шкада было Фішара, з якім яны трохі нават пасябравалі ў апошнія дні і елі суп з аднаго кацялка. Маладая,

адзінокая і шчырая душа Глечыка гарнулася да іх – гэтай маленькай купкі байцоў, у якой і ён пакрысе пачынаў знаходзіць свой жыццёвы прытулак.

– От гэта ладна, – сказаў Карпенка, калі яны падышлі да траншэі. – От гэта хвалю.

Ён пераняў у Глечыка яго ношу, беражна агледзеў новенькі кулямёт, ухапіўшы вялізнай пяцярнёй, пацягнуў рукаятку.

– Трафей, – засмяяўся Свіст, скакаючы ў траншэю да камандзіра. – А гламянуць няма. Была торба галет, ды і тая абгарэла. А гэта табе, камандзір, – усё трохі лягчэйшы за твайго пудовіка «дзегцяра».

Карпенка ўсё круціў у руках кулямёт, аглядаючы яго з усіх бакоў, паляскаў затворам, пацэліўся, ускінуўшы на руку. Кулямёт яму падабаўся, але старшына ўсё нешта разважаў з сабой.

– А патроны? – спытаў ён Свіста. – Гэта і ўсё? Не, брат, не падыдзе. На, Аўсееў, асвойвай, ваяваць будзеш, а мне мой болей здатны.

Свіст, здзівіўшыся, свіснуў і крануў на віхрах пілотку.

– Ну і дарма. Я яго сам схапіў бы, ды ПТР – з двума не зладзіш.

Аўсееў без усякай радасці ўзяў кулямёт, а Свіст, запусціўшы руку ў глыбокую кішэню свайго шыняля, нешта выняў у сцятым кулаку.

– Ну, а на гэта што скажаш? Га?

Карпенка далікатна ўзяў з яго далоні круглы кішэнны гадзіннік на доўгім бліскучым ланцужку, заскарузлымі вялікімі пальцамі беражна расчыніў футляр, пакруціў галоўку. Гэта быў добры кішэнны гадзіннік з секунднай стрэлкай, выпуклымі фосфарнымі лічбамі на крэмавым цыферблаце.

– Пятнаццаць камянёў, анкерны ход – вот, брат, трафей!

– хваліўся Свіст. – Хочаш, бяры. На імяніны не дам, а цяпер – калі ласка.

– Глядзі ты, ладная штуковіна: пятнаццаць камянёў, кажаш? – не то ўсур’ёз, не то з іроніяй казаў старшына. – Маладзец ты, Свіст, малайчына. Так праз год-два з цябе выйдзе выдатны марадзёр, ці не так, ярына зялёная?

– Ну, яшчэ што скажаш: марадзёр! – засмяяўся Свіст. – Не хочаш – давай сюды.

Ён працягнуў руку, але Карпенка, не зважаючы на гэта, размахнуўся з усяе свае немалое сілы і так ляпнуў гадзіннікам аб пашчэрбленую сцяну старожкі, што аж пасыпалася тынкоўка і з тонкім звонам разляцеліся ў бакі, пэўна, усе пятнаццаць каменьчыкаў.

– Вось і ўсё, і маўчок – справа скончана, – сказаў камандзір і адвярнуўся да свайго кулямёта ў ячэйцы.

Свіст пачухаў патыліцу, па-блазенску падміргнуў Глечыку і сапраўды ые сказаў ні слова.

**17**

Зацікавіўшыся новаю зброяй, Глечык падышоў да Аўсеева, і яны ўдвух пачалі даследаваць гэты трафейны кулямёт. Аўсееў чамусьці зноў стаў невясёлы і маўклівы, і нельга было зразумець, што рабілася ў яго душы. Дэманстратыўна, не прыкмячаючы Глечыка, ён паставіў на бруствер трафей, здзьмухнуў пыл і расчыніў затворную каробку.

– «Эмга трыццаць чатыры», апошняй мадэлі, – буркнуў ён. – У вучылішчы мы вывучалі. Хуткастрэльнасць велізарная – не раўня нашаму «дзегцяру».

Глечык уважліва глядзеў, слухаючы болей за сябе спрактыкаванага таварыша, і думаў, што той пакажа, як абыходзіцца з кулямётам. Але Аўсееў з незразумелай варожасцю закрычаў на хлопца:

– А наогул на якога д’ябла! Ты прынёс – ты і страляй!

– Дык я ж не ўмею, – шчыра прызнаўся Глечык. – А чаму ты не хочаш?

Аўсееў памаўчаў, пашчоўкаў затворам і злосна гыркнуў:

– Мне яшчэ жыць хочацца.

Глечыку ён не хацеў казаць усяго, што разумеў сам, – таго, што з кулямётам куды больш небяспечна ў баі, чымся з вінтоўкай, што ў першую чаргу б’юць кулямётчыкаў, што цяпер яму не схавацца ў траншэю, бо Карпенка запатрабуе агню і зноў Аўсееву прыйдзецца рызыкаваць галавой. Адразу чорным ценем азмрочыўся яго спачатку праяснелы настрой, зноў у голаў шыбануў жаль, што, паддаўшыся нерашучасці і стоме, праспаў такую здатную для паратунку ноч. Трывожнае пачуццё асуджанасці ўсё болыц ахоплівала яго, і Аўсееў, напружыўшы ўсе сілы розуму, узяўся шукаць выйсця.

Ён прыкінуў, што калі перадаць кулямёт Глечыку і дамовіцца з ім, дык можна было б, прыкрываючыся ад старшыны рогам старожкі, па траншэі і канаве як-небудзь прабрацца к лесу. Думалася яму, што напалоханы ў першай сутычцы Глечык можа пагадзіцца на ўцёкі, а ён паабяцае, што затым паможа знікнуць і яму. Таму, раптам перамяніўшы свае адносіны да маладога байца, Аўсееў па-сяброўску спытаў:

– Слухай, хочаш кулямёт? Страляць я цябе навучу.

– Ага, навучы, – згадзіўся Глечык і падступіў бліжэй.

Аўсееў ужо акрыяў ад першай удачы і ўзяўся тлумачыць, як зараджаць кулямёт, калі ад старожкі пачуўся строгі Карпенкаў голас:

– Не хітруй, Аўсееў. Тут табе не кірмаш – таргавацца. Табе загадана, ты і выконвай.

Звузіўшы на ветры злосныя вочы, Аўсееў з нянавісцю

паглядзеў на старшыну і прыкусіў губу.

– Сабака, – ціха сказаў ён праз зубы. – Фельдфебель. Чорта лысага ты тут да вечара пратрымаешся. Паб’юць, як мышэй.

Глечык з раптоўнай трывогай у душы зірнуў на яго, памаўчаў, прыкідваючы сэнс благіх слоў, і не паверыў таварышу.

– Няўжо паб’юць? А мы з кулямётаў, ды «пэтээр» ёсць.

– З кулямётаў! – пагардліва чмыхнуў Аўсееў. – Прафан ты ў гэтых справах. Невук зялёны.

Глечык збянтэжана паціраў рукавом варанёную сталь кулямёта. Настойлівая ўпэўненасць Аўсеева ў благім урэшце ўстрывожыла і яго, але хлопец не хацеў верыць у тое, бо ўжо звыкся з думкай аб іх удачы, і з кепскім проста не было сіл пагадзіцца.

– Пшанічны вось змыўся, – змрочна паведаміў Аўсееў. – І, пэўна, зрабіў правільна.

– Як змыўся? – прастадушна здзівіўся Глечык, узняўшы на хлопца вялікія чысцютка-сінія вочы.

– Так. Махнуў у тыл і цяпер дзе-небудзь у абозе анучы сушыць.

Глечык паныла змоўчаў, стараючыся зразумець таямнічае знікненне Пшанічнага. Як можна было пакінуць таварышаў, узвод, уцячы ў тыл, – гэтага Глечык, як ні стараўся, ніяк уявіць не мог. У галаве паўставалі неадольныя ў яго разуменні перашкоды для такога ўчынку – загад камбата, які належала выканаць, гнеў таварышаў, каторы ў такіх умовах нельга было стрываць, вечная ганьба трусасці, што разадрала б яго душу, урэшце – такія далёкія, але ўладарныя паняцці, як прысяга і абавязак перад Радзімай.

Пакуль хлопец пакутліва меркаваў, Аўсееў адступіў у траншэю і пільна пазіраў на яго. Першы план паратунку праваліўся ў самым яго пачатку, і цяпер хітры Аўсееў

цяміў, што прыдумаць яшчэ. Згаворвацца з Глечыкам было, відаць, марнай справай, бо хлопец ён недалёкі і цяпер трохі абстраляўся, пасмялеў і на ўцёкі, пэўна, не згодзіцца. Не адважваючыся канчаткова раскрываць яму свой намер, Аўсееў усё думаў, пакуль грымотны голас Карпенкі зноў не ўстрывожыў увесь пераезд:

- К бою!!!

Міжвольна падпарадкуючыся камандзе, Аўсееў ухапіўся за кулямёт, палахліва кінуўся на сваё месца Глечык, а старшына ўладарна і сурова распараджаўся далей:

– Свіст, на прыцэл – танкі! Аўсееў – па пяхоце! Глечык – гранаты к бою! Замры! Агонь па маёй камандзе!

Зноў смяротная небяспека падступіла да пераезда. Удалечы добра бачнай дарогі на выездзе з вёскі, стрэхі якой ледзьве тырчалі з-за ўзгорка, паказаліся немцы. Гэта была вялікая, відаць, калона, яна марудна пасоўвалася з некалькімі танкамі ў галаве.

Над шэрым восеньскім полем, над скрыжаваннем дарог і далёкім лесам, за якім быў такі зманлівы для гэтых людзей паратунак, сумнай усмешкай бліснула нізкае сонца.

Толькі на адзінае імгненне ясным прасветам слізганула яно па сырой гліне траншэі, шэрай сівізне ржышча, полымем кранула рэдкае пажоўклае лісце бяроз, і гэта яго ціхая ласка вострым болем тугі працяла людскія сэрцы. Глечык скіраваў удалячынь вінтоўку, асцярожна загааў у патроннік патрон і ўціснуў у плячо пашкрэбаны драўляны прыклад. Ён трошкі пабялеў, зябка ўздрыгваў і, каб суняць тую дрыготкую самоту, тужэй прыціскаўся да зямлі і мацней сціскаў ложа. Карпенка высунуў наперад цяжкую сваю сківіцу, у дзесятак маршчын сцяў нізкі шырокі лоб. Аўсееў зморшчыўся, нібы ад зубнога болю, і здзічэлым позіркам лыпаў па абшарах, шукаючы, пэўна, ратунку. У гэтым пакутным напружанні раптам незвычайна і дзіўна прагучала заўзятая Свістава прымаўка:

– Эх, ярына зялёная, вышэй галавы, тужэй дзягі! Слухай байку.

Глечык, якому за рогам старожкі не відзён быў гэты дзівакаваты чалавек, аднак учуў яго і здзівіўся. Здзіўлена варухнуў брывамі зацяты заклапочаны камандзір, нервозна вертануўся к суседу Аўсееў. А Свіст, прыгарнуўшы да бока абшыты кірзай прыклад свайго «пэтээра» і сочачы за ворагам, казаў:

– Ось, браткі. Сядзяць у турме два басякі. Аблаялі ўрадніка, вось і сядзяць галодныя і пра жратву думаюць. Кажа адзін: «Давай, Ягор, зробім падкоп і ўцячом», – «Давай», – згаджаецца Ягор. «Пасля давай зломім замок і ўлезем у хлебную лаўку». – «Давай», – кажа Ягор. «Возьмем бохан і ходу». – «Давай». – «Схаваемся дзе ў падваротню і па чарзе: я кусь, ты кусь...» – «Ага, – аблізваецца Ягор. – Ты кусь, і я кусь... кусь». – «Я кусь, а ты кусь-кусь! – як зараве Піліп. – Во табе!» – і кулаком у рыла Ягору. Той і завыў: «Ты ж сам два разы кусь-кусь». І давай яны біцца. Уляцеў надзірацель, разняў і абодвух у карцэр – на адну ваду. Вось. Можна смяяцца, – жартоўна абвясціў Свіст.

Але і гэты раз ніхто не смяяўся. Карпенка не спускаў вачэй з калоны, якая ўсё расла і расла на дарозе, ужо чуваць было, як дрыжала зямля ад танкаў, як ляскацелі іх цяжкія шырокія тракі. Пяхоты, здаецца, было небагата – некалькі машын, а далей у калоне ішлі гружаныя аўтамабілі. Крыху не дасягнуўшы бяроз, якраз на самым пагорку, пяхота пасаскаквала з кузавоў і тут жа пачала разбягацца абапал дарогі ў няроўны мітуслівы ланцуг. Машыны спыніліся, і далей уніз пайшлі танкі – тры грукатлівыя сталёвыя аграмадзіны.

– Віцька! – сярод наплыўшага густога грукату ўстрывожана крыкнуў Карпенка. – Глядзі не спяшайся!

Свіст не спяшаўся. Недзе ўнутры яго маркотна заныла нядобрае прадчуванне: ведаў баец – пачнецца нялёгкае. Але гэта на адзін толькі кароценькі момант. Хлопец адразу ж перайначыў сябе на звычайны зухавата-дзелавы настрой і сачыў за ворагам. Трохі засмучала

яго, што танкі ішлі ў лоб. Хоць бы адзін крутнуў дзе ўбок, падставіў борт, і тады Віцька напэўна пранізаў бы яго. Але яны ішлі прама, а ля дарогі, не спраўляючыся за імі і адстаючы, разгортваўся ланцуг.

З сярэдзіны пагорка пярэдні танк, не спыняючыся, грымнуў стрэлам – над пераездам нешта фыркнула, і ззаду ў полі скалануў зямлю выбух. Другі снарад ударыў у чыгунку перад траншэяй – байцоў аглушыла, абдало пылам, зямлёй, кіслым смуродам тратылу. На лініі ўздыбілася некалькі вывернутых з насыпу шпал, задраўся ўгору сагнуты канец перабітай рэйкі.

Пагойдваючыся і пакалыхваючы гарматамі, танкі ішлі ў лагчыну, а пераезд маўчаў. Пярэдні ўжо набліжаўся да абгарэлых транспарцёраў, дасягнуў іх, сапхнуў у канаву пакінуты матацыкл і павярнуў крыху, каб абысці завернутую ўпоперак дарогі машыну. І тады без каманды Карпенкі, але вельмі ў час звонка грукнула Свістава ружжо, і танк адразу стаў. Яшчэ нічога не было відаць – ні дыму, ні полымя, але збоку ўжо адскочыла накрыўка люка, з якога, бы тараканы са шчыліны, кінуліся на дарогу чорныя танкісты. Старшына даў першую чаргу, і пераезд азваўся беспарадачным грукатам.

Яшчэ праз хвіліну ўвесь гэты восеньскі панылы абшар напоўніўся бязладным грымоццем стрэлаў. Трапіўшы пад кулямётны абстрэл, пяхота ў полі залягла і адкрыла па пераездзе агонь. Другі танк асцярожна пасоўваўся па дарозе, адпіхнуў убок транспарцёр і, прыпыніўшыся, навёў гармату.

– Лажысь!!! – галасіста крыкнуў Карпенка, і не паспеў яшчэ яго крык патануць у грукаце бою, як страшэннае сілы выбух чорнай земляной хмарай накрыў пераезд-траншэю, людзей, старожку.

Калі пыл здзьмула ветрам, стала відаць, што ад той дарожнай будыніны разляцеліся ў бакі кавалкі дошак, тынкоўкі, ад даху не засталося і следу, а ў тым месцы, дзе некалі была грубка, курылася вялізная варонка з мучніста-мяккай зямлёй.

Пераезд змоўк, здавалася, нікога жывога ўжо не засталося ў траншэі. Аднак у самым канцы яе мільганула зацярушаная пяском постаць Свіста – ён ухапіў ружжо і роспачна-злосна вылаяўся. Яго ўлюбёная зброя, якая не раз ужо выратоўвала людзей з бяды, недарэчна пазірала з бруствера кароткім перабітым ствалом.

– Старшына, братка! Што нарабілі, гады паўзучыя! Ах, чортавы вырадкі! – лямантаваў Свіст, без патрэбы ляпаючы затворам сваёй сапсаванай зброі.

І тады з акопа ўзнялася збялелая ў твары, дзіўна павольная і расслабленая постаць Карпенкі. Невідушчым позіркам змярцвелых вачэй старшына паглядзеў на дарогу, дакрануўся рукой да разбітай галавы, з якой на плечы шыняля, на бруствер і прыклад кулямёта лілася густая неўтаймаваная кроў.

– Свіст!.. Не пушчаць! – слабым дрыготкім голасам выкрыкнуў ён і паваліўся ў траншэю.

Свіст кінуўся да яго, мінаючы Аўсеева, які, уцяўшы голаў у плечы, курчыўся ў ячэйцы. Бранябойшчык падхапіў старшыну, прыўзняў яго, той цяжка, задышліва соп, круціў галавой і асіпла прасіў:

– Танкі, танкі... Бі, не спазніся...

Ён не ведаў, што біць танкі ўжо не было чым, і Свіст яму не сказаў пра гэта. Крывавячы свае рукі, бранябойшчык пацёртым у кішэні пакетам перавязваў яго галаву са зліплымі ад крыві валасамі, услухоўваўся ў грукат бою і недарэчна супакойваў параненага:

– Нічога, нічога! Ты ляжы, ляжы...

Пасля баец ускочыў у траншэю, працяты благой думкай, што немцы ўжо побач, а іх засталося ўсяго двое. Але ў гэты час з боку ад руін старожкі забахалі стрэлы Глечыка, Свіст узрадаваўся і схапіў кулямёт старшыны. Немцы ў полі пакрысе перабягалі ў нізіну, а два танкі вельмі асцярожна, адзін па правым баку

дарогі, другі па левым, мінулі транспарцёры і набліжаліся да мастка. Кулі з іх кулямётаў секлі зямлю, чыгунку, быльнёг, верашчалі ўвысі, рыкашэцячы ад рэек. Разрывы і стрэлы поўнілі наваколле грымотным жахлівым стогнам.

Свіст быў чалавек дзеяння, не ў яго характары было разважаць і думаць нават у спакойны, здатны для гэтага час. Цяпер ён бачыў, што, прарваўшыся на пераезд, танкі падушаць іх у траншэі і, нікім не затрыманыя, пойдуць далей, да лесу. Адзінае месца, дзе можна было затрымаць іх, – гэта на мастку, абапал якога ляжала гразкая балацявіна. Гэтая думка імгненна ўзнікла ў яго галаве, калі пярэдні танк быў ад мастка ў якіх пяцідзесяці кроках.

Бранябойшчык кінуў кулямёт і, бегучы ў свой канец траншэі, крыкнуў усё яшчэ скурчанаму ў ячэйцы Аўсееву:

– Давай к кулямёту! Прыкрый!

Ён ухапіў у абедзве рукі дзве цяжкія супрацьтанкавыя гранаты, на локцях і каленях вылез з акопа, пераваліўся цераз бруствер, ускочыў, прыгнуўшыся, разы тры сігануў да чыгункі і кульнуўся ў выбітую снарадам варонку. Там ён агледзеўся. Танкі ўсё ішлі, б’ючы з кулямётаў, кулі коратка, люта фыркалі над самым насыпам. Ён трошкі марудзіў, цяжка дыхаў і збіраўся на апошні, рашучы скачок. Разбіваючы сырую зямлю, наўскасяк ад шпалаў к канаве прабегла чарга – вжык, вжык, вжык, – і на абочыне застаўся роўны ланцужок чорных плямак-адмецін. Свіст ускочыў і што было сілы кінуўся ўніз, пад прыкрыццё невысокага дарожнага насыпу.

Па сцягае яго ўсё ж сцебанула, баец адчуў, як пацёк да калена гарачы ліпкі струмень крыві, але боль быў невялікі, і баец не зважаў на яго. Прыгнуўшыся за насыпам, на каленях і локцях, ён кінуўся да мастка, на які, замарудзіўшы ход, быццам конь, які абнюхвае трываласць апоры, ужо выходзіў пярэдні танк. Удушлівая горыч перахапіла дыханне, ад стомы ў

грудзях разрывалася сэрца.

Яны сышліся якраз на мастку – ушчэнт зmoраны, паранены баец і гэтае грымлівае крыжастае страшыдла. Свіст, слаба размахнуўшыся, адну за адной шпурнуў пад гусеніцы абедзве свае цяжкія гранаты, але сам ні схавацца, ні адбегчы ўжо не паспеў...

## 18

Невядома, што здалося немцам, але пасля таго, як пярэдні іх танк, падарваны Свістам, праваліўся пад мост, уткнуўшыся гарматай у тарфяністую багну балота, яны ўзняліся са схілу пагорка і, адстрэльваючыся, пачалі адыходзіць назад. Другі танк даў задні ход і таксама папоўз угору. Страляніна паменшала, і, абцярушаны зямлёй, замурзаны, спакутнелы, Глечык адарваўся ад сваёй вінтоўкі.

Увесь ён аж калаціўся ад пераажытага і ледзьве асільваў сябе, каб не заплакаць, не спарахнець ад пакут і мінулага жаху. Пачуццё і розум не маглі пагадзіцца, што няма ўжо і Свіста, што нерухомая яго постаць, выбухам адкінутая ў травяністую мокрую забалаць, ніколі ўжо не ўстане, не загамоніць, нават не паварухнецца. Але самае страшнае было ў пакутным бяссіллі заўжды ўладарнага, руплівага старшыны, без якога Глечык адчуў сябе зусім маленькім, слабым і разгубленым. Ён не парадаваўся нават з таго, што немцы пачалі адыходзіць. Агорнуты новай трывогай, хлопец падбег да Карпенкі.

Старшына, відаць, вельмі пакутаваў. Твар яго неяк раптоўна схуднеў, шчокі запалі, збялелі пад натапыраным шчаціннем, якое цяпер адразу пабольшала. Ён ляжаў на баку, адкінуўшы голаў, у набрынялай крывёю павязцы, уздрыгваў, курчыўся ад болю і ціха варушыў вуснамі. Глечык, укленчыўшы побач, нагнуўся, яго спакучанае сэрца балюча сцялася ад нясцерпнага гора страты.

– Што, што? Ну што вам, таварыш старшына? Свіста

няма, няма, – бы да малога, лагодна і жаласна казаў ён, прытрымліваючы знявечаную галаву камандзіра.

– Стой… Стой… – відаць, не пазнаючы байца, ціха шаптаў старшына. Яго засмяглыя вусны ледзьве ўжо варушыліся, усё болыпалі паўзы між словамі.

– Свіст… Бі!

Глечык зразумеў, і ў яго скрывіліся вусны – ад жалю да камандзіра і сябе, да мёртвага небаракі Свіста, ад страху і роспачнай адзінокай безнадзейнасці. Не ведаючы, чым дапамагчы параненаму, ён усё папраўляў яго голаў, падклаў пад яе сваю пілотку, але старшына не ляжаў на ёй, усё кідаўся, скрыгаў зубамі, хмурыў, паводзіў брывамі, быццам назіраў бойку, і натужна патрабаваў:

– Свіст… Свіст… Раз-зява!..

– Яны ўжо адступілі, – усё сіліўся вытлумачыць Глечык. – Адышлі.

Старшына быццам учуў тое, прыціх, услухаўся, цяжка, з намаганнем узняў павекі і далёкім, незнаёмым позіркам паглядзеў на хлопца.

– Глечык! – неяк нібы супакоена і нават трошкі ўзрадавана вымавіў старшына. – Глечык, ты?

– Што вам, таварыш старшына? Можа, вады? Можа, шынель падаслаць? Свіста няма ўжо, – казаў Глечык, адразу акрыяўшы ад таго, што старшына ачнуўся.

Гэтая нечаканая радасць узбадзёрыла хлопца, і тое, што гэты суровы, паважаны камандзір меў патрэбу цяпер у яго дапамозе, натхнёнай самаадданасцю запаліла Глечыка. Ён адчуваў, што мог бы цяпер перамагчы найцяжэйшае, перасіліў бы ўсялякі страх і гатовы быў на самае вялікае, калі б тое спатрэбілася старшыне. Але камандзір зноў заплюшчыў вочы і сцяў зубы – сказаць ужо ён, здаецца, не мог нічога. І тады ў траншэі з’явіўся Аўсееў. Прыгнуўшыся, з вінтоўкай у руцэ, ён таропка сігануў цераз Карпенку, абсыпаўшы яго зямлёй са

сцяны, і нечакана і загадкава кінуў Глечыку:

– Цякай к чортавай матары!

Усё прытрымліваючы старшынову галаў, Глечык не зразумеў і вялікімі змярцвелымі вачыма няўцямна пазіраў услед таварышу, які адразу ж знік за паваротках траншэі. І калі праз момант усё стала страшэнна ясна, Глечык амаль фізічна адчуў, як пакутна сутыкнуліся ў яго душы два варожыя неўразумелыя пачуцці – прагнасць паратунку, пакуль была на тое магчымасць, і свежая яшчэ, толькі што пазнаная і гордая рашучасць стрываць. Хлопец збянтэжыўся і аж застагнаў ад гэтай нязноснай раздвоенасці. А на дне траншэі кідаўся непрытомны камандзір, яго акрываўлены, спатнелы твар пыхаў жарам і вялікаю мукай, а з вуснаў слабым шэптам сыходзіла адна толькі фраза:

– Свіст, агонь! Агонь, хутчэй агонь... ох!

Нешта гарачым варам шыбанула ў галаў Глечыка, з вачэй яго, няпрошаныя і нястрымныя, пырснулі слёзы, пякучая крыўда апаліла яго шчырую душу. Ён ускочыў у траншэю, ужо не тоячыся ад ворага, і ўбачыў Аўсеева, які, мільгаючы падэшвамі, шалёна адмахваючы левай рукой, з вінтоўкай у правай, шпарка бег па канаве да лесу. Глечык захлябнуўся слязьмі і крыўдай і па-хлапечы звонка з неспатольнай здзічэлай роспаччу закрычаў услед:

– Стой!! СтойН Што робіш, зладзюга?! Стой!!!

Аўсееў на бягу азірнуўся і яшчэ хутчэй замільгаў нагамі, відаць было, не затым ён пабег, каб спыняцца. Тады Глечык дрыготкімі рукамі ўхапіў старшыноў кулямёт, перакінуў яго на тыльны бруствер і, амаль не цэлячыся, выпусціў наўздагон Аўсееву ўсё, што было ў недастрэленым дыску.

Калі ён, узрушаны і дзіка зацяты ад жаху, адняў ад прыклада замурзаную шчаку, дык убачыў далёка ў канаве шэры нерухомы бугарок шыняля, што горбіўся

на спіне Аўсеева, і болей аж да самага лесу нідзе не было нікога. Знясілены Глечык гаротна апусціў рукі. Восеньскі вецер хутка сушыў яго слёзы, баец раптоўна апусцеў, сціх і, хістаючыся, невядома куды пабрыў па траншэі.

Ён хадзіў так па ёй, можа, гадзіну ці дзве. Хадзіў, слепа натыкаючыся на сцены, на зваротку ля сваёй ячэйкі, погляд яго стаў нерухомы, і ў акруглелых вялікіх вачах была пустата. Адзін раз ён наткнуўся на старшыновы ногі ў кірзавых ботах, спатыкнуўся аб іх і апусціўся да былога свайго камандзіра. Старшына ляжаў ціха, раскінуўшы ў бакі сагнутыя ў локцях рукі і трошкі ашчэрыўшы шырокія зубы. Нічога ў ім ужо не было ад былой рупнай камандзірскай строгасці, толькі цьмяна ўгадвалася ў рысах твару нейкае запытанне, здзіўленне – можа, адбілася гэта ўчарашняя развага аб тым, каму з іх, шасцярых, суджана будзе закончыць бой. І, можа, адчуў ён або зразумеў, што побач адзін толькі Глечык, і таму спазнелым нямым здзіўленнем азначыўся гэтым змярцвелы твар.

**19**

У полі запанавала цішыня. Вецер настойліва гнаў з неба нізкае ашмоцце хмар, шмат дзе ў вышыні блішчалі прагалы блакіту з беражкамі далёкіх белых аблокаў. Між імі зманлівай скупой радасцю праглядвала восеньскае сонца, і шырокія імклівыя цені няспынным агромністым статкам хутка-хутка плылі па зямлі.

Гэтая маўклівая сцішанасць мала-памалу пачала вяртаць да жыцця збалелага нутром Глечыка. Як ні жахліва і безнадзейна было яму заставацца ў адзіноце на месцы смерці сваіх таварышаў, але, забіўшы Аўсеева, ён адчуў, што прыйдзецца трываць да канца. І хлопец няспешна і без былой баязлівасці, безуважны ўжо да сябе, хадзіў па траншэі і ладзіў зброю. Ён перанёс старшыноў кулямёт у Свіставу ячэйку, трафейны паставіў на другім флангу. Пасля ён туды ж пераваллок стужкі, апроч таго, у Карпенкавай ячэйцы ўзяў апошнюю супрацьтанкавую гранату, развінціў,

паглядзеў, ці зараджана, і паклаў на броўку траншэі.

Немцы на пагорку чамусьці маўчалі, але не знікалі і ўсё хадзілі ўдалечыні за бярозамі, нешта выглядалі. Аднойчы, збочыўшы з дарогі ля вёскі, у поле выехала некалькі машын з гарматамі ззаду. Глечык разумеў, што яны нешта рыхтуюць, але ранейшага страху ў хлопца ўжо не было, была толькі маўклівая злараднасць ад іх шматлікіх намаганняў супраць яго, аднаго.

Так ішоў час, ужо, мабыць, настаў поўдзень. Неба ўсё праяснілася, зганяючы хмары, усё часцей і даўжэй паказвалася негарачае сонца. Вецер добра сушыў начную макрату, святлелі размяклыя груды бруствера, бралася ў падсохлыя плямы дарога, толькі Глечыкаў шынель усё быў вогкі, ушчэнт запэцканы глеем і пудовым цяжарам душыў плечы. Міжвольна горнучыся да цяпла і сонца, баец вылез з сырой засені акопа і сеў на бруствер, звесіўшы з калень бязвольныя рукі.

Так, перажыўшы страх і дакучлівую асцярогу за сваё жыццё, маўкліва сядзеў ён на пераездзе тварам да таго поля, дзе варушыліся, ездзілі і хадзілі ворагі, рыхтуючы чарговы ўдар, і ў галаве яго мроіліся невясёлыя, цяжкія думкі.

Перш за ўсё да свядомасці дайшло адчуванне мізэрнасці і марнасці ўсіх яго колішніх пякельных крыўд. Які ён быў дурны, крыўдуючы калісьці на маці, айчыма, балюча перажываючы дробныя нягоды вайсковай службы – старшынову строгасць, нячуласць таварышаў, сцюжу і голад, страх смерці. Якое ўсё гэта было далёкае і надзіва нязначнае, дробязнае ў параўнанні з толькі што перажытай трагедыяй пагібелі тых, каму болей, чымся сабе, верыў ён і каго гэтак паважаў у жыцці. Відаць, гэтае няшчасце было яго першым пасля смерці бацькі сапраўды жахлівым няшчасцем. Хлопец невыразна адчуваў, што, перажыўшы яго, ён ужо не мог застацца ранейшым – ціхманым, боязкім Глечыкам, нешта новае – мужнае і цвёрдае – уваходзіла ў яго характар.

Але, здаецца, выжыць яму не давядзецца. У поле з вёскі

выехала яшчэ некалькі машын, яны падаліся ў аб’езд, у бок лагчыны. На пагорку, відаць, на прамую наводку, ставілі, акопвалі некалькі гармат – ворагі рыхтаваліся грунтоўна і пэўна. А жыць так хацелася – хоць як-небудзь: у сцюжы, голадзе, страху, хоць у такім жудасным пекле, якім была вайна, – усё роўна хацелася жыць.

Глечык, зажмурыўшыся, усім нямытым, запэцканым слязьмі тварам паглядзеў угору на сонца – яно было яшчэ высока і свяціла, не спяшаючыся на сустрэчу з ноччу, якая так патрэбна была байцу. У той жа момант да яго слыху даляцелі дзіўныя журботныя гукі, ад якіх ён яшчэ вышэй задраў галаву і ўгледзеўся ў паднябессе. Ён заўсміхаўся і тужліва, з незразумелым, нечакана салодкім болем у душы доўга глядзеў у неба. Марудна пасоўваючыся пад аблокамі і самотна-квола курлыкаючы, ляцеў там у невядомую далеч невялікі ланцужок жураvоў.

У спапялелую ад гора душу байца дыхнула замілаванай шчаслівай мінуўшчынай яго дзяцінства, шчымлівым болем па ўсім тым, што перажыта, пакінута і назаўжды ўжо страчана для васемнаццацігадовага юнака. Ён ледзьве ўтрымаў крыўдлівую спазму ў горле і глядзеў, глядзеў услед чародцы родных з маленства птушак, якія прынеслі ў яго пачуцці дзесяткі да болю нясцерпных адчуванняў... І калі ўжо яго зрок ледзь-ледзь нашчупваў у шэрай засмужанай высі тую рухавую рыску, з неба зляцеў на зямлю другі, роспачна-абрывісты гук, поўны трывогі, просьбы і безнадзейнага журботнага клічу:

– Курл!.. Курл!.. Курл!..

Наўздагон за зніклай чарадой, з апошніх сіл перабіраючы крылламі, не дужа высока ляцеў, быццам шкандыбаў у паветраным абшары, адсталы падбіты журавок. Ад яго амаль чалавечай роспачы аж здрыгануўся здзіўлены Глечык, нешта суладнае сваім затоеным пакутам пачуў ён у тым жалобным голасе, і грымаса болю і жалю скрывіла яго круглявы хлапечы твар. А жураvель крычаў, кідаў у ветраны прастор дарэмныя гукі трывогі, махаў і махаў аслабелымі

крыламі, пяўся наперад сваёй доўгай выгінастай шыяй, але дагнаць чародку не мог.

Ад жахлівае роспачы птушкі нясцерпнай самотай захлынула хлапечае сэрца. Глечык аберуч ухапіўся за галаву, зацяў вушы, напяўся, з усяе сілы сціснуўся, каб толькі стрываць. Так ён сядзеў доўга, зусім змярцвелы і абыякавы да ўсяго, збіты з панталыку тым нестрываным жураўліным сумам. Пасля ён адняў ад вушэй рукі і, нават не зірнуўшы ў неба, у якім даўно растала бедная птушка, усё яшчэ чуў перапоўнены горам і роспаччу тужлівы крык жураўка.

А ў душы, прарваўшыся з памяці ад таго незвычайнага напамінку, ужо шырыліся, грымелі тугой пяшчотныя, дарагія ўспаміны з таго далёкага, што стала ўжо мінулым і такім нясцерпна замілаваным. Як жывая паўстала ў памяці маці – маладая і прыгожая, але не такая прыветная і пяшчотная, як была заўсёды, а з гаротай на твары па ім, яе сыну. Успомнілася настаўніца Клаўдзія Якаўлеўна, якая любіла яго ў школе, несучы яму са свае шчодрай на ласку душы сарамяжлівую і цёплую жаночую прыхільнасць. З’явіўся перад вачыма непаседлівы Алёшка Бондар і з ім – дураслівыя іх забавы, паходы ў Селіцкую пушчу і такія тады зманлівыя гульні ў вайну – самае праклятае з усіх ліхаў, заведзеных жыццём на зямлі. Зашчымела ў душы старое раскаянне за Людку, выдуманым каханнем да якой некалі дражнілі яго ў школе, за што ён зненавідзеў і аднойчы пакрыўдзіў гэтую бялявую дзяўчынку з задуменнымі сінімі вачыма.

Ахоплены ўладарнаю сілай успамінаў, не адразу заўважыў ён, як узняўся аднекуль суцэльны далёкі гул. Хлопец ачнуўся, калі на пагорак абапал дарогі выпаўз статак крыжастых страшыдлаў, загрукатала ўсё наваколле і да самага споду задрыжала зямля. Скочыўшы з бруствера, Глечык схапіў адзіную сваю гранату, прыціснуўся спіной да дрыготкай сцяны траншэі і чакаў. Ён разумеў, што гэта канец, і з усяе сілы зацяў у сабе нясцерпную журботу душы, у якой вялікаю прагай да жыцця ўсё біўся далёкі прызыўны

жураўліны крык...

## Здрада

*Погибших товарищей имена*
*Доселе не сходят с губ.*
***Э. Багрыцкі***

### 1

На быльняговы ўзмежак, няроўны бруствер акопа і адзінокую гармату з затуманенай вечарам высі сыпаў снег. Сцюдзёны сіверны вецер самаўладна гаспадарыў у непрыбраным кукурузным прасцягу, гойдаў, ірваў і матляў змёрзлыя паламаныя сцяблы, поўніў прастор беспрытульным шорхатам першай завеі.

Снег пайшоў надвячоркам, калі на вялізным раўнінным абшары не засталося нічога, апроч пакарэжаных гарэлых танкаў, пабітых коней, старых і свежых варонак і трупаў. Нямецкія танкі, учыніўшы гэты нечаканы разгром, глуха раўлі недзе на ўсходзе, хутка адносячы ў звечарэлую далеч шматгалосае грымоцце бою. Цяпер тое грымоцце ўжо выдыхалася, страляніна глухла, толькі калі-нікалі самы моцны або самы блізкі з выбухаў скаланаў зямлю. Дробныя камякі з бруствера каціліся тады ў акоп і глуха лапацелі там па лубяной плашч-палатцы, пад якой ляжаў камандзір гэтай гарматы сяржант Скварышаў. Ён быў забіты раніцай, у час першай атакі танкаў. Як трохі пацішэла, яфрэйтар Кеклідзе зняў з сябе тую палатку і накрыў камандзіра. Праз якую гадзіну стала патрэбна накрыць і самога Кеклідзе, але зрабіць гэта ўжо не было чым і не было калі: усе адбівалі новую атаку, пасля наступную. Так, абсыпаны снегам, яфрэйтар і застаўся да вечара на ўскрайку стаптанай кукурузы, сярод параскіданых гільзаў і парожніх снарадных скрынак.

Яго трэба было б прыбраць, закапаць, каб ворагі не ганьбілі мёртвага чалавека, але замковы Цімошкін ужо

не мог устаць з бруствера і дайсці да забітага. Гэты страшэнны дзень дарэшты адабраў усе яго сілы. Вельмі балела параненая рука, увесь час хацелася пакласці яе лепей, паправіць, знайсці дзе зручнае месца. Апоўдні, калі асколак нямецкае міны секануў па далоні, хлопец бадай не адчуў вялікага болю; не дужа дакучаў ён і пасля, калі наводчык Шчарбак двума індпакетамі перавязаў рану. У той час нямецкія танкі падышлі да самых прысадаў – за дзвесце метраў ад агнявой пазіцыі, і саракапятчыкі стралялі па іх падкалібернымі, пакуль тыя яшчэ былі ў іх. Пасля танкі ўсё ж прарваліся і шыбанулі на фальварак, у тылы палка. Яшчэ праз якую гадзіну пяхота адступіла, а яны засталіся. Пакінуць гармату хлопцы не мелі права, а вывезці яе не было як – абодва іх трафейныя біцюгі ўжо ляжалі ў кукурузе забітыя. Так яны і асталіся тут, двое жывых – Шчарбак і Цімошкін; пазней да іх з кукурузы прыйшоў ездавы Здабудзька. Апусціўшы голаў, ён вінавата стаяў цяпер на агнявой пазіцыі ў сваім кароткім, падпаленым знізу шынялі, туліўся ад ветру і маўчаў. Шчарбак, прысланіўшыся да шчыта гарматы, заклапочана глядзеў у заснежаную далеч, дзе ішоў бой. Гукі бою тым часам слабелі, выбухі цішэлі, ужо трэба было прыслухоўвацца, каб учуць праз вецер кулямётныя чэргі, якія паўгадзіны назад люта лупцавалі прастор. Пяхоты ў немцаў, пэўна, было нямнога, яна імкліва рванулася ля дарогі за танкамі, і цяпер тут, на полі бою, не чутна было нікога. Меўшы якое цягло, яны, пэўна, здолелі б уратаваць гармату і сябе. Але коней у іх не было, і віноўнікам тае бяды яны лічылі Здабудзьку.

– Ось дык лупанулі, сволачы! Кіламетраў на пятнаццаць – не меней, – сказаў Шчарбак, усоўваючы ў кішэні ватных штаноў вялікія скалелыя рукі. – Чортаў Здабудзька! – зазлаваў ён. – Запрэгчы б цяпер самога ды ўрэзаць пугай па боку!

Яны лаялі ездавога за пагібель коней, хоць самі разумелі, што невялікая была ў тым віна пажылога салдата Здабудзькі. Ці многа спагоніш з нававбранца, які два тыдні назад прыйшоў у батарэю і толькі яшчэ пачаў асвойвацца на вайне, як здарылася гэтае ліха. Хіба ў

такім пекле можна было зберагчы коней, калі гінулі батальёны і роты. Увесь дзень нямецкія танкі з ашалелай упартасцю таранілі іх абарону, гарэлі, узрываліся, канвульсіўна круціліся на перабітых гусеніцах і ўсё ж сунуліся і сунуліся ўглыб, дратуючы і пякельным агнём нішчачы ўсё ў акопах, на агнявых пазіцыях, у траншэях, кукурузе. Да самага цямна хадуном хадзіла ўмерзлая венгерская зямля, стагнала, выла, скуголіла хмарнае паднябессе, потам і крывёю адбіваліся жывыя абаронцы. Але сілы былі няроўныя, і ворагі дамагліся свайго.

Страшны вайсковы лёс нечакана і бязлітасна абышоўся з імі ў гэты студзеньскі дзень. Зморанасць і нейкае ўнутранае здранцвенне свінцовым цяжарам напоўнілі цела, яно прагла толькі спакою, а думкі марна таўкліся ў галаве ў пошуках выйсця з тае бяды, у якую іх загнала вайна. Трэба было нешта рабіць, недзе шукаць паратунак.

Валюхаста паводзячы тугімі плячыма, Шчарбак падышоў да гарматы. Гэта была маленькая саракапятка, якой не меней, чым людзям, перапала за сённяшні дзень. У яе сталёвым шчыце свяціліся дзве дзіркі ад буйнакаліберных куль, верх яго быў пашчэрблены нечым, пэўна, вялікім асколкам, на колах засталіся шматкі падранае гумы. Казённік так напёкся ад стрэлаў, што і цяпер яшчэ быў цёплы, і сняжынкі, асядаючы на ім, адразу збіраліся ў кроплі.

Трывожна шархацеў ды рваўся на ветры кукурузны палетак, нядобра каламутнела змрочнае неба – хутка насоўвалася халодная ноч. Нейкі час Шчарбак стаяў між станін, шырока расставіўшы ногі, зацярушаны снегам, у ватоўцы і ссунутай набок шапцы – ладны, камлюкаваты, дужы хлапец. Вядома, яму шкада было гэтай гарматкі, з якой прайшлі яны ад Днястра да Балатона, якая нямала разоў ратавала ім жыццё і памагала пяхоце. Пад Кішынёвам, у часе прарыву з акружэння нямецкай групоўкі, нейкі гітлеравец шпурнуў у яе супрацьтанкавую гранату. На шчасце, не пацэліў: граната пераляцела шчыт, разарвалася ззаду і

толькі перабіла станіну. Пасля станіну заварылі, прыладзілі сталёвую латку, і хлопцы казалі, што гэта – шчаслівы знак, з якім гармата дажыве да міру. Затым, ужо ў Венгрыі, буйнакаліберны кулямёт з бронетранспарцёра зрабіў на шчыце касую адмеціну куляй. На правым сашніку ў заклёпках была прабоіна ад чаргі «месершміта», якой ён забіў колішняга правільнага Нерчыка.

Людзі ў разліку мяняліся – параненых адпраўлялі ў шпіталь, забітых хавалі. Даўжэй за ўсіх аставаўся ў страі маўклівы сяржант Скварышаў. Але вось сёння не стала Скварышава і, пэўна, прыйшоў канец і гармаце.

Праступджана высмаркаўшыся, Шчарбак пачаў завіхацца каля гарматы. Узяць яе з сабой яны не маглі, а кінуць цэлаю ворагам не мелі права. Добра, калі б была супрацьтанкавая граната ці хоць бы адзін снарад. У такіх выпадках варта было ўсыпаць у ствол жменю пяску і стрэліць, як яго разарвала б на часткі. Але снарада ў іх не было ніводнага. Шчарбак перакідаў ужо ўсе скрынкі, перагарнуў ботам усе гільзы ў доле – звонкія, смярдзючыя і пустыя. Заставалася адно – выняць клін. Нейкі час пакалупаўшыся ў затворы, Шчарбак зрабіў гэта і гукнуў Здабудзьку:

– Знімай торбу.

Не пытаючы навошта, ездавы зняў з-за плячэй свой рэчмяшок, развязаў лямкі, і наводчык укінуў туды паўпудовы клін і прыцэл.

– Ого, цяжкі які, – зазначыў Здабудзька.

– Не твой клопат. Сам панясу, – няласкава аб’явіў Шчарбак.

Ён паставіў тарбіну ля сашніка і паскроб патыліцу.

– Ну, а далей як?

– Давай кукурузай закідаем, – прапанаваў Цімошкін. – Усё схоўней будзе. Можа ж, вернемся.

Пастаяўшы трохі, Шчарбак выцягнуў з похвы разведчыцкі нож і пайшоў у кукурузу. Здабудзька, крыху ўжо ачуўшыся ад свае бяды і супакоіўшыся ад ушчування, падаўся следам.

Яны доўга шасталі ў палетку, пакуль набралі па абярэмку сцяблоў, прынеслі, кінулі на станіны і пайшлі зноў. Шчарбак адышоўся далёка, туды, дзе кукуруза была гусцейшая, а Цімошкін усё сядзеў на брустверы, туліў да грудзей сваю ляльку-руку і чакаў. Ад маўклівасці і шумлівай ветранай аднастайнасці яго думкі зноў запаланіла туга іхняй вялікай няўдачы.

...Яшчэ ўчора яны жылі тут, як можна, да пары да часу жыць на вайне – зрэдку стралялі па ворагу, падоўгу сядзелі ў вузкім акопчыку-ровіку, чакалі вечара, калі старшына прыносіў абед і вячэру, мерзлі і многа курылі. Уночы – хоць і нельга было, – паставіўшы вартавога, спалі, цесна прытуліўшыся адзін да аднаго. У здаравякі Шчарбака была шырокая цёплая спіна, Цімошкін накрываўся з ім адным шынялём, другі слалі ў сподзе. Заўжды ў ціхую гадзіну Кеклідзе прыпамінаў далёкую Грузію, шгшлык, віно і сваіх хлопцаў-блізнят. Скварышаў болей маўчаў. І вось цяпер няма Скварышава, няма Кеклідзе, уранку адправілі ў шпіталь Румкіна, разгромлены полк, невядома што засталося ад дывізіі... І як цяпер выбрацца з гэтага ліха, дзе напаткаць сваіх? Няўжо немцы на ўсю глыб прарвалі фронт і паперлі к Дунаю? Чаму гэта ўсё цішаюць, радзеюць далёкія выбухі? Мноства невясёлых пытанняў свідравала хлопцаву галаву, толькі адказу на іх не было.

Ужо добра сцямнела, а снегавыя крупінкі ўсё сыпаліся і сыпаліся з хмарнага нізкага неба. Раўнінны абшар збялеў, наперадзе невыразна шарэлі пакалечаныя дрэвы прысадаў: частыя варонкі на зямлі хаваліся ў снезе. Не стала відаць і немца, забітага апошнім пасля таго, як прарваліся танкі. Тады іх чалавек пяць ці болей рынуліся на гэту пазіцыю. Іншыя ўцяклі, а гэтага з аўтамата падстрэліў Шчарбак, і немец, закінуўшы валасатую голаў, да змяркання ўтрапёна пазіраў на іх ашклелымі вачамі. Цяпер яго шчыльна зацерусіў снег.

Раптам у кукурузе, прыглушаны непагаддзю, стукнуў адзіночны стрэл. Падумаўшы, што там немцы, Цімошкін ухапіў з бруствера свой аўтамат і ўстаў. Нейкі час было ціха, а пасля з таго боку паказаўся з абярэмкам сцяблоў Шчарбак.

– Хто страляў?

– Я.

– Што такое?

– Ат, што яшчэ будзе! – незадаволена буркнуў хлопец, цягнучы да гарматы абярэмак. – Сувязіста даканаў.

– ?

– З трэцяга батальёна. Ляжыць там, канае, жывот распораны, ногі перабітыя.

– Не трэба было, – вырвалася ў Цімошкіна. – Шкада ж чалавека.

Шчарбак давалок сваю ношу, усклаў яе на гармату і абтрос ватоўку.

– Табе шкада? А мне, думаеш, не? Таму і даканаў, што шкада.

З Шчарбаком яны не спрачаліся. Можа, каму і не падабаліся яго ўчынкі, але ўсе ведалі, што калі наводчык надумаў зрабіць так, значыць, у даным выпадку лепей не зробіш. Часта здаралася, што камандзіры лаялі яго за самаўпраўства, але ён заўжды рабіў так, як хацеў, і ніколі ні з кім не раіўся. Такі ўжо быў гэты хлопец.

Абклаўшы кукурузай гармату, Шчарбак пайшоў да снарадных скрынак, дзе ляжаў Кеклідзе, і паклікаў Здабудзьку. Там ён падхапіў пад пахі нерухомае, густа засыпанае снегам цела забітага. Галава таго і полы расшпіленага шыняля, бы прымерзлыя, звіслі долу. Ездавы нерашуча браўся за ногі.

– Ану смялей! – загадаў Шчарбак. Спатыкаючыся аб груды, яны панеслі цяжкае цела Кеклідзе да акопчыка, дзе ляжаў Скварышаў. У гэты час аднекуль з кукурузы мільгануў у неба дрыготкі прамень ліхтарыка. Цімошкін перасцярожліва шыкнуў – хлопцы стаіліся. Стала вельмі трывожна і ціха, толькі навокал густа шапацелі сняжынкі. Праз іх шэпт у кукурузе пачулася ціхае шастанне, хлопцы ўгледзеліся і ўбачылі, як на палявую роўнядзь з палетка выйшла некалькі чалавек. Пярэдні пасвяціў ліхтаром уніз, быццам шукаючы чаго, – сталі відаць полы шыняля, боты. Там недзе была траншэя, і яны, відаць, ішлі па-над ёю, пасвечваючы ў дно, пакуль не аддаліліся ў снегавыя прыцемкі. Пэўна, то былі нямецкія санітары: яны шукалі сваіх параненых.

Шчарбак упаўголаса вылаяўся і ўскочыў з долу. Здабудзька боязна адсунуўся ад Кеклідзе, да якога прытуліўся са страху, і ўжо смялей узяўся за ягоныя ногі. Цімошкін таксама ўстаў, каб зрабіць апошняе, што трэба было мёртваму. Утрох яны паднеслі яго цяжкае цела да ровіка, дзе ляжаў Скварышаў. Шчарбак, абрушваючы ботамі камякі, за рукі апусціў нябожчыка ў чорную яму, Здабудзька ўчапіўся за ногі, а Цімошкін адною рукой прытрымліваў за шырокую шытую дзягу. Нябожчык любіў розныя рамяні, кабуры, партупеі – усё скураное, адмысловае... Цяпер яно ўжо нікому не было патрэбна.

– Гайда, яшчэ таго прынясём, – сказаў Шчарбак, выпростваючыся. – Закапаем разам.

Удвух са Здабудзькам яны некуды пабеглі праз кукурузу і неўзабаве вярнуліся з сувязістам, якога, зморана сапучы, узвалілі на бруствер. То быў здаравенны вусаты салдат, скурчаная рука яго чамусьці не разгіналася і нязграбна тырчала локцем угору, а скрываўлены шынель, пасечаны асколкамі, матляўся рыззём.

Шчарбак зморана сеў ля нябожчыка і, з паўхвіліны адсопваючыся, углядаўся ў мільготкі снегавы прастор. Снег пагусцеў і хутка засыпаў салдатавы вусы, зямлісты няголены твар.

– Закурыць бы, халера! Ды няма.

– У Кеклідзе павінна быць, – сказаў Цімошкін, успомніўшы, як раніцай, яшчэ ў жывога яго, закурвалі хлопцы.

Шчарбак заварушыўся, палез у акоп, а Цімошкін знясілена апусціўся ля сувязіста, ужо не адчуваючы таго, што звычайна адчуваюць здаровыя людзі паблізу нябожчыкаў. Здабудзька ж, пэўна, яшчэ не пераадолеў у сабе страху да мёртвага і ваўкавата стаяў насупраць. Наводчык з хвіліну папоркаўся ў акопе і вылез, трымаючы ў руках маслёнку з двума рыльцамі, у якой Кеклідзе насіў махорку.

– Яму ўжо не трэба, – сказаў ён. – Сваё адкурыў. Захінаючыся ад ветру, Шчарбак скруціў цыгарку, прыкурыў з-пад палы і на кароткі час прыціх у маркоце.

– Крыху знаёмы, – памаўчаўшы, кіўнуў ён на сувязіста. – Некалі на фарміроўцы разам патрулявалі. Вясёлы быў дзядзька. Усё пра баб расказваў...

Шчарбак скоранька перакурыў, і яны апусцілі сувязіста да сваіх двух хлопцаў. Пасля Шчарбак і Здабудзька ўзялі рыдлёўкі.

Надышоў канец. Яны зрабілі што маглі – для жывых, якія адступілі на ўсход, і для мёртвых, што назаўжды засталіся тут, на кукурузным ускрайку чужой зямлі. Ніхто не сказаў на гэтым начным пахаванні ні слоў жалю, ні пахвалы нябожчыкам, пралапатала толькі зямля аб палатку, як заўсёды, тупы боль сціснуў сэрцы ды змакрэлі павекі. І добра, што прастор ахутвала ноч і нікому не трэба было адварочвацца і хаваць тае сарамлівае адзнакі свае мужчынскае слабасці...

## 2

Зусім ужо адзінокія і нічым болей не звязаныя з тым кавалкам зямлі, на якім яны два тыдні жылі і біліся з ворагам, хлопцы пайшлі на ўсход.

Нейкі час ішлі кукурузай, прадзіраючыся праз яе непадаткі сцяблісты зараснік. Было цёмна, сцюдзёна і ветрана. Ад шорхату падмёрзлага кукурузнага лісця зусім не чуваць было, дзе што робіцца. Але, здавалася, навакол усё прыціхла. Цімошкін усё не мог супакоіцца ад таго, што адбылося сёння, і, можа, ад раны ці яшчэ ад чаго ўвесь час ліхаманкава тросся. Шчарбак сваім дужым целам рассоўваў тугія сцябліны, за ім лез замковы, увесь час аберагаючы здаровай рукой параненую. Апошні валокся Здабудзька.

Горка гэта было і крыўдна – у канцы вайны, пасля стольких перамог і ўдач пераяжываць няшчасце разгрому. Калі б хоць іх асталося болей, а то вельмі ўжо небяспечна і самотна было ўтрох туляцца па чужой зямлі, асцерагаючыся кожнага шораху і кожнага руху. Добра яшчэ, калі ў гэтай бядзе – побач надзейны таварыш, з якім звязвае цябе нешта большае, чым проста палкавое знаёмства. У гэтым сэнсе Цімошкіна трошкі суцяшала прысутнасць Івана Шчарбака. Пакуль быў жывы наводчык, хлопцу лягчэй было трываць усякае ліха, і ўдвух з ім ён без страху пайшоў бы на ўсякую справу.

Некалі, яшчэ ў Малдавіі, Цімошкін прыйшоў у гэты полк з запаснога, дзе яго якіх месяцы два вучылі на аўтаматчыка, і таму аб гарматах ён меў толькі прыблізнае ўяўленне. І вось здарылася так, што па нейкай памылцы штабнікоў ён трапіў у тую каманду, з якой папаўнялі артылерыйскія батарэі дывізіі. Камандзір адной батарэі, які прымаў іх, калі дазнаўся, што Цімошкін непатрэбнай яму спецыяльнасці, загадаў вярнуць яго на пункт збору, каб адтуль паслаць у пяхоту. Перад тым яны зрабілі вялікі марш, дабіраючыся да фронту, хлопец пры сваім малым росце і не дужа вялікіх сілах быў прыбіўся зусім і выгляд у той час, пэўна, меў дужа кепскі. І тады яфрэйтар Шчарбак, які са старшыной павінен быў суправаджаць іх у полк, папрасіў у камбата дазволу ўзяць яго ў сваю батарэю. Невядома, як яму ўдалося ўгаварыць капітана, але ўжо за адно тое Цімошкін быў удзячны гэтаму хлопцу. Мала таго, Шчарбак яшчэ ўзяў яго ў свой разлік, дзе сам быў

за наводчыка, навучыў артылерыйскай справе і з цягам часу стаў сябрам.

І хто ён яму быў? Ні радня, ні зямляк – зусім незнаёмы франтавік-хлопец. І цяпер вось Цімошкін – яго намеснік, замковы. Кожнага дня яны поплеч стаялі за тою гарматай, разам гнулі ў акопе галовы ў час бамбёжкі, разам мерзлі на сцюжы, грэючы адзін аднаго сваімі целамі. Шчарбак быў маўклівы, стрыманы, трошкі занадта ўпарты, але справядлівы. І яшчэ ён быў смелы. У Цімошкіна не было і аднаго медаля, а ён ужо меў ордэн Славы і ордэн Чырвонай Зоркі.

Нарэшце кукуруза скончылася, і наводчык першы вылез на ўжо сцямнелы, затуманены снегападам абшар. Шорхат кукурузы сціх, і ў прасторы стала надзвычай насцярожана і чуйна. Снегавая пацяруха ўсё сыпалася, але наперадзе відаць было пустое зімовае поле, і на яго цьмянай роўнядзі яны ўбачылі непадалёк адзінокую постаць. Шпаркай хадой чалавек кіраваў некуды ўздоўж кукурузы, пэўна, у той бок, куды ішлі і яны. Насцярожана прыгледзеўшыся, Шчарбак прыцішана гукнуў:

– Гэй!

Бы спатыкнуўшыся, невядомы адразу спыніўся, азірнуўся, але, пэўна, не заўважыўшы іх, зноў подбегам рушыў сваім кірункам.

– З нашых нехта, – упэўнена сказаў Шчарбак і гучней крыкнуў:

– Гэй, пастой.

Па прысыпаным снегам іржэўніку яны пайшлі да яго, чалавек насцярожана чакаў, тулячы да грудзей скіраваную на іх зброю. Але вось стала відаць яго незавязаная шапка з растапыранымі вушамі – яна канчаткова ўжо ўпэўніла, што гэта не вораг, а свой. Шчарбак, ідучы наперадзе, супакоена закінуў на плячо аўтамат, хлопцы ўглядаліся ў атуленую змрокам постаць. Чалавек, нібы аслупянелы, трывожна чакаў.

– Гэ, то ж зямляк твой, – азірнуўшыся, гукнуў Шчарбак.

Падышоўшы бліжэй, Цімошкін згледзеў, што гэта сапраўды ягоны зямляк, пісар палкавога штаба, сяржант Блішчынскі. Даўно ўжо, мабыць, ад самай дунайскай пераправы яны не бачыліся, хоць і служылі ў адным палку. Праўда, у тым не было вялікага дзіва – розныя былі іхнія справы і іхнія абавязкі, і таму не дужа часта сходзіліся іхнія сцежкі. Адзін, як кажуць, аціраўся пры штабе, а другі з дня ў дзень валокся па палях за пяхотай, толькі і ведаючы, што капаць зямлю ды цягаць гармату.

Блішчынскі яшчэ ваўкавата паўглядаўся ў іх, таксама пазнаў Шчарбака і Цімошкіна і, здаецца, з прыкрасцю за тое, што яны затрымалі яго, сказаў:

– Ну, а я думаў... Давайце хутчэй! А то немцы за кукурузай.

Яны азірнуліся – сапраўды, трэба было асцерагацца, бо да поля бою, дзе ўжо з’явіліся немцы, было зусім недалёка. Пакуль яны тут углядаліся адзін у аднаго, там, за палеткам, дзе засталася іхняя гармата, прагырчала машына і пачуўся нейкі прыглушаны голас. Добра, што затканы снегападам вечар затуляў ужо зімовы прастор.

Шчарбак, не спыняючыся, падаўся наперад, і Цімошкін з Блішчынскім пайшлі поруч. Навокал было ветрана і не па-франтавому сцішана, толькі шархацела збоч кукуруза, ды наперадзе, недзе далёка і ледзь чутна раз за разам гахалі выбухі. Пэўна, нямала ўстрывожаны ўсім, што здарылася, Блішчынскі шпарка крочыў, заграбаючы ботамі мяккі снег ды азіраючыся па баках.

– Ну, дачакаліся! Даў немец перцу? Эх вы, ваякі хвалёныя! Артылерыя мне! Дзе ж вашы яшкі? Мабыць, разбегліся куды каторы? І гарматы пакідалі?

Гэта ён казаў пра іх, артылерыстаў, – казаў з непрытоенай пагардай, са здзекам, тонам раздражнёнага вайсковага начальніка, які мае права

ўшчуваць падначаленых.

– Няма ўжо каму разбягацца. На агнявой пазакопвалі, – зацяўшы прыкрасць, адказаў Цімошкін. – А ты чаго адстаў?

– Дурань быў – з маёрам Андрэевым валэндаўся. А ён памёр. Вось дакументы зняў, – ён паляпаў па сумцы, якая на доўгай почапцы боўталася ля калень.

Яшчэ адна смерць і тое, што Блішчынскі ўсё ж па-салдацку аднёсся да чалавека, іхняга агульнага начальніка, трохі парушылі ў Цімошкіне халодную насцярожанасць да яго, хлопцу падумалася, што і пісару, відаць, дасталася гора за сённяшні дзень. Падавіўшы ўздых, ён даверліва паведаміў пра сваю бяду:

– А мы гармату пакінулі. Коней пабіла...

– Пакінулі? І не ўзарвалі? – неяк фальшыва здзівіўся Блішчынскі і, паводзячы туды-сюды худым даўганосым тварам, пакпіў: – А вы забыліся, хлопчыкі, што трыбунал ёсць?

Шчарбак, абыякавы да іхняй размовы, шпарка крочыў наперад, а ў Цімошкіна ад тых слоў Блішчынскага зноў затрымцела ўнутры няпэўная варожасць да яго. Але, здаецца, зямляк яго быў раўнадушны да іх спраў і далей маўчаў, заклапочаны сваёю бядой. Ён сігаў шырока і таропка, і Цімошкін з цягам часу паволі адставаў, бо аслабеў ды і не дужа хацеў ісці побач. Ён ведаў даўно, што людзі яны розныя і наўрад ці магчыма ім зразумець адзін аднаго. Ззаду за яго спіной рупна тупаў нізенькі Здабудзька, прыклад ягонай вінтоўкі на доўгім паску ледзь не кранаўся долу. Стары неўзабаве дагнаў хлопца, і яны пайшлі разам.

Непрыемнае і супярэчлівае пачуццё заварушылася ў растрывожанай і без таго душы Цімошкіна.

Шчарбак і Здабудзька былі ўжо прывычныя яму людзі, хлопец бачыў іх ля сябе ў добрую і благую хвіліну і

ведаў, на што кожны з іх здольны. Блішчынскі ж побач з імі быў чалавек выпадковы, характар меў асаблівы, зусім адметны ад іх. І праз гэта, ці, можа, ад яго недарэчнага напамінку пра трыбунал, ці ад чаго іншага ў Цімошкіне затлела прыкрасць, што з’явіўся ён тут у гэты вось трудны час. Не думалася, а адчувалася неяк, што ў такой вялікай бядзе лепей бы ім апынуцца без яго. Яны, усе трое артылерыстаў, былі радавыя, з’яднаныя ранейшаю службай, адною бядой і адным клопатам як найхутчэй выбрацца да сваіх. Блішчынскі ж быў ім чужы.

Праўда, яны з Цімошкіным былі землякі, з дзяцінства вядомыя адзін аднаму хлопцы, хлапчукамі яны выбегалі разам усе вясковыя сцежкі, споўзалі ўсе дзіцячыя схованкі. Але менавіта адтуль, з маленства, і ўзяла пачатак у Цімошкіна яго нелюбоў да гэтага хлопца. Колькі затым у войску ні даводзілася ім сустракацца, Цімошкін ніколі не адчуваў да яго той шчырай і светлай радасці, якая нахлынае пры спатканні з земляком на вайне.

З нізкага, аселага на самы дол неба коса сыпаўся снег, студзіў твар сіверны вецер, па-ранейшаму скразным вострым болем торгала нейкая жылка ў хлопцавай прабітай далоні. Блішчынскі, нават не азірнуўшыся на земляка, хутка сігаў, пакуль не дагнаў Шчарбака. Так яны і пайшлі ўдвух – Іван развалістай, ёмкай хадой здаравякі, а Блішчынскі неяк пагойдваючы нагамі, у перашытым на афіцэрскі шынялі, з сумкай на баку. Дужыя і здаровыя, яны перагаворваліся нешта, Блішчынскі, відаць, у чымсьці ўжо пераконваў Шчарбака, паказваючы рукой у бок ад таго кірунку, куды яны ішлі. Цімошкін ведаў, што ён не паспадзяецца на Івана і будзе дамагацца, каб камандаваць самому і навязаць ім сваю волю. Блішчынскі такі быў змалку, заўжды імкнуўся ва ўсім апярэджваць другіх, калі гэта было выгадна яму, і гарнуцца да тых, хто ў чым-небудзь быў мацнейшым за сваіх таварышаў. Цяпер ён хутка вызначыў, што з трох у гэтым полі болей значны Шчарбак, што ён дужэйшы і, можа, смялейшы за іншых, і таму пачаў блізіцца да гэтага маўклівага хлопца.

Цімошкіна ж ён ужо не браў пад увагу, бо той хоць і зямляк, але быў слабейшы, маладзейшы, паранены і таму для яго мала што значыў.

Урэшце, боязна азіраючыся назад, паціху абагнаў Цімошкіна і Здабудзька. Хлопец прытаміўся, усё больш адставаў, і крыўда, як боль, ціхенька тачыла яго нутро.

Бывае ж так у жыцці і асабліва, відаць, на вайне, што чужы незнаёмы чалавек можа стаць для цябе радней за роднага, а свой і знаёмы па якой-небудзь прычыне пагубляе ўсе свае прывабныя якасці. Цімошкін вельмі добра засвоіў гэта за гады свайго знаёмства з Блішчынскім і паўгода франтавой дружбы з Іванам. Не, ён не крыўдзіўся цяпер на гэтага хлопца і ніколі не сказаў бы яму аб сваіх турботах, бо ведаў, што Шчарбак ніколі не пакіне ў бядзе, дапаможа, параняць – вынесе. Але цяпер, стомлены, застаўшыся ззаду, ён усё болей адчуваў, як шчыміць унутры неадольная прыкрасць і ўсё таму, што ў спадарожнікі да яго сябра набіваўся гэты Блішчынскі.

Як і пярэднія хлопцы, Цімошкін стараўся сігаць хутчэй і ўсё ж адставаў, а яны, занятыя размовамі, здаецца, не бачылі таго. Праўда, ён разумеў, што ісці трэба хутка, бо калі яны не выберуцца да світання, дык заўтра ім будзе кепска. Аднак ад усведамлення гэтага яму не было лягчэй. Нейкае, не акрэсленае яшчэ, трывожнае прадчуванне падымалася ўнутры ў хлопца, і думалася, што ўсё тое прынёс з сабою гэты вось пісар Блішчынскі.

Часта здараецца на вайне, што гіне самы лепшы, самы смелы і самы таварыскі хлопец, а якога сварліўца, сябелюбца ці злыдня не бярэ ні куля, ні якая хвароба. Так сталася і з яго сябрамі. Шмат іх было – сціплых, цудоўных яго землякоў, з якімі праваявалі яны два партызанскія гады, але вось у блакаду, на парозе запаветнага вызвалення, у некалькі дзён адзін за адным пагінулі яны – найлепшыя яго хлопцы. А Блішчынскі выжыў. Ён таксама ў той час быў з імі ў лесе, і не сказаць, што хаваўся – схавацца там не было як, – проста яму шанцавала. І пасля, калі яны пайшлі ў войска, з іншымі, куды лепшымі і даражэйшымі, яго,

можа, назаўжды, разлучыў бязлітасны вайсковы лёс, а з гэтым вось давялося разам трапіць у полк, і цяпер ён рукой падаць – побач.

Цімошкін не адразу зразумеў яго, усё думаў: можа, ён здаецца такім нягожым круцялём-чалавекам, а на справе, можа, і ніштаваты хлапец. Кепска неяк уладкавана ў жыцці, што ўсё – і благое і добрае – пазнаецца часам праз боль няўдач і памылак. Калі побач няма разумнага, добрага сябра, першыя гады твайго самастойнага жыцця – як тыя першыя крокі ў маленстве – багаты на штурхялі і спатыканні.

Некалі хлопцы жылі ў адной вёсцы. Іхнія хаты не тое каб былі побач, і гады іх выпалі не такія ўжо блізкія (калі Цімошкін пайшоў у першы клас, Блішчынскі вучыўся ў чацвёртым), але ў той маленькай вёсачцы дзяцей было небагата, і малыя сяброў сабе не выбіралі. Таму ад ранняга дзяцінства Валодзя з Грышкам мусілі вадзіць дружбу – разам дурэлі, пасвілі Грышкавых гусей, бадзяліся ўлетку па лесе, а ўзімку за тры кіламетры хадзілі ў мястэчковую школу. Цімошкін, як маладзейшы, ва ўсім цягнуўся за Грышкам і стараўся, чым мог, дагадзіць сябру, быў адданы і шчыры; той жа часам не дужа шанаваў іхняе дружбы і тым прычыніў нямала крыўды Цімошкіну. Самы апошні і самы незабыўны выпадак і цяпер яшчэ жыва помніцца, прыкрасцю напаўняючы пачуццё.

...Тое сталася ў адну з даўніх ужо даваенных зім. Цімошкін вучыўся тады ў шостым класе, Грышка хадзіў у дзевяты. Вучыўся Блішчынскі добра, лічыўся актывістам усіх школьных спраў, быў членам вучкома і незадоўга перад тым уступіў у камсамол. На сходах ці мітынгах ён часта выступаў «ад імя школьнікаў» і палка чытаў з паперкі загадзя складзеныя прамовы. У ліку яго сябрукоў у той час з'явіліся болей дарослыя мястэчковыя хлопцы, з імі ён вадзіў шмат якія свае пасталелыя справы, і іхняя дружба з Цімошкіным ужо ледзьве ліпела. Цімошкін разумеў, што рабіўся не патрэбны яму, і дужа сабой не набіваўся, толькі ў школу яны хадзілі ўсё ж разам. Звычайна Цімошкін заходзіў да

яго ўранку, чакаў, пакуль ён прыбярэцца, паснедае, і тады наўпрасткі, цераз замерзлае балота, яны ішлі ў мястэчка.

Аднойчы, перайшоўшы ўжо тую балацявіну, яны выбраліся на добра ўезджаны санямі гасцінец і паціху ішлі сабе па саннай дарозе. І вось каля адзінокай прыдарожнай вярбы Цімошкін наступіў на якісь кашалёк. Перад тым іх абмінула двое саней з незнаёмымі людзьмі, што ехалі, пэўна, на кірмаш у мястэчка. Знаходка, вядома, іх зацікавіла, у кашальку аказаўся пашпарт, нейкія паперы, пяцьдзесят рублёў грошай. На хаду пераглядзеўшы гэта, Грышка сунуў кашалёк у кішэню. Цімошкін сказаў, што трэба занесці яго ў міліцыю або аддаць у настаўніцкую, але Грышка на тое толькі засмяяўся і пакпіў над наіўнасцю сябра. На вялікім перапынку ён з таямнічым выглядам паклікаў Цімошкіна з школы і завёў яго ў краму. Там Грышка купіў цукерак, папярос, даў меншаму сябру пяць рублёў грошай і сказаў, што, каб усё было шыта-крыта, дакументы трэба спаліць. У Цімошкіна тады немаведама што рабілася на душы, – ён і баяўся і ненавідзеў сябе і Грышку, але хітраватая самаўпэўненасць Блішчынскага неяк збівала яго з тропу. Цімошкіну стала боязна паліць дакументы, ён заплакаў, і яны ўрэшце дамовіліся, што кашалёк з дакументамі і рэштаю грошай аддадуць у міліцыю.

Але Грышка, разважыўшы, змяніў тое рашэнне. На другім перапынку ён зноў прыбег да Цімошкіна і сказаў, што аднёс у міліцыю толькі кашалёк ды пашпарт. Цімошкін спалохаўся, а ён толькі смяяўся, кажучы, што ўсё будзе як найлепш, адно трэба маўчаць пра грошы.

І вось праз дзень ці два ўранку, перад самым званком на заняткі, у калідоры з’явіліся нейкі дзядзька ў кажушку, дырэктар, класны кіраўнік – усе яны рушылі ў дзевяты «Б», дзе вучыўся Блішчынскі. У Цімошкіна сэрца ёкнула ад страху, што іх выкрылі. Ён ужо хацеў уцячы, каб схавацца, але, перш чым зрабіць гэта, праз адчыненыя дзверы з класа пачуў, як дзядзька дзякаваў Грышку.

Аказваецца, ён махнуў, як кажуць, рукою на свае 50 рублёў, яму даражэй былі дакументы, і як узнагароду за «добры» ўчынак ён даў Грышку траяк. Пасля пра гэты высакародны ўчынак Блішчынскага напісала насценная газета, настаўнікі хвалілі хлопца, а вучні глядзелі на яго, бы на якога героя. Ідучы ж у той дзень дадому, Грышка курыў папяросы «Чырвоная зорка», пасмейваўся і выхваляўся. Абураны і збянтэжаны, Цімошкін кінуў тады яму тую пакамечаную пяцёрку і выказаў усе свае набалелыя крыўды. Блішчынскі зазлаваў, сказаў, што ён – дурань, загадаў маўчаць і прыгразіў расправай.

Некалькі дзён пасля таго Цімошкін хадзіў бы ў тумане. Уночы ўскокваў з ложка, крычаў і плакаў, напалохаў бацькоў, і яны думалі, што ён захварэў. Нямала разоў падыходзіў ён да дзвярэй настаўніцкай, але так і не адважыўся ўвайсці туды, каб расказаць, як усё тое здарылася. Блішчынскі ж здагадваўся пра яго пакуты, але не размаўляў і паводзіў сябе пагрозліва-холадна. Добра далася хлопцу ў знакі тая яго падаткасць на дарозе і ў краме.

Незадоўга да пачатку вайны Грышка з бацькамі перабраўся жыць у мястэчка. У Цімошкіна тым часам з’явіліся лепшыя сябры, і ён упершыню зведаў сапраўдную хлапечую дружбу. З Грышкам яны тады сустракаліся рэдка. Яшчэ праз год Блішчынскі скончыў дзесяты клас і паступіў у медыцынскі інстытут. Да таго часу непрыязь Цімошкіна да яго ўжо прытупела, але, як і раней, Валодзя лічыў Грышку нягоднікам.

Калі пачалася вайна і ў мястэчку з’явіліся немцы, прывалокся з горада і Грышка. Нейкі час ён сядзеў на матчынай шыі, швэндаўся па мястэчку і прыглядаўся да новых парадкаў. Бацька яго, мабілізаваны ў пачатку вайны, недзе прапаў (можа, адступаў на ўсход, а можа, і загінуў), а да маткі неўзабаве прыстаў прымак з акружэнцаў. Пад зімку, калі пачала стварацца паліцыя, Блішчынскага прымака таксама ўцягнулі ў гэтую зграю наймітаў. Паліцай з яго быў дрэнны, ён без просыпу піў самагонку, двойчы п’яны губляў вінтоўку, і начальства

выганяла яго са службы. Але паліцыянты былі патрэбны, і яго бралі зноў. Зімой жа ў мястэчку арганізавалася інтэнданцтва; школу і ўсе лепшыя будынкі немцы занялі пад склады. У памяшканні сельмага нейкія прыезджыя паслугачы адкрылі майстэрню па рамонту амуніцыі і малярню, якая фарбавала розныя вайсковыя рэчы і пісала шыльды. Гэтыя шыльды і розныя аб'явы на нямецкай і беларускай мовах вазамі развозіліся па ўсёй акрузе, і вось у гэтай малярні пад вясну апынуўся і Грышка Блішчынскі.

Амаль год чорнай і белай фарбаю мазаў ён на фанеры, блясе і дошках крывулястыя гатычныя літары, свастыкі, стрэлкі і розныя знакі, да якіх былі вялікія аматары немцы. Амаль два гады атрымліваў ён нямецкі паёк, нейкую плату ў рублях і марках. Праўда, у розных установах і тады працавала шмат усякіх людзей (трэба ж было неяк жыць, карміцца і змагацца), і тут, бадай, папракнуць Блішчынскага нельга. Калі ж у краі разгаралася партызанская вайна і на самое мястэчка ўжо тры разы быў напад партызан, Грышка, відаць, сцяміў, што ў нямецкай майстэрні радасці яму будзе мала. У гэтую пару бадай што ўсе яго равеснікі і нават маладзейшыя хлопцы былі або звязаны з партызанамі, або як маглі памагалі ім. І Грышка надумаў. Калі ён заявіў партызанам, што хоча перайсці да іх, тыя запатрабавалі доказаў ягонай адданасці Савецкай уладзе. Тады ён заманіў дадому прымака-паліцая, які ў той час дняваў і начаваў у камендатуры, баючыся расправы, з ім яшчэ аднаго такога ж недабітка-п'яніцу, добра ўпаіў іх, затым адабраў зброю, звязаў паліцаяў і цераз сувязных пераправіў у лес. Паліцаяў, вядома, расстралялі, а Грышку паверылі, і ён з сякой-такой накрадзенай і адабранай зброяй прыйшоў у атрад. Цімошкін у гэты час таксама быў там і, чуючы, як некаторыя хлопцы хвалілі Блішчынскага, толькі абураўся. Ён згадваў фальш спекулянцкай душы былога сябра і не таіў гэтага, толькі ў блакадны той час не было каму разбірацца ў складаных адносінах гэтых двух партызанаў.

Апроч як пра сябе, ні пра каго ён не дбаў у жыцці. Некалі ў маленстве Цімошкін таксама быў патрэбны яму, каб памагаць пасвіць кароў, наглядаць за кратовымі норамі, у якія ён ставіў пасткі, каб красці ў Цімошкінага бацькі тытунь, які Грышка пасля курыў у полі. Бацька ягоны ў сям'і мала што значыў, дома ўсім распараджалася маці – упартая, сварлівая кабета, якая замуштравала ўсіх – і мужа, і трох дачок, толькі Грышка праз сваю хітрасць не паддаўся ёй. Гэтыя набытыя з маленства ўвішнасць і себялюбства на ўсё жыццё сталі яго адметнаю рысай.

Трапіўшы пасля партызанкі ў запасны полк, Грышка пачаў новае жыццё з таго, што выкрыў аднаго франтавіка-сяржанта, які поначы хадзіў у самаволку. Сяржант – разведчык па спецыяльнасці – быў хлопец разумны і з ордэнам, атрыманым яшчэ ў сорак першым годзе. Звычайна пасля вячэрняй праверкі ён выходзіў з казармы і бег цераз поле на станцыю, дзе яго чакала каханка. Да пад'ёму ён спраўляўся вярнуцца назад на сваё месца на нарах, і ўсё пакуль ішло шыта-крыта. І вось, стоячы днявальным, Блішчынскі аднойчы прыкмеціў самавольшчыка. Нейкі час ён нікому аб тым не дакладваў, маўчаў да сходу, на які прыйшлі нампаліт камандзіра палка, камандзір батальёна і іншыя афіцэры. І тады Блішчынскі, папрасіўшы слова, выступіў з палымянай прамовай наконт парушэнняў вайсковай дысцыпліны. Тады ж ён і выкрыў сяржанта, якога неўзабаве пасадзілі на гаўптвахту, а затым датэрмінова адправілі на фронт. Начальства з таго сходу «заўважыла» Блішчынскага; яго «непрымірымасць» да недахопаў і ўменне прыгожа выступаць многім спадабалася. На другім сходзе хлопцы абралі Грышку сакратаром ротнай камсамольскай арганізацыі.

Пасля ён у вольны ад заняткаў час намаляваў партрэт свайго камандзіра роты. Камандзір, відаць, не дужа што разумеў у гэтым мастацтве, але капітан на партрэце выйшаў прыгажэйшы, маладзейшы і болей зухаваты, чым на самай справе, і сэрца яго не засталося абыякавым да таго падарунка. Неўзабаве радавы Блішчынскі, уладкаваўшыся ў ленпакоі, маляваў

партрэты правадыроў, ладзіў наглядную агітацыю, а ўсе іншыя байцы ў гэты час адшліфоўвалі на спякоце самую цяжкую тэму тактыкі – стралковая рота ў наступальным баі.

Прыбыўшы разам з папаўненнем у стралковы полк, Блішчынскі неяк не пайшоў у батальён. Пэўна, як мастака яго ўзяў да сябе начальнік артылерыі – там трэба было шмат што чарціць і прыгожа пісаць, а на тое Блішчынскі ўжо стаў сталы майстра. Так ён і прыжыўся пры штабе – насіў афіцэрам сняданак, уранку паліваў ім з кацялка ваду, клапаціўся пра ўтульнасць іхніх зямлянак, а астатні час знаўся з паперамі. І з усім, відаць, ён спраўляўся някепска. Калі пачалося наступленне і Цімошкін з прастрэленай голенню трапіў у медсанбат, Грышка ўжо меў медаль «За баявыя заслугі», да яго неўзабаве прыбавіўся «За вызваленне Бялграда», у які ён уехаў на штабной машыне.

Цімошкін бачыў усё гэта, абураўся ў душы, але на людзях маўчаў. Ён думаў – чорт з ім, кожнаму сваё, урэшце, не Блішчынскі, дык хто іншы сядзе на тое месца ў штабе, бо патрэбны і пісары. Зноў жа, ці добра было хадзіць да начальства, нешта даказваць, выкрываць – усё ж яны былі землякі, свае людзі. Праўда, Цімошкін не меў да яго ніякае справы, у хлопца былі свае харошыя сябры, і ён толькі хацеў, каб гэты чалавек ні ў чым не датычыў яго. Але вось недарэчны вайсковы лёс звёў іх на адной сцяжыне, і Цімошкін падумаў цяпер, што з гэтага наўрад ці выйдзе што добрае.

## 3

Ісці станавілася ўсё цяжэй. Яны набрылі на нейкі палетак, пэўна, узараны ўвосень, боты коўзаліся, ногі падварочваліся на грудах і ямках, вецер сек снегам па твары і сляпіў вочы. Было няўтульна і сцюдзёна. Снег падтайваў, ліпнуў да твару і па шыі золкай макрэддзю сцякаў за каўнер. Шчокі ўсё больш дубянелі ад сцюжы, мерзла і балела ад холаду захутаная ў бінты рука. Рукавіцы Цімошкін недзе згубіў у баі і цяпер здаровую

руку хаваў за пазуху або ў кішэню. Але тады спаўзаў з пляча рэмень аўтамата, трэба было прытрымліваць яго, і пальцы так закалелі, што ледзьве згіналіся.

Наваколле звузілася, адасобілася ад іх мільготкім полагам снегу, і хлопец ледзьве мог пазнаваць наперадзе цьмяныя постаці сваіх спадарожнікаў. Ён ішоў па іхніх слядах, ужо прысыпаных снегавой пацярухай, і думаў: хоць бы не спатыкнуцца, не пакаўзнуцца, бо тады наўрад ці знайшоў бы ў сабе сілы ўстаць. Надвор’е трохі абнадзейвала. Хоць і цяжка было ісці, але яны разумелі, што пад такім снегам лягчэй будзе мінуць перадавыя нямецкія часці, і калі яны дзе нечакана не наткнуцца на немцаў, дык заўтра будуць у нашых. Толькі б дабрацца да сваіх, пазбыцца адзіноты, і там ужо нічога не было б ім страшна.

Снуюць, мітусяцца сняжынкі, шапоча, віруе, імкне ля ног снегавая віхура, цягнуцца і цягнуцца ў доле бясконцыя ямкі хлопцавых слядоў. У Шчарбака след шырокі і роўны, боты вялізныя (сорак чацвёрты памер – такіх болей ніхто не насіў у батарэі), Блішчынскі ж свае трымае трохі навыверт, наскамі ў поле...

Раптам перад Цімошкінавым тварам – Шчарбак. Пэўна на хаду прыдрамаўшы, замковы не заўважыў, як хлопцы спыніліся, каб перавесці дыханне і дачакацца яго. Ён здрыгануўся, прахапіўся з санлявасці, і ўсё – непагода, хлопцы і снег – здалося нечаканым, як бывае, калі чалавека знянацку пабудзяць.

– Кажу, прыстаў, мусіць? – пытаўся Шчарбак, стоячы перад ім, увесь абсыпаны снегам.

– Нічога, – сказаў Цімошкін, адчуўшы ў яго голасе ледзьве прыкметныя ноткі спагады. Ад гэтага клопату хлопец зноў стаў мацнейшы, нядаўняя крыўда ўраз прапала – цяпер ён ужо разумеў, што ў такіх абставінах недарэчна залішне патрабаваць ад сябра. Шчарбак падышоў да яго і крануў на плячы аўтамат.

– Дай сюды, – упэўнена, як пра нешта дробнае, сказаў ён і зняў з яго зброю. На дзязе ў наводчыка вісеў

пісталет, на спіне быў рэчмяшок з клінам, на правым плячы хлопец нёс аўтамат Скварышава, цяпер на левае начапіў яшчэ зброю Цімошкіна. Блішчынскі тым часам стаяў побач, адвярнуўшыся ад ветру, і чакаў, каб рушыць далей.

– Так, хлопцы, пад вецер трымайце. Цяпер вецер – арыенцір, – сказаў ён з прывычнай сталай самаўпэўненасцю.

Зноў яны пайшлі па полі, супраць ветру, нізка ўгнуўшы галовы, каб трохі засцерагчыся ад сцюжы. І зноў Цімошкін пачаў патроху адставаць, а яны ўсе – Шчарбак, Блішчынскі і нават Здабудзька, няпэўнымі цёмнымі плямамі варушыліся наперадзе ў снегавым змроку. Добра, што ў доле заставаўся след, і хлопцу не трэба было дужа ўглядацца, каб не збіцца з кірунку.

Змораны і апануараны гэтай хадою, ён не адразу пачуў, як там, наперадзе, дзе ішлі хлопцы, нешта здарылася. Здаецца, хтосьці ўскрыкнуў, затым зусім блізка і трошкі ўбаку загрукацела чарга, да яе зараз жа далучылася другая з іншага месца – шэрую каламуць ночы над галовамі прарэзалі трасіруючыя агніста-зялёныя струмені куль. Гэта здарылася так нечакана і так блізка, што, не зразумеўшы яшчэ, у чым справа, Цімошкін распластаўся на снезе. У галаў адразу ўдарыла думка: «Прапалі!» І тады зусім непадалёк у заснежаным небе рассыпалася агаяная кветка ракеты. Яе блізкае дрыготкае святло, нядоўга патрымаўшыся ў снегавой высі, асвяціла белае пустое поле і тры цьмяныя постаці зводдаль. Па зеленаватым мільготкім снезе яны апантана беглі некуды ўбок, Цімошкін зараз жа ўскочыў і з новаю сілай ірвануў у змрок за таварышамі.

Некалькі трасіруючых чэргаў сцябалі ноч зялёнымі пісягамі куль. Ззаду засвяціла, другая ракета. У доле ад хлопцавых ног палахліва кінуўся ўбок доўгі хісткі цень. Ён упаў, пасля ўскочыў, азірнуўся – здаецца, за імі не гналіся.

Крышку адышоўшы ад перапалоху, Цімошкін зразумеў,

што гэта стралялі з танкаў – гукі стрэлаў былі гулкія, нібы аддаваліся ў бочцы. Але неяк раптоўна ўсё змоўкла, пэўна, кулямёты дастралялі па стужцы і сціхлі. Ззаду яшчэ загарэлася ракета, пасля яшчэ дзве разам. Хлопец прысеў, углядаючыся ў змрок, трошкі падсветлены імі – наперадзе нешта цямнела. Калі ракеты згаслі, стала вельмі цёмна, і Цімошкін, як толькі мог, цяжка і нязграбна патрухаў туды, дзе яму паказаліся людзі.

Бегчы давялося доўга, а таварышаў усё не было, і ён ужо пачаў непакоіцца. Але вось з прыцемак невыразна пачулася: «Гэй!» Цімошкін угледзеўся – наперадзе праз снег чарнеў голы куст, і ля яго варушыліся людзі. Хлопец падышоў – ля куста стаяў Шчарбак. Ён чакаў сябра, аддаў назад ягоны аўтамат і запытаўся:

– Здабудзькі не бачыў?

Ля раскідзістай купкі галля, якое высвіствала на ветры сваю непрытульную песню, сядзеў на снезе Блішчынскі; Здабудзькі тут не было. Цімошкін таксама не бачыў яго, бо, калі пачуліся стрэлы, той ішоў наперадзе з хлопцамі.

Пакуль Шчарбак узіраўся ў ноч, Цімошкін падышоў да куста і паваліўся ў снег. Знямога, здаецца, скавала ўсё цела, хлопцу не хацелася ні думаць, ні варушыць нічым, толькі б ляжаць. Блішчынскі ж пасля хуткага бегу цяжка, зморана дыхаў, прываліўшыся на локаць к долу.

– Разумееш, ледзьве ў самыя іх лапы не ўлезлі, – задыхаўшыся, усхвалявана казаў сяржант. – Добра, што гэты салдат ваш неяк згледзеў і крыкнуў. Ось жа ліха яшчэ! Не хапала ўчарашняга...

Шчарбак, углядаючыся ў цемру, пратупаў каля куста і ціхенька, ледзьве не шэптам, паклікаў:

– Гэй! Здабудзька!

– Ды кінь ты! – усхапіўся з долу Блішчынскі. – Пачуюць яшчэ, тады будзе. Пойдзем.

Ён ускочыў на ногі, каб не даць Шчарбаку болей крычаць, але Іван без увагі на яго глядзеў сабе ў змрок і слухаў. Бо як было ісці, немаведама дзе пакінуўшы ездавога, мо нават на пагібель, пад носам у немцаў. Цімошкіну таксама было ніякавата тут, так блізка ад ворагаў, але ўсё думалася, што Здабудзька вось-вось знойдзецца і яны пойдуць.

Аднак ішоў час, а яго ўсё не было. Хлопцы ўжо трохі спачылі, Шчарбак з Блішчынскім, стоячы на нагах, углядаліся і чакалі, Цімошкін жа сядзеў у доле і яшчэ цяжка дыхаў.

– Ну, хопіць! – з канчатковай прыкрасцю сказаў Блішчынскі. – Пайшлі!

Пэўна адчуваючы сябе камандзірам, ён закінуў за плячо аўтамат і ступіў у снег, мяркуючы, што астатнія адразу рушаць за ім. Але Шчарбак адно толькі глядзеў ды слухаў і не звяртаў на яго ўвагі. Цімошкін таксама не ўстаў з долу.

– Ды пайшлі, што стаяць? Можа, яго ўжо ў палон узялі? Чаго ж чакаць?

– Ды ідзі ты! – злосна кінуў Шчарбак. – Ідзі! Хто табе не дае? – Ён ямчэй паддаў аўтамат на плячы, як кожны раз, калі выпраўляўся куды, і пайшоў у змрок. Хутка шэрая мітусня сняжынак паглынула яго.

Блішчынскі нерашуча патаптаўся на месцы і вярнуўся пад куст. Ён маўчаў і, відаць, быў злосны за гэтую затрымку. Цімошкін, яшчэ не ачуняўшы ад свае знямогі, ужо стыў на ветры і пачаў ціхенька дрыжаць.

– Трэба было яму ісці, вось дурань, – з непакоем у голасе сказаў Блішчынскі, і Цімошкін падумаў тады, што іхнія клопаты зусім чужыя яму. Ведама, што Блішчынскаму ездавы Здабудзька – нейкі незнаёмы салдат, якіх тысячы ў кожным палку. Хіба ён, пісар-штабіст, мог зразумець, што стары Здабудзька – для іх свой батарэец, нейкім чынам усё ж артылерыст, трэці з узвода, які ўцалеў у гэтым страшным разгроме. Як было кідаць яго

на пагібель у тыле ворага?

– А можа, ён там паранены ляжыць, а ты тут гаўкаеш, – не вельмі дружалюбна сказаў Цімошкін. Але Грышку, відаць, непакоіла адно толькі ягонае становішча, і ён злосна агрызнуўся:

– Ну і што ж? Ты яго панясеш, параненага?

– А што ж, пакінуць?

– Ну, вядома, пакінуць – дрэнна. Непрыгожа, разумееш, неэтычна, – раздражнена замахаў рукамі зямляк. – Але ж іншага выйсця няма. Усім не дагодзіш. Трэба ж цвяроза глядзець на рэчы.

Гэтая яго цынічная адкрытасць хоць і не дужа новай была для Цімошкіна, але ўсё ж сваёю бессаромнасцю бянтэжыла яго. Хлопец ведаў, што ніхто ў іх у разліку ніколі не сказаў бы такіх слоў, усе яны гатовы былі ў цяжкую хвіліну дапамагчы адзін аднаму. Проста не верылася, што гэты чалавек – ягоны зямляк і колішні нават сябра – зрабіўся такім цынікам.

– Дзіўны ты, Блішчынскі! – падумаўшы, сказаў Цімошкін. – Чаму ж ты; калі выступаеш на сходзе, зусім не тое гаворыш. Тады ты – як усе. А цяпер вунь якія думкі ў цябе.

Блішчынскі ад прыкрасці аж пляснуў па шынялі далонню.

– Святая наіўнасць! На сходзе я прапаведаваў тое, што павінен кожны ў маім становішчы. Разумееш? Але ж тут зусім іншая справа, разумееш? Тут, брат, арыфметыка: або гінуць чацвярым, або аднаму. Што выгадней?

– Подласць тут, а не арыфметыка, вось!

– Ты проста дурань, – абвясціў Блішчынскі. – Наіўны, як затычка! Быў такі і такі застаўся. Жыццё цябе, разумееш, ні на кропачку не навучыла.

– Ты ўжо мудры! Навучыўся за чужыя спіны хавацца!

– Дзе я хаваўся за чужыя спіны? Разумееш, дзе? Ты што, думаеш, у штабе хаханькі? Там што, людзі не гінуць? Кожнаму сваё, браце. Вось маёр Андрэеў загінуў. А я яго ратаваў, цягнуў. Але ж мёртвага я не павалаку. Пры ўсёй маёй павазе да маёра. Разумееш?

Цімошкін змаўчаў. Блішчынскі патупаў яшчэ ля куста, а пасля неахвотна зняў аўтамат і сеў зводдаль. Можа, з якіх-небудзь пазіцый жалезнай логікі ён і меў рацыю. Толькі Цімошкіну недаступна было разуменне такой логікі. Здабудзька не быў яго сябрам, ён наогул мала што значыў у іхнім узводзе, але хлопец таксама не кінуў бы яго гінуць пад носам у немцаў. Тут была нейкая, можа, мяккацелая, але затое чалавечная логіка, нават калі ўрэшце загінуў бы і той, хто ратаваў Здабудзьку, і арыфметыка такім чынам аказалася не ў карысць хлопцаў.

Так яны ляжалі ў цемры, запарушаныя снегам, акалелыя, з трывогай і напружаным чаканнем у сэрцах. Блішчынскі адкінуўся на бок і чакаў так, – змалку знаёмы Цімошкіну чалавек на гэтай чужой, далёкай зямлі. Але дзіўная рэч – хлопец не мог цяпер знайсці ў сабе ні кропелькі пачуцця да яго: ні таварыскасці, ні варожасці. Яго як бы і не было побач. Ад яго Цімошкіну нічога не трэба было. Калі б што здарылася, ён не чакаў бы ад яго дапамогі, калі б загінуў Блішчынскі – ён не ведаў, як паставіўся б сам да таго. Невядома, што адчуваў Блішчынскі ў адносінах да яго, – пэўна, тое ж самае, але знешне яны былі пакуль стрымана-спакойныя. Усё ж іх прыдушыла адною бядой, і з-пад яе яны выбіраліся разам.

І тады ў хлопцава сэрца пачала ўпаўзаць трывога. У іх не было гадзінніка, яны не ведалі, колькі часу ішлі і ці даўно прапаў у цемры Шчарбак, толькі, здавалася, праляжалі яны ў снезе нямала. У Цімошкіна ўжо закалела ўсё ўнутры. Не вытрымаўшы сцюжы, ён устаў і пачаў грэцца, размахваючы рукамі. Вельмі мерзлі астылыя ногі ў адсырэлых ботах, а параненая рука дык зусім ужо адмерзла. Блішчынскі неяк болей цярпліва зносіў холад, з кучай снегу на плячах і на шапцы ён

курчыўся ў доле і пазіраў у той бок, дзе знік Шчарбак.

Снег усё ішоў і ішоў, сыпаўся і мёў касымі пасмамі з неба; марудна поўз час, а Шчарбака і Здабудзькі ўсё не было. Цімошкін ужо вытаптаў сцежку пад гэтым адзінокім калючым палявым кустом, праглядзеў, як кажуць, вочы, а ніхто нідзе не з’яўляўся. У голаў ад напружання лезлі розныя нядобрыя здагадкі: ці не трапіў у якую пастку і сам Шчарбак? Ці не нарваўся дзе ён на якую засаду? А можа, не адолее дзе параненага Здабудзьку? Ці мо заблудзіў у цемры? Можа, трэба было ісці шукаць яго, а можа, чакаць тут, дзе ён іх пакінуў? Усё гэта пакутнай няпэўнасцю грызла хлопцава адчуванне, але ён не ведаў, што зрабіць, каб хутчэй дачакаць Шчарбака.

Блішчынскі маўчаў нядоўга. Відаць, урэшце даняла і яго сцюжа, – сяржант ускочыў, патупаў на адным месцы, грэючыся, і загаманіў незадаволена і буркатліва:

– Ну, вось і не паслухаў мяне і цяпер недзе ўліп. Пашлі дурнога, за ім другога. Разумееш? А нам мерзні тут!

Цімошкін маўчаў, глядзеў усё і слухаў, а ён працягваў сваё:

– Факт – папаўся недзе. Або зблудзіў.

Цімошкін усё маўчаў. Хлопцу не хацелася спрачацца з ім, бо ён ужо ведаў, што той скажа далей. Але ён сказаў нечаканае:

– А можа, ён у адзіночку да сваіх ірвануў? Аднаму зручней. Безумоўна. Так і ёсць.

– Што ты плявузгаеш? Ты б падумаў спярша, што кажаш.

Блішчынскі пастукаў абцасам па абцасу і з упэўненасцю, якая ніколі не пакідала яго, разважна вытлумачыў:

– Слухай, заўжды выходзіць па-мойму. Разумееш? Я казаў таму: не ідзі. Ён пайшоў. Цяпер адно з двух: або ў

немцаў, або драпануў, а нас пакінуў. Ну дакажы, што не так?

– Што даказваць? Ён жа не ты.

Блішчынскі фальшыва засмяяўся, пасля абарваў, уздыхнуўшы:

– Кожнаму свая кашуля бліжай да цела. Старая ісціна. Ад тае яго ўпэўненасці, з якой было сказана гэта, у Цімошкіна ўзнік неспакой. Вядома, ён, нават паміраючы тут, не падумаў бы, што Шчарбак знарок пакінуў іх, але ж праўда, што мог ён і заблудзіць у гэтай цемрадзі і прамінуць гэты куст. На самай справе, колькі ж яго трэба чакаць і чым можна дапамагчы яму і сабе? Гэтыя пытанні-клопаты вялізнаю трывогай паўставалі ў хлопцавай душы. Урэшце Блішчынскі, пэўна, рашыў даканаць земляка.

– Ты паслухай: калі мы да ранку не выберамся, то заўтра нам канцы. Разумееш? Куды мы дзенемся, калі вакол немцы!

Цімошкін таіў у сабе няпэўнасць і не ведаў, што рабіць далей. Недзе ў снежнай ночы немцы, немаведама дзе фронт, нідзе ні стрэлаў, ні ракет, усё наваколле сцялося, азмрачнела сціхла, толькі снег шорсткімі косамі ляпіў і ляпіў з ветранага неба. У доле яго ўжо набралася многа, пад ім хавалася трава, да халяў грузлі боты, а ён усё ішоў.

Трывога кашчаватымі пальцамі сціскала хлопца, не давала стаяць на месцы, прымушала нешта рабіць, але, апроч як глядзець і чакаць, – што можна было надумаць? Блішчынскі яшчэ болын занепакоіўся, ды і Цімошкін пачаў разумець, што выйдзе, відаць, па-ягонаму: і Шчарбака яны не дачакаюць, і самі сябе не ўратуюць.

Нарэшце Блішчынскі паддаў плячом аўтамат.

– Ну, ты як хочаш, а я пайшоў.

І ён хутка пакрочыў па снезе прэч ад земляка ў змрок

ночы.

На нейкі час Цімошкін разгубіўся, прыкусіў губу, у яго не хапіла рашучасці спыніць сяржанта. Гэта было нясцерпна – застацца аднаму ў такім няпэўным становішчы. Але ён усё ж пачакаў яшчэ, з болем, тугой і адчайнай надзеяй углядаючыся туды, дзе даўно знік Шчарбак. Усімі сіламі сваёй душы ён прагнуў, каб сябар паказаўся, азваўся, хоць як-небудзь напомніў аб сабе. Але ішоў час, а ніхто нідзе не адзываўся ўначы.

Тады хлопец, лаючыся і ў думках праклінаючы немцаў, завею і свайго земляка, штораз азіраючыся, пайшоў па прыкметнаму яшчэ, паўзасыпанаму следу Блішчынскага.

**4**

Шкандыбаючы адзін у гэтай снегавой каламуці, Цімошкін зразумеў, што Шчарбак – яго самая вялікая страта сёння. Яшчэ нядаўна, як толькі скончыўся той страшны разгромны бой і нямецкія танкі хлынулі на ўсход, здавалася хлопцу, што горшага ўжо не будзе. Палавіна іхніх салдат была пабіта, палеглі многія камандзіры, прарваліся ворагі, і іх засталося ўсяго толькі трое. Але сярод траіх быў Шчарбак – як заўжды, маўклівы, рашучы, дзейны. З ім не было адзіноты, і вялікае гора неяк лягчэй пераносілася ўдвух. Цяпер жа ён быў адзін: ні Здабудзькі, ні слаўнага, харошага Вані. Блішчынскі ж не быў патрэбны яму, – пайшоў ён – і хлопец не шкадаваў таго: хіба мог памагчы ў бядзе такі сябелюбец, як гэты яго зямляк?

І ўсё ж Цімошкін ішоў па ягоным следу – ішоў, бо ведаў, што Блішчынскі хітры і заўжды дбае наконт розных хадоў-выхадаў з усякага ліха. Да таго ж на маёравай сумцы ў яго быў компас. Завеяныя сляды ледзьве праступалі з-пад снегу і вялі цераз вялізнае поле, перасеклі схаваны ў снезе прасёлак, які можна было пазнаць па радзе тэлефонных слупоў з дзвюма ніткамі проваду. Затым, задыхаючыся, хлопец перайшоў невялічкі пагорак, абмінуў статак саламяных сцірт і

зноў паплёўся палеткам.

Вецер шалёна сек снегавою жарствой па ягоным твары, але сняжынкі ўсё ж патроху радзелі і снегапад меншаў. Наўкола сталі відаць адзінокія дрэвы, дзе-нідзе – шнуркі вінаграднікаў з пахіленымі калочкамі ў кожным кусце; нейкія будыніны ён абышоў здаля – так вялі засцярожлівыя сляды Блішчынскага. І ўвесь гэты час адзінокага блукання з яго галавы не выходзіў Ваня Шчарбак.

Месяц назад ля дунайскай пераправы загінуў намеснік камандзіра іх батальёна капітан Батаў. Хоць і нядобра пра нябожчыка думаць благое, але быў ён вельмі крыклівы і не дужа справядлівы, гэты афіцэр. Аднойчы, яшчэ ў Трансільваніі, здарылася так, што батальён затрымалі дзве нямецкія самаходкі, замаскіраваныя ў вёсцы. Прамой наводкай яны з паўгадзіны расстрэльвалі пяхоту, як заўжды, па нямецкаму звычаю, не шкадуючы сваіх снарадаў. Да вёскі было якіх, можа, кіламетры паўтара, падбіць тыя самаходкі з саракапятак нечага было і думаць, а іншай артылерыі блізка не было, наступленне спынілася. Роты залеглі за насыпам уздоўж дарогі, чакаюць, што вырашаць камандзіры.

І тады гэты Батаў выклікае ўзводнага ПТА лейтэнанта Пішчука і загадвае на рысях выскачыць з гарматай з-за насыпу, пад’ехаць да грушы, што стаяла ў полі якраз пасярэдзіне між дарогай і вёскай, і прамой наводкай расстраляць самаходкі. Пішчук быў малады, не дужа спрактыкаваны лейтэнант, спрачацца з начальствам не ўмеў, сказаў толькі: «Ёсць!» – і пабег да разлікаў.

Калі ж ён аб’явіў разліку задачу, хлопцы апусцілі насы. Зірнуўшы хоць раз на поле, кожны з іх адчуваў, што жыць засталося некалькі хвілін. Да той грушы добрых 800 метраў, – паспрабуй дабярыся да яе па раллі на прыцэле ў дзвюх самаходак. Лейтэнант аб’явіў загад і марудзіць: сам ведае, што справа дрэнь і невядома, на што спадзявацца.

І тады Ваня Шчарбак падхапіў свой аўтамат, узяў яшчэ

ў Кеклідзе супрацьтанкавую гранату, скінуў шынель і – у трубу пад насыпам. На тым баку ён па канаве прашмыгнуў да разоры ў палетку і па ёй хуценька папоўз да вёскі.

Увесь батальён глядзеў з-за дарогі на гэты адважны ўчынак Івана Шчарбака. Поўз ён доўга, прыпыняўся, адпачываў. З вёскі, пэўна, яго не бачна было, бо самаходкі зрэдку білі па насыпе, а яго не чапалі. На Іванава шчасце, нямецкай пяхоты ў вёсцы відаць не было, і ён, дапоўзшы да ваколіцы, схаваўся недзе за белымі, скрозь у матках чырвонага перцу, хаткамі.

Іван знік у вёсцы і доўга не падаваў ніякіх адзнак жыцця. Самаходкі зрэдку лупілі па гасцінцы, паранілі камандзіра шостай роты, аднаго сувязіста. І раптам у вёсцы – выбух, і з-за хат валіць дым. Самаходка загарэлася, а другая, пэўна ўчуўшы ліха, загыркатала маторам і падалася прэч за ваколіцу. Хлопцы павылазілі на дарогу, пасля па полі кінуліся да будынкаў. Саракапятчыкі прычапілі гарматы да перадкоў і таксама памчалі туды. І вось падкатваюць яны праз гароды да невялічкага садка, дзе дыміць самаходка, і бачаць: на паграбцы, у якім хаваецца ў венграў віно, сядзіць іхні Іван, бінтуе сабе руку і лае фрыца, які, уцякаючы, усё ж драпнуў яго куляй.

Вось такі быў Ваня Шчарбак.

Ён не дужа любіў кніжную навуку, скончыў усяго толькі шэсць класаў, але ў працы і людзях разумеў шмат. Калі ён капаў акоп, дык ніхто не хітрыў, не валыніў, як кажуць – усе зараджаліся ягонай працавітасцю. А калі хто часам і ленаваўся, дык Іван клікаў таго і казаў: «Падпрагайся. Буду цябе лячыць ад гультайства. Я – выкідаць, ты – падбіраць». Тады ўжо таму хлопцу даводзілася папацець.

І вось неяк бязглузда Цімошкін страціў яго. Вядома, ён, можа, яшчэ і жывы, можа, ён пайшоў іншай дарогай, але хлопец не мог зміріцца ў душы, што Шчарбака няма. Яму было вельмі самотна без сябра ў гэтым шляху. Праз кожныя пяць хвілін ён азіраўся,

прыслухоўваўся, думалася: авось, дзе-небудзь пакажацца з цемры яго постаць. Цімошкін усё болей шкадаваў, што паддаўся Блішчынскаму і не пайшоў тады па Шчарбаковым следу, можа б, адшукаў дзе яго. Але ж след хутка засыпала, а тады, калі ён яшчэ быў відзён, была і надзея, што Іван хутка прыйдзе.

Снег перастаў церушыць, наўкола пасвятлела. Мароз памацнеў, вецер шкуматаў полы шыняля, і калені дранцвелі ад сцюжы. Твару свайго Цімошкін, здаецца, не адчуваў, можа, адмарозіў, здаровую правую руку хаваў за пазуху, параненая ж зайшлася і дужа балела. Белы зімовы прасцяг усё шырэй рассцілаўся навокал, выставіўшы як напаказ усе чорныя плямы зямлі, быльнёг, вінаграднікі, адзінокія абрысы дрэў. І толькі далячынь на краявідзе пад цёмным навіслым небам тулілася ў змроку, і нідзе не праглядвала ніякіх адзнак месяца.

Сляды Блішчынскага ў доле сталі відаць лепш. Яны прывялі хлопца да нейкага землянога вала ў полі, які бялеў у прыцемках роўнай хрыбцінай і бег некуды ўдалячынь. Блішчынскі, як гэта відаць было па слядах, узлез на яго, пэўна, агледзеўся і пасля, збегшы, пайшоў уздоўж вала. Цімошкін быў зняможаны і на вал не палез, а паціху пайшоў у той бок, куды павярнуў зямляк.

Праз нейкі час наперадзе сталі відаць прысады, між якіх тут пралягала дарога. Баючыся, каб не трапіць у якую бяду, Цімошкін паціху выходзіў з-за вала. Наўкола ўсё было ціха – глыбокая зімовая ноч у белыя пялёнкі спавіла абшар. Ля дарогі ў канаве ляжаў на баку перакулены аўтамабіль, нейкая паклажа з кузава рассыпалася наўкола і густымі плямамі чарнела на снезе. Жывога там, здаецца, не было нікога. Сляды Блішчынскага вялі таксама туды, і хлопец, зняўшы з пляча аўтамат, пайшоў да дарогі.

Ужо непадалёк ад таго аўтамабіля яму здалося, што нехта шмыгнуў на той бок і схаваўся за чорным кузавам. Цімошкін прыпыніўся, угледзеўся – сапраўды, з-за машыны насцярожана тырчаў кароткі ствол

аўтамата. Але вось ствол здрыгануўся, апусціўся, і на снег ступіў чалавек, які затым злосна плюнуў у дол і загаманіў, – гэта быў, вядома, Блішчынскі.

– Напалохаў! Думаў, немцы. Ну, дзе твой сябрук?

Цімошкін ужо не думаў дагнаць яго, убачыць зноў, але адзінота – горш за ўсякага ворага. І хлопец у той час крыху ўзрадаваўся – хоць і кепскі ён чалавек, яго зямляк, але, здавалася, удвух ім усё ж будзе лепей. Цімошкін не адказаў на яго запытанне (што тут было«казаць?), і Блішчынскі, пэўна, зразумеў гэта як прызнанне ім свае памылкі.

– Слухаў бы мяне. А то заўпарціўся, – казаў ён, выходзячы з-за машыны. І тут Цімошкін заўважыў, што ля кабіны ляжыць нейкае цела ў задраным на голаў шынялі. Зямляк жа, закінуўшы за плячо аўтамат, пайшоў да яго, узяў нагу забітага і тузануў, здзіраючы валёнак. Другі, ужо зняты валёнак стаяў цяпер побач. Вецер раскручваў на снезе анучу забітага.

– Ось халера, прымерзлі, ці што! – казаў Блішчынскі. – Ану, фрыц, аддавай. Памажы, Цімошкін.

Цімошкін прыпыніўся зводдаль і плюнуў у снег.

– І не брыдка табе? – сказаў ён, назіраючы, як Блішчынскі соп і ўсё тузаў нагу, а труп валокся, усё болей загортваючы шынель. Каб было зручней, Грышка ўпёрся ў яго ботам.

– А чаму брыдка? Ногі марозіць горш. Ось як.

Урэшце ён здзёр валёнак, прысеў на скрынку, зняў свае кірзавыя боты і спрытна пераабуўся. Валёнкі сапраўды былі добрыя – з абшытымі скурай наскамі і скуранымі падэшвамі. Блішчынскі прытупнуў імі і штурхнуў локцем аўтамат.

– Валёначкі першы сорт. Дзякуй немцу, цяпер ногі як у печцы будуць. Разумееш?

На дарозе нікога не было, хлопцы перайшлі яе і зноў

скіравалі ўздоўж вала. Блішчынскі, як заўсёды, трымаў сябе ўпэўнена, нешта пажаваў з паперкі, пасля спыніўся, выняў з-за пазухі нямецкую, абшытую лямцам, біклагу і адвінціў корак.

– Бачыш? Ром. Мабыць, французскі, – ён коратка хіхікнуў. – Ін віна вэрытас. Разумееш? Ды дзе табе разумець. Праўда ў віне. Запомні.

Пасля, задраўшы голаў, ён трохі пабулькаў, выцер далонню вусны і, не закрываючы пляшкі, спытаў:

– Табе даць? От добра! Селязёнка пацяплела. На, глыні. Толькі нямнога.

Цімошкін нерашуча ўзяў, азірнуўся і, паднёсшы да вуснаў марознае рыльца, глынуў разы два. Ніякай асалоды ён не адчуў, але пахучая вадкасць сапраўды жарам разлілася ў грудзях, адразу стала цяплей. Хлопец аддаў пляшку і, адчуваючы, як паток нейкага новага, нязвыклага пачуцця напаўняе яго істоту, ішоў побач. І тут яму раптам стала вельмі самотна, вельмі прыкра, што побач у такой бядзе зусім не той чалавек, якога б хацелася. «Эх, Ваня, Ваня!» – прашаптаў хлопец, усё азіраючыся, але ззаду над бялявым долам вісела змрочная зімовая ноч.

Блішчынскі шырока сігаў, Цімошкіну было цяжкавата ўгнацца за ім, але ён, як мог, намагаўся не адстаць. Размаўляць у яго не было ніякай ахвоты, два гарачыя глыткі неяк зусім засамоцілі хлопца.

– Чаго ты такі кіслы? Га? – пытаўся Блішчынскі. – Што, сябрук прапаў? Плюнь ты, які можа быць сябра на вайне? На дзень-два. Пасля ўсё роўна – разлука, разумееш! Хто ў Магілёўскую губерню, хто ў шпіталь. Разумееш?

Цімошкін маўчаў, ён ведаў, што Блішчынскі не зразумее яго турбот, ды хлопцу гэта і не трэба было.

– А наогул, ты ёлупень. Чаму б табе каля мяне не трымацца? Я б цябе не даў скрыўдзіць. І памог бы. Што,

думаеш, сілы мала? Думаеш, нейкі там пісар! Ха, мала ты ведаеш. Разумееш? У мяне ўлады не меней, чым у маёра Андрэева. Нядаўна ў артмайстэрні ездавы выбыў. Шапнуў бы Борку Паўловічу са страявой часці, ураз бы перапісаў цябе, і канцы ў ваду... Нябось, не валокся б цяпер чорт ведае дзе. Разумееш?

Цімошкін непрыязна агрызнуўся:

– Чаму ж ты валачэшся, такі разумны?

– Я? То выпадак. Разумееш! Што я, дурны, ці што? Думаеш, я для якога медаля на дурасць пайду? Дудкі. Пляваў я на медаль і на дурняў. Маё жыццё даражэй за медалі. І каб не выпадак, я б цяпер да-а-лёка быў. Ужо б немцам не даўся б. Разумееш?

– Што ж цябе ўтрымала?

– Што, што... Грыцэнку – ардынарца Андрэева – пазаўчора падстрэлілі. Разумееш? І трэба ж яму было падлезці пад тую кулю. Дык маёр Андрэеў уранку кажа: пойдзем, праветрышся, а то ты тут дымам прасмярдзеў. Ну што ж, думаю, пайду. Можа, за паўдня якога ліха не здарыцца. Пайшлі ў трэці батальён, і вось табе на – якраз прарыў. Маёру дзве кулі ў жывот – сканаў, яму і клопату мала. А я вось уліп. Ось так. Разумееш?

Ён відавочна хмялеў. Рухі яго сталі рэзкія, левая рука шырока адмахвала ў такт крокаў. Шльнасці ён, аднак, не траціў і, гамонячы, кідаў хуткія, кароткія позіркі ў бакі. Здаецца, землякова маўклівасць заахвочвала яго спавядацца, і пэўна таму, што тут не было сведак і становішча і заставалася няпэўным, ён, як гэта бывае пасля доўгай зацятасці, перастаў таіць свае думкі.

– Мы з табой, Цімошкін, землякі, брат, і разумеем адзін аднаго. Праўда, там некалі не дужа ладна жылі. Але глупства – вядома, пацаны былі. А цяпер? Трэба ж цвяроза глядзець на ўсё. Ты не думай, што я сяржант, дык мала што разумею. Хе, не, брат. Думаць трэба. Ось! Пад танк кідацца няшмат розуму трэба. Гэта і дурань зможа. Але шцірб цур рэхтэн цайт[6], як пісаў Ніцшэ. А

стары не дурны быў. Вось. Мы маладыя, нам трэба на вайне выжыць, і выжыць з толкам. Разумееш? У тым уся соль.

Агідны чалавек. Ён быў варты таго, каб даць яму ў морду, думаў Цімошкін, але, сашчапіўшы зубы, трываў і слухаў. Яму хацелася зведаць земляка да канца, бо, адчуваў хлопец, недзе ў ім закладзена гэтая адгадка яго натуры, яна сёння свярбіць у яго, і Блішчынскі штосьці выкажа.

– У палку што? У палку, хоць бы і ў штабе – гарота. Не кулі, дык снарады, бомбы. Ось бы ў корпус забрацца. Гэта ўжо парадачак. Разумееш? Была ў мяне спадзёвачка... Каб не гэтае ўчора. Ну, але нічога. Мо нават і лепей. Ты запамінай: выйдзем – перш-наперш прыбіцца да якой тылавой часці. А там паглядзець. Ты каля мяне трымайся. Я і цябе ўладжу. Не прападзеш! Разумееш?

– Значыць, у тылавыя часці, так? Прасіцца? – з прытоенай з’едлівасцю запытаўся Цімошкін. Але Блішчынскі не адчуў ці не зважыў на яго тон.

– Ну і што ж, папросімся. Падумаеш! Рапарцічку напішам: так і так, часць разбілі, мы засталіся. Праявілі геройства, біліся да канца...

– Эх ты! – сказаў Цімошкін, ужо не хаваючы сваёй пагарды да яго.

– Што? Хто я?

– Смоўж ты, вось хто. І табе гадка ад самога сябе не бывае?

Блішчынскі фальшыва заржаў, коратка акінуўшы земляка халодным позіркам.

– Што, можа, данясеш? У смерш данясеш? Як выйдзем? Чорт у зубы. А сведкі дзе? Хто чуў! А я скажу на цябе не такое. Скажу, што ты ў немцаў у руках быў і даваў паказанні аб нашых войсках. Ну? Што? Ага, не падабаецца. Ось як. А ўрэшце, я пажартаваў. Каб цябе

праверыць, якім духам жывеш?

І ён зноў заржаў – прыцішана, выскаляючы вялікія пярэднія зубы з дзяснамі. Цімошкін уважліва і трохі збянтэжана паглядзеў на яго – сапраўды, хто яго ведае, дзе ў яго была праўда, у гэтага чалавека. Ён мог яе, гэтую праўду, падаць так, што яна выглядала як хлусня, і, наадварот, хлусня ў яго магла быць праўдападобней за праўду. Хлопец ужо ведаў гэтую здольнасць свайго земляка і толькі ўздыхнуў.

І раптам ён змоўк, прыцішыў крок – наперадзе вал абрываўся, і з-за яго паказваліся загарадзь, нейкія будынкі, дрэвы. Хлопцы паціху выходзілі з-за вала, па той яго бок паказаліся і яшчэ будынкі, гэта, пэўна, была ўскраіна вёскі або гарадка. Усё навокал ціха драмала ў ночы, толькі недзе далёка, прабуксоўваючы, тужылася-гыркатала машына.

Блішчынскі прыпыніўся, прыслухаўся, – ягоная хмельная самаўпэўненасць ураз змянілася насцярожаным клопатам.

– Пайшлі ў абход, – ціха сказаў Цімошкін. – Не ісці ж па вуліцы.

Сяржант маўкліва згадзіўся, і яны, абыходзячы па заснежаных градах ускраінныя домікі, падаліся ў абход паселішча. У адным двары раптам усхапіўся сабака, кінуўся на плот, добра, што плот быў суцэльны і высокі. Блішчынскі скалануўся, падхапіў аўтамат, і ягоныя пальцы дрыготка схапіліся за рукаятку.

Яны яшчэ прайшлі крыху, і раптам абодва ўраз сталі, падаліся назад і прыцiснуліся да сцяны нейкага ўскраіннага хлеўчука. Наперадзе, зусім блізка, у вербных прысадах была дарога, і на ёй чуліся галасы. У сутонні снежнае ночы там відаць былі сілуэты аўтамабіляў ці, можа, транспарцёраў, на момант бліснула з фары плямка святла, нешта лязгнула, затым плямка патухла.

Хлопцы замерлі і ўслухаліся – самае найпершае

пытанне было – хто: свае ці немцы? Гамонка, што сям-там чулася на дарозе, была дужа ціхая, яе нельга было разабраць, але Блішчынскі нейкім адным яму ведамым чынам вызначыў:

– Немцы! Што ж рабіць?

– Трэба ісці. Што ж яшчэ рабіць? – сказаў Цімошкін.

– У абход?

Не, у абход было нельга. Убачыўшы іх у снежным полі, немцы, вядома, западозрылі б нядобрае, крыкнулі б, тут бы яны і папаліся. Лепей было прабірацца паўз дамы бліжэй да дарогі і затым – цераз самую дарогу.

Блішчынскі зразумеў гэта, і яны, прыціскаючыся да платоў і будынкаў, падышлі зусім блізка. Апошнім ля дарогі быў ладны з верандаю домік, за драцяной сеткай ля яго тоўпіўся заснежаны калючы хмызняк. Яны прыціснуліся да гэтае сеткі і ўглядаліся ў дарогу.

Цяпер ужо добра відаць было, што на ёй стаяла калона машын. Яны былі дужа вялікія, ці мо так здавалася ў прыцемках, людзей там не бачна было, толькі аднойчы бразнулі дзверцы кабіны і на дарозе з’явілася постаць. Паціху варушачыся ў змроку, яна падышла да дрэва на ўзбочыне. Немец, нібы ўглядаючыся ў іх бок, пастаяў, затым захінуў полы шыняля і вярнуўся да сваёй машыны.

Яны ўсё сядзелі пад агароджай, Блішчынскі, пэўна, баяўся, гэта адчувалася па яго насцярожанай ссутуленай постаці, па злосным шэпце на ўсякі неасцярожны землякоў рух. Хоць і Цімошкіну было нявесела, але ён ведаў, што баяцца і не ўмець схаваць гэтага – па меншай меры нягожа для франтавіка.

– Чортава каламажка! – злаваўся Блішчынскі. – Што ж рабіць?

У прыцемках зблізку відаць было, як ён хмурыў касцісты лоб і сюды-туды паводзіў на фоне снежнае шэрані сваім выразным насатым профілем. Ен шукаў

выйсця, намагаўся прыдумаць, як бы выкарабкацца з такога небяспечнага становішча. Цімошкін асабліва не намагаўся што выдумваць, бо ведаў, што нічога, апроч таго, каб перайсці дарогу, яны не надумаюць. Ад таго, як удасца ім гэта, будзе залежаць усё іншае.

– Ну, што? Трэба пераходзіць, – сказаў Цімошкін, чакаючы згоды таварыша. Але Блішчынскі, пэўна, усё не мог пагадзіцца на тое і маўчаў, узіраючыся ў ноч.

– Ну ладна. Толькі вось што, – не дужа ўпэўнена пачаў ён. – Хай хто-небудзь спачатку адзін, як бы ў разведку. А пасля другі. Каб не абоім адразу. Разумееш? Ну, ідзі ты першы.

У Цімошкіна ад тых яго слоў ажно скаланулася нутро – ён зноў адчуў побач знаёмага Блішчынскага, які хітраваў, камбінаваў, каб самому што выгадаць.

– Чаго гэта адзін? Ты што мяне выпраўляеш?! А сам?

– А-а, спалохаўся? – зашаптаў Блішчынскі. – Ну не ідзі, раз баішся. Падумаеш. Я пайду. Але ж у мяне сумка, дакументы, разумееш? Мне нельга.

Гэта было ўжо занадта. У яго ўжо з’явіліся прычыны і повад, які даваў яму права застацца ў баку ад самага цяжкага. Так ён рабіў некалі яшчэ на вясковым выгане, калі яны хлапчукамі пасвілі гусей. Гусі раз-пораз ішлі ў шкоду, дзеці разам гулялі ў цурку і па чарзе бегалі адварочваць статак. Але калі надыходзіла чарга Блішчынскага, ён заўжды аднекваўся: у яго то балела нага, то круціла ў жываце, то не яго гусі першыя падаліся ў збожжа. Цяпер было тое ж самае. Але марудзіць не выпадала, і Цімошкін, не стрываўшы, падхапіў свой аўтамат.

– Калі так – хай!

Мусіць, ён зрабіў трошкі празмерна, неабдумана, – такая гарачка (сам разумеў) была недарэчы тут, за дваццаць крокаў ад ворагаў. Але ён не хацеў, каб сяржанту здалося, што ён баіцца ці таксама шукае

лягчэйшага. І ён рушыў да дарогі, не азіраючыся і не думаючы, як і што будзе далей. Наперадзе чарнеў тупарылы абрыс «мерседэса», за ім быў прамежак крокаў пятнаццаць, і хлопец скіраваў туды. У гэты час ззаду пачуўся шэпт Блішчынскага:

– Пачакай, – пайшлі разам.

Ён дагнаў хлопца, і яны паволі пайшлі ўздоўж агароджы. Вось абрыс машыны пабольшаў, пад прыдарожнымі дрэвамі вышэйшы стаў яе брызентавы дах, Цімошкін сігануў да яго і праваліўся ў занесеную снегам канаву. Блішчынскі ў той час зноў недзе прапаў, але хлопец не азіраўся, зямляк цяпер стаў для яго ненавісны і непатрэбны. Сцяўшы сэрца і стараючыся ступаць як мага спакайней, ён узышоў на дарогу. За шклом у кабіне задняй машыны цьмяна ўспыхнуў і згас агеньчык цыгаркі. У кузаве «мерседэса» нешта грукнула, і сонны хрыпаты голас прабурчаў пад брызентам.

– Рухігер, Гейдаль.

Хуткім крокам Цімошкін перайшоў дарогу, пераскочыў цераз канаву, і яго сэрца, абмершае дагэтуль, раптам абнадзеена і скоранька затахкала ў грудзях. Хацелася бегчы, але ён, ледзьве стрымліваючы сябе, ішоў памалу. Ззаду зноў пачулася зморанае дыханне – гэта бег Блішчынскі. Ён дагнаў, палахліва азірнуўся і пачаў хутка апярэджваць хлопца.

– Цішэй! – шапнуў Цімошкін. – Не бяжы! Відаць!..

Блішчынскі зразумеў, што такая яго паспешлівасць можа скончыцца кепска, і пайшоў цішэй. Відаць, перамагаючы ў сабе страх, ён хутка набіраўся звычайнае свае начальніцкае сталасці.

Тулячыся да нейкіх гаспадарчых будынкаў, яны трохі адышліся ад дарогі. Цімошкін пакрысе супакоіўся, агледзеўся. Машыны ўжо ледзьве выступалі шэрымі плямамі, хлопцаў ніхто не заўважыў ці, можа, не звярнуў увагі, палічыўшы за немцаў. Наперадзе

цямнела нейкая доўгая будыніна, мабыць, абора, яны зайшлі за яе рог. Дарога была яшчэ блізка, але тое, што будыніна добра хавала іх, надало смеласці, і Цімошкін даў волю сваёй злосці на земляка.

– Эх ты! Хваліўся толькі: умею, разумею. А здарылася, дык за спіну хавацца. Шкурнік!

Блішчынскі забег наперад.

– Шкурнік? – узрушана спытаў пісар. – Гэта я шкурнік? Ты думаеш, сваю шкуру ратую? Памыляешся. Во, маёрава сумка. Ты ведаеш, якія там дакументы? Ведаеш?

– Не ведаю і ведаць не хачу.

– Ось так і скажы. Каб ведаў, так бы не брахаў. Разумееш? Дурань ты. У гэтай сумцы – ваенная тайна, вот! А ты балбатун. Вот!

Блішчынскі незадаволена памаўчаў, атрос вываляныя ў снег полы свайго шыняля, але ўсё не мог супакоіцца і бурчаў:

– А то шкурнік! Трэба галавой думаць. Разумець, што да чаго. Вучыў, вучыў немец – і ніякага следу. Лезем, як у плот свінні. Гэта як у нас у акупацыю… Памятаеш, у сорак другім ля Забалоцця. Якісь дурань забіў нейкага пархатага немца. Прыехалі карнікі, спалілі вёску, расстралялі дваццаць чалавек. І за што? За аднаго немца. Ну варта было лезці?

– Ага. Ведаеш, як у тым анекдоце, – сказаў Цімошкін. – Як жа ісці на вайну: там могуць вока выбіць?

– Дурань! – зазначыў Блішчынскі. – Яшчэ табе кажу, Цімошкін: дурны ты, як затычка. Мала цябе жыццё церла.

– Ладна ўжо. Добра, што ты разумны.

Ён, відаць, не на жарт зазлаваў і надзьмуўся. Моўчкі яны ішлі яшчэ доўга. Відаць, блізка быў ранак, ноч

пацямнела, палявое наваколле паглушэла, неяк дужа дацінала стома, і ў хлопцаў пачалі зліпацца павекі. Абодва яны змагаліся з надакучлівым сном, на хаду драмалі і спатыкаліся. Аднойчы Цімошкін паваліўся ў снег, а калі прахапіўся і ўстаў, неяк нечакана згледзеў, што цемра рассунулася, наваколле пасвятлела. У свежым чысцюткім доле сталі відаць рэдкія сцяблінкі быльнёгу, узмежак з кустамі; наперадзе ў полі з’явілася сцірта саломы.

Вецер не сціхаў, у доле паўзла завея, і над заснежанай трывожнай зямлёй пaціху світала.

**5**

– Ну, вось і выйшлі, сабачая псіна! – злосна сказаў Блішчынскі.

Яны спыніліся ля сцірты, знясілена прыхінуліся да яе запарушанага снегам саламянага боку і з роспаччу глядзелі на ўсход, куды пралягаў іх шлях і куды ўжо нельга было паткнуцца.

Непрыкметна неяк развіднела. Хмарнае ранішняе неба прыўзнялося над белым прасцягам, аздобленым плямамі ўсяго, што не было засыпана снегам. Наўскасяк ад сцірты беглі роўныя радкі вінаградніку, праз паўкіламетра ўпоперак поля, пэўна на мяжы двух уладанняў, пасталі ў рад маладзенькія дрэўцы пасадкі. Дальнім сваім канцом гэты рад прытыкаўся да невялічкага, у дзве-тры будыніны, хутара, які сіратліва туліўся сярод вялізнага снежнага поля. Крыху збоч ад яго і далей за дрэўцамі ледзь не на самым даляглядзе высіўся пукаты, як гуз, узгорак, і на ім – бачна было адсюль – хадзілі, стаялі, капалі зямлю немцы. Гэта было далёка, але хлопцы не сумняваліся, што перад імі ворагі. Толькі што з узгорка ўніз сышла група людзей, пэўна камандзіраў, адзін пастаяў яшчэ, размахваючы рукамі, мабыць, даючы ўказанні, сеў у машыну і па дарозе пакаціў у той бок, адкуль землякі ішлі ноч.

Блішчынскі дастаў з маёравай сумкі яго

артылерыйскую карту і, раз-пораз пазіраючы навокал, пачаў вадзіць у ёй рудым пазногцем – шукаць месца, дзе яны цяпер апынуліся. Відаць было, што ён ужо зусім ацверазеў, пераход дарогі і гэтая няўдача з выхадам да сваіх занепакоілі яго; ад былое ўпэўненасці неяк мала што засталося.

– А давай ось так і пойдзем, – сказаў Цімошкін, паказваючы рукою ў бок ад выспы з немцамі. Блішчынскі падняў ад карты свой заклапочаны твар, прыплюшчыў блізарукія шчылінкі-вочкі і паглядзеў, нібы панюхаў, у прастор.

– Што ты, Цімошкін! Не пройдзеш... І не высоўвайся так! Сядай! – па-начальніцку спахапіўся ён, убачыўшы, што хлопец высунуўся з-за сціртты.

Цімошкін пастаяў крыху і адчуў, як пачынае мутнець уваччу. Ідучы, неяк лягчэй было выцягваць з сябе апошнія сілы, ды і не так працінала сцюжа, цяпер жа мерзлі ногі і ўсё цела налілося страшэнным цяжарам. Зноў жа ўладарнаю сілай падступаў да іх голад. Цімошкін абмацаў свае кішэні, выбраў у адным некалькі сухіх крошак і кінуў у рот. У галаве ад стомы і бяссонніцы цягуча, аднастайна гудзела, і думкі ніяк не маглі сагнаць нейкай санлівай ленасці. Хацелася сесці, сцішыцца, і болей, здаецца, нічога не трэба было б.

Цімошкін ссунуўся спіною па саломе і, нейкі абыякавы да ўсяго, аб чым трэба было цяпер дбаць, аддаўся спакою.

Сціртта была вялікая, трошкі нахіленая, з вялізнаю снегавою шапкай наверсе. З гэтага боку, дзе прыткнуліся хлопцы, хтосьці падскуб салому, ад таго зрабіўся застрэшак, пад якім амаль не было снегу. Праз дзесяць крокаў адгэтуль валялася жалезная бочка з двума таўровымі абручамі, і ля яе, прыпарушаны снегам, ляжаў конскі труп. Плоская канячая шыя ўліпла ў снег, чэрава неймаверным горбам выперла ўгору, задняя нага высока задралася, і на ёй свежай іржой чырванела падкова.

– І што ж рабіць? – з трывожнай паныласцю ў голасе спытаўся Блішчынскі, седзячы над картай.

– Трэба чакаць. Можа, увечары выберамся, – сказаў Цімошкін, адчуваючы, што перамагчы стому ў яго ўжо няма сілы.

– Цяпер нам канцы, разумееш? – нерваваўся пісар. – Вось дык улезлі!

– Вось табе і тылавыя часці! – з ціхай злосцю азваўся Цімошкін. – Хоць бы да франтавых выбіцца.

– Чорт ведае што такое.

– Думай. Ты ж разумны. Ты вёў.

– Ага, я вёў, – зазлаваў Блішчынскі. – Я вёў не да немцаў, а да сваіх вёў. Не забывайся.

– Можа, скажаш яшчэ, што ты ратаваў мяне? – без усякага запалу запытаў Цімошкін, тулячыся да саломы. Блішчынскі скіраваў на яго свае маленькія і вельмі рухавыя вочкі і глядзеў, нібы на вінаватага – са злосцю і прыкрасцю ад усіх іхніх цяперашніх няўдач.

– Свінчо нясмаленае! Каб не я, ты і цяпер пад тым кустом ляжаў бы, сябрука б чакаў.

– А ты б і цяпер пад агароджай сядзеў, – нядоўга думаючы, выпаліў Цімошкін, У хлопца ўжо накіпала на земляка – і за пахвальбу, і за бессаромную баязлівасць, і наогул за ўсё ранейшае, змоўчанае, перажытае ў сабе.

– Ты што? Напраўду думаеш, што я баязлівец? – запальчыва ўсклікнуў Блішчынскі. – Думаеш, за сваё жыццё баюся? Можа, і так. Дапусцім. Хай. Але не забывайся: я гарматы не кінуў, як некаторыя... смелыя. А за гармату ты глядзі... Варта дазнацца начальству і... Разумееш?

– А што гармата? – адкінуўся ад саломы Цімошкін. – Мы што – ворагу яе аддалі? Ці павінны былі цягнуць? Шчарбак вунь клін у рэчмяшку нясе, а болей што?

Блішчынскі змоўчаў, а Цімошкін падумаў, што, пэўна, ён не забудзе ўжо на тую гармату. Можа, яшчэ, выйшаўшы да сваіх, перакруціць усё ды наплявузгае начальству – тады паспрабуй дакажы, што не так. Але хлопец не хацеў задзірацца, ліха на яго – урэшце было аб чым непакоіцца куды болей.

Ён зноў падаўся ў застрэшак, Блішчынскі ж, відаць, не на жарты ўзрушаны новай няўдачай, гугнява скардзіўся:

– А цяпер нам канцы. Гэта як піць даць. Калі нават і выберамся. Цяпер мы – акружэнцы. От жа д’ябальскае ліха! Улезлі!..

Цімошкін і сам ведаў, што гэта кепска. Праўда, дагэтуль хлопец аб тым не думаў, яму ўсё здавалася, што да ранку яны выйдуць з варожага тылу, знойдуць сваю дывізію і ўсё растлумачаць. Але вось гэта затрымка, вельмі падобная на пастку, сустрэла хлопцаў на іх шляху да паратунку. Было ад чаго непакоіцца.

– Цяпер акружэнцы, разумееш? – казаў Блішчынскі. – У анкеце ўжо не напішаш, што ў палоне і акружэнні не быў. Цяпер чортаў знак. Ды яшчэ асобы аддзел на цыгундар возьме. Разумееш?

– А за што браць? – сказаў Цімошкін. – Што мы, якія злачынцы, ці што?

– Гэ, злачынцы! Дзівак, – азваўся Блішчынскі. – Ты, мабыць, мала яшчэ пабачыў. А я дык ведаю. Злачынцы ці не злачынцы, а цяпер на кручок і – хадзі сюды, галубчык. Дакажы, што ты не вярблюд.

Хто ведае чаму – ад гэтага чалавека ішло адно кепскае. Навошта ён напамінаў пра тое, хіба мала было турботаў для іх, знясіленых, галодных, параненых? У Цімошкіна ад тых яго слоў паднялася ў душы злосная крыўда, але ўсё ж нейкай цвярозай частачкай пачуцця ён згадваў, што ў якойсьці меры сяржант мае рацыю. Хлопец і сам памятаў некалькі выпадкаў, калі тых, што выйшлі з акружэння, адпраўлялі ў тыл і там наладжвалі следства.

Праўда, тады яго гэта не дужа кранала, цяпер жа сам вось апынуўся ў такім становішчы. Ну, але хай правяраюць, хай пішуць пратаколы, думаў Цімошкін, ён нічога кепскага не зрабіў, і сумленне ў яго чыстае.

І быццам у адказ на гэтыя яго думкі Блішчынскі неяк паныла сказаў:

– Табе-та што? З цябе многа не возьмеш. А ў мяне вось вучоба гарыць. Разумееш? Тысячу халер на іх галаву! – злосна дадаў ён.

– Якая гэта вучоба?

– Якая? На курсы павінны былі паслаць. Разумееш? На курсы малодшых лейтэнантаў, – удакладніў Блішчынскі. – А цяпер, мабыць, амба. Не пашлюць жа акружэнца, – казаў ён, змрочна ўглядаючыся ўдалячынь і калупаючы ў зубах саломінай.

Цімошкін ад здзіўлення ажно зварухнуўся – дык вось чаму такі клопат аб сваёй рэпутацыі і столькі ныцця. Ну вядома ж, уночы ля таго вала ён казаў праўду. Гэты чалавек, апроч як пра сваё жыццё, яшчэ дбаў і пра нейкую кар’еру на фронце. На гэтае быў здольны толькі Блішчынскі. Яшчэ немаведама, як вынесці адсюль ногі, а ён ужо бядуе, што не ўдасца трапіць на курсы. Яно і зразумела, бо Грышка ўсюды намагаўся знайсці якую карысць для сябе: адзіны раз, калі яму не пашанцавала, здарылася вось цяпер, і таму ён так упарта выкручваўся.

У той ранак абодва яны былі ў роўных абставінах, шанцы на вырataванне ў іх таксама былі аднолькавыя, і загінуць яны маглі разам. Але Цімошкін усё ж не мог не адчуць у сабе прыемнага зларадства, што ўрэшце і ягонага земляка

напаткала бяда. Хоць раз пазнае, дзе ракі зімуюць, а то прасядзеў паўгода ў штабе, начапляў медалёў ды яшчэ захацеў стаць афіцэрам.

Цімошкін залез глыбей пад застрэшак, захінуў

шынялём руку і, дрыжучы ўсім целам, з агідай і непрыязнасцю глядзеў на Блішчынскага. А той, нібы зусім не адчуваючы свае агіднасці, паныла і злосна сядзеў, падкурчыўшы пад сябе калені, і зорка пазіраў у поле.

– Д’ябал яго ведае, як усё бязглузда сталася? Ты разумееш? Усё ішло ладна, і вось на табе. Добра, што я ў нядзелю ўзяў рэкамендацыю ў маёра. Цяпер у нябожчыка не возьмеш, – сказаў ён.

Цімошкін зноў насцярожыўся.

– Якую рэкамендацыю?

Сяржант зірнуў на яго, бы на якога не вартага ўвагі недаростка, і зноў, пазіраючы ўдалячынь, неахвотна сказаў:

– У партыю, вядома.

– У партыю? Ты?

– Ну а што ж? Чаго дзівуешся? Ты што, думаеш, не прымуць? Хе. А ты спытай у штабе, што такое пісар артчасці Блішчынскі. Табе скажуць. І нампаліт, і начштаба, і маёр Андрэеў сказаў бы. Разумееш? Што я, справы сваёй не ведаю? Ці малапісьменны? Камсамолец, былы партызан, актывіст. Улічы, я адзін у штабе з незаконачанай вышэйшай адукацыяй. А што ты думаў?

Цімошкін няўцямна пазіраў на сяржанта і думаў, што сёння яго больш ужо нічым не здзівіць гэты чалавек. Хлопец ужо зразумеў, які стаў ягоны зямляк за той час, як яны разлучыліся з ім у запасным палку. Ён ведаў, што Блішчынскага ўжо не пасароміш нічым, ні ў чым ён не раскаецца, ён нават і крыўдаваць не ўмеў за абразу, хоць, здаецца, і не лічыў сябе вінаватым. І ўсё ж Цімошкін сказаў яму:

– Ты шкурадзёр, жулік, п’яўка. Цябе ж усе таварышы ўзненавідзяць! З такімі поглядамі цябе за сто вёрст да партыі не пусцяць.

Сяржант выплюнуў саломіну, павярнуўся да земляка – у яго вачах тлела іранічная ўхмылка разумніка.

– Смела сказана. Надзвычай. Толькі чаму я п’яўка? І чаму не пусцяць? Давай заложымся. Хочаш? Ну? Эх ты, малеча! – уздыхнуў ён ужо з ціхім сумам. – Што табе тлумачыць? Жыцця ты не ведаеш, пацан.

– Калі ты ведаеш, дык чаму ж на сходах не абвясціў тое, што тут кажаш? Тады дык ты, нябось, па газеце шпарыў. Быў вунь які гладзенькі, ціхенькі, усё хваліў і падтрымліваў...

Цімошкін ажно калаціўся – і ад сцюжы і ад злосці да гэтага надзвычайнага цыніка.

– Падтрымліваў! – перадражніў Блішчынскі. – Што я, дурань на ражон лезці? На сходзе я казаў, што ўсе казалі. Што нампаліт даручыў. Я ж салдат усё-такі. Камсамолец і так далей. Ды што табе тлумачыць, хіба ты зразумееш?

– Што разумець? Злыдзень ты!

Здавалася хлопцу, ён болей, чым хто-небудзь, ведаў гэтага хітрага нягодніка, свайго земляка, і ў той жа час да канца яго зразумець было нельга. Напэўна, кожная яго мазгавая выкрутасіна мела сваю адносіну да свету, свой адметны ад людскога намер, увесь ён быў сплецены з разліку, фальшу і хітрасці. Але Цімошкін ніколі не чуў, каб ён так вываночваў перад кім сваё нутро, – цяпер жа, невядома па якой прычыне (можа, таму, што яны трапілі ў пастку, з якой не відаць было выйсця, ці, можа, ад доўгае зацятасці ў сабе сваіх паганых думак), Блішчынскі разгаманіўся і толькі нудзеў ды гугнявіў пра сваё жыццёвае крэда.

– Д’ябла лысага ты разумееш! Ты проста недалёкае хлапчанё, тупак і недавучка, – казаў сяржант. – Што там у цябе – 9 класаў? А я філасофію вывучаў, мудрасць жыцця. Мае бацькі – сам ведаеш – мужыкі. Як жылі? У цемры, нястачы – праца, крупнік, лапці. Што і казаць! Але той час мінуў, і я хачу жыць лепей. Вырвацца ў

людзі. Пэр ангуста ад аўгуста – праз цяжкасці да вышынь, разумееш? І я ж не забіваю каго, не краду, не рабую. Я сам па сабе. Што тут дзіўнага? Цяпер я вось кажу табе гэта, бо ты ўсё ж зямляк, хоць і такі калючы. Зноў-такі нас двое, сведак няма, а вунь немцы. Ды і колькі такіх, як я? Толькі яны не скажуць. Яны ў сабе жывуць і для сябе. Думаюць адно, а гавораць другое. Адны дурні адкрытыя і роўныя, як бёрны.

Цімошкіну дужа захацелася ўстаць і пайсці ад яго – пайсці да іншых людзей, такіх, што былі ў іхнім разліку – да Шчарбака, Скварышава... Нават Здабудзька здаўся цяпер яму простым харошым дзядзькам. Але пайсці не было як. Ззаду, наперадзе і па баках былі ворагі, Шчарбак прапаў недзе ў снегавой ночы. Скварышаў, Кеклідзе засталіся навек у тым вузкім ровіку на іхняй агнявой пазіцыі. І толькі ён – гэты смоўж, самы агідны яму з дзяцінства чалавек, сядзеў праз крок ад хлопца ў гэткі гаротны час і спавядаўся гідотаю свайго жыцця. І Цімошкін яго слухаў, бо што ён мог зрабіць адзін у гэтай бядзе?

«Эх, Ваня, Ваня, дарагі ты мой, любы сябра, – думаў ён. – Як ты патрэбны мне ў гэты час! Мы пахавалі з табой палавіну нашых сяброў, бачылі смерць кожнага і ведалі, дзе іх магілы. Але што я напішу тваёй маці, калі ўшанцуе мне выбрацца да сваіх? Быў бы ты тут, не было б мне гэтулькі клопату, пры табе не стаў бы плясці такое агіды Блішчынскі. Пэўна, ён прыкусіў бы язык ды казаў бы другое – хваліўся б добрымі справамі, якія б напэўна выдумаў. Ты, вядома, не даў бы яму плявузгаць, а ў мяне ўжо няма больш сілы спрачацца...»

Блішчынскі тым часам устаў на ногі, крыху прыгнуўшыся, абышоў сцірту, аглядаючы наваколле. Немцы на выспе снавалі ўсё, як мурашкі, ззаду па дарозе імчалі аўтамабілі ў кірунку да фронту. У снегавым прасторы яшчэ паяснела, але неба было скрозь захутана шэрасцю хмар: дзьмуў сцюдзёны марозны вецер. Грышка зноў сеў, уціснуўся спіною ў салому, падкурчыў ногі і сцішыўся. Прыцярпеўшыся да болю ў руцэ, Цімошкін заплюшчыў вочы – у галаве

салодка закружылася, паплыло, і неяк раптоўна ўсё сціхла.

Ён задрамаў, сам таго не заўважыўшы, бы праваліўся ў якую бездань – без сноў і адчування часу. Праўда, спаць, здаецца, давялося нядоўга. Пастаянная ўнутраная насцярожанасць хутка скаланула акалелае цела, ён спалохаўся, каб чаго не здарылася, і расплюшчыў вочы.

Ля сцірты ўсё было па-ранейшаму, скуголіў, шалясцеў саломаю вецер, Блішчынскі зябка скурчыўся побач, уткнуўшы твар у калені. Поле скрозь ляжала пустэльнае, на дарозе ззаду сюды-туды поўзалі аўтамабілі, ды на ўзгорку ўсё тырчалі немцы. У полі, навокал, на ўсю сілу кружыла мяцеліца, снегавыя вужакі віліся, матляліся, распаўзаліся па роўнядзі; вылізваючы прастор, няспынна імкнулі ўдалячынь шырокія хвалі завеі. Ад пакінутай бочкі са штампаваным у дне надпісам «Wehrmacht» выцягнулася ў полі выгінастая снегавая гурбіна. У ёй напалову схавалася нерухомая конская спіна, ногі, толькі пасмы чорнае грывы трапяталі, біліся на ветры, нібы ў іх яшчэ асталіся некія рэшткі жыцця. Не тое каб Цімошкін спачыў, але драмаць болей не адважыўся, тым больш што трэба было глядзець, каб не трапіць у горшае ліха.

Блішчынскі спаў, соладка пасопваючы сабе ў калені, нанерваваўшыся і, пэўна, першы раз па-сапраўднаму адчуўшы крушэнне ўласных разлікаў.

Трэба ж было даўмецца да такога нахабства, думаў Цімошкін, каб палезці нават у партыю. Хлопец заўжды лічыў, што такім, як Блішчынскі, не месца нават у камсамоле, што для гэтага ў яго не вельмі чыстыя рукі і бруднае сумленне, а ён – на табе – ужо здабыў рэкамендацыі ў партыю. І першы рэкамендуе яго непасрэдны камандзір, начальнік артылерыі маёр Андрэеў.

Цімошкін пакутліва згадваў, як усё гэта магло здарыцца, і тады з забыцця нечакана выплыў адзін Грышкаў учынак, які некалі непрыемна ўразіў яго. Тое

адбылося яшчэ ў абароне ў Малдавіі. Неяк трапіўшы ў штаб, Цімошкін захацеў пабачыць свайго земляка і пайшоў шукаць яго па камандным пункце. Блішчынскі, пэўна, вяртаўся з хутара, і хлопец спаткаў сяржанта з поўнай пілоткай абрыкосаў, якую ён нёс перад сабою між штабных зямлянак. На яго, вядома, накінуліся пісары, што з вясны сядзелі тут у зямлі і, апроч кукурузы і свіное тушонкі, не бачылі іншае ежы. Але Блішчынскі, смеючыся, адбіўся, выкруціўся і неўзабаве нырнуў са сваёю пілоткай у зямлянку маёра Андрэева. Цімошкін чуў праз завешаныя палаткаю дзверы, як маёр няёмка аднекваўся, а пасля гэтак жа нязвыкла дзякаваў пісару, відаць, узяўшы тыя абрыкосы. Хутка Блішчынскі выйшаў адтуль, задаволена ўсміхаючыся, надзеў на голаў парожнюю ўжо пілотку і хітра падміргнуў земляку. Хлопцы на перадавой не мелі такой раскошы, Грышка ведаў гэта, але, як і ўсіх, ён абышоў Цімошкіна, несучы свой пачастунак маёру. Відаць, гэта было не адзін раз, і, вядома, сэрца чалавечае – не камень. Блішчынскі ўмеў падладзіцца, лісіцай падпаўзці да чалавека і паказаць сябе зусім іншым, чым быў сапраўды. Доказ таму – гэтая вось рэкамендацыя.

Цімошкін захутаў шынялём калені, глыбей у каўнер схаваў падбародак і зноў сказаў сам сабе: ліха яго бяры! Хацелася не думаць аб гэтым, забыцца, выкінуць земляка з галавы, але думкі самі сабой настойліва таўкліся ў свядомасці.

Бач ты яго, нацэліўся на афіцэрскія курсы. Вядома, разлік тонкі: праз некалькі месяцаў вайна скончыцца, і ён гэты час перабудзе дзе-небудзь у тыле, будзе вучыцца. Ён клапоціцца ўжо цяпер, як уладкавацца ў пасляваенным жыцці (у тым, што выжыве, ён быў упэўнены), у яго ўсё разлічана на шмат год, спланавана, абдумана. А Цімошкіну з Ванем Шчарбаком трэба толькі адно – дажыць да канца вайны. Толькі б адужаць як гэтае крыважэрнае фашысцкае кодла, дачакаць перамогі, выжыць, убачыць хоць бы адзін мірны дзень без страху і крыві, і болей, здаецца, нічога не трэба. Яны згодны на ўсякую працу, на любое месца ў жыцці,

ім усюды быў бы жаданы рай пасля таго пекла, якое яны пераЖылі на фронце.

Балела, ныла, торгала Цімошкінава рука, адубелі ногі ў закасцянелых ад марозу ботах; вецер, здавалася, наскрозь пранізваў яго несамавіты шынелак. Скрозь шархацела, віравала завея, у сцірце, пэўна, ад сцюжы, папіскваді мышы. У хлопца ўсё скалянела, але ён ужо прывык да холаду, голаду і болю, наставіў каўнер, трываў і думаў. Спакой і развагі аб Блішчынскім разварушылі ў Цімошкіна затоеныя мары пра далёкае, недасяжнае пасляваеннае жыццё.

Дзіўна ўсё ж уладкаван чалавек. Іхнія жыцці ледзь не на валаску віселі ў той час, скрозь былі ворагі, цяжка было дажыць да вечара, каб як ратавацца далей, а яго думкі забягалі далёка наперад – у той запаветны час, калі ўжо не будзе вайны. І ведаў жа ён, што сёння кожную гадзіну іх магла напаткаць смерць, але ўсё роўна не меў сілы ўтрымаць свае думкі-клопаты толькі на тым, як здабыць паратунак. Думалася, што будзе ж некалі – і мабыць ужо недалёка – канец вайны, перамога, і настане іншае, не падобнае на вось гэта – звычайнае людское жыццё. Хацелася ўжо цяпер асэнсаваць яго, даўмецца, што трэба яму ад таго жыцця і якім ён хоча яго для людзей і сябе?

Цудоўныя, пэўна, гэта будуць часы, думаў Цімошкін. Людзі стануць з людзьмі як браты, знікнуць фанабэрыя, пагарда, хцівасць і зайздрасць. За час вялікіх пакут людзі навучыліся спагадваць чужому гору, падпарадкоўваць свае імкненні вялікай мэце, у асабістым задавальняцца малым. Усё ж такіх, як Блішчынскі, няшмат, а мільёны франтавікоў уведалі на вайне вялікае пачуццё братэрства – тое цудоўнае і светлае, што людзі набывалі, не трацячы, у гэтую ліхасць. І захаваць бы, зберагчы на доўгія гады гэты франтавы набытак, не даць бы на яго забыцца, не дазволіць яго збэсціць такім трутням вайны, як Ёлішчынскі. Гэта было б цудоўна, і – верыў Цімошкін – людзі зразумеюць і дамогуцца свайго.

Яго ж дачыненне да тае будучыні ўяўлялася хлопцу

дужа няпэўна. Калі, можа, пашанцуе выжыць яму, дык, мабыць, ён пойдзе вучыцца. Вядома, трэба будзе працаваць, але дзе і кім – ён не ведаў яшчэ і думаў, што ўрэшце гэта не так ужо і важна. Знойдзецца недзе кавалак хлеба, будзе таварыш побач, спакой мірнага дня – і хіба гэтага мала для звычайнага людскога шчасця? Праўда, можа здарыцца так – і гэта вельмі магчыма, – што побач апынецца Блішчынскі. Але чорт з ім. Рана ці позна людзі ўбачаць, які ён, зразумеюць і выкрыюць яго; у Цімошкіна цяпер лаяцца з ім не было ніякай ахвоты. Агідная гэта справа – лаяцца з чалавекам, ды яшчэ земляком, хадзіць, на яго даказваць ці нават выступаць на сходах, выкрываць, тым больш што вельмі нават могуць і не паверыць яму. Урэшце, ці варта ўжо так непакоіцца з-за якога аднаго вырадка, калі навакол столькі харошых хлопцаў. Так думаў Цімошкін, трошкі супакоіўшыся ў адзіноце і спачыўшы.

Яшчэ ён думаў, што пасля гэткай суровай барацьбы за жыццё на зямлі ўсё, і благое і добрае, у людзях у свой час стане выразным і зойме сваё пэўнае месца; будзе як трэба ацэнен і гэты Блішчынскі, – час і гісторыя дамогуцца свайго, і чалавек урэшце паўстане перад людзьмі ва ўсёй яго праўдзівай сутнасці. Бадай, нікому яшчэ не ўдалося ніколі выдаць за белае чорнае, і наадварот. Не ачарнілі ж, не збэсцілі ні недарэчны лёс, ні подлыя людзі другога яго земляка і аднавяскоўца Адама Ждановіча. Колькі ён стрываў у жыцці, але ж ад таго не змяніўся, не азвярэў, захаваў у сабе ўсё найлепшае, а можа, нават і яшчэ болей палепшаў. Тыдзень назад хлопцу напісалі з вёскі, што знайшоўся, аб’явіўся знікшы на восем год Адам, ваюе цяпер на Першым Беларускім фронце, камандуе танкавай ротай, і шэсць ордэнаў, кажуць, блішчаць на яго грудзях. А чаго не перажыў толькі гэты чалавек, і вось жа адступілася сто разоў насядаўшая на яго смерць.

Ён быў у іх першым актывістам, пасля сакратаром сельсавета, арганізоўваў калгасы, хадзіў і ездзіў па ўсёй акрузе, ніколі не ведаючы ні сну, ні адпачынку. Аднаго разу яго падстрэлілі з драбавіка, аднойчы хацелі

ўтапіць. Пасля нейкага сходу парнулі нажом, і ён пасля таго кульгаў цэлае лета... Затое як любілі яго дзеці! Ставіўся ён да іх весела, гулліва, заўжды жартаваў і часам апавядаў, якое будзе жыццё ў краіне праз шмат-шмат гадоў. У такі час ён станавіўся задуменналірычны і ветлы.

У трыццаць сёмым ён ужо быў сакратаром райкома камсамола, прыязджаў калі ў іхняе мястэчка і, як і раней, ездзіў па вёсках. Толькі ў гэты час яго не было каму ненавідзець, і ніхто яго ўжо не спрабаваў забіць. Людзі паважалі яго – і маладыя і старыя – і болей за якое іншае начальства ведалі ў раёне. Да яго хадзілі калгаснікі са сваімі бясконцымі клопатамі, ён заўжды ўсім памагаў як мог. Іх маленькая, не болей чым за дзесятак кіламетраў вядомая вёсачка праз яго стала славутай у раёне. Усе ведалі, што ён іх, – гэты камсамольскі сакратар Ждановіч. А ён усё жыў нежанаты, без гаспадаркі ці якога набытку.

Ягоны стары за пятнаццаць кіламетраў вазіў яму харч, маці мыла бялізну. І тады знайшліся ўсё ж ненавіснікі, якія рашылі знішчыць яго. Восенню неяк прывалокся з раёна стары Ждановіч, прынёс сякі-такі сынаў набытак і на ўсе роспыты толькі ўздыхаў; маці ж плакала. У той час нярэдка здаралася гэта, але ніхто ніколі не мог падумаць, што страшныя словы «вораг народа» будуць прылеплены да Адама Ждановіча. І вось так сталася. На доўгія гады, бы ў ваду, знік чалавек без следу і слыху.

Вясковыя падлеткі дзіваваліся не менш за дарослых і ніяк не маглі зразумець, што гэта дзеецца ў свеце. Некаторыя мужыкі былі цвёрда ўпэўнены, што адбылася памылка, казалі, разбяруцца недзе і Адам неўзабаве вернецца. Але міналі гады, а ён не з’яўляўся. Цімошкіну ж душу доўга вярэдзіў незагойны боль па ім, і колькі хлопец сабе ні казаў, што Адам – вораг, калі так з ім зрабілі, сэрца яго не хацела пазбыцца шчырай прыхільнасці да чалавека. Шмат у тую пару было ім прачытана кніжак, паўставалі ўваччу і знікалі вобразы невядомых смелых людзей, а гэты свой хлопец Адам Ждановіч пакутным няўцямным болем доўгія гады жыў

у ягоным сэрцы.

І пэўна, даўно ўжо не адчуваў ён такой радасці, як у тым вузкім ровіку ля кукурузы, калі даведаўся з пісьма, што сэрца не ашукала яго.

**6**

Скалелы і ўшчэнт змардаваны, ён зноў, здаецца, заснуў. Невядома, колькі цягнуўся той сон, але раптам нехта тузануў яго за плячо – хлопец здрыгануўся, прахапіўся і ўбачыў над сабой Блішчынскага. Той нешта казаў, але Цімошкін, не разумеючы, бачыў толькі, як бязгучна варушацца яго тонкія вусны, трывожна раздзімаюцца ноздры і ў акругленых рудых вачах сцюдзянее страх.

– Цімошкін, ідуць!.. Чуеш, ідуць!.. Сюды!..

Хлопец прыўзняўся ў саломе, ахоплены прадчуваннем бяды, але ўсё яшчэ не мог зразумець, што здарылася і што яму трэба рабіць. Пасля ўскочыў на балючыя, акалелыя ногі, схапіў аўтамат і ўгледзеўся ў снежнае поле, куды тыцкаў рукою сяржант.

Іхнім ранішнім следам па полі ад дарогі ішоў чалавек. Было яшчэ далёка, і Цімошкін не мог згледзець, хто гэта быў: свой, немец або, можа, венгр, але ўжо цяпер можна было ўгадаць, што кіраваў ён якраз да гэтае сцірты. Добра, што Блішчынскі прачнуўся і згледзеў яго. Відаць было па ўсім: пісар спалохаўся і цяпер бегаў вачмі па абшары, шукаючы дзе паратунку. Але ратавацца не было куды – наперадзе і збоку ўдалечы імчалі па дарозе нямецкія аўтамабілі, на гузе-ўзгорку ўжо акапаліся і чагосьці чакалі немцы. Добра, што на гэтай шырокай роўнядзі ворагі былі далёка ад іх і, мабыць, не дужа ўглядаліся ў свой тыл – пэўна, уся іх увага была скіравана ў бок фронту.

Чалавек у полі падыходзіў усё бліжэй. Блішчынскі прытуліўся за рогам сцірты; дрыжучы ўсім целам ад сцюжы, Цімошкін прысеў побач, і яны пазіралі з ім, імкнучыся як-небудзь дазнацца, хто ён. І тады стала

відаць, што ён ідзе неяк дужа цяжка, хістаючыся ў бакі, як п’яны, калі-нікалі спыняючыся. Пасля ім здалося, што ён нешта нясе на сабе – цяжкае і вялікае, што прымушае яго так няроўна ступаць і схіляць голаў.

Нейкі час яны да слёз у вачах углядаліся ў гэтага пешахода. Было вельмі холадна, навокал у доле вірыла завея, вецер шкуматаў у сцірце салому, вурчаў, шархацеў і раз-пораз шалёна кідаўся ў іх трохі зацішны падстрэшак. Грышкаў афіцэрскі шынель ажно іскрыўся, абсыпаны срабрыстым снегавым пылам. Цімошкінава нутро, здаецца, наскрозь пракалела ад гэтае сцюжы і балюча самотна ныла. І раптам ад нейкага незразумелага, няўцямнага пачуцця Цімошкін падаўся з застрэшка. Здалося яму – выразна, абнадзеена радасна, – што гэта Іван Шчарбак. Яшчэ нічога ў ім нельга было разгледзець – нічога характэрнага ні ў постаці, ні ў адзенні, а ўжо ўдарыла ў голаў спадзёўка – канец адзіноце, цяпер будзем удвух! Ледзьве стрымліваючы сваю радасць, ён настойліва казаў сабе: гэта Іван нясе параненага Здабудзьку, таму такая незнаёмая яго хада і такая пастава.

– Блішчынскі! – гукнуў ён земляку. – Гэта ж Шчарбак!

Блішчынскі прыціх, насупіўся, памеркаваў і асцярожна зазначыў, углядаючыся ўдалячынь:

– Адкуль ён возьмецца?! Так нехта.

Цімошкіну стала прыкра, што зямляк не пацвярджаў яго радасці.

– Дзівак, ты паглядзі: у ватоўцы, вялікі і ідзе валюхаючыся. Пэўна, Здабудзьку нясе. Хіба не?

Блішчынскі яшчэ паўглядаўся ў далёкую, знямоглую, відаць, ад хады постаць і вылаяўся:

– Ну ведама ж, дурня кавалак! Якога д’ябла прэцца сюды! Не было яму іншай дарогі, ці што? От жа балда.

– А куды ж яму ісці! – здзівіўся Цімошкін. – Бачыць сцірту, да яе і ідзе.

– Бачыць! А таго не разумее, што нас выдасць. Яшчэ немцаў за сабой прывядзе.

Іван падышоў яшчэ бліжэй, і хлопец ужо не толькі адчуваў, але бачыў і пазнаў яго кароценькую з адтапыранымі кішэнькамі ватоўку, схіленыя дужыя плечы, на якіх ляжала нейкая ноша; пад грудзямі на рамяні боўтаўся яго ППШ.

Блішчынскі ўстрывожаным поглядам зноў акінуў далягляд, але, здаецца, нідзе ніхто на сачыў за імі. Тады ён паставіў на ахоўнік аўтамат і сказаў:

– Не мог дзе пачакаць да ночы. Трэба ж было перціся на віду ў немцаў... І ты гэта вось што, Цімошкін... Хочаш ўратавацца – трымайся ля мяне. Разумееш? Ты не слухай яго. Зноў жа, я камандзір, а не ён. Я сяржант, разумееш? А ён радавы.

– Ну, гэта ўжо дудкі, – сказаў акрыялы Цімошкін.

– Як гэта – дудкі?

– А так.

Блішчынскі коратка зірнуў на хлопца і змоўк, нешта стаіўшы на сваім пачарнелым ад сцюжы і маладога шчаціння твары. Затым быццам прыпамятаў што, сунуў за пазуху руку, дастаў пляшку, пабоўтаў, але там, пэўна, было пуста, і ён шпурнуў ёю ў бочку. Звонка бразнуўшы, пасудзіна адскочыла ў снег.

– Чорт з табой! – сказаў Грышка. – Прападзеш – сам будзеш вінаваты.

Ён злаваў, але Цімошкіну ўжо пляваць было на ягоную злосць. Іван падышоў ужо зусім блізка і цяжка тупаў па снезе, вельмі сагнуўшыся і трымаючы на спіне чалавека. Пасля ён зірнуў наперад, убачыў іх пад сціртай, спыніўся, угледзеўся і, відаць, пазнаўшы, засігаў шпарчэй. Цімошкін быў вельмі рады ў той час, што ён жывы і ўрэшце знайшоўся і што яны будуць разам, толькі...

Толькі каго гэта ён валачэ на сабе ў шызым афіцэрскім шынялі? Не, то зусім не Здабудзька. У Здабудзькі звычайны, як і ва ўсіх, салдацкі шынель, а ў гэтага чалавека нястрыжаная галаў, на якой вецер шкуматае святлявыя валасы, і доўгія ногі ў ботах звісаюць ледзь не да самага снегу.

І тут Цімошкін зірнуў на свайго земляка. Той пэўна таксама ўжо згледзеў незвычайную Шчарбакову ношу і насцярожыўся, трывожна прыжмурыў блізарукія вочы, раздзьмуў ноздры. Пальцы ягоных рук нервова забегалі па грудзях, бы шукаючы штосьці, намацалі рэмень сумкі і ўчапіліся ў яго.

Прадчуваючы нешта агідна-нядобрае, Цімошкін ужо не стрымаўся на месцы і кінуўся цераз гурбу да сябра. Раскідваючы ботамі снег, ён падбег да яго, увесь час узіраючыся ў хлопцаў твар, урэшце сустрэў яго позірк і не спазнаў яго. Страшна было бачыць, які стаў Іванаў твар! Напэўна, ад стомы, бруду і поту, што заліваў яго шчокі, выраз стаў звераваты, вочы глядзелі з лютым, нейкім вар’яцкім бляскам. Ад гэтага яго выгляду ў Цімошкіна ўраз засмуцілася радасць сустрэчы – ён ужо пэўна ведаў, што ў сябра сталася кепскае.

Нічога не кажучы, Цімошкін падхапіў на хлопцавай спіне яго ношу, і, хістаючыся, яны ўдвух пайшлі да сцірты. Ледзьве дабраўшыся да застрэшка, Шчарбак, не прамовіўшы і слова, разам з ношаю апусціўся бокам на салому. Цімошкін асцярожна паклаў у доле чалавечыя ногі і ўпершыню зірнуў на таго, хто нерухома ляжаў побач з сябрам. І хлопец жахнуўся. У акрываўленым шызым шынялі за Шчарбаковай спіной ціха стагнаў збялелы, не падобны да сябе маёр Андрэеў.

На некалькі секунд, здаецца, хлопец скамянеў, панішчаны тым, што ўбачыў, пасля зірнуў на Блішчынскага. Зямляк ціснуўся да сцірты, глядзеў на двух чалавек у доле і кусаў вусны. Але, намогшыся, ён зараз жа змяніў разгублены выраз твару, неяк фальныва ажывіўся, апусціўся перад нерухомым маёрам і загаварыў па-жаночы хуценька, вінавата і адначасна фальшыва:

– Таварыш маёр! Таварыш маёр! Вы жывыя?

Тады ў доле нядобра прастагнаў Шчарбак. Павольна, пэўна, ледзьве пераадольваючы стому, ён узняўся на рукі, затым на калені, прыступіў на адну нагу, на другую... Твар яго стаў яшчэ страшнейшы – да часу пастарэлы, счарнелы і ўпарты хлапечы твар, – марудна паднімаўся ён, несучы ў вачах поўны нянавісці і злосці погляд, скіраваны ў бок Блішчынскага. Цімошкіна Шчарбак чамусьці не заўважаў, нібы яго і не было тут. Адчуваючы, што здарылася жахлівае, хлопец, не цямячы нічога, вінавата стаяў побач.

А Шчарбак тым часам устаў і, не зводзячы лютага позірку з Блішчынскага, счырванелай рукой намацаў ззаду свій кабур, дастаў пісталет і знясіленым павольным рухам тузануў узад і наперад затвор.

– Скідай шынель, воўчая душа! – сіпатым прастуджаным голасам сказаў ён Блішчынскаму. Той, хіснуўшыся, ускочыў ад маёра, ускінуў перад тварам рукі з тонкімі дрыготкімі пальцамі і замармытаў агідна і жаласна:

– Стой, стой! Што ты?! Завошта? Я ж нічога... Клянуся!..

– Клянешся? Ах ты падлюга, здрадніцкая морда!.. Клянешся? А маёра хто кінуў? Хто сам ратаваўся? Не, не выйдзе, гніда!

Ён сагнуў руку з пісталетам, скіроўваючы яго ў грудзі Блішчынскага, і тады, можа, за якое імгненне да стрэлу, нейкая сіла штурхнула Цімошкіна да сябра. Ён схапіў яго за руку і, сам не ведаючы чаму, загаманіў:

– Стой, Ваня! Стой! Не трэба! Потым! Чуеш? Потым. Шчарбак ірвануў ад яго руку.

– Прэч! Не замінай!

Але ўжо гэтае кароткае імгненне прамаруджання дало, пэўна, Грышку магчымасць апамятацца, і ён закрычаў другім, абураным голасам:

– Што ты робіш?! У каго страляеш?! Разбярыся,

зразумей, дурань. Завошта губіш!!!

Ці гэта зрабіла сваё ўражанне, ці тое, што Цімошкін паспеў крыкнуць, што тут недалёка немцы, але Шчарбак апусціў пісталет.

– Ах ты, сабака! – калоцячыся ад злосці, хрыпеў Шчарбак. – Ён яшчэ абураецца, ён выкручваецца. Глянь во! – паказаў хлопец у дол, дзе па-ранейшаму нерухома ляжаў маёр. – Во што ты нарабіў, свалата прадажная. А яшчэ сяржант! А яшчэ пісар! Ну чакай! Ад мяне ты не ўцячэш. Я цябе з-пад зямлі дастану!

– Ды што ты? Што ты на мяне накінуўся? Я яго кіламетр цягнуў. Але ж ён памёр! Зразумей! Памёр... я думаў. Таму і паклаў. Як жа несці! Немцы вакол. Сам жа ведаеш, чалавек ты!

Ён ужо зразумеў, што небяспека мінула, і нават паспрабаваў фальшыва ўсміхнуцца, каб упэўніць Шчарбака, што той памыляецца.

Іван нервова запіхаў у кабур пісталет і, не зводзячы з пісара цяжкага позірку, зморана і злосна хрыпеў:

– Свайго камандзіра, свайго начальніка параненага кінуць пад самым носам у ворага! От свалата, от жа нягоднік! А што цяпер? – Ён цяжка і павольна апусціўся на калені перад маёрам. – Рукі памарожаны, ногі, пэўна, таксама. Ну, дай цяпер рады. Як дасі?

Цімошкін таксама падаўся да маёра – шызы шынель таго на плячах і грудзях быў у рудых падмёрзлых плямах крыві, пабялелы твар здаваўся зусім нерухомы, толькі пад вокам неспакойна торгалася нейкая маленькая жылка. Маёр даўно, відаць, страціў прытомнасць і ціха стагнаў у часе кароценькіх неглыбокіх уздыхаў.

– Цяпер ты яго панясеш, воўчая душа, – паднімаючы ад параненага голаў, сурова сказаў Шчарбак. – Адсюль і да канца.

Пасля ўдвух з Цімошкіным яны пасунулі маёра глыбей

пад застрэшак, Блішчынскі ўслужліва разварушыў салому, дапамог ухутаць ёю маёравы ногі. Выраз сяржантавага твару быў яшчэ насцярожаны, але ў позірку паступова з’яўлялася хітраватая ўпэўненасць. Шчарбак раззлавана і заклапочана хмурыўся.

– У яго, бач ты, яшчэ і рука прастрэлена, крыві шмат выцекла. Цяпер, глядзі, што робіцца, – ён прыўзняў з саломы маёраву далонь. – Каб чаго кепскага не сталася. Памарожана.

Рука сапраўды была страшная, нейкая дужа белая і распухла-азызлая, ды і наогул маёр быў ледзьве жывы. Дзіўна было Цімошкіну бачыць знаёмую вялікую постаць гэтага чалавека, іхняга камандзіра, і разумець, што цяпер ён зусім ужо не той, адна прысутнасць якога надавала артылерыстам упэўненасці і сілы ў баі. Цяпер ён быў слабейшы за якое дзіця. Але ім не патрэбна была яго сіла – яны прагнулі толькі, каб ён ачнуўся з забыцця, загаварыў, убачыў, у якую бяду трапілі хлопцы, і што-небудзь параіў.

Шчарбак нейкі час сядзеў над ім, самкнуўшы над ілбом строгія бровы, і нешта ўпарта-напружана думаў. Адчуўшы, што сябар пакрысе адышоўся ад свайго гневу і крыху спачыў, Цімошкін спытаўся:

– Дык як жа гэта сталася? Пайшоў за Здабудзькам, а знайшоў маёра?

– Як сталася? Знайшоў Здабудзьку. Забіты. Прама ў патыліцу. Пасля зблудзіў. Такая цемра, снег. Хадзіў, хадзіў і згубіў вас. Натрапіў на кукурузу. І вось маёра знайшоў. Той жа гад кінуў яго... Маёр сам сказаў. Яшчэ прытомны быў.

– Каб жа я ведаў, а то гляджу – сціх – ну, думаў, памёр, – з фальшывай горыччу азваўся Блішчынскі. Ён стаяў над імі, прыхінуўшыся плячом да сцірты, і з цікаўнасцю зазіраў на маёра. Дзіўна было, як хутка ён забыўся ўжо на Шчарбакову лютасць і цяпер імкнуўся зрабіць выгляд, быццам нічога сур’ёзнага між імі і не здарылася. Шчарбак пагрозлівым позіркам змераў яго:

– Ты маўчы лепш! Ось выйдзем – я з цябе спаганю! Бязлітасна спаганю! Не думай, што адбаярыўся.

Усе памаўчалі трохі, Шчарбак першы раз паглядзеў навакол – на снегавое поле, вінаграднік, дрэўцы, хутар, раскапаны немцамі пагорак удалечыні.

– Прайсці не спрабавалі?

– Не. Як жа пройдзеш: немцы кругом.

– А я ледзьве дарогу перайшоў. Зранку сядзеў. Добра, што на лясок натрапіў... – казаў ён, азіраючыся. – Ах ты халера, от бяда! І трэба маёра ратаваць. Цяпло яму патрэбна. Можа, якую аперацыю. А то загіне да вечара.

– Ведама ж. Не дужа ў саломе нагрэеш, – уставіў сваё Блішчынскі. Выгляд у яго быў незалежны, але свае разважанні ён кінуў, відаць, усё ж асцерагаўся Шчарбака. Шчарбак зноў нічога не адказаў яму.

– Як жа гэта ты валок яго такую далеч? – спытаў Цімошкін у сябра.

– Ведаеш, не раз ужо думаў: упаду і здохну. Але валок. Як жа кінеш: свой чалавек.

Ён памаўчаў і зусім ужо сцішаным тонам спытаў:

– Курыць, вядома, няма?

– Няма, брат.

– Кепска... А я ось у Здабудзькі паперы ўзяў. – Шчарбак выцягнуў нагу, дастаў з кішэні пацёрты пачак дакументаў. – На, ты ж грамацей – адпішаш. Як выйдзем...

Цімошкін узяў з рук загорнутую ў паперку чырвонаармейскую кніжку, нейкія даведкі, пацёртыя, пакамечаныя лісткі. Адзін аркушык разгарнуў – гэта было пісьмо – няроўныя, напісаныя алоўкам радкі родным, куды-небудзь на Вінніншчыну або Кіраваградчыну. «Адсылаць яго ці ўжо не трэба?» –

падумаў ён і прабег вачыма першыя няскладныя словы на ўкраінскай мове: «Пішу вам усім – жынцы і братовій Олені, брату Опанасу і ўсім родычам, што я попав до артылерыі, воюемо Гітлера з пушкі. Мэнэ хотілы назначыць до коней, та я відказався – як це я буду в обозі, колі ў мэнэ свій рохунок з Птлером за Мыколу. Воюема мы добрэ, хлопці ў нашому разліку смілі, командзір Скварышаў тэж справедлівій і відважный, а шчэ й хорошый. За мэнэ не горюйтэ, а што трапітся, то дарма не загіну, а покажу цім фрыцюкам. Чоботы мої Петро нехай віддасць куму шчоб підбыв підошвы, воны шчэ міцны, а за работу, колы прыйду після війны, в боргу не застанусь. А шчэ сходы до головы сільрады, нехай по оцій справці зменшыць тобі плату як чырвонаармейскій родыні...»

Прачытаўшы тое, Цімошкін трохі здзівіўся, упершыню неяк згледзеўшы знутры гэтага ціхмянага, нехуцавага, як кажуць, чалавека, відаць, здольнага на большае, чым тое, што ён паспеў здзейсніць за кароткі час на вайне. У хлопца ад таго з’явілася ў душы кароткая прыкрасць, што вось дагэтуль крыху пагарджаў ездавым, які на справе быў зусім нядрэнны салдат.

Шчарбак, прыўстаўшы на каленях, усё аглядаў наваколле. Немцы на выспе патроху варушыліся ў раскапанай зямлі, з боку ад іх на дарозе імчалі аўтамабілі ў бок фронту. У снегавым прасторы яшчэ пояснела, але неба скрозь было захутана шэрасцю хмар, дзьмуў сцюдзёны марозны вецер.

У той час заварушыўся, застагнаў у саломе маёр, відаць было па ўсім, што ён ледзьве ліпеў на апошніх рэштках жыцця, і Цімошкін падумаў, што было б зусім недарэчна пасля ўсяго, што сталася, даць яму загінуць тут, за некалькі, можа, гадзін да паратунку. Пэўна, такі ж клопат адчуваў і Шчарбак. Хлопец стомлена падняўся на ногі, угледзеўся ў снежны абшар, і позірк яго, відаць, нечакана ўпаў на той маленькі хутар, што адзінока чарнеў у канцы пасадкі.

– У хутары, не бачылі, немцаў няма? – запытаўся Іван.

– Чорт іх ведае, можа, і ёсць.

– Ды няма там нікога, – упэўнена абвясціў Блішчынскі.

Тая яго ўпэўненасць раззлавала Цімошкіна.

– А ты хадзіў туды, ці што? – непрыязна запытаўся хлопец.

– Не хадзіў, затое глядзеў увесь дзень. Разумееш?

Шчарбак недаверліва паглядзеў на Блішчынскага, пасля зірнуў на Цімошкіна і ўзяў з саломы аўтамат.

– Я збегаю. Калі можна будзе, перанясём маёра туды.

– Ваня, пастой, – усхапіўся Цімошкін. – А можа, там немцы?

– Няхай сходзіць, – ціха, але настойліва сказаў Блішчынскі. – Чаго баяцца?

– Ваня, не ідзі! – запярэчыў Цімошкін, але хіба можна было перайначыць ягонага сябра? Ужо такі быў гэты чалавек, што калі закарціць у яго якое жаданне, дык ён даможацца свайго.

– Я хутка. Ты паглядзі тут, – сказаў ён Цімошкіну, паправіў шапку і пайшоў. У Цімошкіна нешта балюча трапянулася ў грудзях.

– Што ты на другіх выязджаеш? – крыкнуў ён-земляку. – Чаго сам не сходзіш? Зноў за чужую спіну схаваўся!

Але яны ўжо засталіся ўдвух, і Блішчынскі зноў стаў ранейшым – упэўнена-нахабным у адносінах да Цімошкіна. Нічога не адказаўшы, ён ваўкавата, спадылба, глядзеў на яго, ад нейкай прытоенай злосці раздзімаў свае ноздры і лепей масціўся ў саломе. Толькі канчаткова прыладзіўшыся, зазначыў з намёкам на нейкі шматзначны сэнс:

– А кліна ад гарматы ў яго ўсё ж няма...

Цімошкін спачатку не зразумеў, а калі здагадаўся, што

гэта ён пра Івана, здзіўлена паглядзеў на земляка. Той спакойна, з прыхаваным здзекам вытрымаў яго позірк.

– Ну і што? – запытаў Цімошкін, адчуваючы, што нясцерпна ненавідзіць яго.

– Анічога. Так. Для памяці…

Нешта ён затаіў у сабе супраць Шчарбака, але Цімошкіна ўжо не дужа цікавіла тое. Яго ахапіла трывога. Ён сам не ведаў чаму, але ўсё яго нутро пратэставала супраць Шчарбаковай разведкі хутара. Гэта праўда, што небяспека там была невялікая, немцы на пагорку і на дарозе занадта далёка, каб у адзінокім чалавеку на полі пазнаць ворага. Але неяк невыразна і ўпарта адчуваў ён, што гэта – крок да іхняй новай бяды. І хлопец прыціх, прыдушаны тым прадчуваннем, змоўк і, стаўшы на калені ў саломе, глядзеў услед сябру.

А Шчарбак тым часам абышоў заснежанага каня і ўпэўненай хадой рашучага чалавека пайшоў сабе, усё аддаляючыся, у завейны снегавы прастор.

**7**

Угары спакваля праяснела, хмары спаўзлі з небасхілу, пакінуўшы за сабой рэдкую бялявую смугу, якая абвалакла, прытушыла нізкае сцюдзёнае сонца. Пераможанае зімовай стыхіяй, яно маленькаю жоўтаю плямкай бяссільна павісела над краявідам і паціху пайшло на закат.

Па ўсім вялізным прасцягу, з краю ў край снегавой роўнядзі, слалася, імчала завея. Нястомны працаўнік вецер гнаў і гнаў некуды разматляныя космы снегу, раўняў, выдзьмуваў, па-свойму аздабляў і перайначваў белы зімовы прастор. Рэдкія калівы быльнягу на ўзмежку роспачна няспынна трымцелі, вецер ірваў, церабіў салому са сцірты; хапіўшы снегавога пылу, злосна кідаў яго пад застрэшак. Маёр зноў сціх у забыцці. Блішчынскі ўціснуўся спіной у салому, закапаў у яе ногі, сашчапіў у рукавах рукі і курчыўся так –

заклапочаны, панылы і маўклівы. Цімошкін жа, забыўшыся на несціханы свой боль, не чуючы ўжо адубелых ног, стаяў на каленях і неадрыўна сачыў за Іванам.

Ён усё далей ішоў ад сцірты, трошкі апусціўшы правае з аўтаматам плячо, па-качынаму, нетаропка і дужа валюхаючыся ў бакі. Вецер вырываў з-пад Іванавых ботаў снегавыя пасмы і слаў іх у доле; ззаду за хлопцам цягнуўся крываваты ланцужок ледзьве прыкметных ямак-слядоў. Цімошкін прагна ўглядаўся ў кожны крок сябра, у кожны рух – пакутнае прадчуванне вялізным каменем душыла яго нутро. Здавалася, вось-вось загрымяць стрэлы, разарвецца міна і Цімошкін назаўжды страціць свайго апошняга і самага лепшага сябра.

Але ўсюды ўсё было ціха – ні стрэлу, ні гуку, толькі скуголіў, гудзеў і шастаў навокал вецер. Адно вуха Іванавай шапкі прыхінулася да шчакі, а другое тырчала ўбок, і матузок завязкі трывожна матляўся на плячы. З цягам часу завейная далеч усё болей атуляла і паменшвала хлопца, згладжваючы яго абрысы.

Шчарбак дайшоў да раду маладых дрэўцаў і па-над імі скіраваў у хутар.Ісці там, па ўзмежку, мабыць, было лепей, хлопец прыбавіў хады і, усё аддаляючыся, адно за адным шпарка мінаў дрэўцы. Ужо яго маглі бачыць з хутара. Цімошкін асабліва напружыў зрок, вочы ад намагання і ветру заплывалі слязьмі, але ён баяўся міргнуць, каб не прапусціць, калі здарыцца бяда. «Хоць бы як-небудзь, хоць бы як-небудзь!» – трымцела ў яго галаве невыразная думка-жаданне, і ўсёю сілай сваёй змардаванай душы ён прагнуў, каб тыя яго трывогі не збыліся.

На палове дарогі да хутара Іван, пэўна, натрапіў на які раўчук, на паўхвіліны схаваўся ледзь не да шапкі, затым зноў паказаўся на снезе.

І вось ён пад самым хутарам. Ад хваравітага напружання Цімошкіна аж узяла дрыготка, аднак ён па-ранейшаму глядзеў, слухаў, стыў на ветры, і, прагнучы

ўдачы, з кожным сябравым крокам чакаў бяды. Але, здаецца, яна міналася. Іван шпарка сігаў да нейкай цагляной будыніны: ні ля яе, ні пад суседняй збудоўкай нічога жывога або падазронага не было відаць. Урэшце ён падышоў да рога, пратупаў уздоўж нізкай цаглянай сцяны, мінуў нейкую чорную пляму ў доле і знік на падворку.

Было па-ранейшаму ціха.

Увесь скалелы, Цімошкін трошкі аслабіў сваё напружанне і ўдыхнуў болей паветра. «Можа, як-небудзь?» – бессвядома з'явілася маленькая кволая надзея. Ён прысланіўся спіной да саломы, захінуў шынялём калені і, усё ўглядаючыся ў хутар, пачаў чакаць.

Яго напятая, як струна, прага-жаданне, каб як-небудзь мінула чалавека бяда, трошкі аслабла, і за тое пасля ён гатовы быў праклясці сябе. Можа, тым хлопец пазбавіў сябра якой незразумелай таемнай падтрымкі, можа, ён ад таго раней, чым трэба было, згубіў асцярогу і аддаўся бяспецы. Ён не ведаў, як тое сталася – можа, нават міргауў у той час, – толькі неяк раптоўна і нечакана ўбачыў, што наўпрасткі па снежным полі з хутара шпарка, ратуючыся, бяжыць чалавек.

Спачатку хлопцу здалося, што гэта хто другі, не Іван. На якую секунду ён разгубіўся, не цямячы, што сталася, і затым у хутары імпэтна і глуха затрашчаў аўтамат.

Па ім пусцілі доўгую, відаць, паспешную чаргу, Іван азірнуўся і кінуўся ўбок, пасля ў другі – хітраваў, каб не ўцэлілі. У Цімошкіна схаладзела скрозь унутры, пасля нейкім гарачым варам пляснуўся ў душу спалох. Побач устрывожана ўскочыў Блішчынскі, але хлопец не глянуў на земляка, – яго пранізала адчуванне, што Іван у смяртэльнай бядзе.

Далейшае адбылося надзвычай хутка і жахліва. Два ці тры аўтаматы з хутара пачалі біць кароткімі імпэтнымі чэргамі. Іван упаў першы раз, перакаціўся ў доле,

стрэльнуў у адказ, усхапіўся, пабег і ўпаў зноў.

Нястрымнае жаданне памагчы сябру, які, пэўна, гінуў, падхапіла хлопца з застрэшка. Ён кінуўся ў поле – ногі бухнулі ў спрасаваны снежны ўзгорбак, вецер з-за сцірты злосна рвануў полы шыняля. І тады ззаду злосна азваўся Блішчынскі.

– Стой! Куды? Ці ты здурнеў? Куды цябе гоніць? Цімошкін толькі на імгненне адарваў позірк ад далечы, азірнуўся на гэтага недарэчнага тут між імі Блішчынскага, які ўскочыў пад сціртай. І калі ён зноў, бегучы, зірнуў наперад, Ваня ляжаў на снезе ў некалькіх метрах ад раўчука і, здаецца, неکратаўся.

У Цімошкіна падагнуліся ногі. Спатыкнуўшыся, ён глытнуў нешта тугое і нясцерггаа крыўднае, што падкацілася к горлу, і з дзікай лютасцю зароў на Блішчынскага:

– А ты што?! Зноў? Наперад, сволач! Чуеш? Марш!

Невядома, што ён крычаў яшчэ, толькі збялелы Блішчынскі скамянеў пад застрэшкам і, аберуч трымаючы аўтамат, няўцямна ўтаропіўся ў яго. Цімошкін жа спяшаўся і аж тросся, панішчаны бядой, а ён усё туліўся пад сціртай, баючыся выйсці на снег. Тады хлопец ірвануў рукаятку аўтамата і кінуўся да яго.

– Наперад, сабака!!! Застрэлю!!!

Ён траціў над сабою ўладу, мог бы забіць яго, і Грышка, відаць, зразумеў гэта. Бачна было, як у рудых пісаравых вачах варухнуўся спалох, як задрыжалі яго тонкія вусны, і ён, боязна паглядваючы на земляка, нясмела ступіў з-пад застрэшка.

– Ну чаго ты? Чаго? Ашалеў хіба?

– Бягом! – крычаў Цімошкін і, падхапіўшы пад паху аўтамат, пабег з ім, поўны здзічэлай рашучасці забіць, калі ён не паслухае. Недзе ў хлапечым нутры стала нясцерпнай тады накопленая гадамі нянавісць да яго подлай натуры, да таго ж ён ведаў, што адзін з балючай

рукой не здолее, – калі, можа, трэба будзе, – несці Ваню. Блішчынскі боязна трухаў, невядома чаму разявіўшы рот і пазіраючы то ў бок хутара, то скоса – на хлопца. Цімошкін жа не глядзеў наперад – ведаў, там чакае яго бяда, і пад дулам свайго аўтамата гнаў туды пісара.

Так яны дабраліся да дрэўцаў, і Цімошкін вельмі спалохаўся, каб ворагі раней за іх не падбеглі да Вані. Але стрэлы з хутара сціхлі, здаецца, адтуль ніхто так і не паказаўся ў полі, Ваня ж паціху кратаўся, толькі ўжо не ўставаў болей – мабыць, патроху поўз у раўчук.

Узмежак быў вузенькі, з пасохлым быльнягом у снезе і тонкімі дрэўцамі. Блішчынскі пабег цішэй і ўрэшце перайшоў на крок. Цімошкін строга крыкнуў на яго – Грышка паслухаў і зноў неахвотна патрухаў бягом. Ён цяжка дыхаў ад стомы, сумка нязручна боўталася на яго баку, і пісар раз-пораз адкідваў яе назад. Здаецца, ён ужо перамог свой страх і стаў па-ранейшаму панылы і злосны.

Ваня поўз. Ужо стала відаць, як валок ён па снезе сваё цела, пакідаючы ззаду шырокую баразну-след. Цімошкін зноў прыкрыкнуў на Блішчынскага, які наравіў адстаць, і сам бег як толькі мог, трацячы рэшткі невялікае свае сілы.

Так яны падбягалі да Вані. Ужо зусім блізка быў неглыбокі заснежаны раўчук, калі з хутара зноў разанула паветра чарга. Тоненькая, як птушыная лапка, галінка, ссечаная куляй, упала з дрэва ў дол, вецер адразу падхапіў яе і шпарка пагнаў у прастор. Грышка ўраз пляснуўся па той бок узмежка, Цімошкін, не хочучы пакідаць яго, таксама лёг на гэтым баку. У паветры коратка і люта фыркнулі кулі, кавалак мерзлай кары ад дрэва адскочыў у снег перад хлопцавым тварам, і тапалёвы камель заблішчаў белаю плямкай.

– Паўзком! – крыкнуў Цімошкін Блішчынскаму, шапка якога тырчала за ўзмежкам. – Паўзком, чуеш?

Чарга зноў сцебанула па галлі дрэўцаў, зноў некалькі ссечаных галінак падхапіў на ляту вецер. Няспрытна

ўпраўляючыся адною рукой, хлопец папоўз на баку, цягнучы за сабой аўтамат. Блішчынскі ж нешта паварушыўся і прыціх. У Цімошкіна ўжо адышла крыху тая шалёнасць, з якой ён накінуўся на земляка, і цяпер, вельмі баючыся за Ваню, ён пачынаў трывожыцца, каб не здарылася чаго і з Блішчынскім.

– Ну што? Давай хутчэй!

Грышка падняў над узмежкам голаў і праз вецер роспачна, гарачна загаманіў:

– Слухай, Валодзя! Што ты робіш? Што ты робіш? Яны ж зараз пераб’юць нас. Куды ты пнешся? Можа, ён забіты ўжо, а навошта мы лезем? Хто ён табе: брат ці радня якая, чаго ты на ражон лезеш? Давай вернемся, пакуль жывыя. Чуеш? Давай назад. Мы ж свае людзі. Землякі. А ён... Давай вернемся.

Цімошкін не чакаў гэтага, думаў, што ён адчуў там, ля сцірты, агіднасць сваіх паводзін і калі падпарадкаваўся яму, дык зразумеў хлопцаву лютасць. Але, відаць, не. І цяпер, угаворваючы яго вярнуцца, сам паварочваў назад, памалу адпаўзаў, затуліўшыся ад куль за ўзмежак. Зноў у Цімошкіна ўскіпела злосць да гэтага чалавека – ён зразумеў, што пісара трэба гнаць наперад пад дулам.

Падхапіўшы аўтамат, ён пераскочыў цераз узмежак і выцягнуўся на снезе побач з Грышкам. Той насцярожанымі, поўнымі спалоху і просьбы вачыма зблізку паглядзеў на хлопца, але, мабыць, не ўбачыў таго, што хацеў.

– Наперад!! – скрыгануўшы зубамі, загадаў Цімошкін і адною рукой, як пісталет, наставіў на яго аўтамат. – Наперад!!! – ад злосці яго голас сарваўся на крык.

Грышка марудна адвёў ад земляка панылы свой позірк, нешта прабурчаў і, няўмела валюхаючы задам, папоўз ля ўзмежка. Цімошкін задыхаўся ад снегавой віхуры, паднятай яго целам, і поўз следам. Хлопцу было страшэнна цяжка і нязручна, хацелася ўскочыць і

бегчы, але ён баяўся рызыкаваць, тым больш што пад кулямі гнаць наперад Блішчынскага, відаць, не ўдалося б. І ён пяўся з усяе сілы, стараючыся не адстаць ад сяржанта, і, калі той спыняўся, штурхаў яго ў выслізганыя падэшвы ствалом аўтамата. Зямляк, не азіраючыся, неахвотна поўз.

Урэшце яны дабраліся да раўчука. Увесь гэты час, паўзучы за ўзмежкам, Цімошкін не мог бачыць Івана. Цяпер зірнуў на сябра – той таксама ўжо дапоўз у раўчук і курчыўся на тым яго схіле. Побач, скіраваны ў бок ворага, ляжаў аўтамат.

Блішчынскі яшчэ поўз, увесь укачаўшыся ў снег, а Цімошкін ужо не мог вытрымаць – падхапіўся і сігануў у раўчук. Немцы, пэўна, не бачылі іх і перасталі страляць. Снег У раўчуку быў глыбокі, і боты да самых калень патанулі ў гурбе. Разграбаючы счырванелаю рукой снег, хлопец яшчэ здалёк убачыў нахмураны Ванеў твар, на якім былі боль, клопат і яшчэ ціхая нямая ўдзячнасць. Абапіраючыся на аўтамат, Цімошкін ускарабкаўся па адхону, і з самае яго душы, як стогн, вырваліся дакор і пытанне:

– Нашто ты ішоў, Ваня?

Шчарбак хацеў паварушыцца, але толькі сцяў зубы і, пэўна стараючыся як мага спакайней, сказаў:

– Ладна, нічога. Перавяжы як-небудзь...

Цімошкін кінуў аўтамат, укленчыў ля яго – Ваня рукой дакрануўся да свайго бядра. У, яго ватных штанах ля кішэні цямнела мокрая пляма, а з невялікае дзіркі тырчаў клык акрываўленай ваты.

Завіхаючыся ля сябра, ён, мусіць, вельмі вытыркнуўся з раўчука, і з хутара зноў загрукацела чарга. Некалькі куль, ударыўшы ў голы, выдзьмуты ветрам узлобак, зямлёй і снегам пырснулі ў іхнія твары. Цімошкін абцёр рукавом твар і, прыгнуўшыся, непаслухмянай акалелай рукой пачаў расшпільваць Іванава адзенне. Ён вельмі спяшаўся, і яго сэрца ад стомы і пакут шалёна

калацілася ў грудзях.

– Блішчынскі, хутчэй! – крыкнуў Цімошкін пісару, які нязграбна і яўна не спяшаючыся выбіраўся з гурбы. Урэшце ён боязна падпоўз да іх, і хлопец загадаў:

– Ірві сарочку!

Грышка недаўменна заміргаў сваімі вострымі вочкамі, не разумеючы, што ад яго трэба, і Цімошкін, вылаяўшыся, растлумачыў тое са злосцю. Сяржант палажыў аўтамат, дрыжачымі рукамі выцягнуў з-пад свайго шыняля край нацельнай сарочкі, адшкуматаў ад яе падол, і яны, схіліўшыся над Ванем, пачалі завязваць яго акрываўленае бядро. Крыві было многа, яна сачылася і сачылася з раны, скрозь заліўшы сабой хлопцаву адзежу.

Яны перавязалі нагу, хоць і не надта ўдала, бо спяшаліся і не дужа слухаліся іх змёрзлыя рукі. Ваня, відаць, вельмі пакутаваў, але трываў, сцяўшы зубы, і ў глыбіні ягоных заўсёды сур’ёзных вачэй свяціліся боль і трывога. На чарнаватым ад шчаціння твары Блішчынскага блукаў страх, а ў вуснах – прытоеная гідлівасць ад крыві.

Трэба было ратавацца адсюль, і пакуль што гэты паратунак Цімошкін бачыў ля сцірты. Яны падхапілі Ваню пад пахі і за нагу і асцярожна сунуліся ў раўчук. Ваня застагнаў, пабялеў з твару, але маўчаў.

Ступаючы ў глыбокія ранейшыя свае сляды, яны перавалаклі яго на той бок, – далей трэба было паўзці.

## 8

Гэта быў страшэнна пакутны шлях, ён адабраў усе невялікія іхнія сілы. Невядома, колькі гадзін яны паўзлі праз завею, але калі дабраліся да сцірты, зімовае сонца ўжо садзілася за небасхіл. У вышыні праз падраную смугу неба блішчала падталая льдзінка месяца, а яны, ушчэнт выкачаныя ў снезе, мокрыя ад поту, ляжалі ля сцірты і сіпавата, знясілена дыхалі. Шчарбак вельмі

пакутаваў. Твар яго ўвачавідкі схуднеў, стаў шэры, вочы запалі пад лоб, хлопец прыкрыў іх пасінелымі вейкамі і ціха стагнаў. Цімошкін выцягся побач з сябрам, не здолеўшы нават запаўзці пад застрэшак, і не мог зладзіць з сэрцам, якое бяссільна калацілася ў грудзях. Навярэджаная яго параненая рука з разматляным бінтам нясцерпна торгала, бы нарывала. Зմораны, прымоўклы, Блішчынскі сядзеў пад сціртай і атупела глядзеў на хутар. Яны ўжо не ведалі, як ім тут быць і як выбірацца далей – ісці ў іх не было ніякае сілы.

І ў такі вось час, калі ад знямогі мутнела ўваччу і ўсё на свеце было непатрэбна і абыякава, пачуўся спалоханы голас Блішчынскага:

– Немцы!!!

Гэта было самае горшае – іхняя пагібель, здаецца, падступіла ўпрытык. Але ўжо столькі было перанесена імі за апошнія дні, столькі выпакутавана, што гэтая страшная навіна не спалохам, а толькі самотнай тугою азвалася ў іх душы. Усё ж Цімошкін неяк устаў з долу і, перасільваючы ў сабе знямогласць, сеў на снезе. З-пад хутара, паўз дрэўцы, пэўна, па іхніх слядах, адзін за адным ішлі немцы.

Блішчынскі з нечаканым спрытам падхапіў аўтамат і падаўся за сцірту. У доле заварушыўся і прастагнаў Ваня. Ён прыўзняўся на руках, прыкусіў ад болю губу і ўгледзеўся ў звечарэлы прастор.

– Валодзя, – за сцірту! – пакутна моршчачыся, сказаў ён, і Цімошкін адчуў, што ім засталося адно – біцца.

І сілы яшчэ знайшлося. Цімошкін устаў, учапіўся адною рукой за Ваневу руку і сяк-так памог яму дацягнуцца да іх саламянага прытулку.

Але, кажуць, бяда не ходзіць адна. Не паспелі яны запаўзці ў застрэшак, як новая трывога – за маёра – зварухнула нутро Цімошкіна. Прыкрыты да паловы саломай, Андрэеў ляжаў, як і раней, і ягоны твар, прысыпаны снегавою мукой, здаваўся нежывы. Хлопец

кінуўся да яго, крануў за плячо, трасянуў – ніводным рухам, ніводным знакам маёр не азваўся. Тады ён, вырываючы гузікі, расшпіліў ягоны шынель, прыпаў вухам да шырокіх нерухомых грудзей і хутка зразумеў, што ў іх ужо не засталося жыцця. Ён сказаў аб тым Шчарбаку, але той, спакучаны сваім болем, толькі курчыўся на саломе і маўчаў.

Немцы між тым таропка шыбавалі па ўзмежку – усяго іх было дванаццаць. Адзін адстаў нечага, прыгнуўся, пакорпаўся над сваім абуткам, пасля бягом даганяў пярэдніх. Далей і з боку ад іх, за хутарам, абыякавае да людское бяды, заходзіла чырвонае, патухлае сонца. Вецер патроху цішэў, і завея ў полі спакайнела. Ваня прыціснуўся да саломы ў доле, ён яшчэ болей збялеў і, пэўна, каб не стагнаць, моцна сціскаў сківіцы. У Блішчынскага нервова дрыжала пашчэнка, увесь ён неяк прыціх і разгублена шныпарыў вачмі па снегавым прасцягу.

Трэба было рыхтавацца да бойкі, і Шчарбак, павярнуўшы да хлопцаў твар, на якім ляжала выразная грымаса болю, раздражнёна крыкнуў:

– Ну, што стоўпіліся? Цімошкін – пад каня!.. Ты, пісар, – на той бок, за сцірту! Адбівацца будзем!

Блішчынскі, прыгнуўшыся, моўчкі шмыгнуў за сцірту, Цімошкін выйшаў з-за рога і пачаў мясціцца ў снезе ля конскага трупа. Ваня ўсё ляжаў ніцма пад сціртай.

– Ат, чорт!.. Закурыць бы! – ціха прастагнаў ён. Заўжды ў хвіліну, калі насоўвалася небяспека, ён прагнуў курыць. Звычайна ў такі час Цімошкін згортваў цыгарку, прыкурваў і соваў сябру ў зубы, а ён, не адрываючыся ад прыцэла, наводзіў гармату па пяхоце ці танках. Гэта памагала яму быць спакойным і роўна рабіць сваю справу. Цяпер жа курыва ў іх не было, і Ваня з болем і горыччу вылаяўся.

Яны пачалі чакаць. Каб ямчэй было ўцэліць, Цімошкін паклаў аўтамат на худы конскі загрывак, – страляць адною рукою было нязручна. Шанцаў выйсці жывымі з

гэтага ліха ў іх было мала, калі б хоць удалося падпусціць ворагаў бліжэй. Наўрад ці будуць немцы атакоўваць іх, але агню зададуць, гэта хлопцы ведалі добра. Яшчэ кепска, што так мала было патронаў – па адным толькі дыску на аўтамат. Аднак прыдумаць што-небудзь другое ўжо было позна. Немцы павярнулі ад дрэўцаў і, абхопліваючы сцірту падковай, пачалі разыходзіцца ў полі. Яны пакуль што не стралялі, але, відаць, адчувалі, што будзе бойка, і, насцярожана ступаючы ў снезе, падыходзілі ўсё бліжэй.

– Ваня, бяры тых, што злева, а я – што справа, – сказаў Цімошкін сябру.

Шчарбак кіўнуў галавой. Яму, пэўна, гаварыць было цяжка, і выглядаў ён вельмі зняможана. У Цімошкіна балюча заныла ўнутры, не так за гэту бяду, як за Ваню, – чулася яму, што нямала пакут чакае хлопца з той яго ранай.

Тым часам паволі цямнела. Над хутарам расплылася ў небе лімонная жаўцізна з барвоваю паскай ля самай зямлі. Сінявая смуга залізвала, хавала далячынь, снегавую роўнядзь атулялі прыцемкі. На снезе, аднак, добра відаць была кожная постаць усіх дванаццаці немцаў, хоць падрабязней ніводнага з іх ужо нельга было разгледзець. Усярэдзіне яны радзей раздаліся ў бакі, а на флангах сціснуліся, – пэўна, фланговыя пабойваліся і не хацелі адрывацца ад астатніх.

І вось, не спыняючы хады, нехта даў першую аўтаматную чаргу – збоч у гурбіне штось гулка ляснула. Цімошкін здагадаўся – гэта па бочцы, і пасунуўся бліжэй да заснежанага каня. Праз дзесяць крокаў ад яго туліўся ў доле Ваня, вецер круціў над ім саламяную пацяруху і снегавы пыл.

Немцы пачалі лупіць з усяе зброі. Чэргі гулка калацілі звечарэлую ціш, кулі, бы палкамі, лупцавалі гэты канец сцірты. Яна церусіла ў падветраны бок саламянай трухой і мякінай, густа запарушвала белы свяжуткі снег. Цімошкін прыціснуўся галавой да конскага чэрава і напружана чакаў, калі ж урэшце пацішэе той іх першы

агнявы напор.

І ён урэшце неяк раптоўна спыніўся зусім. Хлопец хапіўся за аўтамат – немцы былі зусім блізка, доўгім выгнутым ланцугом яны ахоплівалі сцірту. Адны беглі, другія таропка крочылі – у падаткнутых пад дзягі шынялях, у касках ці ў зімовых казыркастых шапках. Цімошкін зірнуў на Ваню – здаецца, той быў жывы, цярпліва ляжаў пад рогам сцірты і чакаў.

– Рус, здавайсь! – данёсся з поля далёкі, задыханы, чужы і вельмі варожы голас. Закрычалі і другія, і з паўхвіліны яшчэ хлопцы чулі:

– Рус, здавайсь!

– Еван!.. Капут!

– Рус капут, здавайсь!

Хто ведае чаму – не той іх шалёны агонь, а гэтыя нахабныя воклічы гарачымі абцугамі рванулі Цімошкіну душу. Здалося хлопцу, што сапраўды іншага ім выйсця няма, што ўратавацца яны ўжо не здолеюць і застаецца толькі адно – памерці ці здацца ў палон. Але ж палон! Колькі ўжо яны нагледзеліся і начуліся аб ім, – палон быў для іх горш за самую страшную смерць.

І тады, каб заглушыць у сабе безвыходную роспач і тыя варожыя крыкі, Цімошкін, не дужа старанна прыцэліўшыся, крамсануў па ланцугу чаргой. Пасля, упёршы магазін у змерзлую канячую лапатку, выпусціў запар некалькі кароткіх і частых чэргаў. Немцы страпянуліся, сёй-той кінуўся наперад, некаторыя пападалі ў снег, і зноў, хутка набіраючы лютасць, загрукацелі здаля іх аўтаматы.

Не, узяць хлопцаў тут было не так лёгка. Усё ж яны былі прыхаваны невялічкімі снегавымі ўзгоркамі ля сцірты, якія затулялі ад прыцэльнага агню. А ворагі відны былі як на далоні, ні аднаму з іх не было дзе схавацца. Калі б у гэтае тройкі было болей патронаў, дык, мусіць, яны б яшчэ адбіліся.

Але патронаў было вельмі мала для такой бойкі, і праз нейкі час Цімошкін ажно спалохаўся, падумаўшы, што магазін, мабыць, ужо апусцеў. Шчарбак таксама перастаў страляць. У наваколлі крыху пацішэла, толькі з боку ворага нейкі аўтамат сыпаў усюды кулі – у снег, у сцірту, недзе ў паветра над імі. Засмярдзела дымам – гэта ў сцірце, якраз у падстрэшку, дзе яны нядаўна хаваліся, нешта курылася, і вецер круціў, слаў у доле горкі смярдзючы дым.

– Валодзька! – гукнуў з дыму Шчарбак. – Дзе пісар?

Цімошкін крыху прыўзняў голаў і ўслухаўся, але за сціртай нічога не было чуваць – ніякага руху, ні стрэлаў – мусіць, нешта там здарылася. Праўда, хлопец і цяпер не вельмі шкадаваў Грышку – але ж у такі час патрэбны быў і Блішчынскі. Шчарбак, пэўна, ужо адышоўся ад нядаўняе злосці і цяпер клапаціўся і аб гэтым абаронцы.

– Споўзай туды: можа, паранілі, – усё моршчачыся ад болю, сказаў ён.

Сцірта ўсё болей дыміла, але агню не відаць было. Немцы ляжалі ў полі, нехта з іх ланцуга, мабыць паранены, папоўз да дрэўцаў, раз-пораз патрэсквалі аўтаматы. Падхапіўшы ля каня сваю зброю, Цімошкін паўзком пад сціртай падаўся на той бок, да Блішчынскага.

На локцях і каленях ён запоўз за сцірту, тут здалося хлопцу трошкі зацішней, і можна было прыўзняцца. У той час штось нечакана рванула на галаве яго шапку, яна тузанулася і налезла на самае вуха. Цімошкін азірнуўся, сарваў яе з галавы – на патыліцы ў шапцы з дзвюх свежых дзірак тырчала вата. Ён зноў насунуў яе і падаўся далей.

Але дзе ж гэты Блішчынскі? Цімошкін дапоўз пад сціртаю да яе доўгага боку, куды паўгадзіны назад кінуўся Грышка, і нідзе не ўбачыў яго. Спачатку нешта палахліва-самотнае варухнулася ў душы; аглядаючы наваколле, ён не ведаў, што і думаць. Але вось зусім

можам зрабіць без патронаў.

Яна ўжо блізка. Нізка схіліўшы голаў, яна ўпарта дабіраецца да нас. У адной яе руцэ абшытая войлакам нямецкая фляжка (напэўна, вада!), у другой нейкая сумка ці кабур. Ну хутчэй жа, хутчэй, дарагая дзяўчынка! Са сланечніку зноў грукоча чарга, і зноў абмірае маё сэрца. Але Люся паўзе. Яна кіруе ў акоп, дзе дагэтуль сядзеў Крывёнак, – туды ёй бліжэй, чым у наша сховішча. Крывёнак падхопліваецца і рынаецца цераз пляцоўку. Я з гранатамі кідаюся следам.

Тут трошкі глыбей і схоўней. Люся ўжо блізка, яна падпаўзае ўжо да першых грудоў бруствера. Пэўна, у нашых вачах вялікі спалох і страх за яе, бо яна, сустрэўшы нашыя позіркі, абнадзеена ўсміхаецца зводдаль. Гэтая яе ўсмешка пераварочвае ўсё ў маім нутры, – я хачу закрычаць і вылаяцца ад напружання і страху за яе – столькі нясцерпнасці абрушыла яна ў маю душу гэтым сваім учынкам! Але яна ўжо ўзнімаецца на ўцалелы тут бруствер. Крывёнак, не зважаючы на нябеспеку, устае на ўвесь рост і выцягвае насустрач ёй рукі. Яна цягне свае да яго, прыўстае на каленях і раптам падае...

**21**

Лютая чарга разрыўных ашалела шчоўкае па брустверы, па зямлі, па траве; пясок і камякі сцябаюць па маім твары, запарушваюць вочы, знянацку я лыпаю, побач ускрыквае Крывёнак...

Праз слёзы ад пяску я ўсё ж кідаю позірк на Люсю – яна моўчкі і нейк незразумела пакорна кладзецца на бруствер; побач, ухапіўшыся рукамі за скрываўлены твар, апускаецца ў дно Крывёнак.

Вось яно! Вось самае страшнае, самае горшае – яно не мінула нас! А са сланечніку б’е другая, трэцяя чарга, куля збівае з маёй галавы пілотку, і я на момант схіляюся за бруствер...

– Люся! Люся! Люся!!! – ашалела крычыць у акопе Крывёнак, і я, зірнуўшы на яго, яшчэ раз жахаюся. У хлопца на скрываўленым твары – чырвоныя пустыя вачніцы...

– Люся! Дзе Люся?

– Люся тут, тут Люся, – шапчу я, раптам страціўшы голас. Яна ціхенька ляжыць на брустверы, паклаўшы галаву на выцягненую ўперад руку, і на твары – добрая, светлая ўсмешка, якую, напэўна, у апошняе імгненне ўбачыў Крывёнак. У выцягненай руцэ дзяўчыны біклага, а ў другой брызентавы кабур з ракетніцай. Ракетніца тоўстаю сваёй рукаяткай выпірае з яго – усё гэта звісае з бруствера. Апамятаўшыся і зразумеўшы, што сталася, я бяру Люсю за тонкія, яшчэ цёплыя кісці і разам з пяском сцягваю ў акоп. Маленькае гнуткае Люсіна цела лёгка кладзецца на мае рукі...

– Люся! – з нялюдскаю, немай адзічэласцю крычыць Крывёнак, слепа лапае па брустверы крывавымі рукамі, і я нейкі час баюся азвацца, баюся сказаць яму праўду. Тады ён гэткім жа голасам пачынае клікаць мяне.

– Сядзь, – кажу я як мага спакайней, але чужым, прыдушаным голасам. – Сядзь... Сядзі...

– Дзе Люся? Гад Лазняк, дзе Люся?

Я адчуваю, што ён зноў шалее, і болей не таюся ад яго.

– Усё. Няма Люсі...

Крывёнак змаўкае, пасля, неяк страціўшы сілу, спаўзае ў дол, затуляе далонямі свой аслеплены твар і зноў ускоквае з лаянкай:

– Сволачы! Гады!.. Сабакі!.. Падлюгі!..

Ён зноў, як звер у пастцы, кідаецца ў акопе, спатыкаецца аб пакінутую ў дне рыдлёўку і хапае яе.

– Дзе фрыц? Дзе той недабіты фрыц? Дзе ён?

Крывёнак вылазіць з акопа; зачапіўшыся за сашнік, падае, зноў ускоквае. Ён у шаленстве нічога не чуе, а я трымаю на каленях Люсю і не маю сілы спыніць яго, заспакоіць. Пакуль ён лапае ў доле, шукаючы рыдлёўку, са сланечніку зноў б’е чарга, разрыўныя гулка трэскаюць на брустверы і на гармаце.

– Ага! – учуўшы стрэлы, недарэчна ўзрадавана крычыць Крывёнак і лаецца. – Ага! Сволачы, гады!..

Босы, у парванай, расшпіленай гімнасцёрцы, без дзягі, з рыдлёўкай у руках, ён вылазіць з агнявой і, шырока расстаўляючы ногі, слепа сігае туды, дзе ворагі. Не выпускаючы з рук Люсі, я паволі ўзнімаюся ў акопе, а ён шырока і невідушча ідзе і ідзе, высока і пагрозліва ўзняўшы рыдлёўку, і страшна лаецца. Праз пяць крокаў падае ў бомбавую варонку, гэта абнадзейвае мяне, я прачынаюся са сваёй душэўнай знямеласці і крычу:

– Крывёнак, стой! Стой! Не вылазь!

Але ён нядоўга ляжыць там, зараз жа вылазіць і зноў сігае туды, насустрач ворагу. Я ведаю, што ўсё прапала, што толькі некалькі імгненняў аддзяляюць чалавека ад пагібелі. І калі са сланечніку грыміць чарга, я заплюшчваю вочы. Расплюшчваю, але Крывёнка ўжо не бачу.

Я зноў апускаюся на дно абрушанага акопа і ціха, з вялікаю асцярогай кладу на зямлю Люсю.

Цяпер я адзін. Адзін з маёю вялікаю мукай і любай маёю дзяўчынай... Я ўражаны яе пагібеллю, уражаны вайною, мой свяшчэнны пякучы намер, як сухая груда ад кулі, рассыпаўся сёння ўшчэнт. Відаць, я слабы, я маленькая парушынка ў гэтых вялізных жорнах вайны, што страшэннаю сілай перамолваюць людскія жыцці. І мне не хапае ўжо маёй душэўнае сілы, каб супрацьстаяць пагібелі, змагацца, абараняць аднаго толькі сябе.

Я вымаю з тонкіх Люсіных пальцаў раменьчык біклагі, там, здаецца, ёсць нейкі глыток вады. Пасля з другой

рукі я бяру ракетніцу – у скураных гнёздах кабуры тырчаць тры каляровыя ракеты. Мне ўжо не хочацца ні піць, ні есці, ні жыць, знікае жаданне і біцца – адстойваць гэтую ўшчэнт разбураную агнявую, – хочацца толькі памерці, ціха – і тут, побач з Люсяй...

Не ведаю, колькі часу я так, у зняменні, сяджу над ёю. Пасля ўспамінаю жывога яшчэ небараку Лук’янава і нашых там, у сховішчы. Не вельмі хаваючыся, з біклагаю ў руках я перапаўзаю пляцоўку. Лук’янаў нерухома ляжыць, дзе ляжаў, але ўжо не кратаецца. Мне вельмі хочацца, каб ён ачнуўся, загаварыў, зірнуў – гінуць аднаму страшна. Я адвінчваю біклагу, паднімаю яго запарушаную зямлёй галаву. На павеку заплюшчанага левага вока грудка зямлі, я скідаю яе. Але зубы Лук’янава сцяты. Не, ужо ўсё ў ім здранцвела – чалавек, напэўна, даўно ўжо памёр...

Няўцямным, абыякавым да ўсяго позіркам я аглядваю астатніх. Нерухомыя, глухія, сляпыя да ўсяго на свеце людзі, змярцвелыя, закіданыя зямлёй твары... А чырвоная доўгая стрэлачка на Жаўтыховым гадзінніку ўсё рупна бяжыць і бяжыць па чорным цыферблаце. Гэтая яе жывучасць бянтэжыць мяне, – з нейкім забабонным страхам я б’ю па ёй біклагай – шкло рассыпаецца, і стрэлка спыняецца на лічбе 11.

Ну, што далей?

Побач нешта пачынае мармытаць абгарэлы немец. Жывучы! Нашы ўсе да аднаго палеглі тут, а ён вось жывы. У мяне ўзгараецца жаданне дабіць яго, задушыць. Але прыпамінаецца: Люся не дала мне зрабіць гэта ў самым пачатку – і я веру ёй. Мусіць, яна сваёй чалавечай жаночай душой адчувала нешта такое, што недаступна нам, аслепленым крывёю, нянавісцю, гарачкаю бойкі. Чорт з ім! Хай памірае сам!

Немец жа ўсё тузаецца на зямлі, мармыча нешта – відаць, штосьці яго турбуе. «Піць? – кажу я сам сабе. – Д’ябла табе лысага, а не піць».

Я падношу да сваіх ссохлых, засмяглых вуснаў пляшку і

п’ю. Вада цёплая, нясмачная, смярдзіць нечым нямецкім і не ўбаўляе смагі, але я неспатольна і ўпарта п’ю. Рэшту, што яшчэ засталася ў пляшцы, выліваю ў дол. Мне яна больш не спатрэбіцца.

Кінуўшы біклагу ў кут, я вяртаюся ў акоп. Люся ляжыць у доле на камяках накіданай выбухамі зямлі, рукі яе бяссільна выцягнуты ўздоўж цела, ногі роўненька сціснуты. Я сядаю над ёю, папраўляю на загарэлых каленьках старэнькую яе спадніцу. Тонкі дзявочы твар ужо прыкметна збялеў, пахудзеў... Тая яе апошняя ўсмешка, што нестрыванасцю ўзрушыла нашыя з Крывёнкам сэрцы, паволі знікае, саступаючы месца строгай нежывой нерухомасці. Мяне бянтэжыць і здзіўляе гэтая недарэчная здранцвеласць на заўсёды такім рухавым, жывым і вельмі лагодным Люсіным твары. Здзіўляюць і вочы – яны, аказваецца, зусім не сінія, яны шэрыя, і я не разумею, чаму яны заўсёды здаваліся нам сінімі, як васількі. Колькі бязмерна роднага было ў іх, у гэтых радасна-пакутных вачах!..

Я закрываю іх па чарзе, левае і правае – хай спяць!.. Што ж рабіць далей? Выбегчы ўслед за Крывёнкам? Застрэліцца з ракетніцы? Узарваць сябе з Люсяй?

У кутку на земляную пацяруху грабецца мурашка. Зямля дробная, яна разам з мурашкай раз-пораз ссыпаецца ўніз. Мурашка выграбаецца з пяску і пачынае караскацца зноў. Што значыць бяздумная ўпартасць! Я бяру яе на далонь і здзьмухваю на бруствер – хай ідзе, ратуецца. Тут ёй добра не будзе.

Не, чорта з два! Буду біцца! Адзін за ўсіх – за Жаўтыха, Папова, Лук’янава, Крывёнка. За Панасюка. Інакш мне нельга. Я выкладваю свой боезапас – тры РГД, адна лімонка ў кішэні, тры ракеты. Усё ж не голыя рукі.

Здаецца, пачынае цямнець. Неба яшчэ блішчыць далёкім зніжэлым святлом, але ў акопе ўжо засень. Бой здалёку ўсё грыміць, не зразумееш, у якім баку нават, – калоцяцца, стогнуць абшары і справа, і злева, і наперадзе. Ціха толькі на варожых пагорках. Але там, мусіць, нікога няма.

І раптам – знаёмае траскоцце на брустверы. Пясок, камякі, зямля, пыл – на галаву. Сыпане і сціхне... Праз пяць секунд зноў... Пасля яшчэ і яшчэ. Так, пачынаецца...

Трымайся, Лазняк! Здаецца, гэта апошні твой бой. За зямлю трымайся: усё на зямлі – усё ад зямлі, – гучаць у вушах колішнія Жаўтыховы словы. Не спагань яе! Ранейшаю сілай наліваецца маё цела. І спрытам. Кожны мускул напружваецца. Толькі страху ўжо няма і следу, ужо я перажыў, патраціў яго ўвесь. Біцца, дык біцца... Насмерць!

Прыўстаўшы на нагах, я адным вокам выглядваю з-за бруствера – паўзуць! Потныя, загарэлыя, з аўтаматамі на зямлі. Збоч нехта падае, нехта перабягае ў варонку...

Я бяру дзве гранаты, яны ўзведзены. Прыціскаюся да сцяны. Чакаю. Слухаю. Нейкая жыла пад каленам дробненька, надакучліва дрыжыць.

Пад брустверам нешта стукае. Граната? Лопае запал, затым – ашалелы ўдар! Зноў земляныя камякі, пыл, пясок засцілаюць неба...

Размахваюся – і ў адзін, другі, трэці бок шпурляю свае РГД. Зараз жа выбухі – адзін! другі! трэці! Выхопліваю з кішэні лімонку. І тут – удар у бруствер. Адскочыўшы ад яго, побач шлёпаецца доўгая палка нямецкай гранаты. Са звярыным спрытам я хапаю яе і кідаю наверх. Зараз жа выбух, нечы блізкі глухі енк.

Бяру ў правую руку лімонку, зубамі адгінаю чаку. Левай зараджаю ракетніцу і ўзводжу баёк.

Ззаду за брустверам блізкія крокі – я адразу чую іх тут, у зямлі. Вырываю зубамі чаку, адпускаю планку і, прытрымаўшы секунды са тры, кідаю гранату туды. Выбух! У той жа момант на брустверы над галавой – іх выбух! Удар недзе ззаду – і яшчэ выбух! Яшчэ рве ля гарматы, і праз пыл вынікае цёмная даўгалыгая постаць у касцы.

– Хендэ хох!

– Скулу ў бок! – крычу я і ва ўпор страляю з ракетніцы. Дымны струмень б’е ў ворага, пыхае клубком іскраў – немец хапаецца за грудзі і, падламаўшыся ў каленях, падае на спіну. Некалькі секунд з ягоных грудзей джагае яркае агністае полымя...

Немец гарыць, ракета рассыпае наўкола гушчар іскраў, ягоныя боты звісаюць у мой акоп. Гэта яму за Люсю.

Я хуценька зноў зараджаю ракетніцу, высоўваюся і б’ю ў тых, што паблізу. Пэўна, збянтэжаныя маім агнявым адпорам, яны прыціхаюць. Ракета падскоквае па зямлі і коціцца ў траве ярка-агнянай каметай. Зялёныя бліскаўкі дагараюць і тухнуць на камяках бруствера.

Выкідваю гільзу і піхаю новую. Мяркуючы па галоўцы, гэта асвятляльная, белая. Я чакаю новай атакі і дзякую Люсі. Мёртвая, яна ратуе мяне.

Але немцы маўчаць. Маўчаць хвіліну, дзве, пяць... Што сталася з імі? Можа, яны падпаўзаюць? І тут аднекуль здалёк зноў даносіцца танкавы роў. Устрывожаны, я ўслухоўваюся, а ён усё мацнее, шырыцца ў паднябессі, набліжаецца. Яшчэ праз хвіліну на ўсю глыбіню дрыжыць, гудзе, скаланаецца зямля. Некалькі разгоністых сіняватых трас джгаюць над брустверам – адтуль, з нашага боку.

Радасная здагадка азарае мяне, і, здзіўлены, я паволі ўстаю ў акопе. Недзе побач заліваюцца-грукочуць кулямёты, і ўсё адтуль, з нашага боку, джгаюць-мільгацяць трасы.

З апошняй Люсінай ракетай у ракетніцы, гатовы да ўсяго, я выскокваю з акопа.

## 22

Так, я выратаваны. Усё страшнае, нясцерпнае ўжо мінула...

Наўскасяк па полі, праз сланечнік, да дарогі з даўжэзнымі, як бервяно, стваламі ідуць САУ-100. За імі бяжыць, адстае, даганяе пяхота. Я сяджу на брустверы з адзінаю сваёй ракетай і не адчуваю ў сабе і маленькага намёку на радасць паратунку. Ля маіх ног ляжыць нерухомае маленькае цела Люсі. Я вынес яе з акопа пад раздольнае неба, на шырокі палявы прастор, якога яна ўжо не пабачыць ніколі... Ні прастору зямлі, ні нашай перамогі, ні гэтага звечарэлага неба, якое цяпер вельмі падобна на яе шэрыя, некалі зіхатлівыя вочы... Ідзе час, а я ўсё сяджу.

Сяджу без дум, без сілы, без аніякага людскога жадання. Праклятая вайна дала і вырвала ў мяне нялёгкае права на Люсіна каханне. Цяпер што радасці мне з жыцця? Пехацінцы штосьці пытаюцца, нешта крычаць, але я не чую іх і не адказваю. Нейкі кірпаты салдат у перакручанай упоперак галавы пілотцы кідае на мяне: «Дурны ці кантужаны» – і другі, што бяжыць ля яго з кулямётам, смяецца. Ім радасна.

А я думаю: хто з нас мог меркаваць учора, што сёння здарыцца гэткае? Ці мог я за доўгія месяцы ў шпіталі прадбачыць, што мая адплата ворагу заслоніцца ад мяне новай вайсковай няўдачай і подласцю свайго ж чалавека? Як гэта ўсё складана і трудна. Я думаў: дабрацца б да немцаў! А ці толькі яны сталі віною нашай бяды! На колькі ж франтоў суджана змагацца мне – і з ворагамі ў акружэнні, са сволаччу побач, нарэшце, з самім сабой. Колькі ж гэта перамог трэба здабыць гэтымі вось рукамі, каб яны склаліся ў тую, што напішуць з вялікай літары? Як гэта мала – аднае рашучасці, добрых намераў і колькі яшчэ трэба сілы! Зямля мая родная, людзі мае, – дайце вы мне гэтую сілу! Мне яна так трэба!

Цямнее. Бой сунецца далей, за цёмныя хрыбціны пагоркаў. Па полі ідуць мінамётчыкі. Сагнуўшыся, з цяжкімі шпулькамі брыдуць сувязісты. Некуды імчаць ездавыя на перадках...

І раптам з прыцемкаў між варонак з’яўляецца Лёшка. Спорным таропкім крокам ён падыходзіць да агнявой –

у яго ў здаровай руцэ два кацялкі, пад пахай другое, што бялее бінтам, бохан хлеба. Самаўпэўнена, з такім выглядам, быццам ён толькі дзесяць хвілін не быў тут, Лёшка вітаецца:

– Прывет! Ну як? Стрывалі! Героі! Законна!

Ён укленчвае, асцярожна ставіць між грудоў кацялкі, кладзе хлеб.

– Вайна вайною, а есці трэба. Праўда? Ось растараўся тут. А дзе ж хлопцы?

Я маўчу, адчуваючы, як усё перад вачмі закружылася, загойдалася і плыве ў шалёным тумане нянавісці. Пэўна, ён заўважае гэта і сур’ёзнее.

– А мяне, ведаеш, трохі цюкнула. Пакуль да санроты дабег, перавязаўся, ну і... забавіўся... Во, яшчэ Люська прапала. Была і прапала. Шукалі, шукалі... Дык дзе ж хлопцы: прастыне...

Туман у маім позірку расплываецца – варонкі, выбоіны, бруствер і Лёшка ва ўсёй катэгарычнай выразнасці паўстаюць перад вачмі.

– Ідзі сюды, гад!

Я ўстаю, паварочваюся на брустверы да агнявой, і Лёшка, адчуўшы кепскае, паслухмяна лезе наверх.

– Не там шукалі. Глядзі! – крычу я. – Глядзі, сволач!!!

На некалькі секунд ён нахмурваецца, аглядае нябожчыкаў, але зараз жа здаровай рукой пачынае атузваць кароценькую сваю гімнасцёрку.

– Ну і што? Што глядзі? – злосна агрызаецца ён. – Падумаеш! Вунь не такіх пабіла. Камбату галаву адарвала. Што, я вінават?

– А хто ж – твая работа! Гад ты! Судзіць цябе!

– Судзіць? – вызвераецца ён. – Пайшоў ты да д’ябла,

малакасос! Завошта?!

– Ах, завошта? Ты не ведаеш завошта? Ты пагубіў іх. Ты злачынца! Фашыст! Мы чакалі цябе, чаму не прыйшоў? Найперш сябе ратаваў?

– Параніла, во! Глядзі! На, глядзі! Не верыш? Паказаць табе? – Ён тыцкае ў мой твар сваю перавязаную кісць і пачынае з яе зрываць бінты.

– А ў нас не параненыя? Папоў не паранены? Лук’янаў не паранены? Ногі ж у цябе цэлыя, гад ты паўзучы! Чаму камбату не далажыў? Навошта Люсі сказаў, што нам канец? Чаму?..

Кожная жылка ва мне струнка дрыжыць, я гатовы растаптаць яго, пакалечыць, змяшаць з зямлёй. Але ён не бянтэжыцца – ён абураецца, яго нахабны твар распаляецца нянавісцю да мяне. Раптам яго тон з’едліва мякчэе.

– Калі хочаш, ніякага дазволу не было. Вот! Камбат забіты. Ён не загадваў. Я нічога не ведаю. Ранены, вось!

– Што-о-о? – крычу я, трацячы над сабой уладу.

– А то! Камбат мне нічога не загадваў. От! Я Люсі не казаў. Што вы нарабілі тут – не мая бяда. Я ўбаку.

– Ах, ты ўбаку! Нягоднік! Сволач!

Не адчуваючы сябе, я падскокваю да яго, гатовы кінуцца ў бойку, як тады, уначы, на гэтым самым месцы.

– Так, убаку! – крычыць ён. – Ідзі дакажы! Няхай ажывяць Троцкага, Люсю, няхай запытаюць. І прэч ад мяне, смаркач!

Ён замахваецца на мяне сваёй натрэніраванай нагой футбаліста, але я, без памяці ад гневу, нават не адскокваю, – я ўскідваю ракетніцу і агнявым выбухам б’ю ў яго ненавісны твар.

На момант стрэл аглушае і слепіць. Рукі мае дрыжаць, як не дрыжалі за ўвесь сённяшні дзень. Страшэннае яркасці ззянне, усё разгараючыся ў доле, нестрываным святлом залівае агнявую, станіны, скасабочаны шчыт, колы, абгарэлага немца, кожны камячок у доле. У акопе, сховішчы, за гарматай трапечуцца-дрыжаць чорныя дзягцярныя цені.

На некалькі імгненняў на брустверы з незвычайнаю яркасцю ўспыхвае роўная і надзіва маленькая ў доле постаць Люсі. Коратка і горача бліснуўшы (як і ў жыцці), яна ўмомант азмрочваецца, і зараз жа ўсё паглынае цемра.

Вялізная, накопленая за гэты жахлівы дзень злосць, раптам выбухнуўшы, пакутна ападае ў маім сэрцы. Ураз знікае ўвага да гэтага злыдня і ўсяго на свеце, я шпурляю ракетніцу і, адышоўшыся на другі бок агнявой, кладуся ніцма на мулкія груды халоднага бруствера.

За пагоркамі паволі сціхае бой. Далёкае святло ракет слепаватым водсветам блукае па цьмяным шчыце гарматы. Вечная ў сваёй жыватворнай сіле, пахне пабітая выбухамі, здратаваная танкамі, пасечаная жалезам зямля. Росны травяны водар яе пачынае ўладарна заглушаць бензінавы чад гарэлых танкаў, парахавы смурод гільз. Угары, у святлявым веснавым небе, высыпаюць рэдзенькія зоркі – тыя самыя, пад якімі я марыў учора – і марыў зусім не пра гэткае. Зняможаны і спакутаваны, неяк душэўна здранцвелы, я доўга не магу паварушыць нічым і пластом ляжу на зямлі. Усё ва мне сцялася, асела – адно толькі пякельным болем гарыць-дагарае ў душы мая нешчаслівая любоў і мая святая нянавісць.

Я ляжу так, аж покуль з цемры не даносяцца знаёмыя галасы. Недзе мерна лязгае ворчык, коратка фыркае конь – гэта едзе разлік Скварышава. Відаць, хлопцы шукаюць нашу агнявую, спыняюцца, і неўзабаве наводчык Шчарбак, пэўна, згледзеўшы мяне на брустверы, гукае:

– Давай сюды! Тут яны.

Тады я падымаюся з долу. З’яўленне таварышаў прыўзнімае нада мной нестрываную глыбу самотнасці. Праўда, я адчуваю, што давядзецца мне ўсё растлумачыць і за штось адказаць. Але я не баюся. Што б са мной ні сталася яшчэ – горш і страшней, чым сёння, мне ўжо ніколі не будзе...

## Пастка

### 1

На першым заходзе атака сарвалася.

Ахапіўшы падковай вышыню, рота спрабавала ўварвацца ў траншэю на самай вяршыні, але не дайшла нават да палавіны схілу. Шквальны агонь нямецкіх кулямётаў паклаў аўтаматчыкаў на голым, умерзлым ад ранішняга марозца, палетку, і так нейкі час паляжаўшы на ветры, яны перабежкамі вярнуліся туды, адкуль пачыналі.

Гэта быў глыбокі, голы, без кустоўя, роў з рэдкімі плямамі яшчэ не расталага снегу і замерзлым ручаём пасярэдзіне; ён хаваў ад агню, ад неаслабнага напору сцюдзёнага сакавіцкага ветру і даваў магчымасць вырашыць, што рабіць далей. Трохі аддыхаўшыся на яго зацішным ад куль баку, ротны – капітан Арлавец – паклікаў абодвух сваіх камандзіраў узводаў і, незадаволены і раззлаваны, ні на каго ні разу не глянуўшы, пачаў:

– Бабы! Клапы! Заморкі! Які дурань вам аўтаматы даў?

Нацягнуўшы на галаву каўнер паўшубка, ён бокам ляжаў за ўзроўкам і, трымаючы ў зубах цыгарку, высякаў «кацюшай» іскру. Кавалак зломанага напільніка звонка лязгаў па крэмені, да якога вялікі, з жоўтым пазногцем, палец прыцiскаў трут – пучок белых

нітак, выцягнутых з брызентавай дзягі. Але капітан злаваўся, не трапляў па патрэбным месце, і слабая зеленаватая іскрынка, ледзьве бліснуўшы пад крэсівам, адразу ж гасла.

На злыя капітанавы словы ніхто не адказваў – ні тэлефаніст Капусцін, курносенькі, зыркасты хлопец, што скурчыўся ля абшкрэбанай скрыначкі УНФ, амаль з галавой узлезшы ад сцюжы ў расшпілены на грудзях шынелак; ні маўклівы, пакорлівы з выгляду малодшы лейтэнант Зубкоў, які, седзячы на пале свайго яшчэ не абношанага шынелка з новенькімі, але ўжо зламанымі напалам пагонамі, старанна калупаў зямлю. Побач з ім, месцячыся на крутаватым схіле таксама маўчаў лейтэнант Клімчанка, якога, аднак, распірала ад злосці на ўсе гэтыя няўдачы, а найбольш на самога ротнага.

– Чорта ад яе прыкурыш. Ану, высякай сам!

Арлавец злосна шпурнуў пад нос сувязісту яго неадмысловую курэцкую прыладу. Сувязіст моўчкі адклаў трубку і, захінуўшыся ад ветру, пачаў лязгаць крэсівам. Тым часам капітан сеў і выняў з тонкіх нервовых вуснаў цыгарку.

– Трэці ўзвод адстаў, першы расцягнуўся, як тая кішка, парадку ніякага. Вы камандзіры ці пастухі, чорт бы вас пабраў? – казаў ён, ссунуўшы бровы і ваўкавата гледзячы на ўзводных.

Зубкоў ад тых слоў яшчэ болын зацяўся, а Клімчанка шпурнуў у роў глыж.

– А што вы крычыцё? Мы што – у рове сядзелі? Ці збаяліся? Ці занялі вышыню і здалі? Вунь – падысці не дае – на тое глядзіце! – махнуў рукой у бок вышыні Клімчанка.

Капітан марудна спыніў на лейтэнанце цяжкі злы позірк.

– Ты што? – выдавіў ён з сябе пагрозліва і сурова.

Сувязіст тым часам прыпаліў трут і, устаўшы на

каленях, працягнуў яго капітану. Але Арлавец нібы не заўважыў таго, і вецер дарма круціў у паветры тонкі струменьчык дыму.

– Ты гэта што – мітынгаваць уздумаў?

Лейтэнант паставіў каўнер свайго пасечанага асколкамі паўшубка, з дзірак якога тырчала клочча белай поўсці.

– А то! Хопіць на чужым гарбу ў рай ехаць, – запальчыва сказаў ён і адвярнуўся ўбок.

Круглявы, малады яшчэ твар яго з крутаватым падбародкам затаіў крыўду і злосць. Ротны ссунуўся на абрыве на якіх тры крокі і, перапаясаны рамянямі, стаў насупраць узводнага.

– Гэта хто едзе? Я еду? Ану, гавары прама!

– Ды і вы таксама! – кінуў Клімчанка і стаў пазіраць у роў.

Ён не баяўся капітана, хоць ведаў яго крутаваты нораў, бо сам ваяваў у гэтай роце з зімы, ведаў кожнага байца, таксама як яны ведалі яго. Арлавец жа быў чалавек новы, і хоць у баязлівасці яго ніхто не папракнуў бы, але ўсё ж з першага дня байцы неўзлюбілі капітана за яго, бадай, празмерную жорсткасць. Цяпер ад усёй гэтай сутычкі Клімчанку зрабілася прыкра, і ён, стараючыся стрымаць сябе, пачаў абцасам збіваць з абрыву глыжы. Земляныя камякі, падскокваючы, навыперадкі каціліся да ўмерзлага ручая, за імі церушыла жарства. Ротны, які стаяў побач, самкнуўшы бровы на худым, счарнелым ад сцюжы і шчаціння твары, праз зубы кінуў:

– Ану, прыкусі язык!

Нервова крутнуўшыся да яго, Клімчанка ўскінуў галаву.

– Што? Праўда вочы коле?

– Ах, праўда! Дык я табе скажу праўду. Твой узвод самы горшы. Самы марудлівы. Ён затрымаў роту. Ён сарваў тэмп наступлення.

Клімчанка ўскочыў на ногі, локцем піхнуў назад туга набітую кірзавую сумку.

– Мой узвод сарваў? Немцы сарвалі! Вось! Шэсць іхніх кулямётаў сарвалі. Вы што, не бачылі? – перастаючы сябе стрымліваць, закрычаў лейтэнант.

Сувязіст, уражаны гэтай сутычкай, разявіўшы рот, нерухома сядзеў ля апарата. Зубкоў сагнуўся яшчэ ніжэй і старанна калупаў свой кірзавы бот. На беразе рова з ямак-акопаў высоўваліся і застывалі ў нямое цікаўнасці галовы ў шапках і касках.

– Гэта што такое? – тупнуў Арлавец сваімі парудзелымі ад падпалін валёнкамі. – Вы на гулянцы ці ў арміі?..

Ён не дагаварыў, як наверсе на ўзгорку, мусіць, нехта неасцярожна высунуўся, і доўгая кулямётная чарга з вышыні шалёна разанула паветра над іх галовамі. На тым баку рова пасыпалася жарства, і калі вецер здзьмуў пыл, у мерзлай зямлі на абрыве сталі відаць некалькі ямак ад куль.

Арлавец, па-ранейшаму бычачы голаў, павярнуўся да ўзводнага.

– Ты ў мяне дачакаешся! Я цябе прымушу з адным узводам вышыню браць. Тады запішчыш. Разумнік...

Лейтэнант крыва ўсміхнуўся.

– Ну і што ж! Трэба – пайду з узводам. Толькі вазьму – вам дакладваць не прыйдзецца. Сам у полк далажу.

– Ах, так?

– Так!

Капітан на паўхвіліны застыў, знямеўшы тварам і штосьці напружана вырашаючы, а Клімчанка, стоячы побач, чакаў. Сапраўды, ён гатовы быў атакаваць вышыню і з адным узводам, страху ад таго не адчуваў і хоць надзеяй на поспех таксама сябе не цешыў, але цяпер больш за ўсё астатняе не хацеў у чымсьці ўступіць капітану.

Арлавец тым часам, цяжка ступаючы валёнкамі, узлез на адхон і сеў на сваё ранейшае месца каля тэлефаніста.

– Ну, дзе агонь? – успомніў ён пра непадпаленую цыгарку ў пальцах.

Сувязіст зноў пачаў стукаць крэсівам.

– Вось што! – сказаў ротны падумаўшы. – Я такога не дапушчу. Балбатунам я жалезам языкі папрыпякаю. Іш, разгільдзяй той распусціў роту!

Гэта быў намёк на ранейшага камандзіра роты, старшага лейтэнанта Драніцына, параненага тыдзень назад. У палку аб ім гаварылі рознае, але Клімчанка на гэты конт меў сваю думку і цяпер сказаў:

– Каб усе ротныя такія былі, як Драніцын, дык ужо на вышыні паабедалі б.

– Што? Абараняеш? Канечне! Два боты – пара.

Клімчанка прамаўчаў.

– Ладна, – мякчэй ужо сказаў Арлавец. – На тым кропка. Каб мне ні-ні... Зразумела? А цяпер давай сюды.

Зубкоў, чагосьці не разумеючы ў перамене настрою камандзіра роты, марудна ўстаў, абціраючы з полаў пясок, а Клімчанка, насупіўшыся, стаяў унізе. Капітан тады, мяняючы тон, знарок грубавата прыкрыкнуў:

– Ну, што надзьмуліся? Давай бліжай!

Зубкоў, прыгнуўшыся, хуценька шмыгнуў да капітана, і Клімчанка, трохі памарудзіўшы, таксама палез угору.

Па голым схіле рова дзьмуў сіверкі марозны вецер, разгарачанае нядаўняй беганінай цела пачало астываць, лейтэнант тужэй падцягнуў дзягу і неахвотна пасунуўся да камандзіра роты. Твар узводнага быў па-ранейшаму змрочны.

Капітан тым часам прыкурыў, глынуў дым. Коратка бліснуўшы на лейтэнанта выпрабавальным, але ўжо нязлым позіркам, ён выцяг з-за пазухі карту.

– Так. Усё. Слухай задачу. Атакуем зноў...

**2**

Праз пятнаццаць хвілін атакавалі.

Без аніводнага стрэлу, моўчкі, усе разам высыпалі з рова і кінуліся на вышыню.

Немцы спачатку маўчалі, – можа, не заўважылі іх, а можа, чакалі, і з хвіліну ў ветраным сакавіцкім прасторы чуцён быў толькі бязладны дыхавічны тупат паўсотні пар ног. Людзі настылі за ранак на глінiстым умерзлым доле, таму адразу рванулі дружна, аднак шлях іх пралягаў угору, бегчы было багата і такога імпэту хапіла ненадоўга. Правы фланг першага ўзвода неўзабаве загнуўся і пачаў адставаць; гэта было дрэнна, але лейтэнант Клімчанка не наважыўся парушыць цішыні, каб закрычаць на малодшага сяржанта Галаногу, які там камандаваў. Сцяўшы ў кулаку пісталет з раменьчыкам, прычэпленым да дзягі, ён бег з усімі як мага хутчэй туды, угору, дзе, нарыхтаваўшы кулямёты, чакалі, каб разам ударыць, немцы. Злева ад яго і далей пад лес, крыху марудней, адстаючы, трухаў з ардынарцам Арлавец. Час ад часу ён паварочваўся да першага ўзвода і на хаду трос кулаком – хутчэй! Клімчанка, аднак, не дужа зважаў на гэта; цяпер у ланцугу ён нейкім чынам стаў незалежны ад ротнага, сам ведаў, што трэба хутчэй, толькі салдацкія сілы не дужа падпарадкоўваліся і яму. Лейтэнант бег, адчуваючы, як датлявае ў ім рэшта ранейшае злосці, што прарвалася там, у рове. Ён пачаў ужо звыкацца з думкай, што капітан «арап» і «гарлапан», што ён не пашкадуе бацьку, каб выслужыцца – выпнуцца перад начальствам. Але ўсё ж ён мусіў слухацца ротнага і нават больш: пасля ягоных абраз быў поўны рашучасці ўварвацца ў траншэю ў што б там ні стала. Таму ён і бег так. Гэта быў разлічаны на адну толькі нечаканасць

рывок, ад яго імпэту залежала, ці палягуць яны тут, на голым умерзлым схіле, ці, калі пашанцуе, возьмуць вышыню.

«Шась-шась... Шась-шась», – мялі струхлелы ржэўнік неданошаныя зімою валёнкі, гамашы з зялёнымі, шызымі, чорнымі абмоткамі, тупалі каляныя англійскія чаравікі, стаптаныя кірзачы. Паблізу ў некага на рамяні ці ў рэчмяшку мерна і нудна лязгаў пусты кацялок. «Не мог прыладзіць, разгільдзяй!» – злосна азірнуўся Клімчанка. Людзі беглі абапал яго; расшыраныя вочы боязна мітусіліся па вышыні; хакалі асіплыя ад стомы і прастуды грудзі; матляліся почапкі аўтаматаў. Вецер курэў у ржэўніку пасмамі пылу, угары ў непагодным небе плылі і кудлычыліся шэрыя хмары. Ветраныя парывы раздзімалі запэцканыя зямлёю полы паўшубка ўзводнага, дзьмулі праз дзірку ў бок, сцябалі па разгарачаным твары матузамі ад шапкі, але Клімчанка не прыкмячаў таго – бег. Адна толькі думка кіравала цяпер ім – хутчэй. Хутчэй, пакуль не ўдарылі немцы, пакуль ціха, прабегчы б хоць лішні дзесятак метраў да гэтай вышыні, куды, ведаў ён, шлях вось-вось абарвецца шквалам агню.

Рота выбягала з-за пагорка на адкрытае. Клімчанка ўжо ўбачыў перакапаную траншэяй вышыню – усю, ад лесу да пакатага схілу ў бок вёскі, на якім па разорах і пад узмежкамі бялелі рэдкія плямы бруднага, змерзлага ўранні снегу. І тады згледзеў, як скрозь на брустверы матлянуліся ў бакі і замерлі пляскатыя каскі. У той жа момант вецер данёс аслаблены адлегласцю ўскрык:

– Фойер!..

Раней, чым канчаткова згас у паветры гэты ўскрык, цішыня ўзарвалася громам, які праглынуў каманду і тупат ды цяжкі зморан соп людзей. Першыя чэргі рванулі тугое паветра над іх галовамі, побач нехта тоненька, не па-мужчынску ўскрыкнуў. Клімчанка хіснуўся ніжай, прыгнуўся, але зараз жа выпрастаўся, азірнуўся – на пяць крокаў ззаду, расчырванеўшыся маладым белабрысым тварам, бег з аўтаматам ягоны ардынарац Косця. Каска раптам гайданулася на яго

галаве, пэўна, збітая куляй, саўганулася на вуха; хлопец піхнуў яе назад рукавіцай, зноў падхапіў за ствол аўтамат і кароценька, аднымі вачмі, усміхнуўся камандзіру. Аднак лейтэнант ужо не заўважыў тае ўсмешкі, ён бачыў, што правы фланг адставаў усё болей. Нявёрткі стары Галанога з падапхнутымі пад дзягу поламі шыняля, відаць, прыставаў, то бег, то спыняўся – кідаўся ўбок, нечага крычучы на байцоў, якія ўсё болей замаруджвалі бег і, відаць, гатовы былі залегчы. Гэтага дапусціць было нельга, і Клімчанка, адчуваючы, як ззаду крычыць і лае яго Арлавец, таксама ўскінуў угору абедзве рукі і затрос імі, крыкнуўшы сарваным, асіплым голасам:

– Галанога! Такую тваю... Уперад! Бягом!

Але словы яго глухлі ў віхуры бою, ён і сам не пачуў іх і, зразумеўшы гэта, яшчэ некалькі разоў патрос у паветры кулаком з пісталетам. Пасля рвануўся за ротай. Кулі густа нізалі паветра, зыўкалі, верашчалі, на ўсе галасы скуголілі, дзяўблі мерзлы дол пад нагамі, пырскаючы жарсцвянай зямлёй. Хмарнае паднябессе гуло, галасіла, пішчала; здавалася, нейкая ашалелая сіла раз’юшана буяніла ўгары, і нават не верылася, што ўсё гэта грымотнае страхоцце скіравана супраць рэдзенькага ланцужка ўшчэнт зМораных людзей, якія падалі, ішлі і трухалі па шэрым схіле, марудна набліжаючыся да вышыні.

– Уперад! Уперад! – крычаў лейтэнант, даганяючы рэдзенькі шэраг людзей, якія адолелі ўжо, мабыць, палову шляху.

Але шквал агню з вышыні рабіў сваю справу: байцы замаруджвалі бег, ніжэй прыгіналіся да зямлі, некаторыя ўжо ляжалі на ржэўніку, і некалі было даўмецца, забітыя гэта або тыя, што проста збаяліся. У нейкай секунднай паўзе скогату ён, аднак, улавіў слыхам слабенькі, боязны стук пэўна таго ж кацялка і кораценька, радасна падумаў – жывы! Але цяпер не да таго было, каб думаць, хто гэта. Клімчанка адчуваў, што першы такі добры імпэт змарнеў і што ўзвод вось-вось заляжа. Сэрца яго шалёна гоцала ў грудзях, гаркота ад

стомы распірала лёгкія, у скронях з натужным звонам білася кроў. «Хутчэй! Хутчэй! Хутчэй!» – стукала ў галаве ўпартая думка. Ужо недалёка пралегла дарога, – вытаялы з-пад снегу, умерзлы і вузенькі палявы шлях з рэдкімі грыўкамі быльнёгу паабапал. Ад дарожкі да траншэі было сотня крокаў, ні ў якім разе нельга было даць узводу залегчы тут, – у што б там ні стала трэба было дарвацца да бруствера.

Аднак не паспелі яны дабегчы да тае дарогі, як аднекуль з вёскі ў фланг ім ударыла аўтаматычная гармата. Першыя яе дробнакаліберныя чэргі важна загрукалі ўдалечы, сінія трасёры мільганулі па чорнай зямлі, і калючыя клубкі разрываў рассыпаліся па ніве. Некалькі байцоў упалі і суконнымі камякамі застылі на ржэўніку, адзін упусціў аўтамат і, абхапіўшы далонямі твар, з крыкам кінуўся назад па схіле. У той жа момант хлёсткія, гарачыя трасы разанулі каля ўзводнага, ударылі па зямлі ззаду, матлянуліся далей уздоўж няроўнага ланцуга роты. Ад неспадзеўкі Клімчанка на момант разгубіўся, але тут жа з незвычайнай выразнасцю сцяміў, што трэба зрабіць, і рвануўся наперад. Ён абмінуў суседняга ў ланцугу байца з расшкуматаным на спіне рэчмяшком, з якога высунуліся анучы; вецер засцябаў па плячах канцом ручніка. Баец марудна, трацячы сілы, спрабаваў устаць на калені, але хістаўся, відаць, паранены, і ўрэшце зусім упаў тварам у ржэўнік. Вецер пругкаю хваляй біў у твар узводнаму, які, не азіраючыся, услухоўваўся толькі ў тупат трафейных Косцевых ботаў ззаду. Ён ужо не спрабаваў падганяць байцоў, перастаў падаваць каманды, адно бег, апераджаючы ўсіх, ведаючы, што толькі так можна не даць людзям залегчы. Ззаду і па баках умерзлую зямлю злосна лупцавалі пыльныя чэргі тае аўтаматычнай тарахцелкі.

Разбіўшы падэшвамі тонкі лядок у вымерзлай лужынцы, лейтэнант перабег дарогу, пераскочыў канаву з пыльнай сохлай травой і, хілячыся долу, пабег далей. Траншэя была ўжо зусім блізка, праз якіх дваццаць крокаў, калі агністыя калючыя клубкі разрываў сыпанулі амаль пад самыя яго ногі. Асколкі віскліва

рванулі полы паўшубка, бы дубцом сцебанулі па кірзавых халявах ботаў. Клімчанка ўпаў – першы раз за гэтую атаку – з усяго маху, як бег. Але, здаецца, ён уцалеў. Яшчэ не ўпэўнены ў гэтым, лейтэнант ускінуў галаву, праз неаселы пыл ад чаргі згледзеў – у траншэі, прыгінаючыся за бруствер, беглі кудысьці зялёныя каскі. На брустверы калюча пырскаў агнём аўтамат, яго кулі высеклі ля рук лейтэнанта жарству. Клімчанка ўскінуў у выцягнутай руцэ пісталет і торапка стрэліў туды тры разы. Побач паспешліва застрыкаў аўтамат – Косця! Заскарузлым рукавом лейтэнант церануў з твару пот, азірнуўся. Чарга тым часам з гулкім трэскатам на ўмерзлым доле кацілася далей між тых, што беглі, ляжалі, падалі. Клімчанка рукамі і нагамі ўскінуў ад зямлі сваё цела, намогся на апошнія дваццаць шырокіх крокаў-скачкоў, узляцеў на глыжасты, абсыпаны гільзамі бруствер, угнуўся, стрэліў некалькі разоў у страшную прорву траншэі і следам кульнуўся сам.

Ён ледзьве на кагосьці не наскочыў, у доле спалохана матлянулася ўбок зялёная постаць у касцы, – здалося, без твару, на адной толькі худой кадыкастай шыі; нібы баронячыся, яна ўскінула насустрач локаць. Клімчанка, адчуваючы, што ў магазіне засталося некалькі апошніх патронаў,рукаяткай пісталета, змаху, урэзаў ворага ў тое месца пад каскай, дзе павінна быць скроня, і адразу выразна адчуў – насмерць. Затым са здзічэлай, амаль немагчымай сілаю скочыў цераз яго абвялае цела, прыгінаючыся, сігануў крокі два да завароткі траншэі. Ззаду ўдарылі ў зямлю выбухі – гранаты! Нехта закрычаў: «Братцы! Братцы! Бра...» Крык абарваўся, недзе побач узвіўся другі: «Носке!» і яшчэ: «О, Носке!..» Затым, зрушваючы камяні з бруствера, у траншэю грукнулася нейкае цела. Клімчанка не паспеў азірнуцца, толькі мільганула здагадка, – Косця, – як з траншэйных сцен абапал яго сыпанула зямлёй, нешта востра штурхнула ў плячо. Клімчанка, асеўшы, крутнуўся, і яго вочы на імгненне сустрэліся з замутнелым позіркам Косці. Выпусціўшы аўтамат, ардынарац падаў ніц са скрываўленай шчакой; у шынялі на грудзях чарнела мокрая, ірваная знутры дзірка. Хлопец яшчэ не асеў у дол, як з-за яго спіны на

фоне хмарнага неба вынырнуў немец – малады, проставалосы, у расшпіленым мундзіры, са здзічэлым ад жаху позіркам. Клімчанка, адкінуўшыся да сцяны, аслабелай рукой узняў насустрач яму пісталет, але стрэліць, здаецца, не паспеў: штосьці агніста-чорнае нясцерпным болем у галаве пагасіла ягоную свядомасць.

**3**

Было вельмі сцюдзёна, асабліва мерзла спіна. Лейтэнант унутрана сцяўся, нібы ўтрымліваючы ў сабе рэшткі цяпла, і дробненька трэсся ад холаду. Спакою не было, нешта штурхала ў плечы, церла патыліцу, затым стала зразумела, што ён кудысьці сунецца, вопратка на яго спіне загарнулася. Клімчанка расплюшчыў вочы, убачыў перад сабой зямлю; здавалася, ён быў у яме, але чаму тады задраліся ўгору ногі? Ён варухнуў галавой, павярнуўся, спрабуючы затрымацца рукамі ад гэтага няспыннага спаўзання, і ўбачыў нахіленую спіну чалавека, хлясцік з алавяным гузікам і чорны скураны рэмень. Другі гузік у хлясціку быў адарваны, засталося толькі драцянае, залепленае зямлёй вушка, ніжэй якога пацепвалася старэнькая кірзавая сумка. Клімчанка адразу пазнаў яе – гэта была яго сумка, атрыманая яшчэ пры выпуску з вучылішча. Боты лейтэнанта былі заціснуты пад пахамі гэтага чалавека, які, так недарэчна ўпрогшыся, валок яго кудысьці па траншэі.

Зразумеўшы, дзе ён, Клімчанка, трапятнуўся, дрыгнуў нагамі. Немец адразу спыніўся, азірнуўся, – на яго густа зашчаціненым немаладым твары адбілася амаль, што палахлівае здзіўленне; ніжняя засліненая губа адарвалася ад верхняй, і на ёй, коса прыліпшы, дыміў жоўты недакурак цыгарэты.

– Майн гот! – сказаў немец, сустрэўся з Клімчанкавым позіркам і выпусціў яго ногі, якія глуха бразнуліся ў дно траншэі. Затым ён цепнуў губою, варухнуў рэдкімі рудымі бровамі і, чамусьці азірнуўшыся, пачаў знімаць з грудзей аўтамат.

А Клімчанка ўжо зразумеў, што з ім сталася, і ў адно імгненне згадаў: канец!.. У яго не было сілы абараняцца, ён толькі паспрабаваў сесці, бо нечакана спалохаўся ад думкі, што будзе забіты лежачы. Аднак аўтамат у немца быў на кароткім рэмені, чапляўся за каўнер, і салдат, збычыўшы галаў, знімаў яго цераз зімовую казыркатую шапку. Уверсе над ім плылі азызлыя хмары, і калівы быльнёгу на брустверы трапятка ляскаталі ад ветру.

Клімчанка намогся, абапершыся на левую руку, сеў, правай неўпрыкмет для немца цопнуў сябе па баку – кабура была пустая, абарваны з канца раменьчк-почапка ляжаў на глеі. Лейтэнант прыхінуўся галавой да сцяны траншэі, аслабелае сэрца ледзьве варушылася ў грудзях. У галаве хмельна гудзела, і ў правым вуху стаяў востры нясціхны звон.

Немец тым часам сагнаў з твару здзіўленне і, спахапіўшыся, разы два цмыгнуў свой недакурак. Затым, трошкі крывячы ад дыму вока, тузануў рукаятку аўтамата. Аднак стрэльнуць ён памарудзіў, узняў галаў – ззаду пачуліся крокі, і неўзабаве цераз лейтэнантава плячо пераступіў запэцканы зямлёй бот з радам бліскучых шыпоў на падэшве. У наступны момант, кранууўшыся яго шчакі, матлянуў падол доўгага, з махрамі ўнізе, шыняля, у прарэзе якога мільганулі абшытыя жоўтаю скурай брыджы. Немец апусціў зброю, пастараніўся, даючы камусьці дарогу, але той прыпыніўся, спаважна зірнуў у твар Клімчанку і нешта буркнуў. Немец, што знімаў аўтамат, з падкрэсленай гатоўнасцю адказаў, і лейтэнант зразумеў: з’явіўся начальнік.

Клімчанку нудзіла, мутнела ўваччу, абодва немцы расплываліся, нібы цені ў скаламучанай вадзе, ён схіліў галаў і, заплюшчыўшы вочы, чакаў стрэлу ўжо як збаўлення ад пакутаў. З гэтага стану яго раптам выбіў удар у сцягно; лейтэнант здрыгануўся, зірнуў – немцы стаялі над ім, і той, з аўтаматам, выплюнуўшы недакурак, схіліўся, заглядваючы яму ў твар.

– Ставаць, рус! Ставаць!

Ледзьве адольваючы ліпкую мутнасць у свядомасці, лейтэнант зразумеў, што пагібель яму адтэрміноўваецца. І ён, як за паратунак, ухапіўся за кароценькую магчымасць жыць, абапёрся рукой аб сцяну, вельмі няўпэўнена ўстаў і адразу ж прываліўся плячом да броўкі траншэі. Тады немец дужай рукой падхапіў яго пад паху. Клімчанка ад болю і слабасці скрыгануў зубамі, тузануў руку, але немец трымаў моцна і, бесцырымонна пхнучы наперад, павёў яго па траншэі.

Вецер курыў з бруствера пылам, ад нейкай сцюдзёнай макрэдзі ламала ў патыліцы, было дужа холадна. Клімчанка зноў дробненька затросся ў неадольнай ліхаманцы і, абыякавы ўжо да таго, куды яго вялі, аслабела пераставўляў ногі. Другі немец ішоў нaперадзе, здавалася, зусім безуважны да іх абодвух. Свежы марозны вецер рассыпаў на Клімчанкавай галаве валасы, – шапка недзе засталася ў траншэі, – студзіў памарожаныя зімой вушы, але ў той жа час і асвяжаў, дадаваў сілы, і чалавек, глыбей уздыхнуўшы, адчуў сябе лепей. З’явіўся першы неспакой па ўзводзе, скрозь звон у вушах ён услухаўся – не, бою паблізу не было чутна, калатнеча ў прасторы сціхла, толькі дзесьці – відаць, у зямлянцы – нейкі фрыц паўтараў адно і тое ж слова. Мусіць, тэлефаніст выклікаў пазыўныя. Клімчанка, адчуўшы сілу, мацней тузануў у немца руку, той спыніўся; тады лейтэнант выдавіў на шчоках жаўлакі і, хапаючыся за сцены, як п’яны рушыў уперад. Немец нешта сказаў, засмяяўся дыхавічным смехам прастуджанага, закашляўся і пайшоў ззаду.

Лейтэнант зірнуў у адзін бок, у другі – траншэя вяла ў тыл, рова і палетка з іржышчам, дзе яны наступалі, адсюль не было відаць. Навакол было па-веснавому прывольна і прасторна – чакаючы свайго часу, бруяў вясновымі сокамі лес, вытаяўшы з-пад снегу, вось-вось гатова была ажыць для свае адвечнае справы зямля. Там-сям у раўчуках, разорах, на падлеску марнелі-датайвалі, бы наждак, хрусткія на марозе лапіны снегу, гуляў над прасторамі вецер, – сушыў зямлю. На змену бясконца доўгае сцюжы ішла вясна, і лейтэнант

зразумеў: не для яго.

**4**

Яго, аднак, не стралялі, а вялі і вялі ўсё глыбей у тыл, далей ад сваіх, ад роты, і Клімчанка ўсё выразней усведамляў, што гэта шлях назаўжды, што звароту яму ўжо не будзе.

Траншэя тым часам мялела і мялела, пакуль і зусім не скончылася ў лагчынцы дзвюма прыступкамі – яны вылезлі і апынуліся на сцяжынцы праз нейкі густаваты алешкавы хмызнячок. Клімчанка, дужа пакутуючы, стараўся ашчадней дыхаць, – ад глыбейшых уздыхаў калола ў баку і позірк заплываў туманам. Часам ён замаруджваў хаду, прыставаў, і тады задні штурхаў яго руляй аўтамата або рукой, прыгаворваючы пры гэтым: «Пшёль! Пшёль!» Але злосці ў ягоным голасе лейтэнант не адчуваў, хоць гэта цяпер і не мела значэння. Другі, ні разу не азірнуўшыся, роўным крокам ішоў наперадзе.

На сцяжынцы ім трапіліся чалавек шэсць салдат, – мабыць, сувязістаў. Абвешаныя шпулькамі з чырвоным кабелем, сумкамі, зброяй, яны насцярожана саступілі са сцежкі перад афіцэрам і, мінаючы палоннага, кожны з іх укалоў яго зацятым, злым позіркам. Адышоўшы, яны яшчэ азіраліся, але Клімчанка ўжо не адрываў ад зямлі свайго позірку. Усё, што было наўкола, яго амаль не датычыла.

Так яны выйшлі к дарозе. Гэта было ў шырокім раўчукуразлозе, побач з мастком цераз замерзлы ручай. На невялікай прагаліне між кустоў збоч дарогі стаяла, абыяк загнаных, некалькі крытых брызентам машын. Дол між іх быў утаптаны і стракаты ад плямаў гаручага і змазкі, побач валялася некалькі бочак, і салдат у камбінезоне, адкінуўшы ўбок руку, валок да машыны цяжкую каністру. Два другія нахілялі бочку, з якой ліўся ў вядро бензін. Пярэдні канваір Клімчанкі нешта запытаў у салдата з каністрай, той, ляпнуўшы па сцягну рукой, коратка адказаў, і яны скіравалі ўбок, дзе пад узроўкам чарнелі дзверы зямлянак.

Спярша Клімчанку здалося, што тут штаб і, перш чым расстраляць, яму ўчыняць допыт. Але, агледзеўшыся, ён усумніўся ў той сваёй думцы. Зямлянак ва ўзмежку было ўсяго дзве; ні тэлефонаў, ні звычайнай штабной мітусні тут не заўважалася. Пярэдні немец адчыніў пафарбаваныя пад дуб – відаць, недзе знятыя ў доме – дзверы з шыбкай-акенцам у верхняй філёнцы і зайшоў у зямлянку. Следам, падштурхнуты канваірам, улез Клімчанка, і дзверы, рыпнуўшы, прыстукнуліся.

Ён ступіў на хісткія, негабляваныя дошкі, у твар ударыла гарачынёй напаленай жалезнай печкі, трошкі смярдзела дымам. На засланым коўдрай стале ляжалі паперы, гарэла нізенькая стэарынавая плошка, і нейкі маладжавы яшчэ афіцэр у кароценькім, з разрэзам, мундзірчыку, загойдаўшы агеньчык, кінуўся да ўвайшоўшага і стукнуў абцасамі. Пакуль яны гергеталі аб нечым, Клімчанка, паддаючыся расслабляючай сіле цяпла, агледзеўся. Ззаду праз шыбку ў філёнцы пранікала слабае святло хмарнага дня; разам з агеньчыкам у плошцы яно ўсё ж асвятляла пярэднюю сцяну, скрозь залепленую бясконцым паўторам аднаго і таго ж плаката: шыракатвары чырвонаармеец з плоскага кацялка еў нейкае хлёбава і зусім дурнавата ўсміхаўся немцу ў касцы, што паляпваў яго па плячы з такою ж ненатуральнай драўлянай ухмылкай на твары. Пад плакатам дзесятак разоў паўтараўся подпіс на рускай і нямецкай мовах. Плакат азадачыў Клімчанку і канчаткова пераканаў, што гэта не штаб. Але тады што? Гестапа? Які-небудзь прапагандысцкі аддзел?

Пакуль немец у мундзірчыку нешта дакладваў, доўгі ў шынялі, не знімаючы з рук чорных замшавых пальчатак, зняў толькі фуражку, пад якой аказалася выгаленая да бляску галава і, падышоўшы да стала, перабраў паперы. На двух аркушах трохі затрымаўся гюзіркам, але неўзабаве адклаў іх сваімі чорнымі пальцамі і нешта сказаў. Той, у цесным мундзірчыку, адразу зірнуў на Клімчанку, і лейтэнант здагадаўся, што гаворка ішла пра яго. Ён стрымана стаяў ля парога побач з канваірам; немцы перагаворваліся ўжо ўсе ўтрох, салдат-канваір зняў з сябе яго сумку, дастаў з-за

пазухі і аддаў брытагаловаму пачак папер. Клімчанка пазнаў чырвоную вокладку свайго пасведчання, камсамольскі білет, пасведчанні аб узнагародах, разліковую кніжку, даведкі аб раненых. Тут было ўсё, што многія месяцы ляжала ў яго кішэнях, апроч хіба гадзінніка і кісета з тытунём, якія, відаць, засталіся ў канваіра. Афіцэр, грэбліва скрывіўшы тонкую губу, без асаблівай цікавасці перагартаў іх і кінуў на стол. Некалькі паперак, не даляцеўшы, заматляліся ў паветры, іх угодліва падабраў з падлогі другі, у цесным мундзірчыку.

Урэшце начальнік нешта загадаў, разы два пратупаў па хісткіх дошках падлогі і, не зірнуўшы на Клімчанку, выйшаў з зямлянкі. Канваір з аўтаматам таксама выйшаў і стаў за дзвярыма. Праз чыста працёртую шыбіну лейтэнант убачыў яго плячо з пагонам, казыркастую шапку, далей быў канец будкі-кузава з плямістым асеннім камуфляжам і літарамі «FW» у белым квадраце. Чакаючы, што будзе далей, Клімчанка зірнуў на таго, што застаўся з ім, і прыкмеціў, як пакорліва-паслушны выраз яго твару саступіў месца самазадаволенай упэўненасці.

– Ну, лейтэнант, пачнём размову, – на чысцейшай рускай мове сказаў ён, і ад нечаканасці Клімчанка аж страпянуўся. Немец, нібы і разлічваючы на тое, паблажліва заўсміхаўся, дастаў з кішэні блішчасты партабак, раскрыў і, стоячы пасярэдзіне зямлянкі, працягнуў яго Клімчанку.

– Курыш?

Пачуўшы гэтыя, такія нечаканыя тут словы, лейтэнант, які ўвесь час быў у празмерным для яго напружанні, хіснуўся. Каб не ўпасці, ён ухапіўся рукою за абшалёваную сцяну зямлянкі, недарэчныя двое людзей на плакатах заскакалі ў вачах. Немец, убачыўшы тое, нерашуча прыкрыў партабак.

– Э, ды ты ж, здаецца, паранены! Што ж яны не сказалі? Ну, гэта драбяза: падлечым. Сядай вось! – Ён грукнуў на сярэдзіне падлогі выхапленым з кута зэдлікам, у

дошцы якога была дзірка для рукі, і лейтэнант бяссільна апусціўся на яго.

Афіцэр расчыніў дзверы, нешта крыкнуў у падворак, там затупацелі боты, пачуліся галасы. Ад свежага паветра знадворку ў зямлянцы адразу пахаладзела, і Клімчанка трохі саўладаў са сваёю слабасцю. Квелы агеньчык трапятка біўся ў плошцы.

Неўзабаве паблізу застукалі боты і ў зямлянку ўваліўся камлюкаваты, немалады немец з нездаровым аплыўшым тварам. Ад яго патыхала дустам і вострым пахам нейкіх лякарстваў. Нягучна буркаючы, ён садраў з Клімчанкі перапэцканы і пашкумутаны ў бойцы паўшубак. Лейтэнант вяла падпарадкоўваўся яго настойлівым рухам, яму ўжо было ўсё роўна, хто і што зробіць з ім. Ён хацеў толькі спакою і невідушчым позіркам глядзеў, як па дошках вакол зэдліка тупалі растаптаныя, шырока расстаўленыя боты. Рукі немца, бесцырымонна паварочваючы яго галаву, паляз-галі ля вуха нажніцамі, і на падлогу ўпалі светлыя зблытаныя пасмы валасоў. Патыліца, відаць, была моцна разбіта і балела, але ён трываў усё, толькі аднаго разу здрыгануўся, калі ў ране запякло лякарства. Неўзабаве, аднак, немец спрытна абматаў галаву рудаватым папяровым бінтам, туга спавіў павязкаю і сабраў у сумку сваё начынне. Увесь гэты час той, у мундзірчыку, пускаючы пад столь дым, сядзеў на рагу стала і з ухмылкай назіраў за ім.

– Ну, так лепш? – проста і нават са спагадай запытаў гэты чалавек, калі санітар грукнуў дзвярыма і яны засталіся ўдвох. – Гэта вылечаць. У немцаў медыцына, як у нас кажуць, на вышыні. У нас, гэта значыць, – у рускіх. Не здзіўляйся. Я рускі. Як і ты. Масквіч. На Таганцы жыў.

Клімчанка ўжо адышоў ад першага здзіўлення і адзначыў сабе, што тут, відаць, да ўсяго трэба быць гатовым. Знарочыстая добразычлівасць і клопаты гэтага чалавека наводзілі лейтэнанта на думку, што чакае яго нялёгкае.

– Цікава, лейтэнант, а ты адкуль будзеш родам? – пытаўся гэты чалавек.

– Там напісана. Мусіць, граматны, – сказаў Клімчанка, зірнуўшы на стол з рассыпанымі на ім дакументамі.

Чалавек у мундзірчыку, усміхнуўшыся неадабральна, перасмыкнуў русым брывом.

– Ну, вядома, там усё напісана. У нас, то есць у вас, на гэты конт поўны парадак. Як кажуць: ажур. І дзе радзіўся, і дзе жаніўся, і дзе хрысціўся. І ці быў за мяжой, і ці меў хістанні. Я гэта ведаю, – зусім неяк проста і нават быццам дружалюбна сказаў ён і ўстаў з-за стала. – Сам быў такі.

Ён з ухмылкай спыніўся перад Клімчанкам і выпусціў над яго галавой струмень дыму.

«Што за тон? Дзеля чаго?» – думаў Клімчанка. Перамагаючы ў сабе абыякавасць да свайго лёсу, якая ўсчалася ў ім там, у траншэі, ён мерыўся цяпер вызначыць, што б уся гэта камедыя магла значыць. Распрануты, у адной гімнасцёрцы, з кубікамі на пятліцах, – пагоны толькі нядаўна ўвялі, і ён яшчэ не паспеў іх прыладзіць, – без дзягі, з абвязанай галавой, ён, нібы арыштант перад следчым, сядзеў на сярэдзіне зямлянкі і насцярожана слухаў. А той з задаволеным, амаль радасным выразам на хітраватым твары, нешта мяркуючы, аглядаў яго.

– Ардзянок даўно атрымаў? – кіўнуў ён на зорку над левай кішэняй.

– Увосень, – сказаў Клімчанка.

– За абарону, наступленне?

– За акружэнне.

– Ну што ж. Гэта нічога. Нават лепш. Заслужоны, баявы афіцэр, – маючы на ўвазе нешта сваё, сказаў чалавек і бадзёра прапанаваў: – Можа, аднак, пазнаёмімся? Я – Чарноў. На жаль, не Бялоў, але што зробіш, – засмяяўся

ён, і ўнутры ў Клімчанкі нешта аж абарвалася, такая гэта была зусім таварыская ўсмешка, што аж хацелася паверыць, што ён свой, не немец. «А можа, ён тут па заданню нашых працуе? Мо разведчык? А раптам ён выручыць?» Ва ўсе вочы гледзячы на Чарнова, Клімчанка стараўся нешта зразумець у ім.

Чарноў жа, паблажліва ўсміхаючыся, працягваў:

– Можаш называць Барысам. Мы ж бадай што равеснікі. Ты з якога года? – Не чакаючы адказу, ён зірнуў у пасведчанне на стале. – З дваццаць першага. Ну, а я – з дзевяцьсот семнаццатага. Так сказаць, равеснік Акцябра. Невялікая розніца.

Ён кінуў за печку цыгарэту і ўпершыню сеў, – відаць, на сваё пастаяннае месца за сталом, растапырыўшы пальцы, агледзеў пазногці і маленькім ножыкам пачаў падразаць іх. Клімчанка, напружана моршчачы пад тугой перавязкай лоб і чагосьці чакаючы, ваўкавата сачыў за лёгенькай ухмылачкай, якая прыемна блукала на бялявым, у меру сытым, свежа паголеным, дагледжаным твары. Здавалася, такі чалавек нікому і ніколі ў жыцці не зрабіў благога.

– Мяркую, што мы згаворымся. Ты, можа, думаў, што ў палоне адразу расстрэл? Глупства. Ты ж не камісар. Немцы, яны паважаюць дастойных праціўнікаў. Асабліва страявых камандзіраў. Трудзяг вайны. Спецыялістаў. Немцы да іх ставяцца, я б сказаў, па-рыцарску. Я думаю, ты ўжо сам пераканаўся ў гэтым. Праўда ж?

Клімчанка маўчаў.

– Ну, што зашчаміўся, – адарваўшы позірк ад пазногцяў, упершыню папракнуў Чарноў. – І што так глядзіш на мяне? Ачухацца яшчэ не можаш?

– Што вам ад мяне трэба? – мераючы яго недаверлівым поглядам, запытаў лейтэнант.

Чарноў адкінуўся на сваім нябачным за сталом

сядзенні.

– Во гэта па-дзелавому, – прыкметна, але неяк не зусім натуральна ўзрадаваўся ён, выйшаў з-за стала і прыткнуўся на яго ражку. Выцягнуўшы ўперад нагу ў начышчаным зграбным боце, паварушыў наском, быццам збіраючыся паведаміць галоўнае.

– Вельмі нават нямнога, – адказаў чалавек, які назваўся Чарновым; цяпер ён нібы ўжо страціў цікавасць да сваё асобы і глядзеў толькі на Клімчанку. – Я думаю, табе не менш за нас шкада сваіх салдатаў, якія засталіся там. Праз дзень, другі пагоняць у наступленне і – усім капут. А навошта? Ці не даволі Расіі ліць кроў? – запытаў ён. Здавалася, ён шчыра перажываў тое, што гаварыў, і Клімчанка з некаторай новай цікаўнасцю зірнуў на яго.

– Навошта гінуць? Недарэчныя ахвяры! Колькі іх прынесла Расія! Адным словам, вось што... Трэба выступіць праз дынамік і пагутарыць са сваімі. Не, не палохайся: выдумляць нічога не трэба. Мы дамо тэкст.

«Дык вось яно што! Цяпер усё ясна!» – У Клімчанкі адразу спала напружанне, якое дагэтуль усё ўзмацнялася, ён упершыню варухнуўся на зэдліку і ўздыхнуў. Чарноў злез са стала і падышоў бліжэй.

– Дык як? Рызыкаваць не прыйдзецца. Дынамік на перадавой, мы ў траншэі. Некалькі слоў да канкрэтных людзей. Гэта падзейнічае. Гэта заўсёды дзейнічае.

Клімчанка зразумеў усё, бо гэта не было для яго новым. Некалі ў дажджлівую беспрасветную ноч пад Вязьмай ён ужо чуў, як брахаў праз дынамік нейкі нягоднік, што, мабыць, яшчэ з месяц назад быў чырвонаармейцам і з нашага кацялка сёрбаў суп, аднак жа агітаваў пераходзіць на бок вялікай арміі фюрэра.

– Ах, вось вы пра што! – сказаў ён, глянуўшы ў загадкава спакойныя вочы Чарнова. – Нічога не выйдзе. Шукайце другога.

Абапёршыся локцямі аб калені, ён нізка сагнуўся на

зэдліку і апусціў галаў, гатовы да ўсяго. Чарноў змоўк, зайшоў на той бок стала і сеў, загадкава пазіраючы на яго. У грубцы дагаралі дровы, гарачыня паменшала, і з дзвярэй пацягнула холадам, спіна Клімчанкі адразу адчула гэта. Лейтэнант зябка перасмыкнуў плячамі.

– Так, так. Не хочаш, значыць. Ну што ж, – напэўна, штосьці абдумваючы і расклаўшы на абрусе рукі, сказаў Чарноў.

У двары, чутно было, перагаворваліся салдаты, бразгалі дзверцы ў кабінах, недзе ахнулі два далёкія выбухі. Агеньчык у плошчы ціха, задуменна мігаў. Раптам ён рэзка хіснуўся, ледзьве не згасшы зусім, – ззаду стукнулі дзверы.

Чарноў зараз жа ўсхапіўся са свайго месца.

У зямлянку заявіўся той, доўгі, што прывёў яго сюды. Клімчанка, не паварочваючы, пазнаў яго па скураных брыджах – цяпер ён быў без шыняля – і марудліва падняў галаву. Чарноў нешта буркнуў, выскокваючы з-за стала, але Клімчанка не зразумеў ці недачуў; афіцэр перакінуўся некалькімі словамі з падначаленым і ўрэшце абыякавым позіркам бясстрасных вачэй працяў палоннага. Не зводзячы з Клімчанкі гэтага погляду, ён дастаў з кішэні партабак і шчоўкнуў ім перад самым ягоным тварам. Лейтэнанту вельмі хацелася закурыць, але гэтая бесцырымоннасць абражала, і ён адвярнуўся. Немец тады нешта коратка і строга заўважыў Чарнову, той у адну секунду падскочыў да Клімчанкі, і лейтэнант, перш чым зразумеў, што адбылося, паляцеў да сцяны. У левым вуху пры гэтым, здаецца, штось лопнула, і ў галаве загуў тугі хваравіты гул.

Калі ён, не спяшаючыся і чакаючы новых удараў, падняўся ля сцяны з падлогі, Чарноў адпусціў пальцы з кулака, якім толькі што садануў палоннага, і нягучна, скрозь зубы, вымавіў:

– Адмаўляцца ў немцаў не прынята.

Клімчанка ў думках вылаяўся і падумаў: «Вось дзе тваё

нутро адкрываецца, гадзіна паўзучая». З хвіліну ён стаяў ля сцяны пад позіркамі дзвюх пар розных вачэй. Было крыўдна і балюча, аднак не хацелася верыць у тое, што тут адбылося: так звычайна глядзелі на яго тыя вочы. Пасля высокі, усё ў тых жа чорных пальчатках, марудна падняўшы цыгарэту, мезінцам ашчадна строс з яе попел. Ён таксама не меў ніякіх адзнак злосці і выглядаў звычайным разважным чалавекам, такім, што можна было падумаць, нібы яны абодва жартуюць.

– Ты будзет выконвайт нямецкі бефёль1? – без пагрозы, звычайна запытаў немец.

– Я не здраднік!

– О! – толькі і сказаў немец-афіцэр і амаль неўпрыкмет, адным вокам падміргнуў Чарнову.

Той падышоў і зноў, не размахваючыся, па-баксёрску коратка, але дужа і балюча ўдарыў Клімчанку ў сківіцу. Лейтэнант зноў адляцеў ад сцяны – падаючы, зачапіў печку, у трубках зашархацеў, пасыпаўшыся з даху, пясок. Немец працадзіў «гут» і, сцяўшы тонкімі вуснамі каней цыгарэты, выйшаў з зямлянкі.

**5**

Як толькі дзверы за афіцэрам зачыніліся, Чарноў спакойна, нібы нічога кепскага між імі і не сталася, падышоў да Клімчанкі.

– Ну як?

– Сволач ты, а не зямляк! У душу табе кол! – сказаў лейтэнант, выплёўваючы на падлогу крывавую сліну.

Чарноў амаль без увагі на яго словы хітравата ўсміхнуўся.

– Не сярдуй! Глупства. Гэта так, для парадку. Інакш, сам разумееш, – начальства.

Ён падхапіў Клімчанку пад рукі, рыўком паставіў на

ногі, ботам падсунуў зэдлік – сядай! Лейтэнант на момант разгубіўся ад такога павароту ў іхніх адносінах, але сеў і скоса пазіраў на твар свайго ката. Шэрыя рухавыя вочы таго раз за разам засцярожліва лыпалі на дзверы зямлянкі.

– А ваабшчэ ты прабач. Сам разумееш. Даводзіцца. Інакш скамандуе, і ўсё: канец. Дык часам лепш ударыць. Праўда ж?

Гайдаючы на стале агеньчык, Чарноў пачаў хадзіць па зямлянцы, спыняючыся і разважна гамонячы да Клімчанкі. Здаецца, ніщто не здольна было вывесці яго з душэўнай раўнавагі, такі ён быў нетаропка-ўпэўнены, размераны, акуратна, нават элегантна апрануты. На яго стрыжанай пад бокс бялявай патыліцы варушылася ружовая зморшчына.

– Між іншым, табе выпала, можна сказаць, удача. Не кожнаму даецца такая магчымасць рэабілітаваць сябе. Перад немцамі асабліва трудна. Але яны гэта цэняць – магу запэўніць. З уласнага вопыту. Я таксама калісьці чакаў кулі. Такіх яны звычайна ўраз да сцяны. Разам з камісарамі. Прыйшлося даказаць што-колечы. І вось бачыш: замест кулі – мундзір. – Ён з мінутным задавальненнем абмацаў свой кароценькі фрэнчык з невялічкімі срэбнымі пагонамі. – Праўда, пры Саветах чын паболей быў, – даверліва паведаміў ён.

«Што за намёкі? Хто ён такі? Былы палітрук? Камандзір? Штабіст які-небудзь?..» – думаў лейтэнант.

– Дарма стараешся, – ваўкавата сказаў ён. – Не на таго напаў.

Чарноў раптам спыніўся і крутнуўся да Клімчанкі. Выраз ягонага твару не перамяніўся, толькі левае вока неяк нядобра акруглілася, і ён прыцішана, быццам для таго, каб не пачуў вартавы знадворку, сказаў:

– А ты таго... не дужа. Між іншым, выбар у цябе не вельмі багаты. Або ты выступіш, або ў зямлю ляжаш. Сёння ж.

Клімчанку пасля ўсяго, што здарылася, пагрозы маглі толькі ўзарваць, і ён усхапіўся з зэдліка.

– Ну і чорт з вамі! Страляйце! Усё роўна застрэліце. Што, да сваіх адпусціце? Сволачы!

Чарноў холадна ўсміхнуўся.

– Не гарачыся. Урэшце, мы можам зрабіць што трэба і без твайго ўдзелу.

Ён яшчэ пачакаў і, відаць, каб не стаяць так, грудзі ў грудзі з гэтым абарваным скрываўленым чалавекам, зайшоў за стол на сваё месца. Там з нейкаю шматзначнаю важнасцю ўзяў выняты з сумкі аркуш – спіс асабовага складу першага ўзвода аўтаматчыкаў.

– Камандзір першага аддзялення Галанога Іван Фаміч, яфрэйтар Апенкін Пётр Пятровіч, чырвонаармеец Сіязаў, Гаймадулін... імя па бацьку не прастаўлена – непарадак. Чыркоў, Фёдараў, Хіль. І так дваццаць два чалавекі. Выбыўшыя адзначаны? Адзначаны, а як жа. Ну вось. Адрас вядомы. Камандзір роты таксама вядомы – Арлавец. Астатняе – не бяда, і самі зробім. Толькі ты тады, вядома, злуй на сябе: без заслуг застанешся. Перад немцамі. А там заслугі за табой падвояцца. У квадрат узвядуцца. Зразумеў?

– Як гэта?

– А так. Падумай – зразумееш.

Клімчанка збянтэжыўся, ашаломлены яшчэ не да канца ўсвядомленай, але, безумоўна, нейкай вельмі нядобрай задумай гэтых сволачаў, і ва ўсе вочы глядзеў на Чарнова. А той, ужо змяніўшы свой ветліва стрыманы выраз на зацята афіцыйны, згарнуў спіс узвода і прыціснуў яго сумкай.

– Вось так! – сказаў ён, сеў і адкінуўся да сцяны. – Дык што рашаеш?

«Што яны ўздумалі? Што зробяць?» – білася ў галаве ўзводнага роспачная думка і паступова акрэслівалася

здагадка, ад якой аж кінула ў жар. Клімчанка ўскочыў і, хіснуўшыся, сігануў да стала.

– Не маеце права! Правакатары! Сволачы прадажныя!

– Ціха! – строга сказаў Чарноў і ўстаў. Рука яго цвёрда лягла на сумку, пад якой быў спіс– Ціха, лейтэнант. Спачатку раскінь мазгой. Не спяшайся, – закончыў ён з нейкім паказным шкадаваннем.

Клімчанка асатанела глядзеў яму ў вочы – шэрыя і ў гэты раз ужо халодныя і суровыя. Некалькі секунд яны так стаялі – адзін на адзін, раздзеленыя толькі сталом, і тады да ўзводнага ўпершыню прыйшло разуменне, што гэтыя людзі зробяць з ім усё, што захочуць.

Нейкі час абодва маўчалі. У зямлянцы стала прахладна, печка ўжо не свіцілася агністымі шчылінамі, скупа шарэла заклееная недарэчнымі плакатамі сцяна, на якой выразней адзначыўся галавасты, да столі, цень ад Чарнова. На дварэ, пэўна, цямнела; там чуваць былі леныя крокі вартавога; недзе далей, абыякавыя да ўсяго, гаманілі, смяяліся салдаты. Тоненька наігрываў губны гармонік.

«Сволачы! Што робяць, сволачы! І трэба ж было толькі ўчора адзначыць выбыўшых: забітых і параненых. Тухватулін, здаецца, толькі не адзначан. Ноччу падстрэлілі – не паспеў спісаць… Не, гэтага дапусціць нельга. Але як?..»

І ён зразумеў, што адзінае яго выйсце тут – схітрыць, што іх утончанаму варварству трэба проціпаставіць тонкую хітрасць. Аднак ён, чалавек адкрытай і простай натуры, адчуваў сябе да таго мала здатным. Галоўнае, самае асноўнае цяпер для яго быў спіс, і лейтэнант дужа выразна разумеў гэта. Яму цяжка было прымусіць сябе не глядзець на прыціснуты сумкай аркуш паперы, і ўсё ж ён кожнаю частачкай цела адчуваў яго там і ажно баяўся, што Чарноў мог па чым-небудзь здагадацца аб яго імкненні. Але нездарма, відаць, яго пасадзілі на сярэдзіне зямлянкі. Кінуцца да стала яму было цяжка – цяпер ён не адчуваў у сабе неабходнага на тое спрыту.

Трэба было прыдумаць іншае, і Клімчанка рашыў расцягнуць час.

– А што я павінен гаварыць там? – змрочным, але крыху раўнейшым голасам запытаў ён.

Чарноў варухнуў бровамі, коратка зыркнуў на яго і залапаў па стале рукамі.

– О, гэта вельмі проста. Прачытаць... Дзе ён тут у мяне заваліўся... Во. – Ён знайшоў сярод папер нейкі аркуш і, устаўшы, цераз стол сунуў яго Клімчанку. Лейтэнант раздумна агледзеў паперу.

«Дарагія грамадзяне, мае аднапалчане, – было надрукавана дробным шрыфтам. – Байцы і камандзіры... палка. (Іш, сволачы, і месца пакінулі, толькі прастаўляй.) Гэта звяртаецца да вас былы ваш камандзір (чырвонаармеец)». Зноў пропуск і шматкроп'я. Клімчанка зірнуў ніжэй, і там таксама ішлі пропускі – кропкі, усё звароты яшчэ чалавек да пятнаццаці з запрашэннем у палон. Тут жа меркавалася напомніць гэтым людзям іх канкрэтныя крыўды на Савецкую ўладу і пералічыць даброты палону – 700 грамаў хлеба, гарачы харч з кавай, кожнаму коўдра, свабода ад бальшавізму, па жаданню касцёл, кірха або царква для веруючых. Байцам, месца жыхарства якіх было занята немцамі, абяцаўся водпуск дахаты.

«Ладна распісалі. Складна, – падумаў Клімчанка. – Так добра, што і дурань не паверыць». Услых, стараючыся паспакайней, ён аб'явіў:

– Добра! Чорт з ім. Я згодзен.

– Ну вось і лады. Віншую! – Чарноў выйшаў з-за стала і пацiснуў яго руку вышэй локця. – Раскалоўся, і дабро. Ну ведама ж, які сэнс паміраць за нейкі там папяровы прынцып. Праўда? Значыць, так! – З задавальненнем, як ад завяршэння нялёгкае справы, ён пацёр рукі. – Значыць, так: па расейскаму звычаю абмыем гэтую справу. Як-ніяк – людзей жа ад гібелі ратуем. Гэта, брат, не здрада. Гэта доблесць!

Пружыніста прысеўшы на ладных, з высокімі заднікамі ботах, ён адхінуў доўгі, да падлогі, абрус-коўдру і выцягнуў з-пад стала жоўтую, накшталт чамадана, скрынку. Шчоўкнуў замок, адчынілася вечка, і ў скрынцы цьмяна бліснулі шыйкі бутэлек, нейкія пакункі ў зіхоткім цэлафане, банкі кансерваў. Дакладным, відаць, завучаным рухам Чарноў паставіў на стол дзве алюмініевыя чарачкі. Побач, пад сумкай, ляжаў імянны спіс узвода аўтаматчыкаў.

У Клімчанкі расшырыліся зрэнкі, калі ён убачыў тое, унутры ўсё сцялася і пахаладзела, мышцы на яго аслабелым целе напружыліся – усяго два-тры крокі аддзялялі яго ад паперкі, якая зараз магла крута перамяніць яго лёс. Тое, што здарылася цяпер, было так незвычайна, што аж не верылася. «Знарок гэта ці па дурасці?» – напружана спрабаваў вырашыць лейтэнант. Утрапёны свой позірк ён перавёў уніз, на скрынку, але скоса бачыў на стале сумку, і ўсё ўнутры яго ліхаманкава закружылася, з новаю сілай запульсавала ў жылах кроў – у лічаныя, вельмі кароценькія секунды трэба было рашаць.

– Вось мы зараз, як нашы, то есць вашы, кажуць, і абмыем пачатак твае новае службы. Каньяк! Мусіць, такога не піў? – З добразычлівасцю гасціннага гаспадара Чарноў баўтнуў нейкаю вадкасцю ў цёмнай бутэльцы і паставіў яе на стол.

На абрусе-коўдры ўжо ляжалі невялічкія банкі паштэту, пачак галет, загорнуты ў цэлафан кавалак каўбасы; да гэтага далучылася яшчэ і бутэлька. Чарноў, аднак, усё яшчэ мацаў у скрынцы. Здаецца, ён і не цяміў, што рабілася ў душы палоннага.

«Памылка ці правакацыя?» – свідравала лейтэнантаву галаву пытанне, і нейкі нябачны, але дужа настойлівы дарадчык увесь час зудзеў: «Давай! Хутчэй! Хутчэй! Ну што ж ты!..»

«Зараз... Зараз...»

Клімчанка ямчэй паставіў ля табурэткі свае ногі, крыху

схіліўся, каб спрытней было скочыць: адной рукой ён надумаў скінуць сумку, другой – схапіць спіс.

Чарноў тым часам выклаў на стол два салдацкія відэльцы, скляпаныя заадно з лыжкамі, і зноў запусціў руку ў скрынку. Клімчанка яшчэ бліжэй падабраў на падлозе ногі, угнуўся усім целам і – скочыў. Правай ён даволі спрытна адкінуў убок сумку, левая ж, скінуўшы каўбасу, ухапіла гэты шматок паперы. Чарноў няўцямна ўскінуў галаву і чамусыді, перш чым рынуцца на яго, цопнуў бутэльку, якая кацілася са стала. А Клімчанка адскочыў на крок назад і, ірвануўшы пячныя дзверцы, пхнуў да агню паперку. Разам з полымем, якое адразу ўсхапілася ў печцы, у ім успыхнула радасць. Але ў гэты час ззаду з нейкай істэрычнай весялосцю і незразумелаю бесклапотнасцю да яго ўчынку, зарагатаў, аж затросся, Чарноў.

Чагосьці не разумеючы, але ўжо адчуўшы бяду, Клімчанка вертануўся назад. Ён яшчэ не даўмеўся, што сталася, як Чарноў раптам абарваў смех; твар яго ўраз здзервянеў, ён сунуў руку ў кішэню штаноў і ледзьве не перад лейтэнантавым тварам матлянуў у паветры лістом паперы.

– Бачыў?

Той самы ягоны спіс, аказваецца, застаўся ў ворага.

У Клімчанкі штось абарвалася ўнутры.

– Дык вось яно як! Каго ты ўздумаў ашукаць? Каго?

Упіўшыся ў яго позіркам, Чарноў акуратна запіхнуў паперку ў нагрудны кішэнь, старанна зашпіліў гузік і зрабіў крок да палоннага У варожых расшыраных вачах пыхнула і згасла нялюдская злосць.

Пякельны ўдар у левую скулу, у правую, удар у падбародак, – здаецца, храснула сківіца, – звон, трэск у вушах, зыркі сноп з вачэй. Клімчанка адкінуўся да сцяны і, бескарысна спрабуючы затуліцца рукамі, хутка спаўзаў на падлогу. Цела само, без яго волі, старалася

сціснуцца, згарнуцца ў як мага меншы і тужэйшы камяк, каб як-небудзь вытрымаць страшэнныя ўдары – у галаву, у твар, у жывот, у грудзі... Чарноў біў люта і моўчкі, як можна біць толькі за асабістую крыўду, за ўласныя няўдачы, за непапраўнае зло ў жыцці – спаганяў усё на адным. Неўзабаве ў лейтэнанта зацяло дыханне, і ён захлібнуўся чорнай балючай каламуццю.

**6**

Ён зноў ачнуўся, як і там, у траншэі, ад нясцерпнай сцюжы.

Памяць яго з незвычайнай яснасцю ўзнавіла апошнія хвіліны свядомасці, гэты раз ён добра разумеў, што з ім сталася, толькі не ведаў, колькі мінула часу і дзе ён. Наўкола было цёмна, але калі ён павярнуўся вялізным намаганнем усяго балючага, пабітага цела, дык убачыў збоч ад сябе акенца – невялічкія светлаватыя квадрацікі памерам ледзьве не з карабок ад запалак. Ён абапёрся рукамі аб падлогу – далоні адчулі шурпатае жалеза абшыўкі, і тады ён здагадаўся, што ляжыць у машыне. Цела яго так калацілася ад сцюжы, што ён ледзьве валодаў ім, як-колечы перасільваючы шэраг суцэльных пакутных дрыжыкаў. Але холад між тым і асвяжаў, не даваў расслабіцца, напружваў усе мышцы. Клімчанка сеў, сцяўшыся, пасунуўся да сцяны; жалеза абшыўкі, угнуўшыся, грукнула, і ён зразумеў, што наўкола цішыня – была ноч. Яго заперлі ў машыне, мусіць, у якім «газен-вагене», каб назаўтра кудысьці павезці. «Але чаму кудысьці?» – нявесела падумаў ён. Пасля таго, што сталася там, у зямлянцы, выкручвацца яму ўжо болей, відаць, не прыйдзецца.

«Вось жа сволачы! Трэба ж было так абхітрыць! Вось табе і доблесць, дурань дубовы!» – лаяў сябе Клімчанка, прыціснуўшы да грудзей калені і локці і ўсё ніяк не могучы суняць дрыготкі. Твар яго быў суцэльнаю болькай, хісталіся пад языком кутнія зубы, левае вока ледзьве расплюшчвалася – так заплыло пухлінай. Яшчэ балела сківаца пад вухам – да яе нельга было дакрануцца.

Відаць кулачнага майстра, «землячок» пракляты, – з нянавісцю згадаў ён Чарнова. Няхай бы ўжо немец – не так бы і крыўдна было, а то ж свой, і з выгляду чалавек як чалавек. А як пад’ехаў! Як мякка слаў, ледзьве нават каньяку не выпілі. Вось табе і суайчыннік! І хто ён, гэты Чарноў? Відаць, і сапраўды кімсьці быў там, у нас, але, падлюга, і тут стаў чынам, надзеў афіцэрскі мундзір і вось – крывяніць морды сваім. Хоць такое, вядома, немцы ацэняць. Ім гэта трэба».

Наўкола стаяла сонная глухая цішыня. Недзе ўбаку, відаць, на дарозе, прафыркатала машына, ды, пэўна, з перадавой, данеслася некалькі далёкіх вуркатлівых кулямётных чэргаў. Але – дзіўная справа! – у гэтай цішыні не было спакою, яна здавалася напоўненай жахамі пачвараў, якія толькі да часу стаіліся, зніклі, падрыхтаваліся да новага, яшчэ больш жудаснага. Навучаны ўсім, што нядаўна з ім сталася, лейтэнант чакаў ужо самага найгоршага – канца, падрыхтаваў сябе да яго і толькі хацеў, каб ён настаў хутчэй і без вялікіх пакут.

А колькі разоў на вайне мінала яго пагібель, нават і тады, калі надзеі на жыццё ўжо не было. Гэта спакваля прывучыла яго да падсвядомай думкі, што самае жахлівае абыдзе, што ён уцалее. Увогуле тое дапамагала, ён перастаў асабліва засцерагаць сябе, болей дбаў пра людзей і пра справу, і смерць мінала яго. Так было ў кожнай бойцы, у кожнай, самай безнадзейнай сітуацыі. Але вось, здаецца, напаткала кашчавая і яго. І ўчапілася моцна.

Апанаваны дрыготкаю і наплывам сумных, клейкіх, як смала, думак, ён не адразу звярнуў увагу на новыя гукі, што нарадзіліся ў дрымотнай цішыні ночы. Спачатку яму здалося, што гэта размова недзе там, на дарозе, затым ён адчуў у ёй нешта дужа знаёмае, сваё, не нямецкае. Гэта адразу ўстрывожыла. Клімчанка выцяг шыю, услухаўся – здалося, быццам дзесьці, далёка-далёка, гаворыць радыё. Так калісьці да вайны было ў іх лагерах, калі пад выхадны ён, чырвонаармеец кулямётнае роты, стаяў вартавым на самым далёкім

пасту – складзе ГСМ, а ў сталовай круцілі карціну. Далёкія, ледзьве данесеныя ноччу гукі чалавечай гаворкі прабіваліся ў кузаў гэтай машыны. Клімчанка зацяў дыханне, што было магчымасці ўслухаўся і неўзабаве ад таго, што ўчуў, яго пранізаў жах.

Далёка, на перадавой, гаварыў дынамік.

Абапіраючыся аб настылае жалеза падлогі, Клімчанка рынуўся да дзвярэй. Тупы шырокі боль у баку адразу змусіў яго скрывіцца, зацяць дыханне, але ён дацягнуўся да цьмянай шчыліны ў парозе і абмёр. Дынамік гучаў з пераменнай гучнасцю, то затухаючы, то раптам выразна даносячы словы. Што яны былі рускімі, лейтэнант не сумняваўся, хоць спачатку не зразумеў сэнсу ніводнага. Ён зноў зацяў дыханне і тады пачуў – слаба, квола, але ўсё ж непапраўна выразна:

– …чырвонаармеец Круглоў, малодшы сяржант Агапіцін, яфрэйтар Цёмушкін…

Яны пералічвалі яго аўтаматчыкаў.

Ён усхапіўся на каленях, выцягнуўшы над галавой рукі, грукнуў імі ў дзверы, – жалеза гучна бухнула, – і ён з усяе сілы пачаў малаціць па ім і крычаць:

– Вы, сволачы, што вы робіце?! Што вы робіце! Эй, вы! Што робіце! Адчыніце! Адчыніце зараз жа! Не маеце права!

Але знадворку было па-ранейшаму ціха, ніхто не азваўся ў адказ, – здавалася, ніхто яго тут і не чуў.

– Адчыніце! Не маеце права! Што вы робіце, звяр’ё! Фашысты! Гады!

Ён біў і біў у дзверы, да адзервянення ў кулаках. Ад натугі з патыліцы зноў пайшла кроў, але Клімчанку ўжо не шкада было жыцця – перад найвялікшаю несправядлівасцю ў жахлівай сударзе зайшлося ягонае сэрца.

– Адчыніце! Адчыніце!

Не спыняючы стукату, ён пачуў, – нібы хтосьці з’явіўся там, знадворку; тады ён загрукаў і закрычаў мацней – бязладнае, задыханае, абразлівае – і ў хвіліну аслабелай знямогласці пачуў:

– Шыссен будэм дзелайт!

– Ага! Шыссен! Чорт з вамі! Страляйце! Страляйце, сволачы!

Знадворку заварушыліся, прыцішана загаманілі, – пэўна, раіліся. Дынамік удалечы ўсё гучаў, але задыханы Клімчанка ў кароткія прыпынкі свае барацьбы не мог разабраць нічога – так моцна стукала ў грудзях сэрца і біла ў скронях кроў. Ён толькі пачуў стрэлы там, на перадавой, – у адказ на прапаганду доўгія і кароткія чэргі «дзегцярова». Гэта абнадзеіла яго, акрыліла, і ён загрукаў мацней.

– Сволачы! Гады! Што робіце! Адчыніце! Не маеце права! Давай Чарнова сюды!

Ён і сам разумеў, што гэтыя словы яго – марныя, што аб якім там праве можна гаварыць з гэтымі людаедамі, але ён прагнуў пратэставаць, бо не мог зрабіць нічога іншага. І ён біў і біў кулакамі, біў здаровым сцягном, каленямі, незвычайнае душэўнае напружанне з нейкага запасу надало яму сілы. Часам знадворку злосна гыркалі немцы, пэўна, вартавыя; ён чакаў і – чорт іх бяры – гатовы быў прыняць іх чаргу праз дзверы, – гэта яго не спыняла.

Уся яго істота бунтавала, пратэставала, змагалася.

Колькі мінула часу ў той барацьбе – ён не заўважыў.

Урэшце ён знясілеў, крык яго стаў хрыплы і нямоглы, кулакі да крыві разбіліся аб жалеза дзвярэй і апухлі. Ён не заўважыў, як у яго будцы-кузаве развіднела, шэрая імгла расступілася і на падлогу з акенца лягла пляма нясмелага ранішняга святла; ярчэй заблішчала пад дзвярыма шчыліна. Ён усё біў і не чуў, як знадворак ажываў гамонкай новых людзей. Наўкола затупацелі

крокі, аднекуль прыехала і спынілася машына, і вось ля яго вуха шчоўкнуў замок-засоўка. Гэта было нечакана, дзверы расчыніліся, і ён ледзьве неываліўся з кузава.

Тады ён ураз аціх. На дварэ быў задуменны вільготны ранак, стыла ў тумане голае вецце алешын, кудысьці на корм пранеслася стайка вераб’ёў. У дзвярах стаялі і глядзелі на яго два немцы – адзін у касцы і з аўтаматам упоперак грудзей, другі проставалосы, у мундзірчыку, без шыняля. За імі перад гэтай жа машынай тоўпіліся і яшчэ па-рознаму апранутыя і розныя па ўзросту немцы, якія, аднолькава прыціхшы, з цікаўнасцю на тварах, як на якое дзіва, глядзелі на яго. Але ён не бачыў нікога – яго позірк толькі матлянуўся па гэтай варожай людской мешаніне і спыніўся на прыціхлай постаці Чарнова. Трохі непадобны на ўчарашняга, халодны і стрыманы, у высокай афіцэрскай фуражцы і падпяразаным шынялі, ён стаяў зводдаль, ля ўвахода ў зямлянку і, зябка засунуўшы рукі ў кішэні, пазіраў на яго. Ля яго пераступалі з нагі на нагу яшчэ два афіцэры – той, учарашні, высокі, у абшытых скураю брыджах, і нізенькі, вяртлявы чалавечак з чорным каўняром шыняля і ў пілотцы.

Клімчанка ўсё гэта ўхапіў адным позіркам, маўклівая паўза працягвалася не болей як дзве-тры секунды – зараз жа ён скочыў з дзвярэй і кінуўся да Чарнова.

Вядома, яго схапілі за рукі, скруцілі, заламалі іх за спіну, тузанулі. Ён спрабаваў ірвануцца, выкруціцца, толькі намаганні яго не здолелі процістаяць учэпістай сіле дваіх. Тады ён зноў закрычаў:

– Звяр’ё! Пусціце! Свалата фашысцкая! І ты – гітлераўскі прыхвасt. Сволач! Ублюдак!

Чарноў неяк шматзначна выцягнуў з кішэняў рукі і спаважна ступіў да машыны. Бліжнія салдаты расступіліся, а ён, несучы ў сваіх ужо проста сцюдзёных вачах нейкі намер, падышоў да Клімчанкі і два разы выцяў яго – па правай і левай шчацэ. Лейтэнант ірвануўся, закрычаў, але яго моцна трымалі. Тады з замутнелым ад бяссілля розумам ён ускінуў нагою і

ледзьве не выцяў у жывот гэтага чалавека. Той, аднак, ухіліўся.

– Абшнайдэн кнопфе![8]– кінуў ён некаму з салдат і адышоў на тры крокі назад.

Двое з тых, што з нядобрай цікаўнасцю глядзелі на ўсё гэта, падскочылі да яго. Адзін – рыжы ў сінім камбінезоне, пстрыкнуў вялікім раскладным нажом і збоку, каб засцерагчыся ад ног, тузануў яго за штаны. Другі аберуч абхапіў яго ногі. Клімчанка спачатку не зразумеў, што яны ўздумалі, тузаўся, толькі дарма. Той, у камбінезоне, разануў брызентавую папружку яго штаноў, пасля на зямлю адзін за адным пасыпаліся гузікі, адляцеў вырваны з ніткамі кручок.

– Сволачы! Гады! Што вы робіце? Забіце адразу. Ты, свалата! – закрычаў ён Чарнову– Страляй! Хутчэй, ну!

Чарноў кісла ўсміхнуўся, скоса лыпнуў на афіцэраў, што стаялі ля ўвахода ў зямлянку, і сказаў скрозь зубы – так, што пачуць і зразумець яго мог, відаць, адзін толькі палонны:

– Гэта для цябе задужа вялікая раскоша. Ты яшчэ папомніш мяне.

І, вярнуўшыся назад, да зямлянкі, нешта загаварыў з афіцэрамі. Высокі фанабэрліва варухнуў густымі белымі бровамі, нізенькі ж, яўна заінтрыгаваны, падышоў бліжэй, і некалькі часу Чарноў штосьці тлумачыў ім. Салдаты здаля ўслухоўваліся ў іх гамонку. Урэшце высокі сказаў «яволь», а нізкі зларадна зарагатаў.

– О, зэр гут, гер Шварц! Рускі капут!

Па нейкай камандзе тыя, што трымалі яго, пусцілі, – бяссільна скрыгануўшы зубамі, Клімчанка змушаны быў аберуч ухапіць сваю вопратку і трымаць так, каб пазбегнуць сораму. Наўкола рагаталі і ржалі дзесятка паўтара немцаў.

Урэшце Чарноў адышоўся ад афіцэраў, бліжэй да спражкі перасунуў на рамяні цвёрды кабур армейскага

«валыэра» і рыўком расшпіліў яго. Збоку да Клімчанкі падступіў салдат, той, што трымаў за рукі, другі, распрануты, бягом кінуўся некуды. Праз паўхвіліны, на хаду апранаючы шынель, ён вярнуўся з вінтоўкаю. Клімчанку штурханулі ў спіну і кудысьці пагаалі.

Канец.

Каторы ўжо раз за гэтыя суткі ўсёабдымнай тугою ахоплівала яго гэтая панылая думка, і каторы раз яна ўсё не праўдзілася. Але вось, здаецца, заб’юць. Ён падумаў тады, што яны зробяць гэта дзе ў раўчуку, далей ад людзей і гэтых машын, аднак трое ворагаў вывелі яго на ўчарашнюю сцежку і пайшлі туды, адкуль учора яго прывялі. Чарноў ішоў у пяці кроках наперадзе, увесь час маўчаў і не азіраўся. Ззаду, нешта перагаворваючыся і па чарзе цмыгаючы адзін недакурак, тупалі канваіры. З акрываўленай галавой, у адной гімнасцёрцы, клыпаў палонны, трымаючы рукамі штаны.

«Ну і зрабілі, сволачы! Не ўцячэш і не ўдарыш. Відаць вывучка!» – думаў лейтэнант пра Чарнова. У галаве яго хмельна кружылася, бінт зусім споўз з ілба і трымаўся толькі за вухам, гімнасцёрка на плячах была ўся запырскана крывёю. Ордэна на грудзях ужо не было, – відаць, учора выкруцілі ў зямлянцы.

Па схілах рова паўзло клочча туману, нізка навісла матава-шэрае неба, было золка. Да разгарачанага цела зноў пачала чапляцца дрыготка, і Клімчанка жадаў толькі хутчэйшага, хоць якога-небудзь канца.

**7**

Усё тым жа ўчарашнім шляхам яго павялі на перадавую.

«Што ім яшчэ трэба? Што яны ўздумалі, сволачы?!» – мацней за боль і за сцюжу дапякала пытанне. З роспачнаю нянавісцю ён сказаў на хаду Чарнову:

– Ты, сволач прадажная, хопіць вясці. Страляй ужо.

Чарноў павярнуўся і, прытрымліваючы рукою ліхтарык, скураным вушкам прышпілены на грудзях, зірнуў на яго з-пад нізкага, вільготнага казырка фуражкі.

– Страляць? Не, страляць я пачакаю. Я спачатку арганізую невялічкі спектакль. Ведаеш, як гэта ў нас, то есць у вас, кажуць: канцэрт самадзейнасці.

Так яны выйшлі з раўка ў нізіну. Трава вільгаціла боты. Навокал у шэрым туманістым мроіве ляжала золкая веснавая зямля – чорныя палосы ворыва, шэрыя паніклыя палеткі; светлымі ў падпалінах лапінкамі свінухі стракацелі пожні ля балацявін.

Не спыняючыся, перайшлі і нізіну. Чарноў маўчаў, толькі зыркаў з-пад казырка па баках; чуваць сталі блізкія стрэлы – аўтаматныя і вінтовачныя, але яны хутчэй сведчылі пра зацішша на перадавой, чым нагадвалі бой. Бою не было. Няпэўная цішыня панылаю невядомасцю прыгнятала лейтэнанта, але ад таго, што ён ішоў бліжэй да сваіх, трохі лягчэла на душы і чамусьці думалася: чым бліжэй, тым болей сілы надасца яму, хоць, ведаў ён, дапамагчы тут яму ніхто ўжо не здолее.

Учарашняй сцяжынкай яны дайшлі да пачатку траншэі, што, круцячыся па схіле, вяла на вышыню. Чарноў саскочыў у яе невялікую тут глыбіню і хутка пайшоў, па-ранейшаму цікуючы па баках. Наперадзе бухала ўсё бліжэй. Угары з тугім бзынканнем, заміраючы ўдалечыні, праносіліся кулі. Але гэта былі нашыя стрэлы і нашыя кулі, і яны нечаканаю лагодай аддаваліся ў сэрцы палоннага. Неўзабаве Чарноў дагнаў групу салдат – з узнятымі каўнярамі і нацягненымі на вушы шапкамі, яны зважліва прыціснуліся спінамі да сцяны, прапускаючы наперад афіцэра. У руках ва ўсіх былі плоскія алюмініевыя кацялкі, відаць, са сняданкам – на Клімчанку дыхнула пахам кавы, – даўні, паўзабыты пах, – і ад раптоўнага адчування голаду аж памутнела ў вачах.

Пад зацятымі поглядамі прыціхлых салдат ён пахіснуўся. Рукі яго па-ранейшаму трымалі штаны –

цёмна-сінія дыяганалевыя галіфэ, што дасталіся яму пасля іх апошняга ротнага.

Траншэя вілася па схіле і ўсё далей і далей лезла на вышыню. Чарноў, прытрымліваючы за казырок фуражку, пачаў патроху прыгінацца – недзе ўжо зусім блізка быў пярэдні край. Клімчанка гнуць галавы не хацеў, разы два выглянуў па-над брустверам, але хтосьці з канваіраў ззаду прыкрыкнуў, і Чарноў азірнуўся.

– Ану ніжэй! – строга сказаў ён, і Клімчанка пазлараднічаў у душы з гэтых клопатаў аб яго бяспецы.

У той жа час яго недаўменне ад незвычайнасці намеру гэтага ката ўсё ўзрастала; ён як ні намагаўся, не мог уцяміць, што з ім надумалі зрабіць. «Можа, яшчэ агітаваць прымусяць. Дык я ім паагітую. Папомняць, сабакі».

Але агітаваць яму не давялося.

Мінаючы здзіўленых яго паяўленнем, акалелых з ночы, часам яшчэ сонных немцаў, што сядзелі ў засланых саломаю стралковых ячэйках, яны дайшлі па траншэі да самае выспы – ледзь не ў тое месца, куды ён гэтак няўдала ўварваўся ўчора. Недзе зусім блізка, – пэўна, у тым самым рове, была яго рота; ад прадчування гэтай яе блізкасці ў Клімчанкі цеплынёю напоўнілася нутро. Яму стала незвычайна шкада сваіх, гэткіх усё ж недасяжна далёкіх хлопцаў. Цяпер для яго было найвялікшым шчасцем хоць бы адзін дзень пабыць з імі, схадзіць хоць бы яшчэ ў адну атаку. Ён бы не лаяў цяпер трошкі нерастаропнага, валюхатага, але па сутнасці неблагога Галаногу, забыўся б на ўсе свае крыўды на ротнага. Ён гатовы быў бы цяпер ісці з імі ў любы бой, у самае пекла. Калі б толькі апынуцца там. Але тое – нязбыўная ўжо мара...

Яны падышлі да кулямётнай ячэйкі ў траншэі, якая, відаць, ніжэй за іншыя спускалася да рова. На тупат іх ног з ячэйкі азірнуўся малады яшчэ кулямётчык – невялікі белабрысы хлапчына ў доўгім, запэцканым

глінай шынялі. Чарноў нешта сказаў яму. Кулямётчык, не адыходзячы ад свайго «МГ» на брустверы са стужкаю ў прыёмніку, здзіўленым позіркам лыпнуў на Клімчанку, пасля нешта крыкнуў, пэўна, суседу ў траншэі. Той таксама нешта пракрычаў, ззаду па траншэі нехта пабег, глуха затупаўшы ботамі і шорхаючы аб сцены палаткаю. Наўкола, скупа перегаворваючыся, збіраліся салдаты. Задымілі цыгарэты, і саладкаваты, незвычайна хмельны на сцюдзёным паветры дымок сваім пахам закружыў палоннаму галаву. Чарноў маўкліва чакаў, і ў Клімчанкі сцялася ўсё ўнутры – ён адчуваў, што зараз вырашыцца для яго ўсё.

Урэшце той, каго тут чакалі, прыйшоў. Гэта быў таўшчэзны, з заспанаю няголенай мордай, афіцэр, – мусіць, які гаўптман. Нахабна і незадаволена лыпаючы чырванаватымі вачмі, ён выслухаў тлумачэнні Чарнова, буркнуў сваё «яволь» і хрыпавата нешта загадаў салдатам. Тыя перадалі загад па траншэі.

Чарноў ляснуў сябе знятай з аднае рукі пальчаткаю і адступіў убок.

– Ну! Ідзі! – стаіўшы яўна нядобрае, кінуў ён Клімчанку.

Лейтэнант зразумеў, што той, самы апошні, час настаў, і быў гатовы як трэба сустрэць яго.

Але ён не зразумеў свайго ката.

– Куды?

– Туды, да сваіх. Ты ж хацеў, здаецца.

– Як да сваіх?..

– А проста. Вылазь і топай! Ну што, спалохаўся? Можа, не хочаш? Назад вернешся?

Што ён уздумаў? Страшны, незразумелы, загадкававы гэты чалавек-звер, што ён яшчэ падрыхтаваў? Смерць? Гэта вядома, але чаму так? Ну што ж... Хай! Можа, нават лепш так – на полі бою, перад вачыма сваіх... Хай!

Лейтэнант ступіў міма Чарнова, які стаяў са сцятымі сківіцамі і шырока раздзьмутымі ноздрамі, і грудзьмі пхнуўся на бруствер. Але траншэя была тут глыбокая, а рукі займалі штаны, і ён сарваўся, выцяўшыся аб броўку сківіцай.

Гэта было ганебна: ззаду, затаіўшы цікавасць, стаялі немцы, саплі, кырхалі, тупацелі ботамі – усе пазіралі на яго, і ён на момант бездапаможна сумеўся. Тады той малады кулямётчык, чыю ячэйку яны занялі, шчоўкнуў спражкаю свайго рэменя і, скінуўшы яго з доўгага шыняля, падаў Клімчанку. Пакутуючы ад сораму і прыніжанасці, лейтэнант нават не зірнуў на яго, машынальна падцягнуў і туга падперазаў штаны. Пасля, напружыўшы кожны мускул, скочыў грудзьмі на бруствер і вылез з траншэі.

– Зондэрпрывет там калегам, – неяк напаўжартам кінуў яму напаследак Чарноў, але Клімчанка нават не ўчуў яго.

Наўкола разлёгся шырокі прытуманены прасцяг – палеткі, зусім блізкі роў, крутаваты схіл з палеглым іржэўнікам і далячынь пад самае неба, з рэдкімі па раўчуках плямамі снегу. Гэтае прадсмяротнае прыволле нестрыванаю жалобай разанула ягонае сэрца. Ён не мог ні зразумець, ні адчуць нават, адкуль – ці з гэтага шэрага, маркотнага, але такога да болю вольнага прастору, ці, можа, з самай яго спакутаванай душы, – але раптам грымнуў у пачуццях нейкі дзівосны гімн вечнаму, вялікаму, нават святому, перад чым чалавек і ўсе яго клопаты сталі бязмежна нікчэмнымі. У нейкі кароценькі міг Клімчанка адчуў сябе мурашкаю і ўладаром адначасна, быццам з парога вечнасці на секунду зірнула ў яго твар вялікая, непазнаная ў жыцці сутнасць быцця. На некалькі кароценькіх секунд, страціўшы адчуванне сябе, як бы растварыўшыся ў небыцці, ён узнёсся над гэтым прасторам: вялізнай скрываўленай зямлёй, над траншэяй, ровам і нават уласнай хуткай пагібеллю.

Праўда, кароценькі позірк туды, назад ураз нізрынуў яго да зямлі, да сваёй гібелі, і ён, лічачы апошнія

імгненні, сышоў з бруствера.

Тады марудна, ужо з рэальным адчуваннем зямнога, развітваючыся з жыццём, пайшоў ад траншэі ў поле, туды, уніз да рова, чакаючы ўсім целам чаргі ці, можа, залпу і ведаючы, што ўсё скончыцца проста. Смерць дужа простая штука, на вайне ён пераканаўся ў гэтым і не баяўся яе даўно. Яму толькі хацелася цяпер не празяваць той апошні міг, адзначыць яго як кропку, як апошнюю мяжу яго жыцця.

Але стрэлаў ззаду ўсё не было, і ён ішоў далей. Вецер тугою хваляй штурхаў яго ў грудзі, трапаў на галаве валасы, і кавалак бінта ляскаў па шчацэ. Клімчанка сарваў яго і з акрываўленым клокам ваты адкінуў прэч. Чапляючыся за ржышча, перавязка заскакала на ветры.

«Ну, страляйце! Страляйце ж, сволачы!.. Дзе ж стрэлы?..»

Стрэлаў, аднак, не было. Тады ён спыніўся, пачакаў, азірнуўся. Скрозь па ўсёй траншэі над бруствeрам тырчалі, варушыліся каскі, ствалы вінтовак, тонкія рулі аўтаматаў. Відаць, тое, што ён спыніўся, не ўваходзіла ў іх разлікі, і некалькі галасоў закрычалі:

– Рус, шнэль! Дом, дом шнэль! – І смех – хрыплы салдацкі рогат.

Што ж яны не страляюць? Чаму не б’юць? Чаго яны чакаюць? Здзіўленне спакваля пачало перарастаць у трывогу, якую ўжо не магла заглушыць і безнадзейная самота гібелі. Устрывожаны, ён адчуў, што гэта не так сабе, што гэты Чарноў-Шварц нешта ўздумаў – ці не горшае за самую смерць? Але што? Узрушаны і збянтэжаны, ён цяпер не мог сцяміць таго. Ён толькі адчуў небяспеку ззаду, усё далей адыходзіў ад яе і ўсё прыбаўляў кроку. У той жа час ён быў цвёрда ўпэўнены, што з гэтага палетка яны не выпусцяць яго. Можа, міннае поле? Можа, тая гармата-шпокалка?

І ён ішоў. Вось ужо ўчарашняя дарожка з быльнёгам у канаўках, побач распластанае цела ў шынялі – хтосьці

іхні, але Клімчанка нават не зірнуў; непадалёк другі – з разматляным на спіне рыззём рэчмяшка – гэта ж Прошын. Клімчанка ўсё хутчэй шыбаваў уніз, уніз, да рова, увесь напружваючыся кожным нервам і чакаючы. Але яны там, на вышыні, маўчалі. Толькі прарываючыся пад вецер, яго даганялі абрыўкі гамонкі, рогат, і ўсю істоту лейтэнанта пранізвала недаўменне: чаму так? Няўжо... Няўжо Чарноў гэты – наш?

Гэтая думка канчаткова збянтэжыла яго.

Урэшце ён адышоўся настолькі, што забіць яго з першых стрэлаў стала ўжо не так лёгка. Ён зноў азірнуўся – не, за ім і не беглі, ніякага вераломства ззаду не было відаць. І тады ўсю яго істоту падхапіла надзея – жыць! Жыць! Жыць. Ён ірвануўся, што было сілы, вецер тужэй штурхануў у грудзі, але ён угнуўся, рынуўся наперад, ледзьве не паляцеўшы потырч, памчаўся зверху ўніз па палетку – хістка, няўпэўнена, ад слабасці амаль не валодаючы целам. І ўсё ж яго душа, неяк падсвядома, сама па сабе, як нейкага апраўдання, як праўды, як узнагароды за няпэўнасць, чакала ззаду стрэлаў.

Ды стрэлаў не было. Ніводнага. Аніадкуль. Вышыня замерла, стаілася, сціхла. Тады яго працяў раптоўны, не ўсвядомлены яшчэ ў свае прычыннасці жах – ён хіснуўся, аслабелыя ногі не адразу стрымалі яго. Няўцямным вар'яцкім позіркам лейтэнант глянуў уніз, дзе ўжо так блізка быў паратунак, і спыніўся.

Па ўсім беразе рова, з усіх рытвін і акопчыкаў-ровікаў тырчалі каскі, шапкі, натапыраныя каўняры аўтаматчыкаў. Ён яшчэ не ўбачыў ні іх твараў, ні позіркаў, – было яшчэ задалёка, – але нешта страшнае падсвядомаю сілай раптам перадалося яму. Ён раптам і вельмі выразна, як можа быць толькі за секунду да смерці, зразумеў, што ўсім тут ён – вораг.

Гэтае адкрыццё перуном ударыла яго, нешта ў ім ураз спарахнела, ногі самі кінуліся ўбок, ён, не ведаючы і не разумеючы, як і што здарылася і што рабіць, аббег па ржышчы крывуліну – безвыходную замкнёную пятлю,

яшчэ раз убачыў маўклівую вышыню і тады канчаткова зразумеў, што з ім сталася.

Зразумеўшы, апусціў рукі, галава яго сама апала на грудзі, і ён, хістаючыся ад ветру, паціху пабрыў у роў.

Клімчанка ні разу не ўзняў галавы, каб зірнуць, дзе сысці на абрыў, але нейкае бескантрольнае адчуванне вывела яго да прамыіны-раўчука ў беразе рова. Там ён убачыў чыесьці рукі на свежанакапанай зямлі, пустыя закапцелыя гільзы, рассыпаныя ў сухой траве, шматок газеты, прыбіты ветрам у быльнёг. Дайшоўшы да абрыву, ён бокам, каб не зваліцца, ступіў у яго, стрымліваючы сябе на нагах, сышоў уніз. Побач былі людзі, але ён не бачыў іх. Яны ўсе маўчалі; з-пад яго ботаў сыпалася і незвычайна шумна шархацела жарства. Незнарок неяк яго позірк натрапіў на валёнкі з рудымі старымі падпалінамі, і ён узняў голаў: насупраць стаяў Арлавец.

Страшны, чорны ад шчацілля твар ротнага, на якім, сцятыя бровамі, нядобра гарэлі вочы, не здзівіў яго і не спалохаў – лейтэнант знямела і абыякава зірнуў у іх гнеўную глыбіню. Ён не здзівіўся таксама, калі ў наступнае імгненне з балючым звонам у вуху паляцеў на зямлю – ён толькі захліпнуўся ад крыўды і, нібы затраўлены, загнаны воўк, зараз жа ўскочыў і выцяў па вуху ротнага.

Затым у яго ўсё адразу прапала – і крыўда, і злосць, засталося толькі ранейшае адчуванне бяды, якая так несправядліва абрушылася на яго і скінуць якую ўжо не было магчымасці. Ён моўчкі чакаў за гэтым ударам другога – больш дужага – або, можа, стрэлу ў спіну, грудзі. Ззаду і па баках стаялі байцы. Нехта з іх крыкнуў штосьці абразлівае, і іншыя падхапілі:

– Здраднік!

– Запраданец нямецкі!

– Прыйшоў за астатнімі!

Клімчанка чакаў гэтыя крыкі і разумеў іх; апраўдвацца, аднак, не было слоў, штосьці назаўжды зацялася ў яго душы і не было сілы саўладаць з найвялікшаю такой несправядлівасцю. Упершыню ў кароткім прасвятленні свядомасці мільгануў зразумелы цяпер да дробязей намер Шварца-Чарнова, і лейтэнант з новаю сілай адчуў, што, сапраўды, смерць цяпер для яго – раскоша.

Але чаму маўчыць, не б’е і не страляе ў яго Арлавец, чаго ён чакае, скамянела ўставіўшыся ў яго?

Лейтэнант узняў вочы і, сустрэўшыся з яго позіркам, раптам нечакана для сябе ўбачыў у ім амаль што разгубленасць. Здалося, ротны пра ўсё ўжо здагадаўся, прачытаў на скрываўленым твары лейтэнанта яго страшэнную бяду. У душу Клімчанкі адразу хлынула крыўда; на момант ён адчуў сябе такім вартым жалю няўдакам, што не ўтрымаўся і на момант згубіў усе сілы. Ён аслабела асеў на дол, зашчаміў між каленяў твар і выдавіў з сябе нечалавечы роспачны енк. Наўкола гнеўна гудзелі байцы.

– Ціха! – пакрываючы гаману, раптам закрычаў Арлавец. – Маўчаць! Калі ні д’ябла не разумееце!..

Тады людзі, нібы штосьці адчуўшы, хутка прыціхлі. Клімчанка пачуў лаянку і пагрозы, але ўжо скіраваныя немцам. Ад роспачы ён затаіў дыханне і зблізку ад сябе ўчуў знаёмы, такі па-добраму разважлівы голас Галаногі:

– Што ж цяпер зробіш! Стрывай як-небудзь...

Гэтыя памяркоўныя, разважныя словы сталага чалавека, з якім у лейтэнанта было столькі рознага – і благога і добрага, – неяк нечакана нібы паставілі ў ім штось зрушанае, збітае на месца. Можа, у іх адбіўся той заўсёдашні трудны Галанога, з якім нямала пазмагаўся Клімчанка, – непераборлівы, цярплівы, падаткі. Лейтэнант унутрана рвануўся ў пратэсце супраць гэтага «як-небудзь». Ён не хацеў «як-небудзь», – ён хацеў быць або ранейшым для іх, або ніякім. Пратэст гэты ахапіў яго, перамог усе іншыя пачуцці, лейтэнант з новаю

сілай, нададзенай яму злосцю, ускінуў галаву. Прага дасведчыць сваю невіноўнасць справаю ўраз успыхнула ў ім – гэта было выйсце.

Клімчанка вёртка ўскочыў, сігануў да згорбленага, у пакамечаным шынялі, Галаногі і тузануў за рулю яго аўтамат.

– Дай!

Галанога цяпнуў плячом, няўцямна міргнуў запалымі немаладымі вачмі, але праз момант апусціў руку і аддаў з пляча аўтамат. Клімчанка, схапіўшы яго, кінуўся на схіл. Раптам страціўшы вагу і, здаецца, розум, ён на карачках вылез з рова і па ніве рынуўся туды, угару, да вышыні.

Ззаду зрабілася ціха-ціха. Ён не азіраўся і не чуў нічога. Усе на абрыве нібы анямелі, і ніхто не затрымаў яго, не стрэліў, толькі праз момант хтосьці вылаяўся і затым над ровам узвіўся зычны малады голас тэлефаніста Капусціна:

– Сволачы! Гэта ўсё яны, сволачы!..

Неяк падспудна Клімчанка ўсё ж чакаў спачування, нават прагнуў яго, сам сабе не прызнаючыся ў тым. Гарачая расслабляючая хваля акаціла лейтэнанта з галавы да ног – і ён раптам адчуў, што ажыў, што ўваскрэс. А ззаду па ўмерзлай зямлі ўжо затупацелі ногі, – значыць, яго не пакінулі, паверылі; гэта вяртала яго да жыцця. Цяпер былі толькі немцы, быў праклятьı Шварц-Чарноў, і ўсё ў Клімчанку разгоніста імкнулася туды, да помсты або смерці.

Толькі гэтак жа раптам усё і перайначылася.

– Адставіць! Усе стой! Назад! – раўнуў ззаду голас Арлаўца, і ўжо амаль што выстраены на бягу ланцуг здрыгануўся.

– Клімчанка, назад! Усе назад! Бягом!

«Што гэта? Што гэта? Чаму так? Навошта?» – раптам

зноў з усёй сілаю запратэставала ў ім. Але за некалькі апошніх секунд ён паспеў ужо стаць часткай цэлага, як і ўсе, і мусіў слухацца гэтай каманды. І ён упаў. Немцы яшчэ не стралялі, рота – таксама, але зладны бег дзесятка людзей, што кінуліся за ім, ужо спыніўся, некаторыя пападалі, а некаторыя папляліся назад у роў, з берага якога крычаў Арлавец.

Тады, зноў аддаўшыся шчымліва-трывожнаму ў душы, Клімчанка ўстаў і, валочачы за почапку аўтамат, пайшоў па палетку ўніз.

**8**

Аўтаматчыкі дабягалі да рова і па адным знікалі за абрывам. Клімчанка, зноў абяссілены і панылы, з апалым сэрцам дайшоў да берага, дзе быў ротны, і адразу ўбачыў яго ўжо ўнізе, ля ручая, і з ім яшчэ некага ў белым паўшубку, з пісталетам у апушчанай руцэ. Абодва яны насцярожана глядзелі ўгару, на лейтэнанта.

Амаль фізічна адчуваючы варожасць іхняе маўклівасці, Клімчанка марудна пайшоў з абрыву. Знясілены, растрывожаны, у непадпяразанай гімнасцёрцы, без шапкі, са зблытанымі ветрам валасамі, ён тут асабліва востра адчуў сваю прыніжанасць і сваю бяду. І ўсё ж гэта было яшчэ не самае горшае. Самае горшае сталася, бадай, калі на сярэдзіне абрыву ён пазнаў у чалавеку з пісталетам капітана Петухова, афіцэра са штаба палка. Быццам укопаны, разрыўшы абцасамі глей, лейтэнант спыніўся.

– Пойдзеш у трыбунал! – змрочна сказаў Петухоў.

– Завошта? – ціха, пра сябе спытаў ён кагосьці, хто не мог адказаць яму, і выкрыкнуў мацней: – Завошта?

Але зноў яму ніхто не адказаў – ні Петухоў, ні ротны Арлавец, які, сцяўшы кашчавыя надброўі, змрочна глядзеў убок, ні аўтаматчыкі, што пасталі на абрыве скрозь па ўсім схіле і напружана сачылі за ім. Тады ён

скалануўся, зразумеўшы, што пастка за ім назаўжды закрылася.

– Завошта? Завошта? – закрычаў ён, ледзьве трымаючыся на голым крутым абрыве. – Завошта? Капітан, скажыце?

– Ладна, Клімчанка! Разбяруцца, – нязлосна сказаў Арлавец, зрабіў крок насустрач, але тут жа павярнуўся назад і стаў у баку ад Петухова.

«Разбяруцца!» Ён ужо ведаў, як гэта часам разбіраліся. Да таго ж ён убачыў, як Петухоў, прыўзняўшы пісталет, зняў курок з ахоўніка.

Клімчанка паволі апусціў рукі, аўтамат на почапцы дзёўбнуўся аб зямлю, і лейтэнант упершыню ўсвядоміў яго цяжар. У той час – мабыць, таксама ўпершыню – ёы выразна адчуў, што надзеі ўсе абарваліся і што ўсё назаўжды скончана.

– Ты перамог, сволач! – сказаў ён, бачачы перад сабой загадкава-лядзяныя вочы Шварца-Чарнова.

Сказана гэта было зусім ціха, але ў той цішы, што запанавала ў рове, яго ўчулі, і Петухоў крыкнуў гучней – нецярпліва і пагрозліва:

– Узяць яго!

Два прыведзеныя ім з каменданцкага ўзвода байцы нехаця палезлі на абрыў; бачна было, што яны прыкметна баяліся і ўвесь час засцярожліва паглядвалі на лейтэнанта. Лезці было нязручна, хлопцы коўзаліся і падалі, абапіраючыся на рукі. Клімчанка, нібы стараючыся нешта вырашыць і баючыся, што не паспее зрабіць гэта, нягучна прыкрыкнуў:

– Стой!

Байцы, не далезшы якіх дзесяці крокаў, спыніліся; адзін апусціўся на калена, другі стаяў, шырока адставіўшы ўбок нагу. Клімчанка трохі ведаў іх, калісьці ў Дворышчах яны разам адбівалі нямецкую атаку,

ратавалі штаб палка і палкавы сцяг, які тады ледзьве не трапіў да немцаў. Па пакутлівых выразах курносых твараў было відаць, што хлопцам вельмі непрыемна ўвязвацца ва ўсю гэтую справу. Да таго ж, відаць, яны пабойваліся яго.

– Стой, хлопцы! – мякчэй сказаў Клімчанка.

З нейкага нядаўняга часу ён пачаў спакайнець і чым далей, тым усё выразней разумеў, што адбываецца і што трэба рабіць. Гэта надало яму ўпэўненасці і душэўнай зладжанасці – здольнасці праз сілу перамагчы штосьці непераможнае ў сабе. Але ў гэты час Петухоў яшчэ нешта крыкнуў байцам і, трымаючы на вынасе пісталет, хуткім крокам пайшоў да абрыву.

За ім ступіў Арлавец.

– Пастойце! Вы што? У мяне ў дзевяць ноль-ноль атака! Вы ўлічваеце або не?

Петухоў не зірнуў на ротнага.

– Трыбунал усё ўлічыць! – пагрозліва прагучала ў трывожнай цішыні рова, і ў грудзях у Клімчанкі нешта безнадзейна заныла.

На хвіліну ў ім бліснула і згасла міжвольная ўдзячнасць к ротнаму. Але тут жа з’явілася думка: «Не трэба! Не ўпрошвай! Бескарысна!»

Петухоў далез да крайняга байца і з зацятай суровасцю на мясістым твары штурхануў яго ў каршэнь. Хлопец упаў на калені, устаў і палез вышай. І ў той час Клімчанка незвычайна абвостраным разуменнем адчуў сапраўдны, непазбежны, вялікі канец.

Каб не раздумаць, не даць у сабе аслабнуць чамусьці, як здалося яму, гранічна яснаму і адзіна магчымаму, ён перахапіў рукою аўтамат і ягоным нібы спецыяльна скошаным для таго дульным зрэзам ткнуў сабе ў грудзі.

– Стой! З глузду з’ехаў, ці што?!

Нехта з сілай ірвануў яго за локаць. Лейтэнант азірнуўся – то быў Галанога. Тады ў нейкім секундным праясненні Клімчанка зірнуў на сябе збоку і збянтэжыўся.

Сапраўды: гэта было куды як недарэчна, нават агідна – забіць сябе, калі ўжо цябе не забілі немцы. Марудна выспеўшая яго рашучасць была зрушана. Але што ж рабіць? Як быць далей? Лейтэнант выпусціў аўтамат, які цягнуў да сябе Галанога, і разгублена азірнуўся – на схіле рова, трывожна ўставіўшыся ў яго, стаялі байцы.

Ён так нічога і не вырашыў, як раптам недзе за ровам гулка ўдарыла ў паветры – раз і другі. У хмарным небе над галовамі аўтаматчыкаў з тугім шорхатам прайшлі снарады. Крэкнуўшы, яны разарваліся на вышыні. Праз некалькі хвілін павінна была пачацца атака.

Арлавец таропка зірнуў на гадзіннік у рукаве і рашуча ступіў да Петухова.

– Ты вось што! Канчай!

Петухоў недаўменна азірнуўся.

– Вы што?

– Анічога! Уматвай да д’ябла! У мяне атака! – змрочна сказаў Арлавец і, не чакаючы адказу, зычна падаў каманду: – Камандзіры ўзводаў, па мястах!

– Ах, так! – крута павярнуўся да яго Петухоў. – Пакрываеш? Каго пакрываеш, падумаў? Ты адкажаш за гэта!

– Ну і адкажу! – цераз плячо кінуў Арлавец. Відаць было, ён ледзьве стрымліваў сябе і ў іншы час не стрываў бы такога ўмяшання ў справы роты. Але цяпер у роце было ЧП, і тут шмат у чым ён адчуваў сябе звязаным.

Арлавец зноў зірнуў на гадзіннік і тужэй падцягнуў дзягу на сваім паўшубку. Пасля, нібы толькі заўважыўшы на схіле паныла-разгубленага Клімчанку, з

клапатліваю строгасцю прыкрыкнуў на яго:

– Чаго стаў? Ану, марш да ўзвода!

Клімчанка збянтэжыўся яшчэ болей – такім нечаканым здаўся яму гэты, па сутнасці такі звычайны, загад. Лейтэнант недаўменна зірнуў на Арлаўца: ці да яго той звяртаецца? Але памылкі не было – ротны загадваў яму; сказаў і пайшоў па ручаіне ўгору, на сярэдзіну ланцуга, нібы адразу забыўшыся і на яго, і на Петухова, які з помслівай зацятасцю хутка ішоў прэч па рове.

З гулкім сэрцам у грудзях Клімчанка павярнуўся да ўзвода.

На вышыні грымелі выбухі, угары ў хмарным сакавіцкім небе люта верашчала і выла. Байцы дакурвалі цыгаркі і, ахопленыя новым клопатам, таропка разбягаліся ў ланцуг па краі рова. Лейтэнант таксама ўзлез па абрыву наверх і лёг між байцамі. Яшчэ не верачы, што ўсё абышлося, што самая вялікая бяда мінулася, і прадчуваючы наперадзе труднае, ён марудна спакойнеў.

Між тым часу ў яго было небагата, камандзіры ўзводаў у ланцугу падавалі ўжо каманды.

Тады і ён, прыўзняўшыся на краі абрыву і некалькі больш гучна, чым было трэба, дрыготкім ад хвалявання голасам крыкнуў:

– Узвод, падрыхтавацца да атакі!

Нехта сунуў яму аўтамат, нехта паспешна скінуў з сябе і аддаў яму ватоўку. З нямою ўдзячнасцю ў душы лейтэнант прыняў усё гэта і азірнуўся. Некалькі ўбаку над абрывам узнялася прыземістая постаць Арлаўца. Ротны дастаў з-за пазухі пісталет і, узмахнуўшы ім, выскачыў з рова.

Рота аўтаматчыкаў пачынала атаку.

## Альпійская балада

### 1

Ён упаў, спатыкнуўшыся аб штосьці, і адразу ж ускочыў – адчуў: трэба хутчэй ад гэтага месца, ад забітага камандафюрэра; пакуль не спахапіліся, трэба недзе зашыцца, схавацца, а можа, і прарвацца з завода. Але ў віхурыстым пыле, які накрыў цэх, амаль нічога не было відаць, і ён ледзьве не сунуўся ў чорную прорву варонкі, дзе была бомба. Па краі аббег яму, каб не наляцець на што ў пыле, выцяг наперад руку, у другой напагатове сціскаючы пісталет, перакуліўся цераз вялізную, пэўна, вывернутую з зямлі бетонную глыбу, балюча аб штосьці ўдарыўся галёнкаю. Ускочыў ужо босы, калодкі недзе зваліліся з ног, і ён зразумеў, што гэта кепска – нагам стала вельмі балюча на закіданым друзам доле.

Ззаду тым часам пачуліся крыкі, у другім канцы цэха гулка разнеслася аўтаматная чарга. «Чорта з два», – сказаў ён сабе, адным махам пераскочыў абрушаную з перакрыцця жалезную ферму, узбег на пахілены, трохі не павалены прасценак. Пыл ад выбуху патроху стаў асядаць, рассейвацца, але яшчэ добра хаваў яго. Ён узбег на самы верх прасценка, тут ужо стала відаць наваколле; яго абдало ветрам, які хутка разганяў пыл. Па бетоннай рабрыне, утрымліваючы раўнавагу рукамі, каб не зваліцца, дабраўся да краю абвалу – наперадзе праз якія тры крокі была вышчарбленая сцяна знешняй агароджы, а далей за ёю, быццам нічога ў цэлым свеце не сталася, ціха тулілася ў зеляніне некалькі домікаў, і зусім блізка ўгары, на схіле, рукой падаць, зелянеў лес і Альпы: яго надзея, яго жыццё або смерць – яго лёс. Іван акінуў усё гэта кароткім позіркам, сунуў у зубы пластмасавую рукаятку пісталета і скочыў. У грабяні агароджы тырчалі вострыя жалезныя шыпы, ён ухапіўся за два з іх рукамі і, не марудзячы, рыўком перакінуў цела на другі бок. Скакаць, аднак, памарудзіў, апусціўся нагамі, каб было ніжэй, і тады адарваўся. Ён упаў на быльнёг, перахапіў у руку пісталет і з усяе сілы кінуўся па бульбоўніку ўздоўж

высокай драцяной загародкі.

Ззаду стралялі і крычалі, недзе далей усчаўся брэх аўчарак – гэта было найгоршае, але думаць, перайначваць што-небудзь ужо не выпадала. Некалькі куль правішчалі высока над галавой, і ён, бегучы, адчуў – гэта не ў яго, яго яшчэ не ўбачылі. Раздзіраючы пальцы на босых нагах, пералез цераз сетку загарадзі і па калючай шлакавай дарожцы яшчэ хутчэй прыпусціўся далей – усё ўгору, да блізкай ускраіны.

Тым часам выбух бомбы ў цэху ўстрывожыў людзей. З боку ад нейкага белага доміка з усіх ног беглі да завода два хлопчыкі; яны, на шчасце, не заўважылі яго, і Іван шыбаваў далей. Але вось наперадзе з-за кустоў акацыі ледзьве не пад ногі яму сунулася дзяўчына ў квяцістай сукенцы з палівачкаю ў руках. У вачах яе бліснуў жах, яна ўскрыкнула, і палівачка з бразгатам паляцела на дарожку. Ён моўчкі прамчаўся міма, выскачыў на шырэйшую ўскраінную вуліцу, зірнуў у адзін бок, у другі – вуліца была пустая. Іван перабег яе, прадраўся праз калючы гушчар пасадкі і тады ўпаў. Наперадзе дамоў ужо не было, на касагорыне спакойна ляжаў някошаны лужок – у бязветранай цішы драмалі рамонкі, лагодна гойдаліся мяцёлкі нейкай травы; далей і вышэй у раўках і распадках пачынаўся лес. Над усім у спякотным чэрвеньскім небе тоўпіліся шызыя груды Альпаў.

Стрымліваючы шалёны дых, Іван услухаўся. Ззаду даносіліся крыкі і стрэлы, сталі гучней екатаць аўчаркі, але гэта там, на заводзе, – за ім жа, здаецца, не гналіся. Рукавом паласатае курткі ён ацёр з твару пот, што заліваў вочы, прыўзняўся, намячаючы па лужку шлях угору; непадалёк прыкмеціў раўчук, што бліжэй падступаў да гарадка, туды ж па крутым схіле збягалі зверху рэдкія на ўзлеску ялінкі. І ён ускочыў.

Гэта было вельмі трудна, бо ногі сталі надзвычай непадатлівыя і вялыя, а цела налівалася ўсё большым цяжарам. На сярэдзіне схілу ён зноў азірнуўся. Сабачы брэх набліжаўся, секанула блізкая чарга, але куль ён не пачуў – значыць, яшчэ не па ім. Па іншых. Відаць, там

разбягаліся. Гэта аблягчала яго становішча, і ён упершыню падумаў пра хлопцаў. І першы раз балюча здрыганулася яго сэрца: наўрад ці ўцалеў хто, – мабыць, усе заплацілі сабой за яго волю.

Ён аслабела трухаў цераз узгорак. Ззаду як на далоні відзён стаў увесь гэты аўстрыйскі гарадок, пярэднюю палову якога займалі доўгія, быццам ангары, гмахі завода, у якіх сям-там чарнела праваллe і руіны ад бамбёжак; даўжэзная загародка-сцяна ў адным месцы была абрушана, ля яе ў канцы корпуса тырчалі пакарэжаныя фермы перакрыцця. І там, відаць было, сноваліў мітусіліся людзі. Ён прыгнуўся (ужо, калі ўкленчыць у траве, можна было схавацца за пагоркам) і так хвілін некалькі бег уніз, у раўчук, пакуль урэшце, затулены пагоркам, не выпрастаўся. Побач на касагорыне стаяў лес.

Аціраючы рукавамі твар, ён прыпыніў бег – далей шлях яго пралягаў па схіле травяністага раўка-распадка. Пад'ём тут зрабіўся яшчэ болын стромкі, побач між слізкіх камянёў шумна віраваў ручай. Іван шпарка ішоў, пакуль не дасяг першых рэдкіх ялін, і тады ззаду данёсся вельмі пабліжэлы сабачы брэх. Здавалася, гэта было зусім блізка, за пагоркам, і ён зноў знясілена пабег угору. Хоць бы як-небудзь паспець да лесу, у гушчар елак, там лягчэй схавацца, можна б як ашукаць даганятых або, калі ўжо не суджана вырвацца на волю, загінуць недарма.

Толькі дабегчы да лесу Іван не паспеў.

Ён лез па траве ўгору, мінаючы вялікія і малыя абломкі скал з рассыпанай навокал жарствою, і ўжо амаль дасягнуў хваёвага ўзлеску, як ззаду, вынырнуўшы з-за пагорка, гучна і раз'юшана забрахалі сабакі. Іван кінуўся ўбок, да маладой ялінкі, і, прыгнуўшыся, выглянуў між галін: цераз бугор, мільгаючы ў траве палавою спіной, па ягоных слядах імчалася аўчарка. Недзе за ёй хрыпата гаўкала другая; немцаў, аднак, не было відаць.

Тады ён азірнуўся, зразумеў, што да гушчару ўжо не

паспець, шырэй расставіў ногі і мацней сцяў у кулаку пісталет. Колькі ў магазіне было патронаў, ён не ведаў, лічыць іх цяпер не было калі, хоць ён і разумеў, што ў патронах яго паратунак. І ён на хвіліну расслабіў мускулы, стараючыся раўней дыхаць. Трэба было супакоіцца, сабрацца з сілаю, суняць сэрца ў грудзях, каб ударыць без промаху.

Сабака тым часам убачыў яго, заекатаў гучней, зласлівей, з задыханым змораным сапам і, выкідваючы папарна складзеныя лапы, сігаў угору. Стоячы за ялінай, Іван прыгнуўся, пазіркам адмераў якую паўсотню крокаў да вострага каменнага абломка ў траве і скіраваў туды пісталет. Аўчарка разгоністымі скачкамі набліжалася, прыцяўшы да галавы вушы, выцягшы хвост; ужо стала відаць яе разяўленая зяпа з высунутым языком і жоўтыя клыкі абапал. Іван зацяў дыханне, стараючыся як найлепей пацэліць, і, трошкі не падпусціўшы сабаку да каменя, стрэліў. У той жа міг зразумеў – прамазаў. Пісталет тузануўся ствалом угору, засмярдзела порахам, аўчарка завішчала з яшчэ болыпым імпэтам. Тады ён, амаль не цэлячыся, але фізічна адчуваючы напрамак яе страшнага бегу, паспешліва стрэліў другі раз. І раптоўна кароценькая радасць бліснула ў ягонай душы – сабака віскнуў, з шалёнага маху скочыў, перакуліўся цераз галаву і ў якіх дваццаці кроках ад яго забіўся, затузаўся ў траве ўсім целам. Ён тым часам ужо гатовы быў кінуцца ў лес, як тут жа згледзеў далей яшчэ аднаго – вялізны, з падпалінамі на баках ваўкадаў, шырока выкідваючы лапы, з дыхавічным сапам імчаў угору. За ім у траве валачылася-скакала доўгая раменная початка.

Усё ж Іван позна заўважыў небяспеку. Ён паспешна тыцнуў насустрач пісталетам, але стрэлу не было, – пэўна, штосьці заела. Тады ён тузануў пісталет да сябе, ляпнуў па затворы далоняй, аднак ваўкадаў ужо быў побач, хрыпата рыкнуў і скочыў. Іван, прыгнуўшыся, шаснуў за яліну, ваўкадаў пранёсся ля яго пляча, цяжка перакуліўся і з разяўленай зяпай вёртка скочыў назад. Іван, не ведаючы, як бараніцца, ускінуў насустрач рукі.

Гэта быў дужа імпэтны скачок, Іван не ўстаяў на нагах, пісталет выпаў, і яны абодва, чалавек і сабака, пакаціліся па зямлі. Здавалася, усё хутка скончыцца, але Іван у апошняе імгненне паспеў схапіць ваўкадава за ашыйнік і ў амаль нечалавечым напружанні рук не даў сашчапіцца на сабе ягоным зубам. Сабака дзерануў яго кіпцюрамі, недзе, трэснуўшы, разарвалася адзежына. Іван, аднак, з усяе сілы трымаючы аўчарку за ашыйнік, левай рукой схапіў яе за пярэднюю лапу і крутнуў. Так яны яшчэ разы два перакаціліся адно цераз аднаго і зноў апынуліся побач. Іван выкінуў убок ногі і стараўся як-небудзь узваліцца на ваўкадава, але той задышліва хакаў, шалёна рвучыся да яго, і Іван адчуў, што доўга так не ўтрывае. Тады ён у апошнім рашучым намаганні, у якое сабраў увесь спрыт, вертануўся на зямлі, злаўчыўся, перакінуў цераз сябе сабаку, каб самому апынуцца вышэй, і з усяе сілы даўлянуў яго каленам у скабіны. Той таксама тузануўся, ледзьве не вырваўшы з рукі ашыйніка, коратка екатнуў, але – адчуў Іван – пад каленам у яго штось нібы хруснула. Сабака прарэзліва завішчаў, чалавек, здзіраючы з пальцаў скуру, тужэй закруціў ашыйнік, і яшчэ намогся каленам. Аднак ваўкадаў віскнуў, падкінуў задам, ашалела тузануўся і вырваўся.

У Івана штось азвярэла ў душы, ён сцяўся, адразу ж чакаючы новага скачка. Але сабака не скакаў, распластаўся на зямлі і, выцягшы наперад тоўстую морду з вываленым набок языком, часта, зморана дыхаў і дзіка глядзеў на чалавека. У Івана, натруджаная ашыйнікам, пякуча гарэла правая рука, нервова торгаўся ад ператомы мускул у прадплеччы, ледзьве не выскоквала з грудзей сэрца. Ён таксама некалькі секунд, паклаўшы на траву дрыготкія рукі, стаяў на каленях і амаль не па-чалавечы, здзічэла глядзеў на сабаку.

Яны абодва ашалелымі вачыма сачылі адзін за адным, баючыся прапусціць адзін у другога першае жаданне скочыць. Іван да таго ж вельмі баяўся, што вось-вось з’явяцца немцы, і гэтыя некалькі секунд здаліся яму вечнасцю. Пасля ён падумаў, што ваўкадаў наўрад ці

кінецца на яго, і нерашуча падняўся на ногі. Не адрываючы ад ворага пільнага позірку, ён сігануў убок і схапіў з травы кавалак каменя. Ваўкадаў натапырыў хрыбціну, ударыў па зямлі хвастом, здалося, скокне, але ўсё ж не скочыў, – відаць, яму дасталося не менш, чым чалавеку, і ён ціхенька, бяссільна екатаў. Тады Іван болей рашуча ступіў назад яшчэ раз, ваўкадаў прыўзняўся, пасунуўся, почапка яго заварушылася ў траве. Аднак ён не пабег і не скочыў. Іван, бачачы гэта, яшчэ больш асмялеў і бокам хутка пасігаў угору да яліны, дзе быў пісталет.

Сабака заскавытаў ад бяссільнай ярасці, валочачы пакалечаны зад, аслабела прапоўз у траве і спыніўся. А чалавек ухапіў з травы браўнінг і зморана, наколькі дазваляла рэшта яго сіл, патрухаў па распадку ўгору, у яловы гушчар.

**2**

Яшчэ праз якіх пяць хвілін ён быў ужо ў лесе і бег уздоўж вірлівага, з празрыстай вадой, ручая. Лес тут быў чысты, без ламачча, бегчы, аднак, перашкаджалі частыя абломкі скал. Пад’ём таксама станавіўся ўсё болей круты і хутка забіраў сілы. Чакаючы і баючыся новай пагоні, Іван ускочыў быў у ручай, каб схаваць ад аўчарак след. Вада ледзяным холадам пругка ўдарыла ў ногі, да болю апякла ступні, і ён, прабегшы якіх дваццаць крокаў, выскачыў зноў на бераг. Ускарабкаўся на скальную кручу, тузануў, перазараджаючы, пісталет, – затвор выкінуў на камяні перакошаны патрон. Іван сагнуўся падняць яго і раптам абмёр – праз гаманлівае булькатанне ручая ззаду данеслася гамонка. Забыўшыся на патрон, ён таропка кінуўся ўгору, крышку ў бок ад ручая, на схіл распадка, пралез цераз гушчар маладога ельніку і, ледзьве спраўляючыся з дыханнем, апусціўся на чацвярэнькі.

Спачатку яму здалося, што скрозь было ціха, толькі зводдаль вуркатаў ручай ды шумелі верхавіны елак. Гэта падзьмуў фён, і ў небе з-за гор выплыў ускудлачаны акраек хмары – хутка насоўваўся дождж.

Іван насцярожанымі вачыма агледзеўся па баках, аббег позіркам каменне пад елкамі ўнізе – быццам нідзе нікога. Ён ужо хацеў бегчы далей, як ззаду да яго слыху даляцеў трошкі сцішаны, але настойлівы вокліч:

– Руссо!

Іван хіснуўся ніжэй, угнуў голаў – не, то быў не немец, а мусіць, які гефтлінг[9]. Але не хапала яшчэ клопатаў чакаць каго, тут хоць бы як выкарабкацца самому: ведаў з уласнага вопыту, як гэта трудна. Немцы, мусіць, паднялі ўжо трывогу і даганяюць – не так гэта проста ўцячы.

І ён з усяе сілы пабег, пакарабкаўся між камянёў і елак угору, наўкос па горным лясістым схіле. Ручай застаўся недзе ўбаку, гоман яго прыціх; мацней і выразней сталі шумець яліны; свежы вецер размашыста гойдаў іх верхавінамі; сонца схавалася; змаркатнелае неба ўсё далей і шырэй абкладвала мутная хмара. Было душна, куртка на спіне прамокла ад поту, паласаты берэт ён недзе згубіў і твар выціраў рукамі, увесь час сочачы за наваколлем і ўслухоўваючыся. Аднаго разу, пераводзячы дыханне, ён пачуў далёкае яшчэ, але настойлівае вуркатанне матацыклаў: тут недзе праходзіла дарога, і немцы, вядома, ужо ачаплялі раён. Ахоплены панылым прадчуваннем, Іван услухоўваўся, мяркуючы, як уцякаць далей, і ў той жа час па нейкім невыразным гуку адчуў, што ззаду хтосьці бяжыць. Гэта ўжо было дрэнна: можа, той зусім не гефтлінг, а немец! Іван адскочыў за імшысты камель елкі і шчоўкнуў ахоўнікам браўнінга. Тым часам матацыклы з усё большым трэскатам набліжаліся. «Абкладваюць, сволачы...» – мільганула думка. Іван азірнуўся, апусціўся за елкай на адно калена і прыўзняў сціснуты ў кулаку пісталет. Зноў унізе стукнулі па камянях крокі. Ён угледзеўся, зусім пэўна адчуваючы ў гушчары месца, дзе з’явіцца чалавек. Але нейкі час ніхто там не паказваўся, і Іван напружана чакаў. Урэшце на прагалак між дрэў унізе выбегла лёгкая паласатая постаць на выгляд быццам падлетка, азірнулася, жвава неяк кінула позірк угору і згледзела яго.

– Руссо!

Жанчына?! Гэта яго здзівіла і збянтэжыла, ён ледзьве не вылаяўся ад прыкрасці, але блізкі роў матацыклаў пераключыў ягоную ўвагу – яны ўжо былі побач, толькі вышэй. Іван вертануўся на зямлі, не ведаючы, куды падацца: між рэдкіх камлёў дрэў яго тут маглі лёгка ўбачыць зверху. І ён сігануў у неглыбокі вышчарбак-нішу пад крутаватай скалою, прыгнуўся, увесь ператварыўшыся ў спрыт і асцярогу. Паласатая постаць унізе на хвіліну знікла за краем абрыву, і ён не глядзеў куды – найболей асцерагаючыся матацыклаў, напружана слухаў. Але вось знізу праз дваццаць крокаў з-за каменя з’явілася дзяўчына ў доўгай, не па росце курткі з падкасанымі рукавамі і чырвоным трохкутнікам вінкеля на грудзях. Яна хутка зірнула па баках, і ён заўважыў, як пад шапкаю чорных, даўнавата не стрыжаных валасоў радаснай жвавасцю бліснулі гэткія ж чорныя, нібы дзве масліны, вочы.

-Чао!

Ён чуў ужо гэтае слова і зразумеў яго – так заўсёды віталіся гефтлінгі-італьянцы. Аднак цяпер, услухоўваючыся ў трэскат над галавой, ён змоўчаў, чакаючы, што яна вось-вось шмыгне куды ў схову. Але яна, здаецца, зусім безуважная да небяспекі, зноў азірнулася і таропка загаманіла па-нямецку, як зразумеў Іван, некага праганяючы ад сябе. Іван паглядзеў у падлесак – там, адкуль выскачыла дзяўчына, туліўся на каленях яшчэ нехта ў паласатым, але ён зараз жа шмыгнуў назад і прапаў у гушчары ельніку. Іван ужо хацеў кінуцца куды далей ад гэтых гефтлінгаў, як дзяўчына лёгка выскачыла з-за абрыву, нагнулася, таропка сунула ногі ў калодкі, якія дагэтуль трымала ў руках, і, заляскаўшы імі, падалася да яго.

Ён аж сцяўся ад страху. Матацыклы раўлі ледзьве не над іх галовамі, і яе недарэчна-паказная адвага гнеўна сцебанула яго напятае да болю адчуванне – іх жа так лёгка маглі тут убачыць. Іван, прыгнуўшыся, скочыў да дзяўчыны і за руку злосна рвануў яе пад скалу. Пры гэтым ён ціха, але бадай што з лютасцю вылаяўся. Яна

падатна і лёгка, ледзьве не ўпаўшы, шырока матлянулася за ім, адна яе калодка звалілася з нагі і, застукаўшы па камянях, адляцела прэч.

– Ой, клумпес! – сцішана ўскрыкнула яна.

Матацыклы адзін за адным, абдаючы іх трэскатам, праносіліся недзе зусім блізка, а яна, не зважаючы ні на іх, ні на яго відавочную злосць, вырвала руку і кінулася за калодкай. Іван не паспеў яе ўтрымаць, толькі скрыгануў зубамі. А яна тым часам, спрытна схапіўшы калодку, матлянулася назад, коратка, нібы вінавата, зірнула на яго, у яе вачах бліснуў азарт і неслухмянасць распешчанай зухаватай дзяўчынкі. І тады Іван, не справіўшыся з напятымі нервамі і ўзарваны спазнелаю злосцю, ляснуў яе па шчацэ.

Дзяўчына коратка войкнула, але не адхіснулася, толькі ўпала пад скалу побач і з-пад локця зірнула на яго ўгору вачыма, поўнымі не гневу, а нейкага гарэзнага здзіўлення.

Матацыклы – чуваць было – аддаляліся, і Іван адразу ж пашкадаваў, што не стрымаўся. А яна на момант засяродзілася, акругліла вочы, услухалася, здавалася, толькі цяпер усвядоміўшы, што ім тут пагражала, і, падцяўшы калена ў гэткай жа паласатай, як і ў яго, штаніне, насунула на ступню калодку. Пасля зноў зірнула на яго і, па-дзіцячы няўмела выгаворваючы словы, нібы картавячы, паўтарыла ягоную лаянку.

Гэта было так нечакана, як і яго аплявуха, і здалося Івану такім незвычайным, што ў ім нешта скранулася, зрушылася – нешта чалавечае на момант шыбанула ў яго заскарузлую ад гора душу, і ён упершыню за сённяшні дзень здзіўлена і шырока раскрыў свае вочы.

– Ого!

– Ого, – паўтарыла, быццам перадражніла, яна, пэўна паказваючы тым сваю прытворную крыўду, і быццам з некаторае нават цікавасцю паглядзела на яго, а ў вачах яе ўжо з’явіліся жвавыя, смяшлівыя іскаркі.

Чарнявая прыгажосць гэтай дзяўчыны і незвычайная яе адвага ў гэтым іх болей чым складаным становішчы збівалі яго з тропу.

– Ты куды бяжыш? – хутка і сурова кінуў ён, пазіраючы ў дол, на яе падцятыя ў калодках цыбатыя ногі.

– Вас?

– Вас, вас! Куды бяжыш?

– Руссо бежішь – іх бежішь.

Ён спадылба кальнуў яе злосным позіркам, аднак на ўсім яе твары адбіваліся ўвага і старанне зразумець яго – густыя чорныя бровы, што зрасліся над пераноссем, былі высока ўскінуты.

– Ты знаеш, куды я бягу? Я Русланд бягу. Зловяць – мнебудзе пуф, пуф. А табе гэта, – ён чыркнуў сабе пальцам па шыі і паказаў угору.

Яна зразумела, коратка ўсміхнулася, нават, здалося яму, чмыхнула: маўляў, што мне вісельня. І гэтая яе безразважная легкадумнасць амаль што раззлавала яго.

– Смялячка! Расхрабрылася! Ну і бяжы! Толькі без мяне.

– Конэчно! – мірна ўсміхнулася дзяўчына, і Іван падумаў, што яна не зразумела яго.

Ён памкнуўся быў запярэчыць, але ў гэты час убаку ад горада пачуліся крыкі і сабачы брэх, відаць, там кагосьці лавілі. «Чорт з ёй, з гэтай дзеўкай», – падумаў Іван. Трэба было прабірацца далей, і ён хутка палез па схіле.

**3**

Усё неба ўгары аблажыла шызая мутная хмара, мерна гойдаліся вяршаліны елак, лес устрывожана гуў, і першыя кроплі коса чыркanулі паветра.

Іван жвава, знарок не збаўляючы кроку, лез і лез між камлёў і камення, як цяпер заўважыў, пабліскваючы голым каленам праз прадраную сабакам штаніну. Мусіць, пакуль стаяў пад скалою, штаніна на сцягне недзе прысохла да раны, а пры хадзе ададралася, і рана цяпер забалела. Пазбіваныя аб камяні босыя пальцы на нагах таксама крывавілі, аб нейкую патарчаку ён балюча ўкалоў пяту, але зважаць на гэта не было калі.

Ззаду тым часам усё змоўкла, засцігнутая дажджом небяспека недзе стаілася, адстала, за імі пакуль не чутно было ніякай пагоні. Але яна павінна была азвацца. Іван ведаў, што немцы іх так не пакінуць, пэўна, яны паднялі ўжо на ногі ўсю ахову, паліцыю, сабак. Гэта было дужа нялёгка – уцячы, хіба што ім паможа дождж, калі схавае, заглушыць крокі, змые сляды. Вострым, нервовым позіркам Іван усё ўзіраўся праз рэдзенькую, яшчэ прытуманеную сетку дажджу і вельмі асцерагаўся, каб не налезці на якую засаду. Яшчэ ён час ад часу лавіў ззаду стукат крокаў сваёй спадарожніцы, яна адставала, часта губляла з ног то адну, то другую клумпес і пасля подбегам даганяла яго. Тады некалькі хвілін побач чулася яе блізкае, частае ад стомы дыханне, неўзабаве, аднак, яна зноў знікала.

Ён стараўся быць абыякавы да яе; калі б яна адстала зусім, мабыць, уздыхнуў бы з палёгкай, але ўсё ж пакуль яна была тут, паблізу, не мог пакінуць або прагнаць яе і пайсці адзін. Ён толькі думаў: і адкуль яе, на ліха, прыбіла да яго! Глядзі ты – вырвалася з завода, дагнала, ужо нашто ён хутка шыбаваў, а вось не адстала ж. Хоць ён нямала часу патраціў на сабак, добра яшчэ, што прамарудзілі, не наляцелі на той раўчук немцы. Дожджык тым часам усё гусцеў, усё шчыльней ахутваў лясістыя горы цёплы туман – гэта радавала яго, так лягчэй было зашыцца ў лесе, схаваць свой след ад сабак, як мага далей адысці ад горада.

Толькі пад дажджом ісці было дужа нязручна: ушчэнт мокрая куртка агідна абліпала цела, штаніны таксама вымаклі ад нізу, і ён падкасаў іх, як, бывала, касцы – да калень. Спачатку ён з задавальненнем падумаў, што

пад дажджом прытушыцца, пацямнее яго паласатая, бачная здалёк стракатасць. Гэта і сапраўды сталася, толькі праклятыя кругі мішэняў, намаляваныя клеявой фарбай, па-ранейшаму тапырыліся на грудзях, зусім не моклі і сталі яшчэ прыкметней на прыцямнелай куртцы.

Так мінула гадзіна ці болей, калі, прадзіраючыся праз мокры хваёвы падлесак з туга напятымі між галін струнамі павуціння, у якім дрыжалі драбнюткія кроплі вады, Іван убачыў дарогу. Гладкая, блішчастая ад непагоды паласа яе лёгка загіналася на павароце і знікала ў гарах. Ён спыніўся, услухаўся, – здаецца, дарога была пустая. Тады ён азірнуўся – дзяўчына, адхінаючы ад твару мокрыя хваёвыя галінкі, зводдаль прабіралася да яго. Трэба было пачакаць яе і дарогу перайсці разам, інакш яна адна магла зрабіць штосьці не так і яшчэ выдаць абаіх.

Яна падышла і стомлена спынілася побач, таксама заўважыла дарогу і ўжо з большаю асцярогаю, чым упачатку, паставілася да небяспекі. Ён коратка слізгануў позіркам па яе мокрай паласатай куртцы, якая шчыльна абляпіла гнуткі, тоненькі стан, маленькія вострыя грудзі, і зноў ваўкавата паморшчыўся – так гэта не дастасавалася да таго рызыкоўнага становішча, у якім апынуліся яны. Яна ж, відаць, рада была супынку, аддыхвалася, узяўшыся рукой за вяршаліну сасонкі, другой выліла з калодак ваду і стомлена, хоць і не дужа клапотна, уздыхнула.

Ён, адчуваючы побач яе рухі, цярпліва перачакаў яе турботы і тады рушыў бліжэй да дарогі. Яна, прыціхлая і, пэўна, змораная, падалася за ім.

Ля дарогі ён зноў спыніўся, укленчыў за каменем, паўзіраўся, пасля ўстаў, выскачыў да забетаніраванага кювета. Поўны спрыту і адчування небяспекі, прыгнуўся, гукнуў: «Ідзі сюды!» – і падаў ёй руку. Яна без слоў ухапілася за яго пальцы, скокнула, глуха стукнуўшы аб бетон калодкай. Ён коратка кінуў: «Скідай!» Яна здагадалася, зняла дзеравяшкі і падхапіла іх свабоднай рукой.

Так, пабраўшыся за рукі, яны выбеглі на мокрыя бетонныя пліты дарогі. Дожджык дробненька сыпаў і хутка змываў мокрыя іх сляды. Яны перабеглі на другі бок, і ён выпусціў яе руку. За кюветам яна адразу, відаць, накалолася нагамі на шчэбень, войкнула, узмахнуўшы ў паветры рукой, сунула ступні ў калодкі і па схіле хутка палезла за ім угору.

Схіл, аднак, тут быў крутаваты, з абрывістымі кручамі, парослы крывымі маладымі сасонкамі, праз вяршаліны якіх, колькі яны ні лезлі, усё відаць была ўнізе блішчастая дуга дарогі. У гэты час ён ужо і не дужа стараўся вытрымаць тэмп, замарыўся сам, ды і яна – адчуваў – ужо на мяжы сваіх, пэўна, не дужа багатых сіл. Неяк на вельмі стромкай мясціне, якую ён пераадолеў, і, утаймоўваючы зморанасць, з-пад разложыстай сукаватай сасны глядзеў, як карабкаецца яго спадарожніца, адна калодка яе звалілася з нагі і па камянях шпарка пакацілася ўніз. Яна каратка ўскрыкнула: «Парка мадонна», азірнулася і села, пэўна, не наважваючыся ад стомы спускацца назад. Але ўсё ж неўзабаве палезла ўніз, кульгікаючы на адной назе, падабрала калодку і зірнула знізу на Івана. У гэтым яе позірку ён улавіў супакоенасць і ціхую ўдзячнасць за тое, што без яе не пайшоў. Ён прысеў між пакручастых каранёў на сухі, калючы дол, пачакаў, пакуль яна вылезла з-пад кручы і стомлена ўпала побач.

– Кінь ты іх к чорту, – сказаў ён, маючы на ўвазе калодкі.

Яна, не разумеючы, зірнула на яго, тады ён паказаў на яе клумпес і махнуў уніз. Яна, відаць, здагадалася і адмоўна пакруціла галавой, паварушыўшы прытым сваёй маленькай, мокрай, як здалося яму, дужа далікатнай ступнёй. Ён адразу зразумеў недарэчнасць свае парады, таксама як і тое, што яшчэ дадуцца ёй у знакі гэтыя вялікія, не па назе, дзеравяшкі.

Але і яго ногі, паколатыя на камянях і суччы, аж гарэлі знізу, асабліва дакучала ў хадзе левая нага. Цяпер міжвольна прадаўжаючы хвіліну адпачынку, ён вырашыў паглядзець, што там, зазірнуў на вымытую

дажджом падэшву.

– Руссо очен, очен фур’ёзо? Как ето дойч?.. Бёзе![10] – раптам сказала дзяўчына.

Іван за год палону збольшага навучыўся разумець па-нямецку, зразумеў, пра што сказала яна, але адказаў не адразу. У пяце была стрэмка, хлопец паспрабаваў выцягнуць яе, ды мізэрны кончык ніяк не даваўся ў пальцы.

– Бёзе! Будзеш бёзе, калі смалены певень клюне, – неласкава сказаў ён і дадаў ужо для яе: – Які там бёзе? Я гут.

– Гут?

Яна ўсміхнулася, аберуч прыгладзіла мокрыя, блішчастыя свае валасы і, цeрануўшы аб штаны далоні, на каленях падалася да яго.

– О, дай!

Ён усё не мог узяцца за канец стрэмкі, і яна лёгенька і надзіва проста, па-таварыску прыгнулася, сцюдзёнымі тонкімі рукамі ашчаперыла яго вялізную ступню, пакалупалася ў ёй пальцамі і, раней чым ён паспеў даўмецца навошта, зубамі шчыпанула падэшву. Ён нерашуча тузануў нагу, але яна ўтрымала, зубы яе казытнулі па тоўстай скуры пяты, і, калі яна неўзабаве выпрасталася, у белых раўнюткіх яе зубах тырчала маленькая чорная стрэмка.

Іван не здзівіўся і не падзякаваў, а, падцяўшы нагу, зірнуў на пяту, пацёр, паспрабаваў наступіць – стала, здаецца, лепей. Тады ён з ужо большай прыязнасцю, чым дагэтуль, паглядзеў на дзяўчыну, на яе мокры, смуглы і зноў ажывелы твар. Яна не адвяла ўсмешлівага сустрэчнага позірку, пальцамі ўзяла з зубоў стрэмку і пстрыкнула яе на вецер.

– Спрытная, ага, – стрымана, быццам не жадаючы прызнаць вартасці дзяўчыны, сказаў ён.

– Спі-рі-тана-я, – весела паўтарыла яна і спытала: – Что есть спірітаная?

Ён унутрана ўсміхнуўся і пацерабіў пяцярнёй сваю мокрую стрыжаную патыліцу.

– Як табе сказаць?.. Ну, вобшчам, гут.

– Гут?

– Я. Гут.

– Ду гут, іх гут[11], – радасна сказала яна і засмяялася.

А ён, нібы штось прыпамінаючы або ацэньваючы, даўжэй, чым дагэтуль, паглядзеў на яе. Але яна адразу спахапілася ад кароткай сваёй весялосці, зябка здрыганулася, і ён падумаў, што трэба ісці. Вельмі ўжо не хацелася вылазіць на макрэдзь з-пад гэтай сухой разложыстай сасны, і ўсё ж ён мусіў устаць. Дождж дружна сыпаў навокал, аднастайна шапацеў лес, мусіць, непагадзь сапсавала немцам аблаву – гэта ўжо абнадзейвала. Невядома, колькі зняволеных прарвалася ў горы, але, можа, хоць каму-небудзь пашчасціць. Івану ўспомніўся той трэці гефтлінг, што ледзьве не далучыўся да іх, і хлопец, перш чым ступіць з-пад сасны, павярнуўся да дзяўчыны, якая вытрасала свае калодкі.

– А хто гэта бег за табой?

– Бежаль, да? Гефтлінг. Тэдэско гефтлінг[12].

– Што, знаёмы? Таварыш?

– Нон таваріш. Кранк гефтлінг. Болной. – Тоненькім пальчыкам яна дакранулася да сваёй скроні.

– Дурны?

– Я.

«Глядзі, з ёй можна дамовіцца!» – задаволена падумаў Іван і адвёў ад яе свой позірк. Чамусьці па-ранейшаму

няёмка было глядзець у яе глыбокія, шырока расплюшчаныя вочы, у якіх так зменліва адбіваліся, жылі разнастайныя яе пачуцці.

– Ладна. Чорт з ім. Пайшлі.

Здаецца, яны добра ўжо адышліся ад лагера, немцы, мусіць, іх упусцілі. Напружанне ў душы крыху зменшылася, і Іван, нібы зводдаль, са здзіўленнем азірнуўся ў думках на тое, што сталася ў гэты шалёны дзень.

**4**

У той дзень зранку пяцёра іх у паўразбураным начною бамбёжкай цэху выкопвалі неўзарваную бомбу

Яны былі гефтлінгі, дакладней – флюгпункты. Надзея выжыць тут, у лагеры смерці, амаль што канчаткова пакінула іх, і адзінае, што яшчэ турбавала іх розум – гэта ў апошні раз рызыкнуць вырвацца на волю ці, як казаў самы языкаты з іх – маленькі чарнявы хлапец па мянушцы Жук, – ужо калі пакідаць гэты свет, дык раней грукнуць дзвярыма.

Не дужа бяспечная і зусім нялёгкая праца тая тым не менш набліжалася да заканчэння.

Падважваючы бомбу ламамі, яны ўрэшце высверылі яе з-пад друзу і, прытрымліваючы за пакарэжаны стабілізатар, асцярожна паклалі на земляныя камякі ў яме. Далей было самае рызыкоўнае і самае важнае. Пакуль іншыя, стаіўшы дыханне, замерлі па баках, рукасты дзяцюк у паласатай, як і ва ўсіх, куртцы з каляровымі кругамі на грудзях і спіне, былы чарнаморскі марак па прозвішчу Галадай, накінуў на ўзрывальнік спецыяльны для такой справы ключ. Ад натугі на яго голых да локцяў мускулістых руках надуліся жылы, праступілі вены на скронях, і ўзрывальнік патроху падаўся. Галадай яшчэ разы два павярнуў ключом, а затым прысеў на калені і пачаў хутка выкручваць узрывальнік рукамі. Гэта была,

вядома, няспраўная штуковіна, моцна пакарэжаная пры ўдары аб зямлю. У такім стане яна не магла саслужыць свае страшнае службы бомбе, спушчанай мінулай ноччу з амерыканскага «Б-29» або англійскага «Маскіта», якія ледзьве не дашчэнту разнеслі гэты заціснуты ў Альпах аўстрыйскі гарадок. Але пры бракоўным узрывальніку бомба была спраўная і прадаўжала таіць у сабе пяцьсот кілаграмаў трацілавай сілы, на якую і разлічвалі пяцёра смяротнікаў. Як толькі адтуліна ў бомбе аслабанілася, да Галадая схіліўся Жук. Ён дастаў з-пад курткі новенькі з выгляду ўзрывальнік, здабыты ўчора ад сапсаванае, з адбітым стабілізатарам бомбы, і худымі нервовымі пальцамі пачаў укручваць яго ў адтуліну на месца ранейшага.

Хлопец, аднак, спяшаўся, не трапляў у разьбу, жалеза лязгала, і Іван, каб хто не набрыў на іх, прыўзняўшыся ў сваіх калодках, зірнуў цераз накапаную зямлю ў цэх.

Але паблізу, здаецца, усё было ціха. Зверху над імі навісалі пакарэжаныя фермы падстолля, са шматлікіх праломін у даху коса цадзіліся на дол стромкія пукі святла, было душна, сонечна і пыльна. Далей за радам бетонных апор, у падсвечаным сонцам пыле, з рэдкімі воклічамі і глухім гоманам варушыліся, снавалі дзесяткі людзей, што расцягвалі завалле і разбіралі руіны. Там жа цяпер былі і эсэсманы, якія не дужа любілі цікавіцца справамі абясшкоджання бомбаў і звычайна трымаліся воддаль.

– Ну, сволачы, цяпер чакайце! – сцішна, з ледзьве стоеным, гатовым прарвацца запалам сказаў Жук.

Галадай, устаючы ад бомбы, буркнуў:

– Памаўчы. Раней скокні.

– Нічога, браткі, нічога, – выціраючы спатнелы лоб, сказаў у куце Янушка, былы калгасны брыгадзір, цяпер аднавокі гефтлінг, аздоблены мішэнямі за тры спробы ўцячы на волю.

Па натуры ён быў з аптымістаў, калі толькі імі яшчэ

маглі быць палонныя ў лагеры, і, нягледзячы на выбітае вока і адбітую селязёнку, заўжды і ўсіх падбадзёрваў – і тады, калі падгаворваў людзей уцячы і калі ў абшкуматанай аўчаркамі вопратцы, скатаваны, пад канвоем вяртаўся ў лагер.

Так выказалі яны свае адносіны да таго, на што наважыліся, апроч хіба Срэбнікава, які, прывычна пакашліваючы, стаяў збоч, ля земляной сцяны, ды яшчэ Івана. Срэбнікаў з самага пачатку ўсю гэтую задуму прымаў без энтузіязму: вядома, чалавеку ўжо мала было радасці нават у выпадку ўдачы – хутчэй за лагерны рэжым і рэпрэсіі яго дабівалі сухоты. Іван жа Цярэшка быў проста маўчун і не любіў залішне гаварыць там, дзе і без таго ўсё было ясна.

Галадай тым часам абцёр далоні аб матрацна-паласатыя штаны і зірнуў на людзей – вядома, завадатарам усяго тут быў ён.

– Хто ўдарыць?

На секунды яны ўсе прыціхлі, утаропілі ў дол позіркі, ніякавата абмацваючы імі доўгую сігару паўтоннае бомбы з разгоністымі драпінамі на зялёных баках. Ад гэтага, мабыць, самага найбольшага клопату ўсім стала няёмка. Засяродзіўся невясёлы, з сівым шчаціннем на запалых шчоках Янушка; знерухомела, прытушылася нервовая рашучасць у зыркіх вачах Жука; Срэбнікаў дык нават аж перастаў кашляць, апусціў уздоўж плоскага, як дошка, цела рукі, і погляд яго стаў зусім ужо нясцерпна тужлівы. Відавочна было, што пытанне гэтае, аб якім з самага пачатку ўсе думалі, турбаваліся і маўчалі, пакутна вырашаючы кожны пра сябе, прымусіла цяпер усіх зацяць у душы балючы, трывожны сум.

Буйнатварае аблічча Галадая, аднак, выражала суровасць і няўхільную рашучасць.

– Дабравольцаў няма, – змрочна заключыў ён. – Тады пацягнем.

– Ага. Так лепш, – страпянуўся і падступіў бліжэй да завадатара Жук.

– Што ж, пацягнем, – пагадзіўся Янушка.

Стрымана, але, здаецца, з палёгкай кашлянуў Срэбнікаў. Цярэшка моўчкі адным ударам увагнаў у зямлю канец ломіка. Але Галадай, ляснуўшы сябе па сцягне, зазначыў:

– Пацягнеш тут... Ні запалкі, ані саломіны.

Ён роздумна азірнуўся і схапіў з кута важкую, на доўгай ручцы кувалду.

– Значыць, так. Бяры вышэй.

І, прысеўшы, абхапіў ручку ля самае кувалды. Чацвёра іншых таксама падаліся да яго, нагнуліся, сышоўшыся ў купу галовамі. Вышэй ад Галадая ўзяўся рукою Жук, над ёю сашчапіліся вузлаватыя Янушкавы пальцы, затым – далонь Срэбнікава, за ёй шырокая Цярэшкава пяцярня, пасля зноў Галадаева, Жукава, Янушкава, і калі над пляцёнкаю рук застаўся маленькі кончык тронка, за яго павольна ўзялася дрыготкая, потная рука Срэбнікава.

Усе з палёгкаю выдыхнулі, падняліся і, пастаўшы ля сцен, з паўхвіліны стараліся не глядзець адзін на аднаго.

Галадай працягнуў кувалду таму, хто павінен быў з ёю памерці.

– Так што па справядлівасці. Без абману, – па-ранейшаму грубавата, але з ледзьве прыкметнаю ноткай спачування сказаў ён.

Срэбнікаў чамусьці перастаў кашляць, хіснуўся, узяў тронак кувалды, моўчкі павярнуў яго ў руках, паспрабаваў пераставіць і апусціў. Яго самотныя вочы падняліся на хлопцаў.

– Не разаб’ю я, – ціха, голасам асуджанага, сказаў ён. –

Не пасілю.

Усе зноў прыціхлі. Галадай гнеўным позіркам бліснуў на дахадзягу.

– Ты што?

– Не разаб’ю. Сілы ўжо... мала, – сумна растлумачыў Срэбнікаў і трудна, надрыўна закашляўся.

– Ну і ну! – плюнуў Жук. – Вілі-вілі вяровачку.

– Што ж... Вядома, дзе яму разбіць... Аслабеў, – гатовы быў пагадзіцца з тым, што адбылося, Янушка.

У Цярэшкі ўнутры быццам перавярнулася штось: хоць ён і разумеў, што Срэбнікаў гаворыць праўду, але такая нечаканасць азвалася ў хлопцу гневам. З хвіліну ён пільна і нялёгка спадылба глядзеў на няўдаку Срэбнікава, штосьці рашаючы сам сабе. Памерці, вядома, ён не хацеў, заўжды прагнуў жыць, тройчы спрабаваў вырвацца на волю (адзін раз дайшоў амаль да Жытоміра). І тым не менш у жыцці, аказваецца, бываюць моманты, калі мала ўсёй накопленай за гады вытрымкі, каб перажыць адну хвіліну няёмкасці. І ён ступіў да Срэбнікава.

– Дай сюды...

Срэбнікаў здзіўлена лыпнуў самотнымі вачыма, падатна разняў пальцы на ручцы. Цярэшка пераставіў кувалду і раптам закамандаваў насцярожаным, крышку збянтэжаным ад гэтае замінкі голасам:

– Ну, чаго сталі? Бярэм! Чаго чакаць?

Суровы Галадай, нервовы Жук, заклапочаны Янушка з кароткім недаўменнем зірнулі на яго і, унутрана ажывеўшы, падступілі да бомбы.

– Узялі! Жук, вяроўку! Лагі давайце! Куды лагі падзелі? – з ненатуральнаю гаманлівасцю распараджаўся Цярэшка і ў пошуках загадзя прыпасеных палак выглянуў з ямы.

Хлопцы, мусіць, згледзелі, як здрыгануўся ягоны позірк, і адразу абмерлі побач, а Цярэшка, прадчуваючы бяду, паволі выпрастаўся на ўвесь рост і знерухомеў.

Зводдаль ад ямы ў пыльным патоку касых праменняў стаяў камандафюрэр Зандлер. Ён пільна глядзеў сюды, іх позіркі сустрэліся, і Зандлер кіўнуў галавой:

– Ком!

Цярэшка ціха сам сабе вылаяўся, адставіў пад сцяну кувалду і хуценька (марудзіць у такім разе было небяспечна) па адхоне вылез на раскіданую вакол ямы зямлю. Ззаду насцярожана прыціхлі, стаіліся хлопцы.

У пыльным, пустым з гэтага канца цэху (баючыся неўзарванае бомбы, немцы перш-наперш павывалаквалі адсюль станкі) было душна, скрозь з пабітага даху струменілі на дол пыльныя промні паўдзённага сонца. У другім разбураным канцы гэтага вялізнага, як ангар, збудавання, дзе разбірала завалле каманда жанчын з сектара «С», снавалі, варушыліся дзесяткі людзей з ламаччам, насілкамі, па насланых на доле дошках ганялі гружаныя друзам тачкі.

Зандлер стаяў на праходзе, збоч ад вялізнага лапіка святла на бетоннай падлозе, і, заклаўшы назад рукі, чакаў. Цярэшка хуценька збег з кучы зямлі, драўляныя калодкі яго гучна праляскалі і сціхлі – хмурачы шырокія бровы, ён спыніўся за пяць крокаў ад Зандлера, якраз на асветленым месцы падлогі. Эсэсавец, вынесшы з-за спіны адну руку, тузануў пальцамі шырокі казырок фуражкі.

– Ві іст міт дэр бомбэ?[13]

– Скора. Бальд, глейх[14], – ваўкавата адказаў Іван.

– Шнэлер гінаустраген![15]

Зандлер падазрона зірнуў у бок ямы, з якой тырчалі насцярожаныя галовы хлопцаў, пасля выпрабавальна – на Івана; той стаяў, па-салдацку падабраўшыся целам, гатовы да ўсяго: мішэні на куртцы вымушалі яго чакаць

markdownрознага. Вачыма ж ён пільна ўглядаўся ў зыгалены, прыемна загарэлы твар немца, мабыць, ненамнога старэйшага, чым ён, поўнага ўсведамлення ўлады і арыйскае годнасці. І ў той жа час бакавым насцярожаным позіркам хлопец пільнаваў кожны рух ягоных пагрозлівых рук. Воддаль, на другой палавіне цэха, дзве жанчыны ў паласатым убранні паставілі на дол насілкі і, мабыць, зацікаўленыя, пужліва чакалі, што будзе далей. Але немец, слізгануўшы позіркам па Іванавай падабрана-настырчанай постаці, якая знешне выражала гатоўнасць да дзеяння, відаць, зразумеў гэта па-свойму і не выказаў падазронасці. Не маючы якой іншай патрэбы да гэтага флюшункта, ён ступіў да яго свежазапыленым ботам.

– Чісто! – недарэчна зблытаўшы націск, кіўнуў ён на бот.

Іван, вядома, зразумеў, чаго ад яго хацелі (гэта было тут не ўпершыню), але на хвіліну трохі разгубіўся ад нечаканасці і якую секунду прамарудзіў. Аднак Зандлер чакаў з пагрозлівай скамянеласцю на сківістым твары, доўга марудзіць не выпадала, і хлопец апусціўся ля яго ног. Гэта было зняважліва, абразліва, у душы ён з усяе сілы зацяў, быццам каленам прыдушыў, непакорлівы, такі недарэчны тут гнеў.

Нізка сагнуўшыся, ён чысціў напятымі рукавамі свае паласатае курткі. Боты былі новыя, хромавыя, відаць, акуратна наваксаваныя ўранку, і хутка галоўка першага стала горача адбіваць сонца. Неўзабаве ён і ўвесь заблішчаў, толькі ў ранце яшчэ засталася рэшта пылу ды на самым наску ніяк не адціралася свежая драпіна. Камандафюрэр тым часам, пстрыкнуўшы запальнічкай, прыкурыў, схаваў у кішэнь партсігар, на Івана дыхнула пахам цыгарэты – гэта пакутна раздражніла абанянне. Пасля ён, здаецца, атрос попел – на стрыжаную хлопцаву галаву пасыпаліся іскры, нейкая недагарэлая парушынка балюча апякла шыю. Гнеўная сіла ахапіла Іванава напятае адчуванне, і хлопец ледзьве стрымліваў сябе, гэтак закарцела ўскочыць, ударыць, збіць з ног, растаптаць гэтага паганца. Але ён чысціў, змагаючыся

з сабою і стараючыся як найхутчэй адвязацца ад немца. Толькі той, аднак, не спяшаўся, трымаў выстаўлены бот да таго часу, пакуль ён не заблішчаў увесь ад наска да калена, потым адставіў нагу назад, каб падаць другую.

Іван трохі выпрастаўся і ў кароценькі момант тае перадышкі ўпершыню зірнуў паўз ягоныя боты туды, дзе стаялі, назіраючы за імі, некалькі жанчын-гефтлінгаў. Зірнуў ён дужа ўжо бегла, амаль без ніякай увагі, але раптам штосьці прымусіла яго схамянуцца. Тады ён паглядзеў уважлівей, стараючыся зразумець, у чым справа, і зразумеў. Толькі зараз жа адчуў, што лепш бы праваліцца яму ў зямлю, чымся спаткацца з такою знішчальнай пагардай у такіх вялізных вачах. Чамусьці ён не паспеў заўважыць нічога іншага – ён не даўмеўся нават, быў гэта малады ці, можа, стары твар – той позірк нясцерпным дакорам пляснуў у яго душу. Між тым да ягоных калень саўгануўся другі запылены бот з белаю вапеннай плямаю на халяве. Іван прамарудзіў, немец нецярпліва буркнуў і наском ткнуў яму ў грудзі. І тады ў Іване нешта з таго, што яшчэ дазваляла кантраляваць сябе, зрушылася, пальцы яго выпусцілі рукавы і ўпіліся кіпцюрамі ў далоні. Адным імпэтным рыўком ён ускочыў на ногі, падхоплены гнеўнай сілай, якой да нестрыванага цяжару наліліся кулакі, і ашалела садануў немцу ў сківіцу. Гэта здарылася так нечакана і так хутка, што ён аж здзівіўся, убачыўшы, як матлянуўся перад ім белы кадыкасты падбародак Зандлера, як зляцела з ягонай галавы фуражка і эсэсман тупа пляснуўся на бетонны дол цэха.

Усё яшчэ не да канца адчуўшы жах гэтага выпадку, Іван з кулакамі, угнуўшы галаву і шырока расставіўшы ногі, стаяў перад немцам. Ён чакаў, што Зандлер зараз жа ўскочыць і кінецца на яго. У гэты час аднекуль здалёк данесліся ўзрушаныя воклічы, толькі ён не цяміў ужо, асуджалі яны ці папярэджвалі. Але эсэсман не кідаўся, ён нетаропка, быццам адольваючы боль, павярнуўся на бок, сеў, марудліва падняў з долу фуражку, строс з яе пыл. Здаецца, ён не спяшаўся ўставаць, сядзеў, шырока расставіўшы ногі, у адным бліскучым і другім

нячышчаным боце, прыгладзіў рукой валасы, акуратна надзеў фуражку. Затым падняў на ашалелага і відавочна збянтэжанага флюгпункта цяжкі, пагрозлівы позірк і рашуча тузануў на баку скураны язычок кабуры.

У Іванавай галаве маланкаю мільганула думка, што ўсё прапала, але адчуць прыкрасць таго ён не паспеў – побач клацнуў затвор пісталета – немец з нечаканым імпэтам ускочыў на ногі. Гэта ўраз выбіла Івана з паўхвіліннага аслупянення, і, каб недарма памерці, ён рынуўся галавою на ворага.

Аднак ударыць ён не паспеў: побач грымотна рванула, кінула яго ўбок, аглушыла; зямля здрыганулася, падскочыла і зваліла яго ў чорную прорву бездані. Немца і ўсё навокал накрыла воблакам рудога пылу.

Праз секунду ён адчуў сябе на падлозе, вакол яшчэ нешта рушылася, сыпалася, нешта дымна-смярдзюча сквірчэла, запякло ў спіну, чамусь са спазненнем побач упала і на кавалкі разляцелася цагліна.

Адчуўшы сябе жывым, Іван пругка крутануўся на доле, азірнуўся – побач на бетоннай падлозе шкрэбаў знаёмы, з драпінай на носе, бот, у патоках пылу тузалася, спрабуючы кудысь адпаўзці, постаць ворага. Іван выхапіў з-пад бока цяжкі зломак бетону і з маху выцяў немца ў спіну. Зандлер трапятнуўся, енкнуў, матлянуў у паветры рукой. Гэта нагадала Івану пра пісталет. Ён на каленях сігануў цераз немца, вырваў з яго аслабелых пальцаў браўнінг і з шалёным стукам у грудзях кінуўся ў рудое вірлівае воблака пылу, якое ўжо ахінула цэх.

**5**

Змрочная, непрытульная ноч напаткала ўцекачоў у камяністай, зарослай крывулястым сасняком цясніне, якая, патроху вузеючы, адхонна падымалася ўгору.

Не так увішна, як раней, Іван лез па замшэлых камянях, зрэдку спыняючыся, каб пачакаць дзяўчыну, што з

апошніх сіл упарта плялася за ім. Ён думаў, што лепей было б вылезці з гэтай змрочнай расселіны; там, недзе наверсе, мусіць, было раўней і радзейшы быў змрок, які тут цёмным туманам пачаў напаўняць правалле. Але хлопец ужо не мог набрацца рашучасці, бо сілы яго таксама канчаліся. Зноў жа вельмі хацелася як найдалей адысціся ад горада, як найлепей выкарыстаць гэты дажджлівы вечар, які так дарэчы выдарыўся ім і надзейна схаваў ад аўчарак іх дзве пары слядоў. І ён патроху ўсё далей і вышэй прабіраўся ў горы, бо толькі там, у Альпах, быў які-ніякі паратунак – унізе ж, скрозь на дарогах, у далінах, іх чакала пагібель.

Праклятыя горы! Ён быў удзячны ім за іх недаступнасць для нямецкіх ахоўнікаў з сабакамі, матацыкламі і заставамі, але ён пачаў ужо і ненавідзець іх за тое, што яны так бязлітасна адбіралі сілы і маглі ўшчэнт замардаваць чалавека. Гэта зусім не тое, што ў час яго папярэдніх уцёкаў з Сілезіі. Як там зручна было ўначы тупаць па роўнядзі, па палях і па сенажацях: зоркі ў светлаватым небе паказвалі шлях на радзіму. Пракрадваючыся ў нямецкія вёскі і фальваркі баўэраў, яны здабывалі што-кольвечы з ежы – гародніну і малако з бітонаў, нарыхтаваных ля веснічак для ранішняе адпраўкі ў горад. Увесь доўгі, надзіва пакутны ад бяздейнасці дзень яны, па чарзе вартуючы сябе, сядзелі, зашыўшыся дзе-небудзь у збажыне або хмызняку. Праўда, небяспекі хапала і там. Цэлы месяц прабіралася невялічкая група іх, абадраных, няголеных, страшных, да мяжы роднай зямлі. Невядома, як іншым, а яму дужа не пашанцавала тады: вырваўшыся ад немцаў, ён трапіў у рукі яшчэ горшых вылюдкаў, з выгляду зусім сваіх.

Калі яго везлі ў горад, дык не верылася нават, што яны не жартуюць, – такія гэта былі звычайныя вясковыя хлопцы, без злосці, лянiва лаяліся на зразумелай мове, былі апрануты ў простыя сялянскія кашулі і пінжакі і, апроч драбавікоў, не мелі іншае зброі. Толькі ў таго, што быў з белай павязкай на рукаве, вісеў на плячы карабін. Такім жа карабінам быў узброены іхні начальнік Грыць.

І цяпер вось горы – Лахтальскія Альпы – невядомы, загадкавы, ніколі не бачаны край, і ў ім – маленькая трудная надзея вырвацца на волю, дайсці да сваіх.

Іван дужа стаміўся, і ў такі час, калі пачаў ужо прыглядацца, дзе б адпачыць, ззаду штось глуха стукнулася, па абрыве пасыпалася каменне. Ён азірнуўся – дзяўчына, абапершыся на рукі, ляжала на адхоне і, здавалася, не спрабавала падняцца. Тады і ён спыніўся, разагнуўся, перавёў дых, пачакаў. У расселіне цямнела. Зверху, амаль што нячуйны, сыпаўся дробненькі, як пыл, дожджык-імжака; каменне навокал ужо ледзьве шарэла; бязладнымі касмылямі чарнелі ўгары хваіны; абцяжаранае змрокам і непагаддзю, нізка асела неба. Мокрая вопратка, нагрэтая пры хадзе, злёгку парыла, і ўзмакрэлую спіну – варта было спыніцца – скаланалі дрыжыкі. Ён бачыў воддаль у змроку цёмны паніклы сілуэт сваёй спадарожніцы, ледзьве прыкметныя рухі яе галавы і нерухомыя, голыя да локцяў рукі – яна не ўставала. Тады ён, пераадольваючы неахвоту, сышоў уніз, сунуў за пазуху браўнінг і, нагнуўшыся, за падпахі асцярожна прыпадняў яе лёгенькае, тонкае цела. Яна заварушылася пад яго рукамі, села, не падымаючы галавы, і ён, пастаяўшы, з самотай падумаў, што прыйдзецца, відаць, на тым скончыць першы свій пераход і заначаваць у гэтым распадку.

Ён агледзеўся навокал – з аднаго боку крута ўгору падымалася нагрувашчанне скал ды камення, з другога схіл губляўся між змрочнае масы сасняку ўнізе – адтуль поўз і поўз угору змрочны, сыры туман. Ужо не згледзець было, якая там глыбіня, – толькі недзе далёка ў шызай парнай цішыні булькатаў ручай.

Іван крануў яе за плячо, даючы тым знак пачакаць, а сам адышоўся далей, зноў паўзіраўся ў змрок, – у адным месцы скала ўгары трохі навісала над камяністым адхонам, утвараючы схованку. Схованка, вядома, была не дужа самавітая, зацішку мелася ў ёй небагата, але здарожанаму чалавеку абы якое ўкрыццё над галавой.

Асцярожна ступаючы па вострых камянях, ён вярнуўся

назад да дзяўчыны.

Дзіва, куды падзелася яе нядаўняя жвавасць, яе гарэзліва-неразумная смеласць перад матацыклістамі – яна выглядала цяпер зморанаю мокраю птушкай, недарэчным лёсам закінутай у гэтае каменне. Цяжка дыхаючы, яна не рэагавала на дотык ягонай рукі, не ўстала на ногі, а яшчэ болей сцялася ў маленькі ўпарты камячок і дрыжала.

– Пайшлі перадыхнём, – сказаў ён. – Адпачнём, разумееш? Ну, шлаўфен трохі.

На момант яна сцішылася, стрымала свае дрыжыкі, аднак не ўстала і не адказала, а ўсё сядзела, нізка звесіўшы галаў. Ён пастаяў яшчэ трохі, чакаючы, затым аберуч згроб яе пад калені, намерваючыся перанесці ў зацішак. Але яна з нечаканаю сілай тузанулася ў ягоных руках, нешта па-італьянску ўскрыкнула, трапыхнула нагамі, і ён выпусціў яе. Пастаяўшы трохі ў збянтэжанасці, ён са злосцю падумаў: «Ну і чорт з табой. Сядзі тут, прывярэда такая!» – а сам адышоўся пад скалу, адкінуў з-пад ног вастрэйшыя камяні і сеў, адразу страціўшы ўсе сілы. Толькі цяпер ён адчуў, як аслабеў, ужо з заплюшчанымі вачыма нацягнуў вышэй на патыліцу каўнер курткі і заснуў.

Свет імгненна перастаў для яго існаваць, саступіўшы месца бязладнай жудасці сноў. Як заўсёды, гэты пераход быў такі непрыкметны, што здаваўся натуральным працягам пакутлівага дзённага быцця. Сон кожны раз сніўся яму адзін і той жа, ужо болей як год амаль кожную ноч перажываў ён не меншыя за рэальныя пакуты – падсвядомыя, трансфармаваныя пачуццём жахі аднаго дня вайны, які з нялюдскаю сілай, пэўна, навек адбіўся ў яго змардаванай псіхіцы.

Пачыналася ўсё з вельмі рэальнага, вельмі пакутнага адчування бяды, якую толькі можа прынесці з сабой разгром. І хоць даўно мінулася, прыцямнела ў рэальнай свядомасці заступленая другімі – вялікімі і малымі бедамі – тая агромністая бяда, але ў сне, мусіць, памножаная на безліч пазнейшых, яна з неаслабнаю

сілай катавала яго пачуцці.

Як заўсёды, у першай з’яве гэтага сну была буйным планам сцяна абшарпанай украінскай мазанкі, на рагу якой вугалем значылася «гасп. Аляксеева» і пад ім – стрэлка, кірунак да гэтай гаспадаркі. Надпіс той быў, вядома, месячнай даўнасці, калі армія яшчэ наступала на Змієў у абход Харкава, – цяпер жа ўся маса войск рухалася ў адваротным кірунку. Уначы тапілі ў рацэ цягачы, для якіх не было бензіну, раскідвалі па полі паразбіраныя гарматныя замкі, палілі ў садку штабныя паперы. На світанні ў гэтым двары, ля якога прытуліліся яны, пасля кароткай афіцэрскай нарады застрэліўся палкоўнік, што камандаваў групай акружаных. Іхняй роце загадалі прыкрыць адход, і трое байцоў з панылым лейтэнантам ля крайняй гэтай хаціны выкапалі ўранку вузенькі акоп-ровік.

Гэта з таго, што было і запомнілася на ўсё жыццё. Але цяпер, у пакутным чадзе сну, палкоўнік той жыў, кідаўся па двары з планшэтам у руках і лаяў Галадая, які з чарнаморскага марака стаў камандзірам роты аўтаматчыкаў. Яшчэ невядома, чаму з ім, сяржантам Цярэшкам, у раўку сядзіць не Абдурахманаў, баец з іхняй разбітай батарэі, што амаль ніводнага слова не разумеў па-руску, а флюгпункт Срэбнікаў. Гэты дахадзяга Срэбнікаў замест таго, каб ладзіць да бою свій кулямёт, нямецкім цесаком ліхаманкава сашкрабае з гімнасцёркі свае флюгпунктаўскія мішэні і ўсё бурчыць сам сабе: «Ні кроку назад! Ні кроку назад!..» І разам з тым – зусім рэальны малюнак таго даўняга ранку: у ясным вясновым небе нараджаецца сонечны дзень, ад мазанкі наўкос цераз дарогу разлёгся сіняваты прахладны цень, пад плотам, асыпаючы долу расу, дрыжыць крапіва, быльнёг і гэтак жа дробненька трымціць, вібрыруе надзеты на калок гарлач. А за аколіцай па гасцінцы ў сяло ідуць танкі. Яны вось-вось павінны паявіцца з-за гэтае мазанкі, а Іван Цярэшка ніяк не можа ўставіць у гранату запал. З усяе сілы ён пхае яго пальцамі, але маленькі жоўты цыліндрык, быццам знарок зроблены таўсцейшым, чым трэба, ніяк не лезе ў адтуліну. Цярэшка нервуецца, спяшаецца,

рызыкуючы падарвацца, б’е па ім кулаком, а калі спахопліваецца, дык бачыць, што ў акопе ён застаўся адзін, што ўсе таварышы пакінулі яго. І тады аднекуль прыходзіць разуменне, што яму трэба ўцякаць, што ён недачуў каманды на адыход. Іван кідаецца грудзьмі на бруствер, зрушваючы зямлю, стараецца вылезці з акопа, але налітыя незразумелым цяжарам ногі не слухаюцца яго, і ён спаўзае назад.

А танкі – побач.

Спалоханы іх грукатам, аднекуль з гародаў шугае ў паветра вялізны, на паўнеба, статак вераб’ёў, у суладным сваім палёце ён імкліва слізгае ўбок, пасля ўвесь разам – у другі, і тады з-за хаты, разрыўшы на павароце зямлю, высоўваецца танк.

Іван разумее, што ўцячы не ўдасца, неяк самлела размахваецца і кідае на дарогу гранату. Але граната чамусьці не рвецца, а падскоквае і сіпіць паміж дзвюх каляін, і танк вось-вось аб’едзе яе. Івану робіцца страшна. У гэты час з танка заўважаюць акоп пад сцяной, крутнуўшыся на адной гусеніцы, танк збочвае, і тады невымоўны жах працінае Цярэшку: аказваецца, гэта ж свой танк – нашая «трыццацьчацвёрка».

Іван на секунду млее ад таго, што ён нарабіў, затым, крутнуўшыся, кідаецца назад і ледзьве не натыкаецца тварам на шырокі блішчасты нажавы штык, настаўлены ў яго – немец імгнення робіць кароткі выпад, і штык мякка, нібы штосьці чужое, пранізвае ягоныя грудзі. Іван ведае, што гэта канец, што ён забіты, і аж захлынаецца ад роспачы, хоць болю чамусьці зусім не адчувае.

Звычайна тут ён прачынаецца ад неадольнага страху, але ў гэты раз свядомасць яго існуе нібы асобна ад цела, яна абнадзейвае, што гэта яшчэ не ўсё, што наперадзе будзе яшчэ палон, уцёкі, – таму ён не можа загінуць, нават і прабіты штыком.

Сонныя гэтыя прывіды неўпрыкмет змяняюцца іншымі. Ён ужо апынаецца ў вёсцы, у сваіх Цярэшках, на

старажытнай зямлі крывічоў, і быццам гэта адбываецца да вайны, нават да яго прызыву на службу. Паколатай авечымі капытамі, гразкай вуліцай ён бяжыць на аселіцу да калгаснага свірна, куды, ведае, прыгналі са звязанымі рукамі Галадая і з ім яшчэ некалькі знаёмых гефтлінгаў. У Івана разрываецца сэрца ад крыўды і ад бегу, здаецца, што ён спозніцца і не дакажа людзям, што нельга спаганяць злосць на палонных, што палон – не віна іх, а няшчасце, што не яны здаліся ў палон, а іх узялі сілаю.

Але ён не дабягае да аселіцы. Босыя ногі яго вязнуць у цяжкай, ліпкай гразі, ён ледзьве варушыць імі, таксама як і рукамі і ўсім целам, і бяжыць, нібы ў вадзе, марудна і цяжка. Выбіраючы дарогу, ён збочвае да плота і раптам бачыць на ім нечыя галянастыя босыя ногі. Ён ускідвае галаву: на верхняй жэрдцы сядзіць незнаёмая, першы раз бачаная ім дзяўчына з чорнымі, высока ўскінутымі брывамі, у бялюткім як снег плацці. Яна зіхатліва-радасна ўсміхаецца яму чорнымі, нібы спелыя слівы, вачыма і кажа: «Чао, Іван!»

І ён спыняецца, раптам забыўшыся на хлопцаў і на ўсё на свеце, ён рады, шчаслівы, збянтэжаны сустрэчай з ёю, першы раз убачанай, але быццам здаўна вядомай яму, бо яна – гэта тая, што ўсю маладосць жыла ў неўсвядомленых яго марах. Захліпнуўшыся радасцю ад гэтай сустрэчы, ён кідаецца да плота, да яе, але тут жа, зірнуўшы на сябе, спахопліваецца – ён жа толькі што з работы, з поля, ад трактара, на ім старыя, залапленыя на каленях штаны і аблезлая на плячах кашуля. Збянтэжаны, ён спыняецца, хмурнее, яна таксама зганяе радасную ўсмешку на сваім незвычайна сонечным твары, меркне яркая белізна яе плацця, і паступова яна знікае, бы здань.

Тады ён кідаецца да плота, хапаецца за жардзіны, вырывае аблытаныя лазою калы, але перад ім паяўляецца яго маці. Паклаўшы на тую верхнюю жэрдку рукі, яна ціха стаіць па той бок у бульбоўніку, уся ў цёмным сялянскім убранні, і журботна кажа яму: «Фашыстоўка яна. На хлопцаў тваіх немцам даказала...»

«Дзе яна? Дзе яна?» – хоча закрычаць ён, але не можа гэта зрабіць, бо на яго шыі вяроўка – чорны шаўковы шнурок, на якім заўжды пад барабанны бой вешалі ў лагеры. Яна зацiскаецца, нацягваецца, і другі канец яе, як почапка, валачэцца за недадушанай ім у раўку аўчаркай. Аўчарка жывая і дужая, яна моцна тузае, ён падае, хоча закрычаць, але голас у яго прападае, і тады ад нейкага ўнутранага штуршка ён прачынаецца.

**6**

– Ха-ха-ха!.. – раздаецца над імі звонкі бесклапотны смех.

Іван паднімае галаў, мацае шыю, шырока расплюшчвае заспаныя вочы і першае, што бачыць перад сабой, – гэта яркі, глыбокі блакіт пагоднага ранку і побач – дзівоснае белазубае ззянне дзявочай усмешкі.

– Баста шляўфен[16]. Марш-марш надо, – кажа дзяўчына.

Зараз жа цела яго, нібы электрычным токам, пранізала сутарга ад холаду, ён памаўчаў, трудна пераключаючыся ў рэальны клапотны свет, ваўкавата паўзіраўся насустрач стрыманай яе весялосці. А яна, абапершыся на руку, сядзела збоч і кусала сцяблінку, якой, відаць, перад тым паказытала і разбудзіла яго. Ад учарашняе яе апатычнасці і знямогі, здавалася, не засталося і следу.

– Марш, кажаш? Ну паглядзім.

– Глядій, глядій, – згадзілася яна, усё з хітрынкай у вачах узіраючыся ў яго твар.

А ён, яшчэ раз скалануўшыся ад холаду, ускочыў, шалёна замахаў у паветры рукамі, пачаў выкідваць у бакі ногі і прысядаць – выпрабаваны салдацкі спосаб сагрэцца. Яна, відаць было, спачатку здзівілася, высока над вачыма ўскінула свае шырокія дугі-бровы, пасля раптам засмяялася, коратка, але так гучна, што ён аж спалохаўся.

– Ціш ты!

Яна спахапілася, азірнулася, заціснула далоняй рот, у вачах яе, аднак, ужо скакалі неўтаймаваныя гарэзныя чарцяняты. Ён строга, з папрокам паглядзеў на яе, затым услухаўся, адчуваючы, як задубелае цела патроху налівалася цяплом і стомай, а яна яшчэ бяскрыўдна прыцішана хахатнула:

– То гімнастік?

– Ну, гімнастыка. А што, лепш мерзнуць?

Іван быў заклапочаны і наогул не ахвочы да гаворкі; яна, відаць, зразумела гэта, пасур’ёзнела, зябка цепнула вузенькімі худымі плечукамі пад макраватаю яшчэ курткай, каротка ўздыхнула і заклапочана зірнула на яго.

Ён тым часам па старым вайсковым звычаі агледзеўся і зразумеў, што сапраўды занадта доўга праспаў. Ужо даўно развіднела, сонца з-за гор яшчэ не паказалася, але бясхмарнае неба ўгары, здавалася, аж звінела яркасцю ранішняга блакіту. На ўсю сваю каляровую моц ззяў той, асветлены, бок цясніны – шэрыя схілы, сасонкі, шырокія крутыя восыпі і высачэзныя вяршыні ўгары. Гэты ж бок скал цьмяна драмаў, яшчэ не пазбыўшыся ночы.

– Горы карашо! – убачыўшы, што ён узіраецца ў наваколле, сказала яна. – Как ето?.. Эстэтіко!

Ляснуўшы калодкамі, яна ўскочыла з каменя, на якім сядзела, і таксама выбегла з-пад скалы, аглядаючы сонечнае буйства святла на тым баку шырокай расселіны. Ён, аднак, не падзяляў гэтага яе наіўнага захаплення. Як амаль заўсёды ў палоне, разам з абуджэннем яго нутро, грудзі, кожную частачку цела агарнула пакутнае адчуванне пустаты – звычайны, знаёмы да драбніц прыступ голаду. Есці, аднак, не было чаго. Дзе ў гэтых праклятых гарах здабыць ежы, ён не ведаў, у той жа час вельмі выразна адчуваючы, што, галодныя, яны недалёка пройдуць. Пастаяўшы так, ён

праглынуў сліну і, безуважна да таго, што займала яе, запытаў:

– Ты куды пойдзеш?

Яна, не разумеючы, павяла брывамі.

– Марш-марш куды? – здавалася, пачынаючы раздражняцца, паўтарыў ён пытанне і махнуў у розных напрамках рукой: – Туды ці туды? Куды бегла?

– О, Остфронт! Рус фронт бежаль.

Ён здзіўлена паглядзеў на яе.

– Сі, сі[17], – пацвердзіла яна, бачачы яго здзіўленне і нават недавер. – Сіньоріна карашо тэдэскі[18] пуф-пуф.

Іван, нахмурыўшыся, паўглядаўся ў гэты зіхатлівы, бы жывое срэбра, рухавы, занадта, на яго думку, прыгожы твар: ці не жартуе яна? Але яна, відаць, не жартавала – выказала свой намер і цяпер, чакаючы яго меркавання, вялізнымі бяздоннымі вачыма глядзела на хлопца.

– Глупства балбочаш, – сказаў ён, захінаючыся поламі курткі.

– Вас! Что ест больбочіш? Руссо учіт сіньоріну рускі шпрэхен?

– Паглядзім.

– Глядзіім ест карошо. Согласіе, сі? – жартоўна дапытвалася яна.

Але ён не адказаў на гэта, ён зноў зябка скалануўся, адчуўшы на спіне халаднаватую вільготнасць курткі, зірнуў на недарэчныя кругі-мішэні на грудзях – сапраўды трэба было яшчэ паклапаціцца і пра вопратку, у гэтым паласатым убранні не дужа разыдзешся. І ён, падчапіўшы пальцамі шво, з трэскам ададраў з курткі вінкель і нумар. Яна па ягоным прыкладзе зараз жа ўзялася здзіраць свае. Але пазногці яе тонкіх пальцаў былі вельмі далікатныя, а ніткі нямецкае прышыўкі

занадта моцныя, каб лёгка паддацца. Тады яна ступіла да яго і, трошкі, па-дзіцячы адтапырыўшы ніжнюю таўставатую губу, варухнула плячом.

– Дай.

– Не «дай», а «на», – сказаў ён і марудліва павярнуўся да яе.

Вострыя настырчаныя бугаркі пад яе волглаю курткай, аднак, прымусілі яго нахмурыцца і сцяць вусны. Яна, тут жа заўважыўшы гэта, згрэбла на грудзях складку і адцягнула яе ад цела. Пасля кароткага вагання ён узяў ражок вінкеля і дужа рвануў. Каб не пакідаць следу, скамечыў усё разам і сунуў у шчыліну пад камень.

– Граціе, спасібо.

– Ты дзе рускай мове вучылася? – запытаў ён.

– Італія. Рома учіль. Лягер руска сіньоріна Маруся учіль. Карашо руска шпрэхен я?

– Харашо, – неахвотна згадзіўся ён.

– Понімаль очен лючше карашо, – здавалася яму, жартоўна ад таго, што яе вочы заўжды смяяліся, пахвалілася яна.

Ён, аднак, думаў пра іншае.

– У Трыест пойдзем. Ведаеш, дзе Трыест?

– О, Тріесте! Італія, – жыва азвалася яна.

– Ведаю, што Італія. А дзе ён, у якім баку? У тым ці ў тым?

Яна зірнула ў адзін бок, у другі і ўпэўнена махнула рукой туды, адкуль узнімалася над гарамі яшчэ нябачнае сонца.

– Туда дорога Тріесте.

«Дарога!» – нявесела падумаў ён. Нішто сабе была

дарога – цераз горны масіў Альпаў праз цясніны і рэкі, а галоўнае – праз густа населеныя даліны і ажыўленыя аўтастрады – не блізкі свет гэты партызанскі Трыест, пра які ён нямала начуўся ў лагеры. Але выбар у іх быў небагаты, і калі пашчаслівіла ўжо вырвацца з пекла, дык недарэчна было б цяпер даць павесіць сябе пад барабанны бой на чорнай удаўцы.

Таму трэба ісці, лезці, бегчы! Не раскісаць, сабраць у сабе ўсе сілы, увесь спрыт, усе здольнасці, перайсці галоўны хрыбет, знайсці партызан – югаслаўскіх, італьянскіх – толькі б стаць у строй, узяць зброю. У тым цяпер была яго мара, высокая справядлівасць ягонага лёсу і ўзнагарода за ўсе пакуты і ганьбу, якія перажыў ён за год палону.

У сырой, змрочнай цясніне было зябка, закалелае за ноч цела даймалі дрыжыкі, хацелася хутчэй да цяпла, на сонца.

Знайшоўшы болып-менш здатнае месца на адхоне, яны палезлі між камянёў угору. Упершыню з часу іхняга спаткання наперадзе лезла яна, ён, крыху адстаўшы, карабкаўся следам, і гэта было падобна на згоду, першы суладны давер між імі.

Схіл тут быў даволі круты, калодкі слізгалі і падалі з яе ног, на сярэдзіне схілу дзяўчына зняла іх, узяла адной рукой і, хапаючыся другой за калючыя, цвёрдыя, як дрот, хамлакі нейкай травы, вёртка, нібы яшчарка, сігала з каменя на камень.

– Руссо, – не спыняючыся, сказала яна.~ Ты ест офіцір?

– Ніякі я не афіцэр. Палонны.

– Полённі, полённі. Я понімаль. Кто до война біль?

Ён памарудзіў з адказам. Тое, што яна пачала дапытваць, хлопцу не спадабалася, і ён ваўкавата сказаў:

– Калгаснік.

– Что такое кольгаснік?

– Не разумееш, а пытаешся... – неласкава папракнуў ён. – Ну, быццам баўэр. Фарштэй?

– А, понімаль: ляндвіртшафт[19]?

– Во, во. Колхоз.

– О, я очень люблу кольхоз! – раптам ажыўлена загаманіла яна. – Кольхоз карашо. Ля вораре[20] компанія. Отдіх – компанія. Тутто[21] компанія. Карашо компанія. Руссо кольхоз карашо экономіко, правільно я понімаль? – запытала яна і азірнулася.

Ён не паспеў адказаць – зрушаныя яе нагамі, уніз пакаціліся камяні, зямля, розная драбнота. Ён ледзьве паспеў адхінуцца ўбок. Яна ўгары засмяялася і бокам прыпала да схілу.

Іван са злосцю шыкнуў:

– Ціш ты!

Яна зноў спахапілася, зацяла рукою рот і азірнулася.

– Пардон.

– Пардон, пардон! Ціха трэба. Чаго рагочаш?

Яе безразважнасць злавала хлопца; мусіць, ён сказаў тое занадта груба, яна стрыкнула брывамі і падцяла вусны.

– Мой імя ест Джулія. Сіньоріна Джулія, – аб’явіла яна.

Ён строга акінуў яе позіркам і сказаў сабе: «Ну і што? Сіньярына!» Гэта было для яго малаважна, асабліва далікатнічаць з ёю ён не збіраўся. А яна, відаць, пакрыўдзілася, змоўкла і таропка палезла ўгору. Іван жа не дужа спяшаўся.

Нізка прыгінаючыся долу, ён шырока ступаў балючымі з учарашняга пальцамі на шурпатыя сцюдзёныя камяні, кідаў спадылба кароткія позіркі на яе ўвішную

паласатую постаць і думаў: хто яна? Якая-небудзь еўрапейская гурэн, як іх называюць немцы, беспрытульная бадзяжка мітуслівых італьянскіх гарадоў, бяздумны матылёк з пакалечаным вайною жыццём? Гэта найбольш падобна было да яе, з такім яе гарэзным і, відаць, падкім на прыгоды характарам. Праўда, вінкель у яе быў чырвоны, палітычны, яна нешта там гаварыла пра нянавісць да немцаў, але хлопец не дужа верыў у сур'ёзны грунт яе варожасці да фашыстаў. Магчыма, нехта з іх пакрыўдзіў яе, пасля, вядома, сербанула гора ў лагеры. Але хіба такія доўга памятаюць крыўды? Праўда, ён амаль не ведаў яе, хоць ужо некалькі разоў паспеў пераканацца, якая яна несур'ёзна-бяздумная шмат у чым з таго, ад чаго залежаў лёс іхніх уцёкаў. Вядома, ён разумеў, што ў такім становішчы трэба было быць асабліва пільным і найбольш спадзявацца на самога сябе.

**7**

Калі яны ўрэшце выбраліся на край камяністага абрыву і, стомленыя, спыніліся, іх позірку адкрыўся амаль што плоскі горны ўхіл, зарослы дробным пакручастым сасоннікам. Пасля мокрай змрочнай цясніны тут здалося надзвычай вольна, прасторна: далёка ўнізе шырока раскінулася даліна, за ёй у бледна-сіняватай смузе млелі хрыбціны суседніх гор.

– Генуг![22] – задыхана сказала яна. – Нэмножко генуг!

Ён моўчкі апусціўся на край каменнай пліты, што тырчала з зямлі, яна бегла глянула ўгору, пад суцэльнае нагрувашчванне гор, даўжэй – уніз, на лясны адхон з частымі плямамі рудой зямлі між сасонак. І ён, пазіраючы знізу, адчуў, як яна нібы за штосьці зачапілася там сваім позіркам і, замёршы, уважліва глядзела, падкурчыўшы адну нагу. Гэта адразу ўстрывожыла і яго, Іван устаў, угледзеўся – далёка ўнізе між сасняку на прагалах сям-там праблісквалі светлаватыя крывулякі-сцежкі. Гэта несла з сабой новыя клопаты. Ён яшчэ ўгледзеўся, і тады яна, не павярочваючыся, схапіла яго за рукаў, затармашыла, неяк не то

ўстрывожана, не то абнадзеена загаварыла:

– Руссо – мэнш, чэлёвэк!

Ён ужо і сам бачыў – па сцяжынцы ўгору нетаропка ішоў чалавек.

Яны ўраз абое прыселі; яна, забыўшыся ўжо на сваю крыўду, запытальна паглядзела ў яго вочы сваімі цёмнымі зрэнкамі, ён жа адвёў убок нахмураны позірк і дастаў з-за пазухі браўнінг. Дзяўчына, відаць, зразумела ягоны намер, і Іван, нічога не тлумачачы, ціскануў ёй плячо: маўляў, сядзі тут. А сам, прыгнуўшыся, шмыгануў у рэдкі сасоннік і, гойдаючы на шляху ніжнія галіны, хутка пайшоў па адхоне, спадзеючыся наткнуцца на сцежку.

Але гэта здарылася куды далей, чым ён спачатку разлічваў.

Стараючыся выбіраць мясціны, дзе сасоннік быў трохі гусцейшы, ён далёка ўжо адышоўся ад цясніны і пачаў думаць, што не трэба было пакідаць яе там, а сцяжынка ўсё не паказвалася. У паветры густа пахла хвояй, было ціха; камяністы, засыпаны ігліцаю дол зусім пакалоў ягоныя і без таго навярэджаныя ступні. Неўзабаве з-за блізкае хрыбціны гор выслізнула і пачало прыграваць прамяністае ўранку сонца. Прыпомніўшы ўчарашні клопат, ён шчоўкнуў зажымам браўнінга і з пластмасавай рукаяткі выцяг магазін – там было пяць патронаў, шосты сядзеў у ствале. Гэта трошкі абнадзеіла. Ён падумаў, што, магчыма, ім пашанцуе цяпер на сякую-такую адзежыну, можа, на абутак і нават харчы. Па-ранейшаму дужа хацелася есці, цела прыкметна слабела, і ад думак аб ежы ў рот наплывала сліна, якую ён ледзьве паспяваў глытаць.

Сцяжынка нечакана выслізнула між сасонніку праз дзесяць крокаў наперадзе. Ён ураз спыніўся, зірнуў уніз, угору – нідзе нікога. Тады пастаяў, услухаўся, з бліжняй пакручастай сасонкі пырхнула маленькая куцахвостая пташка, воддаль упала на дол старая шышка, і зноў стала ціха-ціха. Ён пашукаў позіркам

якое ўкрыццё і, адышоўшыся, апусціўся на калючы, у рэдкай траве дол за абымшэлым аскалёпкам скалы.

Лежачы ніц, ён чакаў, часта пазіраў уніз, дзе між хваёвых вяршалін праблісквала на заваротцы сцяжынка, і думаў, што зрабіць з чалавекам. Ён не сумняваўся, што па сцежцы ідзе цывільны, што вопратку ён аддасць без супраціўлення – усё ж такі пісталет. Вось толькі што рабіць далей – забіваць бяззбройнага не дазваляла сумленне, пакідаць жа яго тут было амаль самагубствам. Але колькі ён ні напружваў свой не дужа засяроджаны цяпер розум – нічога не мог выдумаць і адчуваў, што гэта дужа кепска, такая няпэўнасць. Аднак было бясспрэчна і тое, што галоўны хрыбет ім не адолець.

Чалавек паказаўся бліжэй, чым хлопец разлічваў. На сцежцы ўнізе неяк раптам з’явілася яго згорбленая пад ношаю постаць, але ён чамусьці не ішоў – ён амаль бег, стомлена, задыхана, і ўсё нешта шныпарыў вачыма па сасонніку, часам азіраўся. Няўжо ён убачыў іх? Іван падабраўся за каменем, сцяўся як мог, каб не бачна было адтуль яго паласатае постаці, і з нечаканаю злосцю вылаяўся ў душы, адчуўшы, як гэта агідна і подла тое, на што ён мусіў цяпер пайсці.

Але так было трэба.

Ён даў чалавеку падысці бліжэй, сам, патроху падцяўшы ногі, паварочваўся за каменем. У рукаве, пачуў, варушылася, бы крапівой пяклася, мурашка. Аўстрыяк, цяжка несучы брызентавы заплечны мяшок, таропка ступаў па сцежцы грубымі, на таўшчэзнай падэшве чаравікамі і ўжо крыху мінаў яго, калі Іван устаў і сігануў на сцежку. Прахожы зараз жа ўчуў, азірнуўся. Гэта быў камлюкаваты, нават тоўсты, гадоў пад шэсцьдзесят стары ў кароткай скуранцы, зялёным цірольскім з барсуковым кутасікам капелюшы і не новых, выпнутых на каленях штанах. Аўстрыец ад нечаканасці лыпнуў вачыма, нешта хутка-хутка загаманіў па-нямецку, замахаў рукамі і сунуўся да хлопца. Іван прыўзняў пісталет.

– Воцу дзі пістоле! Гер гефтлінг!.. Гер гефтлінг! – лапатаў аўстрыец. – Эсэс![23]

Іван ураз сцяўся, ён зразумеў, але з усяе сілы не хацеў паверыць, што зноў бяда. Праклятая мурашка разгульвала ўжо між лапатак, толькі хлопец не паварушыўся, каб страхнуць яе, – суровым, зацятым позіркам ён упіраўся ў аўстрыйца.

– Эсэс! Дорт эсэс! Штрэйфе![24] – даводзіў чалавек. Ён быў усхваляваны, пот цурком ліўся па яго немаладым ужо, азызлым твары, у грудзях, нібы гармонік, дыхавічна рыпела і свістала на ўсе лады.

Іван азірнуўся і прыкусіў вусны.

– Дзе эсэс?

– Дорт! Дорт! Іх мехтэ інен гут махен[25], – махаў рукой аўстрыяк, трымаючыся другой за лямку мяшка.

– Ду найн люген?[26]

– О, найн, найн! Іх бін гутэр мэнш![27] – горача гаманіў ён і, перамяніўшы тон, няскладна вымавіў па-руску: – Я біль плен Сібір.

У ягоных устрывожаных старэчых вачах мільганула штосьці цёплае, і Іван зразумеў: ён не ашукваў. Трэба было спяшацца, іх маглі згледзець тут, але з гэтым чалавекам знікала апошняя надзея на харч.

– Ду вэр? Варум гір?[28] – сурова запытаў хлопец і за рукаў скуранкі бесцырымонна тузануў аўстрыйца са сцежкі.

– Іх бін вальдгютэр. Дорт іст майн форстэй[29].

Іван зірнуў угору, куды паказваў чалавек, але ніякага дома не ўбачыў, затое згледзеў, як з гушчару выскачыла Джулія, – відаць, яна чула іхнюю размову, і настойліва загаманіла:

– Руссо! Руссо! Бежаль! Руссо...

Безуважны да яе крыку, Іван яшчэ раз тузануў аўстрыяка за плячо і рвануў з яго рук мяшок.

– Эссен?[30]

– О, я, я, – пагадзіўся той. – Брот[31].

Аўстрыец, напэўна, усё зразумеў, азірнуўся, таропка апусціўся на калені і дрыготкімі пальцамі расшмаргнуў прошву свайго мяшка. Іван адною рукой сунуўся туды, сярод нейкіх рэчаў адразу адчуў шархоткую скарынку хлеба і вырваў з мяшка невялічкую, счарсцвелую ўжо буханачку. Аўстрыяк не пратэставаў, толькі неяк страціў нядаўнюю жвавасць, і на кароценькі момант у хлопцавым сумленні варухнуўся дакор. Але ён тут жа суровасцю прыдушыў яго, сігануўшы пад сасонкі, незнарок кінуў погляд угору, дзе высіліся шэрыя снегавыя вяршыні, і азірнуўся. Аўстрыяк завязваў рэчмяшок, пальцы яго чамусьці не маглі саўладаць з прошвай-маланкай. Тады Іван шпурнуў Джуліі хлеб, а сам зноў падскочыў да чалавека.

– Знімай!

Ён забыўся, як па-нямецку назваць скуранку. Аўстрыяк не зразумеў яго, і хлопец выразна тузануў яго за рукаў. Толькі аўстрыяк не спяшаўся аддаць адзежыну – на старэчым твары слізганула збянтэжанасць.

Іван крыкнуў:

– Шнэллер! – і тузануў настойлівей.

– Шнэллер! Шнэллер, руссо! – сцішана, але дужа настойліва гукала з сасонніку Джулія, і аўстрыяк з самотаю, якая раптам напоўніла ўсю яго расслабленую істоту, зняў з сябе скуранку.

Іван амаль вырваў яе з рук чалавека і ў апошні раз зірнуў яму ў вочы. Хлопец зразумеў – гэта была чорная няўдзячнасць, рабаўніцтва, гэтым ён у выпадку няўдачы ставіў пад шыбеніцу і яго, але інакш было нельга.

Ён пабег у сасоннік, дзе мільганула паласатая постаць

Джуліі, і, ужо адбегшы, азірнуўся – аўстрыяк усё стаяў на ранейшым месцы, у падцяжках зверху шэрае світкі, і, апусціўшы рукі, глядзеў ім услед.

**8**

Паспець далёка адбегчы, аднак, было ўжо не так лёгка.

Ужо цераз якую чвэрць гадзіны абое яны дыхавічна раскрылі раты, змакрэлі ад поту, крокі іх сталі кароценькія і зусім знямоглыя. Сасоннік тым часам скончыўся. Яны выбеглі на травяністы пахілы ўзгорак; тут, пэўна, праходзіла верхняя мяжа лясоў, і далей высіліся адны рудавата-запляснелыя скалы, глыбы камення, ды ўдалечыні, у самым небе, млеў шэры, як крыло курапаткі, прысыпаны снегам хрыбет. Пад’ём стаў яшчэ болей круты, наперадзе ж паўстала голая скальная сцяна, падбягаючы да якой Іван зразумеў, што ўзлезці наверх тут не ўдасца. Тады ён збочыў і пабег панад гэтай гіганцкай загародкай, шукаючы якой здатнай для сховы мясціны. Ён дужа сумняваўся наконт аўстрыяка, ад якога цяпер можна было чакаць рознага. «Толькі б не сабакі, толькі б не сабакі...» – думаў хлопец, выразней за ўсё на свеце разумеючы, што калі немцы пойдуць па іхнім следзе з сабакамі, то ім ужо не ўцячы.

Бегучы так па адхоне, ён усё пазіраў уніз – там як на далоні відаць стаў увесь гэты лясісты адхон: змрочная цясніна, дзе яны прабылі ноч, сасоннік, збоч якога тулілася, пэўна, леснікова сядзіба – дом з высокім каменным франтонам і галерэямі ўздоўж сцен. Ён усё чакаў убачыць там матацыкл і немцаў, але, відаць, тыя спазняліся, і ля сядзібы было глуха і пуста. Не відаць было і лесніка. Пэўна, зморaны і збянтэжаны, ён яшчэ не падняўся знізу. У гэтыя некалькі кароценькіх і напружаных хвілін хлопец страшным унутраным праклёнам памянуў тых, праз каго ён мусіў рабіць такое. Ці ён які рабаўнік, ці злыдзень, навошта б спыняць яму гэтага мірнага таўстуна, настаўляць на яго пісталет, тым болей рабаваць, калі б не фашызм, не вайна, не палон з тысячамі пакут і зняваг, якія прычынілі нацысты. Яны вымусілі яго і на гэты рабунак,

і таму ён яшчэ болей ненавідзеў іх.

Тым часам, мінаючы вялізныя камяні на травяністым доле, яны ўзбеглі на ўзлобак і ўбачылі непадалёк у сцяне вузкую, як шчыліна, расселіну, якая вяла некуды ў нетры гэтай камяністай грамады. Іван аж узрадаваўся, падумаўшы, што там, магчыма, будзе ручаіна, якая дасць заблытаць ад сабак сляды. Ды і самім, адчуваў ён, трэба куды-небудзь хавацца, бо з кожнай секундаю ззаду маглі з’явіцца немцы. Хлопец з апошніх аслабелых сіл прыпусціў па траве, за ім пакутна, але цярпліва трываючы стому і страх, бегла Джулія.

Абадраўшы ў калючых зарасніках рададэндрану ногі, яны неўзабаве прадраліся ў расселіну, але ручая, на жаль, у ёй не аказалася. Тут панаваў сыры, душны змрок. З крутых камяністых сцен тапырыўся калючы кустарнік, у шчылінах і між камянёў раслі хамлакі жорсткай травы, валяліся старыя косці; спалоханая людзьмі, з фыркатам кінулася ў глыб шчыліны нейкая начная птаха. Вельмі няўтульнай здалася ім гэтая расселіна, але тое, што яны ўсё ж паспелі дабегчы да яе і схавацца, крышачку супакоіла Івана. Хлопец прыпыніў бег, узлез на пахілую абамшэлую каменную пліту і прычакаў Джулію. Для раўнавагі перабіраючы ў паветры адною рукой, дзяўчына па камянях ішла да яго. Кароткія яе чорныя валасы зблыталіся, твар гарэў ад стомы і ажыўлення, але ў вачах, калі яна зірнула на Івана, замест звычайнае яе гуллівасці цяпер свіціліся збянтэжанасць, стома і ўнутраны боль.

– Парка візерэ![32] Мі ўходіль, да? – пыталася Джулія.

Ён нецярпліва кінуў:

– Каб жа ўцяклі! Давай хутчэй!

– Что ест хютчей? – не зразумела дзяўчына.

Іван не адказаў. Цяжка дыхаючы, Джулія далезла да яго, і яны разам рушылі па камянях далей.

– Многа карашо фатэр! Комуністо фатэр, – радасна сказала яна.

– Які там камуніст! – з прыкрасцю кінуў Іван. – Чалавек проста.

– Сі, сі, человек. Бэне[33] человек, – згадзілася дзяўчына, лезучы трохі вышэй ад яго.

Ён услухоўваўся ў гукі, што скупа далятталі знізу, але позірк яго міжвольна не мог адарвацца ад заціснутай у яе пад пахай буханачкі. Джулія неяк інстынктыўна адчула гэты яго позірк і азірнулася.

– Эссэн! Хляб, да?

Яна хуценька адламала ад буханачкі краёк скарынкі і падала яму. Хлопец, не вагаючыся, узяў і з прагнасцю праглынуў. Трэба было бегчы, уцякаць, ззаду вось-вось маглі з’явіцца немцы, але ён ужо не мог адарваць свае ўвагі ад хлеба. І Джулія зразумела ягоную маўклівую нерухомасць, прыпынілася, прысела, прыціснуўшы буханку да грудзей, хуткімі пальцамі адламала болыпы кавалак і ўслужліва сунула ў яго вялікія парэпаныя далоні. Крошкі, што нацерушыліся на палу курткі, яна ашчадна зграбла ў жменю і высыпала сабе ў рот.

Іван беражліва ўзяў хлеб, пакруціў яго ў руках, нібы разглядаючы, спадылба тайком зірнуў на буханку ў яе руках і пачаў старанна разломваць кавалак папалам. Затым, узважыўшы на руках, адну палавіну працягнуў ёй. Яна не адмовілася, усміхнулася і хуценька ўзяла.

– Граціе! Нон... Спасібо!

Старанна жуючы, ён пакінуў гэтую яе ўдзячнасць без адказу.

Яны палезлі далей, дзяўчына таксама пачала моўчкі жаваць. Але хлеба было дужа мала. Гэта толькі раздражніла іх, і неўзабаве Джулія жвава крутнулася да свайго спадарожніка:

– Руссо! Давай всё манджарэ[34]! Согласье? Сі?

Вочы яе прыжмурыліся і ўзгарэліся ранейшаю свавольнай жвавасцю, пальцы сцялі абламаную буханачку, гатовыя разадраць яе, і Іван аж спалохаўся, адчуўшы, што яна раскрышыць увесь гэты іх болей чым мізэрны запас.

Ён хіснуўся да дзяўчыны і схапіў яе за рукі:

– Дай сюды!

Джулія здзіўлена варухнула брывамі, а Іван выхапіў у яе хлеб і хуценька загарнуў яго ў скуранку. Дзяўчына спярша збянтэжылася, а затым голасна засмяялася.

Ён недаўменна паглядзеў на яе.

– Ты што?

– Руссо правілно. Джулія нон веріт хляб. Слова веріт, любовь веріт. Хляб нон веріт Джулія. Джусто – правілно, руссо!

Усё смеючыся вачыма, яна падышла ззаду да Івана і лёгенька кранулася далоняй ягонай худой лапаткі. Адчуўшы яе нечаканую ласкавасць, ён ніякавата варухнуў плячамі.

– Ладна ты, – буркнуў ён і памкнуўся сігануць шырэй, але ў гэты час ззаду раскаціста грымнуў далёкі вінтовачны стрэл.

Яны абое ўраз азірнуліся і застылі на камені – унізе, недзе каля сялібы, пачуліся крыкі, зараз жа затрашчалі «шмайсеры» – над цяснінай загуло, закалацілася рэха. Іван сцяўся, стаіўся – у гэтай раптоўнай калатнечы ён з усяе сілы ўслухоўваўся, ці не пачуецца там знаёмы ненавісны брэх, – ад гэтага цяпер залежала жыццё. Але брэху быццам не было. Кулі ў расселіну не залятаді, чэргі джгалі недзе ўбаку, і гэта трошкі здзіўляла Івана. З паўхвіліны ён паўслухоўваўся, пасля раптам у яго галаве мільганула здагадка, і хлопец, струхнуўшы з сябе змярцвеласць, кінуў пад ногі дзяўчыне скуранку, а сам па выступах і трэшчынах у скале, хапаючыся за кустоўе, таропка палез угору.

Чэргі ўсё трашчалі, шыпелі, скыгалі ўгары кулі, у гуле страляніны данёсся далёкі трэск матацыклаў. Джулія, задраўшы галаву, напружана слухала і сачыла за Іванам, які карабкаўся ўжо ледзьве не на палавіне крутой стромкай сцяны. Азірнуўшыся на выхад з расселіны, ён пралез яшчэ крыху і тады, угнуўшы голаў, абмёр, убачыўшы ўдалечыні сялібу і немцаў. Джулія ўнізе, відаць, здагадалася, што ён бачыць, ямчэй перахапіла скуранку, скінула клумпес і нешта крыкнула. Але ён, нібыта прыліпшы да скалы, не мог адарвацца ад незвычайнага відовішча, краёчак якога адкрыўся яму з гэтай вышыні.

У рэдкім ельніку па-над сядзібай круціліся ў траве тры матацыклы, кулямёты якіх таропка білі ўгору. Недзе, відаць, спрабуючы прарвацца да скал, трашчала яшчэ некалькі матацыклаў, але іх не было бачна за выступам скалы. Было толькі відавочна, што агонь і ўсю сваю ўвагу немцы скіравалі ў бок ад гэтай расселіны; імпэт іхняга агню сведчыў аб тым, што яны бачылі цэль. Тоячы ў сабе пэўную думку-здагадку наконт гэтага, Іван пасунуўся крыху ўбок на скале, хаваючыся за выступ, узлез вышэй і тады сапраўды ўбачыў тое, што канчаткова яму ўсё растлумачыла.

Знізу штосьці казала Джулія, але ён не слухаў яе, – учапіўшыся пальцамі ў каменны выступ, ён глядзеў, як па схіле да скальнай сцяны, шырока сігаючы галянастымі нагамі, бег чалавек у паласатым. Наўкола яго блізка і далёка пылілі-трэскаліся кулі. Гефтлінг падаў, але затым ускокваў і зноў бег, каб праз некалькі секунд упасці. За ім, праўда, далекавата, каля сялібы, пакінуўшы два матацыклы, трухалі ўгору немцы, а іншыя з месца цераз іх галовы білі з кулямётаў. Агонь быў надта густы і дружны, і ўсё ж гефтлінг бег. Часам ён коратка азіраўся і, здавалася, нават штосьці крычаў, пасля падаў, і Іван кожны раз думаў: не ўстане. Ды не. Як толькі крыху слабеў агонь, небарака ўскокваў і бег, бег угору.

– Руссо! Руссо! Что смотріть? Руссо! – нецярпліва тупаючы на камені, дапытвалася знізу Джулія.

Іван моўчкі сачыў за небаракам, баючыся паварушыцца на скале, лічачы, што лёс таго ўжо вырашаны. І сапраўды, той яшчэ раз упаў, амаль дабегшы да скалы, болей яго ўжо не стала відаць, і страляніна адразу сціхла.

У Івана быццам што абарвалася ўсярэдзіне. Ён хуценька падаўся па камянях уніз, несучы з сабою ціхі смутак і кароценькую ўдзячнасць за яшчэ адну непакорную смерць, якая прыкрыла іх у гэтай расколіне. Саскочыўшы ў дол, ён коратка кінуў Джуліі:

– Капут.

– Капут? – шырока раскрыўшы вочы, не зразумела дзяўчына.

– Кампаніё твой.

– Кранк гефтлінг?

– Ну.

– Ой, ой!

Ён выхапіў у яе, збянтэжанай, сваю скуранку, яна моўчкі хуценька падабрала калодкі, і яны абое кінуліся па камянях угору.

**9**

Яны не здолелі прайсці таемна, адкрылі сябе, ззаду застаўся сведка, і непакой з новаю сілай агарнуў хлопца – выдасць аўстрыяк ці не?

З свайго якога-ніякага вопыту трох уцёкаў ён ведаў, што вось гэткія абставіны былі для ўцекачоў найболыл рызыкоўныя. Нідзе – ні ў полі, ні ў гарах, ні на дарозе – не падпільноўвала іх такая небяспека трапіць у пастку, як тады, калі яны заходзілі ў вёскі, сялібы, на хутары, калі сустракаліся з людзьмі. Так здаралася, што выдавалі нават і недаверлівых, нават і асцярожныя нарываліся на засады. Так часта канчаліся вельмі

цяжкія шляхі на волю і пачыналіся другія, яшчэ больш пакутныя – назад, на захад, у палон. Але і зусім мінаваць людзей было немагчыма – трэба было карміцца, распытаць пра дарогу, пераапрануцца. Гарантыі ад здрады ніколі не было, і ўцекачы часта спадзяваліся на шчаслівы выпадак, на людскасць. Часта так і абыходзілася. Але не заўсёды.

Год назад ён таксама спадзяваўся на тое, што ўсё як-небудзь абыдзецца, як абыходзілася ўжо трыццаць два дні, – чацвёра іх даволі ўдала мcraіналі засады, пераплывалі рэкі, абыходзілі вёскі, пазбягалі сустрэч з паліцаямі, два разы ўцякалі ад пагоні. Аднойчы, праўда, яны згубілі чацвёртага, масквіча-танкіста Валерыя. Астатніх жа як-колечы мінула ўсякае ліха: яны дабраліся да сваёй зямлі, да Валыні. Наўкола ляжалі ўкраінскія сёлы, у полі на конях і валах аралі свае палоскі сяляне. Бралася на цяпло – ужо можна было, не дужа калеючы, начаваць у лясах і без лішняй патрэбы не патыкацца ў вёскі. Каб толькі не харч! Харч прымушаў іх часам заходзіць у паселішчы, і ў тое ранне, пакінуўшы сяброў на ўзлеску, у сяло пайшоў Іван. Напярэдадні хадзілі іншыя, цяпер падступіла яго чарга.

Ён крышку прыпазніўся выйсці з лесу, праз які пакручастай дарожкай яны ішлі ноч. Трэба было дняваць, і дужа не хацелася зашывацца дзе на пусты жывот. Добра ўгледзеўшыся ў сяльцо з узлеску, ён нічога падазронага ў ім не заўважыў; вялікай дарогі паблізу, здавалася, не было, і ён цераз балацявіну, трымаючыся бліжэй да кустоў, рушыў да крайняе хаты. У яго быў пад палой нямецкі аўтамат з дванаццаццю патронамі ў магазіне, здабыты на дарозе пад Кракавам, армейскія боты на нагах і на плячах нейкая несамавітая сялянская світка. З выгляду ён нагадваў звычайнага селяніна, такога, як і ўсе тут, і без перашкод дайшоў да гародаў, потым па бакавой дарожцы ад гумна, што вяла між плятнёў, скіраваў да бліжняе хаты. Але хата стаяла па той бок вуліцы. Ён азірнуўся: паблізу нікога не было, толькі дзесь у двары рыпнулі дзверы і замычала карова, – мусіць, гаспадыня ішла даіць. Але не паспеў ён пераскочыць аблеглы з ночы, пакроплены расой пыл на

дарозе, як з суседняга двара хтось выйшаў на вуліцу. Іван не азірнуўся, аднак, здаецца, патыліцай адчуў, што той заўважыў яго. Хлопец утуліў галаў і таропка шыбануў у падворак. Толькі ўжо хаваючыся за вугал дома, азірнуўся – чалавека таго не ўбачыў, затое згледзеў у двары цераз вуліцу вялізны брызентавы кузаў машыны. Гэта было куды як няўдала, тым болей што з двара ўжо крыкнулі – не то загадвалі нешта яму, не то перасцерагалі каго другога. Дзецца Івану не было куды (за хатай пачынаўся шырокі забаранаваны гарод), і ён кінуўся да расчыненых у сенцы дзвярэй. У дзвярах тых якраз паказаўся няголены, сярэдніх год чалавек. Ён, пэўна, зразумеў усё без слоў, бо пабялеў крыху, зірнуў на Іванаў аўтамат, што тырчаў з-пад палы, і адступіў да шула, даючы дарогу ў хату. Іван, таксама без слоў, ускочыў у чысценькія, прыбраныя сенцы з прыцярушанай аерам падлогай, зыркнуў сюды-туды вачыма, шукаючы якога сховішча, і, не знайшоўшы нічога прыдатнага, праз расчыненыя дзверы кінуўся ў другі пакой, дзе была печ. Ён згледзеў у ёй чорную дзірку падпечча, прыпаў на калені, коратка азірнуўся на акно, пад якім на лаўках у покуце з-пад паласатае саматканае коўдры высоўваліся тры пары дзіцячых ног. Кепскае прадчуванне разанула яго – не, не туды трапіў.

Але перайначваць намер не было калі – на двары затупалі боты, і ён задам таропка сунуўся ў смярдзючую вузкую дзірку падпечча, зараз жа прытуліўся к боку за выступ, прыціснуўся, сцяўся. У сенцы ўжо ўваходзілі людзі. Толькі ён справіўся зацяць дыханне, як адразу данесліся галасы: то былі немцы, двое ці болей. Гаспадар не разумеў іх або, можа, не хацеў разумець, Іван жа ўсё чуў, і перакладчыка яму не трэба было.

– Вэр іст? Вэр ляўфт?[35] – крычаў адзін немец.

– Ін дызэм аўгенблік, іх габе гезэен[36], – гаварыў другі.

– Паночкі, нэ розумію. У мэнэ нікога нэма. Што вы!

У Івана трошкі абмякла напятае яго адчуванне – значыць, гаспадар свой, не выдасць, дзякуй Богу, у

гэтым хоць пашэнціла. Цяпер толькі б затаіцца, забіцца ў самы цёмны закутак, каб не знайшлі. І ён ціснуўся да сцяны што было сілы, скурчыўшыся ў тры пагібелі і амаль што не дыхаючы. Тым часам немцы закрычалі мацней, вылаяліся, заплакалі малыя на покуце. Аднекуль, мабыць, з печы, тупнуўшы па падлозе, да іх кінулася жанчына, пачала супакойваць. Хтось, убеппы ў хату, лязгнуў затворам вінтоўкі; у падпеччы мільгануў цень. Галасней закрычалі малыя, загрукалі тапчаны – мусіць, раскідвалі іх пасцелі. Іван чакаў, трымаючы руку на рукаятцы аўтамата, хоць не ведаў, як тут было страляць. Немцы грукалі ботамі, пэўна, зазірнулі на печ, бразнулі засланкай, і тут жа прамень ліхтарыка мільгнуў па задняй сценцы падпечча. Іван аж прыжмурыўся, чакаючы крыку «гераўскрыхен!». Але праменьчык быў слабаваты (мусіць, разрадзілася батарэйка), немцы нічога не ўбачылі, і боты загрукалі далей. Неўзабаве крокі прыціхлі: напэўна, шукалі ў сенцах. Тады ён, усё яшчэ не варушачыся, выдыхнуў і зноў паціху ўздыхнуў, азадачаны надзеяй: няўжо ўратаваўся? І сапраўды, крокі зусім сціхлі – адно толькі хліпалі ля печы дзеці, і маці, тупаючы босымі пятамі, кідалася, відаць, да акон – нямецкая гамонка чулася ўжо з падворка. Там штосьці гаварыў гаспадар, напэўна, выправаджваючы іх далей ад хаты. І сапраўды, неўзабаве ўсё сціхла, гаспадар, мусіць, увайшоў у сенцы, да яго падалася жонка. Яна нешта хутка-хутка гаманіла, бядуючы і ледзьве не плачучы. Гаспадар злосна кінуў ёй: «Годзе! Змоўкні!» Яна змоўкла, вярнулася ў хату і засакатала да дзяцей.

Іван падумаў быў, ці не пара вылазіць, каб перахавацца куды ў надзейнае месца, як гаспадыня з жахам у голасе крыкнула:

– Пэтро! Пэтро! Ой лышэнько! Грыць ідэ...

Іван зноў сцяўся. Гаспадар знік недзе, з хвіліну яго не было чуваць, затым у двары пачулася лагодна-з’едлівае: «Добры дзень, гэр Пэтра!» Гаспадар стрымана адказаў на прывітанне, там нешта ляснула, быццам бізуном па халяве, і той жа голас неяк дужа будзённа, нібы гаворка

ішла пра сабаку або кацяня, сказаў:

– Каго хуваеш? Ану, підаць ёго сюдой!

– Нікога я нэ хуваю, кум Грыць! Перахрыстыцеся. Чого вы?

– Ага! Ныкога. Што ж, провірымо! Ганна! – крыкнуў Грыць.

– Я тута, кум, – азвалася з дзвярэй напалоханая гаспадыня.

– Кого Пэтра хувае, прызнувайся!

– Ой, хыба ж я ведаю? Ныкога ж він нэ хувае, кум Грыць.

– Нэ хувае. Ану, Настусю, скажы: дзе татко хувае бандыта?

– Не відаю, – адказаў боязны дзіцячы голас.

– Нэ відаетэ. Побачымо, – з шматабяцаючым спакоем вымавіў Грыць.

У Івана ў падпеччы ад злосці да гэтага вылюдка аж анямелі пашчэнкі – так захацелася выскачыць і ўсадзіць яму ў вантробу дзесятак куль. Але хлопец не ведаў, колькі яшчэ там было памагатых, і нядобрае прадчуванне ўжо запанавала ў ім: ён зразумеў, што гэты – не немец, сваю справу ён ведае як мае быць.

– Глух, нэсі солому. Ты, Жупан, тэж. Зараз мі дознаемося, дэ він хуваецца. Мі ёго підсмажымо.

На двары затупацелі крокі, бразнулі недзе паблізу дзверы, – мусіць, у хляўчук. Іван зразумеў, што ўдумаў гэты, каб яму не дажыць да нядзелі, Грыць. «Але няўжо яны адважацца запаліць, няўжо так зробяць са сваім чалавекам, які гэтага вылюдка яшчэ называе кумам?» – пакутна меркаваў Іван.

Тым часам ля акон нешта шаснула, зацямніла святло ў

падпеччы. «Мусіць, паклалі салому», – адзначыў сабе Іван. Пасля ўсё прыціхла: ні крокаў, ні гоману. І раптам закрычала жанчына, ды так роспачна і здзічэла, што можна было падумаць, нібы паляць яе самую, а не хату. За ёю загаласілі ўсе дзеці, зараз жа засмярдзела дымам; Іван рашыў, што ўсё прапала, што згарыць і ён ды яшчэ загубіць людзей. Мусіць, трэба было вылазіць ды прыстрэліць гэтага нягодніка, але ў яго ўсё недзе тлела ў душы надзея, што, можа, не дадуць загарэцца – толькі палохаюць.

Зноў жа, даць загарэцца хаце, а пасля вылезці – ці не замнога гэта будзе кары і для яго і для гэтай сям'і? Проста ён не ведаў, што рабіць, хоць і разумеў, што трэба за секунды нешта рашыць.

Мусіць, ён усё ж выскачыў бы з падпечча, ужо ён на тое наважыўся, як раптам з галашэннем і праклёнамі ў хату кінулася гаспадыня. Перш чым ён паспеў даўмецца навошта, яна затупала ля печы і, сагнуўшыся, праз слёзы закрычала:

– Вылазь! Вылазь! Хату праз тэбэ паляць, прыклятый. Душегуб! Звідкіля тэбэ прынесла? Вылазь!

Іван ажно ўздыхнуў ад палёгкі, што ўсё скончылася (хоць такога ён не чакаў), сунуў аўтамат пад смецце ў кутку і вылез. Злосці на гэтую кабету ў яго не было, зрабілася толькі вельмі журботна і шкада, што гэтак недарэчна абарваўся такі доўгі і дужа нялёгкі шлях...

Так ён ступіў на парог – спакойны і гатовы да ўсяго. З падворка на яго ваўкавата пазіралі чацвёра дзецюкоў, сярод якіх асабліва вылучаўся адзін – здаравенны бугай у светлых картовых штанах і з блакітнаю павязкай на рукаве. Гэта, мусіць, і быў той Грыць. У руках ён трымаў рускі карабін на ўзводзе, Іван пазнаў па затворы і падумаў у той момант, што забіць яго тут яны не адважацца – мусяць перадаць немцам.

Так яно і сталася.

Тоячы ў душы зябкую трывогу, Іван спярша азіраўся і ўслухоўваўся, баючыся, каб немцы не пусцілі сабак, але ішоў час, а навокал усё было ціха. Тады прыйшло меркаванне, што аўстрыяк усё ж іх не выдаў, а матацыклісты, напэўна, іхніх слядоў не знайшлі і да пары пакінулі ўцекачоў у спакоі. Да таго ж, відаць, яны забралі забітага вар'ята гефтлінга – было з чым вярнуцца ў лагер. Ад такіх думак трывожная ўзрушанасць паступова ўляглася, саступіўшы месца іншым думкам-турботам.

Расселіна тым часам, як глыбачэзны крывы калідор, патроху вузеючы, вяла і вяла іх угору. Амаль не спыняючыся, яны лезлі па яе дну ўжо гадзіны з чатыры, калі не болей. Стала зябка і сыра; мусіць, ад вышыні, бы ватай, патроху закладвала вушы. Сонца так ні разу і не заглянула сюды; урэшце знік, захінуты аблокамі, зіхатлівы блакіт угары – клочча шызага туману, чапляючыся за верхавіны скал, хутка паплыло над расселінай. Аднекуль падзьмуў моцны парывісты вецер, пахаладнела так, што не дужа грэла і хада. Яны не маглі тут агледзецца, убачыць, ці далёка адышліся ад горада, але Іван адчуваў, што забраліся высока, іначай не прабіраў бы так холад. І ўсё ж скуранку з загорнутым у ёй хлебам хлопец нёс ненадзетай. Ён разумеў, што галоўнае яшчэ наперадзе, што пахаладае яшчэ болей, магчыма, прыйдзецца ісці па снезе. Праўда, аб сабе ён не дужа клапаціўся, ён мог бы ісці і шпарчэй. Хоць і замарыўся і балелі падбітыя на камянях ногі, але быў яшчэ здатны на болыыае – каторы раз выручала хлопца яго немалая прыродная дужасць, непераборлівасць да ўмоў жыцця і, вядома, суровая армейская загартоўка. Колькі ўжо разоў было на вайне і ў палоне, што іншыя выбіваліся з сіл, падалі і прыставалі ад голаду, стомы, бяссонніцы, а ён трываў. Ён пачаў ужо думаць, што як-небудзь адолее і гэтую бяду, пяройдзе хрыбет (не можа быць, каб не перайшоў), абы толькі быў жывы – стрывае, сцерпіць усё: на волі – не ў лагеры.

Вось толькі Джулія...

Хоць яна з прыкметнаю рупнасцю лезла за ім і цяпер амаль не адставала, але ён, раз-пораз спыняючыся, падазрона і насцярожана паглядваў на яе. Чуйна прыкмячаючы ягоную ўвагу, дзяўчына кожны раз слаба ўсміхалася, відаць было, старалася рабіць выгляд, што ўсё добра, што яна не баіцца і яшчэ мае ў запасе сілы. Аднак неўласцівая для яе парывістай натуры замаруджанасць рухаў яскравей за ўсё сведчыла аб немалой яе стоме.

Аднойчы, выйшаўшы з-за павароту, яны ўбачылі, што зусім ужо звузелы гэты раўчук скончыўся, упёрся праз сотню крокаў ад іх, нібыта ў плаціну, у крутую скальную глыбу, якая перагарадзіла шлях. Хоць ім і не хацелася, але трэба было вылазіць наверх – на вецер, на голыя, адкрытыя адусюль скалы. Мусіць, там можна было прайсці далей.

Іван павярнуў на круты адхон, выкарабкаўся ледзьве не да самага верху і, апусціўшыся на адно калена, прычакаў Джулію. Яна лезла трохі марудней, апусціўшы ад стомы галаў; хлопец упёрся выстаўленай нагою, падаў ёй руку. Дзяўчына ўчапілася ў яе сваімі мяккімі сцюдзёнымі пальцамі, і ён, болей не азіраючыся, павалок яе ўгору.

Яны выбраліся з расселіны на голы, не дужа круты камяністы схіл, але згледзець нічога наўкол не паспелі. Адразу ў іх грудзі пругка ўдарыў вецер, зверху нахлынула, атуліла камяні падранае клочча туману, імклівая золкая макрэдзь закрыла скалы і неба, быццам сыры дым ахутаў наваколле. Праўда, ён не быў суцэльны – у рэдкіх яго разрывах сям-там мільгалі рудыя скалы, далёкія сіняватыя прасветліны, але разгледзець праз іх мясцовасць было нельга. Тады яны спыніліся, і Джулія адразу прыслanілася плячом да выступу скалы. Вецер шалёна рваў на іх штаніны, рукавы, шкуматаў полы іх куртак. Стала яшчэ халадней; Іван разгарнуў у доле пацёртую ўжо, некалі зграбную, рудаватую скуранку, выняў з яе хлеб і са скуранкай ступіў да Джуліі.

– О, нон... нон... Нет! Я тепло, – зыркнула яна на хлопца

ажывелымі вачыма і ўскінула насустрач руку: вецер дробненька матляў яе каротка пастрыжаныя валасы.

Іван, нічога не кажучы, агарнуў адзежынай худыя, вострыя плечы; дзяўчына нехаця захінулася і адразу зябка сцялася, уабрала ў плечы голаў. Ён прысеў над пачатаю буханачкай хлеба – мабыць, можна было крыху з’есці.

– Ільпанэ... Хляб! – зразумеўшы ягоны намер, з галоднай нястрыманасцю сказала яна.

Ён спярша агледзеў буханачку, прыкінуў на руцэ, нібы вызначаючы вагу і тую найменшую норму, якую яны могуць дазволіць сабе ў гэты раз, і ўздыхнуў: дужа ўжо яна была малая. Джулія апусцілася на дол і хуценька пасунулася да яго. Баючыся пакрышыць буханку, Іван не стаў адломваць ад яе, а, азірнуўшыся, падабраў ззаду востры абломак каменя і пачаў ашчадна адразаць пайку. Захутаўшыся ў скуранку, дзяўчына з нейкай замілаванасцю ў вачах пакорна сачыла за рухамі яго грубых пальцаў – як ён рэзаў і як пасля дзяліў адрэзанае надвая, адломваў кавалачак ад аднае палавіны і клаў на другую, яшчэ раз аглядваў.

– Добра?

– Сі, сі. Добро.

Зноў нібы не стала ні холаду, ні стомы. Джулія заззяла вачыма, з нецярплівасцю чакаючы, калі будзе дазволена з’есці гэтую мізэрную пайку. Але Іван з зайздроснаю вытрымкай яшчэ раз падраўняў кавалкі і тады толькі кінуў дзяўчыне:

– Ану, адвярніся.

Яна зразумела, не вымаючы з-пад скуранкі рук, хуценька павярнулася, і ён дакрануўся пальцам да кавалка з дабаўкай.

– Каму?

– Руссо! – з рашучай гатоўнасцю сказала яна і

крутнулася да яго і хлеба.

Іван моўчкі і беражна ўзяў тоненькую лустачку, крыху жывей ухапіла другую яна.

– Гра... Спасібо, руссо.

– Няма за што, – сказаў Іван.

– Руссо! – таропка жуючы і хутаючыся ў скуранку, аклікнула Джулія. – Как імеется твой імя? Іван, да?

– Іван, – трошкі здзівіўшыся, пацвердзіў ён.

Яна заўважыла яго недаўменне і, адкінуўшы голаў, засмяялася:

– Іван! Джулія угодаль! Как ето угодаль?

– Няцяжка ўгадаць.

– Все, все руссо Іван? Правда?

– Ну, не ўсе. Але шмат. Многа.

Яна неяк адразу абарвала сваю хвілінную весялосць, стомлена ўздыхнула, зябка захінулася ў скуранку і крадком ад яго паглядзела на буханачку ў доле. Ён, расцягваючы асалоду, марудна даядаў свой кавалак.

Заўважыўшы яе вельмі красамоўны позірк, узяў буханачку, каб пакласці яе за пазуху, але не паспеў гэта зрабіць, як Джулія раптам войкнула і застыла на месцы. Адчуўшы нядобрае, ён ускінуў на яе позірк – на твары дзяўчыны быў спалох, шырока раскрытыя вочы няўцямна глядзелі па-над яго плячом. Іван павярнуўся з хлебам у руцэ і адразу ўбачыў тое, што напалохала яе.

Воддаль ад іх і ніжэй, у разагнанай сярод туману прагаліне, абапёршыся на расстаўленыя рукі, сядзеў на скале страшны, у падзёртай куртцы гефтлінг. Голы, без валасоў, яго чэрап тырчаў на тонкай шыі з шырокага каўняра паласатае курткі, на якой чарнеў нумар і вінкель, цёмныя вачніцы-правалiны ўтрапёна ўставіліся

на іх. Пэўна, ён убачыў у іхніх руках хлеб, здрыгануўся і, прыскокваючы на месцы, пачаў хрыпла выкрыкваць:

– Брот! Брот! Брот!

Потым абарваў крык, зябка скалануўся і ўжо зусім чалавечым, поўным адчаю голасам патрабаваў:

– Гіп брот!

– Ге, захацеў чаго, – саркастычна ўсміхнуўся Іван, гледзячы на яго.

А гефтлінг некалькі секунд памарудзіў і з нечаканаю злосцю залямантаваў:

– Гіп брот! Гіп брот! Іх бешайнэ гестапо! Гіп брот!..[37]

– Ах, гестапа! – Іван узняўся на ногі. – Ану, марш адсюль! Ну, жыва!

Ён пагрозліва памкнуўся было да вар’ята і толькі ступіў некалькі крокаў, як той скочыў са скалы і адбег далей уніз.

– Гіп брот – нікс гестапо. Нікс брот – гестапо![38]

– Ах ты, сабака! – закрычаў скрозь вецер Іван.

Яго ахапіла злосць, хлопец памкнуўся быў дагнаць гэтага шантажыста, але той засцярожліва адбег яшчэ далей. Згледзеўшы, што Іван спыніўся, ён таксама стаў.

– Гіп брот!..

Іван засунуў руку за пазуху – немец застыў, чакаючы, але хлопец выхапіў пісталет і хруснуў курком.

– Пістоле! – са страхам крыкнуў вар’ят і кінуўся назад.

Іван прыкусіў вусны, ззаду да яго падскочыла Джулія.

– Дать он хляб! Дать хляб! – спалохана загаманіла яна.

Вар’ят тым часам адбег, прыпыніўся і, азіраючыся,

хутка пасігаў уніз.

– Іван, дать хляб! Дать хляб! Нон гестапо! – боязна патрабавала дзяўчына.

«Гад прадажны, – думаў хлопец, злосна гледзячы на хісткую постаць вар’ята. – З ім жарты нядоўгія – наробіць крыку і выдасць немцам. Што зробіш з дурным? І забіць шкада, і адчапіцца няма як. Прыйдуць з сабакамі, патрапяць на след – лічы, усё прапала».

– Эй! – крыкнуў хлопец вар’яту– На брот!

Той, затрымаўшыся за скалу, спыніўся, азірнуўся, здалося, нават падумаў, і неўзабаве праз вецер данёсся ягоны голас:

– Нікс... Ду шіссен! Іх бешайнэ гестапо!..[39]

І зноў падаўся ўніз.

– Ідзі ты к д’яблу! Нікс шыссен! На вось... На!

Іван сапраўды адламаў ад буханачкі кавалак і падняў яго ў руцэ, каб вар’ят убачыў. Джулія, стоячы побач, скалаŭналася ад холаду і занепакоена пазірала на гефтлінга. А той пастаяў крыху, потым апусціўся на выступ скалы. Да іх ён падыходзіць баяўся.

– Ах так, сабака! – закрычаў Іван, страціўшы цярпенне. – Ну і чорт з табой! Ідзі ў гестапа! Ідзі!!!

– Іван, нон гестапо! Нон, Іван! – затармашыла яго за рукаў Джулія. – Дать нэмножко хляб! Нон гестапо...

– Чорта з два яму хлеб. Хай ідзе.

– Он плёхой гефтлінг. Он кранк. Он гестапо...

Хлопец не адказаў, паклаў за пазуху палову буханачкі, пісталет і пайшоў да ранейшага месца ўгору. Джулія моўчкі ішла побач. Ён адчуваў, што так абыходзіцца з гэтым вар’ятам было небяспечна, але цяпер ён ужо не мог саступіць яму – злосная зацятасць аказалася

мацнейшаю за асцярогу. Джулія ўсё азіралася, аднак на іх наляцела імгла, і апроч шэрага нагрувашчання скал навокал нічога не стала відаць – на ўсёй далечыні ўнізе і па баках імчаў, клубіўся, ірваўся золкі імклівы туман. Невядома было, ці гефтлінг сядзеў там, ці, можа, сапраўды вярнуўся назад. Заўважыўшы на твары дзяўчыны трывожны клопат, Іван зазначыў:

– Нікуды ён не пойдзе. Брэша ўсё.

Ён супакойваў яе, але да самога спакой не прыходзіў. Чорт ведае ад каго толькі залежыць жыццё чалавека? Дзе ж гэта справядлівасць? Вар’ят, а вось выжыў, прарваўся ў горы, выкруціўся з аблавы, уцёк з-пад куль... А колькі самых найлепшых хлопцаў палегла ў лагеры?

Сапраўды ўспомніш пра справядлівасць, на якую такая скупая стала зямля.

Яны ўжо выправіліся былі ў шлях, у абход вялізнага слаістага выступа, як Іван азірнуўся і палез у прарэху курткі. Джулія таксама паглядзела назад, але вар’ята нідзе не было. І ўсё ж Іван дастаў кавалак, вярнуўся і, пашукаўшы здатную мясціну, паклаў яго на камень, дзе яны нядаўна сядзелі.

– Ладна. Чорт з ім, гадам! Няхай падавіцца! – нібы апраўдваючыся, сам сабе прабубніў хлопец.

Джулія згодна маўчала.

## 11

Вецер усё гааў і гнаў бясконцыя космы туману, куртка на Іване стала волкай, зябкая дрыгота скаланала спіну. Ён усё азіраўся, пачынаючы ўжо сумнявацца, ці знойдзе скарынку вар’ят. З’явілася нават жаданне вярнуцца, забраць, з’есці яе самому, і, каб як адкараскацца ад надакучлівых думак, ён хутчэй засігаў далей ад гэтага месца.

Неўзабаве яны абышлі слаёны гіганцкі выступ, што,

нібы акамянелы птушыны хвост, тырчаў у небе, узлезлі вышэй, і тады раптам туманнае воблака каля іх разарвалася, неяк быццам асела. Яны ўбачылі вышэй ад сябе голы, круты камяністы масіў і зусім побач на схіле сцежку. Яна бегла не ўніз і не ўгору, а асцярожна між камянёў прабілася наўскос па схіле. Была яна не дужа прыкметная ў гэтым хаосе скал, але ўсё ж абое ўраз заўважылі яе і прыемна здзівіліся.

Іван першы ступіў на яе, азірнуўся ўніз – там між пасмаў туману таксама мільгалі змрочныя скалы, правалы, між іх дзе-нідзе праплывала шызая далячынь. Угары ж, у высокім прысмужаным небе, гарэў асветлены сонцам пярэсты, густа аснежаны хрыбет. Праўда, калі хлопец прыгледзеўся, дык аказалася, што хрыбтоў там аж два: дальні – магутны і шырокі, падобны на сівую нерухомую мядзведзеву спіну, і бліжні – зубчасты, трошкі прысыпаны снегам, які крайняю сваёй вяршыняй з седлавінай ля боку ўпіраўся ў самае неба. Гэтая вяршыня і здавалася адсюль найбольыдай, але Іван ужо ведаў такое ашуканства гор, калі самая бліжэйшая з іх здаецца і самаю высокай. Відаць, усё ж галоўны тут быў той дальні мядзведжы хрыбет, думалася, што за ім ужо жаданая мэта іхніх уцёкаў – партызанскі Трыест.

Задраўшы галаў, хлопец з хвіліну ўглядаўся ўгору, у гэты парог на іх шляху ў будучыню, вельмі хочучы ўпэўніцца, што пагоні тут ужо не будзе, што самае страшнае яны пераадолелі, што людзі цяпер ім не сустрэнуцца, – цяпер ім супрацьстаяла толькі прырода, для змагання з якой трэба адно: болей сілы. Затым ён паглядзеў на прыціхлую і таксама, відаць, агорнутую новым клопатам сваю спадарожніцу: яна рухава жмурыла бухматыя вейкі, таксама ўзіраючыся ў снегавыя хрыбты. І тады, мабыць, упершыню, у яго з’явілася ціхая задаволенасць ад таго, што перад грознаю невядомасцю гор ён не адзін, што побач усё ж чалавек, хоць бы і жанчына. Адчуўшы кароткі пробліск задавальнення, ён кінуў:

– Айда?

Наўрад ці ведала яна гэтае хлапчукоўскае слова, але цяпер настолькі суладнымі былі іх пачуцці, што яна зразумела і згодна падхапіла:

– Айда!

І яны выправіліся па сцяжынцы, што апярэзвала голую скалістую касагорыну. Угары ў разрывах туману нестрымана ярка бліснула паніжэлае ўжо сонца, клочча аблокаў асляпляльнаю белізною заззяла на схілах гор; па скалах і безданях хутка памчаліся чорныя шкуматы ценяў і побач суладна з імі – яркія плямы святла. Вецер, не сціхаючы, ірваў Іванаву куртку, пухіром надзімаў праз дзірку штаны. Джулія зябка наставіла шырокі каўнер скуранкі. Яны падняліся вышэй. Асветленыя сонцам унізе, выразна сталі відны чорная шчыліна расселіны, камяністыя касагорыны, на адной з якіх віднелася, адкінуўшы даўжэзны цень, перыстая патарчака-скала. Іван зірнуў туды і спыніўся: на тым месцы, дзе яны нядаўна сядзелі, сагнуўшыся, нібы шукаючы штось у Доле, дыбаў на сваіх тонкіх нагах вар’ят гефтлінг.

– Глядзі ты – прывязаўся.

– Траджіко челёвэк, – сказала Джулія. – Пекато – жалко!

– Чаго шкадаваць? Сволач ён.

– Он хочет руссо ідет. Но руссо бёзе. Он бояться.

– І правільна робіць, – коратка зазначыў Іван.

Хлопец рушыў далей, махнуўшы рукой на вар’ята, хоць мець такі хвост ззаду не вельмі падабалася яму. Але што зробіш з ненармальным – і адагнаць не адгоніш і ўцячы некуды. Прыйдзецца, відаць, патрываць так да ночы.

– Іван, – сказала дзяўчына, робячы націск на «і». – Ты не імель зло Джулія?

– А чаго мне злаваць?

– Ты нон бёзе?

– Можаш не баяцца.

– Нон бояться, да?

– Да.

Кранутwhy стомаю, яе твар сагнаў лагодную ўсмешку і пасур’ёзнеў, адбіўшы невясёлы ўнутраны ход думкі.

– Джулія руссо нон бояться. Джулія снег бояться.

Іван, ідучы наперадзе, толькі ўздыхнуў на гэта: сапраўды, снег і такі мізэрны запас хлеба ўсё болей пачыналі непакоіць і яго. Хлопец падумаў, што трэба было ў лесніка прыхапіць яшчэ што і абавязкова абутак, бо голымі нагамі проста невядома як было лезці ў снег. Але добрыя думкі, як заўжды, з’явіліся позна. Тады, вядома, яны не думалі, што дабяруцца да снежных вяршынь, – тады шчасцем здавалася выскачыць жывым з аблавы. І так дзякуй аўстрыяку – каб не ён, хлеба яны не мелі б. Іван хутка сігаў па сцяжыне; збоч ярка свяціла, не грэючы, нізкае сонца, па касагорыне валакліся-мільгалі дзве даўжэзныя, да самага нізу, цені. Суцяшаць, угаворваць дзяўчыну ён не хацеў, толькі сказаў:

– Куртка ў цябе ёсць. Чаго баяцца. Манто не чакай.

Дзяўчына, чуваць было, уздыхнула і, памаўчаўшы, сказала:

– Рома Джулія многа манто імель. Фір манто – черна, бела.

Ён насцярожыўся і сцішыў крок.

– Што – чатыры манто?

– Я. Фір манто. Четыре, – удакладніла яна.

– Ты што – багатая?

Яна засмяялася.

– О, нон богата. Бедна. Політіше гефтлінг.

– Ну, не ты – бацька. Бацька хто твой?

– Батіка?

– Бацька. Ну, ацец. Фатэр. Хто ён?

– А, іль падрэ! – зразумела яна. – Іль падрэ коммерсанто. Діретторе фірма.

Ён ціха прысвіснуў – ну і ну, аказваецца, з буржуяў. «Не хапала яшчэ, каб гэты бацька аказаўся фашыстам, вось была б прагулачка ў Альпах, – выбраўшыся да сваіх, век не апраўдацца», – падумаў ён і крута азірнуўся.

– Фатэр фашыст?

– Сі, фашісто, – проста адказала Джулія, жвава зірнуўшы ў яго пасуравелыя вочы. – Начальнік мілітo.

Яшчэ лепш! Чорт ведае што робіцца на свеце! Як казаў той Жук, кінеш палку ў сабаку – трапіш у фашыста. Ну і Еўропа!

Ён саступіў на край сцежкі, даў дзяўчыне параўняцца з сабой і з няўтойнай цікавасцю агледзеў яе ладненькую, цыбатую, як-колечы апранутую фігуру. Але, дзіўная справа, гэтае стракатае, з чужога пляча ўбранне ўсёй сваёй недарэчнасцю не магло зацьміць яе маладой прыроднай статнасці і пекнаты, якая праглядвала ва ўсім: і ў гнуткасці рухаў, і ў ласкавай прыгажосці твару, і ў звычцы трымаць галаву з годнасцю і грацыяй. Яна пакорліва-аддана паглядвала на яго, рукі трымала сашчэпленымі ў доўгіх рукавах скуранкі і прывычна ляскала па сцяжынцы сваімі нязграбнымі клумпес.

– А ты што ж... Таксама, можа, фашыстка? – з абвостранай унутранай чуйнасцю да яе запытаў Іван.

Дзяўчына з прытоеным папрокам кальнула яго вачыма.

– Джулія фашіста? Джулія – комуніста! – аб’явіла яна з даўно ўсвядомленай гордасцю.

– Ты?

– Я!

– Брэшаш, – пасля паўзы недаверліва сказаў ён. – Якая ты камуністка?

– Комуніста. Сі. Джулія комуніста.

– Што, уступіла? І білет быў?

– О нон. Нон латэсара[40]. Формально нон. Моральмэнтэ комуніста.

– А, маральна! Маральна не лічыцца.

– Почему?

Ён не адказаў. Што можна было сказаць на гэта наіўнае пытанне? Каб так кожнага, хто сябе назаве камуністам, і лічыць ім, колькі б тады набралася такіх? Ды яшчэ буржуйка... Хто яе прыме ў партыю! Балбоча проста...

Трошкі прытушыўшы сваю цікавасць, Іван пайшоў хутчэй.

– У нас тады лічыцца, калі білет дадуць.

– А, Русланд! Русланд іначе. Я понімайт. Русланд советіка. Русланд свобода.

– Ну, у нас не тое што ў вас, буржуяў.

– Советіка очень карашо. Эмансіпаціоне. Ліберта. Братство. Так?

– Ну.

– Очень карашо! – пранікнёна казала яна. – Джулія очен, очен уважаль Русланд. Нон фашізм. Нон гестапо. Очен карашо. Іван счастлів свой страна, да? – Яна па сцяжыне падбегла да хлопца і абе(† узялася за яго руку вышэй локця. – Скажы, Іван, как до война жіль? Какой твой дэрэвня? Слюшай, тэбя сіньоріне, дэвушка, любіль? – раптам запытала яна, з гуллівай адданасцю

заглядваючы яму ў заклапочаны твар.

Іван ніякавата лыпнуў вачыма, але рукі не адабраў – ад яе пяшчотнае блізкасці ў яго нутры зашчаміла непрывычнай лагоднасцю.

– Якая там дзяўчына! Не да дзяўчат было.

– Почему так?

– Так.

– Что, плёхо жіль? Почему?

Ён спахапіўся, што сказаў не тое, – пра сваё жыццё ён не хацеў ёй гаварыць.

– Так. Markdownнае было.

– Ой, неправда говоріль, – хітравата скасіла яна на яго зіркастыя вочы. – Любіль мнёго сіньоріно!

– Куды там!

– Какой твой провінція? Какой место ты жіль? Москва? Кіев?

– Беларусь.

– Белорусь. Это провінція такой?

– Рэспубліка.

– Рэспубліка? Это карашо. Італія манархія. Монтэ – горы ест твой рэспубліка?

– Не. Гор няма. У нас болей лясы. Пушчы. Рэкі і азёры. Азёры самыя прыгожыя, – міжвольна аддаючыся ўспамінам, загаварыў ён. – Мая вёска Цярэшкі якраз ля двух азёр. Калі ў ціхі надвячорак зірнеш – не шалохнецца. Бы люстэрка. І лес вісіць уніз вяршалінамі. Як намалёваны. Адно – рыба плешчацца. Шчупакі – во! Што там горы!

Ён сказаў адным разам занадта многа для свайго

негаваркога характару, зараз жа адчуў гэта і змоўк. Але растрывожаныя яго думкі і ўяўленні ўжо былі там – у родным далёкім краі, і цяпер, у гэтым дзікім нагрувашчанні скал, яму стала так нясцерпна самотна, як даўно ўжо не было ў палоне.

Яна, мусіць, адчула тое і, калі ён змоўк, папрасіла:

– Говорі еще. Говорі твой Белорусь.

Сонца тым часам зноў закрылася шэрым туманным воблакам.

На гладкую касагорыну з пратаптанай наўкос сцяжынай асеў шэры імклівы цень, дымчатае вільготнае клочча хутка панеслася ўпоперак схілу. Было сцюдзёна і ветрана.

Спачатку бязладна і не вельмі ахвотна, часта спыняючыся, нанава перажываючы старыя ўражанні, ён, як пра нешта далёкае, дарагое і незвычайнае, пачаў расказваць ёй пра ўсыпаныя буйнымі жалудамі дубровы, пра бабровыя хаткі на азёрах, пра сцюдзёны гаючы бярозавік вясной і пра водар чаромхавай квецені ў маі.

Даўно ўжо ён не быў такі гаваркі і адталы душой, як у гэты час, – ажно не пазнаваў сябе. Ды і яна з яе зважлівай Цікаўнасцю да ягонага роднага неяк адразу пабліжэла, нібы яны здаўна былі знаёмыя і сустрэліся пасля доўгай цяжкай ростані.

Урэшце ён змоўк. Яна патроху вызваліла яго руку і вальней узялася за шурпатыя пальцы. Спакойна спытала:

– Іван, твой мама карашо?

– Мама? Харошая.

– А іль падрэ – батіка твой?

Яна летуценна пазірала на схіл і не заўважыла, як здрыгануўся яго ўраз спахмурнелы твар.

– Не памятаю.

– Почему? – здзівілася яна і аж прыпынілася.

Ён не захацеў спыняцца, сашчэпленыя іх рукі выцягнуліся.

– Памёр бацька. Я яшчэ малы быў.

– Морто? Поміор? Почему поміор?

– Так. Хвароба зламала.

Яна далікатна выпусціла яго пальцы, зайшла крыху збоч, чакаючы, што ён скажа нешта важнае, растлумачыць тое, што не магла зразумець яна.

Але ён ужо ні аб чым не хацеў гаварыць, толькі ўздыхнуў, падумаўшы, што, відаць, лепш ёй не чуць пра ўсё складанае і труднае, што было часткай яго жыцця.

**12**

Так думаў ён, лезучы па крутой сцяжыне ўгору і будучы ўпэўнены, што робіць правільна. Сапраўды, хто яна, гэтая пеставатая прыгажунька, зіхатлівы асколак чужога, далёкага свету, недарэчным лёсам вайны закінутая ў фашысцкі канцлагер, – хто яна, каб выкладаць ёй яго балючае, што ў свой час адабрала столькі душэўнае сілы ў самога? Ці прыме яе, няхай сабе і добрая, сумленная дзявочая душа яго суровую праўду, у якой дай бог разабрацца самому?

Аддаўшыся роздуму, Іван ішоў спорна, таропка і не прыкмячаў часу. Джулія, пэўна, зразумеўшы, што зачапіла балючую струну ў ягонай душы, таксама зважліва змоўкла, крыху адстала, і яны доўга ішлі так – лезлі ўгору па схіле. Тым часам на бязладна-велічнае навалле гор споўз з паднябесся трывожны ветраны вечар. Горы пачалі хутка цямнець, вузела і без таго сцятая хмарамі далячынь; знік срабрысты зіхоткі бляск далёкага хрыбта, туманнае марыва дарэшты праглынула яго. На фоне трошкі прысветленага неба

гіганцкім спарышом чарнела бліжняя верхавіна з крыху меншаю побач. У седлавіне, напэўна, быў перавал, туды вяла сцежка.

З усёй пары сутак вечар найбольш прыгнятальна дзейнічаў на Івана. Ні ўдзень, ні ўначы, ні ўранку не было так самотна, так няўтульна-трывожна і сумна, як у часе змяркання. З усёй вастрынёй ён адчуў гэта ў гады вайны ды яшчэ ў палоне, на чужой зямлі – у бядзе, голадзе і сцюжы. У такі час асабліва востра дапякалі адзінота, бездапаможнасць, залежнасць ад бязлітаснае варожае сілы. І асабліва нясцерпна хацелася міру, дабра і роднае, блізкае душы побач.

– Іван!.. – нечакана паклікала ззаду Джулія. – Іван!

Як заўжды, яна рабіла націск на «і», гэта было непрывычна і знячэўку ажно палохала, быццам тут з’явіўся яшчэ нехта, апрача іх дваіх.

Іван здрыгануўся і прыпыніўся.

Нічога болей не кажучы, Джулія моўчкі тупала між камянёў, і ён без слоў зразумеў, у чым справа. Адразу відаць было, як стамілася яна. Ён адчуваў і па сабе, што вельмі трэба было б адпачыць, але ў гэтай завоблачнай высі было нестрывана холадна: шалёна буяў, ірваў вопратку, гуў у расселінах вецер. Вельмі зяблі на хадзе рукі, ногі дык зусім акалелі, ажно анямелі ад сцюжы. А холад усё мацнеў, як мацнеў к ночы вецер. Усёй сваёй жорсткай, сляпой сілай прырода абрушвалася на дваіх гэтых людзей. Іван дужа спяшаўся, вельмі выразна разумеючы, што начаваць тут нельга, толькі ў хадзе паратунак, і калі яны ў гэтую ноч не адолеюць перавал, то заўтра ўжо будзе позна.

– Іван, – сказала, бліжэй падышоўшы, Джулія. – Очен, очен усталь...

Ён пераступіў з нагі на нагу: ступні балелі, саднелі, заходзіліся ад сцюжы, але цяпер ён не зважаў на іх – ён заклапочана глядзеў на Джулію.

– Давай як-небудзь... Бач, хмурыцца.

З-за спарыша-вяршыні перавальвалася, асядаючы на схілах, густая, змрочная хмара. Неба ўгары пакрысе тушыла свой бляск. Цьмяна памільгала і знікла ў чорнай навалачы малюсенькая адзінокая зорка. Прыцьмеўшае наваколле – скальныя груды, адхоны, цясніны і даліны – завалакла мутная мешаніна аблокаў.

– Почему нет переваль? Где ест переваль?

– Хутка будзе. Хутка, – абнадзейваў дзяўчыну Іван, сам не ведаючы, колькі яшчэ трэба дабірацца да той седлавіны.

Яны зноў ішлі па ледзьве прыметнай у камяністым доле сцяжынцы. Іван ужо стаў баяцца, каб не згубіць яе – гэта было б кепска. І хлопец, слухаючы праз вецер прывычны стукат Джуліных калодак, мерным тэмпам лез і лез усё вышэй. На дужа крутых мясцінах ён прыпыняўся, чакаў дзяўчыну, падаваў ёй руку і вывалакваў угору, сам пры тым ледзьве ўтаймоўваючы ў грудзях сэрца.

А вецер шалёна шкуматаў вопратку, тугімі штурхялямі біў то ў спіну, то ў грудзі, забіваў дыханне, круціў у камянях, часта мяняючы кірунак, – не зразумець было, адкуль ён і дзьмуў.

Тым часам зусім сцямнела, грамады скал зліліся ў адну непраглядную масу, неба чорнай беспрасветнасцю самкнулася з гарамі. Стала так цёмна, што Іван пачаў аступацца, натыкацца на камяні, некалькі разоў балюча пабіў ногі, і тады першы непакой скалануў яго – дзе сцежка? Ён сагнуўся, лепей угледзеўся, абмацаў нейкі аскалёпак побач і зразумеў, што сцежка прапала, – яны заблудзілі.

Тады ён стаў, адвярнуўся ад ветру, сцяўся ўсім целам, чакаючы, пакуль падыдзе дзяўчына. Калі ж тая знямоглым сілуэтам дашкандыбала да яго, Іван кінуў: «Чакай тут», а сам адышоўся ўбок, узіраючыся ў дол. Джулія гэтую навіну ўспрыняла моўчкі, бадай што

абыякава, адразу павалілася на камень і скурчылася ад ветру. Ён, душачы трывогу, ады шоўся далей, пакідаўся сюды-туды, углядаючыся ўніз і раз-пораз мацаючы дол ступнямі, – сцежкі не было. Спакваля ён пачаў заўважаць наўкола ў цемры касое няпэўнае мільгаценне, адставіў убок руку і зразумеў: то пайшоў снег. Дробненькая рэдкая крупка коса неслася з ветранае чорнае прорвы, прыскокваючы на камянях, збіралася ў ямках, шчылінах, у доле. Іван пастаяў яшчэ, аглядваючыся і напружана згадваючы, што рабіць. Снег пагусцеў, і ў доле трошкі пасвятлела ад шэрай блытаніны плям. І тады ён заўважыў непадалёк белаватую крывуліну сцежкі.

– Эй, Джулія! – ціха паклікаў ён.

Дзяўчына, аднак, не адгукнулася. Ён з прыкрасцю на душы пачакаў яшчэ трохі. Думалася: «Што яна там, ці не заснула? Вось яшчэ даў бог спадарожніка! Па бульвары б з такой шпацыраваць...»

Вецер па-ранейшаму люта буяў, снегавая крупка мільгала, шархацела на камянях, сталі заходзіцца ад золкасці ногі, рукі ён схаваў у рукавы. За пазухай слізкім холадам пёкся настылы браўнінг.

– Эй, Джулія!

Яна зноў не адказала, і ён, вылаяўшыся сам сабе, з неахвотай, асцярожна ступаючы на мокрыя сцюдзёныя камяні, пайшоў туды, дзе пакінуў яе.

Джулія сядзела на камені, скурчыўшыся ў тры пагібелі, з каленямі захінуўшыся скуранкаю. Як і ўчора, яна не азвалася, не ўзняла галаў на яго прыход, і ён няўцямна, адчуваючы вялікі клопат, спыніўся над ёю.

– Баста, Іван, – ціха прамовіла яна, не паднімаючы галавы.

Ён памаўчаў.

– Як гэта, баста? Ану, уставай!

– Нон уставай. Нет уставай.

– Ты што – жартуеш?

– ...

– Ану, падымайся! Яшчэ трошкі і – перавал... А ўніз ногі самі пабягуць.

– ...

– Ну, ты чуеш?

– Фініта. Нон Джулія марш. Нон.

– Разумееш, нельга тут спыняцца. Акалеем. Бач, снег.

Аднак словы яго на яе не дзейнічалі! Ён бачыў, як яна знемагла, і адчуваў бяссілле свае логікі. Але як яшчэ можна было прымусіць яе ісці? Падумаўшы крыху, ён запусціў руку за пазуху, выцяг адтуль абкрышаную рэштку буханкі і, адвярнуўшыся ад ветру, вельмі ашчадна адламаў кавалачак мякіша.

– На вось хлеба. З’еш!

– Хляб?

Яна нібы страпянулася, адразу ўзняла галаў. Іван сунуў у яе рукі кавалачак, і яна, некалькі разоў укусіўшы, з’ела яго.

– Яшчэ хляб?

– Не, болей не дам.

– Малё, малё хляб. Дай хляб! – бы дзіцё, капрызна папрасіла яна.

– На перавале яшчэ дам.

Яна адразу панікла ў змрочным доле і знерухомела.

– Нон переваль.

– Які чорт нон?! – раптам вызверыўся ён, стоячы насупраць. – Ану, уставай. Ты што ўздумала? Замерзнуць? Каму ты гэтым зло зробіш? Немцам? Ці ты хочаш ім услужыць – вярнуцца ў лагер? Ага, яны там чакаюць. Пакажаш, куды Іван пайшоў! – крычаў ён, захлынаючыся ад моцных парываў ветру.

Яна, усё не мяняючы паставы, ускінула галаву.

– Нон лягер.

– Не пойдзеш у лагер? Куды ж тады ты пойдзеш?

Яна змоўчала і зноў панікла, сабралася ўся ў маленькі жывы камячок.

– Замерзнеш жа! Дзівачка! Прападзеш да ранку, – крыху памякчэўшы, сказаў ён.

Яна маўчала.

Вецер усё сыпаў снегам. Снег, праўда, быў рэдкі і дробненькі, але наваколле спакваля ўсё ж пасвятлела, шараватыя плямы скрозь прабівалі чарнату ночы, стала лепей відаць. Цела, аднак, у спакоі пачало хутка астываць і раз за разам здрыгвацца ад сцюжы.

– Ану, уставай! – Іван шкуматнуў яе за скуранку і па-армейску сурова скамандаваў: – Устаць!

Яна, памарудзіўшы, знямогла паднялася, ступіла калодкамі і паціху павалаклася за ім, каб не ўпасці, хапаючыся за камяні і аслабела хістаючыся ад парываў ветру. Іван, насупіўшыся, памалу ішоў да сцежкі. Ужо ён стаў думаць, што ўсё як-небудзь абыдзецца, што яна разыдзецца, што найгорш у такім яе стане збіцца з рытму, хоць бы і прысесці, – тады куды як трудна падняцца на ногі. Яны падышлі да сцяжыны, калі моцны парыў ветру сакануў па тварах крупкай, ударыў у грудзі. Абое яны задыхнуліся, а Джулія ўпала.

Ён спачатку памкнуўся быў памагчы ёй устаць, узяў за руку, але яна не ўставала, пачала кашляць, пасля доўга аддыхвалася і ўрэшце, сеўшы ў доле, са спакойнай

рашучасцю канчаткова прынятага рашэння аб’явіла:

– Джулія фініта. Аллес. Іван Трієсто. Джулія нон Трієсто. Аллес нон.

– І не падумаю.

Ён адышоўся крыху ўбок і таксама сеў на выступ скалы.

– А яшчэ гаварыла: камуністка, – папракнуў ён. – Панікёр ты.

– Джулія нон панікіор, – зазлавалася дзяўчына. – Джулія партыджано.

Іван прыкмеціў ноткі крыўды ў яе голасе і рашыў выкарыстаць іх. «Можа, гэта разварушыць яе», – падумаў хлопец.

– Панікёрша, а то хто ж ты?

– Джулія нон панікіор. Сілы малё.

– А ты цераз сілу, – пацішэўшы, сказаў ён. – Знаеш, як аднойчы на фронце было? На Остфронце. Куды ты збіралася. Акружылі нас фрыцы ў хаце. Не выйсці. Б’юць з аўтаматаў у вокны. Крычаць: «Рус, здавайся!» Ну, наш узводны Пятрэнка таксама аллес кажа. Капут. А ротны Белашэеў як закрычыць: «Стой! Не для таго нам зброю далі. Ану, – кажа, – прарывацца». Выскачылі мы ўсе разам у дзверы, як ударым з аўтаматаў і пад плот, за вуглы. І што ты думаеш: вырваліся. Пяцёра, праўда, палеглі. Белашэеў таксама. Але ж чацвёра ўратаваліся.

Джулія маўчала.

– Дык што, пайшлі?

– ...

– Ну, якога чорта маўчыш? – здрыгануўшыся ад сцюжы, пачаў ён траціць цярпенне. – Замерзнеш жа, дурніца. Варта было ўцякаць, столькі лезці пад самае неба?

Яна маўчала.

– За што тады хлопцы сябе ўзарвалі? Той бомбай. Каб хоць хто-небудзь уцалеў. А ты ўжо і скісла.

Ён скочыў, адчуваючы, што да нутра прамёрз на гэтым ветры, захадзіў па сцяжыне – на шэрым посыпе адбіліся цьмяныя сляды яго босых ног. Добра яшчэ, што не было марозу, але пад ранак, мусіць, падмарозіць, і тады яны тут прападуць. Іван рашуча спыніўся ля Джуліі.

– Дык не пойдзеш?

– Но, Іван.

– Ну, як хочаш. Прападай, – са знарочыстай абыякавасцю сказаў ён і змрочна патрабаваў: – Давай клумпес!

Яна слаба заварушылася, выняла з калодак ступні і ад сцюжы паставіла іх адна на адну. Ён адразу насунуў на свае акалелыя ногі гэты несамавіты абутак, у якім яшчэ таілася яе цяпло.

– Скідай і тужурку.

Яна паслухмяна зняла і скуранку. Ён рашуча напяў яе на свае шыракаватыя плечы, захінуўся. Адразу стала цяплей.

Робячы гэта, ён адчуваў, што між імі назаўжды нешта рушыцца, што нельга так ставіцца да жанчыны, але ў яго цяпер прарвалася злосць да яе. Здавалася, што яна ў чымсьці ашукала і яго, заўпарцілася, і таму Івану міжвольна карцела пакараць яе.

Лаючыся ў думках, ён, аднак, адчуў штосьці ніякаватае ў душы. Расставанне гэта нечакана аказалася да недарэчнасці няёмкім, і ён стараўся заглушыць гэтую няёмкасць злосцю.

Толькі ўсё ж дзяўчына ў чымсь мела рацыю, у чымсь быў несправядлівы ён. Хлопец адчуваў гэта, і злосці ў яго не хапала.

Надзеўшы тужурку, ён ступіў два крокі па сцежцы і павярнуўся да яе.

– Што ж, бывай!

– Чао! – сцяўшыся на камені, ціха і зусім абыякава сказала яна.

Гэтае слова адразу нагадала яму іх сустрэчу ўчора і той радасны бляск у яе такіх зіхатлівых вачах, які здзівіў яго ў лесе, і яе безразважную смеласць пад носам у немцаў, і поўныя ўлюбёнасці і нейкай шматзначнасці позіркі ў дарозе. Івану стала зусім нядобра. Гэта былі не жаль і не спачуванне – нешта зашчымела ў ягоным сумленні, хоць ён ні ў чым не мог папракнуць сябе, як нічым не быў абавязаны ёй. «Не, не, – сказаў ён сабе, глушачы тую шчымлівасць. – Так лепей». Аднаму зручней, гэта ён ведаў з самага пачатку. Яму не трэба было звязвацца з ёю. Цяпер у яго калодкі на нагах, на плячах тужурка, крыху хлеба – на аднаго гэтага хопіць даўжэй, ён будзе яго эканоміць – па сто грамаў на дзень. Адзін ён выцерпіць усё, пяройдзе хрыбет, ён не можа не перайсці, калі б нават давялося лезці па пояс у снезе, – яму трэба ў Трыест, да партызан. Навошта было звязвацца з гэтай дзеўкай? Хто яна яму?

Ён таропка ўзбег на круцізну, быццам уцякаючы ад думак аб ёй, пакінутай унізе, але ўсё не могучы адолець прыкрасці сваіх адчуванняў. Нешта падспуднае ў душы жыло іншаю логікай, ногі неўзабаве замарудзілі крок, ён азірнуўся, раз, другі – яна ледзьве прыкметнаю плямкай усё сядзела на схіле, і яе пакорлівая бездапаможнасць перад яўнай пагібеллю раптам зрушыла, скрышыла ўвесь нядаўні ягоны намер. Іван, сам таго не жадаючы, павярнуўся і, заляскаўшы па сцяжыне калодкамі, пабег уніз.

Джулія, учуўшы яго паблізу, здрыганулася і спалохана ўскінула галаву.

– Іван?

– Я.

Яна, відаць, нешта западозрыла і насцярожылася.

– Почему?..

Ён, не адказваючы, скінуў тужурку.

– На. Надзявай.

Усё не ўстаючы з месца, яна хуценька захінулася ў тужурку; ён, намагаючы, прытрымліваў рукавы і, калі яна ўправілася, тузануў дзяўчыну за локаць.

– Ідзі сюды.

Яна ўпарта адхіснулася, вырвала локаць і застыла, як бы баючыся яго рук. З-пад броваў строга зірнула ў яго твар.

– Ідзі сюды.

– Но.

– Ат, нон мне яшчэ...

Ён адным рыўком упоперак абхапіў яе дрыготкае тоненькае цела, ускінуў на плячо. Яна рванулася, затрапятала, як рыба, забілася ў яго руках, нешта загаманіла, а ён, не зважаючы на гэта, закінуў яе за спіну і ўхапіў пад калені рукамі. Яна раптам перастала біцца, заціхла, каб не ўпасці, таропка ашчаперыла яго за шыю, і ён адчуў на шчацэ яе цёплае дыханне і пякучую кроплю, якая заказытала-пакацілася па шыі за ягоны каўнер.

– Ну, ладна. Ладна... Як-небудзь...

Яна, сцішыўшыся, прыціснулася да яго шырокай спіны і задыхнулася. Ён і сам задыхнуўся, але не ад ветру – ад нечага незнаёмага, уладарна-лагоднага, вялікага і надзіва бездапаможнага адначасна, што захліснула яго. Нядаўні намер пакінуць яе цяпер аж спалохаў яго, і хлопец, цяжка загрукаўшы калодкамі, рушыў угору.

Снег ужо густа абсыпаў голы камяністы дол. Калодкі слізгалі па сцежцы; і на крутых мясцінах, каб не зваліцца з ношаю, Іван стараўся ісці бокам, як лыжнік, падымаючыся на схіл. Спачатку ён не адчуваў цяжару яе маленькага цела, трохі падтрымліваў яго пад калені і, угнуўшыся, з незразумелым запалам лез угору. Але неўзабаве ён адчуў, што трэба спыніцца, выпрастацца, уздыхнуць, – грудзям вельмі не хапала паветра. Праўда, ён угрэўся. Разгарачанаму целу ніпачым стаў зусім азвярэлы вышынны вецер, унутры таксама ўсё гарэла, гаркота ад стомы раздзірала лёгкія.

Мусіць, перавал быў ужо блізка, бо пад’ём патроху выраўноўваўся. Сцяжына лезла ўжо без крывуляк па голым, дужа заснежаным скалістым узлобку, справа высілася нешта стракатае – пэўна, шэрая грамада той, меншай вышыні. Значыць, яны дабіраліся да седлавіны. Вецер, аднак, аж шалеў ад лютасці, навокал, бы ў нябачнай гіганцкай трубе, гуло, стагнала, звінела, хоць звінела, магчыма, у вушах. Мароз, напэўна, тут памацнеў, ад сцюжы болей за ўсё дапякала рукам і каленям.

Добра яшчэ, што не было макрэдзі, крупчасты снег не асядаў на вопратцы; вецер балюча сек ім па тварах і з вялізнаю хуткасцю нёсся далей. Горы гулі і стагаалі.

Трэба было адпачыць, але Іван адчуваў, што калі ўпадзе ў снег, то, напэўна, болей ужо не ўстане. І ён валок Джулію так гадзіну ці болей, маленькімі крокамі патроху ўзнімаючыся па пятлястай сцяжыне. Джулія ўвесь час моўчкі тулілася да яго, пальцы яе на ягоных грудзях часам уздрыгвалі – ён добра адчуваў гэтыя рукі таксама, як і ўсё яе цела, ягоную цеплыню на спіне. І, дзіўная рэч, не зважаючы на стому, на нядаўнюю сварку і сваю злосць, яму было добра. Каб толькі болей сілы, ён згодны быў бы несці яе так, прытуленую і пакорную, далёка-далёка.

Калі ўжо сталі падкошвацца ногі і хлопец спалохаўся, што ўпадзе, побач з снегавой мітуслівай шэрані выплыў нейкі чорны скальны абломак. Іван адразу збочыў са сцежкі і, коўзаючыся калодкамі на камянях, скіраваў да

яго. Джулія маўчала, цесна тулілася шчакой да яго шыі. Ля каменя Іван павярнуўся і прысланіў да яго дзяўчыну. Рукі яе пад яго падбародкам разняліся, плечы адчулі сябе вальней, і толькі тады ён зразумеў, якая яна ўсё ж цяжкая.

– Ну, як ты? Замерзла?

– Но, но.

– А ногі?

– Да, – ціха сказала яна. – Нёгі да.

Прытым яна выглядала неяк надзвычай для свайго характару прыціхлай, нібы вінаватай перад ім у чымсьці. Ён адчуваў гэта, і яму хацелася нейкай дабратою, ласкаю супакоіць яе. Толькі вось лагоднасць дужа не ішла з ягонай душы, бы засохла там, і знешне ў адносінах да дзяўчыны ён па-ранейшаму быў дужа стрыманы.

Не паварочваючыся да яе тварам, ён намацаў рукамі яе ногі – яны былі дужа азызлыя, нібы падпухлыя, і дужа сцюдзёныя, сцюдзянейшыя за яго пальцы. Ад ягонага дотыку яна ціха войкнула і тузанула іх да сябе.

– Э, так нельга, давай сюды.

Яна, відаць, не зразумела, а ён крыху зручней пасадзіў яе на скале і сабраў з долу прыгаршчы снежнай крупкі.

– Ану, давай патрэм...

– Но, но!

– Давай, чаго там «но», – нязлосна, але настойліва сказаў ён, згроб адну нагу, зашчаміў яе між сваіх калень, як гэта робяць кавалі, падкоўваючы коней, і стаў церці снегам.

Джулія завойкала, заенчыла, тузанулася, – ён засмяяўся.

– Ну, што ты? Шчыкотна?

– Болна. Болна.

– Пацярпі трошкі. Я ціха.

Стараючыся як мага ашчадней, ён трохі адцёр адну яе маленькую, нібы дзіцячую, ступню, потым узяўся за другую. Спярша дзяўчына стагнала, войкала, але ўрэшце прыціхла.

– Ну як, цёпла? – запытаў ён, выпростваючыся.

– Тепло, тепло. Спасібо.

– На здароўе.

Яна ўхутала ногі поламі скуранкі, а ён, на хвіліну прысланіўшыся спіною да настылага каменя, утаймаваў крыху дыханне. Але ў спакоі адразу стала холадна, вецер лёгка пранізваў яго тоненькую куртку, якая зусім не трымала цяпла.

– Хлеба хочаш? – запытаў ён, успомніўшы іх ранейшую размову ўнізе.

– Но, – адразу ж адказала яна. – Джулія но хляб. Іван эссен хляб.

– Так? Тады паберажом. Спатрэбіцца, – сказаў Іван.

Адчуваючы, што мерзне, ён з вялікім намаганнем прымусіў сябе ўстаць і падставіў спіну дзяўчыне.

– Ну, бярыся.

Яна моўчкі, але з гатоўнасцю абхапіла яго за шыю, прытулілася, і яму адразу стала цяплей.

– Іван, – ціха праз вецер сказала яна, дыхнуўшы цяплом у ягонае вуха. – Ті вундэршон[41]!

– Які там вундэршон!

Аднак яна, відаць, трохі асвойталася ў яго на спіне,

вярнула сваю настойлівасць, асмялела, адчуўшы яго добрасць да сябе, і пытала:

– Руссо аллес, аллес вундэршон? Да?

– Да, да, – згаджаўся ён, бо размаўляць аб сабе не прывык, да таго ж сцежка, здавалася, вось-вось гатова выраўняцца, ішлі апошнія метры пад’ёму, і ён хацеў адолець іх як мага хутчэй.

– Правда, Іван хотель пугат Джулія? Да? Іван но бросат?

Ён ніякавата ўсміхнуўся ў цемры і з упэўненасцю, у якую гатовы быў сам паверыць, сказаў:

– Ну, ведама ж...

– Тяжело, да?

– Не, што ты! Як парушынка.

– Что ето – парюшынка?

– Ну, пушок. Такая маленькая, маленькая пушынка.

– Ето малё, малё?

– Ну.

Ён ішоў па сцяжыне, якая добра значылася сярод прысыпанай снегам шэрасці. Ягоную шыю невымоўна лагодна казытала ззаду яе цеплаватае дыханне. Гнуткія тоненькія пальцы яе раптам пагладзілі яго па грудзях, і ён аж здрыгануўся ад гэтай нечаканай пяшчоты.

– Ты научіть меня говоріть свой язік?

– Беларускі?

– Я.

Ён засмяяўся: такім незвычайным тут здалося яму гэтае пытанне.

– Абавязкова, – сказаў ён жартоўна. – Вось прыйдзем у

Трыест і пачнём...

Гэтая жартоўная думка раптам узняла ў ім цэлы рой незвычайных, радасных адчуванняў. Няўжо і сапраўды ім пашанцуе дабрацца ў Трыест, да партызан? Калі б гэта здарылася, яны б не рассталіся – яны пайшлі б у адзін атрад, яна стала б для яго роднаю і блізкаю. Як гэта важна на чужыне – родны, свой чалавек побач. Ён толькі цяпер стаў адчуваць яе ласкавую прыхільнасць да яго, і яна не здалася яму нежаданай або залішняй. Ён адчуў, як знябыўся за вайну ў адзіноце, – салдацкае таварыства было ўсё ж з інакшае катэгорыі адносін. Між імі нарадзілася нешта сястрынскае, нават мацярынскае, тут не трэба было ні слоў, ні ўчынкаў – адно толькі пачуццё блізкай суладнасці напаўняла яго шчаслівасцю.

Яны ўвайшлі ў седлавіну. Схілы вяршынь ужо высіліся па абодва бакі, сцежка трохі паднялася яшчэ і скіравалася ўніз. У шэрай начной цемені, мільгаючы, сыпаў рэдкі дробненькі сняжок.

– Пераваль? – страпянулася на спіне Джулія.

– Перавал, ага.

– О мадонна!

– Ну, а ты казала: капут. Бач, дайшлі.

Ён спыніўся, нагнуўся, каб паддаць яе вышэй, але яна рванулася з яго спіны.

– Джулія сам. Грацie, данке, спасібо...

– Куды ты босая? Сядзі!

– Но сіді. Іван усталь.

– Ладна. З гары лёгка.

Ён не пусціў яе ногі, і яна зноў ашчаперыла яго шыю, мацней прыпала шчакой да яго няголенай, шорсткай сківіцы і пальцамі памацала такі ж шорсткі падбародак,

– О, річчо! Еж! Колуча.

– У Трыесце паголімся.

– Тріесте… Тріесте… Партіджяно Тріесте… Іван, Джулія тэдэскі тр-р-р-р! Фашісто сволоч! – казала яна, і ён з прыцьмелаю ўсмешкай слухаў, старанна выбіраючы дарогу.

Аднак існі ўніз было ненамнога лягчэй, чым угору. Калодкі часта слізгалі, ад пастаяннага напружання хутка пачалі ныць калені; грудзям, праўда, стала вальней. Ногі самі неслі ўніз, і хаду трэба было замаруджваць, на гэта ішло нямала сілы. І Іван рашыў не стрымлівацца. Дзе хуткім крокам, а дзе і подбегам ён шпарка сігаў па сцяжыне, сям-там прыпыняючыся, і Джулія на яго спіне аж палохалася.

– Ой-ой, Іван!

– Нічога. Трымайся.

– Ой! Ой!!

Вецер тут, аднак, чамусьці стаў меншы, угары і навокал быццам пацішэла, ад таго, напэўна, здалося, што і пацяплела. Куды вяла сцежка і што іх чакала наперадзе, убачыць, аднак, было нельга.

Праз нейкі час вецер яшчэ пацішэў, знікла мільганне сняжынак, дол, наколькі быў бачны, скрозь стракацеў, зацярушаны снегам. Сцежка кідалася то ўправа, то ўлева, самыя крутыя былі ў яе павароты, адхон стаў куды меней круты, чымсьці па той бок, на пад’ёме. Іван ужо мерна і спорна ішоў, стараючыся ад стомы толькі не збіцца са сцежкі. Джулія штосьці прыціхла. Ён паспрабаваў загаварыць з ёю, але яна не адказала, і ён здагадаўся: спіць.

Неўпрыцям задрамаўшы ў яго на спіне, яна мерна пасапвала ніжэй вуха, рукі яе далікатна і чуйна ляжалі на ягоных плячах; скуранка на ёй, мусіць, расхінулася, і спіною адчуў ён мяккае цяпло яе маленькіх грудзей. Як на злосць, у ягоную калодку недзе трапіў каменьчык.

Хлопец, не згінаючыся, усяляк круціў нагою, каб як не наступаць на яго або вытрасці, але каменьчык упарта не хацеў выкідацца з калодкі. Гэта было амаль што пакутна, і ўсё ж Іван не стаў будзіць яе – пакрочыў марудней і так доўга-доўга ішоў усё ўніз. Здаецца, ён нават і сам прыдрамнуў на хаду, бо раптам перастаў усведамляць, дзе яны і хто ў яго за спіной. Але гэта, мусіць, ад стомы і толькі на кароценькае імгненне. Тут жа ён пачуў яе ўздых і супакоіўся. Наўкола ляжала шэрая ноч з плямамі падталага снегу ў доле. Аднекуль знізу патыхнула сырасцю, часам у нос шыбала смаляным водарам хвойных лясоў, побач недзе шумеў вадапад – напэўна, там была цясніна.

Пад ранак неўпрыцям для сябе ён спусціўся ў зону лугоў.

Снежныя плямы ў доле неяк незаўважна зніклі, было такое ўражанне, быццам расталі. Сціх вецер, пацяплела, толькі прыбыло сырасці ў паветры; наўкола па камянях памалу паўзло кудысь змрочнае клочча туману. Яшчэ ніжэй запахла травой, кветкамі, сырою прэласцю лесу, і ён зразумеў, што самае цяжкае засталося ззаду. Сцежка ўжо недзе згубілася, але ісці было добра, і ён не зважаў на яе. Іван прайшоў яшчэ трохі і, калі адчуў пад нагамі сакаўную мякаць травы, падумаў, што зараз упадзе. Высокія, да калень, сцябліны тугімі бутонамі згорнутых кветак білі па ягоных галёнках. Джулія ўсё спала. Тады ён ціхенька, каб не пабудзіць дзяўчыны, укленчыў і асцярожна апусціўся на бок з ёй побач.

Яна не прачнулася.

## 14

Наперакор звычаю, у гэты раз яму не прысніўся яго заўсёдны, пакутны сон; некалькі гадзін ён спаў непрабудна і глыбока, потым ліпкая мешаніна трызнення і рэальнасці пачала блытацца, кружыць у яго цьмянай, соннай свядомасці.

У дваццаць пяць год жыцця юнацтва ўжо на адлёце,

шмат чаго з неадмысловых чалавечых радасцей ужо не вярнуць і не перажыць, калі не давялося перажыць іх у маладыя гады, і ў гэтым сэнсе людзі, мабыць, варты крышку большага, чым тое, што ўгатаваў лёс Івану Цярэшку. Праўда, хлопец рэдка калі думаў аб тым, – дома даводзілася дбаць, каб як-небудзь пражыць, накарміць сям’ю, хутчэй стаць на ногі. Пазней, у вайну, куды большы клопат займаў яго галаву. Кахання ў яго яшчэ не было, ён не ведаў жанчыны, і ўсё ж, як гэта часта здараецца ў маладосці, да пэўных узаемаадносін хлопцаў і дзяўчат ставіўся ўжо скептычна.

Можа, у тым, аднак, ён і не быў вінаваты. Недахоп уласнага вопыту часам кампенсуецца прыкладам знаёмых ці блізкіх. Здарылася так, што перад Іванавымі вачыма прамільгнуў вельмі яскравы выпадак з жыцця, які надоўга засмуціў яго нявер’ем і скепсісам.

Гады два назад на Паўночна-Заходнім фронце ён быў паранены адначасна са сваім ротным, старшым лейтэнантам Глебавым, у якога паўгода служыў ардынарцам.

Параніла іх у лесе, калі ротны ішоў на нараду да камандзіра палка. Цярэшка з рассечаным плячом вывалак яго з-пад агню, перавязаў, потым па снезе данёс да дарогі, на якой іх і падабралі абознікі. Іван з сваёй лёгкай ранай увогуле адчуваў сябе ніштавата, а вось з ротным справа была куды горш. Старшы лейтэнант збялеў як палатно, амаль не размаўляў, толькі папрасіў, каб адправілі адразу ў шпіталь, мінаючы дывізійны санбат. Ардынарац разумеў турботы камандзіра – Глебаў не хацеў палохаць Анютку, тоненькую, з шырока раскрытымі вачыма дзяўчынку, нядаўняга санінструктара іхняе роты, а цяпер медсястру ў санбаце. Усе ведалі, што ў яе з Глебавым не якая там гульня ў заляцанкі, а самае сапраўднае каханне – менавіта таму ротны дамогся яе пераводу ў санбат, дзе было ўсё ж зацішней, чым на перадавой. Аўтаматчыкі роты таксама па-свойму любілі дзяўчыну – паважаючы камандзіра, мусілі паважаць і яго каханне. Што датычыць ардынарца Цярэшкі, дык ён, бліжэй за

іншых быўшы ля ротнага, дужа прывязаўся да гэтай дзяўчыны.

Так сталася, аднак, што абмінуць санбат было нельга. Дзе ўжо там везці параненага ў шпіталь, калі Іван спалохаўся нават, ці паспеюць яны дабрацца хоць да санбата. Коні шпарка неслі па наезджанай саннай дарозе, а Іван усё пакрыкваў на ездавога – старога нехлямяжага байца ў дзвюх ватоўках пад шынялём, каб той паганяў хутчэй. Глебаў пачаў забывацца, трызніць, лаяцца, ардынарца ён не пазнаваў ужо, як не пазнаў і Анюткі, якая з крыкам упала на сані, калі яны пад’ехалі ўрэшце да вялізнай брызентавай палаткі санбата.

Гэта быў дужа пакутны вечар. Іван на ўсё жыццё запомніў кожную драбніцу яго – зорнае марознае неба, змрочныя елкі, неадлучны пах дыму, ціхую гаману людзей у палаце і болей за ўсё – вялікае, няўцешнае гора Анюткі. Яе не пусцілі ў аперацыйную, але ў накінутым на плечы кажушку яна ўсё імкнулася туды і ўсё спыняла сясцёр, што выходзілі з маленькай палаткі. Іван таксама сядзеў на пяньку ля ўвахода і, забыўшыся на боль свае раны, лавіў кожную вестку аб стане ротнага. А весткі былі кепскія – апарыравалі старшага лейтэнанта доўга і цяжка, пералівалі кроў, бегалі па фізіялагічны раствор. Адчувалася ўстрывожанасць, мітусня, напружанне, медыкі стараліся – і для Анюткі, вядома, і таму, што начальства ў дывізіі ведала Глебава і цаніла яго. Іван чакаў доўга. Анютку не суцяшаў, самому было болей чым кепска, толькі курыў, пакуль не апусцеў партабак.

Глебаў памёр у час аперацыі, яму нават не паспелі накласці швы.

Ад нечаканага гора нешта спарахнела ў Іванавай душы. Хлопец сам ажно дзівіўся, што гэтак трудна абышлася яму тая страта – лічыў, што яго псіхіка за вайну даволі прывыкла да смерцяў. Мусіць, яго перажыванні множыліся чужым горам. Анютка некалькі дзён не дзяжурыла, не паказвалася да параненых, і ніхто яе не асуджаў за гэта, – наадварот, хлопцы на ложках-насілках у вялізнай, як пуня, палатцы з павагаю казалі

аб такой дзявочай прывязанасці. Іван толькі маўчаў. У гэты час у яго, пэўна, і нарадзіліся своеасаблівыя адносіны да яе. Не, гэта было зусім не каханне; тое, што ён адчуваў, хутчэй нагадвала ўдзячнасць дзяўчыне за яе беражлівасць да свежай памяці ротнага.

За доўгія зімовыя вечары, праведзеныя ў санбаце, ён бадай зусім адвык жартаваць, усміхацца, толькі бясконца смактаў цыгарку з маршанкай ды глядзеў на агністае мільганне ў печы, змайстраванай з жалезнае бочкі, якую да чырвані напальваў санітар па прозвішчу Ахметшын. З Анюткай пасля таго вечара яны амаль што не размаўлялі, і без таго вельмі добра адчуваючы душэўны стан адно аднаго. Пачаўшы пасля нядаўняга перапынку дзяжурыць, яна зусім страціла сваю заўсёдную жвавасць і стала не па гадах задуменнай і строгай. Агульнае гора зрадніла іх ціхай маўклівасцю. Іван у чым-колечы памагаў ёй у час яе дзяжурстваў. Хлопцы разумелі ўсё, і, хоць ён ніколі ні з кім не сварыўся, ніхто з іх не распускаў пры ім языка наконт гэтай дзяўчыны.

Калі трохі падгаілася рана, ён падвязаў на грудзях руку і стаў выходзіць з палаткі – разам з Ахметшыным брыў на ўзлесак да зруйнаванае вёскі, дзе быў вялізны нямецкі могільнік, пакінуты фашыстамі ў час мінулагодняга адступлення. Сотні, а можа, тысячы крыжоў выстраіліся гектарах на дзесяці, як ні зірні – удоўж, упоперак або наўкос – усё роўненькія, як на парадзе, рады. Хлопцы секлі крыжы і валаклі да палатак. Яны былі з неакоранай падсохлай бярозы і добра гарэлі. Паліць імі печы стала любімым заняткам Івана: дужа ўжо спакойна было глядзець, як старанна нішчыў агонь апошні гэты напамінак аб чорнай навалачы, што прыдбала сабе такі бясслаўны канец на рускай зямлі. Звычайна позна ўвечары, управіўшыся са справамі, Анютка садзілася да яго на насілкі і таксама пазірала ў агонь; хто-небудзь у гэты час апавядаў у цёмным кутку пра страшнае з вайны або пра вясёлае з даваеннага мінулага. І так было добра.

Але час ішоў, параненыя ў санбаце мяняліся: адных

эвакуіравалі далей у тыл, другія, падгаіўшы раны, выпісваліся на перадавую, і аднойчы невялікая на першы погляд перамена ўраз парушыла ўвесь лагодны спакой гэтай палаткі.

Неяк пасля абеду, калі Іван узяўся збіраць брудныя кацялкі і міскі, каб аднесці іх на кухню, ля ўвахода ў палатку пачуліся галасы, тупат і двое санітараў увалаклі насілкі з параненым. На насілках пад кажушком ляжаў маладжавы яшчэ камандзір з дзвюма шпаламі ў чорных пятліцах (як даведаліся потым, быў ён з танкавай часці, якая падтрымлівала іх дывізію). Маёра пачалі ўладкоўваць у куце, распараджаўся гэтым сам камісар санбата. Іван трохі падзівіўся з такое ўвагі і панёс сабе посуд. Калі ж ён неўзабаве вярнуўся, маёр ужо сядзеў на насілках. Угрэўшыся, ён скінуў з сябе аўчынную камізэльку, і з-пад яе на шырокіх грудзях важна бліснула бадай што паўтузіна ордэнаў. Хлопцы ў палаце прыціхлі і з цікаўнасцю павярнулі галовы ў яго бок.

Лёгка паранены ў абедзве нагі, маёр аказаўся бойкім на язык чалавекам. Ён марна не глядзеў у мокрую столь, як іншыя, а ўсё болей гукаў да суседзяў, хутка перазнаёміўся з байцамі і санітарамі, а да сясцёр адразу паставіўся па-сяброўску проста і весела. Праз дзень ці два да яго зачасцілі дружбакі-саслужыўцы, заходзіла часам начальства. Пры ўсёй відавочнай лёгкасці яго ран неўзабаве, аднак, камандзір папрасіў завесіць яго прасцінай. Хлопцы не здзівіліся – усё ж ён быў маёр, і таму зразумелым стала яго жаданне чымсьці аддзяліцца ад байцоў, хоць гэта і не было прынята ў палаце лёгкапараненых. Просьбу маёра ўважылі. У куце паявілася адвешаная старымі просцінамі бакоўка, і з таго часу самае цікавае ў палатцы стала адбывацца там.

Іван пачаў хмурыцца, часам ледзьве падаўляў у сабе, здавалася б, беспрычынную злосць, заўважаючы, як ажывілася, павесялела Анютка, як не-не ды і забяжыць яна па якой-небудзь справе ў тую бакоўку. Маёр таксама прыкмеціў спрытненькую сястру і рознымі адзнакамі ўвагі пачаў вылучаць яе сярод іншых.

Аднойчы ўвечары яна даўжэй, чым заўжды, затрымалася там. Маёр нешта ўсё расказваў ёй пра музыку, пра нейкую оперу. Анютка слухала, перапытвала і наогул з празмернай цікаўнасцю аднеслася да яго расказу. Нават спазнілася з дакладам дзяжурнаму і атрымала за тое па тэлефоне вымову.

З таго вечара яна ўжо зусім стала ранейшаю: з бесклапотнаю жвавасцю лётала па праходзе паміж насілак, пачала жартаваць з байцамі і нават заспявала аднойчы «Синенький скромный платочек». Пэўна, яна так бы і не здагадалася аб сваім вераломстве, калі б незнарок не зірнула на Івана. Мусіць, сустрэчны позірк яго праняў яе да сэрца – дзяўчына заікнулася, упусціла з рук качулку бінта і, не падняўшы яе, выбегла з палаткі. Ён, вядома, нічога не сказаў ёй, толькі думаў усё: гэта не так, не можа яна так, ён памыляецца, усё яму здаецца. Чужое каханне балючай ранай несціхана ныла ў ягонай душы, і Іван, як умеў, аберагаў яго, пакутаваў за яго, як, мусіць, не здолеў бы пакутаваць за сваё, якога яшчэ не было.

Але, відаць, ён памыляўся, супакойваючы сябе. Неўзабаве хлопец прыкмеціў, што Анютка не хоча нават сустракацца позіркам з ім і што ёй настойліва карціць зазірнуць за просціны.

Так мінула яшчэ некалькі дзён.

Аднойчы Анютка рабіла маёру ўкол. Быў ранак, яшчэ слаба развіднела, і па той бок занавесак мігцела «кацюша». Чуйны да кожнага руху ў бакоўцы, Іван хваёвым венікам вымятаў земляны праход у палатцы, як раптам згледзеў на просцінах вельмі красамоўныя цені.

Бачна было, Аыютка спалохана рванулася з учэпістых рук маёра, але затаілася і не крыкнула. Іван міжвольна скалануўся, нібы яго працяло токам, потым з невядомаю злосцю вылаяўся, кінуў пад ногі венік і пляснуўся ніцма на свій праседжаны ложак.

Ён ляжаў доўга і не чуў, што рабілася ў палатцы, не ўстаў снедаць, а калі ранішняя мітусня ўлеглася, сабраў

сваё адзенне, завязаў рэчмяшок і, ні з кім не развітаўшыся, пайшоў на дарогу.

Апоўдні ён быў ужо ў роце.

Старшына, які праз дзень ездзіў у медсанбат па яго прадатэстат, прывёз адтуль непрыгожую плётку пра загадкавы Цярэшкаў выбрык. Хлопцы трохі пакпілі ды і супакоіліся, а Іван усё моўчкі курыў. Ён думаў, што ніхто не зразумее, што адбываецца ў ягонай душы.

**15**

Першым яго адчуваннем са свету рэальнага была цеплыня.

Нават не цеплыня, а спёка, духата, парнасць. У дрымотнай свядомасці мроілася, быццам ён ляжыць на насілках у санбаце ля бочкі-печы, якую так неміласэрна расшураваў Ахметшын. Пякло, праўда, не толькі ногі, а болей галаву і плечы. Хлопец адчуваў на сабе ліпкую макрэдзь поту, вельмі хацелася павярнуцца, чымся засланіцца ад гэтай знясільваючай спёкі, і ўсё ж санлявая знямога агортвала так моцна, што не было магчымасці нават расплюшчыць вочы.

Так ён пакутаваў у дрымоце доўга, і сон тым часам пачаў адступаць, а розум патроху абуджацца і завалодваць стомленым целам. Іван паварушыўся, пацягнуўся, адкінуў руку і нечакана адчуў далонню росную прахалоду травы. Гэта здзівіла яго. Хлопец з намаганнем расплюшчыў вочы, і першае, што ўбачыў, была ярка-чырвоная кветка ля твару. Нахіленая ў бок святла, яна ўлюбёна падстаўляла сонцу свае чатыры шырокія глянцавітыя пялёсткі, на краі аднаго з якіх ірдзела-іскрылася, гатовая вось-вось упасці, чысцюткая, як сляза, кропля. Лёгкі, мусіць, ранішні ветрык ціхенька варушыў доўгую тоненькую сцябліну гэтае кветкі. Недзе далей у стракатай гушчэчы травы доўга гудзеў і раптам прапаў чмель; нізкі басавіты гук яго адразу абарваўся, і тады Іван зразумеў, што стаяла поўная, на ўвесь свет, цішыня. Ад цішыні ён адвык, яна палохала.

Не разумеючы, дзе ён, хлопец ірвануўся, сеў, шырока расплюшчваючы са сну балючыя вочы, азірнуўся і прыемна здзівіўся ад нябачанай, амаль казачнай прыгажосці вакол.

Увесь вялізны прасторны сонечны схіл ззяў шырокім, як возера, ярка-пунсовым разлівам альпійскага маку.

Буйныя, лапушыстыя, пэўна, не таптаныя нагой чалавека, узгадаваныя вялікаю шчодрасцю прыроды мільёны кветак пераліваліся ўрачыстаю чырванню, ціха варушыліся на слабым ветрыку і імкнулі далёка ўніз, на ўвесь прасцяг гэтага затуленага гарамі лугу – аж пад самы цёмна-зялёны хваёвы масіў. Іван, аднак, зірнуў далей, наперад, куды трэба было ісці, і ўраз спахмурнеў. Далёка за далінай снегавымі разводамі сінеў усё той жа высачэзны Мядзведжы хрыбет. Мусіць, ён быў куды вышэй за пяройдзены, што дзвюма спарышамі-вышынямі тырчаў ззаду, бо, не зважаючы на высокае ўжо сонца, цень ад яго празрыстаю сінявай смугою накрываў палову нешырокай даліны. Не заслонены цяпер нічым, ён, бадай, як і ўчора, заставаўся далёкім, аграмадназіхоткім і недаступным.

І тут Іван трывожна схамянуўся – толькі цяпер да ягонай свядомасці дайшоў трывожны сэнс цішыні, у голаў ударыў спалох: дзе Джулія? Ён зноў крутнуўся ў доле, зірнуў сюды-туды – наўкола нікога не было. Побач, у вытаптаным сярод маку лаўжы, адзінока ляжала разасланая скуранка. Іван ляпнуў сябе па запазусе – там было пуста, полы курткі няроўна выбіліся са штаноў. Але першая трывога яго тут жа апала – пісталет і абкрышаная трэць буханачкі, пэўна, захінутыя ад сонца рукавом скуранкі, ляжалі ў траве. Тады ён ускочыў на ногі, ліхаманкавым позіркам пачаў аглядаць схіл унізе, тужлівая самота шыбанула ў яго адчуванне – дзе яна? У душы зацьмела вельмі нядобрая здагадка, але ён не мог паверыць у тое. Чаму не мог, ён пэўна не ведаў, ён толькі не хацеў таго – ён хацеў бачыць, чуць, адчуваць яе побач. Адзінота нечакана засмуціла яго горш за якую няўдачу.

Ён схапіў пісталет, хлеб, згроб пад паху скуранку і

сігануў у траву. Росныя высокія кветкі казытнулі яго распухлыя, падзёртыя і пазбіваныя ступні; ён зірнуў у дол, успомніўшы пра калодкі, але іх не было. Тады зноў трывога ахапіла яго – няўжо?.. Босы, ён хутка пакрочыў па лузе ўніз, ляскаючы нагамі ў суцэльных суквеццях маку, адышоўся па схіле далёка, затым раптам спыніўся, азірнуўся – ззаду ў густых зараслях кветак адзначыўся яго след. Наўкола ляжала не кранутае жывою істотай чырвонае мора.

Гэта надало пэўную думку. Іван перахапіў пад пахай адзежыну і хуткім крокам вярнуўся да лаўжа.

Сапраўды, у роснай траве прыкметны быў шнурок другога следу – ён бег некуды ўбок, туды, дзе – відаць было адгэтуль – зачынаўся распадак, і Іван таропка рушыў па гэтай слабай адзнацы яе ног. Ступні і штаніны яго хутка замакрэлі ад расы, наўкола скрозь быў чароўны ў сваім сонечным хараստве мак. Ад моцнага духмянага паху п’янела галава, як заўжды, вельмі хацелася есці, ад стомы і слабасці крыху мутнела ўвачч. Але гэта былі прывычныя адчуванні. Дужае ад прыроды, загартаванае ў нягодах Іванава цела як-колечы супрацьстаяла ім, ён адчуваў, што сілы ў яго яшчэ былі.

З трывогай у душы, хлопец абабег калючы рададэндравы зараснік, абсыпаны вялікімі, па кулаку, чырвонымі кветкамі, і з невялікага распадка-раўка наперадзе да яго данёсся шум вадаспада. Хутка ён узбег на травяністую выспу, шум гэты стаў зусім блізкі; з чорнага, блішчастага ад макраты каменнага жолаба, разбіваючыся аб скалу, ліўся зіхоткі струмень вады. Навокал у туманным мроіве мітусіліся драбнюткія пырскі, і, пэўна, ад іх убаку на змрочным каменным фоне вісеў у паветры каляровы кавалачак самай сапраўднай вясёлкі. Безуважны, аднак, да гэтай нечаканай шчодрасці гор, Іван падняўся на пагорак вышэй і тады раптам унутрана ахнуў, спыніўся, прыгнуўся долу і замёр. За паўсотню крокаў адгэтуль пад дажджыстым вадзяным россыпам, захінуўшыся аднымі толькі рукамі, спіной да яго стаяла на камяні і

мылася Джулія.

Ён адразу пазнаў яе, хоць на дзяўчыне не было ніводнае адзежыны. Распранутая, яна адразу страціла праклятыя адзнакі гефтлінга і адзін на адзін з прыродаю зрабілася зусім інакшаю ў сваёй палахлівай дзявочай сціпласці, поўнай таямніцы і хараства. Дзяўчына, вядома, не бачыла яго і, насцярожана сцяўшыся, цярпліва падстаўляла сваё худзенькае, лёгенькае цела пад густую пырсканіну струменяў, здавалася, гатовая пры першым жа гуку трапянуцца і знікнуць. Па яе зіхоткіх ад пырскаў востранькіх плечуках блукаў каляровы водбліск вясёлкі.

Не ў стане адолець у сабе чагосьці сарамяжліва-радаснага, Іван паціху апусціўся ў траву, лёг на спіну, перавярнуўся, – над ім гэтак жа перавярнулася чысцюткае, без адзінага воблачка неба. Волкая прэласць зямлі хмельнаю брагай ударыла і закружыла галаў. Хлопец выцягся пластом на травяністым прахладным дзірване і ад прадчування чагосьці неўсвядомлена-радаснага ціха, сам сабе засмяяўся.

У закутках яго пачуцця нязгасна тлела трывога, наперадзе быў, напэўна, недаступны хрыбет, ззаду... Вядома, што можна было чакаць ззаду па сваіх слядах з лагера. Але цяпер, у гэтым запаведніку хараства, ля страчанага і знойдзенага ўжо дарагога яму чалавека Івану зрабілася так па-дзіцячы радасна і хараша, як не было, мабыць, ніколі за ўсё яго невялікае жыццё. І ён прагна душой піў гэтую нечаканую харошасць, і не стараючыся нават даўмецца, адкуль яна і што ў ім сталася, – проста ён быў па-чалавечы шчаслівы, і ўсё. Праўда, неўзабаве адчуў ён, што тое ненадоўга, – нешта клапотнае і труднае не пакідала яго і ў гэтай шчаслівасці, нешта трывожыла і гняло, але цяпер Іван прыцяў яго, прыглушыў, бо так было невыказна добра.

Ён болей не выглядваў з маку і ні разу не зірнуў на яе. Сарамлівая далікатнасць перашкодзіла яму зрабіць тое, хоць і вельмі карцела; лежачы ніц і не ведаючы навошта, ён ірваў ля сябе мак і міжвольна складваў галіністыя яго кветкі ў букет.

За гэтым заняткам, поўны свае невыразнае радасці, ён пачуў непадалёк таропкія крокі, ускінуў з травы галаву – пад вадаспадам нікога ўжо не было. Джулія, на хаду апранаючы паласатую куртку, бегла побач і ніжэй, пэўна, туды, дзе пакінула яго. Ён зноў ціхенька ўнутрана засмяяўся, убачыўшы яе нецярплівы, клапотны, скіраваны ўдаль позірк, але не аклікнуў, а, згробшы скуранку, устаў і памалу пайшоў следам.

Паблісківаючы на сонцы мокрымі, смалянымі да чарнаты валасамі, яна хуценька аббегла рададэндран і стала, быццам спатыкнулася, ля іх лаўжа. Нават зводдаль няцяжка было заўважыць яе спалох і збянтэжанасць. Праз секунду яна зірнула ў адзін бок, у другі і падалася па схіле ўніз, але, на бягу азірнуўшыся, стала.

– Іван!!!

Спалох, боль і радасць адначасна азваліся ў гэтым воклічы. Яна пляснула далонямі і птушкаю кінулася яму насустрач. Іван спыніўся. Здалося яму, цэлую вечнасць не бачыў ён гэтых зіхотна-радасных вачэй, далікатна-смуглявага твару, бязладнага россыпу яе кароткіх валасоў-стрыжак. Усё ў ім памкнулася да яе, але ён сцяў гэта ў сабе, невядома навошта – стрымаў. Яна ж, дратуючы калодкамі мак, падскочыла да хлопца, аберуч абхапіла яго за шыю і, павісшы на ёй, заляпіла яму каля вуснаў п’яны, нечаканы, як стрэл, пацалунак.

– Іваніо!

Ён толькі зацяў дыханне, а яна, усё трымаючыся рукамі за шыю, парывіста адкінулася ад яго і засмяялася – шчасліва і бесклапотна, любасна ўглядаючыся ў яго твар, які гарэў яшчэ ад сцюдзёнага апёку яе вуснаў. Затым, усё смеючыся, разамкнула на ім свае пальцы, лёгка адштурхнула яго і села ў траву насупраць, адкінуўшыся на выцягнутыя рукі. Вочы яе ззялі зіхоткім гарэзна-дураслівым смехам, куртка, нядбайна зашпіленая на адзін гузік-палачку, расхінулася, і ў клінку-ямачцы між грудзей бліснуў маленькі сіні эмалевы крыжык. Гэты крыжык нечаканай цікаўнасцю

кальнуў яго позірк. Яна перахапіла яго і, крышачку спазніўшыся, схамянулася, захінаючыся і па-ранейшаму ўсё смеючыся вачыма, тварам, вялікім белазубым ротам, кожнаю часцінкай сваёй маладой свежа-сцюдзёнай ад купання істоты.

Ён, аднак, быў зусім іншы: раптам насупіўся, збянтэжыўся, бо за якіх паўхвіліны, стоячы так, адчуў, як нешта ў ім рушыцца, штосьці траціцца, як нейкая нязнаная, новая сіла падпарадкоўвае сабе ягоную волю. У той жа час ён невыразна яшчэ пачаў разумець, што трэба не паддавацца, супраціўляцца, адстаяць сябе. Зноў жа яе такі рашучы бяздумны наскок збянтэжыў яго, падумалася: «Нашто так? Як гэта яна так? Чаму? Што гэта ў яе – радасць, парыў?.. А можа?..»

Хмуры і збянтэжаны, ён, аднак, зрабіў крок да яе. Джулія раптам абарвала смех і ўскочыла насустрач.

– Іван! – пляснула яна ў далоні, убачыўшы кветкі ў яго руках. – Это ест сюрпріз сіньоріна? Да? Да?

Ён і сам толькі цяпер заўважыў у сваёй руцэ пук маку, няўцямна зірнуў на яго і засмяяўся. Яна таксама засмяялася, панюхала кветкі, утапіўшы ў букет увесь свой маленькі зграбны тварык. Затым паклала букет на траву і хутка-хутка пачала рваць ля сябе мак.

– Джулія блягодаріт Іван. Блягодаріт – очен, очен...

– Не трэба, што ты! – ніякавата загаварыў ён.

– Очен, очен блягодаріт надо. Іван спасат сіньоріну. Руссо спасат італьяно. Ето есть інтернаціонале. Братство, – напаўжартоўна гаманіла яна, усё рвучы і рвучы мак. Пасля з цэлым ахапкам яго падбегла да Івана і вываліла ўсё з сваіх рук яму на грудзі.

– Ну што ты! – здзівіўся ён. – Навошта?!

– Надо! Надо! – смешна вымаўляючы рускія словы, угаворвала яна, і ён вымушан быў ашчаперыць разам з ахапкам маку і скуранку з загорнутым у ёй хлебам. Яна, мусіць, навобмацак адчула ў скуранцы буханачку і

раптам пасур’ёзнела.

– Хляб?

– Ага, давай паямо, – ажывіўся ад свае няёмкасці Іван, паклаў усё ў дол і сеў сам.

Яна хуценька прысела побач.

**16**

– З’есці б усё зараз, – сказаў Іван, трымаючы ў руцэ ўсохлы, з кілаграм вагой кавалак хлеба – абкрышаны па краях,

счарсцвелы, аднак усё яшчэ такі апетытны і жаданы, што

абое, гледзячы на яго, ледзьве ўпраўляліся глытаць сліну.

– Асё, асё, – як рэха, згодна азвалася Джулія, таксама не зводзячы з буханачкі позірку.

Іван у кароценькай нерашучасці зірнуў па-над яе галавой на далёкі заснежаны хрыбет і ўздыхнуў:

– Не. Усё нельга.

– Нелга. Но?

– Но.

Яна зразумела і таксама ўздыхнула, а Іван разаслаў у доле скуранку і паклаў на яе гэтую іх болей чым малую рэштку прыпасу. Трэба было зрабіць немалаважнае – адмерацць пароўну дзве пайкі і прытым найменш раскрышыць, бо без нажа разрэзаць не было чым.

І ён старанна разломваў хлеб, раскладваючы кавалачкі на дзве часткі і ўвесь час адчуваючы побач галодную нястрыманасць Джуліі. У душы яго ўсё бруіла новае пачуццё да яе – нешта не то братняе, не то бацькоўскае. Добрае і вялікае, яно поўніла яго спагадаю да яе – такой

па-дзіцячы непрызвычаенай да вялікіх нягод вайны і такой бяздумна-рашучай у сваім амаль што падсвядомым, нібы ў птушкі, імкненні да волі.

Хлопец засяроджана дзяліў. Кожная скарыначка, кожная крошка ўзважвалася іх пільнымі позіркамі, і ён знарок паклаў у адну кучку болей – не так хлеба, як скарынак – разам з акрайцам гэта, паводле лагернага разумення, было значна каштоўней, чымсьці аднолькавы па вазе кавалак мякішу. Калі ўсё было раздзелена, рэштку, грамаў на дзвесце, Іван запхаў у кішэню скуранкі.

– Гэта табе, гэта мне, – сказаў ён проста, без традыцыйнага рытуалу дзеляжу, і пасунуў ёй кавалак з акрайкам.

Яна ўскінула чорныя, смаляныя бровы.

– Но. Это Іван, это Джулія, – пераклала яна кавалкі.

Ён зірнуў ёй у твар і з дабратою ў душы заўсміхаўся.

– Не, Джулія, не трэба. Гэта табе.

Іван хуценька ўзяў сваю долю. Джулія падазрона зірнула на яго, паморшчылася і раптам спрытна сунула адну скарыначку ў яго рукі. Ён з скарынкаю зараз жа падаўся да дзяўчыны, але тая, смеючыся, паспешліва адхінулася, ускінула рукі з пайкаю, каб ён не дастаў. Хлопец з гарэзнаю ўпартасцю памкнуўся болей, яна выгнулася, дакранулася да яго бока грудзямі і, каб утрымацца, схапілася за яго плячо. Смех яе раптам абарваўся. Нечаканая блізасць гэта незразумелай няёмкасцю казытнула яго, – прыцяўшы ў сабе новае, неўсвядомленае яшчэ жаданне, ён адразу адхіснуўся ад яе і сеў на бок скуранкі. Яна ж гарэзна, нібы дзяўчынка, усмешыста зыркаючы на яго з-пад брывоў, прыкусіла губу і папраўіла на грудзях куртку.

– Бяры, еш. Твая ж гэта, – сказаў ён, пасоўваючы на пале скарынку.

– Но.

З дабрадушнаю лёгкасцю ў настроі, пабліскваючы сваімі бялюткімі зубамі, яна ўзялася грызці свой акраец.

– Бяры, кажу.

– Но.

– Бяры.

– Но, – упарцілася яна, смеючыся аднымі вачыма.

– Няўступака. Ну, як хочаш... – сказаў Іван і ўкусіў ад свае пайкі.

Яна неўзабаве з’ела ўсё, – вядома, зусім не наелася і тайком пазірала на адтапыраную кішэню курткі. Іван нетаропка, з расцягненай асалодай жаваў, прыкмячаў усе яе позіркі і спакваля пачаў думаць, ці не з’есці ўсё. Што там за наедак з гэтых грамаў другім разам, цяпер жа яно было б куды як добра. Але намаганнем волі ён усё ж адагнаў гэтыя думкі, бо занадта ведаў цану нават і такому мізэрнаму кавалачку, як гэты.

– Яшчэ хочаш? – запытаў ён, урэшце даеўшы і сам.

Яна з падкрэсленай рашучасцю, нібы баючыся перадумаць, пакруціла галавой:

– Но! Но!

– А гэта? – кіўнуў ён на скарыначку, што ўсё ляжала на сярэдзіне скуранкі.

– Джулія нон.

– Тады давай так: напалам.

– Вас іст дас – напалам?

Дзяўчына запытальна зморшчыла носік. Сонца свяціла ў яе твар, і яна ўвесь час міжвольна грымаснічала, нібы дражніла Івана.

– Ну, трошкі Івану, трошкі Джуліі.

Ён разламаў скарыначку і адну частку даў ёй – яна з нерашучасцю ўзяла і, адкусіўшы маленькі кавалачак з кончыка, пасмактала.

– Карашо. Гефтлінген чакалято.

– Немцы, яны вымусяць: і хлеб шакаладам здасца.

– Джулія бежаль Наполі – кушаль чакалято. Хляб міль малё – чакалято много, – сказала яна, усё жмурачы цёмныя, як ноч, вочы.

Іван не зразумеў.

– Бегла ў Неапаль?

– Сі. Рома бежаль. Батіка бежаль.

– Ад бацькі? Чаму?

– А, уна... Една історій, – неахвотна адазвалася яна, яшчэ адкусіла маленькі кавалачак і пасмактала яго. Пасля доўгім позіркам агледзела скарыначку– Батіка хотель плёхой маріто. Рускі ето муж.

«Муж! Яна была замужам!» – гэтая вестка нечаканаю паныласцю ўдарыла ў яго свядомасць, і дзяўчына невядома чаму раптам стала непрыемнай і нежаданай. Яна, мабыць, адчула тое, рухавымі вачыма наўкос зыркнула ў яго раптоўна апанураны твар і ўсміхнулася.

– Нон маріто. Сіньор Дзангаріні не біль муж. Джулія не хатель сіньор Дзангаріні.

Усё яшчэ панылы, Іван запытаў:

– А чаму ты не хацела?

– О, то біль ун сегрето.

– Які сакрэт?

Яна, кідаючы гарэзныя, са смяшынкамі, позіркі то па баках, то скоса – на яго, смактала скарыначку, а ён сядзеў, утаропіўшыся ў дол, і драў з карэннем клочча

травы.

– О, сегрето! Маленько сегрето. Джулія любіль, любіль... как ето русско?.. Уно джовіното Маріо. Парень Маріо.

– Во як! – сказаў ён і кінуў убок траву; вецер адразу растрос у паветры травінкі. Хлопец павярнуўся ўбок – цяпер ён чамусьці не хацеў пазіраць на яе, ён толькі панура слухаў.

А яна, нібы не адчуваючы гэтай яго перамены, казала:

– Карашо біль парень. Джулія браль пістоле, бежаль Маріо Наполі. Наполі гуэрра, война. Італьяно шіссен дойч. Джулія шіссен. – Яна ўздыхнула. – Партіджяно італьяно біль малё, дойч мнёго. Мнёго італьяно убіваль. Мнёго концлягер. Джулія концлягер. Очен плёхо концлягер!

– Што, супраць немцаў ваявалі? – з невясёлай зацікаўленасцю здагадаўся Іван.

– Сі. Так.

– Во! – стрымана здзівіўся ён і запытаў: – А дзе ж твой Марыо?

Яна адказала не адразу, падабраўшы да грудзей калені, ашчаперыла цыбатыя свае галёнкі і, паклаўшы на іх падбародак, паглядзела ўдалячынь.

– Маріо фу уччізо.

– Забілі?

– Сі.

Абое памаўчалі. Івану чамусь разам палягчэла, нібы мінула якая непрыемнасць. Ён зірнуў на яе – яна з сур’ёзнасцю вытрымала гэты позірк, трошкі засмучаныя ўглыбіні яе вочы пад яго поглядам сталі ўвачавідкі цяплець, кароценькі сум растаяў, і яна засмяялася.

– Почему Іван смотрі, смотрі?

– Так.

– Что ест так?

– Так ёсць так. Пайшлі ў Трыест.

– О, Тріесте! – лёгенька падхапілася яна з травы.

Ён таксама ўстаў, з нечаканаю лёгкасцю ў настроі размашыста перакінуў цераз плячо скуранку. Па макавым полі яны пайшлі ўніз.

Сонца тым часам прыпякала ўсё болей. Цень ад Мядзведжага хрыбта патроху вузеў у даліне, спякотная попельная смуга мроілася на далёкім падножжы гары, ахутвала лясныя схілы. Толькі снегавыя хрыбціны ўгары ўпэўнена ззялі, выставіўшы, як напаказ, кожную бляклую пляму на сваіх стракатых баках.

– Тріесте карашо! Тріесте партіджяно! Тріесте море! – ажыўлена гаманіла Джулія і, пэўна ад прыліву ўзнёсласці, заспявала:

Мі пар ді удіре анкора,

Ля воче туа, ім медзо ай фьорі[42].

Гулліва косячы на яго свае жучкі-вочы, яна нягучна, але вельмі рытмічна выводзіла незнаёмыя і ад таго яшчэ болей напеўныя словы. Ён не ведаў, што гэта была за песня, мілагучныя яе пералівы кружылі, вагаліся, нешта падобнае на мернае хваляванне мора было ў яе рытме, нешта ласкавае і добрае размерана імкнула з душы.

Пэр нон софріре,

Пэр нон моріре

Іо ті пенсо, э ті амо…[43]

Хлопец, зацяўшы дыханне, слухаў гэты мілагучны адгалосак другога, невядомага свету, ды раптам

дзяўчына абарвала свой спеў і падалася да яго.

– Іван! Учіть Джулія «Катуша»!

– «Кацюшу»?

– Сі. «Катушу».

*Ра-а-сцеталі явіні і груші...*
*По-о-опілі туані надэкой...* –

праспявала яна, адкінуўшы галаву, і ён засмяяўся: так гэта было няправільна і па-дзіцячы няўмела, хоць матыў у яе атрымаўся няблага.

Яна пачала старанна, бы школьніца, спяваць «Кацюшу», не зусім у лад вымаўляючы словы, і ад таго яму было смешна і хораша з ёю, нібы з вясёлым, прыгожым, паслухмяным дзіцем. Ён ішоў блізка ля яе і ў душы ўвесь час усміхаўся ад ціхай чалавечай харашосці, якой ужо так даўно не адчуваў. Невядома было, адкуль і чаму яна, гэта яго лагоднасць – ці мо ад высокага яснага неба, ці ад хараства гор або неабсяжнага шырачэннага прастору, што расхінуўся адсюль, а можа, ад нябачанага ніколі казачнага багацця кветак і нават дзівосных, змешаных у адзін духмяны водар пахаў? Нешта святочнае, замілавана-сардэчнае лунала над гэтымі гарамі і лугам, не верылася нават у небяспеку, у палон і магчымую пагоню і думалася: ці не прысніўся яму ўвесь мінулы паўгадавы жах лагераў з эсэсманамі, смерцю, смуродам крэматорыяў, несціханым брэхам аўчарак? А калі ўсё тое было сапраўды, то як побач з ім магло існаваць на зямлі гэтае бессмяротнае хараство прыроды, якая гэта вялікая сіла жыцця аддзяліла-адасобіла яе чысціню ад злачыннае ашалеласці людзей? Але тое агіднае, на жаль, не прыснілася, яно не было зданню – іх размаляваная палосамі і кругамі вопратка штохвілінна напамінала аб тым, што было і ад чаго яны канчаткова яшчэ не адкараскаліся. І цяпер тут, сярод першатворчае чысціні зямлі, гэтае іх адзенне здалося Івану такой нясцерпнай знявагай чалавечнасці, што ён хуценька сарваў з сябе гэтую куртку і загарнуў, каб не бачыць яе, у скуранку. Джулія перастала спяваць і,

заўсміхаўшыся, агледзела яго трохі загарэлыя, крутыя і дужыя плечы.

– О, Эрколе – Геркулес! Руссо Геркулес!

– Які Геркулес? Дахадзяга... – запярэчыў Іван.

– Но, но! Геркулес!

Яна жартоўна пляснула па яго голай лапатцы і ашчаперыла апушчаную долу руку.

– Сільно, карашо руссо. Почему плен шёль?

– Ішоў? Вялі, дык і ішоў.

– Надо біль фашісто! – Яна рашуча махнула ў паветры маленькім кулачком.

– Біў, пакуль мог. Ды вось...

Падняўшы локаць, ён павярнуўся да яе другім бокам, і на яе рухавым смяшлівым тварыку адразу адбіўся жаль, амаль што спалох.

– Ой, ой! Санта Марія!

– Вось і Геркулес... – уздыхнуў ён.

– Болно? – пыталася яна і далікатным дотыкам асцярожна памацала вялізны шырокі рубец – след ад нажавога штыка.

Ён смела пацёр бок.

– Ужо не. Адбалела.

– Ой, ой!

– Ды ты не бойся, дзівачка, – ласкава сказаў ён. – Ану, пырні мацней.

Яна ўсё не адважвалася, і ён, узяўшы ў далонь яе тоненькія пальцы, цісканўў імі шрам. Яна спалохана войкнула і хіснулася ад яго. Іван прытрымаў яе за

плечы, гэты кароткі іх дотык адразу шыбануў у душу хвалюючым хмелем, і хлопец, насуперак сабе, адхінуўся. Не, так нельга! Што гэта я? Так нельга. Трэба ісці, дайсці, трэба вырвацца з гэтага фашысцкага кодла – для таго ўцякаў.

– Гэта вось што, – нахмурана сказаў ён, коратка зірнуўшы на яе. – Трэба... Трэба хутчэй ісці. Разумееш?

– Я, – пагадзілася яна ўсмешыста і з нейкаю затоенай думкай гледзячы яму ў вочы.

## 17

Яны спусціліся па схіле ад верхняй мяжы лугу да яго сярэдзіны. Тут мак трохі пачаў расступацца, даючы месца настырнаму багаццю іншых кветак. Сям-там сінелі лапікі буйных духмяных незабудак, калыхаліся на ветры званочкі, ад густога водару жоўтай азаліі п’янела ў галаве. Мясцінамі ў кветкавых чашчобах траплялiся жарсцвяныя плешыны, тырчалі з травы шэрыя камяні, каля іх заўжды было многа калючага шчэбеню, ён шкодзіў ступням. Іван таму пачаў асцярожней выбіраць шлях, углядаючыся ў дол. Аднойчы перад яго тварам у траве бліснула чырвоная кропелька. Ён сагнуўся. Між зубчастых лісточкаў ірдзела некалькі налітых сокам буйных сунічын. Толькі ён сарваў іх, як перад вачыма замільгалі яшчэ чырвоныя зорачкі. Тады ён паклаў скуранку, прысеў; Джулія таксама з радасным воклічам кінулася ў дол.

Ягад было шмат – буйных, сакоўных, амаль скрозь спелых. Іван і Джулія пачалі поўзаць і есці, есці іх прагна, прыгаршчамі, забыўшыся на час і асцярогу. Мінула, напэўна, шмат часу, сонца пасунулася на другі бок неба і моцна высвечвала даліну з пералескамі і парэзаны крывулякамі расселін Мядзведжы хрыбет.

Абліваючыся потам, Іван усё поўзаў па траве на каленях, калі пачуў ззаду крокі Джуліі. Хлопец азірнуўся, павярнуўся і, выціраючы з ілба пот, сеў. Тоячы ў зыркастых вачах лагодную ўсмешку, дзяўчына

хуценька падышла да яго, апусцілася на калені і разгарнула ражок свае курткі. На густа запэцканай сунічным сокам паласатай пале чырванела рассыпістая кучка ягад.

– Бітте, руссо Іван, – манерна прапанавала яна.

– Ну, навошта? Я ўжо наеўся!

– Но, но аевся! Эссен!

Яна зачэрпнула рукой ягад і ледзьве не сілком прымусіла яго з’есці. Потым з’ела трохі сама і зноў паднесла жменю да ягонага рота. Ягады з яе рук мелі чамусьці зусім інакшы смак, чым з’едзеныя па адной, ён выбраў іх вуснамі з жмені і жартоўна казытнуў зубамі яе цёплую духмяную далонь.

Джулія гарэзна пагразілася:

– Нон, нон!

Так яны даелі ўвесь гэты яе ягадны прыпас, і ён узяў пакінутую непадалёк у маку скуранку.

– Айда?

– Айда! – зухавата згадзілася яна.

Задаволеныя і неяк пабліжэлыя адно да аднаго, яны зноў пайшлі ўніз. Джулія даверліва паклала руку на яго плячо.

– Суніцы, гэта добра, – сказаў ён, парушаючы сцішаную, добрую, але трошкі чамусьці няёмкую маўклівасць. – Я да вайны не адно лета імі харчаваўся.

– О, руссо веджітаріані? – здзівілася яна. – Джулія нон веджітаріані. Джулія любіт біфтекс, спагетті, амлет.

– Макароны яшчэ, – дадаў ён, і абое яны засмяяліся.

– Сі, сі, макароні, – пацвердзіла яна і трошкі задзірыста падражніла: – А руссо суніці!

– Часам бывала... Што ж зробіш... Калі не ўродзіць – прагаладаешся, – нявесела пагадзіўся Іван.

Джулія здзіўлена зірнула на яго.

– Почему голядаешься? Русланд как голядаешься? Русланд само богато. Правда?

– Праўда. Усё праўда.

– Почему голяд? Говорі! – настойвала яна, пэўна ўстрывожыўшыся ад тых яго слоў.

Ён памаўчаў, ступаючы па траве і нерашуча згадваючы, ці варта гаварыць ёй аб тым. Але ён спазнаў ужо прыхільную лагоднасць яе душы, да якой міжвольна памкнуўся і сам, і ў ім абудзілася даўно ўжо не адчуваная патрэба ў шчырасці.

– У трыццаць трэцім, напрыклад, пагаладалі, бо засуха.

– Вас засуха?

– Якая засуха?.. – Ён сагнуўся і скубануў з долу жменю травы. – Во, калі сонца спячэ ўсё. І трава згарыць. Праз голад і бацька памёр.

Яна здзівілася, аж стала, строгі яе твар спахмурнеў – выпрабавальна-падазроным позіркам яна глядзела на Івана. Але не сказала нічога, толькі выпусціла яго руку і чамусьці адразу зацялася ў сабе. Ён, засмучаны невясёлым успамінам, ціха пайшоў далей.

Так, былі цяжкія гады ў іх мясцовасці. Ратавала, звычайна, бульба, але і яе не заўсёды хапала да новай, і тады на сялянскіх сталах з’яўлялася трава З шчаўя і крапівы варылі якое сёрбава, падбавіўшы жменю мукі, пяклі траўнікі, агорклы смак іх на ўсё жыццё запомніўся Івану.

У трыццаць трэцім, калі асабліва дапякло, Іванаў бацька кінуў усё і паехаў на Украіну шукаць заробку і хлеба. Маці ўжо апухла была, малыя ледзьве хадзілі – добра яшчэ, што выручала карова ды новая бульба. Пад

восень прыехаў бацька. І раней не зусім здаровы, у той час ён зусім знямог: як лёг, так і не ўстаў да Каляд. На Каляды пахавалі. Засталося чацвёра малых. Іван, самы старэйшы, мусіў выхоўваць, карміць. Ой, як нялёгка гэта далося! Усё гэта было балючаю праўдай яго жыцця. Толькі як пра яе раскажаш?

Ён задуменна ішоў, пазіраючы ў дол, дзе мільгалі ў траве шызыя яе калодкі і паціху варушыліся, плылі на хадзе два кароткія цені. Джулія пачала, аднак, адставаць, калодкі падаліся назад, ён адчуў нейкую перамену ў яе настроі, але не азірнуўся.

– І Сібірь біль? Плёхой кольхоз біль? – з яўным выклікам у раптоўна пасцюдзянелых вачах азвалася ззаду дзяўчына.

Ён спыніўся і ўважліва паглядзеў на яе.

– Хто табе сказаў?

– Одін плёхой руссо сказаль. Ті хочаш сказаль. Я зналь!..

– Я?

– Ті? Говорі!

– Нічога я не хачу. Што я табе скажу?

– Ну, говорі: Джулія но правда! Джулія ошібка!

Твар яе стаў злосны, вочы востра блішчалі, уся яе нядаўняя прыхільнасць да яго знікла, і ён напружана стараўся зразумець прычыну гэтай яе перамены, таксама як сэнс яе вельмі непрыемных пытанняў.

– Ну, говорі! Говорі!

Відаць, сапраўды яна нешта ўжо чула, можа, у лагеры, а можа, яшчэ ў Рыме. Але ён цяпер не мог пацвердзіць яе здагадак, ён ужо шкадаваў, што ўспомніў пра голад.

– Біль несправьядлівост? – упарта дапытвалася

дзяўчына.

– Якая несправядлівасць? Пра што ты гаворыш?

– Невінні людзі Сібірь гналь?

Ён выпрабавальна ўгледзеўся ў яе калючыя вочы і зразумеў, што трэба або сказаць праўду, або выдумляць якую адмысловую хлусню. Толькі хлусіць ён не ўмеў і, каб адразу спыніць гэтую прыкрасць між імі, няласкава кінуў:

– Як раскулачвалі – гналі.

Джулія пакутна закусіла вусны.

– Нон правда! – раптам крыкнула яна і нібы ўдарыла яго позіркам – столькі ў яе вачах было болю, крыўды і самае непрыкрытай варожасці.

– Нон правда! Нон! Іван – Влясов!

Яна раптам голасна хліпнула, затуліла далонямі твар. Іван, здрыгануўшыся сэрцам, памкнуўся быў да дзяўчыны, але яна спыніла яго катэгарычным разгневаным «нон!» і пабегла па схіле. Ён стаяў, не ведаючы, што рабіць, і толькі разгублена глядзеў ёй услед. Думкі яго раптам зблыталіся, хлопец адчуў, што сталася кепскае, але як і што паправіць, не ведаў.

Джулія дабегла да жарсцвянае, без кветак, выспы, села і, скурчыўшыся, падцяла калені. На яго нават і не зірнула ні разу.

– Ну і ну! Власаў! – збянтэжана сказаў сабе Іван і, уздыхнуўшы, затаптаўся ў траве.

Здалося, ён сапраўды нарабіў кепскага, недарэчна гэтак парушыў трудна наладжаную і патрэбную ўжо яму чалавечую прыхільнасць яе. Ад усведамлення таго ўсё ў ім заныла, разам асела нядаўняя ціхая радасць, і на душы стала вельмі адзінока.

Ну, ведама ж, яна нешта ўжо чула з таго, што рабілася

ў ягонай краіне ў перадваенныя гады, можа, зусім і не так, як гэта было на самай справе. Толькі як растлумачыць усё, каб яна зразумела? Ён ніколі ў жыцці не расказваў нічога пра тыя страшныя гады нават свайму чалавеку, не тое што чужаземцу. Так было лепей. Зноў жа, свае не горш за яго ведалі ўсё, нікога такія навіны не маглі здзівіць. Праўда, у палоне часам здаралася, што хлопцы заводзілі размовы аб мінулым, але перад людзьмі з другіх краін адно толькі хваліліся хараством прыроды, выгодамі свайго дабрабыту. Гэта было зразумела: каму не карціць выглядаць лепей, чым ёсць на самай справе, каму не баліць душа за сваё, роднае? Але Іван у такіх размовах звычайна маўчаў: хваліцца ён не ўмеў, а капацца ў тым трудным, што адбывалася некалі ў краіне, проста не хацеў, сам яшчэ шмат чаго не разумеючы.

Перакідваючы з пляча на плячо скуранку, хлопец таптаўся ў траве; патыліцу і плечы моцна пякло сонца, а ён, колькі ні думаў, усё не мог зразумець, што паміж імі сталася і ў чым тут яго віна. Вядома, пра голад лепей бы прамаўчаць, а наконт яе нядобрых здагадак, дык, мусіць, трэба было б настойлівей паспрабаваць пераканаць дзяўчыну ў справядлівасці нашага жыцця. Хоць і вельмі гэта няпроста было растлумачыць ёй, якая барацьба ішла ў той час на яго зямлі, але, мусіць, трэба было б паспрабаваць тое. Інакш дужа ўжо крыўдна губляць яе давер і павагу да яго. Можа, не грэх было б дзе і схлусіць, толькі... Толькі невыразна яшчэ адчуваў Іван, што справа была тут не ў ім, – за ягонай спіной стаяла нешта вельмі агромністае, усялякае круцельства перад якім выглядала агідай.

Ну, але вось чакай цяпер, хто ведае чаго... Можна было сабе ўявіць, як прыняла б Джулія і яго праўду, выкладзеную па шчырасці, – ці магла яна зразумець усю складанасць таго, што некалі прынесла столькі пакутных перажыванняў яму самому.

Але хай! Няўжо ён з усімі яго яшчэ нямногімі, але сумленна пражытымі гадамі і ўсёй яго верай і шчырасцю можа страціць нешта ў вачах гэтага

чалавека з Захаду толькі з-за цяжкіх часін ягонага жыцця? Няўжо прыгожая, на заходні манер загорнутая ў цэлафан мана даражэй за хоць бы і горкую праўду? Не! Калі ў гэтай дзяўчыны чуйнае сэрца, яна зразумее яго і як трэба паставіцца да яго самога, таксама як і да яго вартага павагі народа. Гэта Іван усвядоміў з выразнай упэўненасцю, і яму стала лягчэй і спакайней – нібы штосьці ўжо вырашылася і засталося толькі дачакацца вынікаў.

**18**

Але дачакацца іх у хлопца не хапіла цярпення.

Джулія, адвярнуўшыся ад яго, крыўдліва сядзела воддаль ды раздумна калупалася ў доле, ён, разважыўшы, узяў скуранку і паціху пайшоў да яе. Яна пачула ягоныя крокі, скаланулася, кінула на яго гняўлівы позірк, затым хуценька падхапілася і пабегла далей. Ён нетаропка ўзышоў на выспу і спыніўся. Трэба было чакаць, а можа, і ісці – ён проста не ведаў, што рабіць. Яна адбеглася на лузе і, не азіраючыся, схавалася за вялізным каменем, што груваскта тырчаў з травы.

Тады ён кінуў у дол скуранку і ніцма лёг на яе, адчуўшы ў сабе рашучасць чакаць, пабачыць, што будзе далей.

Стала горача. Ад нагрэтай сонцам цвёрдай вапняковай выспы, парослай жорсткай, як свінуха, травой, патыхала сухім пыльным жарам – зусім як ад напаленай печы. Потнай гарачынёй заходзіліся голыя Іванавы плечы, спіна; наўкола ў лугавой траве мільгала і пырхала рознакаляровая лятучая драбнота. Іван пазіраў на камень, за якім схавалася Джулія, тая, аднак, не паказвалася. Ад стомы, гарачыні ды няпэўнасці чакання хлопцу пачала дакучаць дрымота. Мусіць, ад ягад або ад спёкі адчуванне голаду зменшылася, затое захацелася піць. «От жа яшчэ не было клопату...» – думаў Іван. Трэба б ісці, як найхутчэй дабірацца да вельмі і вельмі, як ён адчуваў, нялёгкага снежнага хрыбта, знайсці там які пераход, прыдбаць харчу, а тут

вось ляжы і чакай. Сапраўды, куды як недарэчна павярнулася ўсё ў гэтым яго даволі ўдалым спачатку ўцёку. Каб не даць дрымоце адолець сябе, ён пачаў дзёўбаць каменным чарапком дол. Аднекуль з травы перад яго тварам з’явіўся вялікі, чорны, з аграмаднымі клюшнямі жук. Пэўна здзіўлены нечаканай сустрэчай, спыніўся, выставіў свае рачыныя вочы і чакаў, грозна варушачы доўгімі гнуткімі вусамі. Іван толькі дакрануўся да яго пальцам, як жук адразу выпрастаў усе свае шэсць ног і апруцянеў. Іван занёс руку, каб пстрыкнуць прэч не дужа прыемнае гэтае стварэнне, як раптам учуў ззаду крокі. Ён крутнуўся ў доле так пругка, што чалавек, пэўна, ад нечаканасці, голасна íкнуў і адначасова з незвычайным спрытам скочыў убок. Падышоў ён ужо зусім блізка і цяпер насцярожана стаяў у траве, уставіўшыся ў Івана нялюдскімі вачыма. Гэта быў усё той жа немец-вар’ят.

– Прывет! – іранічна ўсміхнуўшыся, сказаў Іван. – Жывём, значыць?

Іван нават здзівіўся, ніяк не чакаючы ўбачыць яго тут, такога ж здзічэлага, загнанага, счарнелага ад поту і бруду, з амаль нялюдскім выразам на ссохлым твары, у незашпіленай куртцы і парваных у шматкі штанах. Да таго ж немец кульгаў, ледзьве ступаючы на адну нагу. Але глядзі ты – прывалокся, пры такім яго стане проста зайздроснай была яго ўпартасць, – як здань, ён неадступна цягнуўся за імі, невядома на што разлічваючы.

– Брот! – ціха, але з прыкметнай пакорлівай роспаччу ў голасе сказаў немец.

– Зноў брот? – злосна здзівіўся Іван. – Ты што – на ўтрыманні ў нас?

Вар’ят зрабіў некалькі нерашучых крокаў да Івана:

– Брот!

– Ты ж збіраўся ў гестапа. Да свайго Гітлера.

– Нікс Птлера. Гітлер капут.

– Капут? Даўно б так.

Наўрад ці разумеючы яго, вар’ят, растапырыўшы кастлявыя рукі, цярпліва і насцярожана чакаў.

Іван запусціў руку ў скуранку і, не вымаючы адтуль буханкі, адламаў маленькі кавалак скарынкі. Убачыўшы яе ў Іванавых руках, немец ажывіўся, вочы яго заблішчалі, дрыготкія кісці рук у кароткіх абадраных рукавах пацягнуліся наперад.

– Брот! Брот!

– Трымай. І правальвай адсюль.

Іван шпурнуў хлеб немцу, але той не злавіў яго, кінуўся на зямлю, аберуч згроб скарынку разам з травой і пяском і ўскочыў. Затым, боязна азіраючыся, бокам падаўся ўніз па схіле, відаць, чакаючы і баючыся пагоні.

«Можа, адчэпіцца цяпер», – падумаў Іван. Тое, што гэты гефтлінг апярэдзіў іх, было бяспечней, чым калі б ён увесь час ішоў ззаду. Іван задуменным позіркам праводзіў яго, пакуль той не схаваўся ў лагчыне, і зноў лёг на скуранку.

Учарашняя яго злосць да гэтага чалавека знікла, хоць ён не адчуваў да яго і спагады, – вельмі яшчэ свежыя былі ў ягонай душы боль страт і памяць аб людзях, якіх загубілі суайчыннікі гэтага немца. Праўда, той мог быць і антыфашыстам па перакананні, толькі, вядома, чаго варта перакананне, якое так дарэшты спляжылася. Але болей падобна на тое, што гэта які-небудзь выбраковак з іх звярынага ладу, якому проста не пашэнціла ў іх нялюдскай службе. У канцлагеры былі і такія. Вось хоць бы і за ягоныя ўцёкі і за выбух бомбы іх камандафюрэра (калі толькі той ачуняе), пэўна, па галаве не пагладзяць – могуць таксама кінуць за дрот на месца тых, каго не асіліў упільнаваць сам. Хоць яго, напэўна, паставяць капо і таксама надзеляць уладай знішчаць. (Вось табе і гефтлінг!) І як быў ён сабакам у адносінах да людзей,

так ім і застанецца, хіба што ягоная нянавісць да зняволеных з прычыны асабістай няўдачы яшчэ пабольшае. Яшчэ ён наробіць людзям бяды.

Фашысты многага дасягнулі ў сваім энтмэншунгу – самай подлай з усіх чорных спраў на зямлі. І калі іх жывёльную жорсткасць да ворагаў яшчэ можна было зразумець, дык іх бязлітаснасць да сваіх, якія не дагадзілі ў чым-небудзь начальству, проста здзіўляла. Страх пакарання стаў іхнім галоўным вызначальнікам ва ўсім: усе жылі пад пагрозай спагнання, пакарання, разжалавання, адпраўкі на фронт, рэпрэсій да родзічаў. І таму, мабыць, так лютавалі, помсцілі за гэты свой страх слабейшым – каму гэта было дазволена – палонным, зняволеным у канцлагерах, яўрэям. Дзіўна было, як пры ўсім тым на фронце немцы ўсё ж ваявалі ўпарта. Можа, таму, што страх пакарання там набываў двайны сэнс і выбар быў невялікі: або ваенна-палявы суд, або савецкая куля – таму і даводзілася трымацца. Хаця прырода гераічнага вельмі складаная, Іван не любіў разважаць аб ёй, тым больш што не лічыў сябе ні героем, ні нават смелым. Каб быў герой, не даў бы сябе ўзяць у палон, што-небудзь зрабіў бы ў той самы рашучы момант, які вызначыў, пэўна, навек і будучае яго і мінулае. Пэўна, трэба было прыкончыць сябе, і ўсё... На момант у ягонай памяці мільгануў той дзень і той нажавы, падкопчаны стрэламі штык, які ён убачыў над сабой, крутнуўшыся з-пад танка. Штык і бот з брызентавым вушкам у шырокай халяве ды доўгім тронкам гранаты.

Зашчацінены, страшны ад пылу немец нешта крычаў, але ён не чуў, бо побач грымеў танк, ды і наогул ён, мусіць, аглух ад грымотаў бою і на кароценькую секунду страціў адчуванне. І тая секунда затым дорага каштавала яму, сляды ад яе ў душы і на целе застануцца, пэўна, навек.

Ён не быў у палку ні героем, ні нават прыкметна смелым – быў як і ўсе: па-пехацінску цягавіты і ў меру засяроджаны. За ранейшыя баі атрымаў тры падзякі Вярхоўнага ды два медалі «За адвагу» і думаў, што на

большае і не здатны. І толькі вось тут, у палоне, дзе некаму было ні натхняць на салдацкія подзвігі, ні ўзнагароджваць, ні нават браць пад увагу геройскае, дзе за кожную маленькую правіннасць можна было заплаціць жыццём, – тут у ім хтось абудзіўся, непакорны, дзёрзкі і ўпарты. Тут ён убачыў падыспад фашызму і, мабыць, упершыню зразумеў, што пагібель – не самае горшае з усяго, што можа здарыцца на вайне.

– Отдаль хляб? – раптам раздаўся над ім голас Джуліі.

Ён унутрана здрыгануўся ад неспадзеўкі, але тое, што яна падышла, пранізала яго радасцю, і хлопец хуценька павярнуўся на доле.

– Отдаль хляб? – з зацятай устрывожанасцю на твары пыталася Джулія. – Мі нон Трієсто? Аллес фініта? Да?

– Ну, што ты! – сказаў ён і ўсміхнуўся. – Толькі скарынку аддаў.

Яна нахмурыла лоб і пільна глядзела на яго. Тады ён дастаў з кішэні апошні кавалак.

– Во, толькі скарынку, разумееш?

Пераадольваючы штосьці ў сабе, Джулія прамаўчала. Лоб яе, аднак, паступова разгладжваўся.

– Мі ідет Трієсто? Правда? Но?

– Пойдзем, канечне. Адкуль ты ўзяла, што не пойдзем?

На яе твары ўсё яшчэ адбівалася нешта труднае. Дзяўчына, цярэбячы на грудзях куртку, відаць, нешта вырашала і раптам кінулася да яго на дол. Паставіўшы калені, яна абляглася на іх рукамі і схавала ў рукавы твар.

– Руссо! Ты карошы руссо, – загаманіла яна і адной сваёй рукой пацiснула яго руку. – Нон Власов. Буно руссо. Джулія плохо.

– Ну, нашто так? – з раптоўнай няёмкасцю ад тых слоў

запярэчыў Іван. – Нашто? Не трэба...

– Очен, очен, – не слухаючы яго, казала яна. Відаць, штосьці ў яе, раптам выбухнуўшы, памалу адбалела за пакутную гадзіну іх ростані, нешта яна зразумела і цяпер папрасіла: – Іван нон бёзе Джулія... Нон бёзе?

– Нічога, усё добра.

Седзячы ў доле, ён ашчадна ўзяў у свае рукі яе маленькую мяккую далоньку. Дзяўчына не адабрала яе.

– Нон бёзе Іван, – сказала яна і зірнула ў ягоныя вочы. – Нон бёзе Джулія. Іван знат правда. Джулія нон знат правда.

– Ладна, ладна... Ты гэта во што...

– Джулія очен, очен уважат Іван, любіт Іван, – сказала яна.

Ягоныя рукі з яе далонькай у іх ледзьве прыкметна ўздрыгнулі.

– Ты... піць не хочаш? Вады, га?

– Вода? Аква?

– Ага, вады, – узрадаваўся ён. – Вунь там, здаецца, ручай. Айда?

Ён хуценька ўскочыў, яна таксама ўзнялася, абхапіла яго руку вышэй локця і шчакой прыціснулася да яе. Ён другою пакратаў яе валасы, пагладзіў, яна неяк унутрана насцярожылася, і ён таропка апусціў руку. Так абое яны, зноў згодныя і прыхільныя, памалу пайшлі краем лугу.

**19**

Ручай быў неглыбокі і гаманкі – шырокі паток ледзяной вады з гор шалёна імчаў па камянях, віруючы пенай і размашыста плёскаючы на нізкія заліўныя берагі. На адным лугавым завароце ён намыў на траве шырокую

касу шэрага жвіру, перайшоўшы якую, Іван і Джулія ўволю напіліся з прыгаршчаў, і дзяўчына адышлася на бераг. Іван тым часам падкасаў разадраныя сабакам штаны і ўвайшоў у ваду глыбей. Ногі заламала ад сцюжы, імклівая плынь сілілася паваліць, але яму хацелася памыцца, бо пот раз’ядаў твар. Хлопец памацаў свае шархоткія, з ладнай ужо бародкай пашчэнкі, памкнуўся было зірнуць на іх у ваду, толькі дарма: у імклівай яе каламуці нічога, апроч камянёў ды пены, нельга было ўгледзець. «Мусіць, зарос, як бандзюга», – падумаў ён і азірнуўся на Джулію.

– Я страшны, няголены? – запытаў ён у дзяўчыны, але тая не азвалася – як села, так і сядзела ў задуменнасці і пазірала ў адно месца на беразе. – Кажу, я страшны? Як дзед, мусіць?

Яна страпянулася, услухалася, намагаючыся зразумець яго думку, – ён усё церабіў свае кучаравыя сківіцы, – і яна здагадалася.

– Карашо, Іван. Очен вундэршон.

Іван пачаў мыцца і думаў, што з ёй нешта сталася – дзяўчына, відаць, чымсь устрывожана, штось перажывае; гэткая засяроджаная яна не была нават у час уцёкаў, пад носам у немцаў. Зусім не ў яе характары была такая раздумнасць, гэта штосьці труднае ёй прычыніў ён, Іван. А Іван, наадварот, чамусьці пазбыўся ўсіх сваіх ранейшых трывог і на гэтым лугавым прыволлі проста акрыяў душой. Яму было добра з ёй і хацелася развеяць яе клопат, убачыць яе ранейшай – вясёлай, рызыкоўнай, даверлівай. Мусіць, трэба было б улагодзіць яе, супакоіць, толькі Іван не мог пераступіць нейкую мяжу між імі, хоць і хацеў таго. Нешта няўрымсліва зваблівае ажывала ў ім да дзяўчыны і ў той жа час стрымлівалася, вагалася, пакутна марудзіла.

Памыўшыся, ён набраў у прыгаршчы вады і здалёк размашыста пырснуў на яе – Джулія зноў здрыганулася, няўцямна зірнула на яго і зараз жа заўсміхалася на жарт. Ён таксама ўсміхнуўся нязвыкла, на ўвесь свой шырокі, абкладзены кучаравай бародкай твар.

– Спалохалася?

– Нон.

– А чаго задумалася?

– Так.

– Што гэта – так?

– Так, – пакорліва сказала яна. – Іван так, Джулія так.

Нягледзячы на нешта нялёгкае ў сваёй душы, яна ахвотна паддавалася яго жартаўлівасці і, жмурачы вочы, усмешыста глядзела, як ён, пакідаючы на жвіры мокрыя сляды босых ног, валюхаста выходзіў да яе на траву.

– Хутка ты вучышся па-нашаму, – сказаў ён, прыпамінаючы нядаўнюю іх размову– Здольная, відаць, была ў школе.

– О, я біль вундэркінд, – жартоўна сказала яна і раптам схамянулася. На яе твары мільгануў спалох. – Ой, санта мадонна: ільсангвэ!

– Што?

– Ільсангвэ! Кров! Кров!

Ён нагнуўся, зірнуў, куды глядзела яна, – на мокрай ягонай галёнцы поўз ад калена вузенькі струменьчык крыві. Іван адразу здагадаўся – гэта адкрылася рана, тая, ад сабакі; нічога страшнага, дагэтуль ён нават не знайшоў калі паглядзець яе; цяпер сеў ля дзяўчыны і вышэй загарнуў штаніну. Сапраўды, над каленам нага была здорава раздрапана сабачым кіпцюром і, мусіць, у вадзе раскрывянілася. Джулія спалохана памкнулася да яго, нібы гэта была бог ведае якая рана, завохкала, замітусілася.

– О, Іваніо, Іваніо! Очен болно? Болно? О, мадонна! Где получіль такой боль?

– Ды гэта сабака, – смеючыся, казаў Іван. – Я яго прыдушыў, а ён шкрабануў.

– Санта мадонна! Сабака!..

Спрытнымі рухавымі пальцамі яна пачала мацаць яго нагу, сціраць свежыя і ўжо засохлыя пацёкі крыві. Ён не супраціўляўся – адкінуўшыся назад, аддаўся яе пяшчотнаму клопату; на душы ў яго было шчымліва-салодка і надзіва шырока. Але з драпіны ўсё ж сачылася кроў, краі раны разышліся і не хацелі зліпацца; хоць зусім і не балела, нагу трэба было перавязаць.

Джулія прыўстала на каленях і загадала яму:

– Глядзі нах гора. Нах гора...

Ён зразумеў: трэба было адвярнуцца, і паслухмяна павярнуў твар назад, да гары. Яна ў той час нешта разадрала на сабе, і калі ён зноў павярнуў галаву, у яе руках быў чысты паркалёвы шкумат.

– Медыкаменто надо. Медыкаменто, – казала яна, збіраючыся пачаць перавязку.

– Які там медыкамент? Зажыве, як на сабаку.

– Но. Такой боль очен плёхо.

– Не боль – рана. Па-руску гэта – рана.

– Рана, рана. Плёхо рана.

Ён азірнуўся, агледзеўся і, убачыўшы ў траве непадалёк шэрыя махры падобнай на падарожнік травы, адарваў ад іх некалькі лісткоў.

– Вось медыкамент. Маці заўжды ім лячыла.

– Ето? Ето плантаго майор. Нон медыкаменто, – сказала яна і ўзяла з яго рук персткі.

– Ну, што ты! Гэта ж падарожнік. Вунь яшчэ як раны загойвае...

– Нон падаожнік. Ето плантаго майор по-латіні.

– А, па-латыні. А ты адкуль ведаеш?

Яна гулліва зыркнула вачыма.

– Джулія многа-многа знат латіні. Джулія ізучаль ботанік.

Ён таксама некалі вучыў батаніку, але ўжо нічога не памятаў з гэтай навукі і цяпер, больш спадзеючыся на людскі звычай, прыклаў ліскі падарожніка да распухлае драпіны. Дзяўчына з выразам нязгоды пакруціла галавой, але ўсё ж пачала абвязваць нагу белай анучкай. Упершыню, мабыць, Іван адчуў яе перавагу над сабой: мусіць, адукацыя Джуліі была куды вышэй за ягоную, і гэта яшчэ павялічыла хлопцаву павагу да яе. Івана няшмат турбавала рана, яго болей зацікавілі кветкі, назвы якіх яму не былі вядомы. Пацягнуўшыся рукой убок, ён сарваў нешта, вельмі падобнае на наш рамонак.

– А гэта як называецца?

Яна коратка зірнула на кветку:

– Перетрум розеум.

– Ну, зусім не па-нашаму. Па-нашаму гэта, мусіць, будзе рамонак.

Ён сарваў яшчэ маленькую сінюю, як адцвіўшы васілёк, сціплую кветачку.

– А гэта?

– Ето?.. Ето прымула аурыкулата.

– А гэта?

– Гентіна пірінеіка, – сказала яна, узяўшы з яго рук два невялічкія сіненькія гарлачыкі на жорсткай ліцявой сцяблінцы.

– Усё ведаеш. Малайчына. Толькі па-латыні...

Джулія тым часам як-колечы перавязала рану – зверху на перавязцы адразу ж выступілі дзве рудыя пляміны.

– Лежі надо. Тіхо надо, – запатрабавала яна.

Ён з нейкаю несур’ёзнай паблажлівасцю да яе турботы падпарадкаваўся, выцяг нагу і лёг на бок тварам да дзяўчыны. Яна падцяла пад сябе ногі і паклала руку на яго гарачую ад сонца галёнку.

– Карашо руссо. Карашо, – казала яна, беражна пагладжваючы яго нагу.

– Харошы, кажаш, а не верыш. Власаўцам абазвала, – успамінаючы нядаўні разлад, з папрокам зазначыў Іван.

Яна ўздыхнула і разважна сказала:

– Но влясовец. Джулія верішь, Іваніо знат правда. Джулія но понімат правда.

Іван пільным, працяглым позіркам паглядзеў у яе строгія вочы.

– А што ён табе гаварыў, той власавец? Ты дзе яго слухала?

– Лягер слушаль, – з гатоўнасцю адказала Джулія. – Влясовец говорі: руссо кольхоз голяд, кольхоз плёхо.

Іван усміхнуўся:

– Сам ён свалата. З кулакоў, відаць. Вядома, жылі па-living рознаму, не такі ўжо ў нас і рай, як ты думаеш. Я, праўда, не хацеў табе ўсяго гаварыць, але...

– Говоріт, Іван, правда! Говоріт! – настойліва папрасіла Джулія.

Ён сарваў пад рукамі рамонак і таксама ўздыхнуў.

– Былі неўраджаі. Праўда, розныя і калгасы былі. І зямля не ўсюды аднолькавая. У нас, напрыклад, адно каменне. Ды яшчэ балоты. Вядома, прыйшоў бы час, дабраліся б і да зямлі. Балот вунь колькі асушылі.

Трактары ў вёсцы з’явіліся. Машыны розныя. Дапамога немалая мужыку. Вайна толькі ўсё да халеры спляжыла...

Джулія пасунулася да яго бліжэй.

– Іван говорі Сібірь. Джулія думаль: Іван шутіль.

– Не, чаму, была і Сібір. Высылалі кулакоў, каторыя заможныя. І ворагаў розных падабралі. У нас у Цярэшках таксама чацвёра аказалася.

– Ворагі? Почему ворагі?

– За буржуяў стаялі. Кароў калгасных сапам – хвароба такая – хацелі заразіць.

– Ой, ой! Какой плёхой челёвэк!

– Вось так. Праўда, можа, і не ўсе. Але па дзесяць год далі. Нізавошта не далі б. Дык іх таксама ў Сібір. Перавыхоўвацца.

– Правда?

– Ну, а як ты думала?

Лежачы на баку, ён засяроджана абрываў рамонак.

– Іван очен любіт свой страна? – пасля кароткага маўчання запытала Джулія. – Белоруссіо? Сібірь? Свой кароші люді?

– Каго ж мне яшчэ любіць? Вось калі бацька памёр, трудна было. На бульбе жылі. Дык то адна цётка ў вёсцы прынясе чаго, то другая. Сусед Апанас дровы прывозіў. Пакуль я падрос. Але пападаліся і сволачы. Знайшліся такія – нагаварылі на настаўніка нашага Анатолія Яўгеньевіча – ну і ўтапілі. Сумленнага чалавека. Бывала, усё са старшынёй калгасным лаяўся з-за непаладак. За народ клопат меў. А сказалі – супраць улады выступаў. Таксама дзесятку далі. Памылкова, вядома.

– Почему но защіцаль честно учітел?

– Зашчышчалі. Пісалі. Толькі...

Іван не дагаварыў. Міжвольныя гэтыя ўспаміны выклікалі ў ім невясёлы роздум, і ён ляжаў, кусаючы зубамі абскубаную сцяблінку рамонка. Заклапочана-ўважлівая Джулія ціха гладзіла яго забінтаванае гарачае калена.

– Усё было. Старое ламалі, перабудоўвалі – нялёгка гэта далося. З крывёй. І ўсё ж труднае хутка забываецца, помніцца добрае. Часам здаецца: нічога гэтага і не было. Жылі цяжка, клапотна, можа, і несправядліва ў чымсьці. Але ў міры. А гэта галоўнае. Я вось думаю калі: няхай бы зноў усё вярнулася – і цяжкасці, і голад, але без вайны каб. Усё б адолелі. Справядлівейшыя былі б. Пасля такой крыві, гэта ўжо пэўна.

– Руссо феномено. Парадоксо. Удівітелно, – горача загаварыла Джулія.

Іван, выплюнуўшы сцяблінку, перабіў яе:

– Што ж тут дзіўнага: барацьба. У акружэнні, сярод буржуазнага свету жылі. Чырвоную Армію ладзілі.

– О, армата Россо побеждаль! – падхапіла Джулія.

– Ну вось. Сілу якую накапілі. А пасля вайны, калі гэтую сілу на гаспадарку пусціць, ого!..

– Джулія много слышаль Россія. Россія само болшой справьядлівост. – Яна памаўчала і, здаецца, штосьці прыпомніўшы, варухнула брывамі. – Джулія за етот мыслі от фатэр, іль падрэ, батіка то ест, убегаль. Рома батіка делай вернісаж – юбілей фірма, біль многа гост, біль офіцір СД. Офіцір біль Россія. Офіцір говоріль: «Россія плёхо, бедно, Россія нон култур». Джулія сказаль: «Ето обман. Россія лючше Германіі». Офіцір сказаль: «Фройлін – камуністі?» Джулія сказаль: «Нон комуністі – правдісті». Ла падрэ ударяль Джулія. – Яна кораценька дакранулася да шчакі. – Пощёчін ето по-рускі. Джулія убегаль вернісаж, убегаль Маріо Наполі.

Маріо біль комуністо. Джулія думаль: руссо карашо. Лягер Іван бежаль, Джулія бежаль. Руссо Іван герой!

– Ну які я герой? – не пагадзіўся Іван. – Проста салдат.

– Нон просто солдат! Руссо солдат – герой. Само смело! Само сільно! Само... само... – натхнёна гаманіла Джулія, шукаючы рускія словы. Ва ўсім яе тоне адчувалася набалелая шчырасць веры, якой яна вельмі не хацела здраджваць. – Мі відель ваш герой лягер. Мі зналь ваш герой на Остфронт. Мі думаль, ваш фатэрлянд само сільно, само справьядліво...

– А ён і справядлівы, – заўважыў Іван. – Рабочыя, калгаснікі ў людзі пайшлі. Я вось на трактарыста вывучыўся. А настаўнікаў колькі стала. З тых жа мужыкоў. Раней не тое было.

Насупленыя дагэтуль бровы яе варухнуліся, і вочы ад нейкае рашучае думкі гулліва бліснулі.

– Руссо комуністо Іван спасаль Русланд, спасаль буржуазно монархія Італьяно, спасаль Джулія...

– Ну які я камуніст: зашмат гонару. А па-другое, што ж тут такога: увесь Савецкі Саюз ратуе і Італію, і Францыю, і Грэцыю. І ці мала каго! Хоць яны і буржуазныя. Але ж, апроч нас, хто б яго спыніў. Тады, у сорак другім?

– Сі, сі. Так.

З затоенай усмешкай на вуснах, яна шырока агладзіла яго нагу, пасля голы бок. Іван аж сцяўся, слухаючы пяшчотны дотык яе лёгкіх рухавых пальцаў, як раптам яна нагнулася і пацалавала яго сіні шрам на баку. Ён здрыгануўся, нібы яго пранізалі штыком другі раз, варухнуў рукой, каб абараніцца ад нястрыманай яе пяшчоты, а яна злавіла гэтую яго руку, адагнула яе долу і ў адзіным безразважным парыве стала цалаваць усе яго шрамы – ад асколка ў плячы, ад кулі вышэй локця, ад штыка ў баку, асцярожна чмокнула ў павязку на назе. Ён зажмурыўся ад прыліву чагось страшэнна

шчыкотнага ўнутры, напяўся, і тады нейкая рыса ў яго стрыманасці аказалася такой вузкай, што балансіраваць на ёй не хапіла цярпення. Не ведаючы, добра гэта ці не, але ўжо аддаўшыся ўладзе невядомае сілы, ён трапятнуўся, прыўзняўся на локці. Другою рукой абхапіў яе наўкос цераз плячо, трошкі прыгарнуў і, зажмурыўшы вочы, дакрануўся да яе разамлелых, з прысмакам чагосьці незнаёмага вуснаў.

Пасля адразу ж адкінуўся спіной у траву, вольна раскінуў рукі і засмяяўся, з заплюшчанымі ўсё вачыма. А калі расплюшчыў іх, у сонечным арэоле, пад распушанымі валасамі дзяўчыны ўбачыў нахілены яе твар і раскрыты зіхоткі белазубы рот. У першую тую секунду яна быццам захліпнулася, відаць было, хацела і не магла штосьці сказаць, толькі шырока акругліла вочы, і ў іх, хутка пераадольваючы збянтэжанасць, шчодра шыбанула з глыбінь душы радасць, шчаслівасць адкрыцця і здзіўленне. У наступнае імгненне яна прыпала да ягоных грудзей, прыціснулася, абшчапіла яго шыю рукамі і блізка-блізка ля яго твару зашаптала горача і аддана:

– Іваніо... Аміка...

## 20

Нешта труднае і пабочнае, што ўвесь час утрымлівала іх адно ад другога воддаль, было пераадолена, пражыта шчасліва і амаль раптоўна. Мусіць, тыя пакутныя парадоксы, што дапякалі Джулію, нейк былі ёю зразуметы – з гэтага моманту для абаіх засталіся толькі бражная духмянасць зямлі, макавы водар і спякотны бляск высокага неба. Сярод гэтай першабытнай стыхіі ў адным кроку ад смерці нарадзілася нязведанае, таямнічае і ўладарнае, яно жыло, прагла, палохала і клікала...

Распластаўшыся на зямлі, Іван гладзіў і гладзіў яе вузенькую, напечаную сонцам спіну, дзяўчына ўсё гарнулася да яго грудзей і сваёй гарачай аксамітнай шчакой церлася аб яго рассечанае асколкам плячо.

Вусны яе, не перастаючы, шапталі штось незразумелае, іншамоўнае, але Іван і без таго адчуваў усё. Смеючыся вачыма, тварам, душой, ён нібы абмёр у нейкай шчаслівай бязважкасці; неба ўгары кружылася; зямля, нібы вялізная касабокая талерка, усё хінулася кудысь і вагалася, гатовая вось-вось абрынуцца ў невядомую прорву, і ад таго было соладка, хмельна і боязна.

Час, мусіць, перастаў для яго існаваць, адышла ў нябыт небяспека, ля самага хлопцавага твару горача тлелі два вялікія чорныя вугалі ў шырока раскрытых яе вачах. У іх цяпер не было ні пакуты, ні клопату, ні гарэзнасці – нічога, апроч труднага, уладарнага ў сваёй немаце клічу; нешта падобнае Іван адчуваў на краі бяздоння, якое заўжды страшыла і вабіла адначасна. У яго не было ніякае сілы супрацьстаяць гэтаму клічу, ды ён і не ведаў, ці трэба было стрымлівацца; ён зноў намацаў вуснамі вільготную жвавасць яе рота, адчуў касцяную цвёрдасць зубоў. Дзяўчына моўчкі замерла, ён прыгарнуў яе аберуч і сціх. Стала ціха, ціха, і ў гэтую цішыню велічна, як з нябыту ў вечнасць, ліўся, шумеў, булькатаў горны паток. Хацелася растварыцца, знікнуць у яе трапяткіх абдымках, сплыць у вечнасць з патокам, увабраць з зямлі ўсю яе моц і самому стаць зямною магутнасцю – шчодрай, ціхай, пяшчотнай...

А зямля ўсё вагалася, кружылася неба, праз паўрас-плюшчаныя павекі ён незвычайна зблізку бачыў пяшчотную акругласць яе шчакі, пакрытай маленькімі, высвечанымі сонцам варсінкамі; гарачай ружовасцю ззяла падсветленая ззаду тоненькая ракавіна вуха. Ён пацягнуўся да яе мочкі з ледзьве прыкметным следам ад дзірачкі, ціхенька намацаў яе губамі – Джулія пругка трапятнулася целам.

Пэўна абуджаны гэтым яе рухам, недзе ўнутры ў ім разгублена азваўся незнаёмы, зусім тут чужы голас – ён завагаўся, запратэставаў, ён чагосьці баяўся. Мусіць, у яго не было аргументаў, настойлівых, неабвержаных доказаў – уся логіка яго адмаўлення ўвасобілася ў пытаннях-дакорах: «Навошта? Навошта?.. Што ты робіш?.. Што робіш? Ты ведаеш, хто яна? Ты вельмі

мала ведаеш... Не, ты зусім не ведаеш! Адкуль яна? Ты прыпомніў, з якога свету?»

Іван стараўся не слухаць, заглушыць у сабе недаверка, ён не хацеў нічога ведаць цяпер, ён адчуваў, як віраваў, плёскаўся, гуў ручай, гула на ўсю глыбіню зямля, трубнымі хорамі ўторыў ёй настырны і ўладарны парыў душы...

Мусіць, зямная вось у той час нахілілася, аднак ён не заўважаў – ён гатовы быў рынуць у бяздонне, цяпер нічога не мела значэння: у ягоных руках была яна. Яна – тая незямная і нязнаная, затанулая ў нясцерпным буйстве макавай чырвані, прыціхлая, маленькая, аслабелая і таму яшчэ болей магутная – над зямлёй, над сабой, над ім...

Недзе зусім блізка пад імі, здавалася, у глыбінных нетрах зямлі гуў, імкнуў, струменіў шалёны паток, ён цягнуў, вабіў у свае неспазнаныя нетры-глыбіні; у хлопца не стала сілы супраціўляцца яму... Яна забілася рыбінай, заплескатала ў ягоных руках, на шырока расхінутых вуснах нараджаліся і паміралі словы – чужыя, родныя, вельмі зразумелыя словы...

Толькі словы цяпер не мелі значэння.

Зямныя нетры, і горы, і магутныя гімны ўсіх патокаў зямлі затаіліся і згодна благаславілі вялікую таямніцу жыцця...

## 21

Абудзіўся ён раптам, трывожна-радасным намаганнем волі – схамянуўся ад думкі, што заснуў і даў знікнуць са свайго жыцця чамусьці надзвычай вялікаму і радаснаму.

Іван прыўзняў галаву, разам усё згледзеў і заўсміхаўся ад таго, што дарма напалохаўся – нічога не знікла, не прапала, нават не прыснілася, як здалося ўпачатку. Упершыню за шмат год ява была шчаслівейшая за самы радасны сон.

Джулія ляжала ніцма, спакойна паклаўшы павернутую набок галаву на выцягнутую ў траве руку, і спала. Дыханне яе, аднак, не было мерным і роўным, як у сонных людзей, – часам яна замірала, нібы прыслухоўвалася да чагось, з перарывам выдыхала, затым ішло некалькі роўных кароценькіх уздыхаў і – стрыманы радасны выдых. Крыху раскрытыя вусны яе ўвесь час варушыліся. Ён падумаў спачатку, што яна шэпча, але слоў не было, вусны, мабыць, толькі адбівалі таямнічыя праявы яе сну, таксама як і шчокі, павекі вачэй, якія і ў сне торгаліся, варушыліся, уздрыгвалі. Але ўсе гэтыя навеяныя сном перажыванні яе былі лагодныя і ціхія, – мусіць, снілася ёй штосьці шчаслівае, і на вуснах час ад часу праступала добрая, сцішаная ўсмешка.

Іван павярнуўся на бок і сеў. Пэўна, яны доўга праваляліся ў гэтым лаўжы, сонца ўжо спаўзло з небасхілу і, мабыць, заходзіла за счарнелым горбам спарыша-вяршыні. Без сонечнага святла дужа сціпла, амаль непрытульна выглядаў такі ўрачыста-зіхоткі ўдзень луг. Далячынь густа спавілася туманам, і хоць хмар не было, змрочная туманістая смуга падмыла далёкія хрыбты гор, дашчэнту затапіла даліну. Мядзведжы хрыбет страціў усё сваё лясное падножжа і, яшчэ ярка ззяючы срэбрам вяршынь, нібы падталы, плаваў у дымчатым туманным моры. Гэта было апошняе развітальнае святло незвычайнага і нечаканага, як узнагарода, сённяшняга Іванавага дня. На бляклым небасхіле ўдалечыні ўжо запалілася і ціха гарэла адзінокая, самотная зорка.

Ён зноў павярнуўся да Джуліі, – мусіць, трэба было паднімацца і ісці, але яна спала так соладка, так бездапаможна-знясілена, што ён проста не адважыўся парушыць гэты, такі патрэбны ёй, сон. Ён пачаў прагна глядзець на яе рухавы і ў сне твар, так, быццам упершыню бачыў яго. Цяпер, пасля ўсяго, што між імі сталася, кожная яе ўсмешыстая рыса, кожны рух набывалі свой паглыблены сэнс. Хацелася пазіраць так, бясконца, уважліва пазнаваць пачуццём зманлівую таямніцу чалавечай душы. Наперакор усяму ён адкрыў

у ёй неспадзяванае – сціплае і радаснае – і, здаецца, ледзьве не захлынуўся быў у той сваёй першай хмельнасці. Цяпер, праўда, хмельнасць крыху апала, выраўнялася, але затое адчуванне шчаслівасці стала яшчэ большае, і ягоны недаверак-голас змоўк назаўжды. Наогул ён быў проста дурань, што так доўга сумняваўся ў гэтым чысцейшым і, мусіць, самым бескарыслівым у свеце стварэнні. Спасцігшы тое цяпер, ён, не кратаючыся, як на чароўную таямніцу прыроды, глядзеў і глядзеў на яе – маленькае чалавечае дзіва, гэтак позна і радасна адкрытае ім у жыцці, і не адчуваў у сабе ні пагарды да яе, ні чагось брыдкага; было толькі нешта ціхае, добрае, яно да краёў напаўняла яго пяшчотай.

А яна ўсё спала, прынікшы да шырокіх грудзей зямлі; варушыліся, трапяталіся яе тоненькія ноздры, і маленькая, чырвоная багоўка задуменна паўзла па яе рукаве. Яна выпаўзла са складкі, растапырыла крыльцы, але не паляцела, бы передумала, папаўзла далей. Ён асцярожна скінуў багоўку, беражлівым дотыкам паправіў на дзяўчынінай шыі перакручаны на чорным шнурку крыжык. Яна ўсё не прачыналася, толькі трошкі перапыніла дыханне, тады ён паправіў на яе спіне загорнуты край курткі і ўсміхнуўся. Хто б мог падумаць, што яна за два дні стане для яго тым, чым не стала ніводная свая суайчынніца, запалоніць яго душу ў такі, здаецца, самы няздатны для таго час? Хіба мог ён прадбачыць, што ў сваіх чацвёртых уцёках, ратуючыся ад пагібелі, гэтак нечакана напаткае першае сваё каханне? Як усё зблытана, перакручана, перамешана на гэтым свеце! Невядома толькі, хто перамяшаў тое, інакш як бы атрымалася вось гэта – у палоне, на парозе смерці, з чужой нязнанай дзяўчынай, чалавекам другога свету? «Што б сказалі хлопцы, калі б даведаліся пра такія падрабязнасці ягоных уцёкаў?» – падумаў ён, і гэтая думка непрыемна ўразіла яго. Куды як нялёгка было адказаць на такое пытанне, але Івана не трэба было вучыць прамаце ў адносінах да сябе. Хлопец лёгка ўявіў суровы, незадаволены твар Галадая – той, пэўна, не дапусціў бы ніякага кахання. Галадай заўжды ведаў, чаго хацеў, і быў няўхільны ў сваіх намерах. Мусіць, не

пахваліў бы яго і Жук, які насіў у сабе занадта вялікую злосць на фрыцаў, каб апраўдаць нейкае там каханне на шляху да помсты. Янушка, напэўна, зважыў бы, не лаяў, мусіць, памкнуўся б вытлумачыць усё маладосцю, але ў душы таксама ці апраўдаў бы. Не даравaў бы – праўда, па другой прычыне – і дахадзяга Срэбнікаў. А ён, таксама не мякіш сярод іх, не баязлівец і не слабак, вось не ўстаяў, пакахаў гэтае маленькае альпійскае дзіва, якое гэтак нечакана аказалася самым значным і дарагім з усяго, што сустракалася яму ў жыцці.

І ўсё ж трэба было ісці далей. «Не час тут валяцца, вылежвацца, мусіць, трэба б пабудзіць яе», – падумаў ён і сам лёг побач – цесненька, да самага бока, і асцярожна, каб не патрывожыць яе сну. Агорнуты пяшчотаю да дзяўчыны, ён адхіліў ад яе галавы навіслыя сцябліны маку, адагнаў беленькага пырхоткага матыля, які ўсё прымерваўся сесці на яе валасы. «Хай яшчэ трошкі... – думаў Іван, усё мосцячыся побач. – Яшчэ – і трэба ісці... Ісці ўніз, у даліну...»

Над затуманенай навалаю гор у супакоеным вячэрнім небе ціха дагараў шырокі Мядзведжы хрыбет. На крутых яго схілах усё вышэй узнімалася шэрае сутонне ночы і ўсё менела ружовага бляску на піках-вяршынях.

Неўзабаве яны і зусім пагаслі. Хрыбет адразу сцяўся і асеў, шэраю дымнасцю ахуталіся горы, і на пакуль што святлявым небе прарэзаліся першыя зоркі. Іван, аднак, ужо не ўбачыў іх – ён заснуў з апошняю сваёй думкай: трэба ўставаць.

Абудзіла яго ўжо Джулія. Мусіць, ад холаду яна заварушылася побач, цясней тулячыся да яго бока. Санлявы яшчэ, Іван адразу адчуў яе і прахапіўся. Яна ашчаперыла яго рукою і горача-горача зашаптала ў вуха поўныя пяшчоты словы – незнаёмыя, чужыя і дужа дарагія яму словы. Ён прыгарнуў яе і вуснамі сустрэў яе вусны...

Было ўжо зусім цёмна. Пахаладала. Чорнымі на паўнеба гарбамі высіліся бліжнія вяршыні, угары мігалі рэдкія

зоры; вецер, мусіць, зусім сціх, бо не шалясцеў нават мак, толькі несціхана і роўна шумеў, булькатаў побач паток. Травяное багацце лугу ўначы запахла на ўсю сваю духмяную сілу, ад яго водару лёгкая п’янасць пацякла ў крыві. Зямля, горы, неба з спакойнай упэўненасцю драмалі ўначы, а Іван, прыўзняўшыся, схіліўся да дзяўчыны і глядзеў-углядаўся ў яе твар, нейкі не такі, як удзень – супакоены, як гэтая ноч, прыціхлы, быццам трошкі спалоханы. У вялізных яе вачах варушыліся цьмяныя зрэнкі, і ў іх далёкай глыбіні бліскала па ледзьве прыкметнай зорачцы. Начныя цені невыразна блукалі па яе твары, а яе рукі і ўначы не трацілі сваёй трапяткой жвавасці – усё гладзілі, песталі ягоныя плечы, шыю, патыліцу.

– Джулія! – ціхенька пазваў ён, усё прыгортваючы яе да сябе.

Яна пакорліва азвалася – ціха, з пяшчотай і адданасцю:

– Іваніо?

– Ты не баішся мяне?

– Но, Іваніо.

– Што ашукаю, пакіну цябе?

– Но, аміка. Іван нон обман. Іван – руссо. Кароші, мілі руссо!

Таропка і пругка, з нечаканай для яе тоненькіх рук сілай яна прыціснула яго да сябе і радасна, ціхенька засмяялася.

– Іван – марíто. Нон сіньор Дзангарíні, нон Марíо. Руссо Іван – марíто.

Ён з задавальненнем, нават з патаемным гонарам у душы запытаў:

– А ты давольна? Не пашкадуеш, што Іван – марыта?

Яна шырока расплюшчыла зацененыя яго нахіленай

галавой вочы – зоркі ў яе зрэнках здрыгануліся і заскакалі.

– Іван – кароші, кароші марітo. Мі будэт маленькі-маленькі філіё... Как ето по-рускі, скажі?..

– Дзіця?

– Нон дітя! Как ето маленькі руссо?

– А, сын, – трошкі здзіўлена падказаў ён.

– Так, сін! Ето карашо. Такой маленькі-маленькі, кароші сын. Он будэт Іван, да?

– Іван? Ну, можна і Іван, – пагадзіўся ён, зірнуўшы панад ёю ў чорную далячынь хрыбта, і ўздыхнуў.

Яна прыціхла, нешта думаючы. Абое на хвіліну змоўклі, кожны ўвайшоў у свет сваіх думак. А навокал ціха ляжалі горы, скупа бліскалі рэдкія зоркі, чорнай, непрагляднай аблогай накрыўся макавы луг. Было ціха-ціха, толькі шумеў, віраваў паток, але ён не парушаў цішыні, і Івану здавалася, што ў цэлым свеце іх толькі трое – яны і паток. У апошніх яе словах штосьці было клапотнае, яно сагнала з Іванавага твару ўсмешку. Страціўшы жартоўную лёгкасць, ён набрыў на штось труднае і сур’ёзнае ў сабе і, мабыць, упершыню ўбачыў яшчэ адзін паваротак у іх дужа не простых адносінах. А Джулія, наадварот, надумаўшы штосьці, неўзабаве прахапілася ад радасці і зноў сціснула яго ў сваіх абдымках.

– Іваніо! Іваніо, карашо! Как ето карашо – філіё, сін! Маленькі сін!

Пасля яна разняла рукі, павярнулася ніц, зоркі зніклі з яе вачэй, і твар цьмяна зашарэў у траве светлаю плямай, на якой у глыбокіх ценях вачніц ледзьве прыкметна блішчалі вочы. Кароценькае захапленне яе змянілася нечаканым клопатам.

– Іваніо, а где будэм жіт? Рома? – Яна трошкі падумала. – Нон Рома. Рома батіка уф бёзе. Трыесто?..

– Што раней часу загадваць, – сказаў ён.

– О! – раптам ціха ўсклікнула яна. – Джулія знат. Мі будэм жіт Россія. Белоруссіо. Дэрэвня Тэрэшкі, блізко-блізко два озера... Правда?

– Можа быць. Што ж...

Раптам яна нешта ўспомніла і насцярожылася.

– Тэрэшкі кольхоз?

– Калгас, Джулія. А што?

– Іваніо, плёхо кольхоз?

– Нічога. Калі-небудзь палепшае. Не век жа ўсё... дрэннаму быць.

Вялікай сваёй пяцярнёй ён паварушыў яе жорсткія густыя валасы, яна, ухіліўшыся, вызваліла галаву і прыгладзіла яе.

– Валёс будет болшой. Джулія растет болшой карошій валёс. Болшой валёс красіво, да?

– Ага, – пагадзіўся ён. – Красіва.

Яна памаўчала крыху і пасля, вяртаючыся ў думках да ранейшага, сказала:

– Іван будэт ла вараре[44] фэрма, плантація. Джулія будэт... Как ето?.. Віртін вілла[45]. Мі делать мнёго-мнёго макі. Как етот люг!

– Так, так, – задуменна згаджаўся Іван, заварушыўшыся ў доле.

Яму дужа закалола нагу пад перавязкаю, мусіць, трэба было б паправіць яе, але цяпер ён не хацеў непакоіць дзяўчыну. Ён толькі выпрастаў і вальней паклаў нагу ў траве, задумліва слухаючы, як гаварыла яна побач – шчыра, замілавана, з вялікай пяшчотай і марай.

– Мі будэм мнёго-мнёго фортуна... Я очен хочу фортуна.

Должен біть человек фортуна. Правда, Іваніо?

– Так, так...

Відаць, змагаючыся са сном, яна гаварыла ўсё цішэй, голас яе рабіўся ўсё болей санлівы, і неўзабаве дзяўчына сціхла. Ён ціхенька пагладзіў яе і падумаў, што, мабыць, трэба даць ёй спачыць, выспацца, усё роўна ўжо няшмат засталося гэтае ночы – першай ночы іх шчасця. А назаўтра ісці. Толькі хто ведае, што нарыхтавала ім гэтае заўтра?..

І ён доўга глядзеў так у неба – адзін на адзін з Сусветам, з сотнямі зор, вялікіх і ледзьве прыкметных, з крывою дарогай Чумацкага Шляху цераз усё неба. Нейкі зачатак трывогі і непакою пачаў выцясняць з адчування кароткую яго шчаслівасць.

За гады вайны ён зусім ужо адвык ад такога простага чалавечага імкнення, якім ёсць імкненне да шчасця. Дзе ўжо там было жадаць шчасця, калі апошнія магчымасці выдаткоўваліся на тое, каб як-небудзь выжыць, не даць знішчыць сябе, а для гэтага быў толькі адзін спосаб – забіць. У жыцці панаваў бязлітасны звычай барацьбы – знішчаць да сябе падобных, чаго не робяць нават драпежнікі ў дачыненні да істот аднаго віду. І дзеля чаго? Дзеля матэрыяльнай выгады, дзеля панавання звярынай ідэалогіі, дзеля ўладарнасці маленькай кучкі над іншымі? Пракляты навек нямецкі фашызм, няўжо не хопіць ва ўсёй тваёй зграі здольнасці зразумець, што нельга будаваць сваё шчасце на вялікім няшчасці мільёнаў? Знішчаючы іншых, ты першы вытруціш у самім сабе здольнасць да радасцей, твая душа ад тваіх жа злачынстваў абрасце чорнаю поўсцю варожасці, якую разам з тлустым кавалкам ты імкнешся пакінуць нашчадкам. Але ці захочуць яны ўзяць гэты брудны кавалак з тваіх акрываўленых рук? Ці не пажадаюць і яны сонца справядлівасці і міру пасля той прасмярдзелай трупамі ночы, у якой ты дзесяць гадоў трымаў свет?

Добра, што нядоўга ўжо засталося балявацць гэтым зверыядаўцам і ўрэшце калі-небудзь запануе і шчасце.

Прыйдзе час – спазнаюць людзі вялікую вольнасць кахання і адданасці, толькі наўрад ці суджана гэта ім... Мілая, сардэчная Джулія, яна залятае ў марах гэтак далёка, мусіць, зусім не падазраючы, што яшчэ чакае іх па шляху ў Трыест. Мусіць, вырваўшыся з лагера і спазнаўшы каханне ў гэтым дзівосным макавым раі, яна падумала, што ўсё страшнае ўжо ззаду, а наперадзе толькі радасць. Калі б так! Варта хоць трошкі разважыць, як стане зразумела, колькі яшчэ пакут наперадзе: аўтастрады ў даліне, перайсці якія вельмі нават нялёгка, рэкі, пераплыць якія хто ведае як, населеныя пункты, якія не абмінуць. А людзі, засады, сабакі... І ў дадатак да ўсяго недаступны снежны хрыбет! Як перайсці яго ім, распранутым, разутым, галодным?

А яна тым часам ціхенька спала на баку, падагнуўшы каленку. Ён устаў, агледзеўся, абышоў яе і зноў сеў, ужо апануранны і злы, таму што дужа хацелася есці, а галоўнае – балела нага. Галёнка, здаецца, усё пухла, дужа сціскала павязка. Іван крыху паслабіў яе, абмацаў – нага пыхала жарам, і хлопца пачалі даймаць дрыжыкі. Давялося ўзяць з травы ненавісную паласатую куртку і захутацца, але цяпер і яна грэла слаба. Прыслухаўшыся да сябе, Іван падумаў, што не хапала яшчэ захварэць – што тады будзе? «Не, так нельга! – падбадзёрваў ён сябе. – Трымайся!»

Але штосьці перамянілася ў яго настроі, Іван адчуваў гэта, і трывога, як вада ў дзіравую лодку, усё прыбывала ў яго пачуццях. Добра, што Джулія нічога кепскага, бадай, не адчувала і соладка спала. Ён таксама сеў побач, босыя ступні свае захінуў палою скуранкі, якой прыкрыў яе, і стаў пазіраць у ноч. Неўзабаве яго пачало хіліць на сон, дакучала мернае булькание патоку.

Мабыць, ужо на світанні ён не ўтрымаўся і неўпрыцям задрамаў, уткнуўшы твар у калені.

**22**

Прыцьмелая ў дрымоце трывога раптоўным штуршком

нібы ўдарыла яго ў самае сэрца. Яно здрыганулася так моцна, што здалося, ледзьве не вырвалася з грудзей. Ён прахапіўся адразу і ў тое ж імгненне пачуў недарэчны вар’яцкі крык:

– Во біст ду, руссэ? Зі гебэн фір ін брот! Зі габэн філе брот[46].

Над лугам патроху світала, сонца яшчэ не ўзышло, было непрытульна і шэра. Мусіць, напаўзло воблака, і гор не было відаць – клубчастая кудзеля туману, чапляючыся за паніклыя росныя макі, паўзла ўздоўж схілу. Іван адразу тузануў з Джуліных ног скуранку, дзяўчына прахапілася і спалохана загаманіла нешта, а ён, стоячы на чацвярэньках, пільна ўглядаўся ўніз, адкуль данёсся крык. Праз колькі секунд хлопец здагадаўся, што гэта – вар’ят, але адразу ж здалося: ён не адзін, з ім людзі. І сапраўды, не паспеў ён праз туман каго-небудзь згледзець, як пачуў сцішаны пагрозлівы вокліч: «Гальтс маўль!»[47] і звычайную нямецкую лаянку.

Джулія таксама пачула гэта, зразумела ўсё і кінулася да Івана. Учапіўшыся за рукаў ягонае курткі, яна ўтрапёна ўзіралася ўніз, у дымнае месіва туману, сярод якога, здалося, мільганулі чалавечыя цені. Ён схапіў яе за руку і, прыгнуўшыся, падцяг да ручая, дзе было ніжэй. У другой ягонай руцэ была скуранка, калодкі ж яе засталіся недзе ў маку.

Моўчкі з усяе сілы яны кінуліся збоч ручая ўгору.

Іван таропка сігаў па беразе, пераскокваючы камяні, і не выпускаў з свае рукі пальцаў Джуліі; дзяўчына ледзьве спраўлялася за ім і ўсё палахліва азіралася. Іван шукаў позіркам якога зручнага месца, каб перабегчы цераз ручай на той бок, – там можна было схавацца ў скалах і высокіх зарасніках рададэндрану. Але паток разгоніста імчаў з гор, не абяцаючы нідзе пераходу, – сунуцца туды было безнадзейна.

«Добра, што воблака! Добра, што воблака!» – стукала ў Іванавай галаве думка. Імклівае клочча туману пакуль што трохі хавала іх ад немцаў, якія былі недзе зусім

блізка. «Пракляты вар’ят, чаму я не забіў яго? Усе яны аднае пароды – і разумныя і звар’яцелыя. Вось і яшчэ здрада! Ці не апошняя?..» – у роспачы думаў Іван і бязлітасна валок Джулію, не выпускаючы яе рукі. Яны ўжо мінулі заваротак ручая, узбеглі на бераг, далей было адкрытае месца. Перш чым выскачыць на лугавы росны прастор, хлопец упаў на калені, прыўзняўся, цяжка сапучы, зірнуў уніз – туман прыкметна радзеў, ужо сталі відаць дальнія камяні ў маку, выспа, дзе ён учора сустрэў вар’ята. І тады ў туманнай прыцьмеласці паветра ён згледзеў некалькі немцаў – нешырокім ланцугом, разбрыўшыся па лузе, яны набліжаліся да выспы.

Немцы яшчэ не бачылі іх. Уцекачы, нямала прабегшы, ужо далекавата адышліся. Іван зірнуў на Джулію – на яе рухавым, яшчэ з адзнакамі сну тварыку відаць была вялікая стомленасць, дзяўчына ледзьве не захліпалася ад дыхавіцы. «Хоць бы вытрымала! Хоць бы яна вытрымала!» – прагна жадаў Іван, бо ў такім іх становішчы толькі ўласныя ногі маглі даць паратунак. І трошачкі аддыхаўшыся, ён зноў тузануў яе за руку. Яна – відаць было – бегла з вялізным напружаннем, але не адставала ад яго.

Шумна дыхаючы, яны ўзбеглі ўжо куды вышэй сярэдзіны лугу, ногі па калені намоклі ад расы, бег іх, аднак, з кожнай хвілінай станавіўся маруднейшым. Іван пачаў прыкметна накульгваць на правую нагу, якая стала надзіва непаслухмянай, нібы пераседжаная. Спачатку ён так і падумаў, што, задрамаўшы, адседзеў яе, але непадуладная млявасць у ёй не міналася, пад каленам круціла сухажылле. Джулія неўзабаве заўважыла тое і спалохана тузанула яго за руку:

– Іваніо, нога?

Ён правалок нагу па траве, стараючыся ступіць як мага натуральней, але гэта яму не дужа ўдалося. Тады Джулія, азірнуўшыся, кінулася да яго на калені і ўчапілася ў штаніну, хочучы агледзець рану.

– Надо вязать, да? Я немножко вязать, да?

Ён настойліва адхіліў яе рукі.

– Нічога не трэба. Давай хутчэй.

– Болно, да? Болно? – пыталася яна, зацяўшы трывогу ў вялізных сваіх вачах і запытальна ўглядаючыся ў яго. Ад стомы пад паласатай куртачкай шалёна хадзілі яе грудзі. Ускінутыя над вачыма жорсткія бровы нервова трымцелі.

– Нічога, нічога...

Перамагаючы боль, ён таропка пакульгікаў вышэй. Джуліна рука выслізнула з яго пальцаў, і ён не ўзяў яе – дзяўчына, штораз азіраючыся, бегла побач.

– Іваніо, аміка, мі будэм жіт? Скажі, будэм? – з роспаччу, ад якое разрывалася сэрца, пыталася яна на бягу.

Хлопец зірнуў на яе, не ведаючы, што адказаць, і ўбачыў столькі мальбы і надзеі ў яе позірку, што паспяшаўся схлусіць:

– Будзем, вядома. Хутчэй толькі...

– Іваніо, я хютчэй. Я бістро. Я карашо...

– Добра, добра.

Яны ўжо дабеглі да верхняе мяжы лугу. Тут недзе ў камянях пачыналася сцежка, па якой яны трапілі сюды ўначы. У гарах-скалах, мусіць, можна было б затаіцца. Але воблака, пэўна, ужо спаўзло з лугу, навокал яшчэ болей развіднела, туман увачавідкі радзеў, у праяснелых разрывах яго ўжо зусім выразна мільгалі лапікі маку, камяні. «Чорт, няўжо не вырвемся? – затрымцела трывожная думка. – Няўжо згледзяць? Не, таго не павінна быць!» – супакойваў сябе Іван і крочыў усё вышэй. Маючы немалы вопыт уцёкаў, ён разумеў усю складанасць такога становішча і ведаў, што калі немцы заўважаць іх, то, бадай, ужо не выпусцяць.

Сцяжыны, аднак, не было, яны ўсё лезлі па травяністым

лугавым схіле. Добра яшчэ, што пад’ём быў некруты, адно дапякалі нізкарослыя зараснікі рададэндрану, якія моцна скалолі іх босыя ногі. Праўда, трохі вышэй пачынаўся хваёвы сланік, у ім ужо можна было схавацца. Джулія не адставала, дарма ён непакоіўся: босая, з акрываўленымі ступнямі, яна лезла трошкі ўперадзе ад яго, і, калі азіралася, ён бачыў на твары такую рашучасць уберагчыся ад бяды, якой не прыкмячаў за ўвесь іхні шлях ад лагера. Цяпер ёй быццам не шкодзілі ні камяні ў доле, ні стома, ні калючкі і патырчакі, – здаецца, нібы тыгрыца, яна гатова была люта змагац-

ца за жыццё.

– Іваніо! Скора, скора!

Ужо яна падганяла яго! Адзначыўшы гэта, Іван сцяў зубы, – здаецца, справы ягоныя станавіліся дрэнь: нага ўсё болей налівалася цяжарам. Ён цішком саўгануў разадраную штаніну ўгору і зараз жа апусціў – калена азызла, пасінела і зрабілася тоўстае, як бервяно. «Што за халера яшчэ – няўжо заражэнне?..»

А тут, як на бяду, апошняе клочча воблака праплыло міма – луг стрымана зардзеў чырванню маку. І зараз жа з туману выплылі адна, другая, трэцяя, змрочныя, як тыя камяні, постаці немцаў. Чалавек восем іх стомлена ішло цераз луг, топчучы кветкі, зазіраючы ўгору на схіл.

Далей ужо можна было не хавацца...

Іван сеў, кінуўшы на дол скуранку, побач спынілася панылая, здалося, разгубленая Джулія – некалькі секунд ад дыхавіцы яны не маглі вымавіць ні слова, толькі нема глядзелі на сваіх даганятых. А тыя адразу ж загаманілі, нехта, выцягваючы руку, паказваў на іх, данёсся зычны вокліч каманды. Усярэдзіне ланцуга валокся чалавек у паласатым, рукі яго, здаецца, былі звязаны за спіной, і двое канваіраў, калі ён спыніўся, штурхнулі яго ў плечы. Гэта быў, відаць, усё той жа вар’ят.

Немцы заварушыліся жывей і, крычучы, кінуліся ўгору.

– Ну што ж, – сказаў Іван. – Ты толькі не бойся. Не бойся. Хай ідуць!..

Каб не замінала скуранка, ён надзеў яе ў рукавы і дастаў з кішэні пісталет. Джулія нібы скамянела ў панылай маўклівасці, бровы яе зусім самкнуліся, на твары ценем лёг выраз рашучай упартасці.

– Так, пайшлі. Хай бягуць – зморацца.

– Шіссен будэт? – здзіўленым голасам сказала Джулія, нібы толькі цяпер зразумеўшы, што ім пагражае.

– Страляць далёка. Хай страляюць, калі патронаў шмат.

Сапраўды, немцы пакуль не стралялі, яны толькі крычалі сваё «хальт», але ўцекачы таропка падаліся вышэй, да зарасляў сланіку. Джулія ўжо пазбавілася першай збянтэжанасці, зноў стала рухавай, рызыкоўнай і, здавалася, гатовай да ўсяго.

– Пуст шіссен! Я не боялся. Пуст шіссен! – казала дзяўчына.

Няспынна азіраючыся, яна блізенька падскочыла да Івана і ўзяла яго за руку. Ён удзячна пацісну ў яе сцюдзёныя пальцы і не выпусціў іх.

– Іваніо, эсэсман шіссен – мі шіссен! Мі нон лягер, да?

Ён заклапочана сцяў бровы.

– Вядома. Ты толькі не бойся.

– Я не бойся. Руссо Іван не бойся – Джулія не бойся.

Ён не баяўся. Вельмі ўжо шмат страху было перажыта ім за гады вайны, каб і цяпер баяцца. Як толькі немцы ўбачылі іх, ён неяк ураз супакоіўся, сабраўся ў адно, наліўся рашучасцю і спрытам – цяпер толькі б даў Бог сілы і яму, і Джуліі: прыглушаная трывога за яе ныла ў яго душы. Усе астатнія пачуцці ён задушыў у сабе,

цяпер яны былі непатрэбны, яны шкодзілі. Ад гэтага часу ўступалі ў дзеянне жывёльныя інстынкты барацьбы, пачынаўся паядынак у спрыце, хітрасці, хуткасці – трэ было ўцякаць і берагчы сілы, не дапусціць на стрэл немцаў, прабіцца да аблокаў, якія з ночы нерухома ляжалі на вяршынях гор. Толькі так. Іншага выйсця ў іх не было.

**23**

Урэшце яны дабраліся да сланіку, але хавацца ў ім не сталі – сховішча ўжо не трэба было. Асыпаючы нагамі пясок і шчэбень, хапаючыся рукамі за калючае голле, Джулія першая ўзлезла на абрыў і спынілася. Іван, бокам заносячы хворую нагу, лез следам. На крутым месцы пад самым верхам ён проста не ведаў, як ступіць, каб вылезці з-пад кручы: гэтак балела ў калене. Тады дзяўчына наверсе ўкленчыла і працягнула яму сваю тоненькую, слабую руку. Ён зірнуў на сінія пражылкі вен на запясці і адхіліў руку – хіба яна здолела б вывалачы ягоны цяжар? Але Джулія таропка нешта затараторыла на дзіўнай мешаніне італьянскіх, нямецкіх і рускіх слоў і настойліва падхапіла яго пад локаць, неяк падтрымала, і ён урэшце ўзвалок на край сваё набрынялае цяжарам цела.

– Скоро, Іван, скоро! Эсэс!

Сапраўды, немцы даганялі іх. Пярэднія перайшлі ўжо луг і карабкаліся па круцізне, астатнія даганялі пярэдніх. Апошнім, спатыкаючыся, са звязанымі рукамі, брыў вар’ят у паласатым і з ім канваір. Нехта з пярэдніх, убачыўшы іх ля сланіку, закрычаў і выпусціў чаргу з аўтамата. Стрэлы пратрашчалі ў ранішнім паветры, водгулле гулка разнесла іх па далёкіх цяснінах. Іван азірнуўся – было далекавата, і куль ён не пачуў, а калі зноў падаўся наперад, ледзьве не наскочыў на Джулію, якая ляжала на схіле.

– Ты што?

– Нон, нон! Нон эршіссен! – азіраючыся з радасным

бляскам у вачах, сказала яна і ўскочыла. На твары яе свяціўся жвавы, гарэзны азарт. – Сволячы эсэс! – звонкім абураным голасам закрычала яна немцам. – Фэрфлюхтэр! Швайн! Нікс эршіссен, аге!

– Ладна, кінь ты! – сказаў Іван.

Трэ было берагчы сілы, што карысці дражніць тых зверыядаўцаў. Але Джулія, відаць, не хацела проста так уцякаць – злосць і даўняя стоеная крыўда, пэўна, узялі сваё.

– Гітлер капут! Гітлер кретіно! Ну, шіссен, ну!

Немцы яшчэ пусцілі некалькі чэрг, але ўцекачы былі куды вышэй за даганятых, і ў такім становішчы, ведаў Іван, пацэліць з аўтаматаў было амаль немагчыма. Гэта, відаць, адчула і Джулія – тое, што навокал не дзынкнула ніводнае кулі, запаліла яе злою гарэзнасцю.

– Ну, шіссен! Шіссен, ну! Фашісто! Бріганті![48]

Яна расчырванелася ад стомы і абурэння, вочы яе гарэлі злым чорным агнём, кароценькія густыя валасы матляліся ад ветру. У заключэнне свае лаянкі яна схапіла з-пад ног камень і, няўмела размахнуўшыся, шпурнула яго ўніз, – падскокваючы, ён пакаціўся далёка-далёка.

Іван ад абрыву палез першы. Як-колечы яны карабкаліся ўскрай сланіку, пад'ём рабіўся ўсё болей круты. Чорт бы яго ўзяў, гэты зараснік, добра, каб ён быў там, унізе, дзе яшчэ можна было схавацца, а цяпер ён толькі шкодзіў, калоўся, чапляўся. Лезці ж цераз яго напрасткі было страшна – так густа спляліся яго пакручастыя, як дрот, смалістыя галіны. Кідаючы раз за разам трывожныя позіркі ўгору, хлопец шукаў якой болей прыдатнай дарогі, але нічога лепшага тут не было, і гэта прымусіла яго зацяць у сабе трывогу. Угары іх чакаў новы, куды болылы за папярэдні, сыпучы абрыў, узлезці на яго яны, мусіць, не здолеюць...

Джулія, аднак, пэўна, таго не бачыла і не адчувала.

Занятая сваркай з немцамі, яна крыху адстала, а пасля таропка даганяла яго. Ён, задыхаўшыся, прысеў і выцяг уніз хворую нагу.

– Іваніо, нога? – спалохана глянула яна знізу.

Ён не адказаў.

– Нога? Дай нога!

Ён моўчкі ўстаў і зноў паглядзеў на кручу, яна таксама зірнула туды, агледзела гэтую сцяну, і позірк яе ўстрывожыўся.

– Іваніо!

– Ладна. Пайшлі.

– Іваніо!

Яе твар зноў перасмыкнуўся, нібы ад болю, яна азірнулася – немцы таропка лезлі іхнім жа следам.

– Іваніо, морто будэм! Нон Тэрэшкі? Аллес нон?

– Давай хутчэй! Хутчэй! – не адказваючы, строга прыкрыкнуў ён, бо інакшага выйсця, як толькі павярнуць у сланік, у іх не было.

І хлопец закусіў вусны і шаснуў у гэты неадольны гушчар, які абмінала нават звяр’ё. Адразу калючыя іголкі сотнямі ўпіліся ў ногі, але ён не зважаў на іх – ён ашчаджаў толькі калена, ад болю і напружання на лбе высыпаў сцюдзёны пот. Не дужа асцерагаючыся, толькі сабраўшы ў вузел усё трыванне, ён ашалела палез сярод сланіку ўбок, у абход кручы.

– Ой, ой! Ой! – роспачна войкала Джулія, але таксама лезла за ім – не вельмі ўмела, не разбіраючы шляху, часта чапляючыся за калючча і падаючы.

Ён не супакойваў яе і не падганяў – ён толькі азіраўся на край стромы, дзе вось-вось павінны былі паказацца немцы.

Праўда, на гэты раз ім пашанцавала, яны амаль што дабраліся да верхняе мяжы зарасніку, калі ўнізе з-за кручы вылез першы эсэсман. Тут ён рабіўся ўжо небяспечны, бо яны хоць і адышліся далей, але мала ўзняліся ўгору – розніца ў вышыні паміж імі і немцамі была невялікая. Як толькі немец узняў галаву, каб згледзець іх, Іван таропка прыцэліўся з пісталета і стрэліў.

У гарах гулка пакацілася адгалоссе.

Вядома, ён не пацэліў: было далекавата, але немец засцярожліва шаснуў пад абрыў, і ў паветры затым разнеслася доўгая рассыпістая чарга. «Тр-р-р-р-рт… Тр-р-р-р-т… р-р-р-рт… р-р-т…» – усё далей адносячы, размножылі чаргу горы. Калі рэха сціхла, уцекачы кінуліся далей. Нечаканы пісталетны стрэл, пэўна, збянтэжыў немцаў, і на кручы нейкі час ніхто не паказваўся. Пасля на краі яе з’явілася паласатая постаць.

– Іваніо, гефтлінг!

Вар’ят, шырока расставіўшы ногі, узлез на кручу і, хістаючыся, закрычаў ім сваім недарэчна сарваным голасам:

– Руссэ! Руссэ! Хальт! Ворум ду гэйст вэг? Зі волен брот гэбэн[49].

– Цурюк! – крыкнуў Іван. – Шіссен!

Вар’ят угнуўся і кінуўся назад, там на яго, чуваць было, закрычалі немцы і, крыху счакаўшы, амаль адначасова ўсе, колькі іх было там, высыпалі з-за абрыву.

Здаецца, становішча ўсё горшала. Да седлавіны, дзе канчаўся сланік, было зусім блізка, але ўжо тут немцы маглі дастаць з аўтаматаў. Трэба было як-небудзь затрымаць іх і прарвацца за седлавіну. Іван укленчыў, прысланіў ствол пісталета да хісткае галіны сланіку і стрэліў другі раз, затым трэці. Пасля ўгнуўся, стаіўся ў нізкарослым гушчары, да яго на чацвярэньках шаснула

Джулія.

– Іван, нон патрон аллес! Нон аллес![50]

Ён зразумеў, дакрануўся да яе худзенькага пляча, супакойваючы, – два патроны ён, вядома, пакіне на самы паследак. Ён чакаў страляніны з боку немцаў, але тыя маўчалі: шырока разбегшыся, яны таксама палезлі ў сланік. Тады ён ускочыў і, прыгінаючыся, каб хоць трохі прыкрыцца, пакульгікаў угору, да седлавіны збок кручы.

Мусіць, немцы ўсё ж зрабілі памылку, што, гледзячы на іх, самі падаліся ў сланік. Гэты зараснік, аказваецца, не толькі затрымліваў рух, ён яшчэ не даваў бачыць, прыцэліцца, і пакуль яны валакліся там, Іван з Джуліяй, ледзьве жывыя ад стомы, дабраліся да седлавіны.

З апошніх сіл, усім целам чакаючы стрэлаў ззаду, яны дабеглі да яе і кулямі скаціліся на другі бок. Іван перш-наперш акінуў позіркам новы далягляд – з аднаго боку аж пад самыя нізка навіслыя аблокі ўзнімаўся гэткі ж, як і ззаду, круты камяністы схіл, з-пад ног гонка каціўся спуск у лагчыну, за якой пачыналася новая невысокая горная складка. Сям-там раскіданыя над гарамі, плылі белыя, як авечы статак, аблокі; вышэй ад іх суцэльная навісь хмар закрывала снегавыя вяршыні.

Як толькі яны выбеглі з седлавіны, Джулія, склаўшы ля грудзей далоні, упала на калені, і вусны яе таропка-таропка зашапталі нейкія словы.

– Ты што? – крыкнуў ён.

Яна не адказала, а яшчэ прашаптала некалькі слоў, і ён, дужа кульгаючы, пабег уніз. Яна тут жа ўскочыла і дагнала яго.

– Санта Марія поможет. Я просіт очен-очен…

Ён шчыра здзівіўся.

– Кінь ты! Хто паможа? Давай хутчэй!

Не ведаючы, куды падацца, і не маючы сілы лезці ўгору, яны беглі наўкос па схіле ўніз, у лагчыну. Седлавіна з кручай пакуль што затуляла іх ад немцаў. Бегчы ўніз было куды як добра: цела неслася, здавалася, само, аж падгіналіся калені. Іван, аднак, усё не мог саўладаць з нагой і вельмі кульгаў. Джулія апярэджвала яго, але далёка не адбягалася і часта-часта азіралася. Мусіць, тое, што яны вырваліся ледзьве не з-пад самага носа ў немцаў, поўніла яе жвавасцю і нейкім нястрыманым азартам. Зухавата азіраючыся, яна гаманіла з надзеяй і радасцю:

– Іваніо, мі будэт жіт! Жіт, Іваніо! Я очен хотель жіт! Браво вітта!

«Ой рана, рана радавацца!» – думаў Іван, толькі ён не пярэчыў – хай! Ён таксама азірнуўся і адразу ўбачыў, як у седлавіне з’явіўся першы эсэсман. Ён цяжка вылез з-за выспы – рослы, у падцятых брыджах, мундзір на ім быў расшпілены, і на грудзях бялела сарочка. Не, ён не спяшаўся страляць, хоць яны былі і не дужа далёка ад яго і куды ніжэй, – ён з паўхвіліны ўзіраўся ў іх, стоячы на месцы, а пасля загаманіў нешта тым, што, пэўна, ззаду падыходзілі да яго, і зарагатаў. Рагатаў ён доўга, штосьці гукаў наўздагон, пасля спакойна сеў сабе ў седлавіне і зняў пілотку.

Джулія падскочыла да Івана і затармашыла яго за рукаў.

– Іваніо, Іваніо, смотрі? Он кароші тэдэско! Он пустіль нас? Пустіль нас! Пустіль... Смотрі!

Хлопец бачыў усё і не мог даўмецца, чаму яны не стралялі і не даганялі, чаму яны кінулі іх і, сабраўшыся купай, пасталі на гары. Адзін з іх адышоўся ўбок і, замахаўшы аўтаматам, пачаў крычаць:

– Шнэллер! Шнэллер! Ляўф шнэллер![51]

– Іваніо, он пускай нас! – бегучы, радасна лепятала Джулія. – Мі жіт, мі жіт!

Іван маўчаў.

«Што за халера? Што за жарты? Што яны надумалі?» Ягоная галава ледзьве не разрывалася ад таго, што ён не мог зразумець новыя выкруты ворага. Гэта сапраўды было дзіўна. Але ён ведаў, што тое – не так сабе, што немцы не ад дабраты свае спынілі пагоню, што ворагі рыхтуюць нешта яшчэ болей кепскае.

Але што?

Яны дабеглі ў самы ніз лагчынкі, прадраліся праз рададэндран на другі яе бок – невысокі, адхоністы ўзлобак – і знясілена пайшлі ўгору. Пясчаныя выветрыны і калючкі нізкарослай травы ўшчэнт скалолі іх ногі, але цяпер яны ўжо не адчувалі жорсткасці долу – Джулія то выбягала наперад, то вярталася, азіраючыся на немцаў угары. Яна радавалася ўсё болыл, чым далей яны адыходзілі ад седлавіны. Аднак яго панылы выгляд, урэшце, не мог не ўстрывожыць яе.

– Іваніо, почему фур’ёзо? Нога, да? – пыталася яна.

– Не нага...

– Почему? Мі будэт жіт, Іваніо. Мі убегат...

Здаецца, ён ужо здагадаўся, у чым была справа. Не адказваючы ёй, хлопец подбегам кульгікаў па ўзлобку, які далей крута загінаўся ўніз. Тым самым ён хаваў іх ад немцаў, гэта было добра, але...

Яны выходзілі з-за пагорка, і тут, пэўна, Джулія таксама нешта ўцяміла і спынілася. Горы наперадзе раптам раздаліся, упоперак іх шляху вялікім прасцягам засінела паветра – унізе ляжала змрочная цясніна, з якой клубіўся, поўз угору туман.

Абое моўчкі дабеглі да кручы і адхіснуліся – схіл, быццам у прорву, крута падаў у затуманеную бездань, у якой дзе-нідзе шарэлі языкі нерасталага снегу.

Джулія ляжала на каменным выступе за пяць крокаў ад абрыву і плакала. Ён не суцяшаў яе, не супакойваў – ён сядзеў побач, абапёршыся рукамі на шурпаты замшэлы дол, і думаў, што, пэўна, на тым усё скончыцца. Наперадзе і збоку да іх падступала круча, з другога пачынаўся круты скалісты пад’ём пад самыя аблокі, ззаду ў седлавіне сядзелі немцы. Атрымлівалася поўная, самая адмысловая пастка – трэба ж было гэтак наглуха ўлезці! Для Джуліі гэта было асабліва нечакана і пакутна пасля яе раптоўнай надзеі вырвацца, і ён цяпер не ўгаворваў дзяўчыны – не меў для гэтага слоў.

З правалля несла золкаю сырасцю. Іх разгарачаныя целы пачалі астываць; навокал у скалах, нібы ў гіганцкіх комінах, гуў вецер; было хмарна і дужа няўтульна. Але чаму немцы не ідуць да іх, не страляюць? Стоўпіліся ўгары ў седлавіне – адны сядзяць, другія стаяць, абступіўшы паласатую постаць вар’ята гефтлінга. Іван угледзеўся і зразумеў – яны забаўляліся: курачы, тыцкалі ў яго цыгаркамі – то ў лоб, то ў спіну, – і вар’ят са звязанымі рукамі ўюном круціўся між іх, пляваўся, брыкаўся, а яны знай сабе рагаталі ды зноў тыцкалі ў яго цела цыгаркі.

– Руссэ! Рэттэн! Руссэ![52] – данёсся роспачны крык вар’ята.

Іван насцярожыўся – сволачы, што яны яшчэ рабілі там? Чаму яны такія бязлітасныя і бесчалавечныя да сваіх і чужых – да ўсіх? Няўжо гэта ад душэўнае нізасці і дзеля забавы?

Падобна было, яны чагосьці чакалі. Толькі чаго? Можа, якой дапамогі? Ну, але цяпер ужо мала страху, цяпер пэўная фініта, як кажа Джулія; чацвёртыя яго ўцёкі, відаць, стануць апошнімі. Шкада толькі гэтае маленькае дзіва – гэтую цыбатую чарнавокую гаварліўку, шчасце з якой было такое хмельнае і нядоўгае. Хоць, праўда, ён і так быў удзячны Богу, ці лёсу, ці, можа, выпадку, якія паслалі яе ў самы апошні час; цяпер, пасля ўсяго, паміраць побач з ёй было ўсё ж лягчэй, чымсьці ў ненажэрнай печы крэматорыя.

Джулія, здаецца, выплакалася, не хліпала, плечы яе перасталі ўздрыгваць, толькі часам пацепваліся, – мусіць, ад холаду. Ён зняў з сябе скуранку і, пацягнуўшыся да дзяўчыны, беражна ахінуў яе. Джулія ад таго здрыганулася, – відаць, перасіліла сябе, села і запэцканымі, паздзіранымі кулачкамі пачала старанна выціраць заплаканыя вочы.

– Плёхо, Іваніо. Ой, ой, плёхо!..

– Нічога, нічога. Не бойся! Тут два патроны, – паказаў ён пісталет.

– Нон фортуна Джулія. Фіна. Фіна вітта[53] Джулія, – журботна казала яна.

Ён круціўся, варочаючыся ў доле, сачыў за немцамі, і ўнутры ў яго ўсё разрывалася ад бездапаможнасці і роспачы. Усё ж перад сваім сумленнем ён адчуваў сябе адказным за яе жыццё – толькі што можна было зрабіць? Калі б хоць трохі даступнейшая была круча, а то над безданню навіс пракляты карніз, за ім вытыркаўся другі, а дзе тое дно, і не згледзець было ў змрочным тумане. Ды зноў жа нага, хіба з ёй можна было не сарвацца з такой круцізны?

– Руссэ, рэттэн! Руссэ!.. – аслабела крычаў з седлавіны вар’ят.

Джулія тым часам, убачыўшы на гары немцаў, прыўстала на калені і сварліва-пагрозліва замахала на іх сваімі маленькімі кулачкамі.

– Фашісто! Брыганті! Сволачі! Нэмт унс дох![54] Ну!

У седлавіне прымоўклі, прыціхлі, і вецер неўзабаве данёс прыцішаны адлегласцю голас:

– Эй, рус унд гуррін! Мі вас скоро убіваль!..

І следам другі:

– Ком плен! Бросай холодна гора. Шпацірэн горячо крэматоріум.

Джулін твар зноў разгарэўся запальчывай злосцю.

– Геркомэн! – махала яна кулачкамі. – Ком нэйм ір геркомэн унд унс голен! На ір ангст!..[55]

Немцы выслухалі яе данесены ветрам голас, і адзін перад адным пачалі крычаць непрыстойнасці. Джулія, пакутуючы ад свае бездапаможнасці ў такім паядынку, толькі кусала вусны. Тады Іван узяў яе за плечы і прыгарнуў да сябе, дзяўчына паслухмяна падалася, прыпала да грудзей і ціха ў неспатоленай роспачы, як маленькае дзіця, заплакала.

– Ну, не трэба. Не трэба. Нічога, – недарэчна супакойваў ён, сам з усяе сілы душачы ў сабе пяшчоту і роспач.

Джулія, здаецца, неўзабаве сціхла, і ён доўга трымаў так яе ў сваіх абдымках, панылa думаючы, як здорава ўсё пачалося і як недарэчна канчаецца. Пэўна, зусім ён няўдачнік, самы недалужны з усіх людзей – не здолеў скарыстаць такой магчымасці, з-за якой прапалі чатыры хлопцы. Відаць, Галадай, Янушка і іншыя зрабілі б гэта куды больш умела – ужо дабраліся б да Трыеста і білі б немчуру ў партызанах, а ён вось увяз тут, у гэтых праклятых гарах, ды яшчэ, нібы воўка, даў загнаць сябе ў пастку. Эх, трэба было, як і браўся, ірваць тую бомбу – няхай бы ўцякалі спрытнейшыя. А так вось... Яшчэ загубіў і Джулію, якая паверыла табе. Спраўдзіў ты яе надзеі, няма чаго сказаць! Ды яшчэ нагаварыў, аб чым цябе не прасілі. Гэта было ўдвая кепска і балюча – усе намаганні, выходзіць, дарэмныя, усе надзеі рухнулі так недарэчна і так нешчасліва.

Ён туліў да грудзей яе заплаканы твар і цьмяна праз боль сваіх пакут адчуваў і яе боль, таксама як і пяшчотнасць яе рук на сваіх плячах, гэта па-ранейшаму кранала да самай душы, і ад таго было яшчэ горш.

Пасля Джулія села побач, папраўліла рукой раскіданыя ветрам валасы.

– Мало, мало валёс. Нон болшой валёс. Нікогда.

Ён сядзеў насупраць і ад безвыходнасці толькі скрыгаў зубамі. Ягонае ўяўленне ніяк не магло прымірыцца з немінучай пагібеллю. Але што зрабіць?

– Іваніо! – раптам ажывела ўсклікнула яна. – Давай манджаре хляб. Ест хляб.

Яна дастала з кішэні абкрышаную іх пайку і з нечаканаю радасцю ў сумных вачах разламала яе напалам.

– На, Іваніо!

Ён узяў. Гэта быў болылы кавалак, чым той, што застаўся ў яе, але ў гэты раз Іван не стаў дзяліцца-мерацца – цяпер гэта было не так важна. З вялікаю і незразумелаю асалодаю яны праглынулі хлеб – апошнюю рэштку свайго прыпасу, які хлопец ашчаджаў да Мядзведжага хрыбта, і ён з новаю самотай адчуў непазбежнасць канца. Дзіўна было, але гэтая пайка раптам здалася апошняй магчымасцю выжыць, – з’еўшы яе, яны тым самым нібыта падагулілі ўсе свае жыццёвыя клопаты, і цяпер засталося толькі адно – перабыць якія хвіліны і канчаць. Івана зноў ахапіла туга ад марнасці стольких яго намаганняў і ў такі час! Хлопцы на ўсходзе ўжо вызвалілі родную зямлю, выйшлі да граніц Саюза, і ён не сустрэне іх, хоць так ірваўся насустрач...

Джулія ламала рукі, у роспачы аглядвала змрочныя дзікія закуткі гор і кідала кароткія позіркі на тых, што не адыходзілі, сядзелі, пільнавалі іх тут.

– Іваніо! Где ест Бог? Где ест мадонна? Где ест справьядлівост? Почему нон кара фашізм?– пытала яна, роспачна выцягваючы на каленях тонкія смуглявыя кісці.

– Ёсць справядлівасць! – прахопліваючыся ад гора, крыкнуў ён. – Будзе кара! Будзе!

– Где ест кара? Где? Энгліш? Амерікано? Советуніон?

– Так! Савецкі Саюз! Ужо ён не даруе ім гэтага! Ён

паламае хрыбты гэтым сволачам!

– Да? Правда? Советуніон сілно? Правда?

– Ну, вядома.

Джулія з раптоўнай абнадзейнасцю ў вачах памкнулася да яго.

– Он карашо? Справьядліво? Благородно? Іваніо вчера говорі неправду, да? Шутіль, да?

Ён сцяўся, як ад удару, адчуўшы сэнс тых яе слоў, што вырваліся з напоўненае тугою душы, некалькі секунд напружана згадваў, а пасля, быццам у новым святле і зусім інакшым, чымсьці раней, убачыў і яе, і сябе, і далёкую сваю радзіму, і тое, чым яна была для яго ўсё жыццё і чым магла быць.

– Да! – рашуча сказаў ён. – Я жартаваў. Я хлусіў. Усё тое няпраўда. Мая радзіма – цудоўная. Добрая. Справядлівая. Лепш за яе няма. І людзі, і зямля! А што яшчэ будзе! Пасля вайны! Як павесяць Гітлера. Ты пабачыш...

У неадольнай нястрымнасці ён ірвануў з долу жорсткія на камянях нараслі моху, у душы яго ўзнялася вірлівая хваля шырокага, да болю нясцерпна-тужлівага пачуцця да сваёй далёкай краіны, падступіла да горла, сцяла. Ён болей нічога не мог сказаць, бо адчуў, што гатовы заплакаць, чаго ніколі з ім не здаралася.

Джулія, мусіць, заўважыла тое і лагодна дакранулася да яго калена.

– Зачем так шутіль? Плёхо шутіль...

– Прабач.

Але немцы нядоўга дзівіліся іхняе вольнасці – неўзабаве нехта з іх сарваў аўтамат і, не цэлячыся, выпусціў чаргу. Кулі сям-там выбілі на камянях таропкія дымкі, якія хутка падхапіў вецер. Іван тузануў Джулію за палу скуранкі, дзяўчына неахвотна ўгнулася і затуліла

галаву за камень. «Страляйце, сволачы, страляйце! Хай чуюць, – падумаў ён, маючы на ўвазе лагер, у якім заўжды прыслухоўваліся да кожнага стрэлу з гор. – Хай ведаюць: яшчэ жывыя!»

Некалькі хвілін яны ляжалі за каменным бар’ерам і слухалі, як над цяснінай веснавым громам грукаталі чэргі. Кулі, аднак, рэдка залятаті сюды: мусіць, немцы болей палохалі. Пасля аўтаматы змоўклі, далёка адляцеўшы, рассыпалася і яшчэ не паспела заглохнуць рэха, як аднекуль з-пад лугу данесліся новыя, вельмі знаёмыя гукі. Ускінуўшы голаў, Джулія памкнулася нешта сказаць, але Іван жэстам спыніў яе, – абое яны ўслухаліся, напружанымі позіркамі ўзіраючыся адно ў аднаго, і Іван злосна вылаяўся – за седлавінай брахалі сабакі.

Невядома, што тут сталася з хлопцам, – стоены, даўні гаеў раптоўна выбухнуў у ім. Іван усхапіўся, цяжка ўзняўся на шырока расстаўленыя хворыя ногі і стаў – угнуўшыся, страшны, раз’юшаны, безуважны да небяспекі.

– Звяры! – закрычаў ён на немцаў. – Шакалы! Самі баіцеся – памочнікаў ведзяцё! Вядзіце, ну! Пушчайце! Чорта вам у зубы! Во! Не возьмеце вы нас! Во! Зразумелі?

Яны, пэўна, лёгка маглі б застрэліць яго, але не стралялі – прыціхшы, яны намагаліся зразумець раптоўны бунт гэтага флюгпункта і наўрад ці зразумелі. А Івана, мусіць, ад нервовай узбуджанасці раптам працяў холад, цела яго зябка закалацілася, здаецца, пачыналася гарачка. Выкрычаўшы ўсё, хлопец міжвольна азіраўся – угары трохі праяснілася, у хмарнай навалачы з’явіліся блішчастыя, зіхоткія ад ранішняга сонца прагалы блакіту. Здалося, вось-вось павінен быў выплысці з хмар Мядзведжы хрыбет, да якога яны не дайшлі. Вельмі захацелася ўбачыць у небе сонца, але яго яшчэ не было, і ад таго стала дужа паныла.

Затым ён і апусціўся на дол – тое, што павінна было

вось-вось здарыцца, ужо не цікавіла яго – ён ведаў усё, што будзе. Ён нават не зірнуў, калі сабакі з’явіліся ў седлавіне, хлопец адчуў гэта па брэху і валтузні – відаць, аўчаркі ўвесь час ішлі па іхнім следзе і раз’ятрыліся пагоняй.

Джулія раптам кінулася да яго, схілілася і затуліла рукамі твар.

– Ой! Нон собак! Нон собак! Іваніо, эршіссен! Эршіссен!..

Гнеў і збянтэжанасць, выбухнуўшы ў ім, адразу мінуліся, ён зноў стаў спакойны і роўны, з адною толькі турботай у душы – трэба канчаць. Забіць сябе было проста, куды цяжэй было зрабіць гэта з Джуліяй, але ён мусіў рабіць толькі так. Нельга было дапусціць, каб эсэсаўцы жывымі прыгналі іх у лагер і вешалі на страх іншым, – хай валакуць мёртвых. Калі ўжо не ўдалося здабыць волю, дык належала дапячы ім хоць сваёй смерцю.

У гэты час немцы пусцілі сабак.

Адна, дзве, тры, чатыры, пяць рудых, спушчаных з павадкоў аўчарак, распластаўшыся на бягу, шыбанулі па схіле ўніз; за імі выбеглі немцы. Імгненна сцяміўшы, што праз некалькі секунд яны апынуцца тут, Іван ускочыў, ірвануў за руку Джулію, тая кінулася яму на шыю і захліпнулася. Ён у глыбіні душы адчуваў, што трэба нешта сказаць, – самае галоўнае, самае важнае, але словы чамусьці зніклі. Сабакі ўжо несліся па лагчыне. Тады ён ірвануў яе ад сябе, штурхнуў на край кручы, да бездані. Дзяўчына не супраціўлялася, яна ўсё хліпала, нібы задыхалася, вочы яе сталі вялізныя, але слёз у іх не было – толькі знямеў сцяты страх і задушаны самою ў сабе крык...

На абрыве ён кінуў позірк у глыбіню бездані – яна па-ранейшаму была змрочнай, сырой і сцюдзёнай; туману, аднак, там паменшала, і ў яе прорве выразней забялелі снежныя плямы. Адна з іх вузкім доўгім языком узбіралася ўгору, і ў яго раптам выразна бліснула

думка-надзея – вялізная, дужа шчаслівая і страшная. Баючыся, што не паспее, ён нічога так і не сказаў Джуліі, а апусціў ужо ўзняты было пісталет і штурхануў дзяўчыну на самы край бездані.

– Скачы!

Яна адразу спалохана адхіснулася ад прадоння, ён яшчэ крыкнуў: «Скачы на снег!», але яна зноў усім целам хіснулася назад і заплюшчыла вочы.

Сабакі тым часам выскачылі на ўзлобак ззаду. Іван адчуў гэта па іхнім брэху, які гучна прарваўся за самай спіной. Тады хлопец сціснуў у зубах пісталет і падскочыў да дзяўчыны. З раптоўнаю сілай ён схапіў яе за каўнер і штаны, ускінуў над галавой і, як здалося самому, шалёна шпурнуў нагамі ў прадонне. У апошняе імгненне паспеў згледзець, як распластанае ў паветры яе цела мільганула цераз карніз, а ці трапіла яно ў снег, ён ужо не бачыў. Ён толькі зразумеў, што самому з хворай нагой гэтак не скочыць.

Сабакі ашалела залямантавалі, убачыўшы яго, і хлопец падаўся на два крокі ад кручы. Наперадзе з пагорка на яго імчаўся паджары шыракагруды ваўкадаў, на галаве якога тырчала чамусьці адно вуха, – ён сігануў цераз камяні і высока ўзляцеў на дыбы ўжо зусім побач. Іван не цэліўся, але з нетаропкаю, амаль нечалавечаю ўвагай, на якую толькі намогся, стрэліў у яго разяўленую клыкастую зяпу і, не стрымаўшыся, зараз жа ў наступнага. Аднавухі з лёту юзам шаснуў міма яго ў правалле, а другі, на бяду, быў не адзін, з ім поплеч бегла яшчэ два, і хлопец у якую долю секунды не паспеў сцяміць, пацэліў у яго ці не.

Гэтае яго недаўменне абарваў ашалелы ўдар у грудзі, нясцерпны боль пранізаў горла, коратка бліснула хмарнае неба, і ўсё назаўжды знямела...

## Замест эпілога

«Здравствуйте, родные Ивана, здравствуйте, люди,

